

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



## ЗА СЛУЦКАМ — ЧАПЛІЧЫ, ЧАЛЕВІЧЫ, ЕЎЛІЧЫ…

…Аднае даўняе ўжо восені, вельмі ўрадлівай на гарбузы — у Еўлічах, памятаю, масціліся яны і жаўцелі на застрэшках хлявоў і ляжалі пасярод град пагоркамі, — трапілі мы, случакі-пісьменнікі, у госці да Васіля Віткі. (Божа мой, жывыя і вясёлыя былі тады яшчэ Мікола Лобан і Янка Скрыган!.. І я, маладзейшая за іх, была з імі…) Дакладней, гэта ён прывёз нас на гасціну ў сваю хату — «да мамы». Мама таксама была яшчэ жывая, і сам, даўно ўжо белагаловы паэт, вельмі падобны з твару на маму, адчуваўся пры ёй дзіўна молада і нават быццам зусім бесклапотна. За гаспадыню ў хаце даўно ўжо была самая малодшая замужняя сястра Тася. Яна не прысядала і ўся аж свяцілася прыветнай гасціннасцю. А мама сядзела з намі ў пласторным, на гарадскі лад прыбраным пакоі, за сталом, устаўленым слуцкай пачосткай: абавязковай, аж пішчала на скаварадзе ў духмяным сале, яечняй, з нядаўна адкінутым з клінка тоўстым, як пень, сырам, пацярушаным зверху соллю, з удалай хатняй паляндвіцай і таксама хатняй каўбасой, з салёнымі агуркамі і міскай мёду… А калі, можа, каму заманулася б выпіць кубак малака, то пасярэдзіне яшчэ стаяў збан сырадою… Мама падносіла да губ чарку з калівам гарэлкі, прыслухоўвалася да агульнае вясёлае гамонкі, стрымана распытвала: «А ты, дзеткі, адкуль жа будзеш?» І пачуўшы, што я з-за Мялешак, з-пад Урэчча, моўчкі ківала галавою. Урэчча памятала яна яшчэ з даўняй даўніны…

Мы тады выступалі ў Еўліцкай пачатковай цеснаватай школе і ў брыгадным клубе. На пярэдніх лаўках сядзелі пажылыя жанкі з малымі ўнукамі на каленях. А далей — мужчыны і жанкі маладзейшыя. Стрэча тая засталася ў маёй памяці, нібыта я пабывала тады дома, нібыта стрэлася, пабачылася са сваёй раднёй і суседзямі. У сваіх Ліпніках…

Колішнія Еўлічы, «у адзін шнур», нічым не адрозніваліся ад безлічы іншых гэтакіх жа беларускіх Еўліч, Ячаваў, Папоўцаў… З хацінамі-стопкамі, з акенечкамі, выразанымі на шырыню аднаго бервяна, а там, дзе дзеці вытаўклі шыбу, яшчэ і пазатыканымі якім-небудзь рызманом ці ўшчэнт даношаным аблезлым кажухом…

Можа, пэўна, здацца, што ў той даўні, лучынай і газоўкай закураны побыт не пранікала ніякага іначага больш праменю, нішто больш яго не асвятляла, не ўзвышала, не абуджала фантазіі — асабліва дзяцінай. Дык не! Было ж святло матчынай калыханкі, яе сенакоснага, жніўнага,

вясельнага спеву. Былі бабуліны казкі — звычайна пра страхоцці самыя неверагодныя, бо якіх толькі ведзьмакоў і чарцей не вадзілася па тым часе на гарышчах, па камінох, па завуголлю, на падворышчах… Нячысцікі, ведзьмакі, цемра былі настырныя, але чалавек заўсёды ўмеў злаўчыцца і наступіць чорту на хвост! Або шпурнуць у печ, у агонь, ведзьміна памяло… І цемра знікала!

А было яшчэ бацькава чытанне…

«Маю асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі. Гэта былі не нашы ўласныя кнігі. І таму яны вабілі мяне яшчэ больш сваёй чароўнай сілай. Адкуль даставаў іх бацька? Адусюль, як толькі дачуваўся, дзе яны ёсць. Прыносіў нават з далёкіх вёсак. І калі выдавалася вольная часіна, у хаце ў нас усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас. Ахвотнікаў паслухаць знаходзілася. Часта да позніх пеўняў вокам не мог звесці і я…»

Так успамінае Васіль Вітка. Так крок за крокам засявалася непрыкметна некалі ніва дапытлівага дзяцінага ўяўлення — то невымоўным жалем, то шчаслівай захопленасцю, а то раптам сэрцу станавілася гэтак цесна і неспакойна, што здавалася, яно вось-вось вырвецца з грудзей.

Так нараджаўся паэт.

…Пасля паспяхова пройдзенай «акадэміі» ў еўліцкай кузні (яна, як на вачах, у вершы «Гартаванне») далей дарога праставала ў Слуцкую прафтэхшколу. А затым аж — у самы Бабруйск, на вядомы па ўсёй ужо краіне дрэваапрацоўчы камбінат. Там малады паэт не толькі аказаў сябе здольным слесарам, але пісаў ужо «падхадзяшчыя» вершы. Тады ж, у Бабруйску, і адбылася незабыўная стрэча, якая, пэўна можна сказаць, паўплывала на ўвесь далейшы лёс. Стрэча з Міхасём Лыньковым, у тыя гады рэдактарам бабруйскай газеты «Камуніст»… Нельга стрымацца ад смеху, чытаючы Віткаву аўтабіяграфію, калі ўспамінае ён, як збіраўся ў той Бабруйск. Як шылася яму такое неабходнае па тым часе наймаднейшае галіфэ — да сацінавай касавароткі і юхтовых ботаў, як завершаны быў увесь гэты шык падцяжкамі з бліскучымі металічнымі спронжачкамі… (А Ян Скрыган, таксама са Случчыны, уласную прыступку на лесвіцы да літаратурнай вядомасці ў тыя ж дваццатыя гады, як ён успамінаў, адзначыў таксама набыткам галіфэ, толькі ўжо нават абшытага леямі… Сам французскі генерал зроду не прадбачыў бы такога татальнага ўплыву на моду. Нават… у літаратуры!) Пранікнёны Міхась Лынькоў — сам у цеснаватым сціплым пінжачку, — аднак, і выгляду не падаў, у адрозненне ад сваіх ашаломленых такім шыкам супрацоўнікаў, толькі стаіў у прыжмураных вачах усмешку і адразу загаварыў пра вершы… І пасля таксама заўсёды страчаў паэта-пачаткоўца з гэтакай жа сяброўскай прыхільнасцю і патрабавальнасцю старэйшага добразычлівага таварыша.

І яшчэ адзін настаўнік. Кузьма Чорны. Сяброўства іх — людзей блізкіх не толькі мясцінамі, дзе яны нарадзіліся, а перш за ўсё глыбокай

духоўнай еднасцю — працягвалася да самых апошніх дзён Кузьмы Чорнага.

Чытаеш прозу Васіля Віткі, яго напісаныя самабытнай слуцкай мовай таленавітыя апавяданні, пазначаныя глыбінёй думкі і непадробнасцю праўды жыцця («Трывога ў Ельнічах», «Баравіцкія музыкі», «Познія палыны», «Гуляшчы хлеб»), і міжволі прыгадваеш Кузьму Чорнага… Не, гэта не перайманне — гэта проста напісалася пад дабратворным уплывам выдатнага майстра нашай беларускай прозы. Непаўторнага настаўніка…

…Звычайным сталася лічыць Васіля Вітку перш-наперш пісьменнікам дзіцячым. І гэтаму не запярэчыш: колькі ўцехі і радасці, колькі адкрыццяў і шчаслівага смеху падарыў ён дзецям!

Ну, хто не ведае — сам сабе ці сваім дзецям чытаў — дасціпных, нязмушана павучальных, з нязмушаным гумарам напісаных Віткавых казак «Вавёрчына гора», «Буслінае лета», «Пра цара Зубра», яго «ППШ», яго «Азбуку Васі Вясёлкіна» ці «Генерала Вераб’я» або «Дударыка»?

А цэлыя — пад завязку! — торбы смеху ў Віткавых скорагаворках, пацешках, задачках, гульнях!.. А вось гляньце на іх саміх — дзяцей — з кароценькага абразка «Хаваймасо!».

«— Хаваймасо! — закрычалі суседавы ўнукі, якія гулялі на вуліцы, і кінуліся ў сенцы. — Пісар ідзе!

Большы выткнуў галаву з дзвярэй і, убачыўшы мяне, сказаў:

— Гэта пісацель.

— Усё роўна хаваймасо! — пачулася з сянец».

…Някрасаўскія «Крестьянские дети». Памятаеце?

> — Такому-то гусю уж что за охота!
> Лежал бы себе на печи!
> — И, видно, не барин: как ехал с болота,
> Так рядом с Гаврилой…
> — Услышит, молчи!

Старонкі Віткавых кніжак для дзяцей — хто іх пералічыць — колькі і дзе яны толькі не выдаваліся! І дома, і за мяжой.

Былі мы з Васілём Віткам на Усесаюзным савеце па дзіцячай і юнацкай літаратуры — пакуль ён яшчэ існаваў — у Тбілісі. І што ж там убачылі на Выстаўцы дзіцячай кнігі? Кіргізскае і малдаўскае выдавецтвы хваліліся выданнямі на іх родных мовах — адно — Віткавым «Вавёрчыным горам», а другое — ладнай кніжкай Віткавых вершаў і казак для дзяцей… А сам паэт ні сном ні духам не чуў і не ведаў пра гэта. Ніхто з выдаўцоў яму і не заікнуўся нават… Ну, давялося пацішку, непрыкметна — у якасці аўтарскіх экзэмпляраў — зняць гэтыя кніжачкі з вітрыны і пакласці… у маю сумку. (За даўнасцю часу тая правіннасць, спадзяюся, даравалася нам…)

Спынюся. Не бяруся ўпрыцён падлічваць і «ўзважваць» усю работу і ўсе заслугі перад беларускай літаратурай слыннага пісьменніка Васіля Віткі.

Лаўрэат. Заслужаны. Ганаровы… Яго не пакрыўдзіла ўвагай і адзнакамі ні сама наша літаратура, ні тыя, хто — уладна — адважвае ёй свае шчодрасці.

А вось ці ўсе ведаюць, што беларускі Паэт Васіль Вітка яшчэ ў 1978 годзе быў узнагароджаны Міжнародным ганаровым дыпломам імя Ганса Крысціяна Андэрсена? Што імя яго занесена ў Ганаровы спіс вялікага дацкага казачніка?

…Ірландыя, дзе нацыянальная мова і літаратура гэтак жа, як і наша беларуская сёння, змагаецца за сваё *неўміранне*… Ірландыя — у галіне літаратуры — мае трох Нобелеўскіх лаўрэатаў. Англамоўных…

Беларуская літаратура, вядомая свету сваімі вышэйшымі ўзорамі, не мае ніводнага лаўрэата Нобелеўскай прэміі…

Паганаруемся ж і ўсцешымся, што ў 1978 годзе Васіль Вітка быў узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Ганса Крысціяна Андэрсена з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс дацкага казачніка.

*Алена Васілевіч*



# ВЕРШЫ

* * *

На чоўне сабраўся ў бязмежную даль,
У шлях невядомы, бясконцы.
Хай бераг далёка, а я паміж хваль
На сонца вяслую, на сонца!

*1928*

* * *

Дагараюць кастры…
І як доўгая дзедава казка,
Абзываецца ноч
Таямнічасцю гукаў і слоў.
Я не сплю.
Дзесьці коні жалезнымі путамі ляскаюць.
Месяц з неба,
Бы спуджаны лебедзь,
Вось нырнуў і пагас
За далёкім заснулым сялом.

Кажуць,
Рана да ўсходу
Выходзіць русалка-дзяўчына
І збірае ў прыпол квець апалую, ліст.
З кашміровай касою,
Залатымі вачыма…
Толькі гэта ўсё ў песні.
Пра дзявочую долю і весну
Мне спявала,
Расказвала маці калісь.

Высь, далёкая высь,
І прасторы, прасторы…
Вечна б так —
Маладосць і жыццё,
Вечна б сэрцам палаць,
Як вясновыя зоры,
Каб ніколі не гас
Запаветны касцёр.

Чарадзейныя мары
Наплываюць,
Мяняюцца.
Вось даносіцца з вёскі
Першы пеўневы ўскрык.
Хутка раніца,
Свежая, золкая раніца.
Туманом малачаевым
Без трывогі адчайнае
Незабыўная, ціхая ноч дагарыць,
Дагарaць і кастры.

Затрапеча лістамі асіна
І прачнецца,
І болей ужо не засне.
Ёй адной, толькі ёй
Я даверу ўспаміны,
Сваю першую казку
Аб начлежнай вясне.

*1929*

## НА ВЫГОДЗЕ

Зязюльчын лён, гладышыкі, чабрэц, —
Зноў пазнаю вас у траве высокай.
Са смагі поўны п'ю карэц
Халоднага бярозавага соку.

І хітраю сцяжынкаю лясной
Іду у салаўіныя харомы,
З чырванастволай гонкаю сасной
Вітаюся, як даўнішні знаёмы.

Са свежай сакавітае вярбы
Скручу я дудку з лёгкімі ладамі;
Сам-насам хочацца пабыць
З табою, шчыры бор, з тваімі жыхарамі.

Надрэжу тонкую пахучую кару,
Хай плача дрэва, пырскае на рукі;
Згадаць далёкую пару
Ужо даўно мне рупіць.

Успомніць босага маленства дні,
Грыбныя пні, маліннік і сунічнік,
І светляковыя агні,
І поўныя крыніцы.

Падлеткам за чужою чарадой
Я выхадзіў выжары і пагоркі.
Ты быў прытулкам мне,
Маёй ядой, вадой
І хлебам горкім…

Прывычна пальцы ходзяць па ладах.
Пяе вярба, паслушная падпаску.
І водгуллем далёкім у гадах
Вяртаецца нявызнаная ласка.

*1938*

## ЖУРАВЕЛЬ

Чаму жыццё не падняло
Яго ў надхмарныя вышыні?
Здавён вартуе ён сяло,
Высока выцягнуўшы шыю.

І ўсё цікуе — хто ідзе
Да поўнае яго крыніцы,
Яшчэ здалёк заве людзей
Халоднае вады напіцца.

І кланяецца ўсім зычліва,
Паслушна апускае дзюбу,

Глядзіць з увагаю руплівай
У бездань выцвілага зрубу.

Пап'е сасмаглы падарожнік,
Асушыць конь сваё карыта,
А восень агалосіць пожні
Птушыным развітальным крыкам,

І, ўчуўшы кліч павадыра,
Што свой касяк кіруе ў вырай,
Ён выцягне, расправіць шыю:
— І мне пара, і мне пара

Ляцець! Ляцець! Ды толькі хто там
З пустымі вёдрамі ў варотах?
Не, мусіць, будуць век цвяліцца
Са мной жанкі і маладзіцы.

Яны да цяжкага вядра
Мяне жалезам прыкавалі,
Ласкавым іменем назвалі
І не пускаюць са двара.

*1940*

## ГАРТАВАННЕ

Даверлівым, наіўным юнаком
Я прагнуў вызнаць кузні таямніцу.
Здавалася, пад гулкім малатком
Само жыццё мне мусіць пакарыцца.

Так навучаў мяне кульгавы Валадым,
Сусед па прозвішчу «руб дваццаць».
Яшчэ ўспамінамі віецца цёплы дым,
Шуміць увішная ля горна праца.

А кузня тоўпіцца людзьмі —
Каму сашнік, каму направіць шыну.
— Сынок, — завуць мяне, — падзьмі! —
І мех пяе — чароўная машына!

Бывала, прывядуць да каваля
Каваць каня, — і мігам я гатовы

Падпілаваць, насталіць вухналя,
Падаць у абцугах гарачую падкову.

А перад жнівам колькі нам турбот!
З-пад Слуцка самага, за вёрст пятнаццаць,
Нясуць сярпы зубіць, — і от
Ужо мне тыднямі не будзе спацца.

І каб агонь не звёўся, не затух —
Мне кузню Валадым даверыць,
А я надзену скураны хвартух
І ўпершыню сам выкую падгерац.

Я рамяство спасціг — і толькі аднаго
Дагэтуль не магу уцяміць,
Хоць і мінула многа год,
Яно трывожыць маю памяць.

То спосаб гартавання — от рубеж
Мае дапытлівай навукі,
Калі, суседзе мой, табе
Душу я аддаваў у рукі.

Ты гартаваў яе на лёдзе, на вадзе,
На колеры любыя, на адценні,
На дыме першых летуценняў
І рэдка — на няшчасці, на бядзе.

Цяпер настаўнік у мяне другі —
Суровы майстра гартавання,
Бярэ ён смела сэрца ў абцугі
І грэе на агні выпрабавання.

Да белага напаліць. Малатком
Пастукае, направіць і — у воду.
І зноў іду вясёлым юнаком
Я праз усе жыццёвыя нягоды.

І зноў так лёгка жыць, і, як тады,
Я слаўлю верную сваю навуку,
Цябе, мой добры Валадым,
Твае упэўненыя рукі.

*1941*

* * *

Будзеш ты усюды неразлучны
З першымі ўспамінамі жыцця,
З ціхаю тугой па роднай Случчыне,
З шолахам альховага лісця,

З тою прыдарожнаю алешынай,
Што ў зацішшы пры шашы шуміць.
Хіба ж ёсць у свеце шчасце лепшае,
Як пад небам бацькаўшчыны жыць?

Дужым і разгалістым карэннем
Разраслося дрэва з той пары,
Як узяў на ростані ў кішэню
Ты кавалак цёплае кары.

Невядома, колькі давядзецца
Даўкую тугу ў душы нясці,
Толькі вечна маладому дрэўцу
Случчынай у памяці цвісці.

Прыйдзе час — алешына сустрэне,
Пры шашы ў зацішшы зашуміць.
Не сустрэне — адшукай карэнні,
Ласкай успаі, — і дрэва будзе жыць.

*1941–1942*

## БАЦЬКА

Па тым, як светла стала ў хаце,
Як маці ў шчасці зарыдала,
Пазнаў у прышлым я салдаце
Таго, каго чакаў гадамі.

З паходнай кайстры пехацінца,
Салёным порахам прагорклай,
Дастаў дзіцяці ён гасцінца —
Дроб цукру напалам з махоркай.

І не заўважыў я, як потым
Ён адвярнуўся ў думе нейкай,

Як бліснула расінка ўпотай
На бацькавых суровых вейках.

Тады няўцям было малому,
Што мо цяжэй за ўсё на свеце
Пранесці праз вайну дадому
Ў паходнай кайстры шчасце дзецям.

*1944*

## ДОМА

Чарэшня звісла цераз плот,
Жаўцее цындалея,
Гарбуз свой выкасаў жывот
І на прыгрэбцы грэе.

Напэўна, прыцемкам кажан
Крылом мяне крануўся,
І я ў акопах не ляжаў,
Не быў у завірусе,

І ні ў атаках, ні ў баях,
І ні ў цяжкім паходзе…
Стаіць пад вартай жураўля
Дубовы наш калодзеж,

І ўжо ў руках не кацялок —
Знаёмае вядзерца,
І вышываны ручнічок
Аб жорсткі твар мой трэцца.

Са скавародкі стус блінцоў
Наскідвала ўжо маці,
І зноў я пазнаю хлапцом
Сябе у гэтай хаце.

Сяджу і слухаю зімой
За комінам на печы,
Як тонкай ніткай ільняной
Звініць марозны вечар.

Над галавой снуе павук
Для навіны аснову.

І веру я, малы хлапчук,
Прыкметам і замовам.

На Новы год на дно вядра
Кладу ў ваду я грыўню,
Каб наша хата ад дабра
Ламалася у жніўні.

Вясной, пачуўшы першы гром,
Я грэйма цераз лужы
Бягу да дуба — б’юся лбом,
Каб быць мне самым дужым.

Каб добры лёс убачыць свой,
Я верны спосаб знаю, —
Расою першай лугавой
Я вочы абмываю.

З тых дзён мне родны кут відзён
Заўжды пад ясным небам,
З тых дзён у ростані жадзён
Я матчынаму хлебу.

Напэўна, прыцемкам крылом
Мяне кажан крануўся…
Стаіць здаўна знаёмы дом
Каля раўка, пры лузе.

Яго я помніў на вайне,
Як біўся за Айчыну…
Глядзіць Радзіма на мяне
Шырокімі вачыма.

*1946*

## ТРЫПУТНІК

Уздоўж дарожных каляін,
Уздоўж абходжаных сцяжын
Яго заўважыць
Кожны
Падарожны.

Яго нямала топча ног —
І босых, і абутых.
Другі б ужо змарнеў, знямог
У крыўдах і пакутах,
А ён расце, трыпутнік,
А ён цвіце, пакутнік.

Я думаў, можа быць, людзьмі
Ён гэтак пакараны,
А людзі раяць — прыкладзі
Яго лісток да раны:
Суніме боль трыпутнік,
Ўсё выцягне, пакутнік.

З дзіцячых год запомніў я
Шырокі ліст прыкметны
І добрае тваё імя,
Мой друга запаветны,
Зялёны мой пакутнік,
Трывалы мой трыпутнік!

*1946*

* * *

Лёгка адшукаць яшчэ
Родную руіну —
На зарослым хацішчы
Расцвіла шыпшына
І гняздо салаўя
Туліць галінай…
Маладосць мая,
След твой не загінуў.

*1946*

## ПРЫМАК

Гавораць, што прымачы хлеб — сабачы,
А я, браткі, папраўдзе вам скажу:
Жыву сабе, не ныю і не плачу,
Па бацькаваму дому не тужу.

Калі адпісвалі мяне ад часці,
Пытаюцца: куды ж табе білет?
Нашто ён мне, маё пад бокам шчасце,
Чаго мне вандраваць за свет?

Ускінуў я за плечы свой мяшэчак,
Прымайстраваў на рэмень кацялок,
Іду знаёмаю дарогаю пяшэчкам
І ўбачыў ваш куток яшчэ здалёк.

Мне абысці яго ніяк няможна.
— Дзень добры! — і карціць падаць руку. —
Стаміўся от, кажу, у падарожжы,
Перадыхнуць дазвольце земляку.

Даю цукеркі дзецям і — паверце —
Яшчэ не ўспеў мяшэчка развязаць, —
Пазналі хлапчукі мяне, от чэрці,
І нават слова не далі сказаць.

Прыпомнілі. Маленькі нават бацькам
Пачаў на тым жа часе называць.
Не вытрываў і большы: «Гэта ж дзядзька,
Што хату нам дапамагаў стаўляць!»

Падаў я кашміроўку маладзіцы:
«Даўно на памяць дзеля вас прыпас,
Хоць, бачу, вы паспелі ўжо забыцца,
Як на пабыўку прыязджаў да вас,

Як хату крыў я, як пруты падвязваў,
Як ваш бярозавік збаночкам піў…»
Заплакала ўдава: «Пазнала я адразу,
Як толькі ты парог пераступіў…»

Усю вакол сядзібу абышлі мы.
Паказвае яна мне: «Паглядзі!
Да нашай вішанькі дубок прыстаў у прымы,

Адкуль узяўся ён?»
— «Я пасадзіў!»

Не клалі у парозе мы падковы —
На добрае пайшлося ў нас і так.
І выраслі ўжо дзеці прымаковы,
І прозвішча забылася — прымак.

*1946*

## ПЕРШАЕ, НАІЎНАЕ КАХАННЕ

Першае, наіўнае каханне…
Штодзень я выходжу на спатканне.

Балазе хадзіць не так далёка,
Цераз агароды — лічаныя крокі.

Мне валошкай вышыла матуля
З беленага кужалю кашулю.

А яшчэ ў тым незабыўным годзе
Па апошняй, самай новай модзе

З шарачку — дзе ж корту таго ўзяці? —
З кантамі мне галіфэ пашыла маці.

Дзеля шчасця трэба не так многа,
Толькі вось абуць бы што на ногі.

Ўрэшце, не бяда — і так я прыбяруся,
Каляровым поясам падпяражуся.

Гэта ж не ў чужыя людзі ехаць.
Вазьму шорсткі саламяны вехаць

І каля карыта да знямогі
Буду шараваць парэпаныя ногі.

Боль жахлівы душу працінае, —
Хай сабе — ўсё выцерплю, стрываю!

…Першыя пакуты і ахвяры,
Першыя, даверлівыя мары,

Хай на змену вам прыйшлі другія —
Самыя вы чыстыя і дарагія…

*1956*

## ДЗЕД

Напэўна, не змагу сягоння
Намаляваць яго партрэт.
Я толькі добра дзень той помню,
Калі ляжаў на лаве дзед.

І нібы на якое свята
Ці на кірмаш ён ехаць меў —
Уся яго збірала хата,
А ён збірацца не хацеў.

Як бы на ўсё махнуў рукою
І, падтуліўшы бараду,
Прасіў: пакіньце у спакоі,
Я з гэтай лавы не сыду.

А ўжо ваду нагрэлі ў печы,
Пад пахі дзеда узялі,
Над цэбрам шаравалі плечы
І доўга цёрлі мазалі

Каструбаватых тых далоняў,
Што перагладзілі наўкруг
Чужыя выцерабы, блоні,
І дворны цэп, і цяжкі плуг.

Сарочку белую надзелі
І зноў — на покуць галавой,
І сталі плакаць, як умелі,
Не плакаў толькі бацька мой.

Няўмела, доўгую, як дудку,
Ён з дзедавага тытуню
Згарнуў нязвыклую закрутку
І зацягнуўся ўпершыню.

Пра што ён думаў — я не ведаў,
Ён сам быў вельмі ж маладым,

Каб зразумець, як горак дзедаў
Не толькі лёс, а нават дым.

*1958*

## ХЛЕБ

Нямала яго праслаўлялі паэты.
З усімі сябрамі я згодзен.
Успомніць хачу толькі дзень неапеты,
Дзень яго слаўных народзін.

Калі кажухамі старымі накрыты,
Спачатку лагодны і млявы,
Ён раптам стагнаць пачынае сярдзіта,
Нібыта мядзведзь у аблаве.

Тады раскрываюць яго асцярожна
І рукі закасвае маці,
І вось у вясёлае падарожжа
Едзе наш хлеб на лапаце.

Спадыспаду высланы лістам дубовым,
Духмяным пасыпаны кменам,
Вяртаўся ён з печы, як сонца, ружовы
І доўга свяціў на стале нам.

Але і нас чорныя дні не мінулі.
Раз’ятраны ўласным бяссіллем,
Чужынец апошнюю драў з нас кашулю,
Зямля парасла чарнабыллем.

Кашчавай бясхлебіцы хцівыя пальцы
Ужо каля самага горла.
Млыны апусцелі, у печах не паліцца —
І хата за хатаю мёрла.

Дзяжа так усохла і зачарсцвела,
Што хлебная завязь звялася,
Калі б рашчыніць гаспадыня сумела,
Дык рошчына б не прынялася.

І раптам на хатах пайшла пагалоска —
Збірацца на сход ёсць патрэба:

З усіх каміноў над суседняю вёскай
Дымок падымаецца ў неба.

Нібыта з вайны пасланец там з'явіўся,
Мяшэчак аддаў гаспадыні.
І гэтак сказаў: «Хлеб з дарогі ваш збіўся,
Ён хутка вярнуцца павінен.

Дало мне начальства запасу на месяц —
Дзяліце на роўныя часці,
І нанач жанкі няхай густа замесяць
На наша салдацкае шчасце.

Калі на кулітку сабраць хто не зможа,
Я мушу вам гэтак параіць:
Адразу ж за мною вы ў падарожжа
І той выпраўляйце акраец.

Як дойдзе да нас, да пярэдняга краю,
Ад кожнае вёскі даніна —
Тады і закончыцца скруха людская,
Зможа чужынца краіна…»

Гэта не выдумка, гэта не казка —
Паверыла кожная хата:
Споўніла слова у слова наказ той,
Не падманула салдата.

Пайшоў у вялікае падарожжа
Хлеб да пярэдняга краю,
Адтуль — да Палесся і да Заволжа,
Да стромых вышыняў Алтаю.

Спадыспаду высланы лістам дубовым,
Духмяным пасыпаны кменам,
Ён коціцца з печы, як сонца, ружовы
І свеціць ізноў на стале нам.

Па праву яго праслаўляюць паэты.
З усімі сябрамі я згодзен.
Успомніць хачу толькі дзень неапеты,
Дзень яго слаўных народзін.

*1958*

## ПОМНІК ЛАСЮ

Як вадаспад, пясок сыпучы
Цурчыць струменем пад адхон…
Ён выбег з лесу, стаў над кручай
І так стаіць, усім відзён.

Пад ім шаша няспынным рухам
Шуміць, машынамі гудзе.
— Глядзіце, лось! — А ён і вухам
Не варухне, не павядзе.

Як тонкая страла, нацяты,
Рагамі ўпёрся у блакіт.
Такім на памяць ён узяты
І ў бронзе на заказ адліт.

І як далёкі адгалосак,
Дзе славу ён сваю насіў, —
І назвы навакольных вёсак,
І нават прозвішчы — Ласі.

О людзі! — як сказаў бы класік. —
Не любіце прыроды вы.
Няхай бы ж ён і ў нашым часе
Стаяў над кручаю жывы.

І, спуджаны гудком машыны,
Зноў кінуцца ў гушчарнік мог
1 каля цёмнае яліны
Біў капытамі рыжы мох.

*1958*

## ВЕРАСЫ

Што гэта: казка а ці сон,
Ці лесу галасы?
Смычкоў суладны унісон
З размаху, наўскасы

Ударыў — і вясёлы дождж
За хмаркаю услед

Пабег, як хлопчык, басанож
У ясны, мілы свет,

Не разбіраючы дарог,
Да пушчы, нацянькі,
Дзе прабіваюць тоўсты мох
Грыбы баравікі,

Дзе сонца пырскае з суніц
І сонныя чмялі
За дзень ад паху медуніц
Зусім абнемаглі,

Дзе ў пацерках густой расы,
Між цёплых баравін,
Нам песню дораць верасы
На дарагі ўспамін.

*1958*

## ШАРАЯ ГАДЗІНА

Пеўневым барвовым грабянцом
Запалаў лясок на даляглядзе.
Развітальным, сумным пасланцом
Сонечны прамень упаў у садзе

І на шыбе так зазіхацеў,
Што міжволі жмурыліся вочы.
Летні дзень упарта не хацеў
Саступаць рубеж раптоўнай ночы,

За зямлю трымаўся з усіх сіл,
Ні вяршка не аддаваў без бою,
І сыходзіў вузкі небасхіл
Чырванню гарачаю, густою.

Нездарма, напэўна ж, нездарма
Даўняя прыкмета ёсць такая:
Недзе там, на захадзе, вайна,
Калі гэтак полымя шугае.

І я доўга з-пад рукі гляджу:
Не, мая радзіма не ў трывозе.

Сяду і хвіліну пасяджу
На знаёмым бацькавым парозе.

Цьмее край зямлі і ледзь трымціць
Тонкаю агністаю палоскай,
І, настуненая ўся, звініць
Вечаровым водгаласам вёска.

Вось апошні валасок пагас,
Прыцемак плыве ўжо над нізінай.
Гэты час на Случчыне у нас
Называюць шараю гадзінай.

У цішы вячэрняе пары
Добра пра наступны дзень памарыць…
На начную змену трактары
Выйшлі ў поле, запаліўшы фары.

Значыць, сонечны прамень не згас,
Ён на варце нашай мірнай працы.
Выверыўшы дум сваіх запас,
Трэба мне ізноў за песню брацца.

Хай паверкай перад новым днём
Будзе гэты час мой вечаровы.
Нездарма ж такім агнём
Небасхіл палаў барвовы.

*1958*

## ВЕТРЫК, ВЕЙ!

Цёплай ласкай авеяны,
Ты дайшоў да душы,
Мілы, ціхі «Пут, веіні»,
Што пяюць латышы.

Мы за рукі ўзяліся,
Шмат даверлівых рук,
Рыга з Мінскам сышліся,
Выйшлі разам на круг.

Хай не ведаем мовы,
Толькі ўсё нам радней

Сэрцу блізкія словы:
Ветрык, вей!

На паляне вясёлай
Разаслалі абрус,
Водзяць песню наўкола
З латышом беларус.

Светлай дружбы крыніцы
З кожным годам званчэй,
Заспявалі ўкраінцы:
«Ветрык, вей!»

Рэхам коціцца песня
Па азёрнай Літве
І за стол наш пачэсны
Сябрыну ўсю заве.

Падымаецца сонца
Над краінай вышэй,
Падхапілі эстонцы,
Стала песня гучней.

Круг расце на паляне
Ўсё шырэй і шырэй.
Вось пяюць малдаване:
«Ветрык, вей!»

Адгукнулася песня
Ў гулкіх вежах Крамля,
Па ўсім свеце панесла
Голас дружбы зямля,

І ад краю да краю,
Над радзімай усей
Наша песня лунае:
Ветрык, вей!

Вей узвевамі поўнымі,
Каб ярчэй дзень пры дні
Над заводамі, домнамі
Зіхацелі агні,

Над калоссямі ўлетку,
Над хусцінкамі жней,

Над гарачым палеткам,
Ветрык, вей!

Вей у час развітання
Для сяброў і гасцей,
Вей да новых спатканняў,
Вей!

*1959*

## АРЭШЫНА

Пацешная
Між вербаў ніцых
Арэшына
У завушніцах.

Цыбаты подлетак,
Яна надзела
Іх толькі сёлета,
І то ў нядзелю.

І ўся выблісквае,
Высвечвае,
Такая блізкая,
Сардэчная.

Мая націнанчка
З вяснушкамі,
Дзяўчыначка,
Давай пагушкаю.

Траха да крохкай
Дакрануся —
І ты ўся ў лёгкай
Завірусе,

А залацісты
Пылок лажыцца
На лес бязлісты,
На ігліцу,

На ўсё зарэчча,
На палянкі,

На нашу стрэчу,
А берасцянкі

Высвістваюць
Ужо ў тумане,
Вітаюць чыстае
Каханне,

Маю арэшыну
Ў агеньчыках,
Навекі грэшную,
Нявенчаную.

І зараз помню
Да драбніцы
Світання промні
Ў завушніцах.

Гаркавы водар
Балігалову,
Што і праз годы
Займае мову.

Такі бясконцы
Мой давер быў
Да ласкі сонца,
І да вербаў,

І да прадвесня,
І да выраю,
Да ціхай песні,
Самай шчырае.

Гары,
Палай, мая арэшына,
Маё жывое шчасце
Першае.

*1961*

## АЎТАПАРТРЭТ

Фацэцыя, дальбог:
Навошта д'ябла слухаць?
Узяў Вінсент ван Гог
І шаснуў брытвай вуха.

Акт неразумны, так.
Як кажуць, ведай меру.
Наіўны быў бядак,
Калі чарцям паверыў.

Самаўлюбёны свет,
Прымай жа аплявуху:
Вось мой аўтапартрэт.
Глядзіце, я без вуха.

Паслухаўся я вас,
Але сабе не здрадзіў.
Ручаюся за час,
За адпаведнасць праўдзе.

1962

## ДАРАГІЯ СТРЭЛКІ

Шчаслівы той, хто не хварэе,
Не лічыць тыдняў і гадзін,
Не адзначае юбілеяў
І не спраўляе імянін.

І я не меў такое звычкі,
Гадоў пражытых не лічыў,
Любіў спрачацца, лез у стычкі
І часам нават чарку піў.

Паўвека грукнула паэту,
І рады ўсе сябры мае
Увекавечыць дату гэту,
Ў гісторыю ўпісаць яе.

А каб запомніў імяніннік,
Што йдзе не ўгору, а з гары —

На памяць залаты гадзіннік
Падаравалі мне сябры.

Не мае права выйсці мелкім
Цяпер ні слова з-пад пяра:
Час лічаць дарагія стрэлкі —
За розум брацца, брат, пара.

*1962*

## СВАЙМУ ВОРАГУ

Мабыць, гэта страшней удвайне,
Чым на людзях сваіх, — на вайне.
Ты страляеш адкрыта ў мяне.
Я стаю, твар у твар, пры сцяне.

Мы без сведак. Сам-насам. Адны.
Мне ўжо цяжкія кулі відны,
Што павінны патрапіць у цэль.
У вачах тваіх — ярасны хмель.

Вось злажыўся. Зласліва ўсміхнуўся.
Як я рад, што на часе прачнуўся.
Толькі знаю, дарма ты не цэліш:
Не паспею прачнуцца — застрэліш.

*1969*

## НАЦЮРМОРТ

На белым вышываным ручніку
Адкроеная хлеба луста,
І сыракваша свежая ў збанку,
У місе — шаткаваная капуста.

Лагоднасць фарбаў. Толькі бэз
Спалохана стуліўся на самоце,
І зіхаціць на яблыку надрэз,
Застылы на трывожнай ноце,

Што вырвалася кагадзе на свет
І цішыні не хоча пакарыцца.

Адзін скамечаны канверт
Хавае ўпарта таямніцу.

*1969*

## У ІМЯ АЙЦА…

У імя Айца, і Сына,
І Ўсемагутнага Духу,
Божа, не грукай у спіну
І не лупі па вуху.

Ты так мяне, грэшнага, перыў,
Што я ўжо ва ўсім вінюся,
Самаахвярна веру
Кожнай тваёй аплявусе.

Нібыта на прывязі чоўнік,
Снуюся ў жыццёвых кроснах,
Раб твой, слуга твой, чыноўнік,
Якому ад страху млосна.

Ледзь тузанеш нагавіцы,
Урэжаш казённай папругі,
Прысыплеш азадак гарчыцай,
А потым прызнаеш заслугі.

Падымеш мяне, балеснага,
Спагадай прылашчыш урэшце,
І я ўжо спяваю песні
Пра дзіўнае дзіва ў рэшаце.

Аж выпінаюся з сілы,
Першы бягу за пратэсай
Навысціжкі перад усімі,
Паперад самога прагрэсу.

Таўку ўжо іншых у спіну,
З размаху луплю па вуху
У імя Айца, і Сына,
І Ўсемагутнага Духу.

*1969*

## СЛОВА

З аднаго зярнятка малога
Вырастае магутны вяз.
Колькі год яму жыць? Вельмі многа.
Сто і дзвесце — залежыць ад нас.

Колькі год на яго верхавіне
У гняздзе клекатаць буслам?
Гэта самі мы ведаць павінны,
Гэта ўсё падуладна нам.

Колькі раз адлятаць ім у вырай
І вяртацца дамоў у свой час?
Ўсё залежыць ад нашае шчырай
Дабраты — і ці ёсць яна ў нас.

Лес, і рэчку, і клёкат busловы,
Чалавечую ўсмешку ўраз
Можна знішчыць адным толькі словам,
Што бяздумна вырвецца ў нас.

Стогнуць пілы, скрыгочуць бульдозеры —
Наламана нямала дроў.
І чарсцвее душа ад карозіі
Безадказных, бяздумных слоў.

Іх не возьмеш назад, іх не вернеш.
Камяком боль у горле засох.
І ніколі не ўзыдзе зерне,
Што упала ў бясплодны пясок.

*1971*

## СПЯШАЙЦЕСЯ

Спяшайцеся ў поле, у луг, у лясы —
Запісваць птушыныя галасы.
Яшчэ на дасвецці, на самым золку
Зловім на плёнку
Мы перапёлку.
Няхай астанецца на стужачцы хоць

Заклік на памяць:
«Ідзі палоць!»

Нямала за век яна перапалола,
Нямала ножачак перакалола
Горкім асотам, рыжаю піжмаю,
Родная, любая, ты ж мая, ты ж мая…
Колькі нам дзетак накалыхала,
Колькі ў дарогу перагукала…

Давайце паставім вось тут мікрафон.
Аблюбаваў гэта селішча ён,
Той, хто між птушак самы народны,
Людзям і лесу блізкі і родны,
Тут, у алешніку, дзе зацішней, —
Чуеце, чуеце? — ён, салавей!

Гэта яшчэ толькі голасу проба
І для яго, спевака, не ўвярода.
А вось і бліскучая кантылена,
Самы канёк яго, тое калена,
Адкуль пачынае сапраўдны артыст, —
Вунь на якой вышыні яго свіст,
Аж з верхавіння сыплецца ліст!

Стойце, перад гісторыяй замрыце.
Пішаце вы для нашчадкаў! Пішыце
Для тых, хто, напэўна, дасягне і сонца,
А салаўя будзе слухаць на плёнцы.

Сюды, калі ласка, кінаапарат.
Бачыце — выстраіліся на пожні
Сосны на свой урачысты парад,
Баюся, што на апошні.

Даўно паралічаныя камлі
Прагны сухмень аблізвае.
Якія бары былі на зямлі —
Пабачыце ў тэлевізары.

Напэўна, будзеце млець у экстазе,
Як самааддана, ўладарна
Грукаў калісьці дзяцел у джазе —
Самы выдатны ўдарнік.

…Спяшайцеся ў поле, у луг, у лясы —
Слухаць птушыныя галасы!

*1971*

## КАРЭЛІІ

Ні знакам недавер'я,
Ні пошапкам, ні ўслых
Не папракнеш, Карэлія,
Ты землякоў маіх

Ні крыўдай, ні дакорам
За тое, што дамоў
Вяртаюцца каторыя
На бацькаўшчыну зноў.

Што вабіла і звала
Іх у твае лясы
Пасля цяжкой навалы
У горкія часы,

Калі між хат згарэлых
Ржавеў калючы дрот?
«Вярбуйцеся ў Карэлію!» —
Ішлі мы, як на фронт.

Не навіна — сякера,
Не навіна — піла.
Была б нясхіснай вера,
А вера ў нас была.

Надзейна і старанна
Рубіліся дамы.
Ты залячыла раны,
У людзі выйшлі мы.

Мы сэрцы адагрэлі
Каля твайго кастра.
Карэлія, Карэлія,
Душэўная сястра!

*1971*

## СОСНЫ

Змаглі вы буры і марозы,
Людской сякеры не змаглі.

*Я. Купала*

Малая ўцеха — кожнаму свой час,
Свой лёс, свой лес, свой леспрамгас.
Да вышыні імкнешся ты з даверам,
А пенізу цябе — сякерай.

І раны горкія смыляць смалою,
А ты ўсё цягнешся да сонца галавою,
Начамі не даюць спакою сны,
Што ў свеце ўжо ніводнае сасны.

Апошнія мы ловім з паднябесся
Па кроплі цёплы сонечны прамень
І радуемся яснаму прадвесню,
Вітаем кожны лічаны свой дзень.

Трымаем каранямі жвір сыпучы,
Каб не засохла плынь жывой ракі,
А будзе падаць, дык наводмаш, з кручы
Зялёнаю маланкай — у вякі.

І, можа, па адным зярнятку кволым,
Дзе адшумелі нашыя бары,
Адкрые астраном і вылічыць геолаг,
Які тут грымнуўся метэарыт.

А буйная фантазія паэта
Дадасць, што на касмічным караблі
Ляцелі мы з далёкае планеты,
Але не даляцелі да Зямлі.

…Ва ўсмешцы скрывіцца,
хто нас судзіў сякерай,
Не перакажа наш апошні сказ.
Ён так і не паверыў, не паверыў,
Што мы жылі, што мы любілі вас!

*1972*

## ПЕРАД ПАРОГАМ

Многа я парогаў перамог —
Холаду, нянавісці і зла,
Гукавы пераступіў парог,
Да парога падышоў святла.

Прарываюся праз цемру скал,
Цераз ноч да сонечнага дня,
А за перавалам — перавал,
А за вышынёю — вышыня.

Дзякуй, недасяжны мой парог,
Мне цябе пабачыць памагло
Цераз нетры будучых эпох
Душ людскіх высокае святло.

*1973*

## ЯДЛОЎЦАВЫ КУСТ

Не парушаючы плыні штодзённай,
Буду, шчаслівы, ціха знямець.
Прашу — не кладзіце ў стадоле казённай
І не трубіце ў жалобную медзь.

Не прымушайце плакаць прамоўцаў —
Баюся, што могуць расчуліць мяне.
Пагасне зялёны агеньчык ядлоўцу
І нават галінкай не варухне.

Усіх вызваляю ад сумных візітаў,
Загадзя дзякую ад душы
Таму, хто даставіць хуткім транзітам
Без перасадкі па Слуцкай шашы

Да ўзгорка таго, што пагляду прыкметны
Між родных і мілых прастораў здалёк.
Як лёгка мне будзе дыхаць паветрам
Лугоў канюшынных, пшанічных палёў.

Прыпынак мой ціхі. Няхай не знайшоў я
Ні надпісаў гучных, ні нават прыкмет

Далёкіх вытокаў свайго радаслоўя —
На бацькавым бацьку страціўся след,

Але папярэднік і продак мой ведаў,
Што не канчаецца вечнасці рух,
Распачынаючы зноўку ад дзеда
На дрэве жыццёвым памяці круг.

Не парушаючы плыні штодзённай,
Добра надзейны прытулак свой мець.
Ядлоўцавы куст, абеліск мой зялёны,
Вечна табе на радзіму глядзець.

*1974*

## ЁСЦЬ НА ЗЯМЛІ

Ёсць на зямлі такі куток,
З якім навек я злучаны,
Адкуль ступіў свой першы крок —
Мая радзіма — Случчына.

Не зводзіліся ўсе вякі
На Случчыне паэты.
Вянкі іх песень — ручнікі,
Сурвэты — іх санеты.

Увекавечыў Слуцак нас
Сваімі паясамі.
А пра цяперашні наш час
Вы ведаеце самі.

Пачуўшы ад старых людзей,
На ўласны смак праверыў —
Няма нічога саладзей
Славутай слуцкай бэры.

А тыя, хто памаладзей,
Перадаюць унукам —
Няма нічога саладзей,
Чым слаўны слуцкі цукар.

Сябры, паверце земляку:
За век свой некароткі

Я ўпэўніўся, што случаку
Увесь наш край салодкі.

Над Случчынай салодкі звон,
Як рой наўкола маткі.
Люблю яшчэ з дзіцячых дзён
Салодкія загадкі.

*1976*

## САЛОДКІЯ ЗАГАДКІ

Сітуліцы,
Мітуліцы —
Ляцяць госці
Па вуліцы.

Пазляталіся,
Паселі
І гудуць,
Як на вяселлі.

Сонца жыгае,
Джгае жывіца.
Хто не ўгадае —
Не будзе жаніцца.

Не быў я ў свеце бабылём,
І ты не будзеш, братка,
Пакуль не зарасла быллём
Салодкая загадка.

Пакуль вяселіць нас яна
Бясконцай таямніцай,
Пакуль з глыбінь жывога дна
Б'юць слуцкія крыніцы.

Прыпаўшы да зямлі, іх п'юць
Лясы і сенажаці
І маладзіцы, што пяюць
Песні нашых маці.

Сам не паклоннік даўніны,
Сучаснасці равеснік,

Паміж радні і сябрыны
Я рады слуцкай песні —

І той, што з полымя вайны
І што бацькі спявалі,
Што нашы дочкі і сыны
Вязуць на фестывалі.

*1976*

## САКУНЫ

Мы на Случы ўсе — сакуны,
Завомса сакунамі.
Спрадвеку хлеб наш сакаўны
І мова сакаўная.

Звязала ручніком рака,
Тугім вузлом злучыла
З лесавіком палевіка
І дружбе навучыла.

Здавён адзін на аднаго
Мы не глядзелі скосо
І хоць пабачылі ўсяго —
Усё першылосо.

Наб’е гузак, хто вытнецца,
Пацэліць той, хто меціцца.
Бо як яно рабіцьмецца,
Дык так яно і мецьмецца.

І нечага аюцкаць,
Калі пастух някемны.
У Слуцку ўсё па-людску —
І случакам прыемна.

Яшчэ ў калысцы спіць сысун,
А толькі абазваўса,
І ўжо ён — выліты сакун,
Увесь у бацьку ўдаўса.

Глядзіш, мацнейшыя харчы
У місе падварушвае.

Не трэба нават і вучыць —
Так лыжкай апігушвае.

Расце сабе, у вус не дзьме,
Наказ шануе дзеда:
На Случчыне Андрэй Кузьме —
Заўсёды родны Хведар.

*1976*

## І САМ УДАЎСА Я ТАКІ

І сам удаўса я такі,
Шчаслівы вам прызнацца:
З адной рукі, з другой рукі —
Скрозь слуцкае сваяцтва.

Дадому еду — і здалёк,
Нібы палотны белячы,
Бяжыць бярозавы гаёк,
Дарогу сцелюць Еўлічы.

Пра іх ніколі на вяку
Нідзе не мог забыцца.
У весніцах стары цвіркун
Пілуе марш на скрыпцы.

Чмель трубіць у гарбузны цвет
На ўсё сяло святочнае.
Не блізкі абышоўшы свет,
Канцы з канцамі сточваю.

Тут між балотнага куп’я
Ўзлятала песня кнігаўкай.
Зрасталася душа мая
З маёю лепшай кнігаю.

У ёй — імёны, адрасы,
У ёй — мае случане,
Жывых — жывыя галасы
І тых, што замаўчалі.

Падчас і я ў трубу трублю,
На скрыпачцы пілую,
Што, мілую, цябе люблю,
Зямлю сваю — малую.

А ты жыццё прайшла са мной,
У свет вялікі клікала.
Ніколі без цябе, малой,
Не знаў бы я вялікае.

Яшчэ не сплочаны мой доўг.
Перад табою немы,
Я ўсё шукаю свой радок
Дзеля тваёй паэмы.

*1976*

## СУНІЦЫ

*Памяці Рыгора Лынькова*

Яшчэ няспелае, дачаснае
Упала ніцам
І запалала лета краснае
Усё ў суніцах.

Упаў на шлях апошні ясень,
Як пагранічнік.
Пад гусеніцамі не гасне,
Гарыць сунічнік.

Світанак у смузе дыміцца
На пераправах.
Гараць чырвоныя суніцы
У чорных травах.

Цівосе[1] жыта налілося,
Запалавела —
Агнём калоссе занялося
І спапялела.

Над устрывожанай Айчынай
Маланак рэха.

Гарыць ляшчэўнік у лагчыне —
Вянкі арэхаў.

У лесе снайперы кукуюць,
А не зязюлі.
І, затаіўшыся, цікуюць
Дарогу кулі.

І колькі нас у тых лагчынах —
Не злічыць рэха.
Чарнее завязь на ляшчыне —
Вянкі арэхаў.

Далёкі досвітак дыміцца
На пераправах.
Гараць жалобныя суніцы
У чорных травах.

*1976*

## ЦЁТКА ЦІШЫНЯ

Аператары запісваюць на плёнку цішыню.
Папярэджвайце сяброў, знаёмых і радню,
У праграме перадач пазначана:
Шараю гадзінаю штодня
На экранах тэлебачання
Загучыць у кожным доме цішыня!

Пэўна, рады будзе кожны дом
Цішыню паслухаць перад сном,
Нібы калыханку для душы
Ці «Спакойнай ночы, малышы!».

Не засне ўжо ні малы і ні стары,
Не пабачыўшы, як у бары
Датаўклі, нарэшце, кашу камары,
Як кладзецца спаць у Белавежы зубраня
І выходзіць на экраны цётка Цішыня.

Не, не з кайстрай казак за плячыма
І для неслухаў з мяшком —
Самая звычайная жанчына

З матчынымі добрымі вачыма,
У руках з арэхавым кійком.

У арэхавым якраз і сіла —
Толечкі махне або кіўне,
І глядзіш, ужо заваражыла —
Ўсё навокал у глыбокім сне.

Кагадзе асінкі трапяталі,
Перашэптваўся дубок з дубком —
У імгненне вока перасталі,
Ні адным не варухнуць лістком.

Добры доктар, той, што дрэвы лечыць,
Дзюбаю крануў спрасоння сук,
Разгубіўся, галаву схаваў у плечы.
Гэта быў апошні ў лесе гук.

Змоўкла поле, сціхлі ўсе дарогі,
Сцежкі, норы, гнёзды і бярлогі.
Ля крыніцы на адной назе спіць журавель,
Толькі буйным планам на экране
Ад бяссонніцы ажно да рання
Уздыхаў, варочаўся самотны чмель...

Запісалі мы на плёнку цішыню.
Папярэджваем сяброў, знаёмых і радню:
Будзьце дома на сыходзе дня —
Завітае на гасціну,
Роўна на адну гадзіну
Зойдзе да вас цётка Цішыня!

*1977*

## ГОД КАНЯ

Павялося так здавён,
Што імёнамі завём:
То Дракон, то Скарпіён —
Паслужы, браток, Канём.

Нібы ліст перад травой,
Стань, дружок, перада мной,

Мой таварыш вараны,
Казкаю падораны.

Ты палёгкі не прасіў
На сяўбе і на касьбе.
Сёння аж у трыста сіл
Капытом нашчадак б'е.

Не стае адной жывой
Добрае твае душы.
Но, мой косю, родны мой,
Баразну падварушы.

Ты якраз у самы раз,
Калі мой стаміўся плуг
І задзірванеў папас,
Забуяў лазою луг

І дзядоўнікам зарос
Недагледжаны надзел.
Ледзь паскрыпвае ўжо воз
Планаў, замыслаў, надзей.

Вобмаль дзённага святла
І спакою па начах
Пад сузор'ямі Арла,
Пад крыламі Крумкача,

Хоць на варце Гончы Пёс,
Нават цэлая гайня…
Дзякую, мой добры лёс,
Што падараваў Каня.

*1978*

## ЗІМОВЫЯ ЖУРАЎЛІ

Снягі і снягі, недасяжныя воку,
Стрыміць на марозе старая вярба,
І раптам, як з выраю, голас далёкі —
Запела сярэбраная труба.

Сумёты ў калена, што ўжо не адужаць.
Дапраўды, не воін у полі адзін.

Віруе завея і понізу кружыць,
А глянуў у неба — і вось ён, мой клін,

Крыламі вяслуе над галавою,
Плыве, не кранаючыся зямлі.
О, як я вам рады такою парою,
Неспадзяваныя жураўлі!

Зімовае сонца ў дзіцячай далоньцы
Гатова схавацца, а вы і ў бядзе
Грудзьмі прабіваеце шлях свой бясконцы
З даверам, з надзеяй да нас, да людзей.

А людзі… Я слова не выкіну з песні —
Сам крыўджу любімых, нялюбых цярплю.
Як часта, напэўна, бывае балесна
І цяжка ў палёце майму жураўлю.

Лягчэй на зямлі, хоць няшчадна і груба
Сячэ ў вочы сівер, з ног валіць мяцель,
Здарожыўся, змогся, а верыш — затрубіць,
Затрубіць над галавой журавель!

*1978*

## ЧОРТАВА ВОКА

Колькі там яго было,
Заімшэлага балотца,
А дрыжала ўсё сяло,
Каб, крый бог, не напароцца

На самога, на таго,
У каго і хвост, і рогі.
А калі ўжо стрэў яго —
Стань, замры сярод дарогі.

Што трымаеш у руках,
Развярніся з усёй сілы
І шпурні на ўвесь размах
Кія, граблі, нават вілы.

Толькі пылам завірыць
І рассыплецца лазаты.

Будзе погалас хадзіць
Скрозь ад хаты і да хаты:

Хтосьці чуў і смех, і плач,
Ды не згледзеў у віхуры,
Што прамчалася наўскач —
Ці вяселле, ці хаўтуры.

Так прыкінь і так разваж:
Гэта ж навалач здалёку,
Болей небяспечны наш,
Што заўжды навідавоку

Каля двух старых млыноў
На абочыне гасцінца,
Дзе між сівых палыноў
Выбіваецца крыніца,

Ў сон сярпа і ў звон касы
Ён палошчацца шторання
І ў свіныя галасы,
І ў каровіна рыканне.

Вось прачнуліся млыны,
Заскрыпелі, задрыжалі.
Сонцу моляцца яны,
Хрысцяцца на ўсход крыжамі.

Цэдзяць жыта латакі,
Ходзяць кругам жорны жвава,
Але з белае мукі
Хлеб наш чорны і гаркавы.

Гад балотны, гэта ты
Нам падмешваеш у збожжа
Чарнаты і гаркаты,
Помсціш скрозь, дзе толькі можаш,

За дружкоў і сваякоў,
Перанятых на гасцінцы,
Што ўхапілі грымакоў
І па карку, і па спінцы.

Сам я заўважаў не раз,
Як употай з азяроду

Ты, малых, высочваў нас,
Падбухторваў лезці ў шкоду —

То ў чужы гарод, то ў сад,
То па шчаўе ў балацiну.
Бачыш, топімся — і рад,
Дзьмеш у дудку-чарацiну…

Чую, дзьмеш ты і цяпер
І, бывае, падбiваеш
Брацъ гатоўкай напавер.
Не бяру — сам добра знаеш.

Як салодак даўнi хмель
У спакусе і падмане,
Ледзь павер — і з канапель
Не Пiлiп, а ён, Шайтане,

Ўжо гатоў з цябе садраць
Пры народзе нагавiцы,
Да драбнiцы перабраць
Ўсе грахi і таямнiцы

І табе ж наноў прадаць,
На тым часе старгавацца,
На людскiх вачах абняць
І абвесцi вакол пальца,

Па двары і пры двары
Зноў гатоў пусцiць пагудку,
Што мы — лепшыя сябры
І дудзiм у адну дудку.

Чорт з табой, — махнеш рукой, —
Дзе не прападала наша.
Кажуць, голаму разбой —
Не такi ўжо ён і страшан.

Ветракi, як жабракi,
Адышлi ў нябыт далёка.
Прагна сочыць з асакi
Толькi чортавае вока.

Часам некаму мiргне,
Усмiхнецца хiтравата.

На старым балотным дне
Ён яшчэ жыве, пракляты!

*1983*

## ЧЫТАЮЧЫ «СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ»

Знак яднання і пароль
Пераходу з аднае душы ў другую,
З маладое — у старую,
З поля славы — у бясслаўя боль.

Ты — адзіны запаветны ключ
Нашае спрадвечнай таямніцы,
Не з мячом ішло праз навальніцы,
А бліжэй да сэрца — леваруч.

Знемагалася, а ўсё ж ішло
Ад стагоддзя да стагоддзя
І не менш пакут перамагло,
Чымся Ігар у сваім паходзе.

Не прыдбаўшы дзідай хfamaлужнай
Гонару, а горкі сум няволі,
Не вярнуўся б у вякі ніколі,
Каб не слова песні мужнай.

Пакаленні зменяць пакаленні,
Па чарзе адыдуць у бязмеж.
Столькі кінуўшы ў зямлю насення,
Славу ты мяча перажывеш.

На знявечаным пакутным полі
Зарастуць яры і раны буй-травою,
Назаўжды забудзецца улада зброі,
Перамога слова — аніколі!

*1984*

## ЧЫРВОНАЯ КНІГА

Не занясеш ужо ў гэтую кнігу
Ні Чырвонае ўрочышча, ні Нямігу,
Ні дзядзінца, ні замчышча, ні падвор’я, —
Ты даруй нам, пакутніца наша, гісторыя.

Ты даруй і ўпішы нашы грэшныя душы —
І бязвінных авечак, і ўсіх вінаватых,
Хто заўзята пустошыў, і нішчыў, і рушыў,
Нават слыхам не чуўшы пра Герастрата.

*1986*

## ВЯНОК

Мова дадзена — не маўчаць.
Мова дадзена — мовіць.
Не кладзіце нябыту пячаць
На паэтаву споведзь.
Не на глум, не на злом,
Не для немачы ў горле,
Ён радзіўся арлом
З крыллем орлім.
А дзе тыя арлы
У нас, на Белае Русі? —
Запытаеце вы.
Адказаць сам ён мусіў,
Як глытаў з крымскіх гор
Горкі пах палыновы,
Бачыў родны прастор
І вянок свой цярновы.

*1987*

## ДЗЯРЖСТРАХ

Адзіны ты, хто раўнапраўны
перад дзяржавай — страх дзяржаўны.
О, каб ты ўжо навекі спрах,
маіх дзяцей і ўнукаў страх,
і тых, што прыйдуць ім на змену
аж да дзясятага калена!

Дзяды, бацькі і сам рабом
перад табою біў ілбом,
пакорны і бездапаможны,
хоць ваяўнічы быў бязбожнік.
О, колькі нас перадрыжала
перад табою, страх дзяржаўны!

Удзень пад шыльдаю «Дзяржстрах»
ты заклікаў застрахавацца,
даваў гарантыю жыцця,
а па начах, а па начах
няўмольны дэман самаўладства
шпурляў у прорву небыцця.

Удзень грымелі маршы, гімны,
што наш суправаджалі век:
«Я другой не ведаю краіны,
дзе жыве так вольна чалавек»,
а ноччу, як струна, душа дрыжыць:
«Дай, Божа, мне да раніцы дажыць».

Няўжо ж ты спадчынны, адвечны ў нашых генах
ад першага і да апошняга калена,
непераможны, самаўпраўны,
усёмагутны страх дзяржаўны?
А можа, з новым днём усё ж надыдзе крах,
ганебны твой канец, дзяржстрах?

*1988*

## НАД ІСЛАЧЧУ Ў СОСНАХ

Над Ісляччу ў соснах зязюля накувала
так шчодра і молада — болей за сто.
Ну што ж, калі нават пажартавала,
не палічу абяцанкай пустой.

Рад пухам апасці і растварыцца,
успыхнуць ліхтарыкам дзьмухаўца,
каб з гэтай крынічнаю рэчкаю зліцца
і плысці між соснамі да канца.

*1989*

## ПАКАЯННАЯ МАЛІТВА МАЦІ

Адвеку мы спалі…
*З «Марсельезы»,*
*якая не стала гімнам*

Хіба безыменная я паміж свету,
Не чула, не бачыла, хто там ідзе?
Выгукну сыну, прароку, паэту:
— Я — Белая Русь у людской грамадзе!

Я доўга стаяла на раздарожжы,
Дзяцей выглядаючы з-пад рукі.
Даруй мне ўсе нашы грахі, Святы Божа,
І сонцам ізноў узыдзі на вякі.

Перад табой я — адвечная маці,
За ўсіх вінаватых цярплю і малю,
За род і народ, які гонар свой страціў,
Знявечыў і абняславіў зямлю.

Віна ўсіх, каго я пад сэрцам насіла,
Душу мне ірве і цяжарам гняце,
Калі твая боская воля і сіла
Карае маіх, сном заклятых, дзяцей.

Я сэрца сваё на кавалкі б пасекла,
Да кропелькі кроў бы за ўсіх аддала,

Чым бачыць, як пры жыцці яны ў пекле
Гараць і згараюць да самага тла.

Ці на зямлі, дзе жылі мы, што будзе,
Ці застанецца хоць успамін,
Калі ўжо не белай, а чорнаю людзі
Зваць яе будуць зямлёю Палын?

Душу неўміручую некуды дзець мне,
Дай месца ёй, грэшнай, дзе і яны.
Госпадзі, забяры разам з дзецьмі,
Няхай жа хоць сняцца нам родныя сны.

***27.10.1992***

## САСНОВЫ САБОР

*Сяргею Грахоўскаму*

— На пераклічку! — гучыць ізноў,
Як «на малітву шапкі далоў!» —
Загад па канвойнай камандзе.

Пералічыўся і строем пайшоў
Служыць самаўладнай бандзе.

Пералічыўся?
Пералічыўся.
А памаліўся?
Не памаліўся.

Далёка-далёк мой сасновы сабор.
Хоць бы паспець да світальных зор
Пабачыць яшчэ не забыты бор,

Як маладзік да вяршэчка сасны
Крануўся сярэбраным рогам,
Паслухаць, як моляцца Богу яны,
Як сосны гавораць з Богам!

Перагукнуліся тапары,
Звонам азваліся пілы.
Зноў судны дзень мой пачаўся ў бары.
Госпадзі, дай мне сілы!

Сыходзяць слязамі ўчарашнія пні.
Канчаю малітву
У цішыні
Зноў перад ёю,
Святою,
Як перад роднай
Сястрою.

Даруй мне, даруй,
Калі можаш, сястра,
Ды сам я сабе не дарую.
Здаецца, даўно і забыцца пара,
Як молішся ты,
Я пілую.

Пілую,
Пілую
Жывую,
Яшчэ ўсё
Жывую,
Жывую.

*15.12.1992*

## РУЖА

*А. С.*

Як сарву я ружу-кветку
Дый пушчу на рэкі.
Плыві, плыві, мая ружа,
Не з вараг у грэкі,

А са Свіслачы на Іслач,
Дзе па-над вадою
Вербы ніцыя навіслі
І гавораць з ёю,

Не з вадою,
А з адною
Дарагой душою,

З той, з якой
Мая зраслася,
Як вярба
З вярбою.

Век сыходзіць,
І па часе,
Па вірах,
Паўз кручы

Плыве ружа,
Выплывае,
Іслач, Свіслач
Прамінае

І, напэўна, нас чакае
Недзе ўжо на Случы.

*1992*

## MORIAR STANDO*

Сам сабе вызначаю
Строгі свой мемарандум:
Без пакут, без адчаю
Moriar stando.

Калі Маці Прачыстая
Да пазваных далучыць,
Толькі б з годнасцю выстаяць,
Родных, блізкіх не мучыць.

Хто апошні, хто крайні? —
Яе не пытайма
І чаргі не займайма,
Даверымся тайне,

Што на свеце адзіная
І якой падуладны
Дзень з тваёю гадзінаю —
Moriar stando.

---

* Moriar stando — памру стоячы (*лац.*).

Бо душа разам з целам
У адной абалонцы
Не даляцела б
Ніколі да сонца.

Як зарок дапаможа,
Я і ўпаўшы, устаў бы,
Уздыхні вольна, ложак,
Moriar stando.

*7.06.1993*

## ПАЭЗІЯ

*Аляксею Русецкаму*

Па праву вечнасці — для маладых,
Нам, старым жа — на адзін уздых,
Каб толькі вымавіць: «Даруйце!»
І ўнукам пажадаць: «Шчыруйце!»

На полі слова новыя ўжо ратнікі,
Яе абраннікі, майстры, тварцы.
Мы радыя б пайсці ў чаляднікі,
Ды ў нас яе няма ўжо, мы — ўдаўцы.

*11.06.1993*

## ПА ГАРОХАЎЮ, ПА ЯЧАННЮ

Змалку чары роднай мовы
І яе першаасновы…
Запяю — і чагось плачу я
Па гарохаўю, па ячанню.

Як сігнальны знак фатальны
Неразгаданае тайны,
Забываў патроху я
Ячання, гарохаўя,

Бо па тэлебачанні
Яны ўжо не трапяцца,

Гарохаўе, ячанне
Назаўсёды страцяцца,

І хоць стратай мучылі,
Душы не абязгучылі,
Нечым ім удзячны я —
Гарохаўю, ячанню.

Колісь песня пелася,
Скласці верш хацелася.
Склаўся, як умелася —
Не з'яднаўся ў меласе.

Мабыць, марна трачу я
Намаганні надвая:
Я — ў пачатку ячання,
Я — ў канца гарохаўя.

Хто ж я сам у такім разе —
Дбайны сейбіт, а ці блазен,
Што пяю і плачу я
Па гарохаўю, па ячанню?

*24.06.1993*

## КАЗАЧНІК РЭДКІ[1]

Таму, напэўна, рэдкі,
Што на слова меткі,
Хоць без імя, без бацькі,
А казачнік ён хвацкі.

Зацяўся, сам сабе наўме,
Каб аніхто не ўведаў,
І нават той, хто ў нас Кузьме
Заўсёды родны Хведар.

Навошта прызнавацца,
Лепш між людзей схавацца.
А як прызнаюць людзі,
Так яно і будзе.

Схаваўся аж на сотню год
І вабіць моваю народ,

Характарам такоўскі
Случанін Сержпутоўскі.

Палессе ўпадабаўшы,
Аблюбаваўшы Рожын,
Нямала казак склаўшы
Дасціпных і прыгожых.

А ўсе складаў іх нападрост,
Дый сёння водзіць нас за нос:
Хто аўтар і дзе сведкі?
А той, каторы — Рэдкі.

*15.02.1994*

## РАЙ

Нашы дабрадзеі,
Вы ўжо ў раі,
Зладзеі.

Нас абабраўшы
Да сподняй сарочкі,
Падаліся
Хто куды віда,
Упрочкі.

Хто на Гаваі,
Хто на Канары
І ні адзін
На казённыя нары.

Не сышоўся свет клінам
На партбілеце.
Даражэй не Радзіма,
А што ў сакрэце

Ў Швейцарскім,
У Лонданскім банку
Для ненажэрнага чэрава
Ўтхланку.

Для асалоды —
Раскоша рэкламы,

Як цешацца цешчы,
Таты і мамы.

Ды мушу прызнацца,
Вы самі — няўзнакі.
Чамусьці сняцца
Вашы сабакі.

*22.02.1994*

* * *

Тубылец удзень, уначы першабытнік,
Чуйным слыхам лаўлю: белакапытнік.
Хто гэта — конь, расліна ці грыб?
І вы мне ўначы памагчы не змаглі б.

Сам, на цямочку ўспароўшыся ледзьве,
Шукаю адказу у энцыклапедыі.
Ёсць яна, ёсць — красуецца ўлетку.
Так самі коні назвалі кветку.

Бо не адны мы, друг мой харошы,
Між нас падзялілі расліны і траўе.
У зайца — капуста, ў мышэй ёсць гарошак,
Акрамя капыта, у каня ёсць і шчаўе.

*4.03.1994*

## РЭЖЫМ

Твой верх, твой паверх,
Рэжым мой пасцельны:
Цела ў пасцелі,
Душа ў пустэльні.

Зняможаная,
Вандруе ў бязмежжы,
Дый сам я ўжо
Ненадзейны лежань.

Язык прысыхае
Да паднябення,
Слова не вымавіць
У зняменні,

Крэмзай, аловак,
У захапленні,
Што і тваё
Неўзабаве збавенне

Ад марнатраўства,
Ад самазванства
І ад старэчага
Графаманства.

*Ліпень 1994 г., бальніца*

## У ПАЛЮДДЗІ

*Яраславу Пархуту*

Дабратворцам і ўмельцам,
З клопатам аб Айчыне
Ён ідзе па зямельцы
З рукзачком за плячыма.

Дзе на чоўне з вясельцам
Нацянькі па рацэ,
А дзе посуху з посахам,
Дзе з кійком у руцэ.

У абход, як звычайна,
Мусіць даць кругаля:
— Добры дзень, крывічане,
Крывічова зямля!

Аж ад возера Доўгага
Да няблізкае Вызны
Сам нялёгкай дарогаю
Я ўсе сцежачкі вызнаў.

Што вандроўніку трэба
У мяшэчку заплечным?

Ночы зорнае неба,
Дня касмічная вечнасць,

Галасы ўсе птушыныя,
Як хто грае, пілікае,
Водар цвету шыпшыннага,
Смак крыніцы з Палыкавіч.

Злая набрыдзь душыла
Лесуна — ратаваў да канца
Бастыёны бастынца Бушылы,
Адзінца з-пад Лунінца[1].

Не ўсе выхаджаны дарожкі,
Вабіць новы рубеж,
Не пускае з бальнічнага ложка
Ўжо каторы рубец.

Сэрца кволага лісцік
І стрыміць, і дрыжыць:
— Не спяшайся, няўрымсцік,
Ператруджанае паберажы.

На палюддзі сілы прыбудзе,
Баравога паветра ўдыхну.
Добры дзень, дарагія людзі,
Рады з вамі сустрэць вясну.

Паміж Косавам і Уздою
Пакірую далей і далей,
Пеўчы дрозд, між драздамі — Драздовіч,
Між салоўкамі — салавей.

***Жнівень 1994 г., бальніца***

## НА МОЦАРТАВЫМ КАНЦЭРЦЕ

*Гідону Крэмеру*[1]

На пераможным моцартавым канцэрце
Самі смычкі бушавалі, як чэрці,
Ды кожны ведаў — свабода ў прасторы
Толькі ў адзінай супольнай пакоры,

Дзе і каму пачынаць, дзе канчацца,
Зацята трымацца паўзы ў кандэнцыі,
У апафеозе ўсім аб’яднацца
І ў перамозе памерці.

*10.10.1994*

## БЯГОНІІ

Па-рознаму і кветкі паміраюць,
І кожная па-свойму гіне:
Па першым замаразку астры дагараюць,
Трываюць да апошняе вяргіні.

Даўно адчуўшы перамены,
Цнатлівыя пагаслі цыкламены.
Адны, не трацячы надзеі,
Звысоку пасміхаюцца касмеі:

«Яшчэ далёка да зімы,
Паспеем выспеліць насенне мы».
І толькі познія бягоніі
Каторы дзень палаюць у агоніі.
Бягоніі у агоніі і сёння.

*19.10.1994*

* * *

Не знаю, не знаю,
З чым нас Бог паяднае —
З пеклам ці раем,
Засталася б памяць трывушчая.

Цераз тысячу год адвечнаю песняй
Уваскрэс на іўрыце Ізраіль,
Калі ж Беларусь уваскрэсне
На беларушчыне?

Толькі б новыя маці не нараджалі
Болей ні жоглаў, ні дзяржымордаў,

А сыноў і дачок дзеля дзяржавы,
Роўнай і годнай паміж народаў.

*7.09.1994*

## НА ДЗЯДЫ

Вінюся перад вамі, дзеці,
Што лішняе жыву на свеце,
Сваю перабіраю меру
Не па наўмыснаму намеру.
Сам у трывозе я і ў скрусе,
Даруйце, каюся, вінюся.

*2.11.1994*

* * *

Перадзімнія дні ўсё карочай, карочай
І даўжэй, і цяжэй сатанінскія ночы,
Нават вока не звёў і сягоння.
Што ты робіш са мною, бяссонне?

Хоць прымгнуць бы мне на імгненне,
Паратунак мой і забвенне
Дзеля сэрца, якое на грані ўжо б'ецца,
Не ўтрымае — і абарвецца,
Уратуй,
Уратуй мяне, сон,
Сон-
Скон.

*15.12.1994*

## ВОЧЫ МАЛЕНСТВА

*Т. С. Т.*

Памру адзін-адзіны раз,
Але за свой пражыты час
Я нараджаўся неаднойчы,
Наноў расплюшчваючы вочы

Свае з вачмі дзяцей і ўнукаў,
І праўнукаў на свет і на Айчыну.
І цешачыся мудраю навукай,
Што спасцігаецца і сэрцам, і вачыма.

А потым з кожным пакаленнем
І новых вучняў, новых чытачоў
Так блізка-блізка і на аддаленні,
Але ізноў наноў, наноў.

О, колькі ўцехі вы давалі,
Якому шчасцю быў я рад.
Бог дасць, і з невядомай далі,
Быць можа, выблісне мне ваш пагляд.

***27.12.1994, бальніца***

## СВЕТЛЫ АНЁЛ МОЙ

*Л. К.*

Светлы анёл мой, пасланы з нябёсаў,
А я на чарзе — у зямлю,
Мне перад Богам і перад лёсам
Грэшна і вымавіць: «Я Вас люблю».

***7.02.1995***

* * *

Штодня пішу, а думка точыць:
Чарговы запіс, а не верш,
Старэчыя не бачаць вочы,
Што і раней пісаў не лепш.

Стрыміць радок на позняй пожні,
Мой каласок, на жаль, парожні.
Век дажываю, пусты надзіва —
Ні жмені зерня, ні жмені жніва.

*8.03.1995*

## PIZZICATO[1]

*С. П. Асновічу*[2]

Сімфонія сціхла, як цунамі ў акіяне,
А хвалі памяці яшчэ ўсё з намі, з намі.
Вяртаюцца начамі снамі
Аб перажытых радасцях і горы,
Балючых струнаў дотык рук,
Як на слыху апошні гук
Перасцярогаю: «Memento mori!»[3]

Ужо зняможаны дашчэнту
Увесь паднебны акіян,
Адзін за вышыню крэшчэнда
Трымаецца трывожны барабан.

Але кранулі хваль раскаты
Узвалы стромых берагоў —
Ажыў Чайкоўскі ў пічыката,
І пачалося ўсё наноў.

Для скрыпкі пічыката — свята.
Жыве, пакуль бяруць у рукі
Яе сыны ў сваіх бацькоў,
А ў дзеда — ўнукі.

*10.03.1995*

## З РАДКОМ НА ШЫІ

*Памяці Яўхіма Кохана*
*і Міколы Лобана*

Былое парасло быллём,
Хаця ніхто з нас сібарытам,
Інакш сказаўшы — гультаём,
Не быў і ў побыце, нібыта
На гэтым свеце бабылём.

І да таго ж не глух і нем
Не быў да вершаў і паэм
У мінскіх «Полымі» і «Ўзвышшы»,
Мы адначасна разам выйшлі
Утрох са слуцкай стараны,
Але з бабруйскае «Вясны»[1].

Утрох пад знакам ідэалу,
Але, як правіла, правінцыялу
Радок ой цяжка як даваўся,
Мой хоць і ў кузні гартаваўся —
Не раз кідаў і заракаўся.

Ды ўжо на шыі, як з пятлёю,
Адным завязаны вузлом,
Мы выйшлі са сваёй вясною
На выпрабоўку і на злом
У век, заліты ўвесь крывёю.

З-пад вісельні з радком на шыі
Не кожны дасягаў вяршыні.
Каторую вясну без вас
Я выпаўзаю на папас,
Заглядваючы на той бок жыцця.

Хоць і жыву, жую траву,
Дажоўваю травінку забыцця,
Спадзеючыся — разам дажуём,
Калі былое не зарасце быллём.

*19.03.1995*

## ЯШЧЭ ПРА БЯССОННІЦУ

Дарэмна да апошніх дзён змагацца
З адзінай ёй, хто дапаможа разабрацца,
Як век пражыў,
Як многа награшыў.

Не ў тым уцеха, што камусьці спіцца,
Не бачыцца наяве і не сніцца.
Адна бяссонніца якраз уночы
Нам зразумець дае, чаго ніхто не хоча,

Апроч, як з ёй дадумаць да канца
Толькі з адзінаю бяссонніцай,
Сяброўкай, супрацоўніцай і палюбоўніцай,
Апошняй жонкай без вянца.

***20.03.1995***

## ЛЮСТЭРКА

Незабыўная маці мая,
Ў рэдкіх снах толькі госця
І якраз жа такая, як я,
Мы ў адным ужо ўзросце.

І па часе так склалася,
Што адна ў нас і мерка.
Мама, як ты жахалася
Зазірнуць у люстэрка.

Няхай лёс наш і розны,
Аднаго мы аблічча.
Час нарэзаў баразнаў,
Разам і не палічым.

У пачварных разорах
Твайго большага сына
Столькі ж болю, і гора,
І цяжкіх успамінаў.

У люстэрку вачэй
Удваіх нам з табою

Уздыхнецца лягчэй
І душою адною.

*29.03.1995*

## СОНЕЙКА НА ЛАПАЦЕ

*Сёстрам Тасі і Тоні*

Скрозь па вёсцы, па дварах
Сцелецца духмяны пах.
Бачу і дасюль яшчэ,
Як матуля хлеб пячэ.

Першы пробны апраснак
Нам, малечы, на паспыт.
Праглынуў гарачы ўсмак
І да полудзеня сыт.

Быў ён, жытны, пажытны,
Быў нам ячны смачны,
А пшанічнаму жадны —
Быў пшанічны ў хаце,
Як сонейка на лапаце.

*19.04.1995*

## ПЕРАД ВЯЛІКАДНЕМ

Яшчэ на дрэвах аніводнага лістка.
Усе ў пялёнках спяць, а між галля
Знак вестуна — малога павучка:
Трымціць струна, ледзь бачная здаля,

Але ў цішы звініць ужо ўвушшу,
Як здаўна выверaная навіна:
Звініць струна — прыйшла вясна,
Паслухайце сваю ўваскрэслую душу!

*21.04.1995*

## ЗЯЛЁНЫ САЛЮТ

Дзень, вясною наканаваны,
Калі салютуюць небу каштаны,
Вечарам запаліўшы свечы
На сваім урачыстым вечы,

Але ні гуку, ні знаку аб вечным,
А пэўна ж, за нас і маўчаць,
Ноччу думаючы аб нечым,
Таксама аб чалавечым…

*9.05.1995*

## АПРАМЕТНАЯ ЭЛЕГІЯ

Годзе цешыць сябе, браце, годзе ўжо,
Што на зямлі і твой след не прапаў.
Ты ж па сабе не пакінуў калодзежа,
Каб помнілі людзі, хто выкапаў.

Згадай хоць адну падрубу пад хату,
Не кажучы пра падмурак і зруб.
Якім твая памяць запасам багата,
Ці вырас табою пасаджаны дуб?

Родныя, што былі твайму часу акрасай,
Грудок, і аселіца, і прыбалотны куток.
І не салоўкі, а ўдоды, кнігаўкі і бакасы
На слых вывяралі твой нязграбны радок.

Бярэзінкі, што садзіў ты з дзядзькам Усцімам
Ад грэблі да грэблі па раўчуку,
Адны і засталіся тваім успамінам
З маленства па старасць табе, хлапчуку.

Бярэзінак тых не зрадніць і не зблізіць
З шыпшынай ля хацішча на двары.
Сучаснасць мінуўшчыну так ненавідзіць —
Перавярнула ўсё дном дагары.

Крынічка адзіная обак гасцінца —
Прадвечнасці жы́ла, покуль жыла

І памяць жывіла, даўно не бруіцца —
Помнік нямы нямога сяла.

Даўно мы на дне апраметнага кратэра,
Вочы слепяць пясок салігорскі і пыл.
Меліяратары, з вашае ласкі мы ў д’ябла за кратамі,
Ні той і ні гэты свет нам не міл.

Даруй, дарагая, пакутная памяць,
Перад табою грашу, рвучы на кавалкі душу.
Наўрад каго ў пекле ці ўзварушу,
Дзе галава ўжо нічога не цяміць.

*17.07.1995*

## НА ПАЭТАВЫМ ХАЦІШЧЫ

Яны тут усім сваякі,
Жаданыя госці музея,
Штолетнія самасеі —
Самотныя васількі,

Тыя, што ў апошні шлях,
Сабраныя раніцай золкай,
Беларускаю перапёлкай
Пакладзеныя ў галавах.

І як жа нам горка пачуўся,
Запісаны ў вечны пергамент,
Апошні паэтаў тастамент:
Сняцца мне сны аб Беларусі.

Сняцца яму і дагэтуль сны,
Хоць навакола бронзавага
Столькі раскошы living рознае
Самай высокай цаны:

Ружы, гартэнзіі, лілеі,
Цыніі, гліцыніі, цюльпаны.
— Якія да нашай кампаніі
Прэтэнзіі ў вас, самасеі?

— Ніякіх, мы — хадакі,
Шукальнікі долі лепшае,

Мясцовыя мы, тутэйшыя,
Паэтавы землякі.

*1.08.1995*

## ГАРАЧЫЯ ЖНІВЕНЬСКІЯ ДЗЯНЬКІ

Восені ўжо не цярпелася,
Памкнулася на парог — і сумелася:
Гарачыня. Траха не самлела ўся —
Загрудкі жнівень схапіўся з вераснем.

Не саступае сваю палавіну.
Раз’ятрыліся — уявіць немагчыма:
Верасень жніўню дзярэ чупрыну.
За што? А за красуню-рабіну.

Тая ў самай сваёй пары,
Усе на віду чары-дары,
Гарэзліва зазірае ў двары,
Што хоць сягоння замуж бяры.

Лета зыход заўсёды такі.
У рэках жыруюць яшчэ шчупакі,
І раскашуюць у полі шпакі, —
Гарачыя жнівеньскія дзянькі.

*21.08.1995*

## СЕЙБІТАМ СЛУЧЧЫНЫ

Чорны Кузьма, Ян Скрыган, Васілевіч,
Дарагія мае сябры і дарадцы,
Даруйце, што ў такой вось градацыі,
Мужык з былых прыбалотных Еўліч,

Я вашы імёны пералічу,
Далучу Рыгора Мурашку і Лобана,
Случчына — наша ўзвышша лобнае,
Жалобнае, як свечка ўваччу.

А колькі паэтаў было ў нас — без ліку!
Калі б толькі змог я, калі б усіх склікаў,

Не вызначаючы, хто меншы, хто большы
І хто старэйшы, а хто серадольшы,

Якая б гэта капэла была,
О, як заспявала б яна, загула,
Каб не адсек
Галасоў ГУЛАГ.

Хто адгарэў, запалаў ярчэй,
Не дагарэў — пакутліва тлее.
Толькі б не пакідала, грэла надзея
Наступнікаў нашых, хто за намі яшчэ.

Як яна грэла нас, наша надзея
На радасць, на шчасце жыць на зямлі,
На ўзвышшы слова, дзе годна маглі
Сеяць сваё так, як кожны ўмее.

Калі што ўзышло, то, дасць Бог, застанецца
Як з папярэднікаў добрай рукі.
Случане, зямляне, мы ўсе — землякі,
Хто саграваў сваё слова сэрцам.

Айчына любові, смутку і смуты,
Продкаў самаахвярная плаха,
Ты і алтар, і крыж нашай пакуты,
Галгофа і Гараваха.

*5.10.1995*

## МІНСКІЯ КАЧКІ

На Свіслачы качкі
Жывуць, як жабрачкі,
Забыўшыся пра вырай,
Вырай ім абыраў.

І што ён ёсць на свеце,
Не ведаюць іх дзеці.
Хто вырас на памыйцы —
На неба не падымецца.

*15.10.1995*

## ЛІСТАПАД

*Алене Васілевіч*

Колькі ўжо доле асенняга золата,
Які мне пад ногі пасланы раскошны кілім!
Дрэвы мае, не ўладаром і не волатам,
Паслушнікам чорным гатоў я служыць вам усім.

Шапку здыму і ў цішы пастаю
Разам на службе ўрачыстай,
Да вашай малітвы далучыўшы сваю
Перад прычасцем прачыстым.

Счарнелі і вы ўжо да самых галоў
На гэтай жалобе па ўсім, што было,
Што ў траўні так незабыўна цвіло,
А ў жніўні водарным дзівам лягло

На бедны мой стол, дзе пішу гэты верш
І свой папяровы ліст варушу,
Успамінаючы ўсіх вас найперш,
Ваш кожны лісток, што шуміць увушшу.

А зімку ж вам выстаяць зноў на камлі,
На каранях, дзе цяплей і не цесна.
Без каранёў, хоць і схаваны ў зямлі,
Ніхто яшчэ не ажыў увесну.

*21.10.1995*

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ
*Паэма*

Вол бушуе, вясну чуе…
Памянём вала.
Валу — хвала,
Самому яму,
Яго ярму,
Рагачу і нарогу,
Сяўні і сасе,
Сярпу і касе,
І Ярылу-богу.

Кожны Ярылу
Дабром памяне
На свяце штогоднім:
Мужыцкі бог па ярыне
Ідзе ўвесь у белым споднім,
У повадзе за сабою вядзе
Белую кабылу —
Слава Ярылу!

Разам з вясною
Свежаю баразною
У суш і ў дождж
Ідзе басанож,
Падкасаўшы штаны,
Кашуля — наросхліст…

І так ад вясны да вясны,
Але не спявайце ратаю
Гімнаў узнёслых.
У самога Ярылы
За плячыма магутныя крылы,
А пад нагамі — родная глеба,
Бог сонца не хоча на неба.

Заўсёды Ярылу
Зямля жывіла.
Як добра хадзіць па ёй босым,
Па цёплай раллі,
Па зябліве росным
Толькі з сяўнёю,
Ніколі — з вайною!

Вясну гукайце,
Каго ні спаткаеце —
Старога, малога,
Нават нямога!

Жывымі застаўшыся,
Магікане,
За рукі ўзяўшыся,
Вясну гукайма!

Ні далеч, ні роспач,
Ні расставанне —
Вясны гуканне,
Як братаванне,
А вунь у Брытаніі —
І сестраванне.
Жанкам Грынэм-Комана
Не абырае,
Як і на Нёмане,
Гукаць выраі:

— Жавароначкі,
Прыляціце,
Цёпла лецейка
Прынясіце!

Прыляцелі
З Новага свету
Першымі
Не жаваранкі,
А крылатыя ракеты
І «першынгі».

Недаверу вярыгі —
Кааліцыі,
Рэлігіі,

Праваслаўныя,
Мусульмане,
Іудзеі,
Ніхто не ўбачыць апошняй дзеі
У апошняй драме
Пра забойцу планеты —
Апошняга Каіна:
Некаму будзе
З руін і развалін
Вынесці ўсіх
Уперад нагамі.

Шчаслівыя
І ў горы няўцешныя,
Не спадзявайцеся
Злом заплаціць за дабро.
Зло раскалола такое ядро,
Што ўсіх надзяліла аднолькава —
І праведнікаў, і грэшнікаў.

Ніхто не ўратуецца
У ціхім куточку:
Мая крэпасць —
Мая кватэра.
Не забывай,
Што сядзіш на бочцы,
У якой пятнаццаць тон
Выбуховай матэрыі.

Чаму так дакладна выйшла,
Што кожнаму — роўную дыбу,
Хто так зраўняў нас,
Які ўсявышні —
Вы, бог,
Ці — выбух?
Хто шчодра ўсім нам
Адмераў так?
Ну, вядома ж, — багатая
Пані Амерыка.

Вось дзе ўзор
Выключнай гатоўнасці
Да ўсеагульнай дэмакратыі і роўнасці!

Ад паганства да хрысціянства
Колькі перавярнулася
Багоў і царстваў!
Адзіны Ярыла,
Поўны сілы,
Трывала стаіць
На варце ўраджаю,
Нікога не страшыць
І не пужае.

Праз перарытыя лычам вайны,
Поўныя трупаў равы і яры,
Праз карычневую чуму і халеру
З канца ў канец земляроб стары
Удоўж і ўпоперак прайшоў Еўропу,
Збярогшы надзею і веру.
Глядзіць адкрыта людзям у вочы:
Нідзе нікому не быў далакопам!
Спрадвечны клопат Ярылы —
Хлебам карміць,
А не рыць
Магілы.

Вол бушуе,
Вясну чуе.
Памажы, Божа!
А хто паможа,
Хто ўратуе,
Калі ў цябе
Ні вала,
Ні двара,
Ні кала
І ўсё навокала —
Напалмам датла?

Заступнік зямлян,
Усіх пасялян,
Шчыра прымае
Братоў за сталом.
Ратаю — салом!

Ратай Ярыла
Кляне вайну,

Руплівы Ярыла
Арэ цаліну
Не сошкаю,
Не валом,
Нястомнаму сонечку —
Чалом,
Чалом!

Вясны гуканне,
Як спадзяванне
Смуглых і жоўтых,
Чорных і белых,
Дужых і смелых.

У Заіры, у Замбіі,
У Танзаніі,
На Тамані
І Алазані,
У Нікарагуа
І Ліване,
Скрозь і ўсюды —
Вясны гуканне!

Разлягаецца рэхам
Гітара
Ад Фларыды
Да Гібралтара.
Кажуць,
Гэта амерыканскія хлопцы
Не на падводнай атамнай лодцы
Плывуць
Да афрыканскіх дзяўчат у госці,
Гукаюць вёсны
Толькі на вёслах!

Кажуць,
Пачуўшы гукальную песню,
Нават Мёртвае мора
Уваскрэсла.

Вясну гукайце,
Каго ні спаткаеце,
Старога, малога,

Нават нямога —
Нас яшчэ многа!

Вясны гуканне —
Людское яднанне
На тысячы вёсен,
Мільёны лет.
Вясна-красна,
Вясна-красна,
Вясна-красна
На ўвесь свет!

*1986*



# АПАВЯДАННІ

## ПАЛЁТ ЧМЯЛЯ

Прыёмная дырэктара музычнай школы. Стол сакратара-машыністкі. Тэлефон. Гардэробная шафа. Партрэт Рымскага-Корсакава.

Пры сцяне на канапе з валейбольным мячом на каленях сядзіць хлапчук гадоў дванаццаці-трынаццаці. На абліччы яго ўжо можна прачытаць першыя рысы, добра знаёмыя нам па тварах і некаторых дарослых. Шчасце? Не. Хутчэй асалода. Як добра, што я ёсць на свеце. Не таму, што жыццё адкрывае перада мной штодня свае новыя таямніцы і нечаканыя цяжкасці, — не. Я рад, што ўсё ёсць так, як ёсць, што ёсць тыя, каму належыць думаць і клапаціцца пра мяне.

Воддаль, на кволым венскім крэсле — дзяўчынка. У футляры перад сабой яна трымае віяланчэль. Хоць адразу і можа кінуцца ў вочы смешная неадпаведнасць паміж вялікім інструментам і яго маленькай уладальніцай, але гэта не так. У тонкіх руках дзяўчынкі, ва ўсёй яе паставе прыкметная тая ўпэўненасць, якую чалавек змалку пачынае набываць практыкай, вопытам, сваёй дапытлівасцю, калі радасць першых адкрыццяў дае яму і ўсведамленне сілы: я сам! Вялікая віяланчэль, зачыненая ў футляры, для яе малой гаспадыні — паслухмяная істота. Цяпер яна, відаць, спачывае, а можа, і заснула — няхай паспіць, бо тым часам і апроч музыкі ёсць на свеце не менш цікавыя рэчы.

Вось хлапчук… Пэўна, ужо надакучыла яму і падкідаць мяч угору, і біць яго далоняй аб падлогу. Ды стаміўся і сам мяч. Спярша лёгкі і вясёлы, ён падскокваў як на спружынах, а цяпер… Дыхавіца на яго напала, ці што? Хлапчук трасе мяч. Потым прыкладае да вуха, выслухоўвае. Не, тут патрэбны радыкальныя меры. З усяе сілы ён сціскае мяч — той робіць цяжкі і сумны ўздых. Цяпер гэта ўжо не мяч, а пусты капшук.

Ім можна паляскаць па далоні, па канапе, па падлозе і нават па строгім сакратарскім стале…

Не, тут цяжка вытрымаць ролю безуважнага сведкі. Асцярожліва паставіўшы ў кут віяланчэль, дзяўчынка падыходзіць да хлопчыка:

— Трэба надзьмуць яго нанава.

— Я і без цябе ведаю.

— Дай я.

— У цябе духу не хопіць.

— Ты думаеш, я слабая? Вось паглядзіш — як дзьмухну!

— Гы-гы-гы! Яна дзьмухне… На, дзьмухні.

Узяўшы капшук, дзяўчынка з усяе сілы дзьме ў трубку:

— Пфу! Пфу!

— Гэта табе не на бандуры пілікаць, — паказваючы на віяланчэль, зласліва гаворыць хлапчук, — мала кашы ела.

— А ты многа еў. Таму такі і тоўсты.

— Аддавай.

— На.

Пакрыўдзіўшыся, яна садзіцца на сваё месца і стараецца больш не глядзець у той бок.

Хлапчук, счакаўшы хвіліну, пачынае надзімаць мяч. Напінаецца ўся хлапчукова постаць, чырванню наліваюцца круглыя шчокі, лезуць на лоб вочы. Дзяўчынка ледзь стрымлівае свой смех. Але вось худыя, запалыя бакі ўпартае гумы пачынаюць дыхаць, падымацца. І хоць рана яшчэ абвяшчаць перамогу, хлапчук ужо не хавае сваёй упэўненасці. Мяч расце, напінаецца, становіцца цвёрдым і вось-вось зазвініць, як нацятая струна. Цяпер галоўны клопат — не выпусціць і кроплі паветра назад, заціснуць трубку пальцамі так, каб…

— Ах! — закрывае рукамі вочы дзяўчынка. Толькі гэта не ўсклік радаснай помсты. Гэта крык спачування і невыказнага жалю, крык, які пачуўся і сціх адначасна з выдыхам паветра, што здабывалася з такімі пакутамі. Яна ледзьве стрымлівае на вачах слёзы. Яна гатова раздзяліць цяжар няшчасця.

— Давай я цяпер…

— Не.

— Ты стаміўся.

— Я аддам Арцёму, ён — насосам…

— Твой брат?

— Шафёр.

— А як ты завешся?

— Юра.

Ён спрытна ўзлазіць на падаконнік, каб дастаць форткі:

— Арцём! Арцём! Што ты, заснуў там? Надзьмі мяч, чуеш? Насосам. Лаві!

— Ты сюды з татам прыехаў?

— Ого, чаго захацела.

— Добра, у каго тата…

— А ў цябе няма?

— Няма, Юрачка.

— З мамай жывеш?

— І мамы ў мяне няма, Юрачка. Памерла мая мама, Юрачка…

— Гм… Гм… А цябе як зваць?

— Марфа.

— Гы-гы-гы! Марфа. І выдумала ж.

— Не смейся. Гэта дзедка мяне так называе, а ў метрыках я запісана Марынка.

— То няхай твой дзед пазвоніць і скажа, што ты сірата. Без усякага экзамену пройдзеш, у першую чаргу.

— Чаго майму дзедку званіць. Ён тут сам працуе. І дырэктара, і ўсіх педагогаў ведае.

— О, у цябе, значыць, блат!

— Не, наша прозвішча — Хадаркевіч. Блат — гэта прафесар, Сігізмунд Германавіч Блат, якраз па майму класу.

— Ай, і смешная ж ты, не разумееш нічога. Рука ў цябе, значыць, тут. Чаго ж баяцца? Пройдзеш як па масле. А па якому ён класу?

— Хто?

— А дзед твой.

Марфачка нават сумелася ад такой нечаканасці:

— Ён па ўсіх класах… Яго тут усе любяць… Ён тут швейцар.

— Ха-ха-ха! Той, што з барадою? Ха-ха-ха! Не выкруціцца табе ад экзамену.

— Без экзамену я і не хачу. Дзедка кажа, што экзамен не цяжкі. А ён знае музыку. І вельмі любіць слухаць. Віяланчэль мне ад мамы засталася. Я іграю, а ён слухае. А бывае, слухае ды заплача. Не плач, кажу, дзедка…

— Хто ж цябе вучыў?

— Дзедка педагога наймаў…

Аднак сямейная гісторыя Хадаркевічаў не выклікае асаблівай цікавасці ў новага Марфаччынага знаёмага. Ён з асалодай пазяхнуў, патоўк перад сабою кулакамі паветра, потым зноў ускочыў на падаконнік і расчыніў акно:

— Арцём! Даволі там валаводзіцца. А, гатоў! Кідай.

Мяч весела ўлятае ў акно.

— Хоп!.. Давай папасуемся.

— Давай.

Гульнёй захапляюцца не толькі тыя, хто гуляе, але і сам мяч. Гарэзліва, як неаб'езджаны жарабок, ён падбрыквае ад незразумелай радасці. То ўскочыць на стол, то на шафу, то схаваецца за партрэтам. Але вось ад заліхвацкага ўдару ўжо не далоні, а грузнага чаравіка ён з усяго маху нечакана б'е ў дырэктарскія дзверы.

— Калі ласка! Прашу!..

Адразу можна адчуць, што дырэктар з тых людзей, якія любяць свой голас і дасканала валодаюць усімі яго адценнямі. Невядома, хто стукае ў дзверы, але паколькі стукае ўладарна, без далікацтва, значыць, пэўна той, хто не спыняецца ў прыёмных і ў чужы кабінет ідзе, як у свой уласны.

— Прашу, прашу… — гаворыць дырэктар, шырока расчыняючы на абедзве палавіны дзверы кабінета. З-за дырэктарскіх плячэй выглядае твар сакратаркі. Праўду кажучы, выглядае не сам твар, а цяжкія рагавыя акуляры, якія і з'яўляюцца самай адметнай рысай аблічча сакратаркі. Адказнасць ёсць адказнасць, і не будзеш жа сядзець пры салідных дзвярах з нейкім там мілым кірпатым носікам на твары і каб усе бачылі, як скачуць вясёлыя зайчыкі ў тваіх хітраватых вачанятах і як здрадлівая ўхмылка выдае цябе на кожнай хвіліне. Не! Начальства не любіць лёгкага пырхання ўсякіх там матылькоў каля сваіх дзвярэй. Гэта і для аўтарытэту ўстановы небяспечна, ды і для самога… «Што гэта ў цябе — прыёмная ці танцпляцоўка?» Сакратаркі — народ кемісты. Нават неабстрэленая выпускніца дзясятага класа, што рашыла прысвяціць сваё жыццё высокаму служэнню ў прыёмнай, і тая разумее: на сур'ёзным пасту трэба быць сур'ёзнай. «Графа Монтэ-Крыста» на стол не выкладзеш. На стале — цыркуляры і інструкцыі. Але пагляд сакратаркі прыкаваны не да стала. Яе вочы скіраваны трошкі ніжэй — у стол. Там — запаветны граф. Пры выпадку з'яўлення непасрэднага начальніка або незнаёмага падазронага партфеля ці капелюша дастаткова толькі злёгку нахіліцца над сталом — шчоўк, і граф у надзейным сховішчы. Нават і на думку нікому не прыйдзе, каб такая строгая сакратарка — у акулярах! — займалася нечым іншым, апроч загадаў, стэнаграм і пратаколаў. Акуляры — надзейная гарантыя службовай саліднасці.

— Прашу… — паўтарае дырэктар, і раптам ласкавыя адценні яго голасу рэзка мяняюцца. У кутку, за футлярам віяланчэлі,

стаіць спалоханая нечаканасцю, разгубленая дзяўчынка, а ля самых дзвярэй — хлапчук з валейбольным мячом пад пахай. Нават і знаку вінаватасці няма на яго адкрытым, крыху задзірлівым абліччы.

— Хто стукаў у дзверы?

— Мячык… — толькі і паспявае вымавіць Марфачка.

— Мячык? Што ж тут вам — школа ці стадыён?.. Мая Кірылаўна, — звяртаецца ён да сакратаркі, — іх прозвішчы? Хто іх сюды пусціў?

Ён здымае трубку тэлефона:

— Швейцара да мяне.

— Дарафей Панцялеевіч, гэта не нашы вучні… — тлумачыць сакратарка.

— Мы хочам быць вашымі… — устаўляе дзяўчынка.

— Ах, вы хочаце? — здзекліва пацяшаецца дырэктар. — Ну, дапусцім, што ты хочаш, — я магу гэтаму паверыць. А вось ты чаго сюды прыйшоў, малады чалавек, са сваім футболам?

— Гэта не футбол, а валейбол… — дае аўтарытэтную даведку малады спартсмен.

— Мая Кірылаўна, вы чуеце?

— Так, Дарафей Панцялеевіч, гэта сапраўды валейбол.

— Ды мне адзін чорт: футбол, валейбол. Якое ўсё гэта мае дачыненне да маёй школы? Да школы вялікага Корсакава?

— Звалі, таварыш дырэктар? — высоўваючы галаву з-за дзвярэй, пытаецца стары Хадаркевіч.

— Дзедка!.. Мячык сам адскочыў і ўдарыў…

— Каго ўдарыў? Я табе казаў, Марфачка, сядзі і чакай.

— Унучка?

— Марфачка, Дарафей Панцялеевіч.

— А гэта Юра, — спяшаецца растлумачыць Марфачка. — І ён хоча здаваць экзамен…

— Экзамен? Ха-ха-ха! Па якому ж класу?

— Па блату… — не трацячы высокай годнасці, абвяшчае Юра.

— Ты што ж, знаёмы Сігізмунда Германавіча, ці цябе хто рэкамендуе?

— Ды мама ўсё назаляе. Праходу ад яе няма. Паступай і паступай. Цябе, кажа, па блату прымуць. Мама-то хоча, каб я на скрыпцы… А я, як паглядзеў, што Марфа вунь якая малая, а на гэтай махіне навучылася, дык і я рашыў. А навучуся — мама сказала, матацыкл купіць.

— Сідар Пятровіч! — ужо не стрымліваючы свайго абурэння, крычыць швейцару дырэктар. — Вы не першы год у музыцы.

Навошта вы пусцілі гэтага бурбона сюды? Каб псаваць мне нервы? Вы самі маглі зрабіць заключэнне і выставіць яго… і выставіць яму… бал! Не, вы толькі паслухайце — сыночку слон на вуха наступіў, а мамачка раптам адкрывае ў ім талент. Яна ўжо і прэмію вызначыла. А ты тут таўчы ваду ў ступе, валэндайся, надрывай нервы, здароўе, пакуль яму не купяць матацыкла. А там — пляваць яму на музыку!.. Вось што, галубок, набор у нашу школу скончаны. Можаш так сказаць сваёй мамачцы — скончаны. Па класу віяланчэлі ў нас засталося адно-адзінае месца. Каго ж загадаеш прыняць? Вось яе, гэтую малышку, якая сапраўды хоча вучыцца, ці цябе? Пэўна, і без музыкі на адных тройках паўзеш?

— Чаму на адных, ёсць і гэтыя… Каб я хацеў, дык і тата…

— А без таты не можаш?

— І яна без дзеда не магла б…

— А гэта мы пабачым… Запрасіце сюды Сігізмунда Германавіча. Прашу падрыхтавацца.

Марфачка дастае віяланчэль, прабуе гучанне. Сакратарка ўводзіць пад руку старога прафесара, асцярожліва ўсаджвае ў крэсла. Той просіць вучаніцу сесці да яго бліжэй, відаць, не давярае ўжо свайму слыху. За сталом — дырэктар, з краю стала — Мая Кірылаўна, гатовая пісаць заключэнне. Воддаль — стары Хадаркевіч, паблізу Марфачкі — Юра са сваім мячом у руках.

— Можа, да мяне ў кабінет, Сігізмунд Германавіч?

— Не мае значэння… Ну, чым нас парадуеце, паважаная?

— «Палёт чмяля»! — падняўшыся з месца, нечакана ўрачыстым галаском абвяшчае дзяўчынка.

Стары прафесар не то са здзіўленнем, не то з гордасцю аглядае яе, потым спыняецца вачыма на партрэце аўтара, як бы і яго запрашаючы ў сведкі такога смелага выкліку…

— Што ж, паслухаем, паслухаем, Мікалай Андрэевіч, — гаворыць ён партрэту. — Паслухаем.

…І вось кволае, маленькае стварэнне — чмель — ледзьледзь пачынае варушыць сваімі срэбранымі крыльцамі. Перш чым падняцца, ён ціха гудзе пад раднаснымі промнямі сонца, набіраецца цяпла, каб потым на ўсю чмяліную сілу запусціць свой матор і — наперакор стыхіям — прабіцца праз хмары, праз навальніцы, абляцець вакол усю планету і дасягнуць-такі жаданай перамогі. Што з таго, што ён — маленькі і непрыкметны?! Казачны геній даў яму сілу натхнення. Ляці ж, любы, ляці! У цябе тонкія крыльцы, а ў Марфачкі тонкія пальцы, але і ў іх сіла не меншая, чым у цябе. Таму і паднялі яны цудоўны скарб на такія вышыні, дзе можа лунаць толькі чалавечая радасць!

…Закончаны маршрут чмяля. Але палёт яго яшчэ не скончаны. Гул яго звонкіх крылаў не адразу змаўкае ў душах слухачоў. Гэта відно і па паставе прафесара, і швейцара, і сакратаркі, і асабліва — дырэктара, твар якога зіхаціць урачыстасцю:

— Ну як, Сігізмунд Германавіч? Талент!

Але прафесар усё яшчэ маўчыць, апусціўшы галаву. І гэта бянтэжыць дырэктара — ці не дачасна ён выскачыў са сваім заключэннем?

Адзіны, хто не траціць незалежнасці, — гэта Юра. Чаму здзіўляцца? Нічога тут складанага няма: вадзі смыкам, перабірай пальцамі, а махіна гэтая сама па сабе раве. Які тут асаблівы сэнс? Важна, каб мацней раўла. Ніжэй націснеш пальцамі — цішэй будзе раўці. Механіка не мудрая…

Паўза наша зацягваецца. Баюся, што дырэктар далей не зможа таіць свайго замяшання. Баюся, што з-за паўзы дастанецца мне і ад суфлёра, калі толькі тэатр захоча паставіць гэтую камедыю. Хіба што рэжысёр дапаможа яму, закрэсліўшы ўсе мае паўзы рашучым вечным пяром. Што ж, у тэатры няма нічога вечнага, акрамя вечнага рэжысёрскага пяра…

Нарэшце прафесар падымае галаву. На яго вачах… слёзы. Ён просіць дзяўчынку падысці бліжэй. Гладзіць яе па галаве.

— Дзякуй табе. Гэта была шчаслівая хвіліна…

Напружанасць спадае ў адно імгненне. Дырэктар плешча ў далоні. Расчулены Хадаркевіч з гордасцю тлумачыць прафесару:

— Унучка мая… Марфачка…

Старога вітаюць і дырэктар, і сакратарка. Марфачка ззяе шчасцем. Гэта першы трыумф у яе жыцці. Успомніўшы пра сваю ўладу, дырэктар загадвае сакратарцы:

— Пішыце: залічыць па класу прафесара Блата, Сігізмунда Германавіча.

Пра юнага валейбаліста ўсе нібы забыліся. Але парадак існуе не толькі дзеля парадку, а і дзеля формы.

— Ну, галубок, што ж вы нам скажаце? Вось вам чмель, га? — пацяшаецца дырэктар.

— Падумаеш, птушку выкапалі — чмяля нейкага. Я магу гэтага… што адной лапай чалавека забівае. Як дасць, дык ты і гатоў… Страус…

Наўрад ці калі гучала тут, пад партрэтам вялікага Корсакава, такая абраза музыцы.

— М-малады чалавек… — вымаўляе прафесар, — якое мае дачыненне да музыкі гэты… гэты ваш страус са сваімі лапамі?

— Як якое? — не менш здзіўлены і Юра. — А вальс страуса?

Можна, вядома, пасмяяцца. Кожнаму, як хто хоча і як умее, дазваляецца адводзіць сваю душу. Але ці варта крыўдзіцца і тым больш абурацца? Хлопец трапіў сюды з непаразумення. І ўратавацца ад яго наўрад ці можна лёгкім жартам.

— Ёсць прапанова паслухаць! — важна абвяшчае дырэктар. — Сігізмунд Германавіч, адну хвілінку цярпення… Прашу вас, малады чалавек… Дазволь яму, Марфачка, віяланчэль…

Прафесар, які гатоў быў ісці, безнадзейна махае рукой і зноў садзіцца ў сваё крэсла. Такіх музыкантаў яму яшчэ не даводзілася экзаменаваць.

Хлапец займае месца, на якім кагадзе што сядзела шчаслівая Марфачка, ставіць перад сабой інструмент і бярэ смык. Сапраўды, гэта рухі ўпэўненага чалавека. Але што сталася з тым смыкам, з тымі струнамі, якія толькі што перадавалі нам усе гукавыя адценні радаснага чмялінага палёту! Калі чулі вы, як нажоўкай пілуюць жалеза, калі чулі, як забіваюць цвікі ў бляшаны дах, — гэта будзе толькі прыблізнае сугучча з той музыкай, якую адважна высякаў з інструмента сваімі бязлітаснымі ўдарамі юны асілак.

— Даволі! — закрываючы вушы, патрабуе прафесар. — Даволі!

— Скажы, галубок, ты першы раз іграеш?.. — дамагаецца да канца абяззброіць упартага назолу дырэктар.

— Мама хоча, каб я на скрыпцы… А я не хачу. Якая гэта ігра: ці-лі, ці-лі. Скажу, каб і мне купіла такую…

— А не цяжка табе будзе? — падкрадваецца дырэктар да наіўнай душы.

— А машына дзеля чаго? Арцём будзе вазіць.

— Якая машына?

— А вунь, — паказвае ў акно Юра і без асаблівай цырымоніі крычыць на вуліцу: — Арцём! Парадак! Хутка будзе мне амбец. Законны! Што? Скора паедзем!

Дырэктар, падышоўшы да акна і зірнуўшы ўніз, нечакана пачынае як бы асядаць на падлогу. І калі ён паварочваецца тварам, мы бачым — здарылася штосьці жахлівае. Чалавек увесь спалатнеў, яму заняло мову:

— Госпадзі, божа мой… Гэта ж «Волга» Самсона Палікарпавіча… Значыць, вы сын… Што ж вы, дарагі мой… Сігізмунд Германавіч, гэта ж яны — сын Самсона Палікарпавіча!..

Стары прафесар рашуча адмахваецца рукой:

— Толькі не па майму, толькі не па майму класу. Куды хочаце — туды і прымайце: па раялю, па скрыпцы, па духавых…

а можа, па ўдарнай групе пойдзеце, малады чалавек, — па барабану?

— Не, я хачу па гэтай… па каланчэлі…

— Дарафей Панцялеевіч! — не вытрымлівае прафесар. — Гэта знявага, гэта здзек! Я здымаю з сябе адказнасць…

— Дарагі Сігізмунд Германавіч! Адказнасць ляжала і ляжыць на мне. Вы адказваеце за адзін клас, а я — за ўсе класы! Мая Кірылаўна, афармляйце: залічыць па класу прафесара Блата…

— Хто з нас, нарэшце, прафесар, хто з нас Блат — я ці вы? — Гэта апошні выбух абурэння прафесара. І ён выходзіць з прыёмнай.

— Афармляйце, Мая Кірылаўна… Ну, віншую вас, ад усяе душы віншую, Юрый Самсонавіч.

— А я? — нясмела вымаўляе дзяўчынка.

— Як жа з Марфачкай, Дарафей Панцялеевіч? — трывожыцца і Хадаркевіч.

— Дарагі мой, — супакойвае дырэктар, — ты чалавек свой і павінен разумець. Ёй яшчэ годзік-два трэба пачакаць, выпрацаваць, так сказаць, тэхніку, так, так, тэхніку, а там — калі ласка! У першую чаргу…

Чуласць дырэктара асабліва прыкметна па тым, як ён ласкава абнімае за плечы Хадаркевіча, гладзіць па галаве Марфачку і праводзіць іх да парога. Сакратарка выходзіць у кабінет.

— Яшчэ раз вітаю, Юрый Самсонавіч… — трасе ён руку толькі што адкрытага ім таленту. І радасць гэтага адкрыцця ззяе на ўсім яго абліччы. — Самсон Палікарпавіч будзе рад…

— Сабантуй мне будзе.

— Як вы сказалі?

— Дасць ён чосу, калі дазнаецца.

— Дазвольце, хіба ж Самсон Палікарпавіч супраць, каб вы вучыліся ў музычнай школе?

— Ён яшчэ за тую, немузычную, дзе я вучуся, ніяк не можа дараваць. Кажа, я яшчэ спушчу з цябе шкуру.

— Прабачце, за што ж?

— Я нашаму дырэктару чарніла ў кішэню наліў.

Твар Дарафея Панцялеевіча перасмыкнуўся.

— Ха-ха-ха! Ну і дадумаліся. У кішэню, кажаце, чарніла? Ха-ха-ха!

— Са школы былі выключылі.

— Ну, вядома, вядома. Знойдуцца гарладзёры. Яны табе з мухі слана зробяць. Знарок будуць усюды крычаць: сынок самога Самсона Палікарпавіча, сынок Самсона Палікарпавіча!

А дзеля чаго? Дзеля кампраметацыі. Дарагі Юрый Самсонавіч, перадайце Самсону Палікарпавічу, што я аддам усе сілы. І тое, што вы, Юрый Самсонавіч, будзеце вучыцца ў нашай школе, — гэта асабіста мне вялікая радасць. Я не пашкадую ні часу, ні здароўя, каб раскрыць ваш талент!

А тым часам будучы талент, можа таму, што яшчэ не раскрыты і не спешчаны славай, з узвышаных прызнанняў дырэктара толькі і зразумеў, што яму тут сапраўды можна разгарнуць сваю творчую фантазію.

Ляскаць далоняй па мячы, а потым качаць яго патроху нагой па прыёмнай, пакуль дырэктар гаварыў сваю прамову, нарэшце надакучыла яму. І светлая думка азарыла яго твар:

— Давай папасуемся.

— Як гэта, Юрый Самсонавіч?

— А вось як: хэп-хэп, гоп-гоп! Так, так. Весялей! Э-э, ды не лавіце вы варон!.. Няўжо не бачыце, што мяч пад сталом?

Слабасць, слабасць чалавечая! Чаго не зробіш у імя адданасці і любві да свайго начальніка. Палезеш, вядома, і пад стол… Музычны дырэктар, які паўгадзіны таму назад не мог адрозніць футбола ад валейбола, настолькі захапіўся гульнёй, што не заўважыў, як адчыніліся дзверы і ў парозе як укапаны спыніўся стары Хадаркевіч.

— Таварыш дырэктар! — у здзіўленні ўсклікнуў ён, убачыўшы, як Дарафей Панцялеевіч з мячом у руках вылазіць з-пад стала. — Што з вамі? — і, павярнуўшыся да новага вучня, сказаў: — Хлопчык, ідзі ты дадому. Дарафею Панцялеевічу трэба адпачыць…

— А-а-а! — скачучы на адной назе, закрычаў пераможца. — Трынаццаць і пяцьдзесят сем у маю карысць! — і знік за дзвярыма.

— Дарафей Панцялеевіч! Таварыш дырэктар! — толькі і вымавіў Хадаркевіч і ўзяўся наводзіць парадак у прыёмнай… Але якім горкім дакорам аддаліся ў спусцелым пакоі гэтыя словы…

Абхапіўшы аберуч галаву, дырэктар сядзіць за сталом. Напружанае маўчанне доўга пануе ў прыёмнай. І раптам спакваля, невядома нават адкуль, у нацятую цішыню пачынае ўпарта прабівацца тонкі, працяжны, знаёмы нам гул… Не можа быць сумнення, гэта — чмель! Але не той радасны і ўрачысты, якога нядаўна ўсе віталі ў гэтым пакоі, — не. Гэта хутчэй нейкія дзікія варыяцыі на знаёмую тэму. Пранізлівы, працінаючы навылёт душу, чмяліны гуд усё мацнее. То трымціць на адной высокай неадчэпнай ноце, то раптам зрываецца і ляціць у прорву. А можа,

гэта ў мяне ў галаве? Не, вось і стары Хадаркевіч прыпыняе работу і як бы пачынае прыслухоўвацца.

— Гэта ў мяне ў вушах ці і вы чуеце? — пытаецца дырэктар.

— Чаму ж, чую.

— Гудзе?

— Гудзе.

— Дарагі Сідар Пятровіч, зразумейце, — я не вінаваты… Сітуацыя…

— Ат, мне ўжо ўсё роўна. Я больш не змагу служыць у вас. Брыдка.

— Сідар Пятровіч, а мне, думаеце, не моташна?.. Сапраўды, стаміўся я. А тут яшчэ гэты… чуеце? Проста мазгі свідруе… Во-во-во! — і дырэктар нецярпліва ўзмахвае каля вуха рукой.

Хадаркевіч здзіўлена і крыху спалохана пачынае сачыць за нечаканымі рухамі дырэктара. Хіба ў галаве ў яго што зрушылася? Вось ужо абедзвюма рукамі ён пачынае адмахвацца з усіх бакоў. Усхопліваецца з месца. Ходзіць па пакоі — і ўсё прыслухоўваецца. Потым трывожны пагляд яго пачынае блукаць па сценах, па кутах, па падлозе…

— Гудзе, Сідар Пятровіч?

— Гудзе.

— Што ж яно за стварэнне?..

— Хто?

— Ды чмель: ж-ж-ж, з-з-з!

— А-а-а!.. Заварушыўся ён такі ў тваёй душы! — вымаўляе ў неспадзяванай радасці сам сабе Хадаркевіч. — Сумленне і цябе точыць. Ды стварэнне гэтае, Дарафей Панцялеевіч, для таго, хто яго не бачыў…

— А што яно — пчала?

— Як даць вам зразумець. Ну вось, як скажам, віяланчэль — скрыпка над скрыпкамі, гэтак ён — пчала над усімі пчоламі. Во — з кулак. Рыжы, калматы, а лапы — во!

— Кусаецца?

— Не дай божа. Джала ж у палец. Калі джгне — то і канец. І ніякага ратунку.

З пільнай і трывожнай насцярогай дырэктар сочыць за кожным рухам рукі Хадаркевіча. Неадчэпнае, нясцерпнае гудзенне ўсё нарастае. Цяпер ужо бясспрэчна, што чмель тут, блізка. Чуваць, як ён аж заходзіцца ад глухога гулу. Дзе ж ён, дзе? Ага, я ўжо бачу, дзе — у кулаку старога Хадаркевіча.

— Не выпускайце яго! Не выпускайце!

— Не ў маёй гэта ўжо волі, таварыш дырэктар. Ганяўся ты за мячыкам, паганяйся цяпер за чмялём!

Хадаркевіч раскрывае кулак — і ўрачыстая радасць выпушчанага на свабоду нявольніка запаўняе ўсё навакол.

Дырэктар кідаецца да тэлефона. Што такое? І ў трубцы — чмель.

Ён ужо не гудзе, а раве. Сігануўшы паўз самае вуха, цяпер ён ужо кружыць пад столлю. А-а! Нарэшце! Папаўся! Завяз, як у павуціне, у каўпаку люстры. Трэба зараз жа падцягнуць стол, узлезці на яго і захапіць знянацку, задушыць калматую пачвару! З каўпака сыплецца густы пыл…

— Не ўцячэш!.. Дабяруся я да цябе… Задушу.

— Трасцы задушыш!..

Прыёмная напаўняецца людзьмі: з кабінета выскачыла сакратарка, пляснуўшы ад неспадзеўкі рукамі; з калідора ўвайшлі і спыніліся ў зняменні — прафесар, Марфачка і Юра з мячом пад пахай.

— Палена мне дайце! Мятлу!.. Мая Кірылаўна!..

Сакратарка памкнулася, каб кінуцца на дапамогу дырэктару, і нязграбным рухам скінула акуляры. Хадаркевіч знячэўку раструшчыў іх нагою.

— Мае акуляры! Я нічога не бачу, — ускрыкнула Мая Кірылаўна, але гэта быў ускрык дзіцяці, якое толькі што нарадзілася на свет. Аказваецца, усё куды прасцей і цікавей, калі глянуць на людзей сваімі вачыма. Дзівосная ўсмешка бліснула ў вачах сакратаркі. І мы ўбачылі, які ў яе прыгожы і вясёлы твар.

Тым часам няўлоўны драпежнік з-пад столі, з лямпавага каўпака стрымгалоў кідаецца наніз і ўжо хапае Дарафея Панцялеевіча за лыткі. Дырэктар пачынае адбівацца нагамі і, не ўтрымаўшы раўнавагі, валіцца дадолу. Марфачка падбягае да яго і спагадна асцепае ад пылу.

— А, гэта ты? — крычыць у лютасці дырэктар. — Вы з дзедам знарок яго сюды прынеслі і выпусцілі! Вон!.. Юрый Самсонавіч! Біце мячом у правы кут! Ён там. О-о, чуеце?

Прысутныя, узброіўшыся хто чым змог, таксама прабуюць далучыць свае сілы, хоць ніхто яшчэ і не цяміць — каго тут б’юць.

Дарафей Панцялеевіч першы кідаецца ў кут, хапае мяч і з неспадзяванага перапуду запаўзае пад стол, а потым, падбегшы да шафы, хаваецца туды. Неўзабаве адтуль чуецца жахлівы енк.

— Што такое?

— Хто яго ўкусіў?

— Хто?

— Чмель! — спаважна адказвае Хадаркевіч. — У кожнага ў душы — свой чмель. Прыслухайцеся. Гудзе? Няхай гудзе! Не забівайце яго, не знішчайце! Кусае ён насмерць, напавал!

Страшны лямант вырываецца з шафы. Адчыніўшы дзверцы, Дарафей Панцялеевіч выходзіць адтуль з мячом у руках, ужо зусім зняможаны, без пробліску надзеі на жыццё. Апошнім намаганнем ён прыціскае мяч да грудзей, як штосьці роднае яму і дарагое, — той не вытрымлівае і робіць свой перадсмяротны ўздых.

— Усё. Мяне ўкусіў чмель. Канец.

*1956*

## АБНОВА

Гэта былі яго першыя сапраўдныя штаны. Не кароценькія, па калені, што дагэтуль насіў Стась, а з доўгімі калашынамі, з адпрасаваным рубчыкам, з кішэнямі. У іх можна было ўвабраць кашулю, поверх падперазаўшы папружкаю.

Стась адразу ж вырас. Гэта заўважыла і мама.

— Ну, ты цяпер сапраўдны мужчына, — прызнала яна, аглядаючы пакупку.

— Насі здароў, — сказала сястра Наташа. Гэта было і павіншаванне і пажаданне. Так заўсёды гаварылі таму, хто надзяваў абнову.

Стась адчуваў сябе шчаслівым. У сваім шчасці ён не заўважыў, як пераглянуліся паміж сабой мама з бабкай і з усёй стараннасцю пачалі падцягваць яму штаны.

— Даўгаватыя, — сказала мама.

— Ат, вырасце — будуць у самы раз, — запэўніла бабка.

— Прыйдзецца караціць, — стаяла на сваім мама.

А Наташа, здаўмеўшыся, пра што ідзе гаворка, з гатоўнасцю паднесла ножанкі.

— Рэзаць? — спытала яна, ухапіўшы брата за калашыну.

Толькі цяпер Стась скеміў, што адбываецца змова, якая пагражае яго шчасцю.

— Не дам рэзаць! — закрычаў ён так, што жанчыны сумеліся і адступілі. — Не хачу кароткіх штаноў! — рашуча сказаў Стась. — Я ўжо вялікі.

— Але, унучак, — згадзілася бабка. — Я ж кажу, што няхай будуць нападрост.

Стась з удзячнасцю паглядзеў на бабку. Самая старэйшая з жанчын прызнавала яго законнае права насіць сапраўдныя штаны. Цяпер Стась не саступіў бы і на макавае зерне, баронячы гэтае права.

На гэтым сямейная рада была скончана. Стась доўга пакручваўся перад люстэркам. Ён перамог. Праўда, хадзіць пераможцу было не так ужо лёгка, бо штаны сюд-туд з'язджалі і з'язджалі.

— Дай я прышыю шлейкі, — сказала мама, — і ты будзеш насіць цераз плячо.

Гэта было новай знявагай мужчынскай гордасці Стася. Пакрыўджаны, ён выйшаў з хаты. І толькі на вуліцы, у кампаніі сяброў, адчуў, што сапраўды штаны не па ім.

— Што ты як сам не свой? — спыталіся ў яго хлопцы.

— Свой, — адказаў Стась.

Тады сябры, ведаючы, што Стась вельмі ж любіў дужацца, пачалі штурхаць яго пад бакі.

— Чаго ты стаіш як слуп? — засмяяліся хлопцы і яшчэ з большым задзёрам заскакалі вакол Стася.

Забыўшы пра абнову, Стась рынуўся ў атаку.

Новыя штаны адразу ж з'ехалі на пяты. Стась наступіў на калашыны і паваліўся. Сябры аж заходзіліся ад рогату. А Стась, як спутаны конь, таптаўся на месцы. Потым, падцягнуўшы пояс пад самы падбародак, ён кінуўся наўздагон за вясёлым гуртам. Але нават самыя меншыя не вельмі ўцякалі ад яго, а, пацвельваючыся, падбягалі ззаду і чапляліся за плечы. Яны ведалі, што Стасю адной рукой усё адно не падужаць іх.

Вярнуўшыся дадому, Стась паціху, каб ніхто не бачыў, дастаў з прыскрынку ножанкі і выйшаў у сенцы. Цяпер ён паказаў сваю волю штанам. Як толькі яны аб'ехалі на пяты, ён адцягнуў вышмарганую ў пяску закаўрашыну і са злосцю заціснуў яе ў сталёвую пастку. Пэўна, ножанкі былі тупыя, а можа, у Стася не было такой сілы, каб адным махам расправіцца са штанамі, сукно не паддавалася, а толькі клычылася.

Доўга мучыўся Стась і, не вытрываўшы крыўды, моцна заплакаў.

Маці выбегла ў сенцы.

— Чаго ты? — спалохана спыталася яна.

— Я… я… — сказаў, плачучы, Стась, — я хачу быць сам свой.

Хоць і шкада было абновы, штаны Стася прыйшлося-такі караціць. І хлопец стаў сам свой.

*1958*

# ТРЫВОГА Ў ЕЛЬНІЧАХ

Бываюць от жа ж рызыканты: ты яму кол на галаве чашы, а ён адно выскаляецца. З такім гаварыць — што на вей-вецер.

Якраз пра гэтакага джыгуна расказалі мне сёлета ў Ельнічах, адкуль я родам.

Яўстрата Скачыляса, чалавека ціхманага, мала хто калі ўдзень і бачыць. Мужчына немаладога веку, ён ужо каторы год калгасны вартаўнік. Нават у цёплыя летнія ночы Яўстрат надзяе кажух і зімовую шапку, адно вуха якой звісае на каўнер, а другое вытыркае наперад, быццам насцярожана ўслухоўваецца ў цішыню, і са стрэльбаю на рамяні прыцемкам выходзіць з хаты. Хоць і негаваркі чалавек, а пачуўшы гурт, ён заўсёды падыдзе, пастаіць, паслухае, а то, бывае, і слова ўставіць, і знікне ў цемры гэтак жа непрыкметна, як і паявіўся.

Пра Яўстрата ў Ельнічах ніхто слова благога не скажа. І пра самога, і пра трох яго сыноў. Праўда, толькі пра трох, бо чацвёрты, самы меншы, Юзік — такі ж крутасвет, што проста дзіва, у каго ён і ўдаўся. Можа, таму, што меншых заўсёды болей песцяць і пялегуюць. Юзік з самага малку ўзяў над усімі такую патолю, што нікога не прызнаваў.

Колькі там было таго Юзіка, а як пайшоў у школу, дык дзецям жыцця не стала ад яго. То грымакоў у плечы надае, то выхапіць з чужога партфеліка кніжку і пашматае, то якога кепства ў школе наробіць. Ну, проста вока не спускай з гэтага вісуса! І ні просьбы, ні грозьбы не памагаюць. Пачаў настаўнік бацьку скардзіцца, а Яўстрат усё далікаціцца. Колькі разоў хадзіў перапрошваць за сына, а ўшчуваць шкадаваў, абыходзіўся гаворкаю. А той нібыта і слухае, а выскачыў за парог — і зноў за сваё.

Немаведама, дакуль бы гэта ішлося, каб не здарэнне, якое ўзрушыла ўсю вёску.

Дзяцей якраз распусцілі на лета. Пачыналася самая радасная пара, калі ўсё наўкола аж кіпіць жыццём. Дрэвы так раскупчасціліся атожылкамі з шырокімі лапушнымі лістамі, што цяжка было знізу разгледзець, што робіцца на верхавіне. А якраз на верхавіне таполі, што расла цераз вуліцу, напроці Яўстратавай хаты, адбываліся важныя падзеі.

Яшчэ напрадвесні Яўстратаў сусед Адам Патрубейка з сынам Толікам усцяглі на таполю старое кола. Вельмі ж Толіку хацелася, каб на таполі пасяліліся буслы. І яны не падвялі хлопца. Прыляцелі, зрабілі сабе дамоўку і атайбаваліся жыць. Даверлівыя да людзей, яны кружылі зусім нізка над хатай, а часам спускаліся

і на падворак. З вуліцы можна было бачыць, як спаважна яны пахаджаюць сабе між курэй, скоса пазіраючы на задзірыстага рыжага пеўня, які чамусьці не любіў буслінага панібрацтва.

Калі разумныя, добрыя навасельцы рабілі гняздо, калі выседжвалі малых, а потым, занятыя клопатам з ранку да позняга змяркання, нястомна насілі ім спажыву — у тыя дні якраз паміж Юзікам і Толікам пачалося сяброўства. На першы пагляд, гэта было неспадзяванкай, бо яшчэ зусім нядаўна Юзік не раз хапаўся з Толем загрудкі. Не раз качаліся яны на пераменках сярод школьнага дзядзінца і ўваходзілі пасля званка ў клас з павырыванымі гузікамі, а то і з расквашанымі насамі. І от жа цяпер яны не маглі ўжо адзін без аднаго і дня перабыць. А здружылі іх буслы. Хлопцы вельмі ж упадабалі цікавых і дасціпных птушак і дзень у дзень наглядалі за імі.

Спярша, калі птушаняты былі яшчэ малыя, бусел з бусліхай па адным выляталі з дому, а як дзеці падраслі, адлучаліся ўжо разам і то ледзьве ўпраўляліся, каб удосталь накарміць сямейку.

Хлопцы аж заліваліся ад смеху, як чацвёра цыбатых буслянят прабавалі станавіцца на край гнязда і, спалохаўшыся высачыні, туліліся да маці. А тая сярдзіта клекатала, відаць, сварылася на малых гарэзнікаў.

Аднаго разу Юзік сказаў:

— Ведаеш, Толік, давай узлезем на гняздо і возьмем па бусляняці: я — сабе, і ты.

Толік не згадзіўся:

— Што ты! Яны ж з голаду памруць.

— А мы будзем карміць.

— Як гэта ты будзеш карміць? — пачаў рагатаць Толік. — Хіба будзеш на балоце жаб лавіць ды ім насіць?

Юзік не мог трываць, калі з яго хто смяяўся. Тады ён нахмурваў бровы і адно кідаў злосныя позіркі.

— Ведаю, чаму ты не хочаш!.. — ускіпеў ён. — Ты думаеш, што гэта твае буслы? Твае, га?.. А я от вазьму і скіну к чорту ўсё гэтае кола!.. — і Юзік, ухапіўшыся аберуч за ніжні сук, спрытна падцягнуўся і палез па шурпатым камлі ўгару.

— Не дам! — закрычаў Толік.

Ён падбег і з усяе сілы тузануў Юзіка за кашулю. Той шаргануўся тварам аб кару і аб'ехаў уніз. Усхапіўшыся на ногі і адчуўшы, як балюча шчыміць падрапаны твар, Юзік гатоў быў рынуцца з кулакамі на свайго нядаўняга сябра. Але Толік паспеў ужо ўскочыць у сенцы. Юзік пачуў, як бразнула клямка, а перад самым яго носам шчоўкнула і засаўка.

— Папомніш ты мяне, Патрубейчык! — памахаў кулаком перад дзвярыма раз’ятраны Юзік.

— Юзік — адарваны гузік! — смела абазваўся з-за дзвярэй Толік і палез на вышкі. А там, стаўшы ля круглага акенца, якое з-пад лабка выходзіла па вуліцу, пачаў цікаваць, што ж будзе рабіць Юзік.

Чакаць доўга не прыйшлося. З Патрубейкавага двара Юзік кінуўся ў свой. З малога акенца Толю добра было відно, як ён ускочыў у свае сенцы і, не бавячыся там, выбег назад. У руках у Юзіка была стрэльба. Не самаробная, не выструганая з палена, з якімі яны яшчэ нядаўна гулялі ў партызан, а сапраўдная, тая, з якой Яўстрат Скачыляс хадзіў на начную варту.

Толік ад нечаканасці аж сумеўся: што ён надумаў, гэты шаленец? А Юзік, выйшаўшы з варот, стаў, падняў стрэльбу і навёў яе… Куды б вы думалі? У самы лабок Патрубейкавай хаты, у самае акенца, за якім стаіўся Толік.

— А-а-а! — немым голасам закрычаў Толік і грэйма кінуўся з вышак у хату. — Татачка, міленькі! Юзік хоча мяне застрэліць! — ледзь паспеў вымавіць ён. І ў гэты час грымнуў стрэл.

Пачуўся спалоханы крык Яўстраціхі, Юзікавай маці:

— А за што ж ты яго, Юзічак? А ці ж ён табе замінаў? А ці ж ён табе свет заступіў? Гэта ж такое няшчасце на маю галаву-у-у!..

Толеў бацька, не цямячы, што здарылася, здзіўлена ўтаропіўся ў сына. А Толік, з палёгкай уздыхнуўшы, весела закрычаў:

— Ён у мяне не пацэліў! — і кінуўся з хаты на двор. — Ён мяне не забіў, цётка Настуся! — крыкнуў Толік Юзікавай маці і ў гэтую ж хвіліну ўбачыў самога Юзіка. Той, увесь спалатнелы, з апушчанай галавой стаяў каля свайго агародчыка. Стрэльба ляжала каля яго ног. Толіку так шкада зрабілася свайго сябра, што ён не вытрываў.

— Юзік… — паціху паклікаў ён.

Юзік нават не паварушыўся.

— А-а, дык ты яшчэ і шкадуеш гада такога! — пачуў Толя дакор сваёй другой суседкі і толькі цяпер убачыў, што каля вулічных акон іх хаты сабраўся цэлы натоўп. Паміж людскіх галасоў Толік чуў устрывожаныя пытанні і гнеўныя адказы:

— Хто гэта яго?

— Яўстратаў, хто ж яшчэ можа.

— А родненькія мае! І як у яго рука паднялася?

— У яго спытай. Бачыш, вунянё стаіць ля падваротні і зыркае спадылба, як ваўчаня…

Услухоўваючыся ў людскую гаману, Толік яшчэ раз паглядзеў на Юзіка. Сэрца яго сціснулася ад жалю. Ён ніяк не мог уцяміць, чаму людзі з такім гневам гавораць пра хлопца. «Ну, можа, у злосці ён і падумаў быў, каб забіць мяне. Але ж як ён, небарака, цяпер мучыцца, як ён перажывае…»

І Толік павярнуўся да натоўпу. Ён хацеў закрычаць людзям: «Глядзіце, вось жа я! Жывы!», але словы так і захлынуліся ў горле. Тое, што ўбачыў ён у гэтую кароткую хвіліну, было самым страшным. Страшнейшым за тое, што ён думаў.

Людзі расступіліся. Пасярод вуліцы ляжаў бусел. Падкурчыўшы пад сябе пасінелыя ногі і выцягнуўшы доўгую дзюбу, ён шырока распластаў свае крылы, быццам намагаўся яшчэ падняцца. Але падняцца не мог. Ён быў мёртвы.

Толік адчуў, як хістанулася вуліца. Вялізныя цёмныя абручы паплылі перад ім. Каб не ўпасці, ён стуліўся ўвесь і здаўся сабе зусім маленькім і бездапаможным. Але з усяго цяжару, які зваліўся на яго, Толік выразна адчуў толькі, што ў гэты спякотлівы дзень раптам зрабілася холадна, як зімою.

Ён не памятаў, як бацька завёў яго ў хату, не чуў, як гаварылі, што Юзік, выскачыўшы са стрэльбаю, сам яшчэ не ведаў, што будзе рабіць. Ён ірваўся адпомсціць сябру. І, убачыўшы бусла, які ляцеў над самай хатай Патрубейкавых, злажыўся і ўсадзіў у яго цэлы набой шроту.

Вуліца гула, як устрывожаны вулей. Калгаснікі сарамацілі і дакаралі Яўстрата і Настусю Скачылясаў, а каторыя дык адкрыта казалі, што такому шыбеніку, як іх сын, не можа быць месца ў Ельнічах, што ад такога немаладу якой можна бяды дачакацца. І каб Юзік не ўцёк, то невядома, як бы ўся гэта гаворка і павярнулася.

За сваімі трывогамі людзі і не заўважылі адразу, якая трывога ахапіла чыстае летняе неба. Над вуліцаю, над старою таполяю Патрубейкавых у адчаі і роспачы клекатала ўжо не адна асірацелая busліха, а цэлая чарада буслоў, што дазналіся пра няшчасце. Малыя бусляняты стаялі галодныя ў гняздзе і палахліва туліліся адно да аднаго. Растрывожаныя буслы лёталі ўжо траха не над самымі галовамі людзей. Пэўна, з усіх паселішчаў, з усіх вёсак зляталіся яны сюды. І як толькі людзі разышліся, буслы адразу апусціліся на вуліцу. Яны абступілі нябожчыка, і доўга не сціхаў іх журботны клёкат.

Людзі, прыпаўшы да шыбаў, глядзелі на вуліцу. Патрубейчыха, пад вокнамі якой адбывалася гэтае сумнае развітанне, не вытрывала, выбегла і загаласіла:

— А людцы, а суседзейкі, а нешта ж трэба рабіць…

Яўстрат Скачыляс выйшаў са свайго двара з рыдлёўкаю. А за ім на тым жа часе высыпалі з хат і старыя і малыя. Буслы залапаталі крыллямі, падняліся і зноў пачалі кружыць у паветры.

Скачыляс падышоў да забітае птушкі, уткнуў рыдлёўку ў задзірванелую вулічную абочыну і стаў капаць яму. Усе бачылі, што маўклівы Яўстрат пакутліва перажываў няшчасце і невыказную крыўду на сына. І гатоў быў хоць гэтым цяжкім абавязкам павініцца перад людзьмі і перад горкім сумленнем.

— А Яўстратачка ж ты мой! — пляснула рукамі Патрубейчыха. — А што ж ты надумаў… А не па-суседску ж ты, галубок, робіш…

Скачыляс кінуў капаць. Ён не зразумеў, чым яшчэ мог пакрыўдзіць суседку.

— Гэта ж на век вечны перад самымі нашымі вокнамі такі цяжкі дакор будзе. А за што? Хіба ж мы вінаватыя? — заплакала Патрубейчыха.

І ўсе згадзіліся: сапраўды, гэта было б чорнай несправядлівасцю.

Яўстрат пастаяў, падумаў, абвёў вачыма натоўп, нагнуўся над буслам, падняў яго, прыхапіў рыдлёўку і выправіўся ў самы канец свайго агарода. Людзі цераз Скалячысаў двор рушылі ўслед за гаспадаром.

Каля густога вішняку, дзе толькі што пачыналі на пробу капаць маладую бульбу, Яўстрат пахаваў бусла. Доўга маркотныя, прыціхлыя птушкі сноўдаліся па Яўстратавым агародзе, не баючыся людзей, і ў роспачы лапамі граблі свежае бульбянішча.

Надвечар з гнязда скінулася двое буслянят. Яны яшчэ не паспелі ўвабрацца ў пер’е. Цяжка было сказаць, ці то не вытрымалі яны вялікага гора, ці то зацякліся за цэлы дзень з голаду. Хутчэй за ўсё бусліха, ведаючы, што цяпер адна не выкарміць сям’ю, сама асудзіла іх на пагібель. Але бусляняты былі жывыя. Калі Толік, узрушаны гэтым новым няшчасцем, унёс малых у хату і накарміў пшоннаю кашаю, а потым пасадзіў у запечку і накрыў кажушком, яны павесялелі і дзюблікамі пачалі скубці яго за рукавы…

Пасярод ночы, калі ў Патрубейкавых спалі, у акно пастукалася Юзікава маці.

— Толік! — трывожна паклікала яна.

Толік усхапіўся з ложка і выбег на двор.

— А мой жа ты Толічак, мой залаценькі. Няма ж нашага Юзічка, і не ведаем, дзе шукаць. Бацька з ног збіўся…

І хоць на вуліцы было не так і цёмна, Толік вярнуўся ў хату і запаліў ліхтар «лятучая мыш». А Яўстраціха, як апантаная, зноў кінулася да свае хаты. Не знаходзячы прыстанку, яна тупала босымі нагамі вакол круглага каменя, што ляжаў ля сенечных дзвярэй, і, плачучы, прычытвала сама сабе.

— А як жа ж таго дня дачакацца… А я ж ужо ўсіх сваіх абабегала… А хлопчык жа ты мой, а любенечкі, — заплакала яна яшчэ галасней, убачыўшы Толіка з ліхтаром. — А каб жа ж ён хаця чаго не надумаў… А прабягу ж я яшчэ па людзях, а мо што прачую… — і вуліцаю падалася ў цемру ночы.

Толік завярнуў у Яўстратаў двор. Не на жарт устрывожаны, куды мог знікнуць Юзік, ён успомніў, з якім вінаватым выглядам стаяў яго бяздумны сябрук удзень перад людзьмі. Абавязак сяброўства, няхай сабе нялёгкага і крыўднага, вымушаў Толіка зараз жа, не бавячыся ні хвіліны, ісці на гэтыя начныя пошукі.

Перш за ўсё Толік палез на гарышча Яўстратавай хаты. Каля акенца ў лабку ён пераканаўся, што Юзік доўга стаяў тут. Абярэмак леташняй саломы быў нашчэнт перацёрты нагамі. Значыць, Юзік да самых прыцемкаў чуў і бачыў адгэтуль усё, што адбывалася на вуліцы і на двары.

Спусціўшыся па лесках з вышак і высвечваючы перад сабою ліхтаром дарогу, Толік выйшаў на падворак. У палахлівай нерашучасці ён спыніўся ля калодзежа, пастаяў, можа, з хвіліну, потым, так і не зазірнуўшы ў яго цёмную прорву, адкінуў лёгкія плеценыя веснічкі і разораю падаўся ў канец агарода. Збіваючы каленьмі халодную расу з бульбяніку, ён неўзабаве дайшоў да таго месца, дзе Яўстрат пахаваў бусла.

Зыркі круг ліхтара ўпаў на невялікі прагалак каля вішняку. Так, Юзік быў тут. Угнуўшы плечы, ён сядзеў на вытаптаным, учарнелым грудку, а непадалёк ад яго ў разоры на адной назе стаяла бусліха. З высокага бульбяніку выткнулася яе галава. І Толік убачыў, як ад рэзкага святла бусліха на момант заплюшчыла вочы і адразу ж зноў адкрыла іх — самотныя і дакорлівыя.

Юзік не паварухнуўся. Нахіліўшыся з ліхтаром, Толік убачыў, што хлопец як бы застыў у зняменні. А можа, ён спаў? Праўда, Толя яшчэ ніколі не бачыў, каб спалі з адкрытымі вачыма. Гэта была тая цяжкая гадзіна ў жыцці яго сябра, калі ён упершыню сам заглянуў у сваю яшчэ незразумелую, збітую з тропу душу, якая цяпер ужо не магла так лёгка супакоіцца і бесклапотна знябыцца.

Толік крануў сябра за плячо. Юзік маўчаў. Тады Толік схапіў яго за локаць і з усяе сілы пацягнуў за сабою.

Юзік падняўся. Як малое дзіця, што толькі-толькі намагаецца рабіць першыя крокі, няўпэўнена перастаўляючы ногі, ён паслухмяна пайшоў за Толікам. Так ішлі яны моўчкі адзін за адным разораю, потым дваром аж да самае хаты Скачылясаў. Ля сенечнага парога Юзік ледзь чутна вымавіў:

— Што ж цяпер будзе, Толік?

— Не ведаю.

Яны абодва змоўклі і доўга не абзываліся. Потым Толік падняў шкляны каўпак ліхтара і патушыў святло. З вішнёвага зарасніку выбіваўся ранні досвітак.

— Так яна там і прастаяла ўсю ноч?

— Усю ноч, — вінавата ўнурыўся Юзік.

— А двое малых сядзяць у мяне ў запечку. Упалі з гнязда, — сказаў Толік. — Прыйдзецца гадаваць.

— Прыйдзецца, — згадзіўся Юзік.

*1959*

## СТАСЕВА ПАДАРОЖЖА

Малога яго вазілі ў калясцы. Калі ж ён навучыўся хадзіць, дык вазілі яго рэдка. Каляска пуставала. Потым ён ужо сам прабаваў падымаць дышаль і голасна пакрыкваў: но, но! Але сілы неставала, і колькі ён ні тузаўся, не мог скрануць воза. Потым бабка прыстасавала Стасеву машыну для свайго абыходку.

Возьме рыдлёўку, пасадзіць унука ў каляску — і паехалі з двара на другі бок вуліцы. Там, на агародзе, яна капала бульбу, а Стась збіраў па адной і кідаў у каляску.

— Баба, хопіць! — казаў Стась і, падцягнуўшыся на дыбачках, заглядаў цераз білца, колькі ўжо ён накідаў.

Бабка, паклаўшы рыдлёўку, выкіроўвала каляску з разоры на дарогу. Стась ужо не садзіўся ехаць. Ён дапамагаў везці воз. Узяўшы доўгую цявіну, хваставаў па дышлю і падганяў: но, но! Дарога была недалёкай, і Стась нават шкадаваў, што так хутка канчалася яго вандроўка.

А хлапец любіў вандраваць. Як толькі згледзеў, што бабка некуды збіраецца, ён ужо гатоў:

— Бабка, куды ты?

— На трэці пасёлак схаджу.

— І я з табою.

— Не зойдзеш, унучак. Ножкі забаляць.

Колькі ні адгаворвала — не памагло. Пайду і пайду.

— Ідзі, але каб не плакаў, не прасіўся на рукі.

І Стась пайшоў. Пайшоў у першае вялікае падарожжа.

Мінуўшы сваю вуліцу, яны поплавам пайшлі паўз калгасны сад, потым паўз гараж, дзе стаялі грузавыя машыны, а каля кузні завярнулі ў доўгую-доўгую, незнаёмую Стасю вуліцу. Гэта і быў трэці пасёлак. Усё было тут так нова і цікава, што хлопец не адчуваў аніякай стомы.

Каля хаты, перад вокнамі якой цвілі мальвы, яны спыніліся. Стась першы раз бачыў такія высокія кветкі, управень са страхою. У іх ружовых трубах, як у рэпрадуктарах, раўлі на ўвесь агародчык калматыя пчолы. Не паспеў Стась надзівіцца, як з двара загукалі:

— Ой, глядзіце, які госць прыйшоў!

І добрыя рукі падхапілі Стася, а дзверы самі расчыняліся перад ім: перш у сенцах, потым у хаце. Калі Стась разгледзеўся, ён пазнаў, што гэта была яго другая бабка, татава мама, Матрэна.

Чым толькі ні частавалі госця! І мёдам, і яблыкамі, і гарбузікамі. А на адыходзе бабка Матрэна насыпала яму гарбузікаў яшчэ і ў кішэню.

— Бяры, унучак. Па дарозе будзеш лузаць. Дарога ж доўгая.

І сапраўды, дарога назад здалася хлопцу такой доўгай і цяжкай, што было не да гарбузікаў. Як толькі выбраліся яны з бабкай на поплаў, ён стаў прасіць:

— Бабачка, любенькая, сядзем каля гэтага стога.

І яны селі, і сядзелі-такі доўга. А калі ўсталі, дык Стасю ўжо зусім не хацелася ісці. Ён гатоў быў папрасіцца на рукі, каб не баяўся, што другі раз бабка не возьме з сабою. Тады Стась учапіўся за мультановую бабчыну спадніцу і, нехаця перастаўляючы ногі, ледзь дайшоў да калгаснага гаража.

— Зойдзем да таты, — сказаў ён. — Няхай падвязе. Вунь дзе ён! — радасна закрычаў Стась, убачыўшы каля машыны свайго бацьку, які рабіў у калгасе шафёрам. Бацька якраз садзіўся ў кабіну.

— Тата, падвязі! — гукнуў Стась.

Бацька, мабыць, не пачуў. Памахаў сыну рукой з кабіны. Машына загула і павярнула ў палявую дарогу.

Стась як стаяў, так і сеў на сцежцы, гатовы заплакаць ад крыўды. Бабка даводзіла, што ў таты цяпер шмат работы: самая звозка з поля.

— Ты ж сваю машыну маеш, — сказала яна.

— Якую машыну? — падняў галаву Стась.

— А каляску. Забыўся, як я цябе вазіла?

Стась, седзячы на поплаве, падумаў: а і праўда, як бы добра было цяпер не ісці сваімі нагамі, а ехаць.

— Падвязі мяне, бабка, — жаласна папрасіў ён.

— Як жа я падвязу? — спагадліва спытала бабка. І раптам радасна пляснула рукамі: — Хіба збегай прывязі каляску, і я цябе як бачыш дакачу да самага дому.

Стась недаверліва зірнуў на бабку. Але тая нават і вокам не маргнула. Значыць, гаворка была не так сабе, а напраўду. І Стась, як падмецены, усхапіўся на ногі. Проста дзіва сталася з хлопцам.

— Толькі ж ты тут пастой, пачакай мяне! — гукнуў ён, і па зялёнай атаве адно замільгалі яго лёгкія сандалікі. Ён прабег, як пачынаўся калгасны сад, спыніўся, каб упэўніцца, ці стаіць бабка на тым самым месцы, і памчаўся далей.

Але і бабка не стаяла. Пакуль бег унучак, яна на поўны ход, назіркам спяшалася за ім. Спыняўся Стась, каб азірнуцца, — спынялася і яна, а потым яшчэ шпарчэй шыбавала ўслед. І толькі на самай паваротцы з поплаву ў сваю вуліцу спынілася перадыхнуць.

А тым часам з двара Стась ужо вывозіў каляску.

Бабка ад душы засмяялася і неўзаметку ўвайшла ў сваю вуліцу. Да іх хаты заставалася прайсці толькі чатыры двары. Засопшыся і стараючыся, колькі было змогі, яе ўнук каціў перад сабой свой нялёгкі воз.

З якой палёгкай сеў ён пасля доўгай дарогі ў каляску і быў самым шчаслівым на свеце!

Ён ехаў паўз добра знаёмыя яму хаты, паўз вяргіні ў агародчыках, паўз вішнёвыя вулічныя прысады, паўз свой калодзеж і пеўня, што стаяў на плоце і, выцягнуўшы шыю, здзіўлена глядзеў на вялікага падарожніка…

Уязджаючы ў двор, Стась сказаў бабцы:

— Вось ты і прывезла мяне.

Бабка засмяялася:

— Гэта ты сам сябе прывёз, унучак.

*1959*

# ПОЗНІЯ ПАЛЫНЫ

## I

Калі перад вокнамі лапушацца кусты вяргіні і цягнуцца аж пад самае застрэшша цыбатыя мальвы, а понізу высцілаюцца пярэстая шаўкавіца і зялёны барвенак — так і знай, што ў хаце ёсць дзеўка, гатовая замуж. Бо хто ж гэтак дагледзіць і выхадзіць краскі, як не маладыя дзявочыя рукі, якія любяць не толькі працу, але і ўсё тое, што цешыць вока і сабе і людзям.

Раннім прадвеснем, калі паўз платы яшчэ трымаўся чорны абгалалёдзелы снег, а пад хатамі ля самых падрубаў млелі на сонцы цэлыя плашкі лёду з прымерзлымі пластамі саломы, у Акілініным агародчыку прабіваліся ўжо чырвоныя стрэлы півоняў і вострыя, як кінжалы, лісты касачоў.

Пачынаючы з вясны, да позняй восені агародчык мяняў толькі пышнасць зяленіва і колеры цвету, але заўсёды быў повен хараства.

Першая густымі купінамі вылазіла мята. Яе была такая сіла, што магла б заглушыць агародчык. І калі Акіліна разрэджвала яе, вырываючы з жоўтымі тонкімі карэннямі, дык рукі цэлы дзень пахлі млявай саладжавасцю.

І ўсё ж хоць раннія кветкі цвілі доўга, але трымаліся яны пры самай зямлі, баючыся адарвацца ад яе цяпла. Затое калі час ужо браўся на лета, Акілінін агародчык напаўняўся той раскошай, якое не мог не заўважыць кожны, хто праходзіў вуліцаю.

Аж тры кусты півоняў, рупліва абгароджаныя лучынкамі і прывязаныя да высокіх калкоў, цвілі такімі кволымі ружова-малочнымі пялёсткамі, што, гледзячы на іх, заўсёды здавалася: толькі дакраніся — і яны адразу ж асыплюцца. Праўда, адцвіўшы, яны асыпаліся і ляжалі, пакуль не ссыхаліся і не скручваліся ў трубкі.

Горда красаваўся ў султанскай шапцы шышкаваны мак. Потым надзяваў на галаву зубчастую каралеўскую карону і, выцягнуўшы шыю, доўга глядзеў у Акілініны вокны.

Духмяны тытунь і мацейка, нічым не прывабныя ўдзень, прачыналіся з першым прыцемкам і ўсю ноч, увабраўшы ў сябе свежасць летняй расы, давалі столькі паху, што чуваць было на ўсю вуліцу.

За лета ўбіраліся ў поўную сілу вяргіні, якія потым гарэлі аж да прымаразкаў.

Ружовыя, блакітныя і белыя мальвы, тулячыся да цёплай сцяны, падымалі пад самы лабок свае грамафонныя трубы, поўныя чмялінага гуду…

І хоць не Акіліхіны рукі ўжо завіхаліся ў кветніку, а рукі яе дачкі Глашы, агародчык перад хатаю Ляткоўскіх заўсёды быў у доглядзе.

Любоў да астраў і флёксаў, да бэзу і язміну перадалася ад маці да дачкі і — хто ведае — перадасца, можа, і да ўнучкі.

А яно ўжо ж да гэтага і ідзецца, бо Глаша год як замужам. Пайшла за баравіцкага ветэрынара.

Аддаўшы дачку, Акіліна адчула, што нібыта другі раз заўдавела, хоць сама была яшчэ ў поўнай сіле і жаночай прывабнасці.

Густыя яе валасы, зачэсаныя на прабор, сабраныя ў тугую куклу і прышпіленыя круглым грабянцом, зусім не кранула сівізна.

Можа, і паўнаватае, але чыстае аблічча, жвавасць чорных вачэй і тыя тонкія рыскі, што разбягаюцца ад губ, калі яна ўсміхаецца, выдаюць у ёй жанчыну, якой шмат дадзена самой прыродай.

У яе нават асталася тая сарамяжасць, якою яна вылучалася і ў дзявоцтве. І цяпер пры мужчыне, ды яшчэ незнаёмым, яна не асмельваецца падняць вачэй. Але ўжо калі, бывае, і асмеліцца і падыме, дык па сэрцы ў цябе аж халадок прабяжыць.

Калі аддавала дачку, дык і наплакалася і навесялілася за многія гады.

Плакала ад таго, што Усцім не прычакаў шчасця; весялілася ад таго, што хацела ўсім паказаць: глядзіце, як ні гнула, як ні ламала мяне жыццё, а не сагнула і не зламала!

І гэта першы раз за сваю аўдавеласць не ўтрымалася яна, парушыўшы як бы мяжу, за якую даўно не пераступала.

Праўда, ні перад кім яна не заракалася. І ў чым павінен быць зарок — не ведала.

«Я на вяселлі ў свае дачкі», — заспакойвала сама сябе Акіліна, якую госці вельмі ж прысільвалі выпіць і, не беручы ў разон яе адгаворак, цягнуліся з усіх сталоў, каб чокнуцца і трымаць сваю чарку, пакуль не вып'е гаспадыня.

Калі ж у лёгкім замарачэнні Акіліна адчула, што ёй душна, і выйшла з хаты на вуліцу, дзе перад агародчыкам з асеннімі вяргінямі танцавала моладзь, сэрца яе затрапятала гэтак шчасліва, нібыта не дачка, а сама яна была маладой на гэтым вяселлі.

А ці даўно ж было яно? Усё адно як учора. Гэтаю ж парою, калі цвілі вяргіні пападвоканню, і яна ішла замуж.

Праўда, рыпаў тады не сіпаты гармонік Варвона Крука, а іграла баравіцкая капэла — адзінаццацёра чалавек з барабаншчыкам. Як далі-далі, дык не то што Ельнічы разлягаліся, а, казалі, і на хутарах за шашою было чутно.

Тады, ідучы ў хату Ляткоўскіх, Акіліна з дзявочай затоенай радасцю пераступала гэты парог, а сёння вось Глаша, можа быць, з той жа радасцю пакідае яе.

Што з таго, што на хвіліну зойдзецца ў салодкім смутку яе сэрца ў час развітання з маці, калі ўжо дачка даўно поўна надзей і шчасця свайго, самастойнага жыцця!..

Акіліна абаперлася локцямі на плот, за якім пад Варвонаў гармонік і вялізны, увесь спярэшчаны шкуратовымі латамі, турэцкі бубен ветэрынар з Глашаю ў сярэдзіне круга танцавалі кракавяк, доўга глядзела на сваю дачку ў вясельным вэлюме, пакуль на вочы не наплыла густая смуга.

Можа б, яна не ўтрымалася і заплакала, каб не заўважыла Пракопа Сыса, што стаяў у гурце мужчын і разам з імі курыў.

Тое, што Сыс глядзіць на яе, Акіліну як бы працяло не толькі гарэзлівай весялосцю, але і задзёрам: «Не, я ж табе і віду не падам, што мне горка». І, адкінуўшы лёгкія веснічкі, яна выйшла ў самы круг танца.

Пары расступіліся. Збіты з роўнага рыпу, гармонік захліпнуўся. Барабаншчык, Варвонаў сын Петрык, даў два лішнія разы ў бубен, і танец спыніўся.

Убачыўшы Акіліну, нешта аж упяцёх вясёлыя кавалеры падскочылі да яе, выгінаючыся ў цырымонным паклоне.

— Просім, просім! — стараючыся не засмяяцца, кланяліся яны.

— Вальца для цёткі Акіліны! — крыкнуў увішны шафер з пучком белых кветак на бартавіне сіняга пінжака.

Акіліна, разгубіўшыся ад свае смеласці, стаяла пасярод вуліцы. Твар яе палаў маладой дзявочай чырванню.

Пракоп Сыс у хромавых ботах, у кіцелі, дужы мужчына з падстрыжанымі рудаватымі вусамі, з прычэсанай на адзін бок пашарэлай чупрынай, што выбівалася з-пад афіцэрскай шапкі, весела расштурхаў хлопцаў і, узяўшы Акіліну за руку, сказаў:

— Успомнім, Акіліна Мацвееўна, маладосць, — і хвацка прыстукнуў ботамі.

Пракоп Сыс не быў у афіцэрах і ў арміі не служыў, але трымаўся досціпу, які яму падабаўся ў вайсковых людзях.

Варвон Крук ужо расцягнуў быў гармонік, намацваючы першыя павароты вальса, як Акіліна, усміхнуўшыся свайму далікатнаму кавалеру, зняла з шыі лёгкі белы шалік і, махнуўшы ім перад сабою, папрасіла:

— «Барыню»!

Плаўна прайшоўшы па кругу і лёгка выгінаючыся, яна спынілася, перавяла дых і пачала так выстукваць чаравікамі, што Пракоп Сыс аж зажмурыўся ад пылу.

Пакінуўшы хату, на вуліцу павыбягалі нават самыя зацятыя застольнікі. Яны дзівіліся маладому спрыту, якога яшчэ шмат было ва ўсёй Акілінінай постаці.

Скончыўшы танец, яна страсянула галавой. З валасоў выпаў грабянец, і яны, густыя і чорныя, рассыпаліся па плячах.

Замарачыўшыся, яна сарамліва апусціла вочы і сказала:

— Смейцеся з дурное бабы.

Але ніхто не думаў смяяцца. Нават Акілініны таварышкі і тыя па сабе ведалі, што такія ўзлёты маладога пачуцця не так лёгка ўтрымаць.

Акіліна стаяла на людзях ужо цераз вялікае намаганне. Сэрца яе заходзілася ад шчаслівага адчування, што яна зрабіла нешта ўсё ж прыемнае. Грудзі яе высока падымаліся пад белай кофтачкай, кароткія рукавы якой рызінкамі нацерлі вышэй локцяў шырокія чырвоныя палоскі.

Ступіўшы з круга, Акіліна хістанулася ўбок, і тут да яе зноў падскочыў Пракоп Сыс. Цяпер ужо разам яны падышлі да плота, за якім гарэлі вяргіні, і абаперліся на штыкецiны.

У людской гамане, у грукаце бубна, у весялосці танца, які пачаўся пасля Акілінінай «барыні», яны ўдваіх моўчкі глядзелі ў агародчык, кожны думаючы сваё.

— Але ж і разраслiся твае вяргіні, — сказаў Пракоп, гледзячы ёй у вочы, поўныя шчаслівага бляску, — буяюць…

— Буяюць, — вымавіла Акіліна, — і збуяюць без пары.

Тады Пракоп нахіліўся да яе і пошапкам спытаўся:

— Акілiначка, няўжо ж ты думаеш век звекаваць адна?

— Цяпер не страшна, дачку замуж аддаўшы, — адказала Акіліна.

— Жыцця яшчэ многа наперадзе, — разважна вымавіў Пракоп. — А я цябе на руках насіў бы…

— Не здужаеш, — засмяялася Акіліна.

— Здужаю, вяргінечка ты мая… — нахіляючыся яшчэ бліжэй, зашаптаў Пракоп Сыс.

## II

Акіліна яшчэ толькі ўваходзіла ў пару дзявоцтва, як Пракоп Сыс штовечар стаў пакручвацца ў іх перад хатаю, чакаючы, калі яна выйдзе на вуліцу.

Наўпроці іх двара заўсёды ляжала бярвенне. Кожнага году быў клопат: то ў сцены збіраліся даваць поднаў, то везці ў Баравічы рэзаць на дошкі, але круглякі так і ляжалі, з лета ў лета сохнучы на сонцы. Кара на іх адставала і, калі яе аддзіралі палосамі, давала ў нос свежым хлебным квасам.

Дзяўчаты яшчэ падлеткамі аблюбавалі гэтыя бярвенні і, як толькі пачынала змяркацца, густа абсядалі іх. Калі і хацеў ушыцца сюды хлопец, то нямала было валтузні і піску.

Шараю гадзінаю, калі праходзілі паважна каровы, поўнячы вуліцу пахам сырадою, а па хлявах усё яшчэ ніяк не маглі разабрацца з авечкамі, хлопцы, каб захапіць месца на бярвенні, спяшаліся пад Акілініну хату.

Тут было як у тэатры: сядзіш сабе на высокім ярусе, а перад табою разгортваюцца ўсе падзеі летняга вечара.

Павесіўшы замок на закураную кузню, цераз вуліцу пракульгаў Каліткаў Валадым, празваны крыўднаю мянушкаю «руб дваццаць».

Касавокі цыганаваты Шот, сагнуўшыся, валачэ на сабе аднекуль з далёкага сяла злубянелую шкуру, якую злупіў са здохлага каня. Заўтра ўжо не пройдзеш паўз яго хату ад смуроду: будзе вымочваць тыдні тры.

Подбежкам паўз самыя платы коціцца стары Пілацік, сварачыся за вочы са сваімі сынамі.

З разгатым сажнем пад пахаю ідзе брыгадзір Трахім Кракос, які намяраў касцам працадні.

За ім, трымаючыся за касільна каля самай шыйкі, нясе касу траха не пры зямлі Мар’ін Цімох, саромеючыся ўзяць яе на плячо, бо выйшаў касіць з мужчынамі толькі першае лета. З таго ў нас і пагаворка: «Носіць косу, як Цімох Мар’ін».

— Цётка Рыпіня, ваш баран у Сысавых! — разлягаецца голас у вечаровай цішыні.

— Няхай ён здохне! — адказвае з двара Акілініна маці, але неўзабаве ўсё ж просіць дачку: — Збегай, Акіліначка, прывядзі…

І Акіліна нехаця выпраўляецца да Сысавых.

Збродлівы маркач не хоча ісці дадому, пакуль не выцягнеш на вуліцу. Потым, як ачмурэлы, так бяжыць да сваіх варот, што толькі трымайся за рогі і перабірай босымі нагамі, седзячы на яго мяккай цёплай спіне.

Акіліна не любіла Сысавых. А калі ўбачыла, што Пракоп гатоў дзень і ноч сядзець на іх бярвенні і што гэта заўважыла нават маці, сказаўшы аднаго разу: «Што ж, ганьбы хлопцу не магу даць», яна ўжо адкрыта старалася выказаць яму сваю непрыязь.

А за што?

За скарэднасць.

Людзі ўжо даўно жылі калгасам, навыкалі да супольнае работы, а ў Сысавых кіпцямі трымаліся за сваё. Няхай і радасці з яго не мелі, а ўсё пынілі ў хату.

Па суседству людзі ж бачылі, што ў Сысавых ніколі прасветлае часіны не было і жылі яны як цемнікі.

Вулічнае акно з выбітай шыбаю гадоў пяць было заткнута кажушным акраўкам і падранымі суконнымі штанамі — ніяк не маглі адшкадаваць рубля на шкло.

Чужы чалавек, заходзячы ў хату да Сысавых, адразу ж з парога мог уваліцца ў доўгае, як дамавіна, карыта, аблепленае засохлымі высеўкамі і кіслым цестам. У карыце мяшалі свінням, а потым валаклі ў хлеў. Калі ж не было каму памагчы, Сысіха ішла ў хлеў і запрашала дарагіх гасцей: «Дзюдкі мае, дзюдзечкі…» — а тыя, пераваньваючыся цераз парог, з лагодным рохканнем апаноўвалі сваё застолле.

Усю зіму ў хаце ў Сысаў стаяў курыны лямант. З падпечка вылятала цэлая чарада птаства і напярэймы кідалася да чарапоў з варанаю бульбаю.

Сысіха душылася работаю, выжыльваючыся ля чыгуноў. Паспрабуй іх на вілках устаў ды выцягні з печы — жывот надарвеш. І не дзіва, што памерла яна, не дажыўшы свайго веку. Ненамнога пераажыў яе і сам Сыс.

Пракоп, адзіны ў сям'і, ведаў, што іх не любілі, але верыў, што, маючы багацце, такі ж выб'ешся ў людзі.

Стаўшы гаспадаром, ён ірваўся жыць іначай.

— На чорта мне гэта задуха, — казаў ён Акілінінай маці так, каб чула і дачка. — Цяпер на зямлі няма рахубы жыць. Прадам усё і буду шукаць іншае рады: меўшы ў руках добры спосаб — не прападзеш.

На што ён спадзяваўся — невядома. Пэўна, гаварылася гэта ў надзеі, што Акіліну прывабяць планы, якія ён строіў. І, як бы заручыўшыся падтрымкаю будучай цешчы, малады Сыс у адзін пераднядзельны вечар заявіўся-такі ў хату з буханкаю хлеба і дзвюма пляшкамі гарэлкі.

Пападвоканню ўжо вісла ўся Акілініна сябрына, што выспеўвала з ёю на бярвенні да позняе ночы. Акіліна чула з хаты, як самыя цікаўныя топчуцца нават у агародчыку, давячыся з рогату.

Але ёй не да смеху было. Яна знала, што сярод іх туліцца ж недзе і Ляткоўскі Усцім, які хоць і не сказаў ёй яшчэ ні слова, але яна добра ведала, што павінен сказаць…

Сваты пайшлі як мыла з’еўшы, хоць Акілініна маці і супакойвала іх: «Чаго спяшацца, суседзі?»

Не сказаць, каб Пракоп не любіў Акіліну. Ён яе любіў. Але цяпер у яго душы брала верх крыўда на дзеўку і злосць на тых, хто мог вечарам сядзець каля яе. А Усцім Ляткоўскі якраз цяпер і пасмялеў! Штовечар ён сядзеў з Акілінаю, і ўжо нельга было не заўважыць, як яго рука ляжала на Акілініным плячы.

Чым ён зававабіў Акіліну? Можа, Пракоп і не сказаў бы, а сама Акіліна сказала б — песнямі.

Бадай ніхто так з хлопцаў не спяваў у Ельнічах, як Ляткоўскі. У яго голасе была тая бясконцая радасць жыцця, якую толькі і можна выказаць песняй. Голас яго быў чуцён, як ішоў Усцім з касцамі на поплаў і як вазіў ён з мужчынамі снапы, і ля калгасных гумнаў, і каля кузні. «Ляткоўскі пяе», — мог пазнаць кожны, пачуўшы яго голас. І ў той жа час сам Усцім, высокі, танклявы хлопец, быў нейкі ціхманы і сарамяжы. Не дзіва, што, калі па сяле пайшоў погалас пра смелае сватаўство Пракопа Сыса, Ляткоўскі прымоўк і людзі мо з тыдзень не чулі яго песень. Затое цяпер усе заўважылі ў Ельнічах, што Усцімаў голас зазвінеў яшчэ мацней.

— Запяе ён у мяне! — сказаў аднаго разу ў гурце хлопцаў Пракоп Сыс. І хлопцы на тым жа часе пераказалі Усціму.

Ляткоўскі, можа, і не спалохаўся, але цяпер па вечарах стаў хадзіць з шомпалам, прырабіўшы да яго драўляную асадку, каб зручней было трымацца.

Значыць, выклік быў прыняты.

Паядынку не прыйшлося доўга чакаць. У нядзелю ў Баравічах кінаўшчык паказваў карціну, а пасля былі танцы. Але ельніцкія хлопцы адразу ж заўважылі, што Пракоп на танцах не астаўся.

Сабраўшы баравіцкае сваяўство, ён нечага ўсё шаптаўся са стрыечным сваім братам Аўяр’янам.

Ельніцкія дамовіліся, што пойдуць з вечарынкі разам. Але Усцім заўпарціўся. Хавацца цяпер у гурце — значыць, паказаць, што ён спужаўся. І ён з Акілінаю не пайшоў за ўсімі езджанай дарогаю, а ўзяў напрасткі — паплавамі, а потым сцежкаю цераз жыта.

А ў жыце якраз яго і чакалі.

Пачуўшы Усцімаў голас яшчэ з паплавоў, Пракоп з Аўяр’янам і малым баравіцкім падшыванцам Косцікам, узятым для зачэпкі, затаіліся абапал сцежкі.

План ужо быў гатоў.

— Ты, — сказаў Пракоп Косціку, — падбяжыш і дасі яму пад бараду так, каб ён языка прыкусіў. І няхай ён цябе толькі кране — падымецца Авяр'ян.

Што будзе рабіць ён сам — Пракоп не сказаў. Але як толькі Усцім з Акілінаю падышлі і Косцік падскочыў да Ляткоўскага, а той схапіў хлопца за каўнер і адкінуў яго ў жыта, Сыс чамусьці сам кінуўся на таго, хто заступіў яму дарогу.

— Дваім нам не жыць на свеце! — крыкнуў ён, сарваўшыся на тонкі бабскі голас, і, растапырыўшы рукі, рушыў на Усціма.

Акіліна кінулася ўцякаць, але адразу ж пачула немы крык, а потым жудаснае яхканне.

Па тым, як зашамацела жыта, Акіліна зразумела, што на сцежцы пачалася зацятая валтузня, і, жахнуўшыся, што яны могуць забіць Усціма, з усяе змогі загаласіла:

— А-а, р-ра-туй-це!

— Ну, чаго ты дзярэшся сярод ночы? — сказаў Усцім, выйшаўшы неспадзеўкі з жыта.

Ён цяжка дыхаў. Рука з шомпалам, якою ён хацеў прытуліць Акіліну, калацілася.

— Ты забіў яго? — устрывожана спытала Акіліна. Ляткоўскі маўчаў, усё яшчэ не могучы ссапціся.

— Ай, забіў! — крыкнула яна.

Усцім, прыгнуўшыся, зайшоўся з рогату.

— Што гэта за дурны смех? — злуючыся, сказала Акіліна, але ад сэрца яе адразу ж адкацілася трывога…

Назаўтра ў Ельнічах усе ўжо ведалі, што Ляткоўскі перабіў Сысаваму Пракопу пальцы на левай руцэ: «Цяў па саменькіх пушках».

З тыдзень Пракоп і носа не вытыкаў на вуліцу, а калі выйшаў, дык людзі прызналі, што скурчаныя пальцы яго ўжо болей не разагнуцца.

Гэтак Пракоп з Усцімам зрабіліся ворагамі.

А цяпер як падумаеш, дык выходзіць, што Сыс, можа, і жыў астаўся з-за гэтых пальцаў.

Тае ж восені, як прызываўся іх год, Усціму выпала ісці на службу, а Пракопа збракавалі. Ён паспрадаў што мог і, пакінуўшы толькі хату, падаўся з Ельніч.

А Усцім, ажаніўшыся з Акілінай, пайшоў у салдаты.

На другі ж год грымнула вайна, і толькі калі вярнуліся нашы, Акіліна даведалася, што ўжо ніколі не ўбачыць свайго Усціма. Успамінаючы тыя дні, яна і цяпер гаворыць: «Не я па зямлі хадзіла, а зямля па мне».

Цяжка было ёй з дачкою выкідацца з бясхлеб'я, з холаду, але ж выжыльвалася як магла. Ёй было дзеля каго жыць — дзеля дачкі, такой жа вясёлай і галасістай, як бацька.

Глаша ўжо канчала школу, калі ў Ельнічах зноў паявіўся Пракоп Сыс. Ён увесь змізарнеў і вычаўраў, хоць і трымаўся форсу ў сваім кіцелі і афіцэрскай шапцы. Калі ў яго вельмі ўжо дапытваліся, дзе ён быў, Сыс махаў рукою:

— Ат, дзе быў, там няма. А калі ўжо гэтак хочаце ведаць, то скажу. На Врале быў. Каб не Врал, дык і немца не разбілі б. Прыйшлося і мне сіл палажыць…

Апроч благое манеры нявечыць гаворку, людзі ў Пракопа болей і не знайшлі перамен.

Калі б ён і праўда лажыў свае сілы дзеля перамогі, то, пэўна ж, меў бы ў руках спосаб, як далей жыць. А то, пакруціўшыся ў Ельнічах, пажыўшы ў запусцелай хаце, кінуўся ў раён і ўмасціўся там за наглядчыка на рынку. Кожнае нядзелі бачылі, як ён з чырвонаю павязкаю на рукаве стаяў пры варотах і выпісваў квіткі. На выгодзе жывучы, ён папраівіўся і скруглеў.

Казалі пасля, што, схаўрусаваўшы на ятках з рубшчыкамі мяса, ён ускочыў быў у вялікія непрыемнасці, з якіх ледзьве выцерабіўся.

Часта мяняў службы Пракоп, і калі паказваўся ў Ельнічах, то ўжо ведалі, што недзе праштрапіўся, хоць ён, як знарок, яшчэ болей фатыгаваў на людзях у сваёй шапцы, заламанай набакір, і шчыгульных хромавых ботах…

## III

Словы, сказаныя Акіліне ля агародчыка: «Вяргінечка ты мая», — развярэдзілі жаночую душу.

Пасля Глашынага вяселля яна хадзіла як сама не свая. Хто яго ведае — ці таму, што хата спусцела, ці таму, што ў той заліхвацкай «барыні» яна адчула свае яшчэ нерастрачаныя сілы.

Акіліна гатова была паверыць, што ў жыцці яе павінны адбыцца нейкія перамены, пасля якіх вальней і радасней будзе яе неспакойнаму сэрцу.

І калі неўзабаве шараю гадзінаю Сыс увайшоў у хату, яна хоць і холадна адказала на яго «добры вечар», але ж недзе ў глыбіні душы абрадавалася гэтаму прыходу, яшчэ не ведаючы, чакала яго ці не.

Пракоп дастаў з аднае кішэні вінарку чырвонага, а з другое — паўлітру маскоўскае і паставіў на стол.

— Другі раз у жыцці прыходжу да цябе, — сказаў ён, і ў голасе яго Акіліне пачуўся ціхі смутак па маладосці.

— Што было, тое прайшло, — сказала Акіліна, яшчэ болей расчульваючыся, калі练ракоп узяў яе за руку тымі пальцамі, якія не згіналіся і былі такія бездапаможныя, што яна гатова была заплакаць, як бы ў чым вінаватая перад ім.

Паставіўшы закуску, яна хацела запаліць святло, але Сыс зноў узяў яе за руку.

— Не трэба, — папрасіў ён, быццам саромеючыся, што іх могуць убачыць і абгаварыць. — Не трэба, — пераказаў ён і нечакана прыгарнуў яе ўсю да сябе. І Акіліна здзівілася, што перабітая яго рука такая ж дужая, як і другая, і што з гэтых абдымкаў ёй ужо не вырабіцца…

Вулічнае акно было ўжо завешана дзяружкай, а расчырванелы Сыс з гордай радасцю сядзеў на покуці, курыў папяросу за папяросай і аглядаў хату. Ложак з прыгожай саматканай посцілкай, шафа з люстэркам у бакавых дзверцах, вышываная сурвэта на стале — усё, як і было ў Ляткоўскіх.

Пракоп перавёў пагляд на сцены і, павярнуўшыся, грукнуў кулаком у адно, у другое бервяно.

— Прыйдзецца перасыпаць. Падрубы, мабыць, падгнілі, дый шашаль, бач, як точыць, аж парахня сыплецца.

— Мой Пракопка, без гаспадара жыўшы…

Але Сыс не даў дагаварыць Акіліне:

— Сваю хату я раскідаю. Лепшага поднаву нам не знайсці. У ёй яшчэ сцены — ого, адна смала. Падрубы, канечне, давядзецца мяняць. Вянкі са два дадам зверху, перакрыю шыферам…

Падпёршы рукою шчаку, Акіліна ўслухоўвалася ў Пракопавы словы, і ёй здавалася, што наперадзе ў яе яшчэ будзе многа шчасця.

— То ты і сам ужо ў калгасе асядай, будзем разам, — сказала яна.

Пракоп заматаў галавой:

— Н-не. У мяне ўжо ёсць служба — лепшае не трэба.

— Якая?

— Ты не бойся. Я буду тут. Сад пасадзім, пчол калод пяць паставім… Карову… Чакай, у цябе ж і цялушка ёсць?

— Ёсць, але ж карову я Глашы аддаю.

— Як гэта аддаеш? — падхапіўся Сыс. — Хіба віцінар сам сабе каровы не нажыве?

— Чаго ты затрапятаўся, — засмяялася Акіліна, — мне не шкада. Я думаю і цялушку на ферму здаць.

— Ты ўсё пааддавала б, — з папрокам сказаў Сыс, — а як жа самім жыць, калі я, скажам, на службе буду?

— На якой?

— А от на такой. Калі хочаш ведаць, згаварыўся я агентам ад сяльпа быць.

— У нас жа магазіншчыцаю Аўдотка.

— Аўдотка сабе, а я сабе. Я тавары бяру, знаеш, якія? Такіх у тваім магазіне ніколі не будзе. Скажам, хусткі: кашміроўкі, тараноўкі, канаплянкі. Бабам жа толькі дай — удвая, утрая заплацяць. Або ўзяўшы тыя ж дрожджы…

— То ты з гэтага хочаш жыць? — устрывожана перапытала Акіліна, як бы яшчэ не верачы, што ён гаворыць напраўду.

— Нейк жа трэба ўсталёўвацца, а ўдваіх з табою… — пачаў Сыс і не скончыў. Ён убачыў, што Акіліна адразу ж пашарэла з аблічча, а бляск яе вачэй сцьмеў.

Пракоп падсунуўся да яе і хацеў абняць. Але толькі дакрануўся, як яна, упаўшы тварам у калені, нечакана ўся закалацілася.

— Чаго ты, дурная? — сказаў Сыс і, не ведаючы, як супакоіць яе, дадаў: — Вяргінечка мая…

Акіліна падняла галаву, глянула на яго заплаканымі вачыма і, не хаваючы свае пагарды, сказала:

— Як мне цяжка ні было, а я за людзей трымалася, верыла, што на лепшае выб’емся. Каго ж ты хочаш ашукваць, урвіцель?..

— Акіліначка… — пераходзячы на пяшчотнасць у голасе, пачаў Сыс, — ты ж ведаеш, як я цябе люблю…

— Кончыліся любошчы! — сказала Акіліна. — Кончыліся!.. Ты ў маёй хаце другі раз, але ж і апошні!

Не пачуўшы, як, бразнуўшы слесаком у дзвярах, выйшаў Пракоп, яна так і асталася сядзець на лаве з краю стала.

Доўга сядзела Акіліна, перабіраючы ў памяці ўсё сваё жыццё, у якім было многа радасці, але ж нямала і гора.

«Але чаго ж, — падумала яна, — трымацца мне за сваё гора? Буду жыць і радавацца таму, чаму радуюцца людзі. От Глашу замуж аддала. Хай шчаслівa жыве. У гэтым і маё шчасце. А таго, што было ў нас з Усцімам, таго ўжо не будзе. Асталіся толькі яго песні, што і цяпер спяваюць ельніцкія хлопцы».

— Позна, — сказала ўголас яна, і слова гэтае тужліва азвалася ў душы.

Позна было і на вуліцы. Патушыўшы святло, якое толькі і гарэла ў адной яе хаце, Акіліна расчыніла акно.

Густыя восеньскія зоры трымцелі ў галлі бэзавага куста. У сівой расе прыгнуліся цёмныя вяргіні.

Пах позняй мацейкі быў ужо слабы. Яго перабівалі сваёй вострай духмянасцю высокія палыны, якія густа раслі па той бок плота.

Акіліне ўспомнілася, што шмат было палыну і каля яе дзявочай хаты, пад тымі бярвеннямі, дзе, абняўшыся з Усцімам, яны сядзелі аж пакуль не высвечваў усход. Палыны мяккімі лапамі выплішчваліся між бярвення і, расціснутыя, гэтак пахлі, што калі Усцім цалаваў яе, дык галава марачылася ад іх густога водару…

Цяпер гэта былі познія палыны, зрудзелыя і пруткія, як лаза.

Акіліна, выйшаўшы на вуліцу, пачала ламаць іх пры самых карэннях, а вярнуўшыся ў хату, звязала з іх тонкі замашны венік.

У хаце ўжо было відно, але ўсё яшчэ стаяў тытунёвы дым, ад якога яна даўно адвыкла.

Зняўшы са стала сурвэту, Акіліна заслала яго чыстым настольнікам.

Палыновым венікам яна змяла з падлогі склычаныя недакуркі і адчула, як пасвяжэла ў хаце, хоць і ведала, што ў глыбіні душы яшчэ доўга не супакоіцца яе сумная крыўда.

Палыновая духмянасць была прыемная, але ж і горкая, як удовіны слёзы.

*1960*

## ГУЛЯШЧЫ ХЛЕБ

Урвіцель, дык ён жа ж адразу і відзён па ўсіх яго выхілках, хоць і пнецца паказаць сябе: што-та я! Такога пазнаеш, як бы ён ні рызыдаваў, ні лез сляпіцаю ў вочы. З ім лепш не заводзься, не чапай. Хай яго сарочка не чапае. Ён настыраецца, а ты маўчы. І калі не хочаш цвяліць, то лепш гавары яму ў руку. Але ж і патачкі не давай, не папускайся, каб ва ўсім быў яго верх, бо няма ладу, да чаго ён можа дайсці з вялікае прапыхі.

* * *

Гэта ж як ішла сёлета мая дачка Любачка замуж, дык Пракоп жа Сыс траха вяселле не разагнаў.

Вы кажаце, не варт было зваць. А кадук яго зваў. Ён і нязваны ўсунецца. Дзе бяседа — носам чуе. І сам тут, а следам і Аўдотка, жонка. «Я, кажа, перакладчыцаю пры мужу». Яно і праўда, абы дарваўся, то гаворкі ўжо людскае не будзе: чаўпе, балабоніць, плявузгае, а што да чаго — не разбярэш. Толькі Аўдотка цераз

пень-калоду якое слова і ўловіць. А ён аж са скуры лузаецца, каб толькі яго слухалі. Сказаўшы вам, Аўдотка ж і ратавала Пракопа. То скокам, то бокам, то слязьмі, то юрлівымі сваімі чарнічнымі вачыма. Гэтак і сыходзіла Сысу.

Прабітная і хітрая, маладзейшая за Пракопа мо на год пятнаццаць, яна табе ўсюды дапне і даступіцца, паддобрыцца да кожнага, крыўду на жарт звядзе, спіну выгне, як тая ласіца, і куды хочаш праплішчыцца.

Хлопцы ўжо ці раз браліся правучыць Сыса, які, бывала, так разыдзецца, што гатоў на ражон лезці, а Аўдотка і тут рады дасць. Кінецца між мужчын, заслоніць дурня, растапырыць рукі, бліснe вачыма, ды яшчэ ж і віну на другіх пераложыць:

— Не грэх вам, хлопцы, майго старога крыўдзіць?..

А які ж ён стары? З мае ж раўні. Праўда, я ўжо дачку замуж аддаў, а ён звалокся быў недзе ззамаладу, дык толькі пасля вайны сыскаўся. Але ж у калгасе не захацеў быць, а ўсё круціўся, гуляшчага хлеба шукаў.

Яно ж так: адзін жыве і на лепшае спадзяецца, а другому хоць ты з калена вылამі, а гатоўку дай. Ды благой благаце не ўнаровіш і на куце. І праўда, убіўшыся ў лёгкую службу, Пракоп так злайдачыўся, што і Сыс ужо не Сыс, а посвісцел нейкі. Сам не ведае, чаго хоча.

Да ўдавы Акіліны Ляткоўскае спярша ў прымы рваўся, а як нічога не выйшла — бачым, ужо з сяльпа не вылазіць. З Аўдоткаю, з магазіншчыцаю, схаўрусаваў, усё планы нейкія строяць.

І так ужо злыгаўся, што як маладзён які завіхаецца.

Ы-ых, захадзіў будавацца, новую хату ставіць. Дзерава казённага нацягаў. Зруб яму, як звон, вычасалі і высклюдавалі. У горад меўся перавозіць, як толькі службу там знойдзе.

Але ж чужым, брат, не запаможашся. Чужое дабро вылазіць праз рабро. Калі кончылася яго гультайства, а Аўдотку па рэвізіі з магазіна турнулі, дык і пачалося між іх: гыркаюцца штодня, адно аднаго вінавацяць. Ён на яе: праз цябе ўсё! А яна на яго, што праз цябе. Разам з людзьмі ж не хочацца на работу ісці, паспытаўшы гуляшчага хлеба. Бегаў ён, бегаў і выбегаў-такі. Якраз брыгадзіра новага ставілі. Ну, каго ж? Знайшліся дружкі. Давайце Сыса! Памуляліся, згадзіліся. А ён ужо такім добрым прыкінуўся, так ужо шчыруе, хоць ты яго да раны прыкладай.

Я ўжо тады за даглядчыка на ферме быў. Гляджу, аж і Аўдотка з вядром у хлеў ідзе. Што такое, Аўдакія Піліпаўна? А хачу, кажа, на нізавой рабоце сябе паказаць, каб не ўпікалі, што брыгадзірава жонка гульма гуляе.

* * *

І пачалі ж яны паказваць сябе. Абое ўвыкшы жыць на дарэмшчыне, яны хацелі, каб іх і шанавалі, і паілі, і кармілі. А людзі ж усякія ёсць. Каторыя дык і рады ўставіць цябе ў бутлю, каб ты і нагою не дрыгнуў. І ўставілі. Тыя ж гады не гэтак было, як цяпер, што людзі зарань, яшчэ на цямочку бягуць, каб на работу не спазніцца, не страціць свайго працадня, — тады ж Пракоп, бывала, сам хроп да паўдня, а выспаўшыся, ішоў пападвоканню і грукаў у шыбу. І гэтак да тае хаты, чыя была чарга частаваць. З акна гукалі: «Пракоп Сямёнавіч, просім вас зайсці!» Пракоп заходзіў і далей ужо не ішоў.

І так рассабачыўся, што пасля ўжо куды сам захоча, туды і ідзе. А ўсунецца, то ўжо ж не выпхнеш, не справадзіш.

Нездарма смяяліся, што некалі пастух, і той па чарзе адбываў на пастоі, а гэты ж не ведае, дзе днюе, а дзе начуе. І абы пераступіў парог, дык і пачынаецца:

— От жа ж, на яго ліха, у роце смаліць, — і, павярнуўшыся ў мыцельнік, лезе з конаўкай у вядро.

— Што за бяда, што п’ецца вада? — пытаецца, як бы не знаючы, каторая маладзіца. — Ваша гаспадыня, нябось, ухадзілася. Мусібыць, яечню сённячы елі?

— Гаспадыня — хваста не падыме, — аджартоўваўся Сыс і махаў рукою. — Дзе там яечню, з учарашняга яшчэ смаліць…

— То, можа б, расолу, Пракоп Сямёнавіч?

Пракоп ставіў конаўку на лаву.

— Расолу, яно, канечне, лепш…

Гаспадыня бегла ў пограб. Заадно ўжо з расолам несла ў хату і місу гуркоў — жоўтых, вялізных, але гладкіх і храбусткіх. А Сыс, патаптаўшыся ў парозе і паглядзеўшы ў печ, зазначаў:

— Нешта ж дровы ў цябе нязырка гараць.

— Дзе ж тая зыркасць будзе, Пракопка? — расчульвалася жанчына. — Ведама ж, сыроцце яловае — пастраляе-пастраляе ды ўсё ў комін дымам і вылеціць.

— Ай-яй-яй, — мяняючы лагоднасць на дакор, гаварыў Сыс. — То трэ было ж сказаць. Гэта ж як у школу дровы вазілі, і табе б сухога аблетніку шуркі са дзве скінулі б.

— Я і сама прывезла б, Пракопка. Мне б каня…

— Пра што гаворка! — выкрыкваў Сыс, усё яшчэ стоячы ў парозе і скручваючы з газеты папяросіну.

Ён доўга клычыў зубамі паперу, выскаліўшыся, абгрызаў яе, пасля прылізваў языком. А ўставіўшы ў рот тоўстую нязграбную суслу, згінаўся ўвесь і аж па пояс лез галавою ў чалеснікі, каб дастаць яловы асмалак.

Тым часам каля місы з жоўтымі гуркамі стаяла ўжо высозная запацелая вінарка, з рыльца якой тырчала саламянае заткла, абкручанае паркалёвай анучкай.

— То што нашча глытаць гэты куродым, — завіхаючыся ля стала, казала павесялелая гаспадыня.

— Яно, канечне, для здароўя… — згаджаўся Сыс, здымаючы парудзелую камандзірскую шапку з прыломленым казырком.

Суконны кіцель з блішчастымі гузікамі і высокім каўняром да самага гарляка, галіфэ, ссунутае на халявы, — цяпер не вельмі ўжо рабілі яго стройным.

Маладзіла яго яшчэ густаватая шэрая чупрына, што, як толькі ён здымаў шапку, спружыніста падымалася на галаве.

Паклаўшы шапку обак, Пракоп садзіўся на лаву, бліжэй падсоўваючыся да покуці.

— Форма! — весела выкрыкваў ён, надаючы гэтаму слову адменны, аднаму яму зразумелы сэнс.

Неўзабаве паяўлялася і жонка.

— І ты тут? — як бы ў здзіўленні спынялася яна ў качарэжніку.

— Чаго табе, Аўдакія? — пытаўся дзеля формы Сыс, а жонка, на хаду выдумляючы зачэпку, ужо гаварыла гаспадыні:

— Гэта ж, суседка, бойкі прыйшла ў цябе пазычыць. Масла збіць…

Суседка сама сабе ўсміхалася: якое там масла! Карова ж у Сысаў без пары запусцілася. І ўсё цераз саміх жа. Бо калі на паканец рук пайшлося, то дабра не глядзі.

* * *

А пайшлося з таго. Як падалася Аўдотка ў даяркі, стаў заўважаць я, няўрокам кажучы, пакруглела баба. Ну, думаю, работа ёй на карысць пайшла: увачавідкі змянілася, праўда, не так з твару, як з фігуры. Што ж, і гэта добра — значыць, будзе Пракопу прыбытак. Толькі што за ліха? Сустракаю цераз дзень на вуліцы і вачам не веру: баба як і была — ані знаку. Няўжо ж, не пры нас кажучы, да часу скінула? Але таго ж дня, як прыйшла яна даіць, я зноў прыгледзеўся і яшчэ болей здзівіўся — гэтак набэнчыла маладзіцу.

Можа, хвароба якая? Ну але, паціху падышоўшы, чую: як толькі нагнулася яна, дык нешта так забулькатала ў жываце, што Аўдотка толькі зубамі скрыгатнула.

Стаю я сабе, стуліўшыся за сціртаю саломы, і ўсё пра гэтую дзіўную хваробу разважаю. Гэта ж так, думаю, небарака, жыватом кволіцца, а маўчыць жа і работу робіць.

А Аўдотка тым часам, падаіўшы адну карову, зірканула па кутках і, разагнуўшыся, дастае з-пад кофты грэлку. Я ад сораму не знаю куды дзецца. От жа ж, думаю, пакутніца…

Але што гэта? Дастаўшы адну, Аўдотка падымае спадніцу і, шануючы вас, з рэйтузаў вымае і другую.

Э-э! Гэта хвароба, але не такая, як я думаў. Адкруціўшы накрыўкі, яна шаснула ваду ў надоенае малако, а парожнія грэлкі схавала зноў.

«Пачакай жа ты, шэльма, — рашыў я. — Ты хітрая зладзейка, але што з тае хітрасці выйдзе».

Падаіўшы другую карову ў новае вядро, Аўдотка зноў насцярожліва агледзелася і пачала наліваць малако ў грэлкі. Поўную зноў запраторыла ў свой надзейны патайнік, а другую ледзь паспела закруціць, як я з-за сцірты: ага, то ты гэтак, галубка!

Бачачы, што ёй ужо не выкруціцца, Аўдотка з усяго маху шпурнула грэлку ад сябе, а потым, схапіўшы ля сцірты ражкі, парнула імі ў гладкую чырвоную гуму. Грэлка толькі пырснула, а Аўдотка падскочыла і нагамі ўтаптала яе ў гной.

На нашу гаману збегліся даглядчыкі і даяркі, дапытваючыся, што здарылася. А тое, кажу, што маладзіца абрадзілася! І павялі яе ў праўленне…

* * *

Ну і от каб жа ж у іх спытаўся, у Сысаў гэтых, — няўжо ж вам было мала свайго, удваіх душою жыўшы?

Праўда, таго ж вечара Пракоп і раз’ятрыўся, штоператоўк усе гладышы, якія толькі былі ў хаце, у сенцах і ў паграбе. Падыме і вобземлю — трах! А пасля агледзеўся, што многія ўжо састояліся смятанаю, і адумаўся. Шкада стала. Але не адступаць жа перад жонкаю. Тады ён возьме гладыш, з’есць зверху смятану — бразь аб падлогу. І так, пакуль не пералузаў усіх.

Казалі, гэтак быў разышоўся, што гвалтам валок Аўдотку ў сельсавет на развод. А на чорта быў яму той развод, калі ж і жаніцьбы ніякае не было, бо, як тая казала, жаніліся пад плотам, а вянец быў потым.

Пасля таго, чуем, аціх наш Сыс. Шапку на вочы насунуў і з людзьмі не абзываецца. А з жонкаю зноў нешта замышляюць. І хоць жывуць як кот з сабакам, а ўсё ж адно без аднаго не могуць.

Гэтак цераз крадзенае і сваё страцілі. Без пары кароўку знявечылі. Як толькі пасварацца між сабою, дык жонка, не хочучы карміць мужа, бярэ кубачак і ідзе ў хлеў, нацыркае, як адной пад'есці, — і пашумела па суседзях балясы тачыць. Мужык трывае-трывае, а потым і ён ідзе, каб і самому выціснуць якую шклянку. Так от і збаёдавалі жывёліну, а пасля збылі ні за панюх табакі, як заморaную ялаўку. А цяпер ужо і на зруб пакупнікоў шукаюць, пакуль не згніў…

* * *

Памяць мяне пад старасць трохі падводзіць. Запабегшы наперад, забыўся, з чаго пачаў. А-а! З вяселля, калі мая Любачка замуж ішла. І калі ўжо да слова прыйшлося, то скажу вам: харошы зяць у мяне, з тых жа Баравіч, што з намі паядналіся. І калгасы нашы паядналіся, і людзі між сабой пачынаюць радніцца. Сёлета ў Баравічах аж сем вяселляў згулялі, ды і ў нас, у Ельнічах, нешта каля пяці.

Ага, дык з вяселля ў нас з Пракопам пачалося і на вяселлі ж яно і кончылася.

Так жа ж неўзлюбіў мяне Сыс і за грэлкі Аўдотчыны, і за тое, што неўзабаве самога пагналі, што каб прымеў, дык жыўцом з'еў бы. У сяльпе быў разбушаваўся і так ужо мяне бэсціў, так бэсціў: «Цераз Есіпа Хаценчыка свет гарыць! Цераз Хаценчыка гіну!» Я, каб быў пры гэтым, сказаў бы яму: Есіп Хаценчык вока нікому не запарушыў. Што ты да мяне маеш, брыдасць ты гэтакая? Сам жа сабе выграб яму, дык сам і лезь у яе. Праўда заўсёды верх возьме! А за праўду ты, брат, мне нічога не зробіш. Хоць і грозен рак, ды ззаду вочы. Як стаяў я на сваёй пасадзе пры каровах, так і стаю, і ніхто слова благога не скажа пра маю службу.

На тым часе, як ён нязваны-няпрошаны ўсунуўся ў маю хату, я ўжо скеміў, што дабра не будзе.

За свата ў мяне сядзеў Красан Грэк, наш новы ельніцкі брыгадзір, чалавек самавіты і разважны. І толькі каравайніцы ўнеслі на ручніках вялізны, як рэшата, пірог і заспявалі:

Ляці, ляці, каравай, з клеці
І займі ж свой пасад ты на покуці,

і толькі сват пачаў запрашаць гасцей, надзяляючы кожнага, як з дзвярэй вытknуўся Сыс і адразу ж — да стала.

Намацаўшы ў кішэнях абвіслага галіфэ пяцірублёўку, ён локцямі паадгрэбаў гасцей, каторыя клалі на талерку і па пяцьдзясят і па сотні, і, хістаючыся, дабраўся ўжо быў да каравая, як Красан Грэк спакойна ўзяў яго за руку і паціху сказаў:

— Пачакай, няхай спярша блізкая радня…

— А хто блізкі? — заеўся Сыс, хапіў свата загрудкі і разлупіў яму рубашку з каўняра да самага нізу. — Ты блізкі? — выгукнуў ён. — Ты ўжо тут радня?

— А хто ж? — усхапіліся госці з усіх чатырох сталоў. — За Красанам от не жадны ні хлебу, ні салу, ні малаку. Караваі пяком, вяселлі спраўляем!..

— Ціха, суседзі… — сказаў Красан і ўсміхнуўся. — Не за мною, а за часам добрым, калі на лад жыццё пайшло, калі прыціснулі гультаёў, ласых на дарэмшчыну. Кончыўся гуляшчы хлеб!

— А-а! — вызверыўся Сыс і асавелымі вачыма ўтаропіўся ў Красана. Моўчкі ён яшчэ бліжэй падступіў да свата, ашалела сапучы яму ў твар.

— Г-гу-ля-шчы хл-леб!.. — пераказаў ён брыгадзіравы словы, вымаўляючы кожнае са злосным прыціскам, і стаў адводзіць з-за пляча свой цяжкі куксаваты кулак.

Але два шаферы, што сядзелі обак маладога, ужо вылезлі з-за стала і былі напагатове. Яны схапілі Сыса за рукі і заламалі іх назад. Пракоп скрыгатнуў зубамі і звяў.

Хлопцы вывелі яго ў паветку і пхнулі на саламяную пацяруху, сцыркляваную мышамі. Ці то рэзкі мышыны смурод гэтак даў яму ў нос, ці то разабрала яго на вячэрнім паветры, ён адразу ж звіўся і заснуў.

І няхай бы ж сабе спаў. А то чорт яго ведае, што яму здалося — ужо зусім упоцемку ўлез у старую бочку, што ляжала ў павеці, і, не цямячы, дзе ён, стаў галавою біць у дно.

Гэтак ён выпаўз у двор, а з двара на вуліцу, высадзіўшы нарэшце дубовае днішча.

Малыя падшыванцы, убачыўшы неспадзяваную праяву — Сыса ў бочцы, галава якога вытыркала з аднаго канца, а ногі з другога, — пачалі скакаць і галёкаць вакол дзіва.

Сасмаглы Сыс, стогнучы з цяжкага ўвяроду, мармытаў толькі адно:

— Ой, смаліць!.. Ой жа смаліць!.. Капніце мне ў рот расолу…

Адзін жулікаваты гарэзнік, разабраўшы Сысаву просьбу, падышоў і над самай Пракопавай зяпай пачаў, шануючы вас,

расшпільваць прарэшыну… Добра, што якраз прыбегла Аўдотка, выбавіла свайго мужыка з бяды і павяла дадому…

Надоечы казалі ў праўленні, што завербаваліся нашы Сысы зноў з’ехаць некуды вельмі ж далёка, на лясныя распрацоўкі нібыта.

Што ж, можа, за розум возьмуцца. Няхай паспытаюць свайго хлеба.

*1960*

## БАРАВІЦКІЯ МУЗЫКІ

### I

Слава пра іх ішла далёка. Над баравіцкіх няма лепшых музык — казалі скрозь. І гэта была праўда.

Грымелі яны не толькі ў Баравічах і Ельнічах. Наймалі іх ажно за свет, пад самае Палессе — вунь у Пятніцы і ў Белае Балота, куды рэдка хто з нас і дапінаў.

Ужо адно, што не абы-хто, а ігралі баравіцкія, само па сабе вызначала і важнасць такой падзеі, як вяселле, і трываласць жыцця людзей, што звязалі свой лёс.

Гэта не тое, што парыпаў гармонік, пабрэнкаў у талеркі барабаншчык, патаўклі, як мак камары, перад хатаю дзве-тры пары — і жывіце сабе, маладыя, як знаеце. Таму яно ж і выходзіць: сёння пажаніліся, а назаўтра забыліся.

Не, калі ўжо ігралі баравіцкія, то на ўсё жыццё. У нас і заваду не было, каб, ажаніўшыся, пасля разжэньваліся. Гэта асарамаціла б не толькі маладых і ўсё іх сваяўства да дзясятага калена, а і саміх музык.

Каторыя казалі — гэта лёгкая рука ў Антона Саколіча, які кіраваў баравіцкаю капэлаю.

Ну але, лёгкая. Ён гэтак далікатна выцінаў на скрыпцы, што не згледзець было, як лётае смык і як спрытна па струнах бегаюць пальцы.

Здаецца, колькі там тае Антонавай скрыпкі, а ўся капэла — адзінаццаць чалавек з барабаншчыкам — вока з яе не спускалі.

Баравіцкія іграюць па нотах — казалі ў нас. І гэта яшчэ вышэй падымала іх славу.

Антон так ужо быў выманежыў сваіх хлопцаў, што калі, скажам, флейта выткнулася не ў пару, або, крый божа, генерал-бас раўнуў праз меру, то глядзі, што заробіш па вушах смыком.

На людзях яно яшчэ сыходзіла, а на сыграўках даставалася. Толькі ніхто не крыўдаваў. Лічылася за гонар быць у Антонавай капэле. Таму і стараліся з усіх жыл, і, можа, нават лішне.

Толькі аднаго разу, здаецца, недзе за Белым Балотам, Плюндрыкаў Саш траха не абняславіў усяе капэлы.

Па бяседзе, калі ўжо ўся гасціна высыпала на двор выпраўляць маладую ў жаніхоў дом, калі музыкам належала ўжо стаяць у варотах, Антон спахапіўся, што няма Саша. Неўзабаве ўсе ўбачылі, як малы, жылаваты недаростак выскачыў з сянец, на хаду даядаючы паўкруга каўбасы.

— Плюндрык яшчэ не нажорся! — паціху, але злосна сказаў Антон.

— Не штука з голаду дайсці пры такой рабоце, — апраўдваючыся, пачаў Саш. — Пападзьмі ў гэту прорву — усе духі выдзьмеш.

Антон грозным позіркам акінуў капэлу і ўзмахнуў смыкам: гэта быў развітальны марш.

Суладна ўтуравалі скрыпкі, высвіствалі флейты, роўна вялі свой лад кларнеты, радасна гучала медзь талерак, бадзёра адмерваў свае ўдары бубен, трымаючыся такта, роў генерал-бас, і толькі Сашава труба ніяк не магла патрапіць у тон маршу, дзе ёй якраз належала браць самыя высокія ўрачыстыя ноты.

Капельмайстар адчуў, што Плюндрык збіўся з тропу, і даў яму знак сціхнуць. Але ў гэты час пачуўся гук, зусім не ўласцівы трубе. І, каб заглушыць яго, Саш, выпінаючыся з усяе змогі, затрубіў так, што зусім заглушыў аркестр.

Людзі, занятыя вясельным клопатам, не ўдаваліся ў тонкасці Сашавай ігры, таму здарэння ніхто не заўважыў.

І ўсё ж, вярнуўшыся ў Баравічы, Антон прагнаў Плюндрыка з капэлы.

Слава баравіцкіх музык асталася бездакорнай. І колькі было сыграна вяселляў па ўсёй нашай мясцовасці — наўрад ці хто злічыў бы.

Антон ужо быў сівы, сухі дзядок і даўно сам не ездзіў па вяселлях, а пра яго капэлу ўсё адно казалі: «Іграе Антон баравіцкі». А пасля і на ўсіх баравіцкіх музык разышлося яго імя. Кожнага з іх пачалі зваць Антонам. «Вяселле ігралі Антоны».

За сваё жыццё Антон, бывала, у кожнай хаце іграў па пяць, па шэсць вяселляў: спярша сваім равеснікам, потым іх дзецям, а пасля і ўнукам.

На Антонавай памяці столькі жанілася і столькі выходзіла замуж, што ў старасці ён пачаў і забывацца — каму іграў. Затое памяталі людзі.

Дзіва што, праязджаючы ці праходзячы баравіцкаю вуліцаю, кожны заўсёды пра Антона пытаўся: як жыў-здароў. А каторыя і ў хату заходзілі.

Антон варушыць-варушыць сваю старэчую памяць, а чалавек дзівіцца, як гэта можна было забыць такую падзею, што была ў свеце, калі ён жаніўся.

— Вы ж мне вяселле ігралі! Маціхвейчык я!

— А-а, — ківае галавою стары.

— Памятаеце, у Жываглодавічах перад хатаю ясень расце? А браў я сабе жонку з-за Слуцка, з Квасыніч, з самае крайняе хаты, што ў тое лета была з грому загарэлася. А спазнаўся я з ёю, як яна яшчэ дзеўкаю прыязджала да цёткі. Гэта ж яе цётка за Яўтропам Шамецькам трэцяю жонкаю, нявенчанаю пайшла, на сумленне. Дык як прыехала яна, значыцца…

— То ты пра цётку? — перапытвае Антон.

— Якую цётку? — адмахваецца жываглодавец. — На чорта мне тая цётка! Я пра жонку сваю, пра Настусю, калі яна яшчэ дзеўкаю была. Значыцца, прыехала яна ў Жываглодавічы, хлопцы нашы — гужам. А я сабе думаю: э-э! Гэта ад таго, што ты госця, падчапурылася, паднядзелілася, паглядзім, галубка, якая ты ў будзень. Бо не дурны ж выдумаў: не выбірай кабылы ў дождж, а жонкі ў свята. Ну але. У дождж кожная кабыла бліш-чыць, а ў свята любая дзеўка — каралева. Аж бачу, і ў рабоце мая Настуся — як тая півоня. Тут я і падумаў: э-э…

— То як жывяце? — крычыць Антон. Ён ужо даўно недачувае і думае, што гаворыць паціху.

— Добра жывом, — адказвае гаваркі жываглодавец. — От ужо дваццаць пяць год, а як той адзін дзень. Ані разу не пабілі-ся, не пасварыліся. Недарма казалі — лёгкая рука ў вас, Антон Сававіч. Каму ні ігралі — жывуць людзі. А яно ж гэтак: якое вяселле, такая ж потым і жызь. Калі завязаўся моцны вузел, то і ўвесь век не развяжацца. Вашы ж хлопцы маёй дачцэ ўжо ігралі, Алене. Пайшла ў Сенніцу за Нікана, за Малібошку, што ў кузні робіць. Мо ж знаеце, з заечаю губою каторы. Але ж, праўда, ён цяпер пры вусах, то губы тае і не відаць. Іначай сказаўшы вам, дык ваш баравіцкі Міхаль Швед, што ўзяў з Ельніч Хацяновіча-вых Лукерку, зяцю майму па мацеры траха не родны дзядзька…

Антон, стомлены лапатлівай, не мужчынскаю гаворкаю, маўчыць, але яму ўсё ж прыемна, што людзі не забываюць яго і, мабыць, ніколі не забудуць.

А жываглодаўскі трапятун вядзе сваё:

— Гэта ж я да вас з просьбаю, Антон Сававіч, каб вашы хлопцы ў нядзелю падскочылі з дудкамі. Наш старшыня машыну

дасць. Меншага сына жаніць буду. Згуляем вяселле, і паедуць яны з жонкаю аж за Клецк. Там яны абое недзе на аграномскай службе. Цяпер у мяне ў хаце толькі серадольшая дачка асталася — прымака будзем браць.

Стары Саколіч ужо даўно не чуе, пра што яму гаворыць жываглодаўскі лапатун, і толькі накіўвае галавою.

— Дык прыедуць хлопцы? — перапытвае жываглодавец, крычучы Антону ў вуха, зарослае густымі сівымі валасамі.

— Не, братка, не прыедуць, — уздыхае Антон, і на старыя яго белыя вочы кладзецца цень душэўнай скрухі. — Раскідалася, братка, мая капэла.

— Як раскідалася? — не верыць трапяткі Маціхвейчык. — Ото та ж у Чапялях ігралі.

— Ат, якое там было ігранне, — махае рукой Антон. — Бухалі ў трубы, як балотныя бугаі: гух-гух! А што радасці з такое музыкі? І я сказаў: хлопцы, памру, тады як сабе хочаце, а пакуль жыў — не дазволю сарамаціць мяне!.. Няма… — сказаў са смуткам у голасе Антон, — няма рукі над імі. А такія струманты, такія струманты справіў калгас! Дванаццаць тысяч не пашкадавала праўленне. Трубы купілі, спрэс новыя, зіхацяць, здэцца, аж золата капаціць з іх. Цяпер хоць у самім Мінску паказвай, якія ёсць баравіцкія музыкі. Дык жа ж параздурвалі хлопцы. Паслухаеш — вушы вянуць: хто ў лес, а хто па дровы. Як тыя раённыя пажарнікі: ім вяселле ці хаўтуры — усё адно, абы павіннасць адбыць.

Стары скрыпач, ухапіўшы жываглодаўца за гузік пінжака, гатоў быў цяпер сам гаварыць і гаварыць…

## II

Уся надзея была на ўнука, на Алёшу.

Два Антонавы сыны, якія ігралі ў капэле, загінулі на вайне. А з усіх унукаў толькі адзін Алёшка пайшоў па дзеду. Змалку налажыўся ўтураваць на скрыпцы, а потым і іграць. Здаралася, што разам з дзедам ён выязджаў і ў далёкія сёлы. Але яго абмінулі спакусы, якія вабілі некаторых баравіцкіх хлопцаў: ушыцца ў музыкі, каб папагуляць, папафатыгаваць на старане і папапіць чужое гарэлкі. Антон трымаў унука ў струне. Алёша сама што вучыўся.

У баравіцкай школе ён лепш за ўсіх іграў на скрыпцы, не раз займаючы першыя месцы ў самадзейнасці і ў раёне, і ў вобласці, а перад выпускам узяў прэмію і ў Мінску.

Паездка ў Мінск павярнула ўсё Алёшава жыццё.

Ужо тое, што з Баравіч у сталіцу ён паехаў не адзін, а з Лораю Лапіцкаю, за якую не знаў лепшае ў свеце спявачкі, ужо гэта адно было шчасцем.

…Урачыстасць свята, якое ішло ажно пяць дзён, радасны настрой людзей, што з'ехаліся з усіх канцоў рэспублікі, усё гэта перадалося і пачуццям Алёшы, і пачуццям Лоры. Разам яны хадзілі са студэнцкага інтэрната, куды іх пасялілі, у Палац культуры на Цэнтральнай плошчы, дзе ўдзень вяліся рэпетыцыі, а ўвечары ішлі канцэрты.

На апошнім, заключным вечары перапоўненая зала доўга пляскала ў далоні, пакуль Лора, якая спявала смешныя і вясёлыя «Таўкачыкі», не выйшла і яшчэ раз не праспявала іх.

Лапіцкая выйшла на сцэну ў сваім новым плацці з блакітнага шоўку. Тонкае ў таліі і шырокае кнізу, яно рабіла Лору падобнай на сапраўдную артыстку. Каб заняць чым рукі, яна трымала перад сабой маленькую запісную кніжачку з дзвюма незабудкамі на аксамітнай вокладцы. Гэта быў Алёшаў падарунак, куплены ў дзень канцэрта.

Не ў такім ужо новым, але старанна адпрасаваным шавіётавым касцюме, з белым каўняром кашулі поверх пінжака, Саколіч здаўся Лоры як бы разгубленым і бездапаможным на сцэне. Яго бялявы, прымочаны адэкалонам бокс адразу ж рассыпаўся, як толькі Алёша ўзмахнуў смычком. Баравіцкая скрыпка ў зіхатлівым святле тэатра была такая сіратліва сціплая, што Лора траха не заплакала. Аднак пасля першых удараў смычка яна ж і супакоілася: рука ў Алёшы была цвёрдая і ўпэўненая. Антонава скрыпка, якая нямала весяліла людзей за свой век, не падвяла і яго ўнука.

Алёшу не выклікалі на біс, але сыграная ім «Кампанела» была высока ацэнена журы, і прафесар з кансерваторыі сказаў: «Музыка — ваша прызванне, малады чалавек. Спадзяюся яшчэ сустрэцца з вамі».

Поўныя душэўнай урачыстасці, Лора з Алёшам, да канца вечара выстаяўшы за сцэнай, глядзелі і слухалі, як выступалі шчаслівыя пераможцы, што завяршалі гэтае свята.

Незаўважна для саміх сябе, калі закрывалася заслона, яны, схаваныя яе шырокай складкаю, прытуліліся шчакою да шчакі і, сцішыўшыся, пачулі, як суладна спяваюць іх сэрцы адну радасную песню. І хоць гэта была іх першая блізкасць, яны не здзівіліся яе нечаканасці, бо ўжо ведалі, што між імі ёсць тое адзінае, толькі ім зразумелае шчасце, якое павінна з'яднаць іх назаўсёды.

Час, які аставаўся да заканчэння школы, праляцеў як у сне. Для Алёшы і для Лоры дарога была ясная. Яны наважылі прысвяціць сябе таму прыгожаму служэнню людзям, якое называецца — мастацтва.

У Баравічах ужо ведалі, што Алёша і Лора будуць вучыцца на артыстаў.

Сам па сабе гэты погалас вымушаў ужо і Лору і Алёшу трымацца іначай ад усіх тых, хто канчаў разам з імі школу, але ведаў, што не кожнаму даецца талент.

Нельга было не заўважыць, што Алёша ўжо не выстрыгае чупрыны пад бокс, а старанна заломвае яе назад, прыціскаючы кепкаю: неўзабаве яго густыя валасы ўжо даставалі каўняра. Падрэзаныя роўна, як застрэшак, яны аблягалі яго загарэлы твар, закрываючы вушы.

Цяпер на вечарынках, танцуючы з адною Лораю, Алёша браў яе круглы грабянец і прышпільваў сваю шавялюру, каб яна не раскідалася і не закрывала яму вачэй.

Баравіцкія і ельніцкія дзяўчаты на кожнай вечарынцы або калі кінаўшчык прывозіў новую карціну, сабраўшыся, з прагнай цікаўнасцю аглядалі Лору. Уласна кажучы, не так самую Лору, як яе плацці. І ўсякі раз — новыя.

І хоць гэта былі не шаўкі, не крэпдэшыны і не крэп-жаржэты, а тыя ж самыя штапелі, што і ў іх, але як яны былі пашытыя! Што ні плацце, то дзіва! Адно аблягае не толькі стан, але і ногі, робячы ўсю постаць высокай і тонкай. Другое, у буйных маках, вузкае ў поясе, шырознымі фальбонамі разыходзіцца ўнізе, і выдае ў ім Лора з яе чорнымі кароткімі валасамі, падвязанымі чырвонай істужкай, ужо не Лорай, а красуняй-цыганкай. Назаўтра яе ўжо бачылі ў Ельнічах у белай блузачцы без рукавоў і ў сіняй спадніцы, сплісаванай у дробныя складачкі.

Дзіва, што ў тое лета нават самыя вядомыя баравіцкія модніцы прызналі сябе пераможанымі. Між дзяўчат часта можна было пачуць: «Фасон зняты ў Лоры».

І трэба прызнаць, што гэтае захапленне нашых дзяўчат модамі і пераймaнне фасонаў, пачатае з Лапіцкай, мела вельмі важнае значэнне не толькі для Баравіч, а для ўсяго наваколля.

Якраз з гэтае пары ў нас пачала выводзіцца даўняя благая завядзёнка — шыць не на свой густ, не па сабе, а «здымаць фасон».

У нас жа як заўсёды рабілася?

Згаворваліся між сабой таварышкі, набіралі аднае крамніны і шылі аднакія плацці. Прыйшоўшы на вяселле або на музыкі, яны ўжо, не раўнуючы, як авечкі, трымаліся адна пры адной, пораўне дзелячы славу вялікіх модніц. Бывала, сыдзецца цэлы

гурт такіх «сясцёр», і хлопцу не так ужо і лёгка разабрацца, з каторай танцаваў вальс, з каторай польку, а з каторай згаварыўся разам ісці дадому.

Пасля таго як баравіцкія, а за імі і ельніцкія дзяўчаты ўбачылі, што за Лораю ўсё адно не ўгонішся, яны змянілі сваю палітыку і ўхапіліся за тое, што было галоўным у выбары моды, гэта — шыць на сябе.

Шыць мала хто ўмеў з нашых дзяўчат. А якраз у гэтым і была сіла Лоры Лапіцкай: яна шыла на сябе сама, па сваёй, як у нас кажуць, фантазіі.

Як толькі здаўмеліся дзяўчаты, што мода робіцца сваімі рукамі, тады разгарнулася ў нас новая кампанія.

Пачаўшыся восенню з Баравіч, яна зімою ўжо ахапіла ўсю навакольную разлегласць і дакацілася да самага Мінска.

Вы, можа, заўважылі, якая калатня падымалася ў ГУМе, які стаяў розгалас на ўсе тры паверхі, калі «выкідаліся» швейныя машыны. Праўда, іх ніхто нікуды не выкідаў — гэта толькі так гаворыцца. Машыны прадаваліся ў парадку жывой чаргі. Але на тое ж і чарга, ды яшчэ жывая, каб з самае будзённае з’явы зрабіць траха не найвялікшую падзею.

Дзяўчаты ў жоўтых кажушках са зборкамі і без зборак, у цёмных хустках-канаплянках, мужчыны ў неданошаных шынялях, хлопцы ў суконных бравэрках, у шапках з дзюбастымі казыркамі, са звязанымі над ілбом навушнікамі, распараныя, як у лазні, але шчаслівыя, прабіўшыся праз густы натоўп, выходзілі са сваімі нялёгкімі пакупкамі з магазіна і яшчэ доўга аддыхваліся на вуліцы.

Па меры таго як машына знаходзіла сваю дарогу да кожнае швачкі, кампанія пачынала спадаць.

Не ўсе панавучваліся шыць, затое лепш пачалі разбірацца ў тым, што і ў паркаль можна прыгожа адзецца, а бывае — пашыўшы і з аксаміту, будзеш хадзіць, як у мяшку.

У нас ужо не прызнаюць пагаворкі: прыбяры пня, дык і пень будзе харош.

Калі пень, то ён і будзе пень, як ты яго ні прыбірай.

## III

Лора моцна трымалася за сваю славу.

«Артыстка» так прыстала да яе, што гэта ўжо было як званне.

Лора адчувала, з якой радасцю браў яе на танцы Аляксей Саколіч, у якога толькі ў аднаго і хапала адвагі падысці і запрасіць яе.

Яна ведала сілу сваёй усмешкі, позірку сваіх вачэй, поўных такога зыркага святла, што яго трэба было прыкрываць густымі чорнымі вейкамі, каб яно не сляпіла даверлівых сэрцаў.

Адзін Алёша і быў увесь час каля яе.

Гэтак бы яно і ішлося, каб на майскія святы ў Баравічах не паявіўся Плюндрыкаў Саш.

У нас усе ведалі Саша. З тае пары як Антон прагнаў хлопца з капэлы, ён з'ехаў у горад, сказаўшы, што са сваёй трубою нідзе не прападзе, а ў Баравічах яшчэ не раз і пазайздросцяць яму.

І сапраўды, у сваім спрэс новенькім жоўтым паліто па калені і ў зялёным капелюшы ён выклікаў немалую цікавасць не толькі ў Баравічах, а і ў Ельнічах.

Прыйшоўшы ў ельніцкі клуб, Саш стаў цэнтрам усяе ўвагі.

Варвон Крук, які іграў вечарынку, ужо загадзя ведаў, што Саш мае з'явіцца неўзабаве, і таму, рыпаючы польку, штораз выцягваў шыю і зазіраў у акно.

Згледзеўшы госця на вуліцы, ён прыпыніў танец, усхапіўся з кутка і з гармонікам кінуўся да самых дзвярэй. Услед за ім яго памочнік Петрык валок цяжкі турэцкі бубен.

Пакуль збітыя з тропу пары дакручваліся без музыкі, Варвон сам расчыніў на поўны росхліст дзверы і расцягнуў гармонік, перабіраючы сваімі кароткімі каструбаватымі пальцамі белыя гузікі на маляванай планцы.

Петрык, падняўшы талеркі і бразнуўшы адна аб адну, стаў лупіць у бубен.

Што гэта быў марш, а не што іншае, можна было здагадацца не па Варвонавай ігры, а па тым, як Петрык тоўк у тугую скуратовую бакавіну.

Праўдзівей кажучы, што б ні іграў Варвон, усё яго іграннe можна было вызначыць адным прыблізным матывам: тува-рува, рува-тува.

Не дзіва, што такі разважны чалавек, як даглядчык ельніцкай фермы Есіп Хаценчык, паслухаўшы Варвона Крука, сказаў сваёй жонцы: «Марфа, гэта не музыкі. Гармонік у адзін бок вядзе, бубен — у другі, а пары круцяцца, хто як хоча».

Бадай што гэта ёсць самы дакладны аналіз Варвонавай ігры, бо Есіп Хаценчык у нас лічыцца знаўцам музыкі.

Галоўнай Варвонавай сілай быў бубен, і, дзякуючы яму, жыццё ў Ельнічах не спынялася.

Сваім парадкам ішлі вяселлі і спраўляліся вечарынкі.

І не толькі ў Ельнічах, а і ў Баравічах. У тых самых Баравічах, дзе яшчэ зусім нядаўна грымела славутая Антонава капэла. Нават

тут ужо не саромеліся наймаць Варвона, бо, сказаўшы ж вам, іншае рады і не было: не пакінуць жа людзі жаніцца.

Варвон Крук гэта добра знаў. І таму ніхто так не радаваўся, што баравіцкая капэла раскідалася, як ён.

Прабітны і ўчэпісты, Крук не вельмі ўлягаў у калгасную работу. Ён шукаў спосабу, каб як лягчэй пражыць, не рупячыся пра іншых. Гаворачы пра сябе самога, ён заўсёды прыбядняўся: «Мы — радавыя, што скажа начальства, тое і робім». Але, не вельмі кідаючыся рабіць, гатоў быў рассыпацца дробным макам, нават прынізіцца, каб толькі ўрваць у кішэню.

Не маючы аніякага слыху, не ўмеючы адрозніваць кадрылі ад падэспаня, Варвон, як памёр стары Саколіч і распалася яго капэла, адразу ж носам пачуў, што ў паветры запахла немалымі прыбыткамі. І каб ніхто не перахапіў іх, неўзабаве ж абзадачыў на рынку ў аднаго інваліда гармонік, а пасля напытаў і прывалок аднекуль з далёкага сяла нікому там не патрэбны бубен. Выпраставшы яго пагнуты абечак, пасшываўшы чорнаю дратваю дзіркі і насадзіўшы на іх новыя латы, Варвон, каб ні з кім не дзяліць заработкаў, упрог у хаўрус свайго сына Петрыка, не даўшы яму давучыцца ў школе. «З навукі не вельмі разгорнешся, — сказаў ён, — а пры жывых грашах не прападзеш».

І праўда, прайшло не так многа часу, як Варвон пачаў «раздзімаць кадзіла».

Антон баравіцкі, аб’ездзіўшы за свой век усе навакольныя вёскі, так і не разжыўся на вясельных заработках, памёршы ў старой хатцы, а Варвон ельніцкі паставіў ужо сабе дом з цэлаю надбудоваю наверсе, загадзя разлічваючы на сынаву жаніцьбу.

Сам ён, як і раней, гнуўся ў вышмараваным пажарніцкім шынельчыку з блішчастымі гузікамі, купленым траха не дарма на барахолаўцы, але хцівасці яго ўжо не было межаў.

Баючыся ўпусціць вяселле, ён загадзя выпытваў па сёлах, дзе што наклёўваецца, каб планаваць свой графік.

«Нікуды ж не дзенуцца, — казаў ён сам сабе і радасна паціраў рукі, — усё адно ж мяне прыедуць гадзіць». І ўжо не самі маладыя, а ён вызначаў дні, калі гуляць вяселле.

Ад просьбітаў не было адбою, і Варвон ледзьве ўпраўляўся, ездзячы па сёлах, іграючы вяселлі і траха не разрываючыся на ўсе вечарынкі, якія не абыходзіліся цяпер без яго ні ў Ельнічах, ні ў Баравічах.

Да тае платы, на якую яго гадзілі, Варвон заўсёды меў яшчэ і прырабатак на маршах, што іграліся пры сустрэчах і на пра-

водзінах найбольш важных гасцей. Але гэта на вяселлях. На вечарынках важныя госці выдараліся рэдка.

І таму, знаючы, што на майскае гулянне ў Ельнічах не можа не прыйсці Саш Плюндрык, характар якога Варвону быў вядомы, ён гэтак упраўна падскочыў да клубных дзвярэй, убачыўшы баравіцкага госця, і на ўсю шырыню — ад пляча да пляча — расцягнуў свайго гармоніка.

Плюндрыкаў Саш адразу не пераступіў парога, не. Ён стаў на гэты парог і хвіліны дзве стаяў і слухаў, як Варвон з Петрыкам таўклі марша.

Хударлявы недаростак, Саш у сваім прыкаратткім паліто з незашпіленым поясам і ў капелюшы, які ён не выгінаў наверсе, а падбіваў стаўбуном, здаўся ўсім нам магутным асілкам. Чаравікі на падэшве ў два пальцы адразу ж як прыраслі да парога. Усіх не магла не здзівіць тая свежасць, якая пахла яшчэ магазінам і зіхацела на ўсім Сашавым убранні.

«Жыве ў раскошы, — падумаў сам сабе Варвон Крук, аглядаючы Плюндрыка з ног да галавы. — Не кожнаму такое шчасце».

Зайздроснаму Варвону было няўцям, што шчасцем Плюндрыка было яго няшчасце. Саш, як і ўсе каржакі, пакутліва церпячы несправядлівасць лёсу, меў тую перавагу і выгаду ў жыцці, што на яго заўсёды быў самы шырокі выбар якога хочаш адзення.

У магазіне «Дзіцячы свет» ён мог прыбрацца з іголачкі ва ўсё гатовае і за недарагую плату.

Як і ва ўсіх, каму неставала росту, у яго было імкненне выдаваць паважным. Ён нават наламаўся гаварыць басам.

Аж страшнавата было, гледзячы на яго, чуць, што ў Саша такі магутны голас. Здавалася, узнікаў ён недзе з глыбіні, гулка аддаваўся ўсярэдзіне, а дайшоўшы да грудзей, — разлягаўся, як у трубе.

— Прывет, калега! — бухнуў з парога Саш, акідаючы вокам клуб.

— Здраўя жалаю! З прыездам вас, Аляксандр Ніканавіч, — бадзёра адказаў Варвон Крук, не пакідаючы іграць, і выцягнуўся ў сваім пажарніцкім шынялі, такім вузкім пад пахамі, што аж заняло дых.

— Іграеш? — спытаўся Саш.

— Стараемся, Аляксандр Ніканавіч, — адказаў Крук і прыстукнуў ботамі.

— Ну іграй, іграй, — безуважна вымавіў Саш і палез у левую запазуху пінжака.

Дастаўшы скураны партманет, ён выняў пяцірублёўку і, падаючы Варвону руку, адначасна сунуў яму ў жменю і грошы.

Крук радасна матнуў галавой, яшчэ з большай заўзятасцю душачы гармонік.

— Хопіць, — сказаў нарэшце Саш, і многія з хлопцаў зарагаталі з палёгкай, што кончылася непатрэбная фатыга.

— Давай лепш для першага знаёмства танга, — заказаў Саш, скідаючы паліто і абводзячы паглядам дзяўчат, якія стаялі ўсе шнурам пры сцяне.

Нічога дзіўнага, што выбар яго ўпаў на Лору Лапіцкую. Яна прыкметна вылучалася з гурту. Дзіўнае было ў тым, што, станцаваўшы адзін раз, ён ужо і не адыходзіў ад яе, беручы запар на ўсе танга і факстроты, якія па яго заказу рыпаў Варвон Крук. Ужо нешта з другога ці трэцяга заходу Саш гэтак асвойтаўся, што палажыў ёй руку на плячо. І хоць гэта вымушала яго трымаць локаць упоравень з галавою, але ж затое ўсім было відаць, як з-пад рукава яго пінжака выбліскваў гадзіннік.

Ні ў Ельнічах, ні ў Баравічах не было яшчэ моды на танга і факстроты, таму на тых, хто ўмеў іх выкручваць, глядзелі як на дзіва, каторыя з прыкрасцю, а каторыя, можа, і з зайздрасцю.

Алёша адразу ж зненавідзеў усе Сашавы выхілянкі і яго падрыгванні клышаватымі нагамі.

Калі канчалася вечарынка, ён першы заўважаў, што Лора збіраецца дадому з Плюндрыкам, увага якога ёй была, відаць, прыемная.

Яна залівалася радасным смехам. І гэты смех рэзаў Алёшава сэрца.

Баравіцкія хлопцы, абступіўшы Аляксея, давалі ясныя намёкі, што могуць як бач адшыць рызыканта. Алёша не згадзіўся. Саш быў не з іх раўні, а намнога старэйшы і, жывучы ў вялікім горадзе, вядома што, налаўчыўся кружыць галовы. Гэта было зразумела Алёшу. Але ж як магла Лора, як магла яна так лёгка замарачыцца ў гэтых танцах, якія раз-поразу сваім трубным голасам абвяшчаў Саш і, выходзячы на круг, з пяшчотна-млявай ухмылкай вытузваў усю яе постаць у бязлітасна-грубых і нечаканых паваротах? Пэўна, яе затоенае самалюбства аж млела ад таго, што на ўвесь клуб танцуе толькі яна адна з такім шыкозным і такім тонкім у сваім далікацтве кавалерам.

Алёша і раней заўважаў, што хоць яны і аднагодкі з Лораю, але ў яе характары заўсёды адчувалася болей дарослай разважлівасці. Значыць, у старэйшым за сябе мужчыне яна знайшла і большую цікавасць?

Але гэтыя ўрыўкі думак, прамільгнуўшы ў Алёшавай галаве, не прынеслі яму заспакаення.

Калі на вуліцы ён убачыў, што Саш узяў Лору пад руку, а тая нават і не папрабавала запярэчыць, сэрца ў Алёшы абарвалася і паляцела ў такую жахлівую прорву, што ён, не бачачы ўжо нічога вакол сябе, стаў, заплюшчыў вочы і доўга чакаў, калі ж яно даляціць нарэшце да дна, грукнецца аб каменне і разаб'ецца назаўсёды.

У роспачы і самоце, не пазнаючы дарогі, Аляксей ішоў, сам не ведаючы куды.

Вярнуўшыся пераддзень дадому, ён, не заходзячы ў хату, упаў у цёмных сенцах на мяшок з аўсом, што стаяў у кутку, і заплакаў. Гэта былі першыя слёзы яго нявыказанай крыўды.

Назаўтра была нядзеля, і Варвон іграў у Баравічах.

Калі Алёша зайшоў у клуб, усе заўважылі, як ён, небарака, змяніўся з твару — перапаў і зблажэў. Шыя яго патанчэла і выцягнулася. Праўда, гэта магло здацца і ад іншае нечаканасці, якая з непрывычкі мяняла ўсё Алёшава аблічча: яго доўгія светлыя валасы, што даставалі ўжо да каўняра, былі выстрыжаны пад нулявую машынку.

Цяпер на ўвесь клуб матлялася толькі адна грыва. Хоць ужо і радкаватая, але падплоеная і выкладзеная хвалямі, яна прыгожа развівалася ў танцах, і шчаслівы Плюндрык сюд-туд адкідаў яе назад.

Так, не паспеўшы сысціся, разышліся сцежкі Аляксея Саколіча і Ларысы Лапіцкай.

Тае ж восені Алёша паступіў у музычнае вучылішча з цвёрдым намерам дайсці да кансерваторыі. Лора, атрымаўшы свой атэстат сталасці, з радасцю выйшла замуж за Аляксандра Плюндрыка. Вяселле ім сыграў Варвон Крук, і маладыя адразу ж выехалі з Баравіч.

## IV

Словы прафесара, які на аглядзе ў Мінску адзначыў Саколіча, спраўдзіліся, але не зусім.

Валодаючы скрыпкай, Аляксей і далей удасканальваў сваю практыку, але канчаў ён вучылішча па дырыжорскай спецыяльнасці.

На гэты выбар найбольшы ўплыў мела тое, што, трапіўшы ў асяроддзе людзей, блізкіх яму, далучыўшыся да той невычэрп-

най душэўнай радасці, якую несла музыка, Аляксей ужо не мог прапусціць ні аднаго канцэрта.

На вачах у Аляксея горад, у якім ён вучыўся, усё болей станавіўся музычным цэнтрам. Яго цяпер не абміналі самыя славутыя музыканты. Саколіч на ўсё жыццё запомніў, як ён упершыню слухаў Ойстраха і Рыхтэра, цудоўнага амерыканца Вана Кліберна, а за дырыжорскім пультам бачыў Хачатурана і Шастаковіча.

Сімфанічны аркестр, выступленні якога цяпер былі ўжо не рэдкасцю, палюбіўся Аляксею яшчэ і таму, што яго дырыжор — высокі, са смалянымі валасамі, з поўнымі юнацкага бляску вачыма — стаў яго любімым настаўнікам, у якога ён вучыўся пранікненню ў замыслы кампазітараў, вучыўся таму бездакорнаму густу, гранічнай выразнасці кожнага руху і ў той жа час — сціпласці і даступнасці, якія былі ўласцівы гэтаму музыканту.

Для Алёшы не мела значэння, дзе і адкуль слухаць музыку, толькі б трапіць на канцэрт. Аляксей, як і кансерваторцы, і студэнты вучылішча, заўсёды меў такую магчымасць. Было б горкай несправядлівасцю, калі б яны, будучыя музыканты, не карысталіся перавагай перад тымі, хто выстойвае ў чэргах ля білетных кас або перад пачаткам выступлення славутага выканаўцы кідаецца ля пад’езда да кожнага з затоенай надзеяй: «Ці няма лішняга білеціка?»

Абы-толькі трапіць у залу. А там ужо Алёша не быў без месца. Няхай сабе на апошнім ярусе, у цёмным кутку аркестроўкі, на балкончыку, дзе стаяць пражэктары, нават у суфлёрскай будцы — не важна, толькі б з заміраннем у сэрцы слухаць, як бушуе магутны акіян пачуццяў Бетховена і Чайкоўскага, якою светлай душэўнай радасцю дзеляцца з ім Моцарт і Грыг, на якія арліныя вышыні падымаецца ён разам з Барадзіным і Рахманінавым.

Тое, што Аляксей ужо дарослым чалавекам адкрываў для сябе гэтыя скарбы, не раз наводзіла яго на думку, што ён — шчаслівейшы за тых сваіх аднагодкаў, якія ўжо з самага малку гатовым засвойвалі ўсё, што яму толькі цяпер даводзіцца браць з намаганнем, праз доўгія пошукі і нялёгкі роздум.

Прыйшоўшы ў вучылішча, ён, па сутнасці, пачынаў з таго, з чаго пачынае і бледны лапавухі вундэркінд, за якім чуллівая мама носіць футляр са скрыпкаю. Але вучыўся ён не па абавязку, не дзеля лёгкага хлеба і не дзеля рэпутацыі салоннага знаўцы музыкі, якіх сустракаў ужо нямала. Нахапаўшыся музычных слоўцаў: «алегра», «мадэрата», «крэшчэнда», «піянісіма», запомніўшы з дзясятак імён кампазітараў, не беручы ў рукі

ніводнага інструмента, яны з гордым вучоным выглядам развавалі, спрачаліся і нават пісалі аб тым, чаго ніколі не разумелі і не любілі — аб музыцы. Саколіч смяяўся ў душы, калі бачыў, як гэтыя знаўцы, седзячы ў зале, водзяць пальцамі па праграмках, наіўна верачы поўнай адпаведнасці кожнага вычытанага слова, кожнаму пачутаму гуку.

Па-дзіцячы радуючыся сваім адкрыццям, Саколіч з болем і спагадай думаў аб людзях, якія яшчэ не перажылі таго вялікага шчасця, што пазнае ён, далучаючыся да жыватворчых багаццяў.

Ёсць жа людзі, думаў Алёша, якія жывуць і не знаюць, што ёсць Шостая сімфонія Чайкоўскага, «Апасіяната» Бетховена, «Пер Гюнт» Грыга. О, колькі яшчэ людскіх душ нават не здагадваецца, якія скарбы чакаюць іх! І ўсё гэта харошыя людзі, чулыя і добрыя, але, спазнаўшы музыку, наколькі б яны былі багацейшыя і шчаслівейшыя, як бы высока ўзнялася іх гордасць за чалавека, за яго бясконцыя творчыя сілы і невычэрпную душэўную прыгажосць!

У такія хвіліны сэрца Саколіча рвалася з грудзей.

Слухайце музыку так, як яна гучыць для вас! Прымайце яе праз свае ўяўленні, праз вобразы свайго жыцця! Мерайце яе ўзлётамі сваіх хваляванняў! Чым глыбейшы ваш душэўны свет, чым вышэйшая ваша думка, тым глыбей і вышэй будзе хваляваць і падымаць вас музыка. Толькі злыя і ўбогія душы ніколі яе не спазнаюць!

«Няўжо ж усе гэтыя радасці, — пытаўся ён сам у сябе, — адкрылі мне вучылішча, горад, педагогі, музыканты, якіх я слухаў? Так, я ўдзячны шчаслівым гадам свае вучобы, але ж, пэўна, было нешта і ўва мне самім, што ёсць і ў многіх людзях, што збіраецца, назапашваецца з малых год, узбагачаецца ўражаннямі жыцця і заўсёдным імкненнем спазнаць — хто я і дзеля чаго жыву на свеце?»

І тут Саколічу прыходзілі на памяць расказы дзеда Антона пра сваю маладосць, што прыпадала на першыя гады вялікага жыццёвага перавароту. Тады ў Баравічах кніга, газета здараліся не часта. Першы спектакль, убачаны Антонам ужо ў сталым веку, «Мікітаў лапаць», быў паказаны баравіцкімі камсамольцамі ў так званым маказыне, куды звозілася грамадская ссыпшчына на насенне. Спектакль ставіўся ў фонд дапамогі галадаючым. Усім хацелася паглядзець першы ў гісторыі Баравіч тэатр. Не дзіва, што білеты прадаваліся за тое золата, якое ніколі не трацiла цаны — за хлеб. Гледачы ішлі, несучы за плячыма торбы. У дзвярах стаяў касір з бязменам, узважваючы плату.

Цяпер Алёша часта задаваў сабе пытанне: чым завабіла музыка дзеда, чалавека, які ўмеў толькі распісацца, а вывучыўшыся нотам у настаўніка царкоўнапрыходскай школы, — сам пачаў іграць на скрыпцы, потым сабраў з вясковых хлопцаў капэлу і да апошніх дзён трымаўся за яе, ахоўваючы яе традыцыі і славу? Відаць, толькі шчырым жаданнем несці людзям радасць, якія ўсе важнейшыя святы свайго жыцця не ўяўлялі без баравіцкага Антона і яго музык. Значыць, кожнаму ўласціва імкненне да прыгожага, імкненне да тых крыніц, што жывяць душу, поўняць яе радасцю.

Гэтае імкненне нараджала і паэтаў, спадчына якіх перадавалася з пакалення ў пакаленне, дайшоўшы і да нас. Мы не ведаем іх імён, а гэта — вялікія творцы, геніі ў зрэб'і, у лазовых лапцях, якія ніколі не аддзялялі сябе ад народа.

А што будзіла, што трывожыла мае ўражанні? Не толькі пачутыя мелодыі, убачаныя карціны, прачытаныя вершы. Калі пачуцці, выказаныя ў гэтых творах, не ішлі з жывых вытокаў той прыгажосці, якую я адчуваў, але сам не мог перадаць, значыць, мастак не падымаўся вышэй за мяне і не даваў мне новых радасцей.

І дагэтуль памятаю, як, лежачы ў лесе ў гурце начлежнікаў, я не мог адвесці вачэй ад начнога летняга неба, дзівячыся трывожнай, незразумелай велічы хараства, якое знаёма кожнаму, але яшчэ не спасцігнута чалавекам. Восень, зіма, абуджэнне вясны, святы, вяселлі, смерці, радзіны, пажары ад маланкі, выхад на касьбу, выезд у поле і першы, зароблены нароўні з мужчынамі, працадзень — усё гэта ўражанні, якія ніколі не пакінуць хваляваць мяне.

Што такое прыгажосць, паэзія жыцця, працы, свету? На гэтыя пытанні мой дзед таксама шукаў адказу. І, мабыць, знаходзіў.

Што ж дзіўнага, што і я, толькі цяпер адкрываючы музыку, а не нашпігаваны ёю з пялёнак хатнімі настаўнікамі, радуюся як чалавек, які знайшоў незлічоныя багацці!

У дзівосных творах Мусаргскага, Калліннікава, Балакірава я чую родныя галасы свайго жыцця, пазнаю мілыя майму сэрцу краявіды. Поры года, світанні на рацэ, белая бярозачка, якая стаіць у полі, цёмны лес на самым схіле зямлі — гэта не ўмоўныя разуменні, не наогул «прыгожая музыка», якую лёгка прачытаць, купіўшы ў фае праграмку, — не, гэта жывыя вобразы мае душы!..

V

Хоць гэта быў і не першакласны рэстаран, але Саколіч, які прыйшоў сюды з сябрамі адзначыць заканчэнне вучылішча, мог дазволіць сабе такую раскошу першы раз у жыцці.

Заняўшы столік у самым кутку, хлопцы рашылі сядзець тут увесь вечар. Хто ведае, калі яшчэ будзе такое свята, такая ўрачыстасць на душы!

Афіцыянт ва ўсёй сваёй лысай важнасці доўга не падыходзіў, а падышоўшы, абыякава зірнуў на іх, і кожны з хлопцаў адчуў у гэтым позірку прафесійную спрактыкаванасць. Яны зразумелі, што іх не лічаць за сур’ёзных наведвальнікаў. Пакрыўджаныя такой недаацэнкай, яны з усёй важнасцю і, нават пайшоўшы на храбрую рызыку, са шчодрым размахам, не спяшаючыся, пачалі дыктаваць самы багаты заказ.

Афіцыянт павесялеў, а хлопцы адчулі палёгку і непахісную ўпэўненасць у сваёй незалежнасці. Стыпендыя, атрыманая наперад, давала ім поўнае права на такі смелы выклік супроць зняважлівай ухмылкі, якою сустрэлі іх за гэтым сталом.

Узрушаны сваім настроем і тым, што ён сядзіць у вялікай зале, поўнай святла і вясёлага шуму, з прагнай цікаўнасцю разглядаючы людзей, услухоўваючыся ў суцэльны гул, які ўсё нарастаў і мацнеў, заўважаючы, што і субяседнікі яго ўжо не гавораць, а крычаць, каб пачуць адзін аднаго, Саколіч раптам аж скалануўся, калі з усяе гэтае гукавой мешаніны вырваўся нечаканы выбух барабана і адразу ж у прарэзлівым ляманце зайшліся саксафон, габой, валторна, трамбон. Баючыся адстаць ад раз’ятранай зграі, што сарвалася з ланцуга і рынулася на злом галавы, вёрткі барабаншчык, разрываючыся ў сваіх рухах і з усяе сілы стараючыся ўтрымаць шырокую ўхмылку, тоўк у бубен, ляскаў у талеркі, званіў шамкамі, прыцмокваў языком, гонячы перад сабой ачмурэлую чараду гукаў…

Маладыя нашы музыканты весела засмяяліся. Яны не хавалі сваіх іранічных адносін да джаза. Даўняя варожасць двух поглядаў на музыку, якая то разгаралася, то затухала, а ў апошнія часы шукала нават прымірэння, не магла быць для іх абыякавай. Праўда, колькі ні ведаў Аляксей музыкантаў, ніхто з іх не выкідаў з нашага побыту так званай лёгкай музыкі, якая заўсёды будзе прабіваць сабе дарогу ў жыццё і з кінаэкрана, і з эстрады, і з радыё то новай лірычнай песенькай, то вясёлым жартам, то журботнай, то летуценнай мелодыяй. Пад настрой і яна знойдзе жывы водгук у чалавечым сэрцы, хоць ніколі не падыме яго на

вышыні вялікай радасці. Але прыкра было бачыць і чуць, як пад лёгкую музыку з ваяўнічай нахабнасцю падрабляецца той хціві, ненасытны паразітызм гукавога хаосу, які, калі толькі даць яму волю, скалечыць нямала людскіх душ.

Падкія на ўсё замежнае, мяшчане, увішныя спекулянты, якім сенсацыя, мода даражэй за ўсё, першыя адкрывалі дарогу гэтай пошасці. Ад дзікай гукавой какафоніі, дзе свіное рохканне знаходзіць гарманічнае спалучэнне з віскам цыркулярнай пілы, запісанай на безліч пласцінак, не так лёгка ўратавацца чамусьці якраз там, дзе чалавек рад бы адпачыць: у гарадскім парку, у фае кінатэатра, у вагоне цягніка, на палубе парахода, не гаворачы ўжо аб рэстаранах, дзе гэты від музыкі лічыцца абавязковым.

Саколічу даводзілася бачыць, як маладыя паклоннікі гэтай музыкі аж млелі, калі ў горад прыязджаў які-небудзь модны джаз, а тым болей — замежны. Назаўтра ўжо можна было пачуць, як «арыстакраты» вячэрняга праспекта — бледныя, доўгавалосыя заморкі з рэдкімі вусікамі — высвістваюць або мармычуць пад нос заліхвацкія гукавыя выверты, запомніць якія наўрад ці змог бы нармальны чалавечы слых. У паклоннікаў джаза Алёша не раз заўважаў нават псіхічную траўму: як толькі чулася дзе гукавая тарабаршчына, у іх нервозна пачыналі патузвацца плечы і дрыгаць ногі ў каленях…

Рэстаранны джаз нарэшце скончыў свой шалёны галоп і перайшоў на ціхую плынь, з якое пачала выбівацца мелодыя, чуллівая і саладжавая да прыкрасці. І раптам зазвінеў тонкі ручаёк жывога голасу.

«Што такое? — жахнуўся Саколіч. — Адкуль тут гэты голас?» І павярнуўся, усё яшчэ не верачы сваёй устрывожанай памяці.

На эстрадзе перад аркестрам стаяла Лора Лапіцкая.

І калі б не голас, Аляксей нізашто не пазнаў бы яе.

Можа, таму, што за гэтыя гады ён забыў яе твар, стараючыся не думаць аб сваім першым каханні, хоць і ведаў, што Лора жыве ў адным з ім горадзе. Хутчэй за ўсё ён не пазнаў бы яе таму, што Лапіцкая ўжо была зусім іншая.

Схуднелая да хваравітасці, яна выдавала вышэй свайго росту. Валасы яе, некалі пышныя і густыя, былі як абскубаныя і пасмамі прылягалі да лба і шчок. З выразу плацця, якое тапырылася на ёй, вытыркалі вострыя ключыцы. Вочы, зацененыя сумам, хоць і стараліся ўсміхацца, глядзелі ў залу з палахлівай насцярожанасцю, і ўся яе пастава выглядала так, быццам Лора была ў нечым вінаватая перад людзьмі, што, занятыя сваімі размовамі, ядою, пітвом, смехам, нават і не слухалі яе.

Саколічу здалося, што пагляд Лоры, вінаваты і збянтэжаны, спыніўся на ім і ўся яна скаланулася ад нечаканасці.

Халодныя мурашкі заварушыліся на спіне ў Аляксея. Ён падняўся і пакланіўся.

— Знаёмая? — здзівіліся сябры.

— Была, — сказаў Алёша і сеў, ужо не могучы ўвайсці ў ранейшы радасны настрой і вясёлую бесклапотнасць.

— О-о, — заспяваў Мішка Жураўлёў, лепшы Алёшаў друг, — якія ў цябе, брат, знаёмствы!..

— Замаўчы! — схапіўшы яго за локаць, паціху вымавіў Алёша. — Я першы раз бачу яе… І хто мог падумаць, што яна… Не, гэта ён! — выгукнуў раптам Саколіч і, як бы тлумачачы свае словы, грукнуў кулаком у стол. — Гэта ён, Плюндрыкаў Саш!..

Ён зноў зірнуў на Лору, на джаз і цяпер ужо ўбачыў і самога Плюндрыка. Ён сядзеў між аркестрантаў, аблізваючы губы і чакаючы свае чаргі падняць трубу.

Саш мала змяніўся. Ганарлівая самаўпэўненасць, што запомнілася Аляксею, была і цяпер на яго абліччы. Ён як бы знарок стараўся прыцягнуць да сябе ўвагу — і сваім вышмарганым на локцях фракам з чорнымі атласнымі бартамі, і пікейнай манішкаю з пярэстым банцікам пад барадою. Пачуццё сораму было невядома яму. Нават нашкодзіўшы, ён мог глядзець у вочы і ўсміхацца.

Калі Лапіцкая скончыла сваю чуллівую песеньку і ў зале адзін ці два чалавекі, хутчэй дзеля смеху, чым дзеля прыстойнасці, пляснулі ў далоні і яна зноў, яшчэ болей збянтэжаная і вінаватая, сагнулася ў паклоне, Аляксей не вытрываў крыўды, якая сціснула яго горла, выйшаў з-за стала і накіраваўся да эстрады.

— Лора, — сказаў ён, — я рад, што бачу цябе. І прашу, калі гэта можна…

— Прывітанне калегу! — выгукнуў з аркестра Саш, пазнаўшы Саколіча.

Лапіцкая, падаўшы руку Алёшу і азірнуўшыся на мужа, сышла з эстрады.

Між імі пачалася размова, якой Алёшавы таварышы стараліся не перабіваць, зразумеўшы, што сустрэча гэтая дарагая Саколічу.

— Лора… — не зводзячы з яе вачэй, сказаў з трывогай Алёша. — Што ты робіш? Чаму ты тут?

Лапіцкая, тузануўшы губамі, хоць і ярка нафарбаванымі, але бяскроўнымі і сухімі, маўчала.

У яе душы ішло змаганне паміж жаданнем заплакаць і гордасцю, уласцівай яе натуры. Ёй не хацелася спачування і

спагады. Яна баялася выдаць і смутак, што сціснуў сэрца, як толькі яна ўбачыла Алёшу, успомніўшы іх нядаўняе юнацтва, такое даверлівае і наіўнае ў сваіх спадзяваннях.

— Як хутка праляцела ўсё, — сказала яна ў ціхай задумлівасці, стараючыся павярнуць гаворку ў рэчышча той светлай і прыемнай тугі, з якою блізка знаёмыя людзі ўспамінаюць дарагія для іх мясціны і сцежкі. — Памятаеш, як басанож цераз поплаў, несучы ў руках чаравікі, хадзілі мы ў Ельнічы на танцы? А Варвон Крук яшчэ іграе і цяпер? Няўжо іграе? — здзівілася яна і нечакана дадала: — А ў мяне, Алёша, ужо дачка вялікая. Каб ты бачыў якая!

— Прыгожая?

— Як табе сказаць. На мяне падобная.

— Значыць, прыгожая, — і Саколіч заўважыў, што Лоры было прыемна гэтае прызнанне.

Паддаўшыся даверлівай шчырасці, якая пачулася ёй у Алёшавых словах, Лора ўжо не магла маўчаць.

— Чаму я тут? — перапытала яна. — А што рабіць, Алёша? Ён… — Лора паказала вачыма на аркестр, дзе Плюндрык, ускінуўшы трубу, ужо вёў аднастайна высокую і бясконцую ноту, — ён сказаў, што не можа пракарміць мяне з дачкою, хоць я ведаю — гэта няпраўда. Удзень іх развясёлая кампанія яшчэ зарабляе і на людскім горы, наймаючыся іграць на хаўтурах. Горад, сам ведаеш, вялікі… Не буду таіцца, Алёша, — вымавіла яна паціху. — Ты ўсё адно не паверыў бы, каб я пачала хваліцца перад табою. Жыццё маё не радаснае… Часта сама сабе думаю: кіну-рыну ўсё і паеду ў Баравічы. Ты ж памятаеш, як я ўмела шыць? І цяпер яшчэ машына стаіць у мамы ў хаце. Дальбог, і людзі рады будуць…

— Голас у цябе, Лора… — пачаў Саколіч, баючыся зняважыць яе самы каштоўны дар, які некалі гэтак радаваў яго сваёй сярэбранай чысцінёй, — ты магла б… павучыцца!

— Позна, Алёша! — вымавіла яна. — Я звярталася да спецыялістаў, і яны сказалі — позна. Тыя прафесары, што вучылі мяне, скалечылі мой голас назаўсёды.

— Пра якіх прафесараў ты гаворыш?

— А вунь, — паказала вачыма на эстраду Лора, — бачыш барабаншчыка, які ўпраўляецца не толькі рукамі, нагамі, але і лбом, і вушамі, і губамі, і языком? Гэта і ёсць наш прафесар, душа джаза, сам Эмануіл Маркавіч. Як толькі Саш пахваліўся, што я спяваю, ён, на тым жа часе паслухаўшы мяне, радасна закрычаў: «О, гэта знаходка для нас!» І я паверыла, што сваім

голасам зачарую горад. Неўзабаве я ўжо спявала «Ландышы» і «Фіялкі», «Цішыню» і «Мішку». Як тут абрадаваліся майму голасу — ты сам чуў і бачыў. Гэта мой сорам! І калі б ты не быў сведкам, я нізашто не прызналася б!.. — і Лапіцкая, упаўшы галавой на стол, заплакала.

Джаз пакінуў іграць. Саш, выгінаючыся між сталоў, падышоў да жонкі.

— Лора, — тузануў ён яе за руку, — я ўжо бачу, як ты расчулілася перад земляком. Ну што ж, быць можа, у тваёй фантазіі і ёсць сэнс… — і, усміхаючыся Аляксею, уціснуўся побач з ім за стол. — За што тут п’юць? За вас, будучыя Бетховены? Ну то налейце і трубачу яго вялікасці караля Эмануіла Першага! — з вясёлай развязнасцю паўтарыў ён стары жарт, выдуманы джазаўцамі. — За вас, калегі! — падняў ён шклянку. — За вас, лабухі! — гукнуў Саш сваім аркестрантам. І тыя весела заківалі галовамі, пасмейваючыся між сабою.

— Скажу табе, землячок, па сакрэту, — закусваючы, паклаў Саш руку на Алёшава плячо. — Калі сказала мне Лора, што хоча вярнуцца ў Баравічы, дык я спярша — на дыбы. А як паглядзеў, што пачынаюць і там людзі разжывацца, падумаў — а што? Калі ўжо такі надаўбень і загавайла, як ельніцкі Варвон Крук за гармонік дом выбудаваў, то, падабраўшы добрых чаляднікаў, буду па сёлах на «Волзе» раз’язджаць. К чорту паляціць у мяне Варвон са сваім гармонікам! Цяпер народ, брат, вырас. Яму ўжо не полькі і кадрылі, яму — танга і факстроты давай! І калі хоч ведаць, то прыезд спецыяліста ў калгас могуць падхапіць і ў газетах распісаць…

— Перастань! — сказала Лора. — Хлопцы, не налівайце яму.

— Што перастань? — павышаючы басавіты голас, сказаў Саш і аблізаў языком губы. — Я ўжо калі надумаюся, дык ты мяне хоць рэж. Там жа, акрамя Варвона, ніхто не іграе. Кожнае нядзелі — вяселлі, штодня — вечарынкі. На маршах, на адных, брат, маршах, калі ўмеючы і знаючы, каму іграць, і то… Гэтак жа, землячок, а? — ляснуў ён Алёшу па плячы і зарагатаў.

— Спекулянт, — гледзячы блізка ў твар Плюндрыку, сказаў Саколіч і скінуў яго руку са свайго пляча.

— Ш-што?.. — раўнуў Саш.

— Не будзе гэтак, як ты надумаў! — крыкнуў Аляксей, выскакваючы з-за стала.

Адразу ж усхапіўся і Саш.

Лора кінулася між імі.

## VI

Тое, што Саколіч вярнуўся дадому, не было ўжо такою вялікаю навіною, а вось што ён узяўся збіраць усіх баравіцкіх музык і вучыць іх — гэтая вестка абляцела ўсё наваколле.

Цяпер у наш калгасны клуб па вечарах збіраюцца не толькі з Баравіч і Ельніч, а і з Вераб’ёва, і з Сенніцы. Прыходзілі з Пятніц і ажно з Белага Балота, каб і сабе пераняць, як гэта ў Баравічах на музык вучацца.

Аднаго разу ў клуб прыйшла Лора Лапіцкая са сваёй малой дачушкай, такою пацешнай, што ўсе кінуліся да яе і сталі аглядаць дзяўчынку з усіх бакоў: шырокі чырвоны бант у кучаравых валасах, кароценькую ў гарошыны сукеначку з круглай кішэнькай на баку, блакітныя сандалікі на голых ножках.

— Люба! Любачка! — чуліся галасы дзяўчат і маладзіц, што абступілі маленькую госцю.

І па гэтай увазе да дачкі Лора зразумела, што сама яна ўжо ніколі не выкліча той дапытлівай цікаўнасці, як у дзявоцтве, хоць і прыехала з горада. Яна ўжо не адчуе на сабе здзіўленых вачэй, поўных захаплення, што некалі аглядалі яе абновы.

«Цяпер, мабыць, самой прыйдзецца здымаць фасоны ў іх», — падумала Лора, дзівячыся, як змяніліся дзявочыя густы. Іх строі кідаліся ў вочы не пышнасцю фальбон і зборак, не бліскучасцю чорных цыратовых паясоў, не высокімі халявамі грубых румынак з ваўнянаю апушкаю, а зграбнасцю і лёгкасцю, уласцівымі сапраўднаму хараству.

Калі да Лапіцкай падышоў Саколіч, Лора, ужо канчаткова ўпэўненая, што цяпер павінна жыць толькі дзеля шчасця Любачкі, што яе, Лорына, шчасце ўжо не вернецца, узяла дзяўчынку за руку і сказала:

— Любачка, гэта дзядзя Алёша.

— Вы музыкант? — спыталася Любачка, прабуючы сваімі пальчыкамі струны скрыпкі, якую Саколіч трымаў у руках. Лора пазнала гэтую скрыпку. На ёй Алёша іграў у Мінску, калі яны разам ездзілі на незабыўнае свята ў іх жыцці.

— І мой тата — музыкант, — сказала Любачка. — Ён іграе на трубе: тра-ра-ра! тру-ру-ру! — падносячы да рота кулачок, затрубіла малая, і ўсе весела засмяяліся.

— А ты на чым будзеш іграць, Любачка?

— Я, — сказала разважна дзяўчынка, — я буду спяваць, як мая мама.

Сэрца Саколіча зайшлося. Зірнуўшы ў вочы Лапіцкай, ён прачытаў у іх тую невыказную маўклівую просьбу, якая была зразумела толькі яму аднаму: не судзі мяне. Няхай яна не ведае, якая я няшчасная…

— Расці вялікая, — сказаў Саколіч, падымаючы Любачку да столі. І, паставіўшы побач з сабой, дадаў: — А замуж пойдзеш — самі баравіцкія музыкі будуць іграць тваё вяселле!

*1960*

## ВІКТОРЫЯ

### I

Як далёкі сон, запала Лаўрыку ў памяць, калі, яшчэ зусім малым хлапчуком, ён першы раз задумаўся: а што такое смерць?

Не сказаць, каб у Ельнічах не памiралі людзі. Паміралі старыя, якім і належала пакідаць гэты свет. Лаўрык ці раз чуў, як яго ж глухі, увесь ссівелы і высахлы дзед, заходзячыся з кашлю, гаварыў сам сабе, але так, каб усе ў хаце чулі:

— Э, чэмер табе ў вочы, мая смертухна, забылася ты на мяне.

Калі добра ўгравала сонца, дзед Чэмер выходзіў на двор. Шкробаючы цяжкімі старымі ботамі, ён ніяк не мог пераступіць сенечнага парога. Перастаўляючы ногі, дзед, сагнуўшыся, трымаўся рукою за халяву, каб не скінуўся бот.

Умасціўшыся на цёплай кастрыцы, якой была засыпана прызба, ён — у палатняных споднiках і доўгім кажусе — мог сядзець цэлы дзень.

І здавалася — якая ўжо яму цікавасць з таго, што ён сядзіць, не чуючы, як звіняць першыя раўчукі, а над хатай заліваецца жаваранак. А ўсё ж была яму і цікавасць, і асалода хаця б з таго, што, праляжаўшы ўсю зіму на печы, ён зноў бачыў сонца, адчуваў яго радаснае цяпло, бачыў сваіх людзей, што праходзілі або праязджалі па вуліцы. Не дзіва, што з такой урачыстасцю дзед даваў «дзяньдобры» ўсім: і старым, і маладым, і дзецям, і тым, хто адказваў, і тым, хто не заўважаў яго, а, пачуўшы дзедаў голас, матаў галавой і ішоў сабе далей. Чэмер рад быў бы з кожным пагаварыць, ён нават і рабіў такія спробы, але, не знаходзячы ахвотніка, гаварыў сам з сабою:

— Вясна сёлета ранняя, каб жа хаця не заліло. Гэта ж таго году, як наш Кірэй жаніўся, дык вада тады траха не пад самы парог падыходзіла. Трэба будзе сказаць Кірэю, каб канаўку пра-

капаў. Лаўрычак, — убачыўшы ўнука, радаваўся ён, — скажы тату, хай талую ваду спусціць на агарод…

Але яшчэ і гэтую вясну перажыў стары Чэмер, а зусім неспадзявана памерла Хімачка, суседская дзяўчынка, Лаўрыкава равесніца, з якою ён з восені пайшоў у школу. Ён ведаў, што Хімачка захварэла, але што яна можа памерці — яму ніколі б і ў галаву не прыйшло.

У той дзень, калі хавалі Хіму, Лаўрык не пайшоў у школу, але не пайшоў і на пахаванне, хоць паказаў від, што збіраецца.

Сам сабе Лаўрык не мог бы сказаць, што ён баіцца туды пайсці, не. Хімачкі яму не так ужо было і шкада. Больш складанае, што трэба было вырашыць, рупіла: як жа ж будзе з пачкам каляровых алоўкаў, які ён занёс Хімачцы, каб ёй не было сумна ляжаць. І праўда, яна была нават павесялела, абрадаваўшыся і яго прыходу, і яго алоўкам, што бацька купіў яму ў нядзелю ў горадзе. Ці ж можна цяпер, думаў збянтэжаны Лаўрык, пайсці ў Хімчыну хату і пасля таго, што здарылася, сказаць, каб яму аддалі іх?

Алоўкі з маляванымі кантамі былі вялікім Лаўрыкавым багаццем. Яму зрабілася так шкада іх, што ён, ужо дайшоўшы да самае Хімчынае хаты і стаўшы ля дубовага шула, горка заплакаў.

У гэты час дзверы сянец расчыніліся, а потым і вулічныя варотцы, і Лаўрык убачыў, як высока на людскіх руках на вуліцу выплыла новенькая калыска, збітая з тоўстых сасновых цалёвак.

Хімчына маці, цётка Аксеня, подбежкам, як бы спяшаючыся, ірвучыся з рук суседак, галасіла:

А вочачкі ж мае ясныя,
Зарань жа вы закрыліся,
А ручачкі ж мае белыя,
Зарань жа вы счапіліся,
А ножачкі ж мае быстрыя,
Зарань жа вы стаміліся…
А-а!..

Хімчына бабка, выйшаўшы з варот і ўбачыўшы Лаўрыка, які стаяў, прытуліўшыся спіною да шула, спагадліва пагладзіла яго па шчацэ і сказала:

— Не будзе ўжо табе, Лаўрычак, з кім бегаць у школу…

І расчулены Лаўрык даў поўную волю сваім слязам.

І хоць ён так і не ўбачыў той, другой Хімачкі, што ляжала ў труне, усё ж цьмяна здагадваўся, што яна ўжо нічога агульнага не

мае ні з ім самім, ні з той Хімачкай, з якой ён яшчэ нядаўна бег са школы, распырскваючы па вуліцы першыя вясновыя лужыны.

Лаўрык не пайшоў на могілкі. Пастаяўшы ля чужых весніц, ён вярнуўся дадому. Але, не заходзячы ў хату, выйшаў за малады вішняк, дзе ў зацішку ўжо добра прыпякала сонца, і стаў глядзець у поле.

На ўзгорках, на сонечных прыгрэвах чарнела зямля. Спярша Лаўрык падумаў — гэта ад таго, што ён доўга плакаў, у яго ваччу зыбаецца нейкая сіняя-сіняя смуга, але потым зразумеў, што гэта ідзе цяпло з раллі, якое там сабралася за зіму, калі зямля спала. Цяпер яна прачыналася, гэта было яе дыханне.

Што ж адбылося ў свеце? Што змянілася з таго, што няма Хімачкі і ўжо ніколі не будзе? Нічога не змянілася.

Пяюць, заліваюцца жаваранкі. Жаласна крыкнула за ракой кнігаўка. Светлая хмарка наплыла на сонца, і ў твар Лаўрыку павеяла прырэчным халадком… Усё, як і было. Толькі няма Хімачкі. Па вясне прыйдзе лета, потым восень, а там і зіма. Разам з часам будзе расці Лаўрык, стане хлопцам, а Хімачка і астанецца маленькай, як і была, пакуль не знікне з памяці.

«А калі б не Хімка, а я…» — падумаў неспадзеўкі Лаўрык і жахнуўся, яшчэ не давёўшы да канца гэтай думкі.

## II

Увосень у ельніцкую школу прыехала новая настаўніца, гарадская, як адразу ж вызначылі ўсе, хто яе ўбачыў.

І праўда, калі яна ўвайшла ў клас, дзеці заўважылі нязвычную зграбнасць і строгасць і ў яе адзенні, і ў аблічча, і ў рухах. Таццяна Мікалаеўна была ў белай шарсцяной кофтачцы, якая шчытна аблягала яе шыю і грудзі, і ў сіняй спадніцы, карацейшай, чым насілі ельніцкія жанкі.

Рукі яе, тонкія і белыя, кідаліся ў вочы сваёй прыгажосцю. Рукі ельніцкіх жанчын, якія і цягалі чыгуны з печы, і мяшалі пойла каровам, і браліся за сякеру, каб накалоць дроў, былі звычныя вясковым дзецям, і таму рукі Таццяны Мікалаеўны па ўжо даўняй сялянскай недаверлівасці здаліся кволымі і бездапаможнымі.

Але большай нечаканасцю для ўсяго другога класа, а для Лаўрыка ў асаблівасці, было іншае. З прыходам новай настаўніцы ў класе паявілася новая вучаніца. Як і Таццяна Мікалаеўна, яна таксама старалася быць спаважнай і строгай, але жвавыя блакітныя вочы яе, з густым сінім адценнем, увесь час як бы танцавалі

нейкі няспынны вясёлы танец, хоць сама дзяўчынка і сядзела на месцы. Яе светлыя валасы, адкінутыя на плечы, скручваліся ў кольцы, а на самай макаўцы быў завязаны шырокі белы каснік.

Самае нечаканае было ў тым, што дзяўчынку пасадзілі побач з Лаўрыкам і што яна, дапытліва агледзеўшы яго, сказала:

— Я хачу з табою пазнаёміцца, — і падала яму белую мяккую ручку.

Лаўрык узяў яе за руку і не ведаў, што яму трэба рабіць. Яму здалося, што прайшло ўжо шмат часу, што вось-вось зазвініць званок, а ў яго зацяло мову, і, пэўна, з гэтай хвіліны ён ужо і астанецца нямком.

— Віка, — сказала дзяўчынка і села.

І калі ў клас увайшла Таццяна Мікалаеўна, ён, уражаны сваім новым знаёмствам, вельмі цьмяна ўбачыў настаўніцу і ніяк не мог дайсці сэнсу таго, што яна гаварыла. Ён заўважыў толькі, як яго суседка глядзела на настаўніцу ў нейкай урачыстай узрушанасці.

Бязладдзе думак, якія пераганялі адна адну, замінала Лаўрыку зразумець нешта галоўнае, што не давала спакою. «Віка…» — наплыло тое адзінае слова, якое з такой паважнасцю сказала яму дзяўчынка, і Лаўрык яшчэ болей заблытаўся, міма свае волі дадаючы да гэтага слова і другія, якія ён ведаў: канюшына, цімафееўка… і пасля нядоўгага роздуму дадаў і яшчэ адно:

— Лубін, — не заўважаючы, што выгукнуў яго на ўвесь клас.

— Што ты сказаў, хлопчык? — перапытала настаўніца.

Лаўрык, сумеўшыся, устаў, але маўчаў. Ён быў упэўнены, што не сказаў і не мог сказаць нічога. Тады, падышоўшы да парты, настаўніца спыталася ў дзяўчынкі:

— Вікторыя, што сказаў хлопчык?

— Ён сказаў лубін, мама.

— Не мама, а Таццяна Мікалаеўна, — строга заўважыла настаўніца.

— Ён сказаў лубін, Таццяна Мікалаеўна, — устаючы, пераказала дзяўчынка.

— Гэта так цябе завуць? — спыталася настаўніца. Толькі цяпер да Лаўрыка дайшло, чаго ад яго дамагаюцца.

— Лаўрэн Шастак, — адказаў ён і абрадаваўся таму, што можа гаварыць.

## III

Таго года ў Ельнічах заснаваўся калгас. Заснаваўся не адразу. Першымі пазапісваліся ў яго тыя, што жылі ў вёсцы, а з імі і Лаўрыкаў бацька, а тыя, што жылі на хутарах, не хацелі калгаса. Яны прыходзілі ў школу на сход і збівалі з тропу людзей.

Адзін такі сход добра памятае і Лаўрык.

Сяброўства з Вікай адкрыла яму цэлы свет новых радасцей: ён браў кнігі з той, як яму здавалася, вялікай бібліятэкі, што прывезла з сабой гарадская настаўніца.

Дзверы пакойчыка, у якім пасялілася Таццяна Мікалаеўна з дачкой, выходзілі ў самы клас. Верх дзвярэй быў зашклёны шыбінай, і адчуванне таго, што ад вока настаўніцы нідзе не схаваешся, стрымлівала дзяцей нават і на пераменках.

Седзячы ў той вечар на высокай печы, Лаўрык з Вікаю праз верхнюю шыбу дзвярэй бачылі і чулі, як барадатыя хутаранцы, абсеўшы цёмныя куты, разапрэлыя ў сваіх доўгіх кажухах, пацягвалі з рукавоў тоўстыя самакруткі і злосна плявалі на школьную падлогу.

Неўзабаве ж яны так расхадзіліся, што гатовы былі расцягнуць па бервяну і самую школу. І дзіўна, што гэтая, на першы пагляд, кволая жанчына з белымі тонкімі рукамі знайшла ў сабе сілы ўстаць з-за століка, за якім сядзела і на занятках, і сярод разбушаванай і сляпой мужычай раз'ятранасці сказаць словы, ад якіх заціх увесь сход.

— Калгас будзе! — сказала Таццяна Мікалаеўна, але не тым голасам, якім гаварыла з дзецьмі. Яшчэ ніхто ў Ельнічах не чуў, каб калі яна даходзіла да такой душэўнай узрушанасці.

— Калгас будзе, — пераказала яна, але ўжо намагаючыся авалодаць сваім хваляваннем, — за гэта нашы бацькі аддалі жыццё. Я расла ў сірочым доме… — і, як бы спахапіўшыся, што павярнула гаворку не ў той бок, спыталася: — А вы, хіба ж вы не хочаце шчасця сваім дзецям?..

— А ты хочаш? — пачуўся з кутка грубы мужчынскі голас, але пры цьмяным святле лямпы, якая ледзьве ўжо міргала ў тытунёвым куродыме, нельга было ўбачыць — хто гэта пытаецца.

— Так, хачу. Хачу, каб мая дачка была шчаслівая, — спакойна адказала настаўніца.

— Гы-гы-гы! — зарагаталі ў кутку.

Потым зноў загуў той жа голас:

— Грошы беручы гатоўкаю, вам, гарадскім, лёгка абдурваць нас… А ты от выпішы сюды свайго мужыка — нябось хутчэй ён жонкі сцураецца, чым…

— Гы-гы-гы! — пакаціўся водгалас між мужчын.

Той, хто крычаў з кутка, рабіў не такія ўжо тонкія намёкі, каб Таццяна Мікалаеўна не зразумела. Па тым, як у кутку рагаталі, яна адчула, што хутаранцы гатовы сарваць сход любым спосабам.

— Ваша праўда, — сказала яна, і голас яе скалануўся. — Мужа свайго я не змагу выпісаць… Таго году, як нарадзілася мая дачка, на вашых жа хутарах яго забілі тыя, што гнаілі хлеб у ямах, каб не аддаць галодным…

Гэтыя словы як громам аглушылі сход. Усе добра памяталі, як год дзесяць таму за ельніцкімі хутарамі ля самай шашы быў забіты камсамолец, што прыязджаў на хлебную развёрстку. І тое, што яго жонка не пабаялася прыехаць сюды на работу, прыдало яшчэ болей упэўненасці і смеласці тым, хто запісаўся ў калгас, затоеныя ж ненавіснікі адчулі, што настаўніца прыехала не толькі вучыць дзяцей.

З таго сходу калгас пачаў сваё жыццё. Яго старшынёю быў выбраны Лаўрыкаў бацька, Кірэй Шастак.

Калгас пачаў жыццё, а настаўніца Таццяна Мікалаеўна Навіцкая сваё скончыла. Яе знайшлі з прастрэленай галавой, скачанелую ў гурбе снегу пры дарозе, па якой яна вярталася з сельсавета да сябе ў школу…

Гэта быў першы нябожчык, у твар якога не баяўся глядзець Лаўрык.

Настаўніца ляжала ў труне, пастаўленай пасярод школы на двух партах. І дзеці доўга глядзелі ў яе маладое, строгае, але добрае аблічча, якім яны яго ведалі…

Віку Шастакі не захацелі аддаць у сірочы дом, яны забралі яе ў сваю сям'ю.

Тае ж зімы смерць наведала і хату Шастакоў. Памёр дзед Чэмер.

Сканаў ціха, заснуўшы на печы і болей не прачнуўшыся. І хоць старыя бабы, якія сышліся прыбіраць нябожчыка, плакалі, успамінаючы яго маладым, і прыказвалі жаласныя словы, Лаўрык разумеў, што смерць гэта не страшная.

Калі ж голага Чэмера пасадзілі на лаве каля прыпечка, уставіўшы яго худыя ногі ў цэбар з цёплаю вадою, і, трымаючы пад пахі, пачалі рагожным вехцем шараваць яму плечы, Лаўрыку нават здалося, што дзед нездаволена зморшчыўся, церпячы гэты апошні ўрачысты, але зусім непатрэбны звычай…

Разам з Лаўрыкам Віка скончыла ў Баравічах дзесяцігодку, а перад самай вайною яны паступілі вучыцца далей: ён — у політэхнічны, яна — у медыцынскі.

## IV

Разлучаныя жахлівай бядой, яны ўжо не спадзяваліся сустрэцца. І ўсё ж лёс звёў іх.

Будучы цяжка паранены, ён апынуўся ў шпіталі, дзе Віка служыла сястрой.

Прайшоўшы цяжкі шлях адступлення з медсанбатам да самай Масквы, яна асталася ў славутай бальніцы, перад фасадам якой стаіць помнік хірургу з адкрытым шырокім ілбом. Ад аднаго позірку на бронзавае аблічча гэтага чалавека сэрца напаўняецца страхам пашаны перад майстэрствам, суровым і непадкупным у сваёй дасканаласці…

Калі аднае трывожнае ночы на століку дзяжурнай сястры сярод лісткоў-анкет на новых раненых Віка ўбачыла прозвішча «Шастак Лаўрэн Кірылавіч», яна ўсхапілася з месца, яшчэ не ведаючы, куды бегчы і дзе яго знайсці, але адчула, што не ступіць і кроку. Ногі як прыраслі, а сэрца, закалаціўшыся, абарвалася і паляцела некуды ў прорву.

Седзячы так за столікам пад лямпай і паступова вяртаючыся да прытомнасці, Віка па кароткай паметцы на лістку ўжо зразумела, што ён у аперацыйнай.

Калі ж яна падбегла да знаёмага ёй пакоя, дзверы на абедзве палавіны расчыніліся, і на шырокім металічным стале на калідор ужо вывезлі раненага, уся галава якога была спрэс забінтавана, акрамя адных вачэй.

— У дзясятую, — сказаў ёй дзяжурны ўрач. — Гісторыя ў вас: малодшы лейтэнант Шастак.

Віка пайшла обак самага пляча раненага, углядаючыся ў яго вочы, якія нічога не маглі ёй сказаць.

Ранены быў без памяці.

## V

У дзясятай палаце насупраць ложка, на які паклалі Лаўрыка, ляжаў капітан інтэнданцкай службы, чалавек ужо ў гадах. Лысая жоўтая галава яго была гладкая да бліскучасці, а ля вушэй выбіваліся пасмачкі шэрага пуху, які за час ляжання ў шпіталі адрос і кучаравіўся на скронях.

Вочы капітана, заўсёды насцярожаныя, у кожным навічку бачылі амаль асабістага ворага. Ён мог прыдрацца да сястры, да санітаркі, абы толькі была зачэпка.

Яму здавалася, што як толькі ў палату прыбываў «новенькі», дык усе забываліся на капітанава існаванне. Яго гняўлівае

самалюбства распальвала затоеная падазронасць у недаацэнцы хваробы, з якой яго сюды паклалі. І калі хто называў яе толькі «язва», інтэндант заўсёды злосна дадаваў: «дванаццаціперснай», як быццам гэта быў яго ўласны высокі тытул.

Быццам жуючы нешта кіслае, ён моршчыўся і мыляў сваімі тонкімі губамі.

Не даючы нікому быту, ён дамогся таго, што галоўурач, вельмі строгі і непрыступны, усё ж распарадзіўся выклікаць з горада, у якім капітан жыў да вайны, яго жонку.

Калі ў палаце паявілася ціхая жанчына, змардаваная цяжкаю дарогаю, капітан на некалькі дзён прымоўк. Жонка, худая і высокая, з вялікімі спалоханымі вачыма, сядзела пры ім, прыкрываючы твар полкаю чыстага, але ўжо зрудзелага ад выvarкі шпітальнага халата.

І Віка, як прывезлі Шастака, не адыходзіла ад яго, астаючыся ў палаце і пасля дзяжурства. Усе ўжо ведалі, хто для яе Лаўрык і што яна не паслухае ніякіх угавораў і загадаў, пакуль ранены не прыйдзе да памяці.

## VI

Ён расплюшчыў вочы толькі цераз дзень і сасмаглымі губамі папрасіў піць.

Калі Віка нахілілася над ім і лёгка дакранулася рукой да яго грудзіны, якая аж разрывалася ад цяжкага дыхання, Лаўрык скалануўся ад нечаканасці. Ён адразу ж зноў закрыў вочы і доўга ляжаў, відаць, баючыся расплюшчыць іх. Пасля, зноў зірнуўшы ў твар Вікі, ён з балючым намаганнем папрабаваў нешта сказаць, узяў яе руку ў свае слабыя пальцы, і Віка зразумела, што Лаўрык пазнаў яе.

Віка яшчэ ніжэй нахілілася над ім і паціху заплакала.

У гэтую хвіліну ў яе памяці мільганулася маленства: ельніцкая школа, прысадзісты чарнявы хлопчык з шорсткаю стрыжанай шчоткай на галаве, яе строгая настаўніца і такая добрая мама, за труной якой у марозны сонечны дзень ішла ўся вёска, маўклівы Кірэй Шастак, дзед Чэмер, які ўсю зіму ляжаў на печы, Баравічы і ўсе тыя бясконца шчаслівыя дні, калі яны з Лаўрыкам вярталіся з баравіцкай школы дадому цераз веснавыя паплавы, пераскокваючы канавы, і як аднаго разу ў паводку Лаўрык, узяўшы яе на рукі, сам па калені ў вадзе, нёс цераз шырокі брадок, дно якога высвечвала чыстым жоўтым жвірам…

Але вось да слыху Вікі пачалі даходзіць, як з-пад зямлі, словы звяглівага інтэнданта, які таксама ўспамінаў сваё жыццё.

— Што я ведаў? Адно і тое ж, з дня ў дзень. Што я бачыў? Нічога… Толькі б выжыць, толькі б выжыць, — захліпаўся ён і раптам хапаў за руку сваю жонку, як быццам ад яе залежаў яго лёс. — Я буду жыць толькі дзеля сябе, пляваць мне на шчасце для ўсіх. Яго ніколі не будзе… Жыццё даецца адзін раз… Залатыя словы!..

— Супакойся, Пецечка, — прасіла, плачучы, жонка.

— Падлюга ваш Пецечка! — не стрымаўшы свае крыўды, сказала Віка. — Словы, абмытыя людской крывёй, ён гатоў утаптаць у гразь!..

Так Віка, якая ўвесь час не цярпела інтэнданта за яго страх, за яго нянавісць і зласлівую зайздрасць да людзей, але па строгаму абавязку не магла выказаць свайго абурэння, цяпер свядома кінула яму свой выклік. І капітан з гатоўнасцю ўхапіўся за яго.

Адчуўшы, што перад ім адкрыліся новыя магчымасці нарэшце вывесці ўсіх «на чыстую ваду», інтэндант, акрыяўшы духам, распачынаў чарговую валтузню, поўную ябедніцтва, скаргаў і падазрэнняў…

## VII

Міналіся дні за днямі: Лаўрэн Шастак ачуньваў. Яго маладыя сілы пастуупова поўніліся жыццём.

Зняможаная бяссоннымі начамі і душэўнымі трывогамі, Віка цяпер ужо ведала, што яна перамагла і ў паядынку са смерцю, якая пагражала дарагому для яе чалавеку, і ў паядынку з няверʼем, з бяздушнасцю да таго шчасця, у імя якога жывуць і змагаюцца людзі.

З расказаў Лаўрыка яна знала, што, трапіўшы ў акружэнне ў родных мясцінах, ён цераз выведчыкаў дачуўся, што кулакі з ельніцкіх хутароў, стаўшы паслугачамі акупантаў, нарэшце спагналі сваю ашалелую злосць і за калгас, і за ўсе гады свае нянавісці. На дзядзінцы перад школай яны павесілі Кірэя Шастака і цэлы тыдзень не давалі здымаць з шыбеніцы…

Вайна ўзыходзіла на самыя высокія волжскія кручы, але захопнік у сляпой зацятасці ўсё яшчэ не хацеў паверыць, што гэта яго апошнія вяршыні, за якімі — пагібельная бездань.

Цяпер ужо Шастак знаў, што ідзе ў тое няўмольнае полымя, прайшоўшы цераз якое, убачыць перамогу.

Раніца, калі выпісваўся Лаўрэн, была трывожная для дзясятай палаты.

Усю ноч інтэндант не даў нікому і вока звесці, а пасля знябыўся і змоўк, накрыўшыся з галавой.

Калі Віка ўвайшла ў палату, яна здзівілася нечаканай цішыні. Падняўшы прасціну, яна ўбачыла, што інтэндант ужо назаўсёды вызваліўся і ад пакут свайго цела, і ад пакут свае злое, самалюбнае душы. Трымаючыся тайны, урачы так і не сказалі яму, што за язвай яны хавалі ад яго хваробу, ад якое яшчэ няма надзейнага ратунку.

Стараючыся не пабудзіць Лаўрыка, які заснуў толькі перад-дзень, Віка разам з санітаркаю паціху расчынілі палатныя дзверы і выкацілі ложак з нябожчыкам цераз калідор у ванны пакой. Гэта быў часовы прыпынак усіх памёршых у аддзяленні, куды прыходзілі ўдвух санітары ў сініх халатах, бралі нябожчыка на насілкі, накрывалі коўдрай і выпраўляліся прывычным для іх маршрутам…

## VIII

Папаўдні Шастак пакінуў шпіталь.

Цяжкая была апошняя ноч — і таму, што побач паміраў інтэндант, і таму, што Лаўрэну трэба было ўсё да канца выказаць сваёй каханай, каб яна ведала, што дзеля гэтага кахання ён гатоў на самыя страшныя выпрабаванні, што і да скону будзе несці яго чыстым і запаветным.

Віка, седзячы побач з ім у палаце, гладзіла яго шорсткія смаляныя валасы.

— Лаўрычак, — як у юнацтве, сказала яна, — а на скронях у цябе ўжо белыя нітачкі… Хадзем, я памыю табе галаву…

І ў гэтым нечаканым па сваёй інтымнасці клопаце Лаўрык адчуў ласку настолькі роднага яму чалавека, што ўстаў і паслушна пайшоў за ёю.

Зайшоўшы ў ванны пакой, Віка адразу ж замкнула за сабою дзверы і, кінуўшыся да Лаўрыка, гарачымі рукамі абвіла яго шыю. Цяпер яна ведала цану кожнай хвіліне, што няўмольна набліжала іх разлуку.

Замарачыўшыся ад першага пацалунка, яна ўпала ўпоперак капітанавага ложка з голым сеннікам, усё яшчэ трымаючы Лаўрыка за шыю і яшчэ бліжэй прыціскаючы яго вочы да сваіх вачэй, яго губы да сваіх губ, горкіх ад слёз і ад першай, такой жа горкай, жаночай радасці…

Калі Лаўрык ля шпітальнага пад'езда, перад тым як залезці ў кузаў машыны, абняў Віку на развітанне, ён не мог не заўважыць, што яна яшчэ болей пасталела за гэтыя хвіліны і стаяла перад ім якраз такой, як яе маці Таццяна Мікалаеўна, яго першая настаўніца.

Намагаючыся не паддацца слабасці, яна вымавіла самыя простыя словы:

— Не забывай, Лаўрычак…

І Лаўрэн Шастак у прастаце яе слоў улавіў запаветны сэнс сваёй будучыні.

— Віка, — сказаў ён паціху, — можа быць, я не вярнуся, дык ведай, што самае дарагое для мяне імя — Вікторыя…

*1960*

## ДЛЯ ПАСАЖЫРАЎ З ДЗЕЦЬМІ

У кожным поездзе ёсць такі вагон. Калі не набіраецца пасажыраў з дзецьмі, білеты ў яго прадаюць і пасажырам без дзяцей.

Я люблю ездзіць у гэтым вагоне. Колькі заўсёды новых уражанняў і знаёмстваў — адна асалода.

З Масквы да Мінска ноч язды, і адпраўляецца поезд яшчэ завідна, так што, пакуль класціся спаць, паспееш перазнаёміцца з усімі спадарожнікамі. І ў першую чаргу, вядома, з тымі, хто едзе па праву ў гэтым вагоне, з яго галоўнымі пасажырамі.

З імі знаёміцца прасцей, чым з дарослымі, хаця, як я даўно ўпэўніўся, і яны не церпяць залішне цікаўных, надакучлівых, адным словам, усіх, хто вельмі ўжо набіваецца ў знаёмыя.

Яны самі ставяць умовы знаёмства, і калі ты прымаеш гэтыя ўмовы — калі ласка, можаш не толькі пазнаёміцца, а і пасябраваць.

Прыйшоўшы ў купэ і ўладкаваўшыся з рэчамі, я збольшага паспеў і асвойтацца, і адпачыць, пакуль паявіўся мой першы спадарожнік.

Адразу я ўбачыў не яго самога, а яго вочы — бліскучыя, чорныя, як агатавыя шпонкі. Ён акінуў імі купэ з верхняй паліцы да падлогі, не заўважаючы мяне.

Я сядзеў пры століку, чакаючы далейшага ходу падзей.

— Наша, наша, — пачуўся за яго спіной жаночы голас, — заходзь, Борачка.

Борачка пераступіў металічны парожак, і цяпер я ўбачыў яго ва ўсёй ваяўнічай красе.

Ён адначасна нёс службу і ў сухапутных узброеных сілах, аб чым сведчыў аўтамат, перакінуты цераз плячо, і ў марскіх — пры боку вісеў шыкозны, зіхатлівы корцік, з якога, здаецца, вось-вось закапае золата. Але не паспела ўпасці ні адной залатой кроплі, як Бора, выхапіўшы з ножан кінжал, нечакана наставіў на мяне:

— Зарэжу!

Яго агатавыя вочкі яшчэ болей пацямнелі, і я ўбачыў у іх тую зацятасць, якая выдавала рашучую натуру.

— Я думаў, што ты — марак, а ты — разбойнік, — сказаў я, не вельмі абрадаваўшыся такому знаёмству.

— Бора, перастань, — сказала жанчына, і толькі цяпер я разгледзеў яе. Гэта была прыгажуня, што адразу ж ашаламляла сваёй опернай шыкознасцю. Я невыпадкова сказаў — опернай, бо не ведаю болей дакладнага вызначэння тым прыгажуням, якія ўпэўнены, што паходзяць з аднаго роду, заводу і племені з чараўніцай Кармэн.

І маю спадарожніцу ніхто б і ніколі не пераканаў, што яна не валодае незвычайнай сілай прывабнасці.

У яе былі важкія доказы чараўніцтва: вялізныя залатыя калёсы завушніц не схілялі ёй галавы ні налева, ні направа толькі таму, што былі аднае вагі, але вушы прыкметна адцягвалі ўніз.

— Перастань, Бора… — паўтарыла яна механічна, абыякавым голасам, па якім няцяжка было зразумець, што мілыя, бяскрыўдныя свавольствы сына не вартыя ўвагі.

Гэтакім жа, не вартым увагі быў і той, каго збіраўся «зарэзаць» яе сынок, а потым, для больш надзейнай расправы, нацэліўшыся ў твар, выпусціў увесь набой аўтамата: тр-тр, та-та-тах!

Затое як ажывілася яна, як зайгралі ўсмешка і густа падведзеныя вочы, калі ў наша купэ ўвайшлі два новыя пасажыры, два прыгожыя вайскоўцы — капітан і старшы лейтэнант, і як адразу ж сцьмелі, згаслі, калі высветлілася, што вайскоўцы памыліліся, што іх месцы не ў нашым, а ў суседнім купэ.

На вольныя месцы ў нашым прыйшлі законныя пасажыры: бабка з малым унукам.

І новых суседзяў Бора сустрэў тымі ж знакамі ўвагі.

— Тр-р, тр-р, та-та! — навёў ён свой аўтамат на малога незнаёмца.

Хлопчык, намнога меншы за Бору, здаўся мне больш сталым і разважлівым. Яму не спадабалася такое знаёмства, і ён адвёў настаўленую на яго рулю аўтамата.

Чараўніца Кармэн на гэты раз не вымавіла ні слова.

Бабка ж, падбадзёрваючы ўнука, ахвотна ўключылася ў гаворку. Як неўзабаве высветлілася, яна везла свайго гарадскога ўнука да сябе ў вёску на ўсё лета.

— Не бойся, Савачка, — хлопчык з табою пагуляць хоча.

Але Савачка не прыняў гульні.

Поезд крануўся з месца і, пакінуўшы ўжо далёка за сабой горад, усё болей набіраў хуткасці. Пасажырскае жыццё ўваходзіла ў свой парадак.

Нашай Кармэнсіце не ўседзелася сярод бабы і дзеда, і яе залівісты голас хутка пачуўся з суседняга купэ, куды яна ўжо як знаёмая выправілася ў госці.

— Пагуляй, Савачка, з хлопчыкам, — угаворвала бабка ўнука.

Поўная радаснага замілавання, яна гатова была ўсёй істотай далучыцца да дзяцей, каб тыя паразумеліся і пасябравалі.

— Борачка, Савачка…

Але Савачка не знайшоў агульнай мовы з Борачкам не толькі таму, што авалодваў першымі словамі і нават сваё імя вымаўляў яшчэ — Ава, Авацька, яму мала было адзінага ваяўнічага захаплення. Не знайшоўшы кампаніі, і Борачка ўслед за мамай пакінуў купэ.

Савачка ўпершыню ехаў у поездзе. І як толькі знік за дзвярыма Борачка, і ён памкнуўся ў калідор. Ён помніў, як ішлі яны сюды з аднаго канца і як нядаўна бабка вадзіла яго па невялікай патрэбе ў другі канец, калідор здаўся яму бясконца доўгім — значыць, не ўсё яшчэ ўбачана і адкрыта.

Савачка пачаў тузаць цяжкую металічную ручку, але дзверы не паддаваліся.

— Туды няможна, — сказала бабка.

Савачка доўга заклапочана маўчаў і дадумаўся-такі да прычыны, з якою не магла не палічыцца бабка.

— Э-э-э, — сказаў ён і пакутліва зморшчыўся.

Бабка падхапілася і павяла ўнука.

Па калідоры, узброены да зубоў, гуляў Борачка. Ён па чарзе заглядаў у кожнае купэ і, наводзячы аўтамат або пакручваючы ў руках бліскучы корцік, распраўляўся падчыстую з усімі пагалоўна.

Борачка не любіў, калі найбольш падатлівыя, гатовыя звесці ўсё на гульню, задаволена рагаталі, ахвотна падымалі рукі ўгору. Сапраўднага праціўніка ён пазнаваў у тым, хто мяняўся .ў твары, злосна адмахваўся: адстань! Ад такога Борачка якраз і

не мог адстаць, пакуль зусім не выводзіў з цярпення і ўрачыста не завяршаў перамогі радасным: тра-та-тах!

Савачка ж з бабкай неўзабаве вярнуліся ў купэ.

— Ах ты балаўнік, — пазнаў я яшчэ за дзвярыма лагоднае ўшчуванне. — Гэта ж так ашукаць, — весела абуралася бабка, уваходзячы ў купэ. — Бач, які хітрэц. Ну, у другі раз не павяду…

Але ўнуку захацелася і ў другі раз. І ён зноў пачаў тузаць ручку дзвярэй:

— Э-э-э.

— Хлусіш, — сказала бабка. — Вось я сама спытаюся…

Падхапіўшы Савачку, яна павярнула ўнука ніцма на сваіх каленях і прыклала вуха ніжэй хлопчыкавай спіны. Пасля сакрэтнай размовы, якая вялася пошапкам, бабка высветліла ўсё.

— Хлусіш, — сказала яна, і на гэтым скончыліся ўсе ўнукавы спробы выбрацца ў вялікае падарожжа.

Савачка быў у тым шчаслівым узросце, калі ўвесь свет поўны таямніц і загадак не толькі на адлегласці, але і вакол цябе і ў табе самім, калі ўсё жыве, гаворыць, адчувае гэтак жа, як і ты.

Калі наш вагон страсянуўся і Савачка паваліўся, ён добра знаў, хто вінаваты:

— На, на, на! — паляпаў ён па падлозе, на якой сядзеў, і, устаўшы, быў задаволены, што праўда ўзяла верх, што крыўда атрымала сваё, належнае ёй.

Набліжалася пара, калі прыходзіць усёмагутны сон. Даўно змарыўся ад сваіх ваяўнічых прыгод Борачка, выпрабаваны пасажыр, ён спаў надзейна. Не сціхаў толькі ў суседнім купэ вясёлы смех яго мамы, ды ніяк не мог супакоіцца Савачка.

Нязвыклы грукат вагона, цемра і зялёны агеньчык начной лямпачкі не давалі яму сцішыцца, аддацца сну.

І тут памагло вялікае чарадзейства.

— Адно вочка спіць, спіць… і другое засынае… — пачуў я ціхія добрыя бабчыны словы.

Можа, таму неўзабаве пачаў засынаць і сам, паспеўшы толькі пашкадаваць свайго другога спадарожніка Борачку, маці якога так ніколі і не даведаецца, якія дзівосныя чары ёсць на свеце.

*1975*

# КІРМАШ

Усе вуліцы гарадка, абсучасненыя новымі будынкамі, агучаныя рэпрадуктарамі на слупах, з самага ранку заварушыліся і напоўніліся жыццём, якое даўнімі каранямі ўсё яшчэ трымаецца ў вёсцы, у яе турботах і клопаце.

Да рыначнага пляца спяшаліся «Волгі», «Масквічы», «Жыгулі» са сталіцы, «Запарожцы», матацыклы і веласіпедысты мясцовай знаці, а апошнімі па хуткасці — вазы, той від транспарту, на праезд і правоз якога і разлічвалі самыя хуткія, упраўныя і ўвішныя.

Напэўна, мала хто прызнаўся б, але той, хто выглядаў з машыны і бачыў, як урачыста па шашы коціцца воз, закладзены свежай, кагадзе ўкошанай канюшынай і засланы каляровай посцілкай, здаецца, усё ж зайздросціў паязджанам. Якая гэта, сапраўды, раскоша — ехаць на канюшыне ў такую прасторную, сонечную раніцу!

Седзячы ў перадку, кіруеш сабе канём, што прывык ужо і да асфальту, і да бруку і нават не скаланецца і вухам не павядзе, калі паўз аглоблі шугане не тое што «Масквіч», а і самазвал.

На возе — сям’я або цэлы гурт седакоў, а з самага заду — спінаю наперад дзядок ці бабка, якіх падсадзілі дарогаю. Звесіўшы ногі да зямлі, яны заўсёды добра бачаць, колькі прайшлі і праехалі, і не вельмі выразна, колькі яшчэ засталося.

Што асабліва цешыць, дык гэта цяперашнія коні — сытыя, гладкія, рахманыя. Няхай, можа, і дажываюць веку, але ж у заслужаным доглядзе, не так, як пасляваенныя пакутнікі і заморкі.

Колькі ім было работы, колькі разам з людзьмі нагараваліся, нацярпеліся і ад бяскорміцы, і ад задухі!

А цяпер аж блішчаць — глядзіся, як у люстэрка.

А як не расчуліцца даўняму вяскоўцу, убачыўшы столькі знаёмага начыння і прыладдзя: дзежачкі, цэбры, начоўкі, апалонікі, гаршкі, збаны, глякі, паліваныя місы і макатры!

Колькі ў космасе кружыць спадарожнікаў і даследчых лабараторый, а тут, на зямлі, яшчэ патрэбны і кубельчык на сала, і дубовая кадушачка на шаткаванку і агуркі, і бойка, каб збіць «свежанькае, над якога не знойдзеш смачнейшага ні ў адным магазіне»!

На вазах — ад пярэдніх да задніх калёс — цяжка стогнуць кормныя япрукі. Пад вазамі валтузяцца, вішчаць парасяты.

Стаяць, дажоўваючы жвайку, каровы. Падкурчыўшы ногі, ляжаць мілыя цяляты і глядзяць на свет такімі чыстымі, адкрытымі вачыма, ажно заходзіцца душа.

— Колькі просіце?

— Рубель трыццаць за кіле.

— А колькі яно важыць?

— Кіле, мабыць, за сорак. Але, купіўшы жывое, вы яшчэ вернеце сваіх дзесяць, а то і дванаццаць рублёў.

— Як?

— А за шкуру. Калі добра злупіць, чысценька…

На рынку, на нядзельным кірмашы, усё сышлося разам — і мінулае і сённяшняе, і старое і новае, і халодны разлік, і кволая дзіцячая ўражлівасць.

Маленькі гараджанін з усяго шматгалосся і шматфарбнага кірмашовага багацця знайшоў адзінае, што ўразіла і ўзрушыла яго пачуцці: звязанае цялятка цёплаю, яшчэ неабсохлаю пыскаю даверліва цягнецца да рукі.

Хлопчык стаіць каля воза і чуе ўсе разлікі і парады гаспадара. Ён сіратліва туліцца да цялятка, потым бяжыць і вяртаецца з пучком дзяцельніку — і корміць, і корміць, і гладзіць, і гладзіць…

Якія дасканалыя прылады, якія сейсмографы ўловяць і перададуць нам трывогі, што ўжо не месцяцца ў маленькім дзіцячым сэрцы?

Чуйнае, уражлівае, спагадлівае, яно, на жаль, — бездапаможнае перад цвярозай жорсткасцю.

***1975***

## ТРОЕ Ў ПАЛАЦЕ

### I

І ў самыя цяжкія хвіліны чалавека не пакідае цікаўнасць. Ён не можа бачыць жыццё толькі з аднае пазіцыі, падобна рыбалову, які сцішыўся на беразе і, усёй увагай прыкаваны да паплаўка, глядзіць на раку, што, верная сваім законам, плыве і плыве далей.

У кожнага свая рака. Але рэдка хто безуважны сузіральнік яе плыні, нават калі і вымушаны на бяздзейнасць.

Колькі можна прабыць у настроі сузіральнасці самаму стомленаму і знясіленаму — месяц, няхай два, а ў бядзе, у трывозе чалавеку страшней за ўсё адзінота.

Трапіўшы ў бальніцу нават цяжка хворы, цераз якую хвіліну-дзве ты ўжо ўсёй напружанай, нацятай душэўнай вастрынёй

адчуваеш, як, перамагаючы боль, на паверхню ўсёй пакутнай трывогі выбіваецца цікаўнасць: хто твае суседзі, можа, у іх яшчэ большая бяда, чым твая? І спачуванне чужому гору суцішае твой асабісты боль.

Далучыўшыся да агульных намаганняў перамагчы хваробу, ты адчуў, што і самому стала лягчэй.

Бруіцца рака жыцця — імклівa і няспынна. Не маючы змогі плыць, не кідай у яе каменняў горкай крыўды.

У бядзе чалавек спазнаецца, які ён ёсць.

Нярэдкае прабыванне і падоўгу ў бальнічнай палаце заўсёды зводзіла мяне з харошымі людзьмі, хоць раней, ва ўмовах свайго асяроддзя, у службовых, бытавых і штодзённых клопатах, яны, здаецца, нічым не маглі прывабіць і зацікавіць.

Значыць, або я іх не ведаў, або, хутчэй за ўсё, асяроддзе, сфера іх інтарэсаў, якімі яны жылі, не памаглі ім выявіцца ў сваіх найлепшых якасцях і магчымасцях.

Чалавек, відаць, пазнаецца больш за ўсё тады, калі выходзіць пераможцам з цяжкага выпрабавання, пераканаўшыся, што гэтай перамогай ён абавязаны не аднаму сабе, а і намаганням людзей, доўг і абавязак перад якімі сталі цяпер яго самымі высокімі пачуццямі. Пасля такога спазнання яснейшаю становіцца душа, а чалавек — лепшым, дабрэйшым, прыгажэйшым.

Ён ужо і на адзіноце не адзінокі. Абвастраецца ўвага, дапытлівасць і цікаўнасць да кожнага — хто ён, якімі клопатамі заняты, якімі трывогамі і думкамі жыве?

Пра такія знаёмствы не магу сказаць — выпадковыя.

Яны заўсёды дарылі мне добрых сяброў.

## II

На гэты раз маім другам стаў Рома. І я многім удзячны яму за тое, што хвароба, якая скруціла мяне ў казіны рог і не давала прасветлае гадзіны ні ўдзень, ні ўночы, раптам расслабіла свае ўчэпістыя лапы і нават палагаднела, як толькі я ўбачыў яго, свайго будучага друга…

Ён сядзеў на ложку пры акне і на поўную магутнасць заводзіў… баявы танк. Спружыне не цярпелася адразу ж даць ход цяжкім гусеніцам. Танк увесь калаціўся, роў і грукаў, ірвучыся з рук вадзіцеля. Машына імкнулася наперад, але поле танкадрома было да немагчымасці абмежаванае.

На каленях Ромы ляжала тонкая, лёгкая дошка, што служыла яму сталом. На ёй, вядома ж, неставала патрэбнага аператыўнага

прастору. Разагнаўшыся, танк з грукатам ляцеў на падлогу. Сам танкіст, не могучы ўстаць, націскаў на кнопку званка, і тады прыбягала няня або дзяжурная сястра.

Разумеючы сваю бездапаможнасць, ён не адчуваў сябе вінаватым.

Якраз у момант такой вялікай аварыі, калі машына ляжала дагары гусеніцамі, натужна і жудасна равучы, сястра і няня прывялі ў палату мяне.

Рома невыказна абрадаваўся — кончылася, нарэшце, адзіноцтва! І хоць яно цягнулася не болей гадзіны, пакуль выпісваўся мой папярэднік, а на яго месца ў прыёмным пакоі рыхтавалі мяне, але чалавеку кіпучай, няўрымслівай натуры і гадзіна магла здацца вечнасцю.

Матор танка коратка раўнуў і змоўк. Цяпер ён ляжаў без найменшай прыкметы жыцця.

Рома падняў на мяне ціхі, засмучаны пагляд — і я зразумеў увесь адчай яго бездапаможнасці.

Самае ж невыноснае ў маёй бядзе было — нагнуцца і разагнуцца. Але спадзяванне, якое я прачытаў у сумных вачах Ромы, магло вымусіць і на большы подзвіг.

Я нагнуўся, падняў машыну, але падаць яе свайму суседу не змог. Разагнуцца мне памаглі сястра і няня, якіх выклікаў Рома, дасканала спрактыкаваны ў тэхніцы сігналізацыі.

І ўсё ж хоць першая спроба сагнуцца і разагнуцца пацярпела няўдачу, потым я ўпэўніўся, што якраз у гэтым быў мой паратунак.

Цераз неймаверныя намаганні, перасільваючы нясцерпны боль, чым болей я згінаўся і разгінаўся, варушыў рукамі і нагамі ў кожным іх суставе, тым выразней, няхай сабе і вельмі яшчэ далёка наперадзе, праяснялася надзея, што я перамагу хваробу.

Паступова далучаючыся да турбот і клопатаў свайго аднапалатніка, я набываў у ім друга, але не скажу, што і аднадумца. Якраз у думках, у поглядах на многія рэчы мы разыходзіліся з ім, часта займаючы рэзка супрацьлеглыя пазіцыі.

Першым пунктам нашых гарачых спрэчак і вострых канфліктаў быў… футбол.

У вачах Ромы адзінае, што апраўдвала мяне, гэта паважаны ўзрост. Але ў такія хвіліны я прыгадваў і некаторых сваіх сяброў, якія ў асобе майго юнага друга знайшлі б не толькі аднадумца, але і падзвіжніка ў імя самай высокай страсці нашых дзён.

Рома паў ахвярай гэтай страсці.

З поля бою ён падняўся, але сюды, у бальнічную палату, яго даставіла «хуткая дапамога».

Чорт вазьмі, калі ўжо не шанцуе, дык не шанцуе! Адна бяда шукае другую.

Заставалася два месяцы да заканчэння заняткаў у школе, і Рома, прыкаваны да пасцелі, мусіў яшчэ мужна і самааддана канчаць свой першы клас.

Штодня прыходзіла настаўніца, дэлегацыі аднакласнікаў, і мой друг адчуваў сябе героем, што пацярпеў дзеля шчасця і дабра ўсіх бліжніх і дальніх, з'яднаных адзінай любоўю і захапленнем.

Першакласнік і першакласны — словы падобныя, але паміж імі вялікая розніца.

Калі першае можа вызначыць сабой любога смертнага, хто пачапіў на плечы ранец і прыйшоў у школу, дык другое — о, другое — першакласны футбаліст, сапраўды гучыць горда.

У гэтым Рома пераканаўся нават у бальніцы.

Па тым, як у дні футбольных перадач пусцелі палаты і ўсе спяшаліся ў вестыбюль, да тэлевізара — хто на кастылях, хто трымаючыся за сцяну, хто — за плячо таварыша, няцяжка было зразумець, што ў жыцці адбываецца найважнейшая падзея, ад якое залежыць лёс кожнага.

Дзіва што Рома не прапускаў ніводнае гульні. Удасканаліўшыся ў чытанні не так па буквары, як па раскладзе тэлепраграм, ён чакаў кожнае гульні, як вялікага свята.

У гэты дзень, калі не прыходзілі бацькі, дзяжурная сястра або няня бралі ў абярэмак першакласнага футбаліста і ўрачыста неслі на руках цераз увесь доўгі калідор.

Рома, абняўшы за шыю свайго насільшчыка ці насільшчыцу, пераможна ўсміхаўся, гледзячы, як усе расступаюцца перад яго паднятай, нібы гарматны ствол, загіпсаванай нагой.

Рома шкадуе, што паламаў нагу.

— Хай бы лепш руку…

— Што ты, Ромачка? — здзівіўся я. Але яшчэ болей здзівіўся, пачуўшы яго прафесійныя меркаванні:

— Калі б руку, — сказаў ён разважліва, — усё ж можна было б гуляць у футбол, — і яшчэ больш радасна дадаў: — І не хадзіць у школу!

Логіка жалезная. Што называецца, двух зайцоў адразу ж і — напавал.

Філасофскі рацыяналізм майго друга не толькі захапляў мяне нечаканасцю абагульненняў, але і вялікай мудрасцю адкрыццяў.

Убачыўшы, як я, сцяўшы зубы, моршчуся ад болю, і, напэўна, спачуваючы мне, ён глыбакадумна сказаў:

— Каб не было людзей, не было б ніякіх хвароб…

Госпадзі, вуснамі младзенца глаголет ісціна. Ды яшчэ якая! Ну хто б гэта нават з найвялікшых філосафаў дайшоў да самай першапрычыны ўсіх пакут на зямлі: каб не было людзей?

— А хто быў бы, Ромачка?

— Робаты. Сапсавалася што — выкінуў і замяніў другім.

— А хто б гэта ўсё рабіў?

— А сам, — не дапускаючы пярэчанняў, сказаў Рома, — сам адвінціў галаву, наліў масла і зноў прывінціў.

Прызнаюся, я не люблю фантастыкі, але калі б паявіліся ў нас кнігі з такімі героямі і такой ідэальнай сістэмай самаабслугі, я запоем чытаў бы ўсю гэтую літаратуру.

Дзіця свайго веку, ён ніколі не адступаўся ад сваёй упэўненасці.

Дарэмна было спрачацца, ён не любіў пярэчанняў.

Усякае ваша намаганне падсунуць доказ адразу цярпела поўнае паражэнне.

— Я ж лепш ведаю! — заяўляў пераможна ён, і вы павінны былі згаджацца з гэтым, сапраўды неабвержным аргументам.

Багаты вопыт сямігадовага жыцця вызначыў у ім натуру, я сказаў бы, цвёрдае волі.

Катэгарычнасць яго меркаванняў, безумоўна, ішла ад бацькоўскай улады. Ён толькі не ведаў, каму аддаць перавагу: тату ці маме.

— Ну, дома хто галоўны?

— Дай падумаць, — сказаў Рома, але думаў нядоўга: — Тата.

— Чаму?

— Таму што ён уключае тэлевізар…

## III

Падрабязнасці матча, які адбыўся на школьным двары і пасля якога цэнтральны нападаючы трапіў у бальніцу, я запісаў са слоў пацярпеўшага.

Сам Рома ўспрыняў мой запіс як акт гістарычны.

— Пішы, пішы, — сказаў ён, заўважыўшы, што я цяжка варочаю пальцамі, якія ледзь упраўляюцца вадзіць алоўкам.

Мне хацелася запісаць толькі асобныя эпізоды незабыўнага подзвігу Ромы, але ён, пільна сочачы, ці адпавядае кожнае сказанае слова працягласці і адпаведна занятаму месцу пад маёй

рукой, і на гэты раз здзівіў дакладнасцю разумення праўдзівасці ўсякага летапісу.

— Пішы ўсё, а то не будзе цікава…

І праўда, як у ваду глядзеў Рома! Калі цяпер мне захацелася ўзнавіць дарагія ўспаміны і, адшукаўшы маленькі бальнічны блакноцік, я ўбачыў у ім сцёртыя, малавыразныя каракулі, як жа я пашкадаваў, што іх так мала!

Цяпер ужо кожнае слова майго друга для мяне на вагу золата.

Добра, што я запісаў хоць найважнейшыя акалічнасці, не грэбуючы і дэталямі, што надта ажывілі праўдзівасць абставін, тыповых і характэрных ва ўмовах, у якіх пачаўся гэты летапіс.

— Я так даўно табе, дзядуля, расказваю, што захацеў у туалет, — прызнаўся Рома і націснуў кнопку званка.

Паявілася няня, і пасля нядоўгай і нескладанай працэдуры наша работа над стэнаграмай пайшла болей паспяхова.

Мяркуючы па тым, як расказваў Рома, школьны матч абяцаў поўны трыумф.

«Я быў нападаючы, гнаў мяч у вароты. Р-раз нагой — і Уладзіку. Уладзіка акружылі, але ён сумеў перадаць мяч мне. Я павёў мяч у вароты. Разагнаўся, ды я-а-ак даў, а варатар — мне пад ногі. Мы абодва ўпалі. Я яму нагой — у патыліцу. Ён ускочыў і схапіўся за галаву, а я ляжу, бо не магу ўстаць. Склаўшы рукі сядлом, хлопцы ўзялі мяне і вынеслі з поля. Гульня не спынілася. За мяне білі штрафны. І зраўнялі лік: адзін-адзін. У-р-ра! Я паспрабаваў падняцца, каб закрычаць разам са сваімі «ўра», але не мог. Тады я адпоўз яшчэ далей, каб не замінаць гульні, і стаў думаць: як дабрацца дадому аж цераз чатыры вуліцы? Я ўвесь час зваў Уладзіка, свайго друга, але ён не чуў майго голасу. Тады я паклікаў Грышу з трэцяга класа. Ён падбег і спытаўся:

— Што з табой?

— Баліць нага.

— Я пайду пазаву медсястру.

— Ой, не трэба.

Але падышлі яшчэ з трэцяга класа, паднялі мяне і панеслі ў школу. Медсястра, убачыўшы, як мяне валакуць, спыталася:

— Што з ім?

— Нага.

— У футбол ганяў?

— Ганяў.

— Скора і галовы паскручваеце. Давайце ў медкабінет. А я пайду доктара паклічу.

Мяне палажылі на тапчан. Я не мог павярнуцца ад болю, але цярпеў. Назе зрабілася холадна-холадна. Я паспрабаваў падняцца. Падняўся і сеў. А потым устаў і пайшоў кульгаючы…

— Ну, дзядуля, праўда, цікава? А ты не хацеў запісваць… Дакульгаў я да парога, хацеў адчыніць дзверы, спытацца, як там футбол, і паваліўся.

Прыйшоў доктар. Паглядзеў, памацаў.

— Пералом. У бальніцу!

Я заплакаў… Толькі ж ты не пішы, што я плакаў. Я цярпеў, як салдат…»

Так закончыў Рома сваё апавяданне, не забыўшыся паклапаціцца, каб яно гучала бадзёра, аптымістычна, адпаведна подзвігу.

Арэол перамогі лунаў над яго стрыжанай галавой.

Хто б мог падумаць і ў каго б павярнуўся язык сказаць, што ён нарабіў бяды не толькі сабе, але бацькам і школе?

Што вы! Школа першай парупілася, каб бліскучыя гадавыя паказчыкі класа ўпрыгожылі і незвычайныя поспехі Ромы.

У дзень апошняга званка, калі скончыліся заняткі, настаўніца прыйшла да нас у палату. Яна прынесла свайму вучню ўрачысты рэскрыпт, які называўся: «Падзяка за вучобу і прыкладныя паводзіны», а ў дадатак яшчэ і памятны падарунак — кнігу, на якой былі напісаны тыя ж гарачыя словы ўдзячнасці, замацаваныя подпісам і пячаткай дырэктара.

Рома зіхацеў у промнях славы!

## IV

Надышоў і мой урачысты дзень.

Мне стукнула шэсцьдзясят.

Стукнула памяркоўна. Лёс пашкадаваў мяне. І хоць ноч была трывожная, але паспаў я засаб аж тры гадзіны. Боль палагаднеў — можна было трываць.

Дзень якраз быў, як кажа Рома, упускны. І яшчэ толькі ён пачаўся, а родныя мае нанеслі ў палату цюльпанаў, нарцысаў, бэзу. Унучка Юля, агледзеўшы ўсю гэтую раскошу, сказала:

— Дзядуля, ты як у раі!

І праўда, я быў у раі. Быў на тым сёмым небе, куды так рэдка-рэдка падымаемся мы з вамі.

Дзякуй вам, мае дарагія, за гэты ранак і за сонечны майскі дзень, які яшчэ ўвесь быў наперадзе. Дзякуй табе, вялікая мая пакутніца маці, што нарадзіла мяне ў гэты харошы дзень на зямлі.

— Значыць, табе шэсцьдзясят? — перапытаў Рома, як бы нанава аглядаючы мяне.

— Шэсцьдзясят.

— Чаму ж ты не вырасціў сабе вусоў?

— Не паспеў, Ромачка. Давай будзем разам расціць…

Рома не згадзіўся.

Не таму, што ў яго не раслі. Была болей важкая прычына:

— Я яшчэ не на пенсіі…

Цвярозая разважлівасць друга радасна асвятліла і маю перспектыву: сапраўды, колькі яшчэ наперадзе прыемнага занятку.

Аказалася, што і сівізна — не прычына для засмучэння.

Рома аўтарытэтна сказаў:

— Лепш сівы, чым лысабрысы.

І хоць я не зусім дакладна ўяўляю, што гэта такое, але шчаслівы, што «лысабрысасць» мяне абмінула.

Аўтарытэтная дасведчанасць майго друга ў падобных, прыемных для мяне адкрыццях не выклікала ў мяне сумненняў яшчэ і таму, што я ва ўсім паслухмяна згаджаўся з яго неабвержным доказам: «Я ж лепш ведаю…»

— Дзядуля, мы з табой равеснікі! — раптам выгукнуў Рома.

— Вядома, — згадзіўся я, яшчэ не спасцігнуўшы глыбокага сэнсу такой прыемнай нечаканасці.

— Я ж таксама нарадзіўся ў нядзелю! — удакладніў ён, і, такім чынам, усе далейшыя знакі пашаны мы пачалі прымаць разам.

Юля прынесла кошык чарэшань — першых, паўднёвых. Я высыпаў ягады ў вазу з-пад графіна. Атрымалася поўная ваза з коптурам. Мы селі ўдвух і ў дружнай згодзе за паўгадзіны далі ёй рады.

Мы маглі пасядзець і яшчэ, але другу рупіў большы клопат: з вестыбюля пачуліся пазыўныя футбольнай тэлеперадачы…

А пакуль Рома глядзеў тэлевізар, я на самоце паддаўся (часова, вядома!) не зусім святочным настроям.

Як ні кажыце, юбілеі ў бальніцах не выклікаюць асаблівага ўздыму. Бездапаможны перад акалічнасцямі, я адчуваў сябе вінаватым перад усімі дарагімі мне людзьмі, з якімі хацелася пабыць разам і ўсім сказаць словы, для якіх так рэдка здараецца нагода. Яе чакаеш, бывае, цэлыя гады, а то і ўсё жыццё, ды ўсё не рашаешся: а раптам нехта не так цябе зразумее або, крый бог, западозрыць у благіх намыслах.

Не паддаюцца сумным настроям толькі заўсёды бадзёрыя і загартаваныя павіншавальнікі.

З асаблівай асалодай нясуць яны аксамітавыя, ледэрынавыя і дэрмацінавыя папкі, поўныя аптымізму, што здольны падняць віноўніка ўрачыстасці нават з бальнічнага ложка.

Ну хіба не можа расчуліць і ўзрушыць такі даверлівы, такі пяшчотны клопат: «Куды несці кветкі, якія закупіў мясцкам?» Калі ты ўжо і не зможаш падняцца, тым болей абрадуешся:

— Давайце сюды, мае мілыя. Нясіце!

Але была і сапраўдная радасць: вестка пра ўзнагароду высокім ордэнам.

У майго друга Ромы гэта выклікала асаблівае захапленне:

— А салют будзе? — узрушана спытаўся ён.

— З якое прычыны, Ромачка?

— А твой жа дзень нараджэння!

Пасля пагадзіўшыся, што гэта не вельмі лёгкі клопат і турбацыя для нашых артылерыстаў, Рома спагадна згадзіўся:

— Ведаеш, дзядуля, лепш было б, каб пра твой дзень нараджэння ніхто не ведаў, а толькі мы ўдвух: стаміўся ты.

— Так, Ромачка. Давай паспім, набяромся новых сіл…

— А ў мяне старых яшчэ многа!..

Што праўда, то праўда. Сілы яго былі невычарпальныя. Вострыя, усмешлівыя вочы так і свідравалі мяне сваёй няўрымслівасцю. Вясёлая ўхмылка разводзіла рот да самых вушэй. Асабліва цешыўся ён, калі ўдавалася каго разыграць, напалохаць:

— Мама, я ўчора ледзь не памёр!

— Што ты, сынку? — устрывожылася маці, толькі што пераступіўшы парог. — Ад чаго?

— Ад смеху, — залівіста рагоча сын.

Характар маіх пачуццяў вымагаў спакою. Яго натура прагла кіпучай дзейнасці. Запас «старых сіл» бурліў нястомна і няспынна.

І я каторы раз упэўніўся, якія магутныя эмацыянальныя фактары акружаюць сучаснага чалавека з дня яго нараджэння.

І ўсе яны адкрытыя. Іх не трэба шукаць. Яны цябе самі знаходзяць скрозь і ўсюды.

Пазнанне жыцця ідзе пераважна ў адным вымярэнні. Уся ўвага скіравана на верхні пласт: што бачу, чую — тое і ёсць самае важнае. Не складанасць навакольнага свету, поўнага загадак і таямніц, а яго вонкавыя, найбольш магутныя праявы: шум, грукат і эфекты — у літаральным сэнсе ашаламляльныя, здольныя не толькі здзівіць, а і аглушыць.

Можа, таму ён ужо змалку глухі. Я ніколі не чуў, каб ён гаварыў паціху, павольна, ён заўсёды крычыць. І гэта ўжо яго

спосаб абыходжання, спосаб, які сфарміравала ўсёмагутная ўлада гукавой стыхіі.

Мой друг хаця і любіць спяваць, але слыху ў яго няма. Ён не адчувае мелодыі і яе нюансаў. У выпадку, калі песня не пяецца, ён пераходзіць на пафасную дэкламацыю.

— Паслухай, дзядуля, я з песні зрабіў верш:

Шёл отряд по бережку,
Шёл издалека,
Шёл под красным знаменем
Командир полка…

Адспяваўшы такім спосабам адну, пераходзіць да другое:

Красноармейская тачанка —
Все четыре колеса…

— Пулемётная, — папраўляю я.

— Не, мы ў дзетсадзіку спявалі: красноармейская.

Няцяжка пераканацца, што той, хто вучыў яго ў дзетсадзіку, не вызначаўся дакладнасцю слыху.

Усё адно спрачацца марна. Я толькі ўдакладніў, што сам я ў дзетсадзіку спяваў: пулемётная…

Але і тут не прайшоў мой нумар.

— У вайну дзетсадзікаў не было, — сказаў Рома, і, як заўсёды, выйшаў пераможцам, — я ж лепш ведаю.

Госпадзі, ці ёсць, ці засталося што на свеце, чаго б не ведаў мой друг Рома?!

У яго выключны дар гукавой імітацыі. Ён дакладна перадае ўрачыстыя парады, дэманстрацыі, салюты і ўсё магутнае шматгалоссе вуліц, плошчаў і асабліва — стадыёнаў.

А з незвычайным захапленнем — сваю любімую стыхію: гульню ў футбол! Тут ужо разыгрываецца ўся яго фантазія і натхненне: «Гол! У-р-ра! Ма-лай-цы!» — якое багацце дыяпазону, якая разнастайнасць эмоцый гучыць у голасе майго друга!

V

Апрача футбола ў Ромы яшчэ і другое бясконцае і няўпыннае захапленне — вайна, яшчэ адзін пункт нашых разыходжанняў.

— Табе пашанцавала, — сказаў ён, — ты бачыў вайну.

— І табе хацелася б пабачыць?

— Яшчэ як! Бяжыш з аўтаматам і — тра-та-тах-тах! Ур-ра!

— А калі заб'юць?

— Ну і што? Дадуць ордэн. І я з ордэнам хадзіў бы.

Калі ёсць логіка жалезная, дык тут, напэўна, яшчэ цвярдзейшая — стальная.

Нярэдка на яго находзіла натхненне. І тады Рома складаў вершы, малюючы вайну такою, якая адпавядала яго ўяўленням:

Шла дивизия далёко,
Шла дивизия вперед,
Самолет летел высоко,
Наша рота шла в поход.
Вдруг отряд остановился,
И забил наш пулемёт,
«Тигр» немецкий задымился —
Он от нас не удерёт.
Он на месте закрутился,
Заревел, остановился.
Мы пришли, открыли люк,
Смотрим, а врагам — каюк!
И за эту нам победу
Всем вручили ордена.
Я домой с наградой еду,
Мной гордится вся страна.

Усе мае спробы і намаганні пераканаць, колькі гора, няшчасця і жахаў нясе вайна, разлятаюцца ў пух і прах ад неператоможнасці болей магутных аргументаў: тр-тр-тра-та-тах, гу-гу-гу, ж-ж-ж, зь-з-зю, б-бух!

Майму другу хапіла і сямі год, каб пераканацца, што вайна — самая прывабная гульня, якая толькі ёсць на свеце. Такому перакананню нямала паспрыялі кіно і тэлевізар. Гэта яны навучылі Рому так дасканала пераўвасабляцца ў бамбардзіроўшчык, які ляціць і стогне ад цяжару свайго грузу, і ў бомбу, што вываліўшыся з люка, усё хутчэй і хутчэй набліжаецца да зямлі, узмацняючы свой прарэзлівы, свідруючы свіст, і нарэшце — выбух!

Першы раз, пачуўшы гэты гукавы шабаш, я жахнуўся: божа мой, няўжо зноў Беласток, зноў тая яшчэ далёка не раніца, а самая палова ночы, калі, выхапіўшы з пасцелі малога сына, я бягу з ім, сам не ведаючы — куды. Ірвуцца бомбы, падаюць забітыя, рушацца дамы, і не паспявае асесці пыл, як пачынаецца новы гул. «Гу-гу-гу», — паўтарае сын і паказвае ў неба — самалёт!

Для яго гэта — усё яшчэ добрая, мірная птушка, а для мяне — самы жахлівы драпежнік.

Тыя, хто перажыў выпрабаванні, калі ўсе твае нервы, усе найтанчэйшыя твае душэўныя струны напіналіся да вышыні, за якою канчалася паветра і не было чым дыхаць, памятаюць, што і пасля вайны яшчэ доўга не маглі прывыкнуць, што самалёт можа стаць зноў не страшным.

Баявая біяграфія майго друга пачынаецца з першых год свядомага жыцця.

Калі мы толькі пазнаёміліся і, як заўсёды бывае, пачалі высвятляць — дзе хто жыве, аказалася, што амаль суседзі.

— Хіба ты не помніш, як я аднаго разу бег цераз ваш двор з зялёным рэвальверам і страляў: трах-трах, бах-бах? Ты ж, здаецца, стаяў у пад'ездзе?

— Каго ты страляў, адкуль у цябе рэвальвер?

— А-а, — голасам чалавека ўжо даўно пасталелага сказаў Рома і махнуў рукой.

Дзіва што. З таго часу адбыліся куды большыя выпрабаванні.

— З мяне столькі крыві выйшла, — сказаў ён.

І ўжо ад аднаго таго, як прагучала гэтае прызнанне, цяжка было ўтрымацца ад цікаўнасці:

— Калі, Ромачка?

— А як аперацыю рабілі, з горла мікробы выцягвалі…

Так што і ён хлебтануў гора.

Але спачуваў я яму і ў другім — у тым, што сам ён не навучыўся бачыць і разумець, як цяжка і балюча можа быць іншым людзям.

Бывалі часіны, калі боль у суставах набіраў такое сілы, што пачынала здаваць сэрца. Я сціскаў зубы. А мой сусед якраз жа ўваходзіў у такое ваяўнічае натхненне, што на баявыя плацдармы кідалася ўся грозная тэхніка: танкі, гарматы, кулямёты, самалёты і ўвесь арсенал зброі, якую так шчодра пастаўлялі сыну клапатлівыя бацькі.

І вось адначасна разгортваліся самыя бліскучыя аперацыі — і прарыў, і акружэнне, і бязлітаснае вынішчэнне праціўніка!..

— Ромачка, чаму ты такі неспагадлівы? Мабыць, каб чалавек памёр, ты і не заўважыў бы…

— Калі б памёр, заўважыў бы, — заспакоіў мяне мой добры сусед.

Але аднойчы мае нервы не вытрывалі:

— Каб яна згарэла, твая вайна!

Для Ромы такі выбух быў неспадзяваны. Знявага вайны закранула яго найлепшыя пачуцці.

Не паспеў я дакончыць ненавіснае слова «вайна», як раптам у адказ, нібы магутнае водгулле, пачулася:

— На!

Гэта быў выгук майго суседа, выгук, поўны апошняга адчаю:

— Н-на!

Выхапіўшы руку з доўгага рукава піжамы і склаўшы пальцы ў адпаведную камбінацыю, ён паказаў мне, вы ўжо самі здагадаліся, што.

Гэта была ўрачыстасць перамогі, напэўна, найбольшай, чым усе здабытыя толькі што на полі бою.

Такога трыумфу я яшчэ не бачыў.

Але заадно прызнаюся, што ніколі я яшчэ не цярпеў і такога паражэння, такога поўнага краху сваёй педагагічнай стратэгіі.

## VI

Нічога дзіўнага, надыходзіць пара адпачыць і ад сяброў.

Парушаючы строгую забарону выходзіць на двор, я, захутаўшыся ў суконны бальнічны халат, крадком спусціўся па службовай лесвіцы ўніз і, балазе клаўся ўжо густы прыцемак, выйшаў і аблюбаваў сабе лаўку пры ўезных варотах.

Прыемна ўздыхнуць вольна і пасядзець у зацішку бэзавых прысадаў.

Душэўнае ўзрушэнне пачало спадаць. І першае, што я рашыў, — заўтра ж дамагчыся, каб мяне адпусцілі дадому, не падазраючы, што праз якую хвіліну мог паплаціцца за сваю легкадумнасць.

За варотамі спынілася машына, і пачуліся патрабавальныя гудкі.

Не паварухнуўшыся, я сядзеў на сваёй лаўцы.

Патрабавальныя і ўжо болей нецярплівыя сігналы паўтарыліся зноў.

Нарэшце дзверцы машыны адчыніліся і пачуўся (я не сказаў бы — мілы) голас, хоць гэта быў голас жанчыны:

— Гэта што за новыя парадкі? Хто павінен адчыняць вароты?

Толькі цяпер я зразумеў, што павінен адчыняць я.

— Ты — стораж?

— Я, — прызнаўся я, бяздумна рызыкуючы такой адказнасцю, і адразу ж усхапіўся з лаўкі.

— Чаму не адчыняеш?

— У мяне няма ключа…

— А дзе ж ён?

— На тым пасце, — падладжваючыся ў тон, махнуў я рукавом халата, паказваючы на вароты з другое вуліцы.

Рэзка адкінуўшы дзверцы жалезнай брамкі, жанчына рванулася туды, але неўзабаве ўжо бегла назад:

— Чорт ведае, што робіцца!.. Сабраліся на адным пасце, сядзяць, языкамі мянцяць, а сустрэць машыну некаму!

Па тым, як быў зроблены націск на слове «машыну», няцяжка было зразумець, што мелася на ўвазе не так машына, як той, хто ў ёй сядзіць.

— Стораж! — пачуўся грозны вокліч.

Я не абазваўся.

— Заўтра ж выганю ў тры шыі!

Гэта была не вельмі прыемная перспектыва ні для мяне, ні для маіх трох шыяў.

Я сцішыўся за густым бэзнікам, каб не трапіць у такую блізкую бяду.

Старшая над начнымі вартаўнікамі начальніца правярала іх пільнасць, і крый мяне доля яшчэ хоць раз сустрэцца з яе строгасцю.

Крадучыся паўз сцяну свайго корпуса, я вярнуўся ў пусты вестыбюль. У палату не хацелася. Трэба пабыць яшчэ на адзіноце. Я ведаў, што на самым версе ёсць вельмі прыдатнае месца, адкрытае з усіх бакоў, толькі зверху — казырок застрэшка. Цікава з вышыні паглядзець на вячэрні горад.

Кабіна ліфта была адчынена. У ёй сядзела дзяўчынка і пры яркім святле чытала кнігу.

— Добры вечар!

Дзяўчынка не паварухнулася.

— Ці не падкінеце вы мяне ў салярый? — як мага ветлівей пацікавіўся я.

Не падняўшы галавы, юная ліфцёрка перапытала:

— Куды?

— У салярый.

— А што гэта такое?

— Як — што? Пляцоўка, дзе загараюць.

— Туды няможна, — рэзка і коратка вымавіла яна, так і не павярнуўшыся тварам.

— Чаму? — здзівіўся я.

— Няможна, і ўсё. Я ж лепш ведаю!..

Бацюхны мілыя! Ці не сястра майго Ромы? Але ж не, ён — адзіны ў бацькоў. Адкуль жа такая душэўная роднасць? Няўжо нават самая маленькая пасада, калі толькі ад яе залежыць нечая патрэба, дае абавязковае права перавагі?

— Ну, што вам яшчэ не ясна? — спыталася яна.

— Дзіцятка маё, адно не ясна — адкуль ты пераняло мудрасць, што лепш забараняць нават тое, чаго сама не ведаеш?..

На сёмы паверх я дабіраўся саматугам. Але любавацца вячэрнім горадам асаблівай радасці ўжо не было.

Спусціўшыся на два паверхі ніжэй, я пайшоў у сваю палату, што пасля столькіх незвычайных прыгод здалася мне родным домам.

Рома сустрэў мяне радасна:

— Дзе ты быў так доўга?

Вясёлае аблічча майго друга высвечвала дапытлівасцю.

Усё было, як і раней. Нібы нічога між намі не адбылося. Нібы непрыемная, прыкрая тайна, якая лягла паміж намі, нават не засмуціла майго друга.

Няўжо ж і яна, успышка такой гнеўнай маланкі, што працяла навылёт адразу дзве душы, не пакіне ніякага следу?

Цяжка прасіць прабачэння вінаватаму, а калі не вінаваты…

На маім століку ляжаў тэрмометр. Значыць, сястра ўжо абышла ўсіх, астаўся толькі адзін даўжнік, хто затрымлівае апошнюю тэмпературную зводку.

Узяўшы тэрмометр пад паху, я па яго незвычайнай халоднасці адчуў, што ўсе непрыемнасці яшчэ не скончыліся: тэмпература мая набірала ўсё большую вышыню.

— Колькі? — пацікавіўся Рома.

— Трыццаць шэсць і пяць, — сказаў я, каб не засмучаць друга.

— І ў мяне ж столькі. Значыць, мы — равеснікі!

— Равеснікі, Ромачка…

Сапраўды, многае збліжала нас: і тое, што абодва нарадзіліся ў нядзелю, і тое, што тэмпература ў нас адна, і тое, што абодва любім дзяцінства…

Толькі здаецца мне, што нехта з нас перабраў меру і здзяцінеў залішне, забыўшыся, што яшчэ паўвека назад выйшаў з гэтага шчаслівага ўзросту…

VII

Я не мог вінаваціць свайго друга ні ў чым. Наадварот, я заступаўся за яго, бараніў ад праціўнікаў, што не хавалі сваёй варожасці і адкрыта ішлі ў наступленне.

Даўнія нелады і непаразуменні былі ў яго з Аўгінняй Іванаўнай, санітаркай, што прыязджала, як казаў Рома, са свайго Маладзечнага горада і на цэлыя суткі засмучала яго ўзнёслы настрой.

— На, спаласніся, — пачынала яна дзяжурства, прыносячы таз з вадой.

Рома мыўся размашыста. Пырскі ляцелі на пасцель, на сцены. Ад ложка да парога расцякалася лужына.

— Цюхай, брында! Зноў увесь абхлюпаўся! — лаялася Аўгіння Іванаўна, выціраючы анучай падлогу. — Ён жа знарок, дальбог, знарок!

— Ну, што вы, Аўгіння Іванаўна, — стараўся я згладзіць вінаватасць Ромы.

— Заступайцеся, заступайцеся — ён толькі таго і чакае. Бачыце, як хмыліць губы. Чаго ты хмылішся, чыкілдун няшчасны? Ты хоць падумаў, што з цябе будзе?

— Чалавек… — не зусім упэўнена падаў голас Рома.

— Які чалавек? Злыдзень!

— Я ж лепш ведаю…

— Чуеце? Ён ведае!

— Ыгы, — імкнуўся ўтрымацца мой друг.

— Што ты ведаеш? Ну што: з носа кап, ды ў рот — хап?

Трэба сказаць, што такога рашучага наступу не вытрымлівала і яго ўпэўненасць.

Бывалі моманты, калі Аўгіння Іванаўна не магла стрымаць гневу:

— Вось, здаецца, хапіла б і паадкручвала б табе вушы!

— А дзе б я ўзяў другія? — заклапочана пытаўся Рома.

— Хоць бы хутчэй цябе адгэтуль выпхнулі.

Рома плаціў ёй такім жа спосабам абыходжання. Ніякія павучанні пра павагу да старэйшых яго не пераконвалі. Ніколі ён так і не сказаў ёй добрага слова, нават за паслугі, якія вымушаны быў прасіць.

У Аўгінні Іванаўны быў невычэрпны запас навін і гісторый, якія сцвярджалі непахіснасць яе выхаваўчых перакананняў. І як толькі выдаралася часіна, асабліва вечарамі, самыя павучальныя

яна лічыла сваім абавязкам расказваць нам. І заўсёды знаходзіла доказы свайму вываду: з неслухаў выходзяць адны злачынцы.

— Якое яно змалку, такім і вырасце…

Рома не цярпеў ні навін, ні самых вострасюжэтных гісторый цёткі Аўгінні.

Мусіў цярпець іх я, каб не страціць сувязь з непасрэдным жыццём і мець пра яго ўяўленне хоць бы па ўражаннях жывых сведак.

— От точна такім быў, — сцішыўшы голас да пошапку, даверліва пачынала Аўгіння Іванаўна, паказваючы паваротам галавы на майго суседа, захопленага чарговым танкавым прарывам: др-р, бах, бух, у-р-ра! — Точна. А цяпер восем год турмы. Прыйшлі, наручнікі — раз, і павялі, галубчыка.

— За што?

— Абакраў сельпо.

Аўгіння Іванаўна любіць расказваць біяграфіі «галубчыкаў». Яна ведае іх жыццяпісы ва ўсіх падрабязнасцях.

Сёння перада мной паўстае жыццяпіс таго, што абакраў сельпо:

— Пяць разоў паспеў ажаніцца і ўсіх пакідаць. Потым адбіў у Мінску ў мужа жонку з дваімі дзецьмі. Муж прасіў, маліў: «Што ты сабе думаеш? Ён жа ўсё адно цябе кіне». Так яно і выйшла — кінуў. Потым зноў папаўся, два гады адседзеў. Цяпер электрыкам на цагельні, зноў ажаніўся…

— Адкуль вы, Аўгіння Іванаўна, усё гэта ведаеце?

— А мой ты братка, а мой ты залаценькі! Хіба ж я завочніца якая і за вочы дарэмшчыну вярну на людзей? Я ж яго з самага малку ведаю…

Мяне трывожыла адно: Аўгіння Іванаўна, маючы сваіх дзяцей, ніколі, ніводным словам не абмовілася пра іх. Нечым вельмі крыўдным былі зняверaны яе матчыны пачуцці.

Аднаго разу яна з нечаканай спагадай папікнула Рому:

— Ніхто цябе не любіць.

— Як гэта? — сумеўся Рома.

— А от глядзі, усім букеты прыносяць, а табе і кветачкі ніхто не прынёс.

— Кветкі дарагія: два, а можа, пяць рублёў.

— Для скупых усё дорага.

— А вы не скупая?

Цераз дзень, заступіўшы на дзяжурства, нянечка ўнесла ў палату букет ружовых цюльпанаў і ў літровым слоіку з-пад кампоту паставіла кветкі на столік свайго неслуха.

— Дзякуй, — разгубіўшыся, вінавата вымавіў Рома.

І гэта было першае слова ўдзячнасці, што ён сказаў старой жанчыне, якой даставалася столькі клопату і турбот з усімі намі.

## VIII

Улюбёнкай нашай была Галіна Мікалаеўна. Яе дзяжурстваў Рома заўсёды чакаў з нецярпеннем.

Раніцай ён прачынаўся ў самым радасным настроі, на поўную магутнасць фальцэту выкрыкваючы яшчэ адну сваю любімую песню:

Если б я был Салтан
И имел трёх жён…

— Ой, Ромачка, нашто табе столькі? — уваходзячы ў палату, весела пытаецца Галіна Мікалаеўна.

Рот майго друга разыходзіцца да вушэй:

— Цёця Галя, хіба гэта многа?

Я, вядома, не бяруся ўдакладняць, што ён пераблытаў аднаго цара з іншым царом, які меў толькі адну жонку, ды і тую ткачыха з паварыхай і сваццяй бабай Бабарыхай пасадзілі з сынам у бочку і пусцілі ў акіян.

Галіна Мікалаеўна далікатна ўсміхаецца.

Маючы ўжо сваіх унукаў, яна выпрацавала ў сабе той шчаслівы імунітэт стрыманасці, без якога немагчымая дабрата людскіх душ.

Лагоднасць не пакідае яе, калі нянечка корміць майго друга, настойліва дамагаючыся, каб ён «усё чысценька з’еў».

Залітую кашулю, разбітую шклянку з кісялём, што здаралася нярэдка, яна мяняла як бы незаўважна, не абражаючы ні крыўдным словам, ні грозьбаю.

Чым яшчэ завабіла, заваражыла і зачаравала нас мілая наша цёця Галя, дык гэта, можа, вы і не паверыце, — казкамі. Гэта — цудоўная казачніца. Яна, вядома, сама не складае іх, але як яна ўмее расказваць!

А я ж люблю казкі. І ўсе крыўды гатоў быў дараваць свайму другу ўжо за тое, што ён не мог жыць без казак.

Памяць Галіны Мікалаеўны берагла вялікія скарбы, аднак калі здаралася і яны былі на сыходзе, тады наша нянечка мусіла перад дзяжурствам яшчэ забегчы ў бібліятэку, каб папоўніць запас.

Тыя выпадкі, калі яна не ўпраўлялася, цяжка засмучалі нас.

— Не магла забегчы… — вінавата апраўдвалася яна, і мой друг упадаў душою, а я надзеі не траціў.

Казка, вядома ж, знаходзілася. І гэта былі самыя прыемныя хвіліны перад сном. Праўда, былі і не толькі прыемныя, здараліся і страшныя. Але мы ніколі не трацілі мужнасці. Мы нават з радасцю выпрабоўвалі сябе спакусай страху. Чым страшней, тым цікавей.

— Дзядуля, я выключу святло…

— Давай схаваемся пад коўдры, — дадаваў я на выпадак, калі чакалася нешта такое, што магло выйсці за межы нашай храбрасці.

## IX

Пасля аднае ціхае гадзіны ў нашу палату ўнеслі трэці ложак. Галіна Мікалаеўна тут жа заслала яго свежай пасцеллю, у галавах паставіла тумбачку, графін з вадою і шклянку.

— Чакайце трэцяга, — сказала яна.

Не паспела разыграцца наша цікаўнасць, хто будзе новы сусед, як паявіўся ён сам, выклікаўшы асаблівую дапытлівасць Ромы.

— Дзядзя, вы — Марэсьеў?

— А ты бачыў Марэсьева?

— Бачыў у кіно.

— Я і ёсць Марэсьеў.

Збіраючыся легчы, хворы зняў з нагі пратэз.

— А дзе другі?

— Другога няма.

— Значыць, вы не Марэсьеў.

І Рома пераключыў увагу на пратэз і яго механізм. Пакуль усё не было даследавана, ён не супакоіўся.

— А ў цябе, дружок, што з нагой?

— А-ат, — сказаў Рома, як бы пра штосьці не вартае ўвагі, — зламаў.

— Ну, гэта яшчэ паўбяды.

— А ў вас?

— Прафілактыка, — у тон яму адказаў наш новы сусед.

Савелій Карнеевіч аказаўся даўнім знаёмым усіх нашых дактароў, сясцёр і санітарак.

Прафілактыка, як ён назваў прычыну, што прымусіла легчы ў бальніцу, відаць, была яго частым клопатам.

Галіна Мікалаеўна з нейкім асаблівым душэўным досціпам памагала яму, папраўляла пасцель, узбівала падушку. А паглядзеўшы на Рому, пацiху вымавіла:

— Божа, божа…

— Богу няможна верыць, — сказаў Рома.

— Чаму, Ромачка?

— Таму што ён хлусіць.

— А ты хіба ніколі-ніколі не хлусіш?

— Дык я ж не Бог.

Савелій Карнеевіч весела засмяяўся. І ўсім нам стала весялей.

Гэтага дня ў нашай палаце адбылася і яшчэ адна падзея, якое Рома даўно чакаў. З яго нагі знялі гіпс, і Галіна Мікалаеўна прынесла свайму пестуну новенькія кастылі.

Невыказна радуючыся, што нарэшце будзе хадзіць, і разглядаючы кастылі, ён адразу ж ацаніў і перспектыўныя магчымасці футбола:

— От бы ў варотах з імі стаяць — ніводнага б мяча не прапусціў.

## X

Ці то ад уражанняў столькіх падзей, ці ад новага знаёмства, ноччу я не мог заснуць.

Паміж дзвюх штораў у акно высвечвала поўня. Яна ўсё болей набірала вышыні, і сцяна, на якую падала святло, станавілася тым зманлівым, таямнічым экранам, на якім маглі ўзнікнуць і разгарнуцца самыя неспадзяваныя падзеі.

Не спаў і Савелій Карнеевіч.

У такія хвіліны наплываюць успаміны.

На экран яго памяці ўсплыла вайна.

Ён усё ж лічыў, што лёс абышоўся з ім літасціва.

Часта, будучы на валаску ад смерці і ў думках ужо развітваючыся з жыццём, дваццацігадовы юнак, малодшы лейтэнант, усё ж аставаўся жыць.

Трапіўшы на Доне ў акружэнне, групоўка байцоў, што асталася ў глыбокім яры, ужо не мела ратунку.

Ён забыўся пра свае камандзірскія адзнакі, і немцы яго першага — а, афіцэр! — павялі ў штабную хату.

— Як яны пацяшаліся нада мной, як яны тапталі маю годнасць камандзіра, каб паказаць сваю самазадаволеную перавагу!

— Кім камандаваў?

— Ротай, — знарок перабольшваючы, сказаў, ужо не спадзеючыся ні на літасць лёсу, ні тым больш — ворагаў.

— Колькі ў цябе было салдатаў?

— Шэсцьсот, — далей хлусіў я, бачачы, што гэта ўжо ніякі не допыт, а забава.

Перакінуўшыся паміж сабою словамі, афіцэры зарагаталі і сказалі нешта малодшаму сярод іх.

Я зразумеў толькі адно, што цяпер маё жыццё ўжо ў яго ўладзе.

Малады немец загадаў ісці. Я павярнуўся і выйшаў з хаты на вясковую спусцелую вуліцу.

Я ішоў, адчуваючы, што ў любую хвіліну можа прагучаць той адзіны стрэл, ад якога залежыць маё жыццё.

І ў той жа час недзе ў падсвядомасці і мільганула думка, што тут, пасярод вуліцы, ён мяне не застрэліць, а, напэўна, выведзе за вёску.

Але ніць маёй кароткай надзеі абарвалася нечаканым загадам.

Што гэта быў загад, я зразумеў не з сэнсу, а з тону, па інтанацыі.

Я спыніўся. Мой канваір пісталетам паказаў мне павярнуць у двор пустой хаты, сенцы якой былі расчынены насцеж. І паміж двух вушакоў, паміж двух шулаў я ўбачыў прадонне той невядомасці, што чакала мяне.

Гэта ўжо было на самым захадзе сонца. Двор быў асветлены прамянямі, якія клаліся на зямлю, ледзь дастаючы ніжняга бервяна сенечнай сцяны.

У раме дзвярэй гусцеў змрок. Сюды якраз і гнаў мяне немец. Што ён задумаў?

Хата была пустая, з выбітымі вокнамі. Ні месцам новага допыту, ні турмой для мяне яна не магла быць.

Яна магла быць толькі маім апошнім прытулкам.

Гэта я адразу скеміў, узышоўшы на ганак і як толькі немец загадаў спыніцца ў парозе.

Павярнуўшыся, я ўбачыў, як ён нацэліўся мне ў галаву…

— А-ай! — не то выгукнуў, не то застагнаў Рома. І Савелій Карнеевіч змоўк.

Ён працягнуў руку да пасцелі хлопчыка і паправіў прасціну, што зусім была спаўзла дадолу.

— Спіць, — пошапкам сказаў ён.

«Напэўна, сніць сваю новую бітву, — падумаў я, — ці ўчарашнюю страшную казку цёці Галі… Добра, што не чуе гэтай…»

— Уся мая постаць была перад ім, — ужо нейкім іншым, пацішэлым і даўкім голасам пачаў расказваць Савелій Карнеевіч далей. — Я стаяў у раме дзвярэй, і на маіх брудных кірзавых ботах ляжала сонца, маё апошняе сонца.

У тую ж хвіліну пачуўся стрэл.

Падаўшыся назад, я з усяго маху кульнуўся па той бок парога, але адчуў, што ўпаў не на дол, а ў затхлую яму паміж трухлявых дошак.

Сенечная падлога была ўзарвана, разварочана, і я апынуўся ў гнілой пацярусе і пілавінні, якія забівалі мне дых. Што я жывы — мне было зразумела, калі, ужо лежачы па другі бок парога, я пачуў яшчэ два стрэлы, безумоўна, таксама прызначаныя мне. Але чаму фашыст страляў, бачачы, што я ўпаў?

Лежачы ў яме, позняй ноччу, у суцэльнай цемры і цішыні, я перабраў, перадумаў усё да драбніц: ясна, што прыкончыць мяне як нудную работу старэйшыя даручылі малодшаму. Але ён, бачачы, што даручэнне гэтае не вартае асаблівай увагі, тым больш — без сведак, рашыў вызваліцца ад мяне чым хутчэй, паленаваўшыся весці далей. Убачыўшы, што яго ахвяра ўпала пасля першага стрэлу, астатнія ён выпусціў механічна, наўздагон. Але ж зацяты фашыст мог падысці і для большай упэўненасці дастрэліць у патыліцу. А можа, яму і не рупіла тая пэўнасць? А можа, у ім заставаліся яшчэ нейкія рэшткі чалавечнасці, і ён, убачыўшы мяне зблізку, такога ж маладога, свайго равесніка, нават пашкадаваў мяне? Пашкадаваў мяне, і рука яго скаланулася? Цэліў ён мне ў галаву, а папаў у нагу, вышэй калена.

Заціскаючы рану аберуч, я адчуваў, як падплываю крывёй. Ад болю, ад знямення я ўжо не мог падняць галавы, а трывожныя думкі абганялі адна адну: калі немцы прыйдуць сюды раніцай, калі толькі я дажыву да яе, — як мне трымаць сябе? Не выдаць ніводным рухам, што я жывы, ці лепей няхай даб’юць?

Не ведаю, колькі мінула часу, была ўжо глыбокая ноч, як я пачуў галасы, што набліжаліся да сянец. Гэта былі жанчыны. Яны гаварылі між сабой паціху, але я разабраў словы:

— Божачка, а калі гэтак і нашых, праклятыя ірады… І за што яго, небараку, такога маладога?.. Як ён, бедны, хацеў рукой засланіцца…

— Не заслонішся, не загародзішся… — пачуўся другі, болей разважлівы голас. — Не заслонішся. Цяпер ляжыць мёртвы.

— Жывы… жывы! — прастагнаў я з усяе сілы, якая ў мяне была. І голас мой здаўся мне слабым мармытаннем. Але жанчыны пачулі.

— А божухна, — жывы!

Яны нахіліліся нада мною, вобмацкам шукаючы галаву.

— Пацярпі, паляжы, сынок… — сказала, відаць, старэйшая. — Мы прыйдзем па цябе…

«Прыйдуць? Калі? А што, калі немцы раней дазнаюцца, што я жывы?» — зноў рой ліхаманкавых думак загуў у маёй галаве, якая развальвалася ад нясцерпнага болю…

Але неўзабаве яны такі прыйшлі — маці і дачка. Гэта ўжо было пад самае світанне. Заваёўнікі спалі, і такая панавала ціша, што толькі чуваць было, як гудзе ў вушах.

Жанкі прынеслі мяне ў хату. Загадалі скінуць тое ашмоцце, што заставалася на мне. Памылі, перавязалі чыстым паркалем нагу, а зверху ўкруцілі ручніком. Маладзіца прынесла штаны і кашулю свайго мужа, што быў у арміі. Пераадзетага, мяне паклалі ў ложак.

Толькі я знябыўся, як у хаце пачуліся перапалох і мітусня: немцы!

Яны ішлі сюды. Але, як высвятлілася на тым часе, — не па мяне.

— Матка, яйкі, куркі…

Гаспадыні забегалі, заклапаціліся — чым бы хутчэй заткнуць горла праклятым, каб адвесці ад галавы большую бяду.

Як на тое ліха, немцы адразу ж заўважылі мяне:

— Хто ест?

— Брат, брат… — пачала тлумачыць старая болей на мігі, чым словамі, — хворы, тыфус…

— А-а! — ускрыкнулі немцы і кінуліся з хаты.

Тае ж раніцы нашы адбілі вёску. Мяне забралі ў шпіталь і адразу ж — на аперацыйны стол: пачыналася гангрэна…

Савелій Карнеевіч змоўк. Але як ні намагаліся мы, заснуць так і не змаглі да раніцы.

Непрыкметна, паціху прачнуўся Рома, нават без сваёй жыццярадаснай песні: «Если б я был Салтан и имел трёх жён, я б их бил, и любил, и на свидания водил…»

— А наш Рома нейкі сон сёння сніў… — сказаў Савелій Карнеевіч, і мы незаўважна пераглянуліся.

Рома паглядзеў на аднаго і другога і сказаў:

— Сніў. Страшны.

— Што ж ты сніў, Ромачка?

— Чорта.

— Цікава, — сказаў Савелій Карнеевіч, — які ж ён, чорт?

— У вадалазным касцюме, толькі без трубак.

Мы весела зарагаталі.

Аказваецца, і чорт паспеў знайсці сабе новы занятак. Толькі і выдала яго, што, надзеўшы маску вадалаза, забыўся пра трубкі і кіслародны шланг. На гэтым і папаўся!

## XI

Мабыць, ад таго, што змянілася надвор’е і па нашым акне пачаў хвастаць вецер з дажджом, перамяніўся і настрой у палаце.

Дзень цягнуўся марудна, але і вечар не абяцаў нічога цікавага. На дзяжурства заступіла новая, незнаёмая санітарка. На казкі Рома не спадзяваўся.

І ўсё ж пасля адбою, калі мы ляжалі ў сваіх пасцелях, ён не ўцярпеў:

— Дзядуля, — папрасіў ён Савелія Карнеевіча, — раскажыце пра вайну. Толькі не страшнае.

— А на вайне нічога страшнага няма, — сказаў Савелій Карнеевіч. — Хочаце, я раскажу вам нават вясёлую гісторыю, якая… — ён павярнуўся да мяне і дадаў: — якая была раней за гэтую… — і пастукаў пальцам па пратэзе, што стаяў за тумбачкай.

Савелій Карнеевіч сапраўды расказаў эпізод, поўны незвычайных акалічнасцяў.

Стоячы ў абароне на тым жа Доне блізка — пазіцыя ў пазіцыю, — нашы і немцы гэтак дасканала вывучылі адны адных, што, павёўшы насамі, ведалі, які ў каго гатуецца абед.

— Іван, ідзі ў госці! — пачулася аднаго разу з таго боку. І ўслед — вясёлы самазадаволены рогат.

Гэта быў выклік, свядомае пацвельванне: ну, хто адважыцца?

Адважныя знайшліся.

І ніхто не здзівіўся, што гэта быў Іван — наш старшына…

Неўзабаве кончыўся ў нас запас бульбы. Пачалі вышукваць бліжэйшыя рэзервы. Мы знайшлі іх сапраўды блізка. На самай прыстрэленай зоне, навідавоку вытыркаў узгорачак, які да пары да часу не займаў нашай увагі. Гэта быў ладны капец. І мы адкрылі гэты скарб — свежая, адборная, сопкая, разварыстая бульба!

Наш вопытны разведчык, старшына, які ўжо ведаў дарогу, пайшоў першы. Узяўшы добры мех, ноччу ён папоўз да капца. І з іх, і з нашага боку ўся зона, вядома ж, была абсаджана мінамі. На зямлі, што называецца, не аставалася жывой лапінкі. І трэба было быць не толькі ўпэўненым, што запомніў дарогу, трэба было быць яшчэ сапраўдным рызыкантам, каб рашыцца паўзці па гэтай зямлі.

Старшына папоўз. Ён вярнуўся жывы і цэлы, прывалокшы поўны мех бульбы.

Раніцай, збітыя з панталыку, адкуль узяўся на нашай кухні такі прыемны бульбяны пах, немцы доўга вадзілі насамі, ніяк не могучы ўцяміць, дзе мы разжыліся на такі ласунак.

Так мы выбралі паўкапца, поўзаючы туды штоночы.

Мы выбралі б і ўвесь капец, каб немцы, западозрыўшы нешта супраць сябе, не пачалі высочваць нас.

Аднае ночы наш старшына не вярнуўся — яго схапілі. Цяпер ён ужо быў палонным, «языком», які так спатрэбіўся немцам, каб дазнацца, што задумвае праціўнік.

А планы сапраўды задумваліся вялікія. Фронт рыхтаваўся да наступлення.

— У-у! — злосна сказаў Рома. — Я іх тады ж бы ўсіх пастраляў… — і павярнуўся да сцяны.

## XII

Рома, аказваецца, не спаў тае ночы, калі Савелій Карнеевіч расказваў жудасную казку сваёй маладосці.

Ён прагаварыўся, калі мяне не было ў палаце.

Савелій Карнеевіч разгубіўся ад такой неспадзяванкі і доўга не мог супакоіцца, адчуваючы сябе вінаватым.

— Як нядобра атрымалася, — гаварыў ён мне на калідоры. — Гэтае апавяданне не для дзяцей. Дзіця, мабыць, цэлую ноч не спала…

— Супакойцеся, Савелій Карнеевіч, можа, якраз і добра, калі, адкрываючы невядомыя ісціны, не спяць нашы дзеці.

Але яго ўстрывожаны настрой доўга не знаходзіў раўнавагі.

Прыйшоўшы апошнім у палату, ён першы пачаў збірацца дадому.

Інжынер-будаўнік, ён спяшаўся будаваць новыя дамы, школы, дзіцячыя сады і яслі.

— І стадыёны, — напомніў Рома.

— І стадыёны, — весела згадзіўся Савелій Карнеевіч і дадаў: — Папраўляйся, футбаліст, а то няма каму ў варотах стаяць.

Назаўтра выпісваўся і я. Зайшоўшы развітацца, я не застаў свайго друга ў палаце — яго павялі на кансультацыю да прафесара.

Спусціўшыся на бальнічны двор, я раптам пачуў знаёмы і ўжо дарагі мне голас:

— Дзядуля!

Я падняў галаву. З акна нашай палаты на пятым паверсе выглядаў Рома.

Яшчэ ніжэй схіліўшыся на падаконнік, ён сказаў:

— Даруй, дзядуля!

Ён сказаў паціху, але я пачуў.

Так знікла тайна, якую ведалі толькі мы ўдвух.

— Што сказаў прафесар? — пракрычаў я, задзіраючы галаву.

— Скора буду хадзіць!

Я ўздыхнуў з палёгкай і адчуў, як радасна стала на душы.

— Бывай здароў, Ромачка!

*1975*

## ЗНЯВЕРАНАЯ ПАМЯЦЬ

Сорамна прызнацца, баюся вароны. Стары дзед, а баюся — так яна мяне нажахала. І дзе б вы думалі? Не ў лесе, не ў полі, а ў горадзе, каля самага дома, у якім я жыву.

Як усе старыя, маю за звычай уставаць рана. І на гэты раз успароўся на цямочку. А з усходам сонца давай, думаю, схаджу ў дзіцячы парк. Ад мяне ж гэта ўніз да рэчкі адзін квартал. А там побач і любімы купалаўскі сад з музеем і помнікам паэту. Даўно не хадзіў па сцежках-дарожках, дзе, як быў малодшы і здароўшы, штовечар шнураваў з сябрамі. А ля саменькага-саменькага майго дома — Купалаўскі тэатр. А за тэатрам жа яшчэ адна прытачная мясцінка — даўні гарадскі садок, вядомы ўсім мінчанам. Вось тут якраз, пры самым уваходзе ў яго, траха і не задзяўбла мяне варона.

Каторы раз я ўжо і раней заўважаў, што яна неўзлюбіла мяне. І знарок заўсёды чакае, каб на мне спагнаць сваю злосць.

Раніца кагадзе пачалася. Рэдка хто з людзей паказаўся на вуліцы. Горад яшчэ ўвесь не прачнуўся. Не загрымеў, не загрукатаў, не зароў, не завыў усімі маторамі, не засмуродзіў паветра, а варона ўжо на пільнай варце. Здалёк пры маім набліжэнні трывожна ўскрыквае і пачынае злавацца ўсё болей і болей, пакуль сваім ашалелым крыкам не выганіць мяне з гарадскога садка. Гэта яе тэрыторыя. Яе сядзіба.

На старой таполі ў гушчыні зялёнай лапушной лістоты сядзіць на гняздзе другая. А тая, што мяне гоніць адсюль, не цяжка здагадацца — ён. Удваіх тут яны гаспадары і ўладары. Нездарма, як толькі ён падае свой першы трывожны сігнал, ад-

туль, з таполі, адгукаецца яна: «Кар-кар-кар! Я цябе чую. Гані адсюль кожнага падазронага!»

У падазроныя трапіў я. Доўга разважаў і ніяк не мог даўмецца: чым я іх угнявіў і запомніўся вароннёму воку? І прыйшоў да думкі, што хутчэй за ўсё сваім знешнім выглядам. Для яго, нястомнага дазорцы гнязда, і яе, што вось-вось выседзіць іх, чаканых і жаданых дзетак, я ўзяты на прыцэл ужо за адно тое, што хаджу цераз гэты садок не так, як усе, што на досвітку бягуць, спяшаюцца і ўсё болей гуртам, натоўпам, не зважаючы ні на дрэвы, ні на кусты, не прыслухоўваюцца, не прыглядаюцца, як і дзе можа абазвацца першая самая дробная птушка. «А гэты спадцішка. Ледзь перастаўляючы ногі, нібы крадзецца. І ўсё задзірае галаву. А вочы шкельцамі так і выблісквають, так і выблісквають. Пэўна ж, позіркам дапаў і да маёй дамоўкі. Да таго ж і сам ён мне не даспадобы — увесь чорны: у чорным плашчы, на галаве — чорны берэт…»

Я ўпэўнены, што гэтак мог сказаць пра мяне мой зацяты ненавіснік. А калі б ён чытаў яшчэ і класіка, дык мог бы дадаць амаль яго словы: «Які ты друг мне? Ты мой вораг. Заядлы вораг мой — крумкач!»

Гэтак думаў я тае раніцы і за сябе, і за свайго праціўніка. А назаўтра давай, думаю, пераапрануся ў другое адзенне. І накінуў лёгкі светлы плашчык і выйшаў без берэта. Ці пазнае? Пазнаў, хітрун! Памяць у яго сапраўды ўчэпістая і рэдкая, як ні ў кога з птушак, а можа, нават і ў людзей.

Зноў як толькі ўбачыў, адразу ж залямантаваў на ўсё воронняе горла. Увагнуўшы галаву ў плечы, я гатоў быў як хутчэй абмінуць яго вартавую вышку, ды было позна. Скеміўшы, што канчаткова ўзяў нада мной адолю, ён ужо святкаваў перамогу. Падаўшы аб гэтым сігнал варонісе сваім урачыстым: «кар-кар-кар!», ён пераляцеў з верхняй галіны на ніжэйшую і сеў яшчэ бліжэй, над самай маёй галавой. Заўважыўшы доле каменьчык, я ўхапіў яго і шпурнуў у нахабнага рызыканта, на тым часе не зразумеўшы, што зрабіў непапраўную памылку. Пацэліць не пацэліў, але ўбачыў, як зласліва той пакруціў галавою: «Гэтага я табе не дарую нізашто!» І тут пачаўся ашалелы танец помсты. Злосць так і кіпела, так і кіпела, ледзь не разрываючы на часткі ўсю яго істоту. Трымцелі на каленях і тапырыліся прыкараткія калашыны яго шэрых мультановых штонікаў, матлялася накінутая наапашкі поверх камізэлькі чорная, даволі зашмальцаваная джынсоўка. Рвучы дзюбаю на шматкі тапалінае лісце, ён усё болей раз’ятрываў сваю злосць і, нарэшце, рынуўся з дрэва ўніз, ледзь-ледзь не спікіраваўшы на маю патыліцу.

Каму, скажыце, прыемна будзе, што тыя два-тры касмылі, яшчэ ўцалелыя на тваёй галаве, могуць у адно імгненне стаць здабычай вострых кіпцюроў драпежніка? І я горка пашкадаваў, што не надзеў берэта, бо і яшчэ некалькі разоў засаб ён спрабаваў драпануць па маёй лысіне, пакуль не прагнаў за межы, дзе канчалася яго ўлада.

Доўга я потым думаў і разважаў, адкуль у яго сабралася столькі злосці. Пэўна ж, ад вялікай крыўды, зробленай людзьмі. А адчуць усю сілу помсты мусіў я, Богу душой не вінаваты.

Варонні розум, як прызнаюць вучоныя, хоць і не малы, а ўсё ж не настолькі дасканалы, каб адрozніваць нас, людзей, хто ім вораг, а хто друг. Розум розумам, а варонняя памяць сапраўды трывае не год і не два, а, напэўна, цэлыя дзесяцігоддзі. Гаспадзі міласэрны, і тут я ўспомніў, што і мой мсцівец, мабыць жа, з тых уцалелых ахвяр птушынай трагедыі, якую яшчэ павінны памятаць многія мінчане.

Гэта здарылася такою ж вясенняй парою, калі цэлая хмара варання абрынулася якраз жа на гэты садок. І наўзахапы пачала ладзіць гнёзды — па некалькі на кожным дрэве. Гармідар стаяў незвычайны. І тады з гранітна-ружовага дома, што побач і які меў тады самую магутную ўладу над усімі намі, толькі кіўнулі адным пальцам — і, як на пажар, прымчалася ўся пад'ёмная тэхніка з самымі спрытнымі верхалазамі. За якія гадзіны дзве-тры і следу не засталося ад непажаданага суседства.

Цэнтральны штаб магутнай улады, які заўсёды паспяхова кіраваў усімі перамогамі ў нашым жыцці, перамог і на гэты раз дакладнай распрацоўкай баявой аперацыі. Усе вароннія дачы, катэджы, асабнякі і вілы, пабудаваныя ўжо і заселеныя, спрэс да аднае, нават каторыя ўжо і з новым патомствам, былі паспорваны, растрэсены, растрыбушаны і панішчаны. У імгненне вока загінула магутнае паселішча, вялікі, шумны, гарланісты горад. Памятаю, які адчайны енк стаяў тут увесь дзень і сціх толькі позняй ноччу.

З таго далёкага сумнага дня ні адна птушка з варонняга саяцтва не пасялілася ў гэтым садку.

Зняверaная памяць не мінулася марна. І гэтыя ўдваіх, што адважыліся сёлета ўсё ж зладзіць тут гняздо, нездарма ў такой трывожнай насцярозе і ваяўнічай гатоўнасці абараняць яго нават цаной жыцця.

І пакуль старыя не выведуць у людзі маладых, яны, напэўна ж, не забудуць і не даруюць нам пагібелі сваёй Пампеі, не менш трагічнай, чым тая, што загінула на векі вечныя пад гарой Везувія.

Пеажыўшы такія свае ўражанні гэтай раніцай, дальбог, і нагой болей не ступлю на небяспечную сядзібу, пакуль не выведуцца новыя гарладзёры. Балазе што яны, як толькі выдзяўбуцца на свет, неўзабаве становяцца і на крыло. Яны ўжо на сваім хлебе. А бацькі, застаўшыся вернаю парай, болей не пільнуюцца дамоўкі. Тады ніякі вораг ім не страшны, нават такі, як я.

*[1993–1994]*

## РАНІЧКАЙ НА СВІСЛАЧЫ

### 1. Прыляцелі ў розведы

Рэдкая для майго настрою і самаадчування раніца. Спусціўся ўніз да рэчкі. Гадзіны дзве паклыпаў па ўзбярэжжы. Праўда, асцярожнай хадою, але не так, як заўсёды, кволячыся і прыслухоўваючыся да сэрца. Рады быў, што яно не абазвалася, не засмылела болем.

І, бадай, адзінае ўражанне, адзіны асяродак маёй увагі, вакол якога закружылі ўсе мае думкі, — гэта сама па сабе, на першы погляд, не такая і значная падзея: над ракою, на каменным парапеце сядзелі чатыры качкі.

Сядзелі і грэліся на раннім сонейку. Паўз самых іх, хто трушком, хто подбежкам, сюд-тут снавалі аматары ранішняй зарадкі. Адзінкамі — пенсіянеры, валюхаючыся і сапучы, як кавальскія мяхі, а маладзейшыя ўлегцы, навыперадкі, у трусах і майках, і нават цэлыя каманды салдат, да пояса голых, але чамусьці ў сваіх цяжкіх кірзавых ботах, абліваючыся потам і, як табун коней, гарцуючы па асфальце.

А мае качкі сядзелі. І здавалася, ніхто і нішто іх не зрушыць з месца. Сапраўды, абраны імі закутак быў прытачны і ўтульны, каб добра ўгрэцца і набрацца сілы на ўвесь доўгі летні дзень.

Качкі чамусьці стараліся як мага даўжэй выстойваць на адной назе, рэдка мяняючы паставу, каб пераступіць на другую. А калі падгіналі абедзве і клаліся жыватом, як на цёплы чарэнь, на ўжо добра ўгрэты камень, дык нават прыжмурвалі вочы і ў млявай асалодзе прыдрэмвалі на хвіліну-другую. Ні знаку насцярогі, ні боязі. Яны былі амаль свойскія. З дзікіх зрабіліся такімі, не ў першым пакаленні зімуюць ужо тут.

Праўда, летам яны жыруюць не ў горадзе, не ў гэтай каламуці, а шукаюць, дзе яшчэ пазаставаліся балоты, прырэчныя зараснікі, каб там, далей ад старонняга вока, зладзіць гняздоўе

і на змену сабе вывесці патомства. Вяртаюцца да людзей з падрослымі дзецьмі, вучачы іх, як жыць і карміцца сярод нас. Рэдка вы заўважыце іх гэтаю парою, увесну, тым болей улетку, тут, на нашай свіслацкай памыйніцы.

Таму гэтак і быў я здзіўлены, убачыўшы іх, чатырох, ранічкай на прырэчным парапеце. Грэліся яны, як і мы, гараджане, цешачыся асалодай ранішняга цяпла, але ні адна з іх так і не адважылася даць нырца ў сваю родную стыхію.

Нагнуўся і я над агароджай. І мала сказаць, не ўбачыў дна. Не ўбачыў і вады. Па рацэ плылі суцэльныя і бясконцыя ў густа-зялёных разводах палосы тлустага цяжкага бруду, ад якога забівала дых мазутным смуродам.

Пэўна ж, гэтыя чацвёра і сядзелі ў такім одуме, як жа ім вяртацца сюды зноў?

## 2. Запозненыя дзеці

Назаўтра мае назіранні папоўніліся новымі, зусім нечаканымі. Дадаліся падзеі, якія я ўчора і ўявіць сабе не мог.

Сёння ранічкай каля лодачнай станцыі раптам паявілася качачка з дзесяццю маленькімі качаняткамі!

Яна плыла, трымаючыся бліжэй да каменнага берага, асцерагаючыся вывесці дзетак на сярэдзіну ракі, хоць там вада, здаецца, была чысцейшаю. Качка пазбягала лішняга вока — дзеці кагадзе вывеліся. І былі ў поўнай залежнасці і ва ўладзе маці. Слухаліся яе кожнага руху і знаку. Калі што трапляла ёй у дзюбу, адразу ж клікала чародку, што ланцужком плыла ўслед. Спажыва перападала, вядома, таму, хто паспяваў апынуцца бліжэй. Тады стройны жоўты шнурочак разбягаўся, і ўсе ўжо ўроскідку кружылі вакол мамы.

Бедная мая мнагадзетніца! У нас, у людзей, ты была б маці-гераіня. Як ты ўправішся давесці іх да ладу? Адна? Дзесяцёх?

Бацькі малых — качары, амаль гэтак, як і ў нас, у людзей, не вельмі ўлягаюць у клопат па догляду сваіх нашчадкаў. Сённячы я якраз упэўніўся, расшалопаў, нарэшце, што тыя, якія ўчора ўсю раніцу сядзелі на парапеце і выграваліся на сонцы, — усе чацвёра, як адзін, не качкі, а качары!

Яны і сёння сядзелі на тым жа аблюбаваным месцы, разамлелыя ад асалоды, быццам з учарашняй раніцы.

Я не вытрымаў. І, падышоўшы ўпоравень, ледзь не сілаю кожнага паасобку сапхнуў з седала. Нічога іншага не заставалася, і кожны, лена ўзмахнуўшы крыламі, мусіў плюхнуцца ў ваду.

Тут я якраз і ўбачыў тую галоўную адзнаку, што адрознівае качара ад качкі. У кожнага з іх на канцы крылаў на зыркім святле і асабліва ў вадзе раптам успыхваюць, пачынаюць іграць, пераліваюцца ў колерах сіне-блакітныя люстэрачкі ў белай акантоўцы такой прывабнай харашыні, што не адвесці вачэй, не перадаць словамі!

Дык вось вы якія, мае харашуны — тулягі і гультаі. Такія ж, як і ў людзей, — летуны, што, пацураўшыся цэлых чарод дзяцей, нават і не ўспомніце, як яны растуць і гадуюцца!

Так рэзка памяняліся мае пачуцці — учарашнія, поўныя спагады і спачування, на сённяшнія, поўныя абурэння і гневу да мужчынскага роду, якім бы ён ні быў — людскім ці птушыным.

А качка-мнагадзетніца са сваім запозненым сям'іскам плыла па самай каламутнечы і мусіла шукаць хоць крыху якой спажывы, горка расплачваючыся за свае познія любошчы.

Дорага яны ёй абышліся. Ужо не выстарчала часу на вялікую адлегласць. Побач на ўтравелай выспачцы наноснага пяску скідала дамоўку — і вось іх дзясяцера. А яшчэ страшней, што апынулася як у каменным жолабе, загароджаным з абодвух канцоў грэблямі-запрудамі. Не падымешся, не ўзляціш з малымі, бездапаможнымі. З пер'я вылузайся, а гадуй тут.

І яна гадуе. А тыя вунь раскалмачаныя чацвёра, нехаця спаласнуўшыся, асцепваючыся і ацярэбваючыся, зноў сядзяць на каменнай агароджы. І хто цяпер дакажа, што паміж іх, чатырох, не сядзіць ён, што яшчэ нядаўна так увіваўся вакол, асляпіўшы яе дзівосным бляскам сваіх люстраных сіне-блакітных пагонаў?

Хто дакажа?

### 3. На схіле лета

Мне ўжо не цярпелася. З галавы не выходзіла мнагадзетніца.

Адкроіўшы з батона дзве ладныя скібы і ўзяўшы кавалачак занылага клінковага сыру, назаўтра я ўжо выглядаў яе там, дзе ўбачыў, — ля лодачнага прычала. І качачка на тым жа часе вынырнула з-пад прычальнага мастка.

Можаце зразумець радасныя хвіліны маёй уцехі — дробна крышыць батон і на камячкі сыр і кідаць ім, стараючыся пацэліць бліжэй да маці. Малыя вёртка ўвіхаліся вакол яе. І кожнаму перападала свая дзель.

Гэтак мы спазналіся з першага разу. Качыная сямейка мне ўжо не была чужой і адразу пазнавала, чакаючы мяне на гэтым месцы і ў другую, і ў трэцюю раніцу. І якое ж было маё засмучэнне, калі на чацвёртую раніцу маці падплыла да мяне

з сямейкай, раптам напалову меншай. А дзе ж астатнія? Чакаў я, спадзяваўся, вось выплывуць, вынырнуць, як у першы раз. Не выплылі і не вынырнулі. Дзе ж ты падзела іх, мая качачка?

Каб магла, не цяжка здагадацца, што адказала б яна, гарэтніца. У тым атручаным атачэнні, у мазутным смуродзе яны не маглі выжыць. І ці выжывуць астатнія?

З гэтай раніцы засмуціўся мой настрой. І, як на тое, засмуціўся і настрой самога надвор'я. З гарачага, сонечнага яно раптам змянілася на хмарнае і халоднае. Два дні засаб ішлі дажджы. І мне з маёй нямогласцю не дабрацца было да прычала. А як толькі праяснілася, паклыпаў, чапляючы нагой за нагу, да месца нашых сустрэч.

Качка была там і цяпер ужо не з пяццю, а толькі з двума качаняткамі, дый тымі нейкімі безуважнымі і абыякавымі і да маёй гуманітарнай дапамогі, і да самога жыцця.

Да чаго ішлося і чым скончылася — не цяжка было зразумець. Качка засталася адна-адзінюткая.

На схіле лета з балот пачалі вяртацца яе сяброўкі з даволі нелапы́мі сяголеткамі, праўда, нямногімі: па двое, па трое, ды ўжо амаль і не пільнаваліся дзяцей. Тых цяжка было адрозніць ад дарослых. Яны ўжо самастойна трымаліся ў патоку каламуці.

Бог дасць, выжывуць, а калі адзіным паратункам і застанецца толькі вырай, спадзяюся, хопіць сіл падрыхтавацца і выбрацца ў далёкую дарогу.

*[1993–1994]*

## АБЕД З ТЭЛЕФОННАЙ ТРУБКАЙ У РУЦЭ

Жэнечцы ўжо чатыры з паловай. Цяпер мы рэдка бачымся. Яна на новай кватэры. Далёка ад цэнтра, ажно ў Серабранцы. І я вельмі сумую. Мабыць, і Жэнечка сумуе. Добра, што хоць тэлефон у іх ёсць. Раней яна прасіла маму або тату набраць нумар, каб пагаварыць з дзедам. А гэта сама ўжо навучылася, запомніла лічбы і набірае:

— Алё, дзядуля!

І пачынаецца доўгая-доўгая наша размова. Уласна кажучы, я толькі слухаю. Я нават упраўляюся абедаць, у правай руцэ трымаючы лыжку, а ў левай — тэлефонную трубку. А праўнучка гаворыць. У яе радасная, шчаслівая навіна: нарэшце авалодала літарай «Р» і, як гарох, перасыпае, перабірае словы з гэтай грымучай літарай:

— На гары Арарат расце чорны вінаград!
А я дадаю:
— Прыручыць сароку — адна марока, а сорак сарок — сорак марок.
Жэня ўслед ахвотна пераказвае. Так паміж намі пачынаецца вясёлая гульня і доўжыцца, напэўна, з паўгадзіны. То яна мне пераказвае, то я ёй:
— Улавілі кобру, пасадзілі ў торбу. Калі ў торбе кобра — гэта вельмі добра.
Захапіўшыся, я даўно забыўся пра абед, усё яшчэ трымаючы лыжку ў руцэ.
За ўвесь час мая субяседніца толькі два ці тры разы перапыняла гаворку. 1 ўсё з аднае прычыны:
— Дзядуля, пачакай, я памяняю вуха.
— Ну, памяняла вуха? — пытаўся я.
— Памяняла. А ты, дзядуля?
— І я памяняў. — І тут толькі спахапіўся, што памяняў тэлефонную трубку на лыжку, якою яшчэ не даеў першага. Цяпер, прыклаўшы да вуха лыжку, чэрпаю з талеркі тэлефоннай трубкай. Цьфу ты!
Так мяняючы Жэня вушы, а я то лыжку на трубку, то трубку на лыжку, мы яшчэ доўга гулялі, пакуль не стаміліся. І абвясцілі перапынак.
Ды, авалодаўшы тэлефонам, дзе там будзеш адпачываць! Хутка зноў пачуўся званок. Трубку ўзяла мая дачка:
— Жэнечка, — сказала яна, — дзед абедае. Пазвані крышачку пазней.
Як зразумець «пазней»?
— Дзынь! — заліваецца тэлефон. — Цёця Наташа!..
— Жэнечка, дзед яшчэ не даеў першага…
— А што ён есць?
— Суп.
— А многа ты яму наліла?
Адказ на пытанне даваў усё ж нейкае ўяўленне, як хутка можна даесці суп. І яна не памылілася ў разліку. Пазваніла, калі дзед якраз кончыў, нарэшце, першае і гатоў быў узяцца за другое. Але і яму ўжо не цярпелася пачуць галасок праўнучкі:
— Дзядуля, ты ўжо ясі другое?
— Ага.
— А што?
— Ем крупеню, а слухаю Жэню.

І няхай сабе дзедавы словы толькі з адной грымучай літарай і не вельмі падыходзілі да распачатай гульні, затое былі ў рыфму. І новая гульня наперадзе абяцала яшчэ болей вясёлых і шчаслівых хвілін.

*[1993–1994]*

## ПЕРАБУДОВА НА НАШЫМ ДВАРЫ

Даўно ўжо трэба было мне запісаць гэтае апавяданне, яшчэ ў тыя дні, калі сама што набірала сілу наша вялікая аптымістычная перабудова. Па свежых уражаннях аб падзеях, якія няхай сабе і адбываліся ў межах нашага двара, тым не менш, мелі большы сэнс, чым яны значаць. І хоць мая старэчая нямогласць не дазваляла быць іх актыўным удзельнікам, магчыма, нялішнімі застануцца і ўражанні жывога сведкі.

Адразу ж пры ўваходзе з вуліцы ў наш двор ваш зрок упіраецца ў тарцовую сцяну суседняга дома. Сцяна, якая стала жывым экранам, што ў дні крушэння ўсёмагутнай імперыі пра ўсе, нават, здавалася б, нязначныя, інфармацыйныя рэаліі, падобна экрану тэлевізара, давала ўсё ж арыентацыю і ўяўленне аб тым, што адбываецца ў свеце і ў часе.

Я ўсё спадзяваўся: вось папрашу знаёмых фотакарэспандэнтаў — няхай здымуць шырокай панарамай нашу сцяну, якая наглядна болей скажа, чым мае слоўныя тлумачэнні. Гэта магло быць арыгінальнае эсэ — здымак з маімі каментарыямі. Прасіў Толю Каляду — не ўзяўся. Аб’ектыў яго апарата не шыракафарматны. Падахвоціўся быў мой даўні друг Валодзя Крук, дый забыўся, пэўна, не прыдаўшы асаблівага значэння, які можа мець важны сэнс гэты здымак. А шкада, мог бы мець.

Так у дні выбараў у новы Вярхоўны Савет рэспублікі і прадчування нацыянальнага абуджэння чыясьці рука — не то дарослая, не то дзіцячая — чорным вугалем вялікімі літарамі на ўсю сцяну напісала: «Жыве Беларусь!». Праўда, у слове «жыве» была памылка. Яно было напісана праз літару «і». Вольга Рыгораўна, убачыўшы раніцай надпіс і падняўшы паблізу асколачак атынкоўкі, да адной рысачкі дадала другую і атрымалася «ы».

Так доўгі час на сцяне-экране галоўным заклікам і заставаўся заклік адраджэння, пакуль побач не ўзнік новы: «Прохода нет», напісаны болей упэўнена, згодна з казённым трафарэтам. І хоць усім было зразумела, што гэта папярэджанне ахвотнікам зразаць

вугал і цераз наш двор напрасткі шыбаваць на суседнюю вуліцу, але неўзабаве чамусьці і з другога боку беларускага закліку з'явілася яшчэ адно папярэджанне: «Нет прохода!»

Наш заклік, узяты пад варту абапал двума болей строгімі, цяпер як бы сумеўся і разгубіўся. Штодня чытаючы наш дворны летапіс, я ўсё болей упэўніваўся, што і ў выпадковых спалучэннях з'яў, рэчаў і слоў не могуць не ўгадвацца і не прачытвацца свая логіка і свой сэнс.

А тым часам наш насценны летапіс з ходам і развіццём падзей узбагачаўся ўсё новай і новай інфармацыяй, новымі знакамі і сімваламі.

Побач з перавернутымі дагары нагамі сярпом і молатам з'явіўся чэрап, перакрыжаваны косткамі, а за ім і болей аптымістычныя прыкметы часу: расце, множыцца камісійны, кааператыўны і прыватны гандаль. І ўжо ў межах двара, як паведамляе сцяна, узнікаюць: «Комиссионный магазин "Контакт"», які шыльду сваю прыладзіў чамусьці ля двух абарваных электраправадоў, што вытыркаюць са сцяны і, па ўсім відаць, ніколі не злучацца ў кантакце.

Затое над усім верх бярэ назольна чырвоная рэклама нейкай «Яны». Пэўна, новы камерсант рашыў уславіць імя ўласнай жонкі. А хутчэй за ўсё яна сябе сама. Мяркуючы па тым, як паважна, пагойдваючы клубамі, пахаджае яна ў нас па двары, гэта яна і ёсць «Яна», што сляпіцаю лезе ў вочы не толькі са сцяны, а і чатырма шыльдамі з вуліцы і з усіх пад'ездаў нашага двара. Мала таго, што назаўсёды загарадзіла нам адзін з выхадаў на вуліцу, яна без усякага дазволу і згоды нас, законных жыхароў, захапіла і ўвесь падвал нашага дома, дзе кожны меў свой катушок для хатняга абыходку. Ці мала ў каго што захоўвалася: старая мэбля, дошкі, гаспадарскае прыладдзе і начынне — усё раптам знікла ні за панюх табакі!

Дзве магутныя машыны з прычэпамі, падагнаныя ўпоравень з пад'ездам, увішна загрузілі цэглу, з якой былі складзены нашы катухі, і ўсе рэчы, што захоўваліся там, і не адразу навялі нас на думку, што грузчыкі нясуць не ў дом, а з нашага дому. Так нас абрабавалі сярод белага дня!

Каму паскардзіцца? Дзе шукаць управы? Аказваецца, усё адбылося з ведама і згоды домакіраўніцтва. Яго начальнік таксама не спіць у шапку, а актыўна і з размахам уключыўся ў выгадны бізнес. Да таго ж і сам даўно нагледзеў у нашым жа доме кватэру. Упраўны ўпраўдом усяліўся з размахам не меншым, чым камерсанты-анучнікі, з якімі ён паспеў ужо схаўрусаваць.

Наш дом, сорак год таму назад пабудаваны на сродкі Літаратурнага фонду, доўгі час захоўваў статус літфондаўскай маёмасці. Аднак за апошнія гады, калі верх узялі безуладдзе і бязладдзе, адны насельнікі памянялі кватэры, другія адышлі ў нябыт, а лічаныя, сярод якіх і я, дажывалі веку тут. Толькі мы ўжо «бясхозныя», беспрытульныя і бясправўныя. Нашым ні Саюзу пісьменнікаў, ні Літфонду няма да нас ні клопату, ні цікавасці. Нават тое, што другая чарга будаўніцтва метро са станцыяй «Купалаўская» апынулася пад самым нашым домам і каштавала нам нямала страт — здароўя, спакою і рэзруху саміх кватэр, у якіх парасколваліся сцены, паадставала атынкоўка і дагэтуль сыплецца са столі на нашы галовы, ніводзін самы захудалы начальнічак не зазірнуў, не пацікавіўся, а ці хоць жывымі засталіся кватаранты? І гэта ў той час, калі паміж гарадской уладай і тым жа «Метрабудам» усё распісана, за чый кошт і хто кампенсуе страты. Мінуў і год, і два, але і пальцам ніхто не варухнуў. Каторы год працуе «Купалаўская», чуем, як пад намі ходзяць цягнікі, Знадворку наш дом пабялілі, прыхарашылі, каб не лез людзям у вочы сваёй абшарпанасцю. Але куды зніклі мемарыяльныя дошкі Пятра Глебкі, Янкі Маўра, Уладзіміра Караткевіча? Няўжо мянялы і перакупшчыкі так упэўнены, што іх шыльды па праву заменяць знакі дарагой памяці нашай гісторыі і культуры?

Для адводу вачэй, каб паказаць, нібыта домакіраўніцтва і дзень і ноч толькі тое і робіць, што дбае аб сваіх жыхарах, у нашых пад'ездах і на лесвічных пляцоўках раптам пачалася кіпучая дзейнасць па навядзенні марафету. Чым дагадзіць пісьменнікам? Ну, вядома ж, нацыянальным мастацтвам! Цэлая брыгада шабашнікаў-маляроў тыдні два шчыравала ў калідорах і на пляцоўках нашых двух пад'ездаў. На вачах нараджаліся эпахальныя творы насценнага жывапісу. І ўсе з самым надзённым зместам, адпаведным ідэям часу, да таго ж з вельмі беларускім акцэнтам. Да прыкладу: не то асёл, не то чалавекападобны здыхляк-неданосак у адной руцэ з бел-чырвона-белым сцяжком, а ў другой з повадам забрытанай ашчэранай кабылы, на якой сядзіць сучасная красуня-паненка, і абедзвюх — і кабылу, і паненку — з усяе натугі цягне за сабой у толькі яму аднаму вядомую перспектыву. Дзівосная, скажу вам, карціна! Дый не такая ўжо складаная алегорыя, каб не ўцяміць, які дзяржаўны сімвал мелі на ўвазе маляры.

«Ну, пісьменнічкі, ці дагадзілі мы вам?»

Але не вельмі ўпэўненыя ў нашай кемлівасці, шабашнікі ўсё ж не абышліся і без слоўнага тлумачэння, каб да канца давесці

глыбіню ідэі. Пад «карцінай» на адной прыступцы лесвіцы надпіс: «Всё пройдёт!», а прыступкаю ніжэй: «Она вернётся!» Не ўсё, значыць, страчана, не адчайвайцеся!

Не буду пераказваць усіх астатніх сюжэтаў, якімі ўпрыгожана наша «карцінная галерэя», баючыся, каб турысцкія фірмы не ўключылі яе ў маршрут сваіх экскурсій — адбою не будзе ад разявак!

Па блізкай аналогіі прыгадаліся мне Каралішчавічы, наш утульны Дом творчасці і, мабыць, апошні яго дырэктар, тады яшчэ прызначаны згодна з наменклатурным рэжымам. Гэта быў, як мы неўзабаве даведаліся, адстаўны палкоўнік КДБ, якога конча трэба было прыставіць да пісьменнікаў. І адразу вельмі ж стаў старацца адстаўны служака. На сцежачцы ад дома да сталовай пад адной разложыстай ялінай даўно стаяла збітая з дошак лавачка. Нехта з абслугі ўвёў у вушы новаму дырэктару, што на гэтай лавачцы заўсёды, ідучы з абеду, любіў адпачываць Якуб Колас. У дырэктара адразу ж узнікла ідэя: трэба адпаведна ўшанаваць. І праз некалькі дзён, ідучы на снеданне, усе ўбачылі мемарыяльную навіну: старая яліна разам з лавачкай была ачэплена цяжкімі жалезнымі ланцугамі, якія трымалі ўкапаныя ў зямлю чатыры цэментовыя слупы. Наш дырэктар з гонарам усім гаварыў: «Гэта я ўвечыў памяць паэта», будучы ўпэўненым, што правільна казаць не «ўвекавечыў», а гэтак, як ён: «увечыў». На яго былой службе нікога не ўвекавечвалі. Яму ўяўлялася, што для паэтаў найвышэйшая пашана — ланцугі.

Вось і тым, хто яшчэ жыве ў нашым доме, лічаным па пальцах адной рукі пісьменнікам, не горш, чым адстаўны чэкіст, пастараліся дагадзіць і нашы «дабрадзеі».

Так завяршылася перабудова ў нашым малым двары, а ў вялікім, дзяржаўным, мяркуючы па ўсім, ёй яшчэ ні канца, ні краю не відаць.

*[1993–1994]*

## ЖУЛІК

Яно, можа, і праўда, што сабака заўсёды застаецца верны гаспадару, а кот — дому. Нават калі гаспадары пераязджаюць на іншую кватэру.

На маёй памяці, магчыма, рэдкі выпадак. І запісаць яго трэба было болей як сорак год таму назад, бо вельмі ж часта, бывала,

успамінала яго і любіла расказваць Воля. А цяпер вось і сам, штодня прыгадваючы любую дробязь, якая мела дачыненне да нябожчыцы, успамінаю і гэты, для яснасці пачаўшы трохі здалёк, калі напрыканцы вайны сабраліся мы вяртацца ў Мінск, і яна з дзецьмі прыехала ў Маскву з Кургана (тады Чалябінская вобласць). І неўзабаве выправіліся мы дадому, хоць ніякага дому ў Мінску ў нас не было. Першыя нямецкія бомбы рваліся ў Беластоку, адкуль і выгнала нас вайна, разлучыўшы мяне з сям'ёю аж на чатыры гады. І вось едзем мы ў зруйнаваны Мінск. А дзе там прыхілім галовы?

Падахвоціў, вечная яму памяць, дабрэйшай душы чалавек Мікола Лупсякоў: «Спыніцеся ў нас з Надзейкай. У нас хата вялікая». Тая хата, і праўда, як абозня, нейкім цудам уцалела ў самым цэнтры, на задворках Дома афіцэраў, побач з вядомым «юбілейным» дамком на горцы, прытуліла і нас. У Лупсяковых быў адзіны ложак, дый той гаспадары былі гатовы саступіць нам. Удзячныя за прыпынак, мы рады былі нанач уладжвацца ўсёй сям'ёй доле, на падлозе, на ўсіх прывезеных з сабою лахманах.

Неўзабаве нам пашчасціла пасяліцца ў катушку пры ўваходзе ў двухпавярховы драўляны дамок, дзе размясціўся Саюз пісьменнікаў (завулак Берсана, побач з Чырвоным касцёлам). На другім паверсе па адным пакойчыку занялі Міхась Лынькоў і Ларыса Александроўская. Унізе — сама канцылярыя Саюза, а перад ёю — катушок, толькі як стаць аднаму ложку, дзе пасяліўся Кузьма Чорны з сям'ёй. Нарэшце, атрымаўшы два пакоі ва ўцалелай мураванцы цераз вуліцу, ён саступіў катушок мне. Тут мы і туліліся, пакуль не пераехалі ў хату па вуліцы Крапоткіна, побліз вядомай інфекцыйнай бальніцы. А адтуль ужо на вуліцу Маладзечанскую, у палавіну дамка, якую займаў Кандрат Крапіва, каторы ў сваю чаргу атрымаў кватэру ў так званым Доме Саветаў па вул. Горкага.

Пасля такога доўгага ўступу, вальней і весялей уздыхнуўшы, нарэшце, вярнуўся да таго, з чаго пачаў гэты запіс — з сабакі і ката.

Добрыя жывыя істоты, яны ў сям'і Крапівы былі ўлюбёнцамі і ўцехай для малой тады Людачкі і для маці, самой Алены Канстанцінаўны. Наваселец кот адразу ж асвойтаўся і палюбіў новую кватэру, а сабака не ўпадабаў. Сюд-туд, дый вяртаўся на старую. Магчыма, там яму не собіла па лесвіцы з-за кожнай патрэбы збягаць і падымацца на трэці паверх. А можа, яны там чаго не падзялілі на новай тэрыторыі з катом, і ён, добры і верны рыжы дворны вартаўнік, хоць па вясёлым сваім імю Жулік,

раз-пораз прыбягаючы і прылашчваючыся да нас, жывучы, як некалі ў нас казалі, «на два сэдасы», аднаго дня так і зусім не вярнуўся на новае паселішча. Застаўся ў нас.

Зноў мушу адступіцца ўбок, дапускаючы і такое меркаванне: будучы ўлюбёнцам гаспадыняў, Жулік, магчыма, адчуваў да сябе пэўную абыякавасць гаспадара.

Чалавек строгага характару, той не звяртаў на яго асаблівай увагі — не любіў сантыментаў. І наўрад ці назваў бы калі сабаку Дружком. Друг ты-то друг, але ж не дармаед і не забаўка. І, мабыць, толькі аднойчы самому Кандрату Кандратавічу спатрэбіўся сабака. Гэта ў 1939 годзе, калі пісаў сваю вядомую камедыю і людзі паспелі пабачыць яе на сцэне яшчэ перад вайной.

Там, як вядома, сабака хоць і па-за сцэнай, а сыграў адну з важнейшых, самых рашаючых роляў: ён прывалок костку, пры дапамозе якой палеантолаг Гарлахвацкі ў сваёй навуцы зрабіў сенсацыю, адкрыўшы дагістарычнага «Свінтуса грандыёзуса». Той сабака зваўся Цюлік. А гэты, магчыма, у памяць папярэдніка ці нават у памяць самога незабыўнага Гарлахвацкага, — Жулік.

Праўда, ад гэтага новая гаспадыня мела толькі той адзіны прыкры небыт, што мусіла часта быць яго заступніцай і адкупніцай за яго свавольствы — Жулік не цярпеў суседскіх курэй.

Жулік любіў двор, зямлю, роднае яму наваколле, хоць аднойчы, пры нас ужо, мусіў перажыць, можа, адно з найгоршых сваіх выпрабаванняў.

Нічога пра гэта не ведаючы, куды знік Жулік, упэўненыя, што, можа, ён у водведах у законных сваіх гаспадароў, а дазнавацца нам, незаконным, было няёмка, пакуль не пазваніла сама Алена Канстанцінаўна:

— Як там наш Жулічак?

Не маючы чаго адказаць, не на жарт занепакоіліся і мы. Будзем ужо разам чакаць і спадзявацца на лепшае. Куды ён мог прапасці?

І толькі нешта праз тыдзень прапажа-такі знайшлася. Сыскаўся Жулік. Няўцерп было яму хутчэй укінуцца ў хату — так задрапаў кіпцямі ў дзверы. А калі падаў голас, тут мы і пазналі.

Ускочыўшы ў хату, стаў з усімі абдымацца і нейк вінавата і жаласна ўсхліпваць. Акравак вераўчанага злыгача мы, адразу ж зрэзаўшы, скінулі з яго шыі, вакол якой поўсць была ўся склычана і камякамі спаўзала долу. І тут, нарэшце, усё праяснілася. Па ўскраінах Мінска тады яшчэ час ад часу раз’язджалі са сваімі будкамі гіцлі. Трапіў у іх пятлю і наш Жулік. Пэўна ж, ці не з парога жывадзёрні вырваўся і ўратаваўся.

Вользе Рыгораўне не цярпелася адразу ж пазваніць Алене Канстанцінаўне:

— Жулік знайшоўся!

— Жулічак! — пачулі мы радасны ўсклік з тэлефона. Дый сам Жулік пачуў і, пазнаўшы голас, завіляў хвастом.

— Дзе ж ён?

— А вось побач. Пазнаў вас.

— Ой, то дайце, ой, што я кажу, — паднясіце яму трубачку.

Жулік доўга і ўважна слухаў ласкавыя і пяшчотныя словы сваёй першай гаспадыні і яе запрашэнне хутчэй убачыцца. Уцешна памахваючы пушыстым хвастом, ён нават злёгку падвываў у адказ. Перакусіўшы на скорую руку ці, дакладней сказаўшы, на скорую лапу ў нас, неўзабаве выправіўся і на другую гасціну. І як пасля расказвала Крапівіха, і там была яму вялікая чэсць і пачостка. Кот ні разу не сыкнуў на яго, а ён не гыркнуў на ката. Годна і да канца вытрымалі яны той сумесны шчодры абед. Так што, можа, яно дарма, бывае, і пра людзей гавораць: жывуць, як кот з сабакам.

У сакавіку 1953 года Саюз пісьменнікаў вызначыў нам новую кватэру ў цэнтры горада. Наш добры друг, прыбегшы следам у розведы і дазнаўшыся, што жыць і мы мусім на трэцім паверсе, вярнуўся назад, застаўшыся верным старому сэдасу і ўжо новым, трэцім гаспадарам.

За ўсё жыццё Жулік быў адзіным маім сабакам, дый той не маім уласным.

Некалі ў вясковым маленстве, памятаю, упрошваў маму: «Вазьмем, мамачко, шчанятко і будам гадаваць сабаку…» Ад майго звягання мама заўсёды адмахвалася: «На чорта ён нам, людзі аббрэшуць і без сабакі…»

*1993*

## ЗАГАВАЙЛА

### I

Гэтага слова ў беларускіх слоўніках я не знайшоў. Падобнае занатаванае ў Бялькевіча з усходняй Магілёўшчыны — «загавальня» і азначае — прызба, каля якой па вечарах любяць збірацца мужчыны, пасядзець, пагаманіць.

Але ж маё не аб прызбе і не аб цэлым гурце мужчын, пра аднаго. Мабыць, наша, мясцовае, слуцкае. А то, можа, нават

еўліцкае, вядомае толькі маім землякам. Калі хто і прыдумаў, дык не адступіўся ад першаасновы, а дакладна патрапіў у цэль, як у капеечку.

— Загавайла! — пацяшаючыся і падумаць не мог, што на сыходзе веку назавуся гэтак і сам. З-за таго, як па-дзіцячы, а хутчэй па-старэчы, па абязлюдзеласці сваёй адразу гэтак узрадаваўся такой жа адкрытасці, прастадушнасці і наіўнасці аж трох жанчын, што неспадзеў, знянацку заявіліся да мяне.

Пазваніўшы, першай увайшла старэйшая і адразу ж спыталася пра Янкелевіча. Дзе ён тут можа быць у вашым двары? Янкелевіча я не ведаў. А ён якраз толькі ён конча і патрэбен ім, каб памагчы даць рады тавару, які яны, бухарскія яўрэі, прывезлі ў Мінск, і галоўным чынам, садавіну і грэчку.

За старэйшай па той бок парога стаялі маладзейшая і другая — дзяўчынка, амаль падлетак, абедзве, як я зразумеў, яе дочкі. Маці адразу ж загадала меншай пабегаць па нашым двары і па суседніх, пашукаць Янкелевіча.

Старэйшая дачка ўвайшла ўслед за маці. Стомленая, сасмаглая. Не дзіва, з такое далёкай дарогі, і папрасіла папіць. Я пайшоў на кухню, следам — яна. Без пярэдыху выпіўшы шклянку, на маё здзіўленне, тут жа, у вузкім калідорчыку, неспадзеўкі гэцнула азадкам долу. І, шануючы вас, прыпадняўшы спадніцу, пачала адкасваць панчоху і ўслед скруткам бінту ўвязваць левае калена.

— Што вы робіце? — занепакоіўся я. — Вось жа табурэтка. Вам жа будзе зручней.

— Не-не, — катэгарычна запярэчыла старэйшая. — Нам няможна. Па нашаму закону, толькі доле.

— Дык гэта ж там, у вас, на бухарскіх кілімах… — не прамінуў і я засведчыць, што бываў у Бухары. І гэтая падрабязнасць як бы яшчэ больш падкрэсліла нашае ўзаемаразуменне.

Тым часам бінт у руках дачкі аказаўся ўпартым неслухам. Круцячыся вакол калена, сюд-туд спаўзаў зноў. Толькі цяпер ужо маці растлумачыла мне неабходнасць гэтай перавязкі. Калі згружалі скрыні з садавінай, адна ўпала і моцна выцяла дачушцы калена. Мабыць, зрушылася чашачка.

— Зірніце, во як ходзіць з боку ў бок. — І ацаніўшы маю спагаду, яшчэ і даверліва шапнула амаль на вуха і пра такую трывожную для іх падрабязнасць:

— Яна ж у нас уцяжку. Як вы думаеце, ці не зашкодзіць гэта?

І я шчыра параіў абавязкова паказацца доктару, дый на рэнтгене праверыць.

— А дзе ў вас бліжэйшая бальніца?

Бальніца была недалёка. Я назваў і вуліцу, і адрас. І як бліжэй дайсці, праўда, трохі сумеўшыся, што на тым часе трывога іх як бы адразу і забылася. Затое градам пасыпаліся іншыя, самыя розныя пытанні:

— А ці далёка адсюль Камароўка? А што па чым? — і заўважыўшы на кухні паўмяшка бульбы, сталі ўдакладняць: ці можна мех грэчкі, якую яны прывезлі, абмяняць на мех бульбы?

Ледзь не спакусіўшыся такім выгадным абменам, я сам ужо гатоў быў аддаць свайго паўмяшка за іх паўмяшок.

— Знайшла Янкелевіча! — пачуўся радасны вокліч. І ў калідорчыку перад кухняй, у якой быў я, гаспадар, з'явілася самая маладая, вясёлая і амаль шчаслівая. А мне, як вінаватаму, адно толькі мільганула думка: «Гэта ж мы дзвярэй за сабой, мабыць, не зачынілі». А няўрымслівай дзяўчынцы ўжо не цярпелася:

— Ну, пайшлі. Ён тут цераз вуліцу… Ды канчай ты ўжо бінтаваць! — кінула яна як бы з дакорам сястры.

Папраўдзе сказаўшы, мне і самому паспеў ужо надакучыць гэты бабскі гармідар і рупіла як бы толькі далікатней выбавіць гаваркіх гасцей. Але вось яшчэ толькі адно пытанне, па важнасці тону, самае сур'ёзнае:

— А ці праўда, што хутка пачнецца вайна?

— А яна ўжо ідзе, — паведаміў я.

— Дзе? — устрывожыліся мае бухарскія дэхканкі.

— У Маскве. Ёсць ужо забітыя і параненыя…

Чытачу не цяжка здагадацца, што падзеі, якія адбываліся ў мяне на кухні — трэба ж такому здарыцца, — якраз жа супалі з тымі, болей страшнымі, што пачаліся ў Маскве, дзе знізу стралялі па верхніх, а зверху ў адказ — па ніжніх.

— Ой, ой! — заспяшаліся нарэшце мае лапатухі. — Хутчэй аддаць усё ў кааператыў, а грэчку — кілаграм за кілаграм бульбы…

А маладзіца, што ўвесь час кешкалася з бінтам, так і не ўправілася абкруціць калена.

## II

Неўзабаве, праз якое паўгадзіны, прыйшла з работы дачка. І я, яшчэ поўны ўражанняў ад нечаканых бухарскіх дэхканак і знаёмства, якое ў мяне адбылося, ужо не жартам, а нават і пашкадаваўшы, прызнаўся, што ўпусціў такую рэдкую рахубу — мог абмяняць паўмяшка нашае бульбы на паўмяшка грэчкі.

Пасмяяўшыся з маёй недасведчанасці, Наташа ўдакладніла: па сучасных цэнах яна за мяшок грэчкі не пашкадавала б і пяці мяшкоў бульбы.

Так і для мяне, і для дачкі гэтая прыгода ў нашай хаце адразу і забылася б, каб праз тыдзень з такой недарэчна вясёлай не паўстала ў іншай выяве — болей сумнай.

Сюжэт апавядання выстраіўся сам сабой і нават з эпілогам. Адпаведна дню, калі мілая Валянціна Аркадзьеўна прыносіць пенсію, сустрэўшы яе, як заўсёды, весела спытаў:

— На колькі ў гэты месяц я пабагацеў?

Аказалася, яшчэ ажно на трыццаць тысяч. Катастрафічна расце капітал! І куды толькі яго дзяваць?

Звычайна ў верхнім прыскрынку майго стала яшчэ трохі заставалася і ад мінулага месяца. Наташа так ашчаджае ў штодзённым абыходку, што я нават крыўджуся і мушу пытацца:

— Чаму ты адсюль не бярэш?

А яна адказвае:

— А я мела свае.

Так і на гэты раз. Далучыўшы да рэштак вераснёўскай пенсіі яшчэ і кастрычніцкую, а тыя, на якія пабагацеў, давай, думаю, дадам у запаснік, што ў двух старых канвертах ляжаць напашэве, на «ўсякі выпадак» на самым сподзе кніжнай шафы паміж усякай папяровай непатрэбшчыны. На адным лічба 100. Гэта з папярэдніх «зэканомленых», на другім — 85. А гэта ўжо тыя даляры, на якія мне пералічылі ўсе зберажэнні, што амаль паўвека захоўваліся ў ашчадкасе з усімі іх працэнтамі, кампенсацыямі, індэксацыямі, разам складзенымі за ўсе апошнія гады, — нешта болей, чым дзвесце тысяч, а ў доларах усяго 85, дый тыя дапамог мне набыць, дзякуй яму, мой, як я яго жартам заву, «унучаты зяць» — муж маёй старшай унучкі, чалавек болей сучасны і практычны, чым я. Не паслухаўшыся яго раней, але ўбачыўшы, нарэшце, як долар падае, а «заяц» плодзіцца так, што ўжо не ўгнацца за нулямі. Тады я сам папрасіў Юру памагчы мне пазбавіцца ад нулёў, бо я ўжо не магу і ўцяміць, якая іх вартасць.

Калі нулі адпалі, тады толькі я і ўбачыў, якая мне цана ў валюце. Праслужыўшы казне шэсцьдзясят год, жыву, на дзявяты дзясятак пайшло. Госпадзі, дык жа за год ледзьве па долару прыпадае.

Ну але. Дык на чым я прыпыніўся? Ага, як я, атрымаўшы новую пенсію і пабагацеўшы яшчэ на трыццаць тысяч, ужо меўся пакласці іх у той канверт, дзе напашэве 100.

Чакайце, чакайце, то дзе ж яны? Мац-мац. Пашарыў. А той канверт, з лічбаю 85? Абодва ёсць, але адзін і другі — пустыя.

Сумеўся, разгубіўся. Розумам не ўцямлю. Чакаю Наташу. Адна надзея, можа, яна знайшла больш надзейнае месца? Прыходзіць дачка. Цярпліва вытрымліваю паўзу — доўгую. Толькі пасля абеду рашаюся спытацца. Цяпер мы абое ў здзіўленні і разгубленасці.

— Хоць ты да якой бабкі-варажбіткі ідзі! — гаворыць яна.

А надвечар, вяртаючыся з работы і яшчэ толькі пераступіўшы парог, раптам пытаецца:

— А ты яшчэ так і не ўцяміў, хто нас абчысціў?

Праўду сказаўшы, у мяне нават і на думцы не мільганула і не звязалася з наведаннем нашай кватэры нядаўнімі бухарскімі лапатухамі. Дзве, трымаючы мяне на кухні ў засадзе, так затлумілі мне галаву, што трэцяя, мілы, няўрымслівы падлетак, шустрая і зіркатая, дзіва што ўправілася — часу хапала — абшнырыць увесь мой пакойчык. Не зважаючы на дзіцячасць, яна ж у іх — галоўны спецыяліст на кашачых лапках, каб анідзе не шамархнуць, не бразнуць, не грукнуць, і з сабачым носікам, каб у самым нізе шафы ўнюхаць тыя злашчасныя два канверты.

Маці стаяла на стрэмі, трымаючы на воку ўвесь калідор да ўваходных дзвярэй. Дурачы гаспадара бясконцымі пытаннямі, не надта ўжо і зацікаўленая адказамі, яна тым часам ходам і кодам нашай гаворкі надавала яшчэ большай упэўненасці сваёй «меншанькай». І як я цяпер ужо здагадваюся, аднаго разу «ляпнула» пытанне, мабыць, зусім не па сцэнарыі:

— Вы — пісьменнік? — пэўна ж, падумаўшы: грабе лапатаю. Ну і мы — грабанём. Але і пытанне, і адказ для абаіх нейк непрыкметна стушаваліся, не набыўшы значэння. І гэта была ў самай старэйшай яе, мабыць, адзіная прамашка.

Затое малодшанькая ў іх — сапраўдны віртуоз. Дакладна справілася. Аніякі Янкелевіч не спатрэбіўся, дый нікому ён не быў патрэбны, і яны ніякія не бухарскія дэхкане, а нашы — цыганкі. Але ўжо без аніводнай прыкметкі спецыфічнай экзотыкі: ні пяці-сямі рознага колеру расфальбованых спадніц на сабе, ні бліскучых завушніц, ні ў некалькі столак пацерак і караляў на шыях!

— Куды ты паклаў мамін гадзіннік? — на другі ўжо дзень спыталася ў мяне Наташа.

— У круглую каробачку ў сервантце.

Пайшлі мы абое ў сталовую. Адкрылі каробачку. Маленькага мамінага гадзінніčка сярод іншай драбязы няма. Ён быў зала-

ты. І цяпер на маім сумленні цяжкі грэх — не ўбярог памятку аб нябожчыцы. Хоць усе гэтыя гады ён разам з маім ляжаў на століку ў маім пакоі. Штораніцы я іх заводзіў абодва. Як была нядаўна Машанька і ад'язджала, прасіў:

— Вазьмі бабчыну памятку, некалі Ксюшы перадасі, каб памятала прабабку.

— Ой, дзядуля, няхай паляжаць. Мы хутка зноў прыедзем.

А што для мяне дзіва з дзіваў — мой большы залаты, падараваны сябрамі ў дзень пяцідзесяцігоддзя, па-ранейшаму застаўся ляжаць адкрыта на тым жа століку перад самым носікам юнай цыганачкі. Што ўтрымала яе ад спакусы — ці не імянная манаграма: каму і кім падараваны. Хутчэй за ўсё, што адразу б было заўважана знікненне, і лішні рэчавы доказ. Дый, мабыць жа, і ў іх таксама ёсць і свая стратэгія, і свая тактыка, а магчыма, нават этыкет і этыка.

Яшчэ праз дзень-два ўспомніў, што ў адным з прыскрынкаў у мяне ж каля дзясятка розных узнагарод, дзе таксама ж нешта блішчыць. Праведаў: здаецца, усе на месцы. Ці то зусім упалі ў цане, ці то рызыкоўна збываць.

Госпадзі міласэрны, дый што гэта я ўсё на іх, на цыганоў! Першай жа адкрыта нас усіх абрабавала родная дзяржава, а патайныя зладзеі мусяць, як груганы, падбіраць толькі рэшткі, што кожны ашчаджае, самі ведаеце, на які выпадак.

Спраўдзіўся мой верш «Пясочны гадзіннік», які канчаецца вядомай прымаўкай: гол, як сакол.

Такі яго час і лёс Васіля
І жыццё, пражытае Васілём,
Што распачаў калісьці з нуля
І завяршыў нулём.

А што да слова «загавайла», не знойдзенага ў нашых тлумачальных даведніках, дык пасля апісаных тут прыгодаў, спадзяюся, няма патрэбы і шукаць. Вы ўжо і самі здагадаліся, што я такі яго знайшоў.

Пацешцеся разам са мною!

*1995*

# УСПАМІНЫ, ЭСЭ

## ПАЭЗІЯ І ЖЫЦЦЁ

«Як становяцца паэтамі?»
«Калі вы адчулі патрэбу пісаць?»
«Як вы пісалі свой першы твор?»
…На лістках, вырваных з блакнотаў і запісных кніжачак, на шматках паперы са студэнцкіх і вучнёўскіх сшыткаў гэтыя і падобныя пытанні збіраюцца дзясяткамі ў канцы кожнага літаратурнага вечара або сустрэчы пісьменніка са сваімі чытачамі.

Не прэтэндуючы на абагульненні, я асабіста стараюся адказваць прыкладамі ўласнага жыцця, сваёй практыкі і таго вопыту, які, звычайна, ужо належыць мець кожнаму ў маім узросце.

Біяграфія і твае тэмы, асяроддзе людзей, паміж якіх рос, настаўнікі і твае перакананні, ідэалы і густы — усё глыбока звязана між сабой, хоць і не заўсёды гэтыя сувязі лёгка знайсці і прасачыць.

Паэзію, хараство жыцця, прыроды, людскіх пачуццяў мы адкрываем, яшчэ не прачытаўшы ніводнага радка вялікіх паэтаў. Заўсёднае імкненне да прыгожага жыве ў душы кожнага чалавека. Калі б не было патрэбы ў паэзіі, не было б і паэтаў.

Вяртаючыся ў памяці да тых дзён, з якіх мне належала б устанавіць пачатак сваёй творчасці, я, аднак, ніяк не магу ўспомніць, калі напісаў свой першы верш на паперы. Затое добра памятаю свае першыя паэтычныя адкрыцці і расчараванні, сваю дзіцячую бездапаможнасць перад незразумелай велічнасцю зорнага неба, невыказным хараством летняга вечара. Як і ўсе хлапчукі майго маленства, я вельмі ж хацеў хоць раз у жыцці з’ездзіць на начлег. З якім затоеным хваляваннем услухоўваўся я, калі познімі прыцемкамі на вясковую вуліцу з двароў выязджалі начлежнікі і як за вёскай заводзілі «Пад ракітаю зялёнай рускі ранены ляжаў», самую прыгожую хлапечую песню, якую я ведаў тады. У кажухах,

а поверх яшчэ ў доўгіх суконных халатах начлежнікі выглядалі ваяўнічымі волатамі. Яны ехалі на ўсю ноч, каб, абсеўшы зыркае вогнішча, слухаць таемныя гукі і галасы лесу, густа зараслага лапушной папараццю… Я не мог паехаць разам з імі не таму, што мяне не пускалі бацькі. Мне не было на чым ехаць. У нас не было каня. Бясконных двароў на ўсю невялікую тады вёску Еўлічы на Случчыне толькі і было, што наш. Так паэзія, якое прагла наіўная дзіцячая душа, разбівалася аб суровасць жыццёвай несправядлівасці. Усё сваё маленства і аж да дзён юнацтва я адчуваў не толькі на бацьках, але і на сабе пыхлівую, нахабную і злую сілу тых, хто пагардліва гаварыў нам у вочы: «Бядняк, няма хлеба, еш праснак» або з павучальным дакараннем: «Як рабіцьмеце, так і мецьмеце». А як нам было рабіць, на чым? Памятаю дзедаву хату. Яе акенцы былі выпілаваны на шырыню роўна аднаго бервяна. І хоць мы жылі ў асяродку, наша хата была самай крайняй пры забалочанай лугавіне, якая грэбляю дзяліла вёсачку напал. За хатаю адразу ж пачыналіся глінішчы, ямы, з якіх людзі капалі на свой абыходак гліну. Копанкі былі такія глыбокія, што рэдка калі высыхалі. Схілістыя ж яры, што зарасталі чаборам, зязюльчыным лёнам і лугавой мятай, былі і нашай сенажаццю, і пашай. У глінішчах я пасвіў карову. І хоць яна была рыжай і дробнай, а не такой, як пярэстыя, магутныя і паважныя каровы Сямёна Пеўня, самага моцнага ў сяле кулака, я аддаваў ёй усю сваю любоў і замілаванне, як блізкай мне істоце. Памятаю, аднаго разу я нават маліўся ў царкве за яе здароўе і за будучую яе дачку. Мне вельмі ж хацелася, каб і ў нас была карова, як у Пеўня. Такое малітвы, дзе Богу можна было выказаць гэтую просьбу, не было. І таму мне давялося самому стварыць яе. Гэта, відаць, і было першым выяўленнем майго натхнення.

Не вызначаючыся літаратурнай формай, мая паэтычная імправізацыя мела дакладны і ясны змест. «Дай, Божа, — прасіў я, — каб наша кароўка прывяла такую ж цялушку, як Пеўнеў бугай, пярэстую і з белай лысінкай…»

Бог пачуў маю просьбу. У нашай рыжай каровы паявілася пярэстая, з белай лысінкай дачка. Не ведаючы, што на ўсю ваколіцу толькі і ёсць Пеўнеў бугай, я яшчэ болей пераканаўся калі не ў сіле Усявышняга, то ў сіле слова напэўна. «Ён знае слова», — таямніча гаварылі пра шаптуна, які «качаў пярэпалах» (лячыў ад перапуду). У чарадзейнае слова верылі ў той час мы ўсе. Калі нас, дзяцей, бывала, кляла наша глухая бабка за тое, што мы ў яе корабе шукалі яблык: «А каб вам, мае ўнучачкі, павыварочвала і павыкручвала гэтак ручкі, ножкі і ўсе вашы костачкі, як вы

перавярнулі мой карабец…», дык у нас аж спіны халадзелі ад гэтай кляцьбы. Бабіны словы былі страшныя ў сваёй паэтычнай магутнасці. Паэзіяй майго маленства і былі гэтыя, няхай наіўныя, але жахлівыя па сваёй вобразнасці, праклёны і прычыты, плачы і галашэнні, журботныя жніўныя песні і песні-калыханкі.

Успамінаючы ўсё гэта, я думаю, што ў чалавека заўсёды будзе патрэба ў чароўнай сіле паэзіі.

Новыя вобразы цяпер жывяць яе, будзяць, хвалююць людскія сэрцы, але сапраўдным паэтам становіцца толькі той, хто адкрывае жыватворныя скарбы народных дум і пачуццяў, у дасканаласці авалодвае незлічонымі багаццямі слова.

Мой бацька, Васіль Максімавіч, быў адным з самых пісьменных мужчын у нашай вёсцы. Некалі аж тры зімы ён хадзіў у воласць, у школу. Узяўшы сабе жонку з трохі багацейшай сям'і, ён, аднак, не разжыўся і на пасагу. Як успамінала мая маці, Мар'я Міхайлаўна, за ёй давалі жарабіцу, але бацька мой адмовіўся. Жарабіцы не было куды паставіць. У лазовым пляцяніку пры хаце яна не магла змясціцца. Пасаг у суме сто рублёў выплацілі грашыма. Можа быць, што за гэтыя грошы бацька, не маючы дома за што рук заняць, рашыўся шукаць шчасця ў Сібіры. У 1912 годзе, калі мне споўніўся год ад роду, мы былі ўжо ў г. Омску. Туляючыся ў падсуседзях па чужых кутах, бацька карміў сям'ю тым, што, гнучы спіну на гарадскім рынку, падбіваў і латаў просты і грубы абутак людзей, якія наўрад ці калі ішлі да болей далікатных шаўцоў. Пара майго «залатога маленства» прыпала якраз на імперыялістычную вайну. Заставўшыся без гаспадара, якога забралі ў салдаты, карміць ужо нас, траіх дзяцей, вымушана была адна маці, наймаючыся на падзённыя работы. З мяне быў яшчэ слабы памочнік, хоць і даглядаў я меншых і бегаў з кацялком у казённую кухню, дзе бедным салдаткам давалі чарпак супу.

Вярнуліся мы ў родную вёску адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прыйшоў з вайны бацька, да якога мы, дзеці, доўга ніяк не маглі прывыкнуць і ўсё жыццё называлі на «вы». А можа, гэта ішло яшчэ і ад тае павагі, з якою мы заўсёды глядзелі на свайго бацьку. Нам здавалася, што ён усё ўмеў і ўсё ведаў. Рабіў ткацкія варштаты. Змайстраваў такарны станок і выточваў верацёны. Ну, а пра шавецтва і гаварыць не прыходзілася. Над нашага бацькі не было лепшага майстра. Цяпер ён шыў не адны ялавыя, а і самыя шчыгульныя хромавыя боты. І яшчэ адна спецыяльнасць была ў яго, патрэбная людзям: ён лячыў хворых. І хоць запас яго медыцынскіх ведаў абмяжоўваўся адной-адзінай

кнігай, прынесенай з вайны, — «Пособие для военных фельдшеров», ён, як прызнавалі многія, ведаў, што да чаго, і нават мог лацінскімі літарамі выпісаць рэцэпт. Маю ж асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі. Гэта былі не нашы ўласныя кнігі. І таму яны вабілі мяне яшчэ большай чароўнай сілай. Адкуль даставаў іх бацька? Адусюль, як толькі дачуваўся, дзе яны ёсць. Прыносіў нават з далёкіх вёсак. І калі выдаралася вольная часіна, у хаце ў нас усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас. Ахвотнікі паслухаць знаходзіліся. Часта да позніх пеўняў вока не мог звесці і я, хоць бацька думаў, што я сплю. Стуліўшыся на палку пад старым кажухом, я ледзь стрымліваў свой страх, услухоўваючыся ў доўгую, поўную жудасных прыгод гісторыю жыцця нейкага пана Твардоўскага. Памятаю, як я не вытрымаў і закрычаў, калі пану паднеслі на талерцы чалавечую галаву, а яна, лыпнуўшы вачыма, раптам зарагатала.

Не дзіва, што для мяне мой бацька быў і першым літаратурным крытыкам, які каштоўнасці паэзіі правяраў праўдаю жыцця. Ужо вучачыся ў школе, я аднае раніцы доўга ўслых зубрыў верш: «Пахнет сеном над лугами… В песне душу веселя, бабы с граблями рядами ходят, сено шевеля…» Бацька ўважна прыслухоўваўся, а потым сказаў:

— Відаць, нехта з паноў склаў.

— Чаму вы гэтак думаеце?

— А памяркуй сам, — сказаў бацька. — Дзе гэта бачна, каб у гарачы дзень, калі кладуць на воз сухое сена і калі ад аваднёў, ад заедзі не адбіцца, а конь «точно вкопанный стоит». І як там яшчэ? «Уши врозь, дугою ноги и как будто стоя спит…»

Пазней, пачаўшы сам пісаць, я ніколі не забываўся, што законнае права ацэньваць паэзію маюць усе, хто яе бачыць і адчувае ў жыцці.

Вершы я пачаў пісаць, здаецца, пайшоўшы ў другі клас школы. Не здзіўляйцеся. У тыя часы, калі ламаўся стары лад жыцця, а новы ўсталёўваўся не так лёгка, за буквар браліся хлопцы, якія ўжо ўмелі араць і касіць. Калі я кончыў трэці, апошні, клас школы, наша настаўніца, Таццяна Мікалаеўна, павяла нас, сваіх першых выпускнікоў, на экзамен у суседнюю сямігодку. Мяне і яшчэ двух бэйбусаў яна паставіла перад камісіяй трымаць за чацвёрты клас. Вытрымаў адзін я, і не таму, што быў выдатнік, а таму, што «даўно гадамі выйшаў».

У наступную зіму я ўжо сам быў за настаўніка. Бацька аддаў мяне да хутаранца, які жыў у лесе, і не хочучы выпраўляць

дзяцей далёка ад дому, ахвотна згадзіўся трымаць мяне на сваіх харчах і яшчэ прыплаціць трохі грашыма і натураю. Праз год, зарабіўшы сабе на адзежыну, я паступіў у Слуцкую прафтэхнічную школу.

Ёсць у мяне верш, які называецца «Гартаванне». Гэта мая ўдзячнасць аднаму з першых маіх настаўнікаў — нашаму суседу Валадыму, вясковаму кавалю. Яго маленькай, пракуранай кузеньцы я абавязаны тым, што стаў вучыцца на каваля.

Цяпер ужо ў слуцкай кузні я не толькі раздзімаў у горане агонь, а і цяжкім молатам з-за пляча гахаў па распаленым жалезе. Самы высокі ўзровень умельства, якога будучыя майстры павінны былі дамагчыся тут, гэта — навучыцца ўсім спосабам загартоўкі металу. Так мы, падлеткі, набывалі свае веды, вучыліся гартаваць жалеза, а жыццё гартавала нас саміх, узбагачала нашы душы, бо якраз у гэтым, раннім юнацкім, узросце ў кожнага з нас заўсёды адчуваецца вострая патрэба спазнання хараства навакольнага свету, прыроды, а галоўнае — тых крыніц і вытокаў, якія жывяць чалавека шчасцем творчасці.

Ад Слуцка да маіх Еўліч васямнаццаць кіламетраў. Я іх вымераў, выхадзіў уласнымі нагамі. Вельмі рупіла ў нядзелю або ў свята пабываць дома, пабачыцца з роднымі. Транспарту тады такога не было, як зараз, добра, калі пашанцуе пад’ехаць на папутнай падводзе, часцей жа даводзілася пеша. І з якой удзячнасцю я ў сталыя гады ўспамінаў сваю дарогу: вялікае шчасце хадзіць па роднай зямлі, углядацца ў яе прасторы, чуйна ўслухоўвацца ў яе галасы, ды і ў голас сваёй душы, у музыку ўласнага сэрца!

Памятаю, аднаго зімовага марознага дня ішоў я гэтак па старым сваім гасцінцы, абапал якога, як у казцы, стаялі заінелыя бярозы. Хараство, цішыня. Чуваць нават, як пазвоньваюць сярэбраныя іскрыстыя сняжынкі на ніцых галінах дрэў. І мне раптам чамусьці так захацелася спасцігнуць, выказаць усё, што бачу і чую, але я не мог і не ўмеў. Тады я стаў пасярод дарогі і, не ведаю чаму, пачаў плакаць, заліваючыся горкімі слязьмі. Доўга-доўга стаяў і рыдаў, пакуль не адлягло ад сэрца.

Чаму я запомніў і пранёс праз усё жыццё гэтае, на першы погляд, нязначнае здарэнне? Думаю, што якраз гэта былі тыя хвіліны, калі ў кожным з нас, асабліва ў раннім юнацтве, абуджаецца патрэба духоўнага ўзбагачэння, прагнасць да прасвятлення ўсіх сваіх пачуццяў хараством жыцця, свету.

Набліжаўся час вялікага пералому ў жыцці вёскі — калектывізацыя. Першы мой верш, надрукаваны Міхасём Ціханавічам

Лыньковым у літаратурным дадатку да газеты «Камуніст», якую ён рэдагаваў, якраз і быў напісаны пад уражаннем бурных падзей. Узрушаны адчуваннем перамогі новага жыцця, я, памятаю, пісаў аб «радасных далях, дзе свецяць агні». Верш быў бездапаможны, невыразны па сваіх, яшчэ не зразумелых і мне самому вобразах. Калі што і было ў ім, дык гэта толькі ўзнёслы настрой, якім поўнілася тады мая душа.

Грубай, нахабнай і драпежнай сіле хутаран, а ў вёсцы — цёмнай уладзе Сямёна Пеўня з яго сыраварняй і пярэстымі бугаямі прыйшоў канец. У яго вялізным доме, што ўзвышаўся над вёскай, аснавалася праўленне калгаса, старшынёю якога быў абраны мой бацька. У гэтыя гады ў роднай вёсцы я бываў не часта, бо пасля заканчэння прафтэхшколы працаваў ужо рабочым на Бабруйскім лесакамбінаце, у той час адной з буйнейшых новабудоўляў рэспублікі, а пазней — у рэдакцыі газеты, якая падтрымала мае першыя літаратурныя спробы.

І яшчэ ў маёй памяці ўзвышаецца адна незабыўная постаць настаўніка з роднай Случчыны — Кузьмы Чорнага, з якім мы былі ў самым блізкім сяброўстве з першых дзён вайны да звароту дамоў, да апошніх дзён яго жыцця. Разам перажылі доўгую разлуку з мясцінамі, знаёмымі з маленства, з дарогамі і сцежкамі, што заўсёды і ўсюды былі з намі.

Будзеш ты усюды неразлучаны
З першымі ўспамінамі жыцця,
З ціхаю тугой па роднай Случчыне,
З шолахам альховага лісця,

З тою прыдарожнаю алешынай,
Што ў зацішшы пры шашы шуміць.
Хіба ж ёсць у свеце шчасце лепшае,
Як пад небам бацькаўшчыны жыць?

Не ставячы сабе за мэту расказаць пра ўсё сваё жыццё, я вылучаю толькі тыя моманты, якія найбольш важныя для мяне як пісьменніка. Шкада, што многія з іх яшчэ не знайшлі свайго ўвасаблення ў маёй працы.

Асабліва рупіць мне мой сыноўні доўг перад светлай памяццю бацькі, які загінуў у студзені 1943 года ў слуцкай турме, не вытрымаўшы катаванняў фашысцкіх паслугачоў. Хто аддаў яго, хворага чалавека, у рукі катаў? Сынок Сямёна Пеўня — Мікалай, мой аднагодак, з якім некалі мяне настаўніца вадзіла на наш першы экзамен. Тады ён праваліўся, не вытрымаў на-

ват за трэці клас. Затое прыйшла пара, калі ён здаў экзамен на здрадніка. У часе акупацыі ён паявіўся ў вёсцы як фашысцкі найміт — стараста…

З вышыні пражытага, калі аглядаешся на пройдзены шлях і падводзіш вынікі зробленага, з крыўдным адчуваннем бачыш, колькі яшчэ глыбінь і чалавечага шчасця і гора ты не раскрыў, не паказаў людзям. І калі тыя падзеі і людскія лёсы, што прайшлі праз тваё жыццё, не знайшлі поўнага ўвасаблення ў тваіх творах, значыць, лепшая кніга твая яшчэ не напісана.

Кнігу свайго жыцця творым не мы самі. Яе твораць час і людзі, што ўвайшлі ў наш лёс.

Я не бачу сваёй біяграфіі без людзей, паміж якіх я жыў і жыву. Неабходнасць расказваць пра іх вымагаецца патрэбаю гаварыць не толькі сам-насам з сабою, але і з імі — жывымі і з тымі, каго ўжо няма на свеце, але што асталіся ўва мне самім, бо чалавек жыве адначасова ў трох вымярэннях: сучасным, мінулым і будучым.

Кожны з нас мае сваіх настаўнікаў, якім удзячны на ўсё жыццё. Яны не толькі ва ўспамінах, яны — усё лепшае, што ёсць у нас саміх, у нашым душэўным вопыце.

*1961–1981*

## ЛЕНІНСКІЯ НАДЗЕЛЫ

Ён быў адзін з самых першых маіх настаўнікаў. Якая прывабная, таямнічая, поўная цудаў была для мяне яго кузня, што стаяла цераз вуліцу, якраз напроці нашай хаты.

Пракураная, прадымленая кузенька, пасярод якой на тоўстай калодзе стаяла кавадла, а палову займаў горан з мяхамі — сіпатымі і хрыпатымі, як падраны гармонік, яна ніколі не пуставала — ні летам, ні зімою. Перад жнівом першы клопат — назубіць сярпы, панапраўляць, панацягваць шыны на калёсы, перад ворывам — навастрыць сашнікі. Перад зімою, на пачатку першых замаразкаў, пачыналася каванне коней — самая шумная і вясёлая пара ля Валадымавай кузні. Улегцы, у запражцы, а то і верхам прыязджалі сюды людзі і з чужых сёл. А кожны свежы чалавек — гэта ўжо навіна. Вось чаму тут любілі збірацца цікаўныя мужчыны, вясёлыя характарам, вострыя на слова і фантазію. Мае аднавяскоўцы доўга не маглі забыць, як адзін заезджы чмут здзівіў усю вёску сваёй граматнай кабылай. Не

выпрагшы яе з аглабель, ён зачапіў лейцы за вугал кузні, дастаў з кішэні кажуха газету і, папляваўшы на яе канцы, прыклеіў да сцяны. Кабыла, падняўшы галаву, уставілася вачыма ў паперу і так, можа б, прастаяла ўвесь дзень, каб мы, здагадлівыя паджыганцы, не прынеслі ёй сена — хто колькі мог.

Ад нас не было адбою. Мы вечна круціліся ля кузні, а той, хто пераступаў яе парог, быў самы шчаслівы. Дзіва што! Не кожнаму Валадым давяраў чорную, зашмальцаваную вяроўку, ухапіўшы якую аберуч, ты мог раздзьмуць у горане такі агонь, ад якога зіхацела ўся кузня і награвалася такім густым жарам, што сам каваль, які ляскаў па распаленым жалезе лёгкім малаточкам, і яго падручны, што гакаў з-за пляча цяжкім молатам, скідалі з сябе споднія кашулі. Кузня поўнілася такім прыемным гаркавым пахам вугалю, што аж займала дых.

Ахвотнікаў пацягаць вяроўку, пасапці разам з кавальскім мехам, а тым болей пагахаць, хоць і цераз сілу, цяжкім молатам, было многа. Але не ўсім выпадала шчасце. Тыя, што не заслугоўвалі Валадымавага даверу, станавіліся яго зацятымі ворагамі. Падцікаваўшы, калі ён ішоў па вуліцы, ужо не малады па гадах чалавек, выскоквалі з-за платоў і крычалі ўслед, у такт яго хады, заўсёды адны і тыя ж словы:

— Руб дваццаць! Руб дваццаць!

Гэта была самая вялікая крыўда дзядзьку Валадыму — знявечаная яго нага каленам ляжала на цяжкай драўлянай кульбе, і, ідучы, ён так нізка прыпадаў, нібы знарок прыгінаўся, каб схапіць камень ці груду зямлі і шпурнуць упопускі. Гэта яшчэ болей развясельвала і падахвочвала крыўдзіцеляў.

У мяне ніколі язык не павярнуўся вымавіць крыўдныя Валадыму словы не толькі таму, што ён быў наш сусед, з якім мы з аднаго калодзежа бралі ваду, і не толькі таму, што ў кузні я быў яго давераны памочнік — раздзімаў мяхі, а як падрос — узяўся і за молат, а самае галоўнае — таму, што Валадым быў асабліва ласкавы да мяне. Ён заўсёды зваў мяне сынок.

— Сынок, падзьмі! Сынок, гахні во тут, яшчэ раз, яшчэ!.. — і пагрукае сваім малаточкам па тым месцы, куды мне на ўвесь мах трэба «гахнуць».

Але добрае, ласкавае слова ў вуснах майго настаўніка стала злым, абразлівым у вуснах маіх праціўнікаў. «Сынок!» — зласліва пачалі пацвельваць яны мяне і так дапяклі, што я аднойчы ўбегшы ў кузню, плачучы, сказаў:

— Дзядзечка Валадым, не завіце мяне сынок!..

— Чаму? — здзівіўся каваль.

— Не хачу! — яшчэ галасней заплакаў я.

— Ну што ж, — сказаў Валадым, — не буду. — Але ў словах яго мне пачуўся затоены жаль, і ад майго сэрца быццам адарвалася часцінка нечага самага дарагога мне. Я зразумеў, што пакрыўдзіў свайго настаўніка і суседа, але чым? Чаму Валадыму так хацелася зваць мяне сынам?

Пра гэта, ужо ўтаймаваўшыся ад сваіх перажыванняў, я спытаўся ў маці:

— Чаму дзядзька Валадым заве мяне сынком?

— Бо ён жа твой бацька, — усміхнуўшыся, сказала яна.

— Як гэта? — ледзь не закрычаў я ад нечаканасці такой навіны. — У мяне ж ёсць свой!..

— Дзядзька Валадым — твой хросны, — адказала маці.

— То чаму ж вы… — перапытаў я з дакорам і расчараваннем, — чаму ж вы выбралі такога… з крывою нагою?

— З крывою нагою, ды з душою простаю, харошаю… — сказала маці. І мне пачулася асаблівая павага да нашага суседа. Дый сам я неўзабаве ўпэўніўся, што дзядзька Валадым з тых людзей, якія не толькі за дабро плацяць дабром, але гатовы памагчы, паспрыяць і паспачуваць заўсёды па шчырасці, па бескарыслівасці свае натуры. Нават да таго, хто меўся зрабіць, а то і рабіў ім крыўду, яны не былі помслівыя, знаходзячы магчымасць і нагоду даць вінаватаму ўрок усведамлення свайго ўчынку, які б запомніўся яму надоўга, а то і назаўсёды.

Цяпер, на жаль, мы рэдка ў нашым выхаванні звяртаемся да тых трывалых асноў маралі і этыкі, якія складаліся праз многія пакаленні нашых папярэднікаў. Душэўную чуласць можна выхаваць толькі такой жа чуласцю, далікацтва — далікацтвам, дабрату — дабратой. Можа, ніхто гэтага так не разумеў і не адчуваў, як нашы бабкі і дзяды, нашы маці і бацькі. Найбольш чулыя з іх, найбольш душэўна шчодрыя і выпрацоўвалі той вопыт выхавання, той кодэкс разумення дабра і зла, які склаў багацейшую скарбніцу народнай педагогікі. Разумныя бацька і маці, любячы сваё дзіця, ведалі, што спосаб ушчування сілаю — самы ненадзейны. Калі дзіця не перажыло ўласнай віны, сораму, раскаяння за зробленае кепства, а тым болей — злачынства, не будзе ніякай гарантыі, што ў далейшым ад благога ўчынку яго ўтрымае страх пакарання. Наадварот, заліхвацкасць, рызыка, як своеасаблівыя разуменні ўяўных смеласці і адвагі, будуць заахвочваць дзіцячую няўрымслівасць на новыя прыгоды і ўчынкі.

Дзядзька Валадым рабіў людзям дабро не толькі сваёй працай каваля, але і сваёй чалавечай прыязнасцю. Няхай вам не здасца

дробязнаю падзея, пра якую я раскажу трохі пазней. Відаць, асабіста мне яна не дробязная, калі не забылася і дагэтуль як наглядны ўрок глыбока перажытага мною раскаяння ў сваёй правіннасці перад маім настаўнікам.

На Валадымавым прыгуменні расла груша. Дакладней кажучы, расла яна якраз паміж нашых сядзібак, мяжа між якімі сыходзіла ў вузкую, як праехаць аднымі калясьмі, дарогу на выган. Валадымава груша, пасаджаная ім на сваім аселішчы, аднак жа чамусьці ўся падалася ў наш бок. Мабыць, ад таго, што ёй заміналі вішні, якія купчасціліся за ёю, а на нашым баку аставалася незанятая прастора і якраз жа з гэтай стараны ўзыходзіла сонца, груша выгнулася над самай дарогай, і ўвесь яе галінасты верх апынуўся па наш бок. Калі паспявалі грушы і самі сабою падалі на наша прыгуменне, па даўняй суседскай дамове і мы маглі іх збіраць. Але які дбайны гаспадар папусціцца напаканец рук, каб не дагледзець дабра ў самую пору. Валадымавы грушы былі важкія і вельмі ж сопкія, і калі яны ўжо падалі з дрэва, то карысці і наедку з іх было мала. Яны бухалі дадолу, і рэдка каторая не разбівалася. Вось чаму абіранне груш было ледзь не святам і для Валадымавай сям'і, і для нашай. Асабліва любілі гэтую ўрачыстую хвіліну мы, дзеці. Кожнае гатова было ўслужыць: прыцягнуць лескі, падаць кош, а пасля — поўны і цяжкі — занесці дадому. Так з году ў год груша станавілася як бы нашай супольнай уласнасцю, дрэвам нашага добрага суседства, сяброўства і нарэшце — сваяцтва.

А пачалося ўсё якраз з мяне, дакладней кажучы, з майго паяўлення на свет. Не буду ўдавацца ў падрабязнасці. Як пазней расказвала маці, асабліва я ёй не даўся ў знакі. І хоць быў першынцам, але трымаўся лагодна і ціха. Я спачуваў сваёй маці, яшчэ не радзіўшыся. Ужо ў глыбокай старасці яна часта ўспаміала і расказвала, як усё абышлося лёгка. Так лёгка, што сходнімі днямі і да самай хвіліны, калі яе «схапіла», яна пасвіла вясковую чараду. Пажаніўшыся, мае бацькі, не маючы ні зямлі, ні каня і астаўшыся ў дзедавай хатцы, выбралі адзіны магчымы спосаб да жыцця — наняліся ў пастухі. Плата была сходная, дый работа не ўвярэдная. Усё ішлося добра, каб якраз жа ў самую вясну, калі, як вока ў ілбе, трэба пільнаваць кожнае каровы і раз-пораз бегаць адварочваць ад шкоды, пастушка так абцяжарала, што ледзьве перавальвалася з нагі на нагу. Хлопцам гэта было за вясёлую забаўку. Яны па-свойму аберагалі маладзіцу. Як толькі яна, крэкчучы, падымалася ісці адварочваць чараду, пастухі ўжо былі нагатове. Толькі яна разгоніцца, а самы спрыт-

ны — падножку, і непаваротная маладзіца кулялася на купіну. І пакуль падымалася, вясёлыя гарэзнікі аж клаліся з рогату. «Гэтак ім было пацешна глядзець, як я перакочвалася з купіны на купіну», — расказвала мне маці. Расказвала весела, без аніякае крыўды на пастухоўскія забавы. Так, яшчэ не нарадзіўшыся, відаць, і я прывучваўся адрозніваць, дзе злая крыўда, а дзе жарт, няхай сабе не зусім удалы і дасціпны. Можа, таму, як упэўнівала маці, «у нас і абышлося ўсё лёгка: на цямочку, калі выганялі чараду, я адчула, што мне пара, і сказала бацьку: "Васілько, гані сёння ты", — а сама пайшла ў хату, легла на палку каля печы, і не паспелі па бабку збегаць, а я ўжо і гатова, як табе кажу…»

Але дабра не бывае без ліха. Мала з'явіцца на свет, трэба, каб людзі пацвердзілі, што ты ёсць ты, і, кажучы сучаснаю моваю, узялі цябе на парукі. Праз некалькі дзён, калі прыйшлося мяне хрысціць, я даў нямала клопату сваім бацькам. На радасцях, што нарадзіўся сын, ім думалася, што і яны, як усе, маюць права па ўвагу і пашану. Як ім, небаракам, хацелася, каб маім хросным быў не абы сабе хто. Бацька пайшоў прасіць царкоўнага старасту — той не прыняў ласкі. Адмовіўся нават родны бацькаў дзядзька. Для яго, валаснога суддзі, гэта быў завельмі малы гонар. Тады маці з уласцівым ёй аптымізмам сказала:

— Э, Васілько, нам лепшага кума не трэба, як Валадым!

І праўда, сусед адразу ж згадзіўся, нават абрадаваўся.

Так мае бацькі пакуміліся з кавалём. Нездарма ж кажуць: лепшая радня — свая раўня. Дзядзька Валадым быў нам раўнёю — і ён не меў ні зямлі, ні каня. Адным яго спосабам да жыцця была кузня. Мае ж бацькі пачыналі з пастухоўскае пугі. Але наш сусед разумеў і цаніў людзей не па гонары, а па тым, на што яны здатныя. «Вучыся, браце, таму, што табе па душы», — заўсёды раіў ён. Не маючы за што рук зацяць, бацька мой паехаў у Сібір. Пятнаццацігадовы бацькаў брат Усцім астаўся за гаспадара. Ён наняўся ў фальварак за парабка. Трое — бабка Аксеня, маці і я — асталіся ў старой, трухлявай хатцы з акенцамі велічынёй роўна на адно бервяно. Колькі я помню, хату нашу звалі істопкай, бо яшчэ дзед прыстасаваў яе пад жытло з варыўні.

У Сібіры бацька ўкладваў шпалы на чыгунцы, быў пуцявым абходчыкам і толькі потым узбіўся на сталы занятак. Навучыўшыся шавецтву, ён атайбаваўся ў Омску і на гарадскім рынку на хаду ладзіў самы просты і грубы людскі абутак. Халодны шавец — так звалася спецыяльнасць, якую набыў мой бацька. Яна дала яму сякі-такі спосаб мець свой хлеб. Праз які год бацька выпісаў да сябе маці і мяне. Гэта была наша першая

паездка на цягніку. «Што я, мой сыночак, папатрэслася, папакацілася, едучы на Урэчча, бо тады ж яшчэ ў Слуцку станцыі не было», — часта расказвала маці. Мне было толькі год ад роду, і таму не памятаю, ці тросся і калаціўся я, — напэўна ж, і тросся і калаціўся ад доўгай, выбітай, каляіністай дарогі на возе, але не ад страху перад сустрэчай з «машынай, што рэжа людзей». Такіх жахаў нарасказвалі вяскоўцы маёй маці пра цягнік, пра паравоз, што, убачыўшы яго на станцыі і «як з яго чорнага коміна рваўся дым і шугала полымя», яна, бедная, траха не ўмлела. Але ж потым, ачомаўшыся і ўпэўніўшыся, што машына нікога не рэжа, а наадварот, ехаць на ёй нават лепей, чым на возе, мая маці вельмі ж дзівілася хуткасці, з якой мы даехалі да Омска: «Гэта ж за якія два тыдні і былі там». Па тым часе, шэсцьдзясят год назад, гэта была касмічная хуткасць. А яшчэ раней маёй бабцы Аксені не меншае дзіва быў веласіпед. Убачыўшы, як па гасцінцы ў хмарах пылу самі па сабе каціліся два высозныя колы, а паміж імі — нешта падобнае на чалавека, прыгнуўшыся, перабірала нагамі, мая бабка, нема закрычаўшы ад страху, кінулася ў вёску. Задыханая, мыляючы збялелымі губамі, яна толькі і вымавіла два словы: «Чорт на калёсах!» Неўзабаве людзі дазналіся, што на самакаце ездзіць не чорт, а пан Залескі, і, як у свае пазнейшыя гады дазнаўся я, той самы Залескі, што разам з Тарасам Шаўчэнкам адбываў ссылку «ў далёкіх прыаральскіх і прыкаспійскіх пясках, і як там яны, сумуючы па сваіх родных мясцінах на Украіне і Беларусі, змаўляліся, калі толькі судзіць ім доля вызваліцца, абавязкова сустрэцца ў нас, на Случчыне. Вярнуўшыся раней, Браніслаў Залескі не пакідаў свайго друга ў бядзе, падтрымліваў яго не толькі пісьмамі. На малюнкі і карціны, якія прысылаў паэт свайму сябру, Залескі знаходзіў пакупнікоў, якія, набываючы творы ўкраінскага Кабзара, прыкладалі і шмат намаганняў, каб вызваліць яго з няволі. Залескі не раз апісваў дарогу і даваў Тарасу Рыгоравічу план, як знайсці яго сядзібу. Калі б гэты план здзейсніўся, Шаўчэнка ішоў бы ў Рачкавічы якраз праз мае Еўлічы, па тым самым гасцінцы, на якім яго сябра здаўся бабцы Аксені «чортам на калёсах».

Так, бывае, сыходзяцца або могуць сысціся, перакрыжавацца лёсы і шляхі людзей, якія, жывучы на свеце, часам зусім нічога не ведаюць адзін пра другога.

Мая бабка Аксеня была настолькі глухая, што субяседніку трэба было на ўсю моц крычаць ёй у самае вуха. Добра памятаю першае непаразуменне паміж мною і бабкай, праўда, прычынай

якога была не столькі глухасць, колькі бабчына недасведчанасць у філалагічных тонкасцях.

Вярнуўшыся з Омска, я ў свае шэсць гадоў быў для вяскоўцаў «гарадскі». Маё здзіўленне з усяго ўбачанага, маё адкрыццё нанава тых з'яў і рэчаў, якія звычайна якраз у раннім малалецтве найбольш уражваюць душу і сэрца чалавека, аднагодкам маім, а тым болей дарослым, здаваліся настолькі смешнымі і недарэчнымі, што ў іх вачах я выглядаў дзіваком, які з'явіўся невядома адкуль.

Доўга не мог забыцца, стаўшы вясковым анекдотам, мой першы дыялог з бабкай Аксеняй. Прыехаўшы дадому, на другі дзень раніцай я ўбачыў, як ад нашага парога ўроссып кінуліся шэрыя лупатыя істоты, і ў захапленні закрычаў:

— Бабушка, лягушки!

Бабка доўга ўглядалася туды, куды я паказваў, — у разорку між бульбоўніку, а ўгледзеўшы, са збянтэжаным здзіўленнем і крыўдным дакорам свайму дурному ўнуку сказала:

— Якія, хлопчык, галушкі, гэта жабы.

Праз які год-два сэнсавыя адценні і рызыкоўныя сугуччы зрабіліся ўласцівымі і майму слыху, бо і я стаў думаць і ўсё ўспрымаць цераз сваю мову. А навучыўшыся чытаць, памятаю, сам трапіў у становішча сваёй бабкі, калі ўпершыню прачытаў прозвішча Катаеў, бо зразумеў яго літаральна, як паведамленне пра рэдкае здарэнне.

Чытач ужо заўважыў непаслядоўнасць майго апавядання. Адхіленні ў бакі разбурылі мой сюжэт. Прызнаюся, я і не думаў пра яго. Гаворачы з вамі так, як плыве мая думка, я ўсё ж адчуваў, што ў гэтай плыні ёсць выток. Дзе ён? У раннім маленстве я пабываў у Сібіры, у думках з вамі перанёсся на пустынны бераг Аральскага мора, а потым усё ж вярнуўся да той хаты-істопкі, дзе нарадзіўся і з акенца якой убачыў свет. Як сляпы за плот, я не раз яшчэ буду брацца за яе вугал, ад якога да гасцінца было рукою падаць. Напэўна ж, калі б украінскі пясняр, ідучы ў госці да свайго друга, павярнуў у палявую сцежку напрасткі, ён не абмінуў бы нашай істопкі, сеў бы адпачыць на яе парозе, і мая бабка Аксеня, тады яшчэ зусім маладая, прыгожая, вынесла б яму ў драўляным кадаўбцы халоднага бурачнага квасу…

Як бы далёка ў свеце ні былі тыя, хто выйшаў з гэтай хаты, рана ці позна, а ўсё ж вярталіся з гасцінца зноў да яе прызбы, выкладзенай цёплай, зляжалай кастрыцай.

З нялёгкіх дарог імперыялістычнай і грамадзянскай вярнуўся дадому мой бацька. У салдатах ён набыў яшчэ адну спецыяль-

насць — фельчара, але яшчэ больш удасканаліўся і ў першай: мог не толькі наладзіць зношаныя, старыя боты, а з тавару заказчыка пашыць новыя, па самай апошняй модзе — з высознымі цвёрдымі заднікамі і з халявамі-бутэлькамі, што шчыгульна аблягалі да самых каленяў мужчынскія і хлапечыя лыткі. Разлік быў сходны: насып поўныя халявы збажыны — вось і ўся плата.

Умець — за плячыма не насіць. Цяпер мой бацька ўмеў многае, але надоўга хапіла б і гэтых двух клопатаў: лячыць хворых і абуваць здаровых, каб не пачаўся перамер усяе зямлі нанава, па душах.

Нас было з бабкай Аксеняй сямёра. Не магу сказаць пэўна, колькі нам нарэзалі, але добра памятаю, што надзелы тыя называліся — Ленінскія. І дагэтуль у маёй вёсцы так завуцца тыя палеткі самай лепшай і ўрадлівай зямлі.

Які вялікі сэнс гучыць мне ў гэтай назве! Людзі, што ніколі не мелі за што рук зацяць, парабкі і пастухі ўпершыню ступілі нагою ў цёплую, родную баразну жаданай зямлі, якую ім даў Ленін!

Была ў нашай сям'і і восьмая душа: бацькаў брат, а мой адзіны дзядзька Усцім, якога, вярнуўшыся з Сібіры, мы ўжо дома не засталі. Яго забралі ў салдаты на імперыялістычную, а потым віхура грамадзянскай занесла так далёка, што за многія гады і почуту не было. Бабка Аксеня, яго маці, была ўпэўнена, што «яго і костачак даўно няма». Але ён сыскаўся-такі ў матчыну хату. 23-гадовы юнак, ён служыў у штабе Узброеных Сіл Украіны і Крыма — арміі, якой камандаваў Фрунзе. У самы цяжкі для маладой Савецкай дзяржавы час, калі Урангель з поўдня і з усходу рваўся да Масквы, фальварковы парабак уступіў у рады партыі камуністаў. «Я ведаў, — успамінае ён цяпер, — ніколі не адступлюся ад таго, што мы заваявалі, — не магу адступіцца. Няўжо ж зноў — аброчная торба пастуха, беспрасветнае і ганебнае парабкоўства ў маёнтку? Успомніў сваю вёсачку ў балоце, сваю замшэлую хатку з падслепаватымі акенцамі. Не! — сказаў я сабе. — Памру, а не вярнуся да старога жыцця!» А я слухаў яго і думаў: недзе ж і мяне ў дворнай афіцыне чакала пастухова пуга і такая ж торба, каб не ўсё тое, ад чаго не адступіўся мой дзядзька.

Усцім Максімавіч праз усё жыццё быў далікатны і сціплы чалавек. Такі ён астаецца і цяпер, на схіле год, жывучы пасля апошняй вайны ў аблюбаваным ім Львове, і рэдка-рэдка хто ведае яго цяжкую і слаўную біяграфію. Такі ж даступны, не паказны, не фарсісты быў ён і ў маладыя гады. На кароткую пабыўку прыехаў

не ў сваёй камандзірскай форме, а ў абмундзіроўцы чырвонаармейца. У дадатак да ўсяго мяне ўразіла тая акалічнасць, што дзядзька нясмела, як бы не ўпэўнены ў тым, што гэта магчыма, папрасіў маю маці падараваць яму… свайго, нашага палатна! Маці так абрадавалася, што хоць чым можа зрабіць прыемнасць дзеверу. «Выбірай, Усцімко, што ўпадабаеш!» — і яна дастала са скрыні ўсе свае кужэльныя багацці. Хутка самы лепшы вясковы кравец пашыў майму дзядзьку палатняны гарнітур. Тады яны сама што ўваходзілі ў моду. Абнова была спраўлена якраз перад Вялікаднем. І мы з дзядзькам пайшлі ў суседнія Чаплічы на ўсяночную, бо вельмі ж там была харошая, як у нас казалі, пеўча. Пеўчай я ўжо быў наслуханы даволі. Цяпер для мяне была адна цікавасць — наш госць. Толькі б не адстаць ад яго, не спусціць яго з вока. Тады я наўрад ці разумеў, што шмат у чым і замінаў яму, яшчэ зусім маладому хлопцу. Ці мала яму трэба было каго сустрэць, убачыць і каб ад нечага позірку адчуць, як зойдзецца ў даўнім суме хлапечае сэрца. У такіх тонкасцях я тады не разбіраўся, хоць і быў вельмі ўражлівы. Памятаю, як мы вярталіся дадому і як мяне здзівіў і ўзрушыў усход сонца. Гэта быў мой, асабіста мой, усход ва ўсёй яго харашыні.

Спярша небакрай заружавеў вузкай палоскай. Раптам імклівы прамень шугануў з-пад зямлі і рассыпаўся на дробныя пырскі. Чырвань згусцілася і ахапіла паўнеба. Але трывала нядоўга і адразу ж сцьмела. Тады спакваля выкацілася яно, вялікае, але рахманае, нейкае вельмі ж свойскае і бездапаможнае. І пакуль раскатурхалася, я доўга глядзеў на яго, не зводзячы вачэй. Раптам яно прачнулася, ажыло, заварушылася і набрала такой сілы, што цяпер ужо ўвесь свет здзівіўся яго хараству.

Сонца іграла! Гэта бывае рэдка — у самыя першыя дні ранняй вясны. І цяпер, калі б мне прыйшлося маляваць сонечны ўсход, я не ўзяўся б пісаць з натуры, я маляваў бы яго такім, якім убачыў упершыню. Выпрабаваная памяць, відаць, і ёсць аснова мастацкай праўды.

Пасля свят мы з дзядзькам пайшлі ў Крошню. Так зваўся лес, а праўдзівей сказаць — рэшткі лесу таго самага «чорта на калёсах», што траха не да смерці перапалохаў бабку Аксеню. У Крошні мы накапалі, як падняць удвух, цэлую вязку маладзенькіх бярэзінак. Імі мы абсадзілі ўвесь равок, якім канчаўся наш прысядзібны паплавец — ад вулічнай грэблі да выгану. Некалькі бярэзінак пасадзілі пры хаце. Якраз яны і прыняліся. А тыя на раўку, на ветры, на буі, зачэзлі. Бяроза не любіць адзіноты. Затое гэтыя, пры хаце, з кожнай вясной набіралі

сілы. Дзядзька зноў быў далёка ў сваіх нялёгкіх вандроўках, а яго бярозы шумелі магутнымі купчастымі вярхамі.

Можа, яны і ўспаміналіся калі Усціму Максімавічу, але зноў на многія гады згубіўся яго след. Зноў бабка Аксеня аплаквала сынавы костачкі. Толькі ж добрая вестка паміж добрых людзей ніколі не губляецца. Так дайшла яна і да нас. З якога канца, з якой вёскі і ад каго — невядома, але ў нашу хату прыйшоў зашмальцаваны, перагартаны дзясяткамі і сотнямі рук часопіс «Огонек».

…На неспакойным, трывожным Далёкім Усходзе была створана Асобая Чырванасцяжная Армія на чале з праслаўленым у баях Блюхерам. Пра гэта мы, пэўна, хоць і ведалі, але без тых падрабязнасцяў, якія прынёс часопіс. У ім на цэлую старонку быў змешчаны здымак камандавання арміі. Там мы ўбачылі Блюхера. Але што асабліва ўразіла нас сваёй неспадзяванасцю — гэта тое, што побач з ім стаяў стройны, падцягнуты, у доўгай да калень гімнасцёрцы камандзір, і прозвішча яго было — наша. Мой бацька, маці, бабка Аксеня і ўсе суседзі прызналі — гэта ён, Усцім. Пад прозвішчам была пазначана і яго пасада: старшы сакратар камандарма…

Яго бярозы і мяне выпраўлялі з дому, а калі вяртаўся назад, заўсёды першыя сустракалі, бо выраслі ўжо намнога вышэй за хату і бачыліся здалёк.

Бачыліся яны мне і далёка ад хаты за многія-многія адлегласці і гады. Бачыліся з пакутных дарог вайны, бачацца і цяпер, хоць іх ужо даўно няма. Мая вёсачка, якая тулілася ў балотнай нізіне, хаваючыся ад вечных пажараў і спусташэнняў, што неслі з сабой навалы прагнага заваёўніцтва, — мая палахлівая, зняверaная стагоддзямі вёсачка смела, з размахам пачала перабірацца з балота на самую высокую разлегласць, якраз на тую роўнядзь, па якой пралягаў спрадвечны гасцінец з Усходу па Захад.

Некалі выцягнутая ў адзін шнур, цяпер яна ўжо заняла аж чатыры вуліцы, раскінуўшыся на чатырох пасёлках на той лепшай і ўрадлівай зямлі, якая завецца — Ленінскія надзелы.

Калі заснаваўся калгас, першым старшынёй яго стаў мой бацька. На Ленінскіх надзелах пачала закладацца аснова новага аселішча. Былыя парабкі і пастухі выбіраліся на першыя ў сваім жыцці сялібы. Калгас рос і разбудоўваўся на выгодзе і прасторы. Прагныя фашысцкія грабежнікі вынішчылі ўсе яго набыткі. Гітлераўскія прыхвасні — стараста з паліцэйскімі — звялі свае даўнія рахункі і з маім бацькам — закатавалі ў гестапаўскай турме.

Пры нашай новай хаце выраслі ўжо іншыя дрэвы, пасаджаныя добраю і дбайнаю рукою. На запаветных надзелах нанава адбудавалася ўсё паселішча. Яно зберагло сваё імя, сваё слаўнае радаслоўе як удзячнасць, як памяць, як наказ і спадчыну сваім нашчадкам…

Няма бяроз, пасаджаных дзядзькам Усцімам, але, штораз прыходзячы на даўняе хацішча, многа разоў перааранае трактарнымі плугамі, я знаходжу сляды, дарагія маёй душы, сляды людзей, якім я абавязаны ў жыцці. Яшчэ нядаўна непадалёк ляжаў цяжкі млынавы камень з дзіркаю пасярэдзіне. Праз яе прабіваўся густы куст конскага шчаўя. На гэты камень мы клалі калясо, каб нацягнуць шыну. Тут была Валадымава кузня — пачатак маёй памяці, адкуль мне бачыцца ўся разлегласць пражытых гадоў.

Зноў вяртаюся я да свайго настаўніка, які вучыў мяне не толькі кавальству, але і даў урокі той простай педагогікі, што заклала асновы душэўных набыткаў. Нездарма я так падрабязна расказваў вам пра суседаву грушу, што хілілася сваім верхам на наш бок. Гэтая груша запомнілася мне яшчэ і таму, што праз адно прыкрае здарэнне, а праўдзівей кажучы — праз маю паквапілівасць, я назаўсёды зразумеў і ацаніў, якое было мудрае сэрца ў майго настаўніка.

…Яны былі яшчэ зелянцовыя і гаркавыя, але я наважыў паскорыць іх выспяванне. Ведаючы, што Валадым у кузні, я ўзлез на дрэва і стаў латашыць грушы. Ці то захапіўшыся гэтай работай, ці то ўзрушаны адчуваннем храбрасці і рызыкі, я не пачуў, адкуль узяўся гаспадар, хоць яго драўляная кульба заўсёды грукала і рыпела, падаючы верны знак, хто ідзе. Але ён, мабыць, падышоў даўно. Бо стаяў пад дрэвам спакойна і, задраўшы галаву, глядзеў на мяне, нібыта сам папрасіў — узяць пробу.

— Мабыць жа, сынок, зялёныя яшчэ… — сказаў дзядзька Валадым разважліва, быццам паміж намі ішла добрая суседская гаворка.

Яны былі жорсткія і даўкія. І хоць мая згаладалая істота прагла навіны і мы, дзеці, як ненаедны вусень, грызлі нават самую першую завязь, я згадзіўся з суседам:

— Зялёныя, дзядзюхна…

І так мне стала горка і ў роце і на душы, што і дагэтуль адчуваю тую гаркавасць.

Злазіў я з дрэва марудна і неахвотна ўжо не ад страху, а ад сараматнога цяжару: вакол паясніцы мае запазухі былі поўныя

зялёных груш, і калі сарочка вылузалася з нагавіц, усе яны пасыпаліся дадолу…

Праз які тыдзень, верныя добраму звычаю, мы зноў разам абіралі Валадымаву грушу. І звыш тых кашоў, што прыйшліся пароўну, каваль дадаў яшчэ адзін.

— Гэта майму хрэсніку, — сказаў ён і ўсміхнуўся. Так дзядзька Валадым хрысціў мяне другі раз.

Самае цікавае скажу пад канец: грушу тую звалі валадымаўка. Гэта такі гатунак ранніх, вялікіх, прыгожых і смачных груш. Адкуль ён завёўся ў нас, хто вырасціў яго? Я і дагэтуль упэўнены, што мой хросны, бо толькі ў нашым невялікім наваколлі чутна валадымаўка. Можа, у іншых мясцовасцях яна завецца іначай — не ведаю.

Для мяне каваль Валадым і яго груша жывуць у адзінстве, разам з той дарагой спадчынай, якая дасталася мне ад вечнага матчынага жыццялюбства, ад бацькавай неўтаймаванасці, ад дзядзькавага высокага абавязку — быць заўсёды на варце тых вялікіх багаццяў, якімі надзялілі нашы душы самыя дарагія нам людзі — нашы настаўнікі.

*1971*

## НЯСКАЗАНАЕ СЛОВА

Імя пісьменніка, галава якога выбелена завеямі часу, цяпер вядома кожнаму. Не першае пакаленне людзей адкрывае ў яго кнігах паэзію жыцця, што для самога пісьменніка было часта суровым і бязлітасным. Тая добрая ўсмешка, якою высвечвае кожнае яго слова, ніколі не была бяздумнай, бо прабівалася з глыбінь душы.

Я хачу расказаць аб адной вясёлай акалічнасці нашага знаёмства.

Гэта было, калі ён напісаў яшчэ толькі першыя апавяданні. Але для моладзі ён быў ужо не толькі пісьменнікам, а і ўпаўнаважаным збіраць нас — і тых, хто склаў нясмелы верш, і тых, хто прыслаў у газету сваю селькараўскую заметку.

Тады ж і ў маёй біяграфіі адбыліся вялікія падзеі: я быў аўтарам трох вершаў, надрукаваных у літаратурным дадатку да акруговай газеты, а ў кішэні ў мяне ляжаў ліст самога рэдактара. Мяне запрашалі ў той горад, дзе выходзіла блізкая майму сэрцу газета.

Першы раз за свае сямнаццаць год я выбіраўся ў такую дарогу. Мне не пашкадавалі самага лепшага адзення, што было ў нашай хаце, каб і ў горадзе я не здаўся горшым за людзей. Бацька аддаў мне свае ялавыя боты. Я надзеў галіфэ, перашытае з кавалерыйскіх штаноў, купленых на слуцкім рынку. І як запэўніў мяне наш кравец, «джыгінал» трапіўся «камандзірскі», таму над майго галіфэ лепшага не будзе і ў самім Бабруйску. Сінюю сацінавую кашулю я ўвабраў пад пояс. А каб галіфэ трымалася надзейна, я поверх цераз плечы пачапіў падцяжкі. Адкуль узяліся яны ў нашай хаце — не ведаю. Памятаю толькі, што гэта была амаль адзіная рэч, якая далучала нас да вяршынь цывілізацыі. І не дзіва, што яны адразу ж прыдалі мне той бляск, які завяршыў усе зборы. Дзве панікеляваныя спражкі ўрачыста заззялі на маіх грудзях.

Назаўтра, пераступіўшы запаветны парог рэдакцыі ў сваіх элегантных падцяжках і ўбачыўшы вясёлае ўзрушэнне яе супрацоўнікаў, я зразумеў, што ўсе рады майму прыезду і перажываюць не меншае шчасце, чым я.

Трывогі маіх бацькоў былі дарэмныя: іх сын не быў горшы за гарадскіх. У магутным галіфэ, у ялавых ботах я нават вылучаўся сваёй паважнасцю.

На рэдактары была з такога ж, як і ў мяне, саціну кашуля з высокім каўняром, зашпіленым на радок частых дробных гузікаў. Праўда, на ім быў яшчэ пінжак, але даволі паношаны і, як мне здалося, трохі вузкаваты для яго дужых плячэй.

Рэдактар выйшаў з-за стала. І хоць бачыліся мы ўпершыню, аблічча яго мне здалося вельмі ж знаёмым.

Гэта быў просты, нават рэзкі ў сваіх абрысах твар, як і ў тых людзей нялёгкай працы, сярод якіх я вырас. І толькі ўсмешка, якою свяціліся вочы, выдавала хар允ство душы чалавека.

Рэдактар паціснуў мне руку і падвёў да супрацоўнікаў.

— Будзьце знаёмы, — сказаў ён, — гэта наш малады паэт…

Так я ўпершыню пачуў свой высокі тытул, і спражкі зазіхацелі на маіх грудзях, як сярэбраныя медалі.

Супрацоўнікі, самі яшчэ поўныя маладых надзей на сваю літаратурную будучыню, радасна ўсміхаліся.

Неўзабаве мне далі першае рэдакцыйнае заданне: селькараўскую пошту за той дзень, і я павінен быў на кожнай заметцы паставіць яе чарговы нумар, выпісаўшы, як патрабавалася ў рэгістрацыйнай картцы, «кароткі змест карэспандэнцыі». Не думайце, што гэта было лёгка — вызначыць адразу ж змест, ды яшчэ кароткі. Я доўга сядзеў над кожнай заметкай, перачытваў

яе па некалькі разоў і часцей за ўсё перапісваў загаловак, які даваў карэспандэнцыі сам аўтар: «Хата-чытальня на замку» або «Пракурор павінен умяшацца ў брыдоты». Такіх патрабаванняў было многа, і я шчыра паспачуваў пракурору, што ў яго вельмі ж непрыемныя абавязкі.

Дзённая пошта рэдакцыі была вялікая, а мае здольнасці рэгістратара настолькі малыя, што першы дзень літаратурнай кар'еры запомніўся мне як адзін з самых цяжкіх дзён. Тады ж я адкрыў для сябе вялікую ісціну: рэгістраваць лягчэй, чым вызначаць змест падзей. Першы цень сумнення лёг на маё сэрца і на мае сярэбраныя спражкі.

Але гэта было не доўгае засмучэнне. Калі мы выйшлі з рэдактарам на вуліцу, залітую жнівеньскім сонцам, лепшыя мае спадзяванні зноў зазіхацелі на поўную сілу. Сустракаючы сваіх знаёмых, рэдактар у адказ на іх здзіўленыя і дапытлівыя позіркі ў мой бок не без гордасці ўсім паведамляў:

— Наш малады паэт…

Сустрэчныя весела аглядалі мяне з ботаў да падцяжак, стараючыся не затрымліваць майго пераможнага шэсця па вуліцах Бабруйска…

З таго дня мінула ўжо шмат год. Але, сустракаючы свайго першага рэдактара і бачачы яго ўсмешку, я штораз з трывогай думаю: няўжо ён не забыўся пра паэта, што ў першы ж дзень свайго з'яўлення зачараваў увесь горад?

Відаць, не забыўся, але маўчыць і толькі ўсміхаецца. А што калі раптам возьме і запытае:

— Ну, уюнаша, усё яшчэ ў маладых ходзіш?

Што я адкажу яму? Не, я ўжо даўно не малады. А сталасць мая не такая бліскучая, каб магла парадаваць яго.

Так я зразумеў яшчэ адну ісціну, што нясказанае слова павінен сказаць толькі ты сам. Ніхто за цябе яго не скажа.

*1959*

## ЦЕРАЗ ВЫПРАБАВАННІ ЧАСУ

### I. Наша вясна

Аб пісьменніку чытачы мяркуюць па яго творах. Асабіста ж для мяне Міхась Лынькоў не ўяўляецца без той напружанай палітычнай, грамадскай і арганізатарскай дзейнасці, якая фарміравала і гартавала яго як чалавека, камуніста, пісьменніка.

Цяпер і старэйшыя, і малодшыя, і самыя маладыя літаратары, якія ўваходзяць у адзіную творчую арганізацыю, маюць усе магчымасці сустракацца, чытаць, абмяркоўваць свае творы, раіцца, спрачацца. Усё гэта ўвайшло ў наш побыт, — і людзі маладзейшага веку, можа, і не заўсёды ўяўляюць, што ў тыя гады, калі не было адзінага Саюза пісьменнікаў, калі ў літаратуры яшчэ асабліва жорсткай была класавая барацьба, калі яшчэ былі вельмі моцныя ўплывы розных эстэцкіх і фармалістычных кірункаў і школак, маладому пісьменніку не так лёгка было вызначыць свой шлях.

Міхась Лынькоў выходзіў на свой творчы шлях якраз у гэтыя часы, і тое, што ўжо сваімі першымі творамі ён адразу ж заваяваў шчырае прызнанне чытача, яшчэ раз падкрэслівала правільнасць устаноўкі нашай партыі, якая заклікала пісьменнікаў да сучаснасці, да паказу жыцця народа.

Тэмы, вобразы для сваіх кніг Міхась Лынькоў браў з вопыту, з уражанняў, пераджытых ім самім. Адным з першых ён паказаў у беларускай літаратуры гераізм грамадзянскай вайны, першым узяўся за паказ жыцця рабочага класа рэспублікі.

Будучы рэдактарам бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», ён становіцца збіральнікам, арганізатарам і настаўнікам літаратурнай моладзі.

Успамінаючы Бабруйск, работу на лесакамбінаце, у заводскай шматтыражцы «За ўдарныя тэмпы», супрацоўніцтва ў «Камунісце», загадзя скажу, што гэта — самыя дарагія для мяне жыццёвыя старонкі. Гэта быў час юнацтва, няхай сабе цяжкага і галоднага, але поўнага радаснага ўсведамлення сваёй непасрэднай прыналежнасці да найвялікшай перабудовы ўсяго жыцця.

Моладзь першай адчула высокую паэзію гераічных дзён, і не дзіва, што ўсе мы з такой прагнасцю імкнуліся да працы на новабудоўлях, да авалодання ведамі, да кнігі, да газеты. І свае радасці, і свае нягоды мы давяралі друкаванаму слову. Ніколі яшчэ не былі такімі блізкімі паміж сабой заметка, допіс рабселькара і паэтычныя радкі, якія выходзілі з-пад аднаго пяра, што пісала і пра камсамольскі спектакль на вёсцы, і пра нясмелыя пачуцці кахання.

Газета «Камуніст» была руплівым і чулым арганізатарам творчых сіл на Бабруйшчыне. Штомесячным літаратурным дадаткам «Вясна», альманахам «Уздым», сваімі літаратурнымі старонкамі яна далучала да творчасці ўсё новых і новых людзей.

Так, пачаўшы з рабкараўскіх допісаў, становіцца вядомым пісьменнікам тэлеграфіст са станцыі Асіповічы Хвядос Шынк-

лер. Адну за другой піша кнігі пра жыццё і працу чыгуначных рабочых.

Незабыўным сяброўствам я абавязаны брату Лынькова — Рыгору. Тыя, хто ведаў яго па Бабруйску ў дваццатыя — трыццатыя гады, памятаюць, напэўна, пацёрты, зрудзелы шынялёк, што дастаўся яму ад старэйшага брата Міхася. У гэтым шыняльку, апаленым грамадзянскай вайной, прайшло юнацтва абодвух братоў. Для старэйшага яно, гэтае юнацтва, канчалася, для серадольшага пачыналася. Грыша Лынькоў едзе ў вёску Ахвоцічы, непадалёк ад Бабруйска, і працуе там хатнікам — загадчыкам хаты-чытальні, асноўнага ідэйнага і культурнага асяродку ў той час на вёсцы. Актыўны прапагандыст новага жыцця, ён становіцца селькарам і паэтам. Абраўшы сабе прыгожае паэтычнае прозвішча — Суніца, Рыгор публікуе свае першыя вершы.

Юнак з незвычайна чулай душой і суровай ашчаднасцю да кожнага свайго слова адразу ж вылучыўся сярод нас маштабнасцю вобразаў, значнасцю думкі. Адзін з яго вершаў называўся «Лірычная эпітафія» і напісаны быў амаль у той час, як і вядомы верш Янкі Купалы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы…». Успамінаючы верш Суніцы, яшчэ раз упэўніваешся, якім прадбачлівым, якім чуйным быў малады паэт да гістарычнай драмы і да псіхалагічнай складанасці характару селяніна:

Сёння ты задумаўся глыбока…
З-пад імху брывей не відна вочаў.
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі,
Пахіснулі сэрца твайго крокі,
І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы.
Сёння ты задумаўся глыбока…

Я прыводжу гэтыя радкі па памяці. І тое, што цераз паўвека яны не забыліся, яшчэ раз падкрэслівае, наколькі моцнае ўражанне зрабіў верш на сваіх сучаснікаў.

За сваё кароткае жыццё Рыгор Суніца надрукаваў не болей чым два дзясяткі вершаў, але яны вабілі нас музычным хараством і кампазіцыйнай дасканаласцю. Зноў па памяці прывяду пачатак яго верша, прысвечанага фізкультурніцы — жывой, рэальнай юнай бабруйчанцы, у якую, як мы здагадваліся, Грыша быў закаханы:

Не хістайся, белаблузая,
Не танцуй,
Не танцуй!

Па камандзе слухай музыку —
У ланцуг,
У ланцуг!

На старонках бабруйскай «Вясны» разгарнуў свае крылы для палёту студэнт Рагачоўскага педтэхнікума Алесь Жаўрук.

Вясна нашай маладосці натхніла ўзнёслую паэтычную прозу Барыса Мікуліча.

З душэўным болем успамінаем мы дарагія імёны гэтых людзей. Яны аддалі Радзіме не толькі сваю творчасць, але і сваё жыццё.

У першы ж дзень вайны браты Лыньковы — Міхась, які быў старшынёй Саюза пісьменнікаў, і Рыгор — адказны сакратар газеты «Літаратура і мастацтва» пайшлі ў свае часці, да якіх былі прыпісаны. Яны не паспелі нават развітацца з сем'ямі. І адна, і другая сям'я трагічна загінулі. Няма дакладных звестак пра смерць Грышы Лынькова. Некаторыя знаёмыя расказвалі, што бачылі яго на пераправе цераз Бярэзіну.

У асяродку творчага жыцця ў Бабруйску былі людзі з большым, чым у нас, юнакоў, вопытам. Гэта — выкладчык музычнай школы, кампазітар Яўген Карлавіч Цікоцкі, настаўнікі Алёкса Жукоўскі, Рыгор Бахта, Мікола Нікіцін. Яны выступалі на нашых сходах, а ў газеце і часопісе друкавалі рэцэнзіі на творы маладых. Гэта былі нашы першыя крытыкі, добрыя памочнікі Міхася Лынькова.

Бабруйск нашага юнацтва, нашай вясны вабіў моладзь не толькі як культурны цэнтр вялікай акругі, але і як горад, у якім пачыналіся сацыялістычныя пераўтварэнні, характэрныя для ўсёй Беларусі. На дрэваапрацоўчы камбінат, буйнейшую тады ў рэспубліцы новабудоўлю, ехалі юнакі і дзяўчаты, якія авалодвалі першымі ў жыцці прафесіямі. У цэхах лесакамбіната было шмат маладых рабочых, якія прабавалі свае сілы ў літаратуры. Заводская газета перыядычна выпускала літаратурныя старонкі, на якіх друкавала вершы і апавяданні маладых аўтараў. З Бабруйска, з лесакамбіната пачалі сваю жыццёвую дарогу нашы выдатныя паэты Пімен Панчанка, Сяргей Грахоўскі, Аляксей Зарыцкі, нашы вядомыя крытыкі Янка Казека і Фёдар Куляшоў.

Так, узышоўшы на небасхіл вялікай літаратуры, наш настаўнік быў ужо ў цэлым сузор'і многіх талентаў, адкрытых і па-бацькоўску ўзгадаваных ім.

На старонках газеты «Камуніст» з'явіліся першыя вершы нашага цудоўнага лірыка Міколы Аўрамчыка. З бабруйскай

«Вясны» выправіліся ў вялікую дарогу апавяданні вядомага цяпер раманіста Міколы Лобана, вершы Яўхіма Кохана — вельмі адметныя тады ў маладой беларускай паэзіі.

Міхась Лынькоў быў сапраўднай душой і газеты, і ўсіх творчых сіл, якія гуртаваліся вакол яе. Дзіву даешся, дзе ён браў час і цярпенне, каб на першыя нязграбныя вершы вясковага хлопца пісаць самую грунтоўную рэцэнзію — ліст з падрабязным разборам кожнага радка, а пасля, уласнай рукой прычасаўшы гэтыя радкі, знайсці ім месца ў газеце. Тут, мабыць, памагала і практыка вельмі вопытнага педагога. Надрукаваўшы першы верш, Міхась Ціханавіч гэтым самым ускладаў на маладога паэта і вялікую адказнасць за сваю самастойнасць. Надрукаваўся? Ну дык глядзі ж, браток, старайся!

І мы стараліся. Нездарма да газеты, да яе рэдактара, нашага хроснага бацькі, гарнулася столькі шчырых юнацкіх сэрцаў.

Успамінаючы тыя далёкія гады, гляджу на здымак, якому ўжо болей за паўстагоддзя. Гэта здымак, можна сказаць, першага кангрэсу пісьменнікаў Бабруйшчыны.

Перад уваходам у будынак рэдакцыі «Камуніста» сфатаграфаваліся на памяць літаратурныя дэлегаты з усіх куткоў акругі. У самым цэнтры — Міхась Лынькоў, з правага боку — Алесь Дудар, у самым нізе здымка, крайні злева — Рыгор Лынькоў, з правага боку ў шапцы-стаўбуне — Барыс Мікуліч, а ў другім радзе знізу, трэці злева — Алесь Жаўрук.

Гэтую фатаграфію можна чытаць як цэлую гістарычную карціну: любоў да літаратуры, да роднага слова аб’яднала самых розных людзей і па ўзросту, і па прафесіях, і па вопыту жыцця. Побач з вусатым лесніком Хведарам Бужаном, аўтарам ужо вядомай тады аповесці «Леснікі», сядзяць падлеткі, што паспелі толькі надрукаваць свае першыя паэтычныя радкі і, напэўна, упершыню бачаць аб’ектыў фотаапарата. Нават па вопратцы можна вызначыць характар часу. Для нас гэта былі нялёгкія гады, але ўсе мы жылі высокай праўдай сваіх перакананняў, нясхіснай верай у шчасце, у будучыню свайго народа.

Сямнаццацігадоваму юнаку, верш якога надрукаваны ў газеце, здавалася, што перад ім ужо самі сабой расчыняюцца вароты ў літаратуру, і таму асабіста я ўдзячны Міхасю Ціханавічу за тое, што ён быў першы, хто па-сапраўднаму і сур’ёзна вучыў нас вымяраць карыснасць сваёй творчасці тым, наколькі тое, што мы пішам, важна і патрэбна людзям. Пасля я пераканаўся, што мае літаратурныя спробы — гэта толькі водгук ужо вядомых галасоў, што ў мяне, уласна кажучы, яшчэ мала ёсць чаго

сказаць людзям. Таму не дзіўна, што цэлае дзесяцігоддзе, за якое не з'явілася ў друку амаль ніводнага майго верша, было, бадай, самым плённым у маёй біяграфіі: гэта работа на Бабруйскім лесакамбінаце — слесарам, супрацоўнікам шматтыражкі, карэспандэнтам газеты «Камуніст». Пачаўшы друкавацца ў 1928 годзе, першую кніжку сваіх вершаў я рашыўся выдаць толькі праз пятнаццаць год — у час Вялікай Айчыннай вайны.

Памятаю, як некалі сабраў Міхась Ціханавіч нас, брыгаду пачынаючых песняроў, і разам з намі пайшоў на Бабруйскі станкабудаўнічы завод. Завод не выконваў плана. Вось мы і павінны былі праверыць, на што здольна наша паэзія — дапамагчы рабочым. Але добрых вершаў ні адзін з нас не змог напісаць. Выходзіла вельмі агульна, рытарычна, накшталт маіх радкоў: «Кожны напільнік, кожны варштат — за агрэгат, за агрэгат!» І толькі пасля таго, як мы на заводзе сталі сваімі людзьмі, як кожны дзень і ў кожным цэху пачалі выпускаць баявыя лісткі — «маланкі» з жывымі фактамі, з прыкладамі, з веданнем становішча на заводзе, — тады з'явіліся і вершы. І хоць яны друкаваліся толькі ў цэхавых насценгазетах, аднак былі болей жыццёвыя, чым тыя, з якіх мы пачыналі свой дэбют у паэзіі.

Можа, ад таго, што яго маладосць гэтак цесна звязана з маім юнацтвам, я і цяпер, сам ужо стары і сівы, бачу яго маладым, нястомным, дапытлівым, заўзятым і азартным ва ўсім — і ў працы, і ў творчасці, і ў вольныя хвіліны адпачынку, у якія раскрываліся асаблівасці яго натуры.

Сярод пісьменніцкай брацii Міхась Лынькоў быў не толькі інжынер душ, але і інжынер, і тэхнік у літаральным значэнні слова. Колькі я памятаю, яго заўсёды вабіла жалеза, слясарнае начынне, маторы. Жывучы ў Каралішчавіцкім лесе, пад Мінскам, ён найбольшай асалодай лічыў — асядлаць свой матацыкл і аблятаць усе лясныя дарогі. Не заўсёды гэтыя заліхвацкія аблёты завяршаліся трыумфам. Я быў тайным і міжвольным сведкам, як ён аднаго разу зляцеў з сядла свайго наравістага жалезнага рысака. Па тым, як ён выбіраўся з-пад адхону, як, пакрэктваючы, пацiраў калені і без асаблівага энтузіязму зноў узбіраўся на сядло, я быў упэўнены, што на гэтым, можа, і закончыцца кар'ера гоншчыка. Але дзе там! Яшчэ многа год ён не расставаўся са сваёй «слабасцю», пакуль не захапіўся новай. Перабраўшыся на возера Нарач, ён ужо зрабіўся заядлым маракам, так і не расстаўшыся з маторам.

На чыстых, спакойных, а падчас і бурных хвалях любімай Нарачы дзясяткі і сотні сяброў і гасцей мелі шчаслівыя хвіліны ў

жыцці — павандраваць пад мачтай карабля на чале з вопытным і выпрабаваным капітанам.

Сапраўдным настаўнікам можа быць толькі душэўна чулы чалавек, да якога заўсёды шчыра горнуцца яго вучні. Той, у каго найболей вучняў і сяброў, мабыць, і ёсць самы лепшы настаўнік, настаўнік на ўсё жыццё.

Міхасю Ціханавічу — свайму рэдактару, старэйшаму другу, удзячны многія, і асабліва тыя з нас, чыя жыццёвая і творчая біяграфія звязаны з Бабруйскам, з газетай «Камуніст», з «Вясной» — часопісам і незабыўнай вясной нашага жыцця.

## II. За сталом памяці

Ён вельмі любіў дзяцей. Пра гэта сведчаць яго кнігі. Уся яго творчасць.

Пры сустрэчах з дзецьмі яго вочы заўсёды святлелі шчырай ласкай, поўніліся цяплом душэўнай радасці.

Гэта памятаюць усе, хто бачыў яго ў такія хвіліны. Але мы, яго сябры, бачылі, як некаторыя сустрэчы з дзецьмі каштавалі яму невыказнага душэўнага напружання, калі ён ледзь мог сябе стрымаць, калі цяжкі камяк падкочваўся да горла, калі нямела слова, а на вусны наплываў невымоўны боль. У такія хвіліны ён успамінаў свайго сына. Нярэдка здаралася так, што ў гурце хлопчыкаў нехта адзін-адзіны сваім абліччам, як дзве кроплі вады, быў падобны на незабыўнага Марыка.

Тае восені яго хлопчык пайшоў бы ўжо ў другі клас, але ўлетку на нашу Радзіму зрынулася няшчасце. У першы ж дзень вайны гітлераўцы пачалі бамбіць Мінск. Міхась Ціханавіч пайшоў на фронт. Жонка з сынам падаліся ў вёску, спадзеючыся, што ўратуюцца, перабудуць ліхалецце ў мясцовасці, дзе іх ніхто не ведаў. Але знайшлася чорная душа — здраднік, які выдаў сям'ю пісьменніка. Гестапаўцы прымчаліся ў вёску, схапілі маці. Хлопчыка вясковыя людзі хацелі ўратаваць. Яны стараліся засланіць малога, каб толькі ён нічым не выдаў сябе. Але ўбачыўшы, як фашысты павалаклі маці ў машыну, ён вырваўся з натоўпу і нема закрычаў:

— Мама!

З тае жахлівае часіны ніхто не чуў пра іх. Толькі попел бязвінных пакутнікаў, як попел усіх жудасных ахвяр фашызму, і дагэтуль грукае ў памяць людзей.

Непадалёк ад вёскі Паськавы Горкі на дваццатым кіламетры ад Слуцка па Бабруйскай шашы на велічным сумным помніку паміж ста шасцідзесяці прозвішчаў выбіта і імя Марыка.

Кім бы ён быў? Магчыма, матэматыкам. Таму што, яшчэ не пайшоўшы ў школу, пачаў сваё навучанне не з літар, а з лічбаў. Вельмі любіў лічбы. Як толькі ўбачыць дзе — не супакоіцца, пакуль мама-настаўніца не прачытае ўсе да аднае: слупкі лічбаў, табліцы гучалі для яго, як радкі вершаў. А магчыма, быў бы і паэтам…

І калі на абліччы Міхася Ціханавіча пазнейшых год мы бачылі дачасныя маршчыны, а ў засмучаных вачах адбітак глыбокага болю, мы ведалі — гэта сляды і яго асабістай трагедыі.

У гадавіну з дня смерці пісьменніка быў сонечны дзень залатой восені. Вялікім гуртам родных, блізкіх і сяброў мы сабраліся пакланіцца яго памяці.

За памінальным сталом у яго доме ішла ціхая гаворка, дарагая ўсім нам тымі жыццёвымі падрабязнасцямі, пра якія ведаюць толькі блізкія людзі. Ціха і самотна гучала музыка. Тужліва плылі ў вырай «Жураўлі», яго любімая песня, пра якую ён не забыўся і перад сваім апошнім выраем.

Большасць з нас, яго вучняў, гаворачы пра свайго настаўніка, не маглі абмінуць нават драбніцы, цяпер ужо ў святле памяці, значнай і дарагой.

Міхась Ціханавіч вызначаўся заўсёдным адчуваннем не толькі сваёй адказнасці і абавязку перад грамадствам, але і выключнай душэўнай увагай да кожнага чалавека.

Той, хто ведаў дысцыпліну яго паводзін, строгасць абыходжання з самім сабою, не мог не даражыць знаёмствам і сяброўствам з ім. Многія памятаюць, з якой руплівасцю і густам выбіраў ён знакі сваёй увагі. Яшчэ задоўга да свята або асабіста важнай падзеі ў жыцці таварыша ён набываў самы прыгожы канверт, рэдкую марку, самую лепшую паперу. Хто не помніць яго імклівага, выключнай прыгажосці почырку, мілых, вясёлых, дасціпных і задушэўных прывітанняў, пажаданняў, напісаных яго рукой! Ужо самім святам было атрымаць яго пісьмо, пачуць яго голас.

Не лёгкім быў пачатак яго дарогі. Самыя першыя дзіцячыя ўражанні — гэта ўжо ўсведамленне адказнасці, доўгу і абавязку перад бацькам, перад маці, перад малодшымі ў сям'і, сям'і рамонтнага рабочага, якая ўся мясцілася ў чыгуначнай будцы, што стаяла ў полі, на перагоне паміж Тошчыцай і Рагачовам на 230-й вярсце. Гэтую вярсту і тое, што бацька атрымліваў 12 рублёў 20 капеек, а маці, пераезная вартаўніца, тры рублі на месяц, будучы пісьменнік запомніў на ўсё жыццё.

Запомніў ён і самую будку, пасярод якой стаяла вялізная гліняная печ, запомніў і два маленькія акенцы, з якіх трэба было сачыць — калі пакажацца на даляглядзе паравозны дымок.

За памінальным сталом старэйшая сястра Пелагея Ціханаўна прыгадала, як малы Міхась, убачыўшы цягнік, хуценька надзяваў маміну спадніцу, падвязваў хустку, хапаў сігнальны ражок і сцяжкі. Выбегшы на раз’езд, закрываў абодва шлагбаумы і выстаўляў зялёны сцяжок — шлях вольны!

Цягнікі на 230-й вярсце не толькі не спыняліся, але нават не прыцішалі хады. На поўнай хуткасці машыніст мог убачыць толькі самае важнае і патрэбнае яму — зялёны сігнал. Але малому вартаўніку вельмі ж рупіла, каб выкананне службовага абавязку было па ўсёй форме і каб не пацярпела службовая кар’ера маці, у якое акрамя яго, першынца, былі яшчэ два сыны і дзве дачкі…

Малодшы брат пісьменніка Мікола Ціханавіч расказаў пра адзін незабыўны педагагічны ўрок, які даў яму старэйшы брат на доўгія гады. Гэта было, калі яны, круглыя сіроты, жылі ўжо ў Бабруйску, дзе Лынькоў, рэдактар газеты, быў ім і за маці, і за бацьку.

Вучачыся ў школе, меншы незаўважна паддаўся беспрытульнай вольніцы і недзе з сябрукамі, такімі ж, як сам, трапіў у непажаданую кампанію, што паспытала смак віна. Сястра Аня адразу ж унюхала, што ад брацікa пахне нечым недазволеным, і сказала старэйшаму. Міхась, не выказваючы ніякага абурэння, спакойна пазваў Міколку ў свой пакой.

— Зайшоў я, — расказваў Мікола Ціханавіч, — і здзівіўся: на стале стаяла бутэлька гарэлкі і дзве чаркі. Міхась сеў і сказаў мне — садзіся. — Чуў я, сказаў ён, што ты пачаў выпіваць, давай вып’ем разам. — І наліў чаркі. Запалаў я ўвесь ад сораму, адчуваю, гарыць агнём твар. А Міхась адчыняе шафу: — Вось тут яшчэ ёсць… — і паказвае на віно, белае, чырвонае. — Калі захочаш — пі… На гэтым скончылася наша «бяседа». Памятаю, што наступны раз я выпіў, калі атрымаў дыплом інжынера…

За сталом высветлілася яшчэ адна сямейная акалічнасць, вартая ўвагі, — усе тры браты Лыньковы пісалі вершы.

З вершаў пачынаў Міхась, які падпісваўся — Васілёк, сярэдольшы назваў сябе — Рыгор Суніца. Не адстаў і самы меншы — у школе, потым у тэхнікуме ён быў актыўным паэтам — аўтарам усіх насценгазет, а псеўданім сабе выбраў яшчэ задоўга да славутай братавай аповесці — Міколка-паравоз!

Гэта вельмі цікавая падрабязнасць, бо сам Лынькоў сваім чытачам і ў прыватнасці вучням Радзееўскай школы Буда-Кашалёўскага раёна, якія пыталіся ў аўтара — што ў аповесць увайшло з яго жыцця, адказваў, што твор гэты не аўтабіяграфічны. Відаць, Міхась Ціханавіч быў залішне катэгарычны ў такім сцвярджэнні. Не цяжка перараканацца, што любімая юнымі чытачамі кніжка «Міколка-паравоз», безумоўна, увабрала ў сябе шмат сямейных назіранняў, уражанняў і пачуццяў. Пісалася яна, калі Лынькоў меў ужо значны літаратурны вопыт, і самы меншы ў сям'і Міколка з яго пацешным псеўданімам не мог застацца па-за ўвагай пісьменніка.

На ўшанаванні памяці Міхася Ціханавіча была жанчына, якая прыехала з Данбаса, з Горлаўкі. Вельмі цікавы быў яе расказ пра сваё жыццё. Яна — дачка Бучукаса, які калісьці разам з Лыньковым працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, але спасціг яго нядобры лёс трыццатых гадоў. Адаліна Іванаўна цяпер ужо жанчына ў гадах, мае ўнукаў, жыве памяццю пра свайго бацьку і пра Лынькова, памяццю свайго маленства. Ёй было тады сем-восем год, але яна запомніла друга іх сям'і назаўсёды, бо абавязана, як сцвярджае сама, Міхасю Ціханавічу сваім жыццём. Аднойчы, пераходзячы Савецкую вуліцу, дзяўчынка ледзь не трапіла пад трамвай. Лынькоў у адно імгненне схапіў яе за руку і адцягнуў ад рэек. Гэта яна памятае. Памятае і яшчэ выпадак, дарагі ёй. Дзяўчынка спынілася на Ленінскай вуліцы перад вітрынай магазіна «Таргсін», стаяла, як зачараваная, — там была выстаўлена лялька такога хараства, што дзіця не магло адвесці вачэй. І асабліва падабалася дзяўчынцы плацце, што было на ляльцы. Міхась Ціханавіч убачыў сваю «хрэсніцу» і зразумеў яе захапленне. Але ні валюты, ні золата ў яго не было. Ён узяў за руку дзяўчынку, і сталі яны хадзіць па крамах, пакуль не знайшлі матэрыі, такое, як плацце ў лялькі. І цяпер жанчына памятае тое сваё плацце.

Стаўшы дарослай і жывучы далёка ад Мінска, яна ўвесь час імкнулася ўбачыць горад свайго маленства. Але толькі аднаго чалавека яна ведала, хто мог расказаць ёй пра бацьку, — Лынькова. Яна прыехала ў Мінск, хадзіла па кнігарнях, купіла яго кнігі, даведалася адрас, але зайсці не рашылася. Вярнуўшыся дадому, напісала вялікае пісьмо і праз нейкі час атрымала адказ Софіі Захараўны — яго ўжо не было ў жывых…

Да таго, што я ведаў пра Лынькова, якому сам абавязаны многім, за гэтым сталом далучыліся шмат якія акалічнасці, што характарызуюць яго як чулага псіхолага і педагога.

Сястра Ганна Ціханаўна расказала, як аднаго разу, калі яны, малодшыя, нечым надта ўжо «дапяклі» старэйшаму, ён не сварыўся, не гразіўся, не ўшчуваў, ён толькі спытаўся: чаго вам не хапае? Адзеты, абуты, ёсць у вас кнігі, добра вучыцеся… Чаго вам не хапае? Сястра і цяпер памятае гэтую размову і памятае, што на пытанне брата ім хацелася, ім вельмі карцела сказаць — не хапае папружкі, добрае бацькавай папружкі. На гэтую папружку брат меў усе падставы і правы, але ён ні разу не пакарыстаўся імі.

Уся сям'я Лыньковых — браты Міхась, Рыгор, Мікола, сёстры Пелагея і Ганна — падобныя не толькі абліччам, але і натураю, лынькоўскім характарам. Яны надзвычай тонка і востра адчувалі і адчуваюць гумар, іронію як сродак і спосаб здаровых сямейных узаемаадносін.

Пачуццё гумару, уменне ўбачыць сябе вачыма іншых людзей уласціва ім усім, а старэйшаму брату — асабліва. Гэтая лынькоўская якасць, яго заўсёдны аптымізм, выключная самадысцыпліна памятны ўсім.

Прыкладам уласных паводзін ён вучыў, выхоўваў сям'ю. Ён ведаў — крый бог паддацца настрою, абурэнню, гневу, сарвацца ў голасе, ды, яшчэ, чаго добрага, даць волю рукам!

Толькі аднаго разу ён быў траха не адступіўся ад сваіх прынцыпаў: самы малодшы недзе загуляўся і позна прыйшоў дадому.

— Дзе ты быў? — пытаецца старэйшы. Маўчыць. Яшчэ раз тое ж пытанне — і зноў ніякага адказу. Міхась не адамкнуў дзвярэй. Мінула гадзіна, другая, поўнач ужо, а меншы не падае ніякіх прыкмет жадання вярнуцца або павінавацімся.

Міхась адзеўся і пайшоў шукаць. Добра, што пошукі пачаў паблізу дома. У скрыні, збітай з дошак для нейкіх гаспадарчых патрэб, у свежых драўляных стружках моцным сном праведніка спаў яго дарагі брат. Вядома ж, ён быў згодны, што вінаваты, але заспакоіўся ўжо адным тым, што пакаранне не надта цяжкое — за мілую душу можна праспаць ноч хоць і ў цеснай, няўтульнай скрыні, затое на мяккіх стружках…

Ішла гадзіна за гадзінай, а ўспаміны нашы набывалі ўсё большую цікавасць. І толькі сумная думка не давала спакою — як многа мы трацім, калі пакідаюць нас нашы сябры і настаўнікі.

Будзем жа ўдзячны памяці, якая многаму вучыць нас і тады, калі іх няма на свеце.

Міхась Лынькоў пры ўсіх яго высокіх тытулах, становішчы і перавагах перад намі, да канца сваіх дзён заставаўся самым строгім, самым патрабавальным перш за ўсё да самога сябе.

Мабыць, адсюль яго выключная сціпласць, бескампрамісная сумленнасць.

Што можа быць самым цікавым у кватэры пісьменніка? Вядома, яго рабочы кабінет.

Яго кабінет застаўся такім, якім быў пры жыцці гаспадара. Але кожны, хто мае дакладнае вока і можа здзіўляцца, здзівіцца незвычайнай сціпласці абстаноўкі, якая вызначана характарам таго, хто тут жыў і працаваў. Ні малейшай адзнакі бытавой раскошы, што часта вымагаецца нашымі асабістымі схільнасцямі.

Чатыры шафы занялі адну сцяну. Гэта бібліятэка. Класікі, сучаснікі, кнігі сяброў — толькі неабходнае і любімае. Бадай адзіная рэліквія, адно ўнікальнае выданне, але і тое не навідавоку, а непрыкметна стаіць у кутку, — збор твораў Дастаеўскага, 1882 года.

Творы любімага Гогаля… Любоў да гэтага чарадзея слова пачалася з «Вечароў на хутары ля Дзіканькі», кнігі, падараванай хлопчыку Міхасю за паспяховае заканчэнне пачатковай школы.

Пры цяперашняй модзе на ўласныя кнігасховішчы бібліятэка народнага пісьменніка можа здацца вельмі беднай. Яго кабінет — самы меншы пакой у кватэры. Стол, за якім працаваў Лынькоў, — масавага стандартнага вырабу. За куды болей бліскучымі і эфектнымі сталамі сядзяць літаратурныя канцылярысты. Пры стале — канапка, болей падобная на тапчан. Вось і ўвесь «камфорт» чалавека, які меў, падкрэсліваю, і правы, і магчымасці не адставаць ні ад моды, ні ад стылю, ні ад іншых многіх «спакус» часу.

***1966–1976***

## З «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛАМ»

### I

У кожнага чалавека ёсць свае тайны. І нават такія, што, пражыўшы жыццё, не прызнаешся. Ёсць і ў мяне такая. Калі, бывала, і ўспамінаў пра яе, дык заўсёды суцяшала адно: добра, што ніхто не ведае. І не сказаў бы і вам, маўчаў бы сабе ціхам, тым больш цяпер, напрыканцы шостага дзясятка год, каб не адзін чалавек, пра якога я не магу не ўспомніць. Ён адзіны сведка гэтай тайны. Праз усё жыццё я ўдзячны яму за тое, што пасля, калі мы пазнаёміліся бліжэй, часта сустракаліся, бачыліся, ён

ні разу нават намёкам не выдаў, што памятае тое, пра што я сам рады быў бы забыцца.

Даўно ўжо няма на свеце гэтага чалавека. Але памяць пра яго даражэйшая мне за маю тайну. Дый цяпер і яна ўжо мне самому здаецца не вартай увагі, хоць мучыла ўсё жыццё. Недзе на самым дне душы маёй доўга ляжаў, звіўшыся ў клубочак, мой сорам і, час ад часу прачынаючыся, як нядобры кот, драпаў кіпцюрамі маё сумленне.

«Божа мілы, чаму ты не ўбярог мяне ад гэтага легкадумнага ўчынку?» — думаў тады я, даючы сабе цвёрды зарок ніколі не пераацэньваць сваіх магчымасцяў не паддавацца лёгкім спакусам.

А сутнасць маёй тайны якраз і была ў гэтым: у саманадзейнасці, у імкненні адразу ж заваяваць сталіцу.

Можаце ўсміхацца сабе, а тады я меў сур'ёзны намер — што б там ні было, зрабіцца… артыстам! Тады я быў цвёрда ўпэўнены, што маё жаданне дае мне поўную падставу на такое рашэнне. Гэта быў час, калі кадры рашалі ўсё. Мы рашуча перабудоўвалі свет, ну, а мастацтва — не такая ўжо складаная штука, каб мы не маглі падступіцца да яго. Тым больш — мы, моладзь, камсамольцы. Мы стварылі свой, камсамольскі тэатр «Сіняя блуза». Па ўсіх гарадах, раёнах, заводах і фабрыках, рабочых клубах звінелі баявыя жыццярадасныя галасы, што нам па сіле выканаць любую задачу. З вышыні сваёй перавагі мы строга судзілі ўсё, што было створана да нас, нават класіку. Памятаю, з якім запалам я выступіў супраць оперы «Царская нявеста», якую нам, удзельнікам камсамольскага злёту, паказвала нейкая заезная трупа. Раскрытыкаваў я оперу ў пух і прах не за тое, што яна была кепска, бездапаможна пастаўлена. Пафас майго пратэсту быў скіраваны не супраць правінцыяльнага ўбоства «нявесты», а супраць таго, галоўным чынам, што яна «царская». Як гэта нам, перадавікам, паказваюць нейкіх там цароў, баяраў, ды яшчэ ў царкоўныя званы звоняць! — абураўся я. І не сам сабе, і нават не на гэтым камсамольскім сходзе, а, уявіце маю найхрабрэйшую (каб не сказаць большага) рашучасць, — у друку.

Гэты палымяны пратэст маёй душы быў змешчаны, як самы ўдарны матэрыял, на старонках жлобінскай чыгуначнай газеты «Ударнік», у якой я ў свае дваццаць год адразу займаў некалькі пасад: сакратара, уласнага карэспандэнта, карэктара, экспедытара і самага галоўнага, хто круціў вялізнае, цяжкае кола дапатопнай машыны, што друкавала нашу газету.

Не зважаючы на разнастайнасць абавязкаў на сваёй непасрэднай рабоце, як чалавек, дасведчаны ў мастацтве, што

«разбіраўся» нават у оперы, я быў упаўнаважаны кіравацъ усімі мясцовымі талентамі. Чыгуначны клуб станцыі Жлобін таго часу безупынна кіпеў, як магутны кацёл, у якім гатавалася духоўная спажыва, што здавалася нам самай смачнай. Часта з-за перабояў у падачы электрычнасці адмяняліся кінакарціны, і тады на дзвярах паяўлялася аб'ява, амаль афарызм, якога заўсёды ў гэтых выпадках трымаўся наш адміністратар: «По случаю света кино не будет». Брыгады ж «Сіняй блузы» не спыняліся ні перад якімі цяжкасцямі. Мы раз'язджалі па ўсіх вузлах, станцыях і паўстанках чыгункі. Упэўненыя, што гэта і ёсць самае сапраўднае мастацтва, мы асабліва націскалі на пафас, на сілу слова ў тым сэнсе, што са сцэны ўжо не гаварылі, а крычалі на поўную моц усіх сваіх галасавых рэзерваў. І што самае цікавае: нашы «сіняблузнікі» карысталіся поспехам. На іх быў усюды попыт. Асабліва, калі праграма канцэрта прыстасоўвалася да канкрэтных умоў, будавалася на мясцовым матэрыяле, тады поспех быў найбольшы. «Ай, здорава, ай, прадзёрнулі!» Гэта была вышэйшая ацэнка для нас.

Аднак хутка расла, развівалася і культура народа. Стаў болей патрабавальны глядач і слухач. Ён ужо не задавальняўся рэпертуарам «сіняблузнікаў» з яго высока ўтылітарным зместам і прымітыўнай, бездапаможнай формай. Сам час вымушаў мастацкую самадзейнасць падымацца на больш дасканалы ўзровень агульнай культуры. І з'яўленне так званых ТРАМаў — тэатраў рабочай моладзі — было, безумоўна, новай, важнай і значнай ступенню якаснага росту самадзейнасці, выяўлення людзей сапраўды здольных, артыстаў не па службовай разнарадцы, а па прызванню.

У Мінску быў створаны рэспубліканскі ТРАМ. Асновай яго калектыву стала моладзь, якая ўжо мела сцэнічны вопыт, прайшла прафесійную падрыхтоўку, але рос тэатр і папаўняўся за кошт самадзейных, перыферыйных сіл. Быў абвешчаны нават дадатковы набор. Не перамог спакусы стаць артыстам і я, упэўнены, што ўжо блізка падышоў да мастацтва, а галоўнае — ведаю самыя баявыя яго задачы і якім яно павінна быць.

У вызначаны дзень я прыехаў у сталіцу. І тут лёс мне адпомсціў не толькі за маю самаўпэўненасць, але і за ваяўнічую нецярпімасць нават суседства тэатра з царквою — тэатр рабочай моладзі змяшчаўся ў… касцёле. Само гэта ўжо не абяцала мне ўпэўненасці ў поспеху. Падбадзёрыла і абнадзеіла толькі адна нечаканая акалічнасць: экзамены прымаў чалавек, якога я ведаў па першым у маім жыцці сапраўдным спектаклі. Убачыўшы

адзін раз, я ўжо не мог яго забыцца. Гэта была «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага на сцэне тэатра, які мы цяпер завём Купалаўскім. Не памятаю, з якое нагоды прыязджаў я ў Мінск, бо для мяне, чыгуначніка, гэта было прасцей простага — сесці ў любы цягнік і прыехаць. Не памятаю прычыны прыезду яшчэ, відаць, і таму, што тое ўражанне, якое зрабіў на мяне ўбачаны спектакль, было настолькі новае, нечаканае, што перавярнула дагары нагамі ўсе мае — наіўныя і прымітыўныя — уяўленні аб мастацтве.

Што ж так узрушыла, узварушыла ўсю маю істоту? Без чужой, староннюю падказкі я ўжо і сам не мог адказаць — праўда жыцця, якая стала мастацтвам.

Леапольд Гушка, яго жонка, сын, дачка — такія натуральныя ў сваіх клопатах, у спадзяваннях на шчасце, былі для мяне ўжо не артыстамі, а жыццёва рэальнай сям'ёй, і апынуўся я не ў тэатры, а ў хаце людзей, спазнаваць жыццё якіх — мая пільная душэўная неабходнасць. Добрыя, шчырыя, даверлівыя, але бездапаможныя перад законамі чужога, несправядлівага грамадства, яны церпяць крушэнне ўсіх сваіх надзей — аднае за другой, даходзячы да поўнага адчаю. Трагічнае беспрасвецце і безвыходнасць зусім зламалі б гэтых людзей, каб не адзін агеньчык, які засвяціўся ў іх душы. У Гушкавай хаце паявіўся чалавек, які пэўна і выразна ведаў мэту барацьбы: мясцовы падпольшчык — бальшавік. І што мяне асабліва ўразіла, што ён, каб выказаць свае ідэі, не шукаў адмысловых формаў, не ўкладаў іх у гучныя слоўныя заклікі. Ён гаварыў моваю, вобразамі, самымі блізкімі таму асяроддзю, у якім жыў і з якога выйшаў сам. Не афіцыйны герой у разуменні плакатнага, утылітарнага мастацтва, якое прапагандавалі мы ў сваіх «сінявлузных» спектаклях, а жывы, натуральны, звычайны чалавек, які мае перад сабою ясную мэту, і хоць на галаву стаіць вышэй за ўсіх іншых, але знешне нічым сярод іх не толькі не вылучаецца, а наадварот — яшчэ болей сціплы, даступны, патрэбны і зразумелы кожнаму.

Бальшавіка-падпольшчыка іграў Міхаіл Зораў, на той час ужо вядомы акцёр і рэжысёр.

І цяпер як жывы стаіць у памяці яго Евель Цывін.

Вось ён заходзіць у Гушкаву хату, стуліўшыся, пацірае ад холаду рукі, пацепвае плячыма.

— Халаднавата ў вас у хаце, а каля лесу жывяце…

Усім вядома, чаго прыйшоў ён сюды — знайсці магчымасць устанавіць сувязь з забастовачным камітэтам ткацкай фабрыкі. Але будзённы клопат, якім жывуць людзі, — гэта і яго клопат,

яго натуральная чалавечая цікаўнасць. Гаворачы пра напружанае становішча ў рэвалюцыйным Петраградзе, ён неўпрыкмет падыходзіць да калыскі, што вісіць на круку сярод хаты. Адхіляе ражок дзяружкі. «О!» — усклікае ён у захапленні і прыцмоквае языком. Якраз жа ў гэтую хвіліну яму, бачыце, конча трэба ведаць, як завецца дзіця.

— Віця, — адказвае маладая маці.

— Віця!.. Віцька!.. — паўтарае ён радасна, як бы дазнаўшыся пра самае галоўнае, дзеля чаго сюды і прыйшоў.

Уражанне ад спектакля і асабліва ад тае, новай для мяне, праўды мастацтва, якую адкрываў Зораў, у пэўным сэнсе і мела той вынік, што я ў глыбіні душы, тайна ад усіх сяброў і знаёмых, рашыўся на самаахвярны подзвіг у імя багіні Мельпамены.

Пераступіўшы парог храма, у якім размясцілася яна, выселіўшы адсюль бога вышэйшага рангу, я адразу ж упэўніўся, што пераацаніў свае магчымасці. У тэатр дабіралася зусім нязначная колькасць акцёраў і толькі на пэўнае амплуа. З усяго вялікага гурту самадзейных энтузіястаў, якія таўкліся ў фае, тэатру трэба было выбраць двух-трох, але сапраўды здольных.

Ружовыя мае намеры развеяліся ў адно імгненне. Астаўся толькі адзін маленькі агеньчык спадзявання на цуд — а раптам? А раптам той, хто адкрыў мне новыя таямніцы мастацтва, закіне ў маю душу зярнятка надзеі? У сваім узрушэнні я быў падобны на чалавека, якога точыць невядомая хвароба, і толькі адзіны доктар мае права вызначыць дыягназ і сказаць праўду. Гэтым доктарам быў Міхаіл Зораў…

Дачакаўшыся свае чаргі, я ўвайшоў у пакой. Гэта было вучэбнае памяшканне, з класнымі лаўкамі і столікам, за якім сядзеў ён. Не памятаю, ці былі яшчэ там экзаменатары, ці сядзеў хто за партамі. Як мне здалося, у абсалютна пустой зале быў толькі ён адзін, і нават не ён сам, а яго вочы — глыбокія, праніклівыя, дапытлівыя, але добразычлівыя, з ледзь улоўнай усмешкай нейкай вінаватасці і засмучэння.

Акінуўшы мяне паглядам, ён на хвіліну задумаўся, потым сказаў:

— Вы — стары прафесар. У вас шмат вучняў, удзячных вам. Яны вас любяць, і вы любіце іх. І вось вы ўваходзіце ў сваю аўдыторыю. Вы бачыце позіркі блізкіх вам людзей, сваіх аднадумцаў. Як вы адчуваеце сябе ў такую хвіліну? Пакажыце мне…

Гэта быў так званы эцюд — псіхалагічная задача, ад выканання якой залежаў мой лёс. Ніколі нават і ў сне не сніўшы пра

такі высокі тытул, я разгубіўся. Бачачы гэта, Міхаіл Абрамавіч пачаў дапаўняць, узбагачаць вобраз новымі падрабязнасцямі. Ён сам вывеў мяне з пакоя, каб я, нанава ўваходзячы ў «сваю» аўдыторыю, адчыніў дзверы ўжо не ў якасці выпадковага безнадзейнага просьбіта, а як самы жаданы валадар гарачых сімпатый дзясяткаў сваіх прыхільнікаў, што сядзяць у гэтай зале, а сярод іх і сам Зораў.

Здаецца, разы два ці тры я адчыняў дзверы, здымаў уяўны капялюш, клаў на стол уяўны цяжкі партфель, папраўляў на носе не ўяўныя, а сапраўдныя акуляры, ветліва адказваў на знакі ўвагі сваіх студэнтаў, сярод якіх сядзеў і мой экзаменатар і старанна ківаў галавой, хоць для яго ўжо было канчаткова ясна, што прафесара з мяне не выйдзе.

Што навяло яго на думку паглядзець самадзейнага правінцыяла ў ролі прафесара?

Я тады быў упэўнены, што адзіная выпадковая акалічнасць — тое, што я быў у акулярах, якія, напэўна, надавалі мне асаблівую паважнасць. Праўда, можа быць, што не адны акуляры, а і ўвесь мой выгляд. Як я ўжо сказаў, працаваў я на чыгунцы. У тыя гады чыгунка жыла па законах самай высокай дысцыпліны. Палітаддзелы дарог і аддзяленняў рашалі надзённыя задачы транспартнага ўзбраення краіны. Чыгуначная дзяржава строгім статутам вымярала адказнасць кожнага свайго працаўніка. Была ўведзена форма абмундзіравання з усімі службовымі адзначэннямі.

На мужнае спатканне з Мельпаменай я і з’явіўся, можна сказаць, у поўнай красе свайго казённага мундзіра — цяпер ужо і не памятаю, у якога колеру кіцелі, а тое, што шапка мая была з цёмна-малінавым кантам, — помню добра. І хоць ніякіх іншых адзнак не было на мне, відаць, і гэтага было дастаткова, каб Міхаіл Абрамавіч убачыў у маёй асобе рэальнага кандыдата на высокую прафесарскую пасаду.

Так ці прыблізна так развАжаў я тады, пасля свайго бліскучага правалу, седзячы на самоце ў скверы каля тэатра, у якім я ўпершыню ўбачыў незабыўную «Бацькаўшчыну». Шустрыя гараджане снавалі паўз мяне, як мурашкі. У кожнага быў свой клопат, свая радасць, свой прыпынак, сваё месца ў гэтым агульным мурашніку. І толькі я, нікчэмная казурка, не вельмі ясна ўяўляў сабе, якой радасцю напоўню сваё жыццё, дзе знайду свой прыпынак. Тады я нават не мог падумаць пра такое дзіва, што міне якія чатыры дзясяткі гадоў, і я, сталы мінчанін, буду жыць якраз у доме, з вокан якога мне цяпер відзён і тэатр, і

гэты сквер з яго ўтульным мілым фантанам, вакол якога весела бегаюць мае ўнучкі…

Але гэта я вельмі ж запабег наперад. Тады будучыня мая мне была не зусім яснай. Для ўзнёслага настрою я не меў падстаў яшчэ і таму, што ў кішэні майго важнага кіцеля было… пяць капеек. Чамусьці гэтая сітуацыя з пятаком мне помніцца і цяпер. Ці то далёка было яшчэ да палучкі, і я, выбіраючыся ў дарогу, не рашыўся ні ў кога пазычыць грошай, каб не прагаварыцца, куды еду, ці проста юнацкая безразважнасць, не спыняючыся ні перад якімі перашкодамі, ішла, што называецца, на злом галавы — сказаць цяпер не бяруся, але той гарачы летні дзень здаўся мне такім бясконца доўгім, што я ледзь дачакаўся вечара, калі адыходзіў мой цягнік.

Звычайна, стаўшы пасажырам, кожны душэўна далучаецца да таго шчымліва прыемнага ўзрушэння, якое авалодвае чалавекам у клапатлівай мітусні на вакзале, а потым у вагоне, калі цягнік вось-вось, грукнуўшы буферамі, як бы нехаця кранаецца з месца, і нават ужо ў разгоне, калі за акном пачынаюць мільгаць лясы, палі і шырокія далягляды, ты ўсё яшчэ доўга не можаш супакоіцца ад таго хвалявання, што апанавала цябе перад дарогай.

Усе гэтыя перажыванні, знаёмыя кожнаму, але толькі не чыгуначніку, у кішэні якога ляжыць службовы білет. Супраць усіх хваляванняў, уласцівых пасажырам, у чыгуначніка выпрацоўваецца службовы імунітэт, гарантаваны ўпэўненасцю, што яго месца ніхто не зойме.

Гэта была мая адзіная перавага, якая, аднак, ужо не магла даць мне ўцехі. Месца ў вагоне — не месца ў жыцці. Міхаіл Абрамавіч Зораў хацеў зрабіць мяне прафесарам. Які ён шчодры і добры чалавек! А я, няўдзячны хамут, так падвёў яго…

Калі б я расказваў вам аповесць свайго жыцця, дык пасля гэтага шматкроп'я я напісаў бы «працяг будзе» і пасля перапынку перайшоў бы да яе другой часткі.

## II

«Працяг будзе» — так называўся спектакль, які я неўзабаве ўбачыў у Мінскім ТРАМе. Ён быў пастаўлены Зоравым. І самай важнай для мяне акалічнасцю было тое, што галоўную ролю ў гэтым спектаклі іграў Зораў. І быў ён не хто іншы, а прафесар! Стары, разумны, мудры нямецкі прафесар! Сапраўды, у яго было шмат вучняў, удзячных яму. Яны лавілі кожнае слова свайго настаўніка. Але ў Германіі пачыналіся падзеі, якія бяз-

літасна, з болем, з крывёю шматалі на кавалкі не толькі людскія лёсы, а жыццё ўсяго народа. Правакацыйны падпал рэйхстага, вогнішчы на плошчах, у якіх гарэлі творы лепшых розумаў чалавецтва… Не грэбуючы ніякімі сродкамі, улады дамагаліся самыя нахабныя і прагныя палітычныя авантурысты. Жахлівая расколіна, што разрывала краіну, прайшла цераз самае сэрца старога прафесара Ведэля.

У яго хірургічную клініку, пасля чарговай фашысцкай расправы, дастаўляюць раненых падпольшчыкаў. Але для гітлераўскіх малойчыкаў не існуе ні гуманных, ні маральных уяўленняў. Ашалелыя, яны рвуцца ў палаты. Са сцяны кабінета прафесара зрываюць партрэт яго любімага настаўніка і вешаюць партрэт фюрара. У разгромленай лабараторыі, якой аддадзены многія гады працы, прафесар з адчаем, з болем душэўным падводзіць пад сваім жыццём тую рашучую канчатковую рысу, за якой пачынаецца свядомая барацьба і мужны грамадзянскі выклік карычневым цемрашалам:

— Трыццаць пяць год я прыходзіў сюды і вакол сябе бачыў галовы, у якіх распальваў першую дапытлівую думку… А сёння я ўбачыў вышчараныя звярыныя морды!..

Хіба думаў тады Міхаіл Абрамавіч Зораў, вымаўляючы гэтыя гнеўныя словы, што так хутка і так зблізку сам убачыць гэтыя «вышчараныя звярыныя морды»?

Жахлівая вестка застала яго ў Маскве. Мастацкі кіраўнік маладога тэатра, ён быў на Усесаюзнай творчай нарадзе. З вялікімі цяжкасцямі ён дамагаецца вярнуцца назад, дадому, у Мінск. Ён упэўнены, што на агнявым рубяжы барацьбы з фашызмам спатрэбіцца і зброя палымянага мастацкага слова. Зораў паведамляе ЦК камсамола аб сваім намеры рыхтаваць тэатр для паездкі на фронт. «Рэпертуар у нас ёсць, — казаў ён, — “Як гартавалася сталь”, “Працяг будзе”. Трэба падумаць аб пастаноўцы “Авадня”». Роля Авадня была асабліва дарагая для яго. З яе Зораў пачынаў свой шлях у тэатры, будучы яшчэ зусім юнаком.

Падзеі першых ваенных дзён у Мінску развіваліся з такой трагічнай хуткасцю, што тэатру нават не ўдалося сабрацца: многія акцёры пайшлі ў армію, некаторыя не паспелі выбрацца з горада.

Трагічны лёс напаткаў і кіраўніка тэатра. Фашысцкія захопнікі і іх паслугачы ведалі пра значэнне і месца Зорава ў беларускім мастацтве. Яны былі б рады скарыстаць яго аўтарытэт у правакацыйных намерах, але гэты з выгляду ціхі і нерашучы

чалавек астаўся да канца верны тым нясхісным грамадзянскім перакананням, якіх ён трымаўся заўсёды ў жыцці.

Міхаіл Абрамавіч, як і сотні тысяч людскіх ахвяр, апынуўся за калючым дротам мінскага гета. Цяпер ужо мала хто мог пазнаць у ім таго Зорава, якога мінчане яшчэ зусім нядаўна бачылі на сцэне то суровым, патрабавальным упаўнаважаным Рэўваенсавета ў «Мяцяжы», то летуценным рамантыкам у «Платоне Крэчаце», то захапляліся шэдэўрам рэжысёрскай дасканаласці — спектаклем «Апошнія», пастаўленым разам з І. Раеўскім.

За ганебнай фашысцкай агароджай, у засценку жудасных здзекаў з чалавечай годнасці Зораў выконваў сваю апошнюю ролю. На апошнія ўласныя сродкі, на ўбогія ахвяраванні сяброў па няшчасцю ён стварыў у гета сталовую. Абняможаныя, знясіленыя нявольнікі — старыя і дзеці — з удзячнасцю і надзеяй гарнуліся да гэтага добрага і чулага душой чалавека.

Цёмнай восеньскай ноччу другога года акупацыі насупраць халупы, у якой ён жыў, спынілася машына. Дастаткова было глянуць у акно, каб зразумець, што прыйшла тая хвіліна, якое не адкладзеш, не затрымаеш. Галоўнае — сустрэць яе з годнасцю, на якую здольна твая грамадзянская і чалавечая мужнасць.

Выдатны мастак, які ў жыцці, у абыходжанні з людзьмі ніколі не падкрэсліваў свайго таленту, на гэты раз па-рэжысёрску настолькі дакладна, а па-акцёрску настолькі дасканала і на самай высокай ноце ўсяго хараства сваёй душы — так завяршыў апошні эцюд свайго жыцця, што смерць яго зрабілася легендай.

Нямногія сведкі яго апошняй хвіліны схільны былі думаць, што розум яго памуціўся. Лічыць так, ведаючы Зорава, яго характар, глыбока затоеную эмацыянальную сілу гэтай натуры, было б знявагай яго памяці.

Ён добра ведаў, што ні аднае ночы не спалі знявераныя, знямоžаныя адчаем і роспаччу вуліцы і завулкі Мінска. Машыны гойсалі адна за адной — цугам, калонамі. Пачыналася масавае, пагалоўнае вынішчэнне. І ніякая цемра не магла схаваць ад людскога вока аніводнага фашысцкага злачынства. З начных акон, з гарышчаў хат, з падземных скляпенняў, з руін, з падваротняў, з каменных ям дзясяткі, сотні вачэй бачылі, як нямецкая машына спынілася каля хаты Зорава і як з асветленых фарамі весніц выйшаў ён — спакойны, прысутулены, пацепваючы плячыма і хукаючы на замёрзлыя далоні — якраз як бальшавік-падпольшчык Цывін: «Халаднавата ў вас…».

Усёй істотай, кожным сваім рухам ён адчуваў, што ў гэтую золкую восеньскую ноч на яго глядзіць жудасная затоеная аў-

дыторыя, глядзіць з невыказным страхам, а можа быць — і з верай, са спадзяваннем.

Каго ён успомніў у гэтае імгненне? Любімага ім Авадня ці прафесара Ведэля? А можа быць, усіх разам, усе свае ролі, сыграныя за кароткае жыццё, сыграныя страсна, з глыбокім перакананнем розуму і сэрца…

Роўна, не прыпыняючы хады, ён ступіў на прыступку машыны, павярнуўся тварам да святла і на ўсю сілу, якая яшчэ ў яго аставалася, — з болем, з пакутай, але і з надзеяй, вырваў са сваіх грудзей словы, якія потым далёка разышліся па затоеных цёмных кварталах пакутнага горада. Гэта былі словы «Інтэрнацыянала».

Ударам рукі ён адкінуў дзверцы і пераступіў парог душагубкі.

Гэта быў выклік у твар ворагу — выклік, поўны гневу, нянавісці і пагарды. Так паміралі яго героі. Так памёр ён сам.

*1971*

## ТАВАРЫШ КАМІСАР

У верасні 1939 года, прыехаўшы з Адэсы, з лячэння свайго раматуса, я хадзіў, апіраючыся на кіёк. Боль, асабліва ў каленях, якія рыпелі і скрыпелі ў суставах, атручваў мне ўвесь настрой. Аднак наспявалі такія падзеі, якія былі мацнейшыя за ўсякія асабістыя настроі. Немцы ішлі па Польшчы, набліжаліся да нашых граніц. Хоць і было між намі пагадненне, але глыбокая трывога і неспакой адчуваліся ў нашым жыцці. І той, хто жыў у той час у Мінску, вельмі блізкім да мяжы варожага свету, не мог быць спакойны. Пачалася мабілізацыя запаснікоў. Атрымаў позву і я. Мне належала неадкладна з’явіцца ў Чырвонае Урочышча, у размяшчэнне 84-га асобнага аўтабатальёна 2-й стралковай дывізіі. Мая жонка і двухгадовы сын жылі тады ў Доме творчасці ў Пухавічах на становішчы бескватэрных мінчан, паколькі, акрамя пакутнай хваробы суставаў рук і ног, я яшчэ не паспеў ачуняць і ад іншай глыбокай траўмы — два гады таму назад мяне выключылі з камсамола, вытурылі з работы, і толькі дзякуючы падтрымцы і дапамозе братоў Лыньковых — Міхася і Рыгора — я са сваёй сям’ёй змог сточваць канцы з канцамі. Рыгор на сваё імя ўзяў у выдавецтве для мяне спешную работу. Дзень і ноч, не разгінаючы спіны, я перакладаў творы А. П. Чэхава. Меўся выйсці яго вялікі аднатомнік. Перакладзены былі яго аповесці і п’есы, але выданню кнігі перашкодзіла вайна. З пакойчыка, у

якім мы туліліся на прыватнай кватэры, гаспадыня, ведаючы, у якім становішчы я апынуўся, пачала гнаць «ненадзейнага» жыльца. Нават падала ў суд, які і вынес рашэнне — выселіць. Міхась Ціханавіч Лынькоў, тады старшыня Саюза пісьменнікаў, не пакінуў мяне ў бядзе. Ён папрасіў адміністрацыю літфонда даць магчымасць маёй сям'і прытуліцца ў пухавіцкім доме. Жонка з сынам пасяліліся ў хатцы вартаўніка саду, а я паехаў лячыцца. І вось, вярнуўшыся, атрымліваю позву ў часць, да якое быў прыпісаны.

Як дабрацца з Мінска да Чырвонага Урочышча? Цяпер кожны мінчанін пасмяяўся б з такога пытання. Тады ж гэта было не так проста. Пісьменнікаў, механізаваных уласнай транспартнай маёмасцю, як цяпер, не было. Самым буйным аўтамагнатам быў Паслядовіч — пісьменнік, паляўнічы, нястомны вандроўнік. Са сваім матацыклам ён якраз і выручыў мяне.

— Сядай, — сказаў ён, — як бачыш дамчу.

І, праўда, мінут праз дваццаць-трыццаць я ўжо быў на месцы, а Макар Трахімавіч памчаўся на сваім жалезным рысаку далей па шашы, у Пухавічы.

Паблукаўшы са сваім кійком па сасновым бары, я нарэшце знайшоў аўтабат, натрапіўшы якраз на самога камісара часці. Бо, ніколі не служыўшы, а ў часе прызыву зусім збракаваны па вачах, я быў настолькі цывільны, што для любога старшыны выглядаў бы ў сваёй бездапаможнасці смяшней за Швейка.

Камісар быў кадравы ваенны, ваенны па прызванню, але ў ім я адразу адчуў душэўную прывабнасць. За ўсёй яго вайсковай дакладнасцю, нешматслоўнасцю і патрабавальнасцю высвечвалі ў яго жвавых, пад чорнымі брывамі, вачах агеньчыкі цікаўнасці да незнаёмага чалавека: а хто ты такі, на што здатны?

У гэтым сэнсе я і пачуў пытанні камісара.

Усё расказаў я яму пра сябе: працаваў у газеце, быў выключаны з камсамола, хоць праз дзевяць месяцаў адноўлены, але маю вымову за прытупленне пільнасці. Камісар уважліва выслухаў мяне. Нейкі час маўчаў. І зусім нечакана так вызначыў мой ваенны лёс:

— Заўтра збяром камсамольскі сход — буду рэкамендаваць цябе сакратаром бюро ВЛКСМ.

Пры ўсёй сваёй недарэчнай цывільнасці я, ведаючы, што ваенныя загады не падлягаюць ніякім пярэчанням, усё ж паспрабаваў прамармытаць штосьці аб сваёй негатоўнасці, але, мабыць, настолькі бездапаможнымі доказамі, што камісар не звярнуў ніякай увагі.

— Усё, — сказаў ён, — кідай палку, ідзі атрымай абмундзіраванне.

Але атрымаць яго было не так проста. У гэтым я неўзабаве ўпэўніўся. Перад тым, як скінуць сваё і надзець казённае, трэба было прайсці некалькі папярэдніх абавязковых выпрабаванняў.

Пад соснамі два вясёлыя цырульнікі з усёй увішнасцю начыста абчыкрыжвалі пышныя шавялюры, заліхвацкія чубы і выгладжаныя прычоскі маладых і пажылых запаснікоў, якія бог яго ведае на які час развіталіся з прывычным парадкам жыцця. Стаў у чаргу і я. Хоць сама працэдура развітання з шавялюрай была імгненная, аднак чарга набліжалася да сваёй мэты без асаблівага энтузіязму. Куды з большай ахвотай пасля гэтага ўсе мы, нагала абстрыжаныя пад нулёўку, рынуліся ў лазню.

Мыючыся, чалавек заўсёды адчувае палёгку, у якім бы смутным настроі ён ні быў. Хоць і мінула з таго часу болей за трыццаць гадоў, і многае, найбольш важнае, пазабывалася, я чамусьці памятаю гэтую хвіліну, хвіліну нейкага вельмі важнага для мяне душэўнага прасвятлення. Упершыню, мабыць, я гэтак выразна адчуў, што, становячыся салдатам, чалавек бярэ на сябе самы найвышэйшы абавязак перад жыццём, перад людзьмі, перад сваімі роднымі і блізкімі — гатоўнасць, калі спатрэбіцца, памерці — чыстым. Ніколі з такой дапытлівай цікаўнасцю я не разглядаў самога сябе, з асаблівай стараннасцю намыльваючыся грубым, чорным мылам і тручыся жорсткім рагожавым вехцем…

У лазні будучы салдат якраз пераступае тую мяжу, якая рашуча і канчаткова дзеліць напал яго жыццё: на тое, ужо вядомае, пражытае, і тое невядомае, што нясе столькі незразумелай трывогі.

Адчуванне ўзрушанасці і невядомасці, якое жыло ў кожным з нас, раптоўна адарваных ад звыклага асяроддзя, ад сваіх клопатаў, поўніла нас. Ніхто не ведаў тады, што чакае нас, якія, незалежныя ад нас, падзеі могуць адбыцца заўтра, але што яны павінны адбыцца, не могуць не адбыцца — адчуваў кожны. Іначай бы мы не скідалі з сябе цывільнага адзення, не мыліся б у гэтай пратручанай карболкай лазні і не надзявалі б на сябе даволі выцертыя, нямала ўжо ношаныя да нас гімнасцёркі…

З адзяваннем яшчэ паўбяды. Але вось з абуваннем — поўная бяда, асабліва для такога служакі, як я. Аднымі цяжкімі салдацкімі чаравікамі не абыдзешся, не ўкруціўшы лыткі — трывала і надзейна — абмоткамі. Рызыкуючы астацца ў поўнай адзіноце, я асмеліўся нарэшце папрасіць больш вопытнага за мяне запасніка:

— Пакажыце, калі ласка, як гэта робіцца…

Пажылы дзядзька не толькі паказаў, а ўзяў доўгія, пруткія брызентавыя спавівачы, скруціў імі мае ногі так, што я адчуў сябе ў іх як у драўляных калодках.

Пры поўнай ваеннай выправе заставалася апошняе — ваенізаваць галаву.

На жаль, не такая гэта лёгкая штука, як думалася мне: надзеў пілотку — і гатоў. Дзякуй яму, і тут навучыў мяне больш вопытны салдат: «Надзень, але не ніжэй як на два пальцы ад правага брыва. Толькі цяпер у цябе будзе права і абавязак — казыраць. Але гэта такое мастацтва, што адразу ім не авалодаеш».

І ўсё ж я рызыкнуў паспрабаваць. Заявіўшыся ў поўнай ваеннай акрасе да свайго камісара, я махнуў рукою над правым вухам і далажыў:

— Явіўся па вашаму загаду.

Камісар нейкую хвіліну глядзеў на мяне моўчкі, потым нечакана ад усяе свае шчырай душы зайшоўся залівістым рогатам.

— Вось што, — сказаў ён, нарагатаўшыся, — пойдзеш на склад і скажаш, каб выдалі табе боты, а заадно — і гімнасцёрку.

І, калі я ўжо меўся павярнуцца, дадаў:

— І фуражку. Паспяшыў ты, браток. Харошая была шавялюра. Шкада…

Вядома, шкада. Яшчэ як! Каб жа я ведаў, што нават такі вайсковы невук, як я, калі яму даверылі пасаду камсамольскага сакратара, ужо не проста салдат, а непасрэдны памочнік самога камісара.

Па валасах не плачуць толькі пры адной вядомай непрыемнай прычыне. «Дык чаго ж асабліва перажываць?» — хутка ўцешыў я сам сябе і пабег абмундзіроўвацца нанава.

Напружаная невядомасць наша хутка скончылася, калі быў атрыманы загад — ідзём вызваляць Заходнюю Беларусь. Радасць уз’яднання была блізкая сэрцу кожнага. Першы гарадок па той бок мяжы, у які ўвайшла наша часць, быў Ракаў. Гэта было познім надвячоркам. Памятаю, якое ўзрушэнне поўніла мае пачуцці. Вячэрні гарадок кіпеў, як мурашнік: кожнага чырвонаармейца абступалі дзясяткі людзей — цікаўных, дапытлівых, якім усё хацелася ведаць, пра ўсё дазнацца. У большасці сваёй гэта было яўрэйскае мястэчка. І мяне асабліва ўразіла патрыярхальнасць побыту. Смутна прыгадвалася тое, што даўно, яшчэ ў маленстве, бачыў у яўрэйскіх сем’ях, якія жылі ў нашых вёсках. Манеры, звычаі, традыцыі, кансерватыўнасць у поглядах былі як сустрэча

з мінулым, з жывымі тыпамі часоў Шолама-Алейхема: бароды, пэйсы, лапсардакі, ярмолкі…

Ведаючы, што адзін наш пісьменнік, які жыве ў Мінску, родам адсюль, я перадаў ад яго прывітанне землякам.

Божа, што тут пачалося! Заварушыўся, затрапятаўся ўвесь гарадок. Пачаліся росшукі радні і сваяцтва: «Прывет ад Фінкеля, ад Уры Фінкеля!»

Хутка ў суправаджэнні магутнага родавага гурту я ўжо аглядаў доўгі, як скарбовая абора, дом, у якім нарадзіўся і вырас пісьменнік, мой добры знаёмы, які не раз расказваў мне пра сваё мястэчка і пра гэты дом…

Назаўтра раніцай мы ўжо былі на гродзенскіх узвышшах. Гэта быў, бадай, адзіны горад, радасць сустрэчы з якім была засмучана нечаканасцю злога, яраснага супраціўлення. На што разлічвалі, на што спадзяваліся заядлыя пілсудчыкі, рынуўшыся на скрут галавы супраць Чырвонай Арміі на подступах да горада? Хутчэй за ўсё — на бяздумную авантурную фанабэрыю, якая не абышлася без ахвяр. Без правакацый не абышлося і ў самім горадзе. З самай высокай касцельнай званіцы раптам адна за другой пачуліся кулямётныя чэргі па нашых падраздзяленнях, якія пераходзілі мост цераз Нёман.

З Гродна наша часць узяла кірунак на Аўгустоўскія лясы, у горад Сувалкі. Гэта быў той канечны пункт, тая мяжа, на якой твар у твар сышліся мы з нашым, неўзабаве самым зацятым ворагам — нямецкім фашызмам. Гітлераўцы, не палічыўшыся з папярэдняй дамоўленасцю аб дэмаркацыйнай лініі, занялі Сувалкі і пасля двух дзён гаспадарання, вымушаныя прасіць прабачэння, вярнулі іх. Якраз нам прыйшлося прымаць Сувалкі. Нельга было не заўважыць адразу ж, як зайздросныя, ненаедныя, няўпынныя ў сваёй прагавітасці захопнікі за нейкія двое сутак паспелі спустошыць горад настолькі, што з казённых устаноў і прыватных кватэр павыломвалі, павыдзіралі ўсе завесы, замкі, ручкі з дзвярэй, а з акон — крукі.

Гэта былі першыя ўражанні ад першай сустрэчы з той нечуванай і нябачнай навалай, якая ўжо была за некалькі крокаў ад нас…

Пачаўшы расказваць пра свайго камісара, я вымушаны быў трохі адхіліцца ўбок, каб даць уяўленне аб часе і абставінах, калі і мяне, неабцёртага, неабстралянага, смешнага ў сваёй бездапаможнасці, мог бы напаткаць лёс яшчэ аднаго, але зусім не бравага ваякі, каб не жыццёвая вывучка, трапнасць вока і душэўная чуйнасць гэтага чалавека.

Сын украінскага селяніна-бедняка, ён змалку зазнаў і парабкоўства, і смак пастухоўскага хлеба. У Першую сусветную вайну яго родная вёска апынулася на лініі фронту. За аселіцай пачыналіся акопы. Не раз падлетак бачыў, як кубанскія казакі кідаліся з шаблямі ў атаку на аўстрыйскіх коннікаў. Можа, тады і нарадзілася ў яго запаветная мара — стаць кавалерыстам. З тае пары палюбіў ён салдацкі побыт, зброю, ад салдат навучыўся першай грамаце. У сямнаццаць год ён — баец атрада супраць бандытаў, у васямнаццаць — кіраўнік камітэта беднаты, потым сакратар райкама камсамола, у дваццаць два гады — старшыня райвыканкама. Неўзабаве спаўняецца і яго даўняя мара — ён становіцца кавалерыстам праслаўленай Першай Коннай арміі — у будзёнаўцы з чырвонай зоркай, доўгім, да пят, шынялі, з шабляй пры баку і пры дзынкіх сярэбраных шпорах.

Пра гэтыя факты камісаравай біяграфіі я даведаўся значна пазней. Цяпер жа для мяне ён быў адзіны аўтарытэт, начальнік і сябра, якому я даверыў свой лёс.

Наш камісар не выпускаў мяне з-пад свае ўвагі. Ён выбіраў такія даручэнні, якія б вучылі мяне арыентавацца ў абставінах, адчуць большую ўпэўненасць у сваіх сілах і адказнасць за сябе. Пачынаў ён з самага простага:

— Падрыхтуй мне спіс машын батальёна, іх нумары і маркі, прозвішчы вадзіцеляў.

І хоць на першы погляд заданне магло здацца лёгкім, для мяне яно было цэлым выпрабаваннем. Як я пазней здагадаўся, камісар добра ведаў — і колькі ў яго машын, і якіх марак, і хто за кожную машыну адказвае. Але нічога гэтага не ведаў я, яго памочнік. Так я знаёміўся з шафёрамі, з механікамі, з машынамі, ад якіх у той час быў вельмі далёка, хоць і быў прыпісаны да гэтай часці па спецыяльнасці слесара.

Другое заданне камісара было ўжо разлічана на псіхалагічную ўстойлівасць.

Цёмнай вераснёўскай ноччу, калі наша часць ішла векавечнымі Аўгустоўскімі лясамі, калона машын расцягнулася на многія кіламетры. Некаторыя вадзіцелі, кепска арыентуючыся ў лясных нетрах, не толькі адсталі, але і збіліся з тропу. Трэба было за лічаныя дзве-тры гадзіны сабраць увесь батальён, узяць на ўлік тэхніку, каб на дасвецці быць у поўнай гатоўнасці.

Мы з камісарам былі ў галаве калоны. І тут яму прыйшла думка — высадзіць мяне на лясной дарозе. Мая задача была ў тым, каб спыняць кожную машыну, даваць ёй кірунак да месца збору і чакаць наступнай. Машыны адна пасля другой ішлі з

такімі інтэрваламі, якія мне здаваліся цэлай вечнасцю. Стаю адзін пасярод пушчы ў непрагляднай начной цемры, аднастайна і паныла гудуць сосны, і сам сабе здаюся я такі бездапаможны, што кожны далёкі высвет фараў і ледзь чутны гул матора прымаю як самых дарагіх веснікаў жаданай сустрэчы. Не ведаю, колькі часу выстаяў я на сваім пасту — гадзінніка ў мяне не было. Затое з якою радаснай палёгкай убачыў я святло фар машыны, што ішла з супрацьлеглага боку. Гэта была камісарава «эмка». Цяпер ужо мы з ім замыкалі ўсю калону, строга пільнуючыся, каб не вельмі расцягваўся яе хвост.

Нашаю базаю стаў Асавец — крэпасць яшчэ царскіх часоў, якая ў 1915 годзе трымала асаду немцаў цэлага паўгода і была пакінута толькі ў сувязі з агульным адыходам.

У Асаўцы пачало асталёўвацца будзённае жыццё ўсёй нашай дывізіі, са сваімі клопатамі кожнага яе падраздзялення. Наш аўтабатальён узяўся за ўпарадкаванне тэхнікі. У ротах пачалася палітыка-выхаваўчая работа. Цяпер мы з камісарам былі ўжо ў самым блізкім супрацоўніцтве, а ў вольныя хвіліны заводзілі гаворку і пра літаратуру, мастацтва, і я, з нечаканым здзіўленнем для сябе, убачыў, што мой субяседнік мае добры ўласны густ і куды больш дасведчаны нават у паэзіі, на якую, як мне здавалася, я меў большае права хоць бы таму, што пісаў вершы. І не толькі пісаў, а і друкаваў. Якраз у тыя дні ў камсамольскай газеце быў змешчаны мой верш, які з'явіўся пад уражаннем падзей нашага вызваленчага паходу. Верш — даволі ўзнёслы ў словах, але не глыбокі ў пачуццях, якія былі запазычаны з вельмі пашыраных у той час паэтычных стандартаў, а не народжаны маімі, пражытымі асабіста, уражаннямі. І што было асабліва недаравальнай саманадзейнасцю і пераацэнкай значнасці і важнасці свайго верша, дык гэта тое, што прысвяціў я яго свайму камісару. Дзякуй богу, што верш не трапіўся яму на вочы, гэта ў нейкай меры суцяшае маё сумленне і па сённяшні дзень. Але ўсе тыя гадзіны доўгіх восеньскіх вечароў, калі мы ўспаміналі прачытаныя кнігі, я з асаблівай увагай прыслухоўваўся да яго ацэнак, назіранняў і вывадаў. Часта ў нашу размову падключаўся і камбат, уся літаратурная эрудыцыя якога вычэрпвалася адным-адзіным творам, які ён запомніў, мабыць, яшчэ з маленства.

— А «Вія» вы чыталі? — пытаўся ён у нас, і пакольку мы не першы раз чулі гэтае пытанне, то заўсёды рабілі выгляд, што не толькі не чыталі, а нават сумняваемся, ці ёсць такі твор. Наш камбат высмейваў нас як людзей, не вартых сур'ёзнай увагі. Гэта быў самы важкі козыр перавагі нашага камбата, якая яму належала па яго пасадзе.

Сяброўству нашаму не суджана было быць доўгім. Камісару даручылі другую часць, якая стаяла непасрэдна на граніцы.

Развітанне было сумнае для мяне. З таго дня я ўжо болей не сустракаў і не бачыў свайго камісара, нічога не ведаў пра яго лёс і тады, калі раптоўная вайна застала мяне з сям'ёй у Беластоку і калі ў тую ж першую ноч на нас пасыпаліся бомбы з фашысцкіх самалётаў, нічога не даведаўся ў Мінску, ахопленым полымем і дымам пажараў, і ў Гомелі, дзе я далучыўся да рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», і калі яшчэ цэлы месяц Чырвоная Армія трымала на Дняпры свой цяжкі агнявы рубеж. Толькі летам 1943 года, ужо ў Маскве, прыйшло мне ад яго прывітанне і вестка, як мой камісар мужна і самаахвярна прыняў няроўны крывавы паядынак з тымі прагнымі, ненажэрнымі драпежнікамі, з якімі так нядаўна, у Сувалках, мы сутыкнуліся ўпершыню, а цяпер сышліся твар у твар на зацятае выпрабаванне не толькі зброі, але і лёсу ўсяго свайго жыцця…

А чацвёртай гадзіне ночы першыя ж фашысцкія залпы абрушыліся на яго часць. З ім была яго сям'я — жонка і трое дзяцей. З няспыннымі баямі, трацячы апошнія сілы, падраздзяленне, аднак, цэлыя суткі трымала свой участак граніцы і толькі наступнай ноччу адышло ў крэпасць Асавец. У Граеве, у Рудзе былі ўжо немцы. Зноў шэра-зялёныя мундзіры, зноў нахабныя, самаўпэўненыя знаёмыя морды!.. Тыдзень трымалася крэпасць, астаўшыся ў варожым акружэнні. Адыходзячы на ўсход, яго падраздзяленне штодня адбівала да пятнаццаці атак. Пад Беластокам яго, ледзь жывога, выцягнулі з танка, у які трапіў фашысцкі снарад. Быў ужо заняты Мінск. Невялікая група мужных пагранічнікаў спынілася за Ваўкавыскам у прыдарожным лесе на свой першы прывал. Але адпачыць не прыйшлося. Пачаўся бой за дарогу. У іх былі тры браневікі і адзін танк. Зенітчыкі, апусціўшы ствалы гармат, білі па нямецкіх танках, кулямётчыкі — па матацыклістах. Астаўшыся з васямнаццаццю байцамі, мой камісар 18 ліпеня ў раёне Зембіна пад Барысавам пераходзіць на партызанскую барацьбу. Крупкі, Халопенічы, Чашнікі, Сянно, шаша Віцебск–Орша, Лукомскае возера, вёска Гурэц, якая неўзабаве дала назву яго атраду, — вось знаёмыя і дарагія яму мясціны, па якіх пралеглі сцежкі яго мужных сяброў. Восенню яго атрад уваходзіць у партызанскае злучэнне Баці, а сам ён становіцца намеснікам камандзіра злучэння: наладжвае сувязь з падпольшчыкамі Оршы, сустракаецца з Канстанцінам Заслонавым. Вясной 1942 года яго падрыўнікі не давалі акупантам ні хвіліны спакою на ўсіх шляхах і дарогах паміж

Оршай і Барысавам. Адсюль яго баявыя групы пераходзяць на Палессе, беручы пад свой кантроль чыгуначныя вузлы і дарогі: Баранавічы, Брэст, Лунінец, Калінкавічы, Налібоцкая пушча, Івянец, Пінск. Адгэтуль ён, камандзір разведвальна-дыверсійных атрадаў, накіроўваецца на паўднёвы захад — Украіну, Польшчу, Чэхаславакію. «Лясны воўк», «Дзядзька Пеця» — вось грозныя псеўданімы яго партызанскай мужнасці. «Яго падрыўныя пяцёркі, — піша Грыгорый Мацвеевіч Лінькоў у кнізе «Вайна ў тыле ворага», — ноччу выходзілі на чыгуначныя магістралі адразу на трох-чатырох перагонах, і за некалькі гадзін ляцелі пад адхон два-тры, а то і чатыры эшалоны праціўніка». У юбілейным выданні «50 год Узброеных Сіл СССР» яго імя стаіць побач з імем Рыхарда Зорге.

Мой камісар дастойна вытрымаў нечуваны паядынак з ворагам, ён стаў Героем Савецкага Саюза. Пакутная была яго дарога з франтавых пазіцый у партызанскія лясы, але яна ж прывяла яго і на новую агнявую і самую пачэсную пазіцыю — любові да чалавека, дзе ваююць не куляй і штыком, а словам.

Пасля вайны адна за другой пачалі паяўляцца яго кнігі. Гэта была патрэба яго душы, яго сумлення.

Новы клопат цяпер займае яго, ужо далёка немаладога чалавека, які ніколі не ведаў ні спакою, ні спачыну. Член Саюза пісьменнікаў, член Савецкага камітэта ветэранаў вайны, ён жыве ў горадзе Горкім, піша кнігі, знаходзіць новыя, раней невядомыя, імёны і подзвігі герояў, сустракаецца са сваімі баявымі сябрамі, з моладдзю, з дзецьмі.

У літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну яго кнігі занялі сваё пачэснае месца. У многіх выданнях разышліся два тамы яго ўспамінаў: «Па той бок фронту», зборнікі апавяданняў «Партызанскі кур'ер» і «Хлопчык у клятчастай кепцы»…

Калі адбываўся III з'езд пісьменнікаў РСФСР, на вялікай фатаграфіі дэлегатаў я ўбачыў і яго. Вядома, наўрад ці пазнаў бы, каб не подпіс: Антон Брынскі.

Мой камісар стаяў не ў першым радзе — сціплы, прысутулены, у акулярах. І толькі нешта ледзь улоўнае, вельмі знаёмае і дарагое як бы перасмыкнулася ў яго вуснах…

Яго кнігі, як і яго самога, любяць сотні і тысячы людзей, для якіх суровае слова — камісар набыло свой поўны сэнс у спалучэнні з другім цудоўным словам — таварыш.

*1971*

## НАВЕЧНА ПРАПІСАНЫ Ў ЖЫЦЦІ

### І. Запавет

Тайную яго просьбу, якую даверыў ён мне ў цяжкую хвіліну, калі жыццё яго вісела на валаску, я не споўніў. Неўзабаве гэтая просьба сама па сабе страціла сэнс: ён перамог смерць, вярнуўся да жыцця.

Асмельваюся цяпер сказаць, аб чым прасіў мяне дарагі і блізкі чалавек, толькі таму, што мінула многа год, як няма яго на свеце, але ўсе мы, хто знаў яго, гаворым аб ім, як аб жывым, і будзем гаварыць, пакуль жывыя.

Усё было прыгожае ў ім — і яго душа, поўная чалавечнасці і тонкай чуласці, і яго аблічча з высокім ілбом, з вачыма — вясёлымі і разумнымі, праніклівымі і назіральнымі, з мяккімі, па-дзіцячы прыпухлымі губамі, у якіх заўсёды стрымлівалася добрая ўсмешка, і з ямачкай у круглым падбароддзі. Густыя светла-каштанавыя валасы, якіх ён ніколі не песціў і не пялегаваў, кучаравіліся самі сабой, адцяняючы поўны адкрыты твар, і тыя дзве рэзкія лініі на ім, што, разыходзячыся ад крылляў носа і агінаючы куткі губ, былі заўсёды ў руху.

Цяпер ужо для нас ён як легенда. Але, убачыўшы яго аблічча, высечанае скульптарам, я зноў адчуў радасць сустрэчы з ім, як з жывым. Сапраўды, ён ужо такі, якім перадае яго разьбяр у вечным матэрыяле мастацтва — без бытавых драбніц, без другарадных і неабавязковых падрабязнасцей. Перад намі — мастак, філосаф, народны пясняр ва ўсёй сваёй праўдзе — прастаце і складанасці, даступнасці і велічнасці.

Ён і сам заўсёды вылучаў у чалавеку галоўнае і мог некалькімі штрыхамі стварыць партрэт, які потым урэзваўся вам у памяць на ўсё жыццё. І яму было ў дасканаласці вядома майстэрства скульптурнай лепкі людскога характару. Як цяпер яго добры друг высек твар пісьменніка з мармуровай глыбы, так і ён з жыццёвых глыбаў высякаў аблічча сваіх герояў. Сапраўднае мастацтва здзіўляе нас сілай сваёй выразнасці, мабыць, таму, што за вобразам мы яшчэ бачым і тую прастору, якая будзіць нашу фантазію, калі мы становімся саўдзельнікамі мастака ў яго творчым працэсе. Скульптар з глыбы мармуру высякае толькі адзін твар, пакідаючы некранутай усю глыбу. Кампазітар стварае свой бессмяротны «Гапак», пачынаючы яго з моманту, калі музыкі толькі яшчэ прабуюць і настройваюць інструменты, рыхтуючыся іграць. Твор і натура, вобраз і матэрыял, з якога ён нараджаецца, — толькі сапраўдны мастак ведае мяжу між імі. І ў

той жа час ён не хавае сваіх сакрэтаў. Як той легендарны творца, бярэ прыгаршчы зямлі і лепіць з яе жывую душу.

Кузьма Чорны! Як многа гаворыць гэтае імя сэрцу кожнага, хто любіць наша жывое слова, паэзію жыцця народа. У час маладосці, калі ён узяў сабе гэтае імя, сябры жартам часта казалі яму: «Які ж ты Чорны?», — і сапраўды, яго белы твар, светлыя валасы, блакітныя вочы ніяк не стасаваліся да яго псеўданіма. І мала хто ведаў, што Чорным ён стаў не па выпадковай прыхамаці, а ўзяў сабе як у спадчыну прозвішча, якое насілі яго яшчэ не зусім далёкія продкі. Сын фальварковага парабка, ён вельмі любіў сваю маці, Глікерыю Міхайлаўну, якая памерла ад сухотаў у маладым яшчэ веку. Яна таксама паходзіла з парабкоўскай сям'і, што, не маючы зямлі, займалася ткацтвам сурвэт, адбываючы гэтым прыгонную павіннасць у радзівілаўскіх маёнтках. Як зазначаў сам пісьменнік, ткачоўскае рамяство было шырока распаўсюджана па ўсёй Случчыне. Сурвэты ішлі не толькі на панскі ўжытак. Яны вывозіліся ў Польшчу і Германію. Дзеда Міхала, як і другога свайго дзеда Фэльку, Чорны ведаў са свайго маленства да першых год юнацтва. Абодва дзяды жылі разам пры дачцэ і сыне і для дапытлівага цікаўнага ўнука былі цэлай скарбніцай спазнання свету, энцыклапедыяй народнага жыцця з яго паданнямі, казкамі, песнямі і гісторыяй той зацятай барацьбы двух рэлігійных уплываў, што сотні год калечыла людскія душы на нашай зямлі. Праваслаўе і каталіцызм то раз'ятрываліся да таго, што грызлі адно аднаму горла, то шукалі пагаднення, уступаючы ў змовы. Пасля ў сваіх творах Чорны не раз будзе звяртацца да паказу людскіх лёсаў, якіх рэлігійны дурман і здзічэлы фанатызм уласніцтва з яго філасофіяй «чалавек чалавеку — воўк» даводзілі да жахлівых жыццёвых трагедый. Будучы пісьменнік ужо з малых год спазнаў фальш і крывадушнасць, пры дапамозе якіх клерыкалы атручвалі людскую свядомасць. Перакрыжаванне рэлігійных уплываў, касцёл і царква — усё гэта ў самых вычварных, дурных і часам даволі смешных супярэчнасцях так аблытвалі чалавека, што ён, спадзеючыся ўжо толькі на сябе, на сваю працу, безнадзейна махаў рукою на вырашэнне праблемы — хто ён: каталік ці праваслаўны, і перад самім усявышнім адбываў тую ж павіннасць, што і перад панам, і перад ураднікам, і перад валасным старастам, і перад павятовым воінскім начальнікам.

Успамінаючы маленства, пісьменнік звычайна пачынаў з дзядоў: Фэлькі Раманоўскага і Міхала Парыбка. Жывучы ў адной хаце, яны ніколі не сварыліся, хоць былі рознае веры: Фэлька —

католік, а Міхал — праваслаўны. Праўда, седзячы вечарам на палацях і звесіўшы на хату худыя босыя ногі ў белых споднiках, дзяды часам спрабавалі весці між сабой дыскусіі — чый бог лепшы, але, так і не дайшоўшы да яснасці, згодна ўдвух клаліся спаць на тых жа палацях. Дзяды былі неразлучныя, і рэлігійныя забабоны не замінаді іх сяброўству. Але, каб не гнявіць бога, як усякай іншай улады над сабою, яны адну нядзелю разам ішлі ў касцёл, а наступную — у царкву. Аднак рэлігійная мяжа не канчалася на дзядах. Яна ішла далей, дзелячы і бацькоў. Карл Феліксавіч і Глікерыя Міхайлаўна, адпаведна прапісаныя па розных духоўных ведамствах, гэтак жа адбываюць сваю рэлігійную павіннасць. І толькі ў трэцім пакаленні магутны плуг гісторыі вынішчае і самую мяжу, і той чартапалох, які стагоддзямі рос абапал яе. Ужо ў сваіх першых творах сын былога парабка і парабчанкі выстаўляе на ўсенароднае асмяянне хцівых царкоўнікаў, ксяндзоў, папоў і ўбоства іх змізарнелых душ.

Выхадзец з самых нізоў, з тых мільённых безыменных сямей, чые дзеці толькі пасля вялікай народнай рэвалюцыі навучыліся грамаце, не дзіва, што ён сваю радаслоўную кнігу, сваю генеалогію пачынае не з праправабабкі і нават не з прадзеда, а з дзеда, якога сам бачыў на ўласныя вочы.

Малады пісьменнік стаў Чорным, узяўшы прозвішча, якое насіў матчын бацька Міхал Парыбак. Прыстаўка «Чорны» была прыпісана прыгоннаму ткачу, каб адрозніваць яго ад тых Парыбкаў (парабкаў), якія выбіліся з кабалы і ўжо не служылі ў маёнтку. Парыбкі ж Чорныя былі бесхацінцамі, туляліся па дворных кутах. Іх называлі «кутнікамі» і «пакутнікамі», як і ўсіх тых, хто нараджаўся і зжываў свой век у парабкоўскай афіцыне.

Так Мікалай Раманоўскі, надрукаваўшы ў 1923 годзе сваё першае апавяданне, зрабіўся Кузьмой Чорным, па праву абвясціўшы сябе патомным спадчыннікам магутнай дынастыі чорных парабкаў.

Сапраўдны мастак, ён з чэсцю пранёс гэтае імя, уславіўшы свой мужны і працавіты народ, усёю душою адданы нясхіснай веры ў сваё шчасце.

«Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства, — пісаў Чорны. — Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка — адна на год — здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся».

Якую ж трэба было мець сілу характару, нястомную прагнасць да ведаў, да авалодання ўсімі сакрэтамі прафесіі, суровую самадысцыпліну, каб выпрацаваць у сабе творчую неабходнасць

пісаць штодня і ў любых умовах, думаць, жыць, ні на хвіліну не расстаючыся са сваімі героямі!

Мне заўсёды здавалася, што ў гэтым чалавеку сабраліся здольнасці ўсіх Раманоўскіх і Парыбкаў, людзей па сваёй прыродзе душэўна багатых. І вось на высокай хвалі гісторыі яны ўпершыню са свайго асяроддзя вылучаюць выразніка сваіх самабытных здольнасцяў. Толькі чалавек вялікага таленту, багатай натуры і мужнага характару мог выканаць адказны абавязак, ускладзены на яго цэлымі пакаленнямі, каб за такое кароткае жыццё падняцца да вышынь культуры, авалодаць багаццямі, што назапашваліся стагоддзямі, і самому стварыць скарбы, што яшчэ доўга будуць радаваць людскія сэрцы.

Для яго, як мастака, разуменне народа было не абстрактнай катэгорыяй. Яно раскрывалася ў канкрэтных жыццёвых характарах, у людзях, якіх ён сам ведаў і за лёсам якіх уважліва сачыў усё жыццё. Колькі з яго вусных апавяданняў паўставала перад намі незабыўных персанажаў, што маглі б зрабіцца жывым увасабленнем яго раманаў, драм і аповесцей! Але яны не сталі літаратурнымі героямі. Запасы жыццёвых назіранняў пісьменніка былі настолькі багатыя, што творчая фантазія, фарміруючы тып, характар, кіравалася ўжо не адным фактам, не адной з'явай з усімі яе падрабязнасцямі і нават не дакладнасцю прататыпа, за што заўсёды хапаецца пісьменнік без мастацкага таленту як за апраўданне дакументальнай адпаведнасці свайго ўбогага стварэння жыццю, а крытэрыямі той адзінай праўды, якою мерае сваіх герояў народ і якая вымагае ад мастака не толькі таленту, але і грамадзянскай адказнасці, смеласці, а часта і сапраўднага творчага подзвігу ўсяго жыцця.

Імкненне тварыць было яго заўсёднай патрэбай. Цяпер расказваюцца як вясёлыя прыгоды, калі яго артыстычныя імправізацыі, выдумкі і розыгрышы ператвараліся ў цэлыя сюжэты, многія з якіх жывуць ужо дзясяткі год. Ён мог пераўвасабляцца ў самыя разнастайныя характары, дасканала раскрываючы псіхалогію людзей, з якімі сустракаўся, умеючы знайсці агульную мову і з эрудытам-інтэлігентам, і з цімкаўскім сваім земляком дзядзькам Беляком, што служыў вартаўніком на салатопцы. У яго гаворцы я чуў спасылкі на такія аўтарытэты, як француз Рэнье, рафінаваны эстэт і вытанчаны стыліст, і каваль Кірыла з Лешні, у якога Чорны вучыўся гранічнай выразнасці слова: «А адзін немец сам у плен падаўся!» Будучы прызнаным знаўцам мовы, ён прагна ўслухоўваўся ў мелодыю сказа, у яго гукавыя і сэнсавыя адценні, з цікавасцю ловячы кожнае незнаёмае слова.

І калі адразу не даходзіў яго азначэння, незаўважна вымушаў субяседніка вымавіць яго яшчэ раз. Чытаючы яго творы, нельга не заўважыць, як выраз, які прыйшоўся яму да душы, пісьменнік сам вымаўляе з асаблівай асалодай, перад тым як напісаць або ўкласці ў вусны свайму герою. «Раймонт!» — колькі разоў вар'іруецца ўпадабанае слоўца ў гаворцы старога Стафанковіча ў «Любе Лук'янскай».

Якое дзіва, што некаторыя лінгвісты, самі тугія на вуха, абыякавыя да народных скарбаў, прызнаючы непагрэшнасць яго аўтарытэту ў веданні мовы, часам гатовы былі нават друкарскую памылку прыпісваць яму як самабытнае слова. У часе рэпетыцыі «Бацькаўшчыны» ў адным з тэатраў актрысе, якая іграла жонку Леапольда Гушкі, прыйшлася па ролі нейкая недарэчнасць: «пакляватцкаваць». «Што гэта азначае, які мае сэнс?» — пачала дамагацца артыстка ад рэжысёра. І той з важным выглядам растлумачыў: паколькі Чорны напісаў, значыць, ёсць такое слова, і нават паказаў, як яно вымаўляецца, з якім націскам. Дайшло да прэм'еры, на якую з'явіўся аўтар. Пачуўшы са сцэны сказанае з пафасам «пакляватцкаваць», ён разгубіўся ад нечаканасці. «Дайце п'есу!» Пачаў гартаць і, дайшоўшы да патрэбнага месца, зайшоўся са смеху: «Па хлявах хаваць!» — сказаў ён. Так выпадковая безуважнасць машыніткі ператварылася ў чорнаўскае слова.

Сам Чорны заўсёды высмейваў гульню ў словы і тую моўную абракадабру, на якой гавораць людзі, што вельмі ж хочуць паказаць сябе разумнымі. Часта гэта — тып дзялкоў, прабітных прыстасаванцаў, якіх ён называў «трапетунамі». Будучы сам па сваёй натуры чалавекам актыўным, жвавым і няўрымслівым, ён ненавідзеў трапетуноў. Хітраванне, імкненне патрапіць у тон прывучылі людзей гэтага гатунку да такой формы і манеры гаворкі, калі ў слоўным шумавінні канчаткова траціцца нават намёк на які-небудзь сэнс, на сцвярджэнне, за якое трэба браць адказнасць.

Яшчэ ішла вайна, і мы, вярнуўшыся ў родны Мінск на руіны і папялішчы, рады былі кутку, дзе можна прытуліць галаву. Ніхто не разлічваў на адмысловыя ўмовы. Як і ўсе, хто радаваўся вызваленню роднай зямлі, мы пачыналі жыццё на голым месцы. Кузьма Чорны, яшчэ не ачуняўшы ад цяжкага ўдару, які нанесла яму хвароба, пасяліўся з сям'ёй у пакойчыку драўлянага дома на вуліцы Берсана, дзе размясцілася праўленне Саюза пісьменнікаў. Пакой быў настолькі малы, што не было дзе паставіць стала. Але і ў гэтых умовах Чорны пісаў.

Штовечар ён выходзіў прайсціся, падумаць, адпачыць. Адзінай расчышчанай магістраллю была Савецкая вуліца, і ўсякая падзея на ёй, сустрэча са знаёмымі не абміналі ўвагі пісьменніка. Аднаго вечара, праходзячы паўз цэркаўку, што трухлявым грыбам прыляпілася да вуліцы, Чорны, сцепануўшы плячом, спытаўся:

— Хочаш пабачыць Шпулькевіча?

— Вэню? Таго, што з купцом Хурсам гандляваў свіннямі? — здзівіўся я, маючы на ўвазе героя яго вядомай аповесці «Люба Лук'янская».

— Не, яго бацьку, што трымаў на Камароўцы рамізніцкую біржу. Зойдзем? — паказаў ён кійком на адчыненыя дзверы цэркаўкі, весела пасміхаючыся і як бы выпрабоўваючы маю цікаўнасць.

Мы зайшлі. На кліраce цьмяна гарэлі свечкі, і нейкі цень снаваўся між іх. Раптам цень хістануўся ад свечак да дзвярэй, і мы ўбачылі прысадзістага здаравяка з гладкім чырвоным тварам.

— Мікалай Карлавіч! — саладжавым голасам усклікнуў ён.

Так, гэта быў адзін з чорнаўскіх прататыпаў: гарадскі кулак, самалюбны мешчанін з тых, што, умасціўшыся некалі на выгадную службу, выбудаваўшы ўласны дом, заўсёды пішчом лез напаказ, абы быць навідавоку — насіць пратэсу ў часе хрэснага ходу, стаяць пры свечках, прыслужваць архірэю і гандляваць салам, як свіны купец Хурс, — усё адно, толькі была б магчымасць паказаць на людзях сваю хрысціянскую любоў да бліжняга, у якой так салодка заходзіцца чуллівае сэрца!..

Спыніўшыся ў парозе царквы і не ведаючы, з чаго пачаць гаворку, Чорны акінуў вачыма цёмныя сцены і асветленыя лампадкамі абразы і, стараючыся патрапіць у тон ялейнасці, якая гучала ў кожным слове яго субяседніка, з разважным выглядам спытаўся:

— Ці вялікія маеце прынашэнні ад прыхаджан?

Царкоўнік затрапятаўся.

— Якія, Мікалай Карлавіч, прынашэнні! — і спаважна дадаў: — Цяпер жа мы работаем сключыцельна на абарону.

У нас хапіла сілы ўтрымацца ад рогату. Але, выйшаўшы на вуліцу, Чорны яшчэ доўга не мог супакоіцца:

— Бач ты яго! Ён ужо работае на абарону!

Нянавісць да драпежніцкіх інстынктаў уласніцтва і духоўнага паразітызму, нянавісць непрымірымая і бязлітасная, у душы парабкоўскага сына і парабкоўскага ўнука была такой жа глы-

бокай, як і любоў да працоўнага чалавека, рукамі і сэрцам якога ствараецца народнае шчасце.

Балюча перажываў ён сваю доўгую разлуку з роднай зямлёй, з мясцінамі, знаёмымі з маленства, з людзьмі, душэўна дарагімі яму.

Позняй восенню першага года вайны, у час нашых нялёгкіх вандровак мы спыніліся ў Вязніках за Масквой у хаце фабрычнай работніцы. Седзячы за дашчаным сталом і пішучы — ён апавяданне, а я верш, — мы вярталіся ў думках да тых любых сэрцу восеньскіх краявідаў і настрояў, якія абуджаюць яны ў час перад блізкаю зімою. Тады ўзнік у мяне ў вершы вобраз Случчыны і тае прыдарожнай алешыны, што была знаёмаю нам абодвум. Гэты верш я прысвяціў Чорнаму, а ён тут жа на лістку майго блакнота вострымі, тонкімі штрыхамі алоўка накідаў разгалістае бязлістае дрэва, а паблізу яго пяньчук з адскочыўшым за лета атожылкам і прыдарожны паплавец, абгароджаны яловымі жардзінамі. Гэтую яго замалёўку я захоўваю як дарагую для мяне рэліквію.

Восенню другога года вайны цяжкая раптоўная хвароба абрушылася на яго. Ні на хвіліну не сумняваючыся ў перамозе над фашызмам, ён не спадзяваўся толькі, што дажыве да жаданага і шчаслівага дня вызвалення.

Прыкаваны да пасцелі, страціўшы зрок і не пазнаючы нават сваіх блізкіх, ён часта ўпадаў у забыццё, надоўга трацячы прытомнасць. Калі ж вярнулася памяць, яго адзіным запаветам, з якога я пачаў гэтае апавяданне, былі словы, сказаныя мне пад вялікаю тайнаю.

— Нахіліся, братка, — сказаў ён ледзь чутна. І калі я нахіліўся вухам да самых яго губ, папрасіў: — Скажаш, каб спалілі мяне ў крэматорыі…

Жахлівы гэты наказ перавярнуў усю маю душу. Я ўжо не памятаю, што гаварыў. Словы суцяшэння былі марнымі. Ён ляжаў, цяжка дыхаючы, і толькі вочы выказвалі ўсю глыбіню гэтай просьбы: няхай хоць жменькай попелу лягу я ў зямлю, якую любіў і аб якой заўсёды думаў.

І ўсё ж ён перамог тады ў страшным паядынку. Ён сабраў усю сваю волю да жыцця, каб яшчэ многа зрабіць для чаканага дня перамогі. Гэта быў яго сапраўдны вялікі подзвіг.

Як толькі стаў вяртацца зрок і пачалі варушыцца пальцы на спаралізаванай руцэ, ён зноў узяўся за пяро, вярнуўся да творчасці. Выпісаўшыся з бальніцы, ён настойліва, з зацятай упартасцю пачаў трэніравацца ў рухах, «расходжвацца», як ён казаў. З намаганнем падцягваючы нагу, абапіраючыся на кіёк,

ён выходжваў доўгія гасцінічныя калідоры, і ўжо неўзабаве ў тыя суровыя і трывожныя дні, якія перажывала сталіца нашай радзімы, яго можна было ўбачыць і на прыціхлай, нешматлюднай тады вуліцы Горкага. Радуючыся, што можа хадзіць, ён штодня з'яўляўся ў будынак «Известий» на Пушкінскай плошчы, дзе змяшчаліся тады рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» і часопіса «Раздавім фашысцкую гадзіну», каб здаць у чарговыя нумары новае апавяданне, гнеўны артыкул аб фашысцкіх злачынствах або знішчальны па сваёй трапнасці фельетон аб подлых здрадніках, што слугавалі акупантам.

Трывожачыся за стан здароўя Чорнага, кіруючыя работнікі рэспублікі і пісьменнікі, якіх была тады ў Маскве невялікая частачка, угаварылі яго выехаць на лета за горад. Чорны згадзіўся, але, як я цяпер думаю, не таму, што ў гэты цяжкі час яго прывабіла прырода, якую ён любіў. Хутчэй за ўсё для творчага замыслу, які тады займаў пісьменніка, вельмі ж падыходзіла асяроддзе, у якое ён трапляў. Чорны паехаў у Пушкіна пад Масквой, дзе змяшчаўся шпіталь Цэнтральнага партызанскага штаба. Там ён з прагавітай цікаўнасцю сустракаў кожнага, хто прыходзіў з варожага тылу, распытваў аб народных мсціўцах, аб подзвігах савецкіх патрыётаў. Гэта было ўжо трэцяе лета вайны. Пісьменнік жыў тады сваім запаветным замыслам — напісаць некалькі твораў аб народным змаганні супраць захопнікаў, аб'яднаўшы іх пад агульнай назвай «Сумліцкая хроніка». Калі ён пераехаў у Пушкіна, якраз у тыя дні жорсткі раматус зваліў мяне з ног, і я болей за паўгода не бачыў свайго друга. Лежачы ў Пірагоўскай бальніцы, я часта меў ад яго пісьмы. Будучы сам хворы, ён рупіўся, каб падвесяліць і абнадзеіць мяне. Прывяду першае з гэтых пісем, якое дае пэўнае ўяўленне аб пачуццях і настроях пісьменніка ў партызанскім шпіталі.

«Дарагі братка!

Дачуўся, што ты захварэў на старую сваю хваробу і ляжыш у бальніцы. І так мне нядобра на душы стала. І я чакаў, што ўбачуся неўзабаве з табою ў добрым нашым здароўі. Мне здаецца, што я ўжо не бачыўся з табою вечнасць. Няхай гэтыя хваробы пойдуць агнём і дымам на мокрае, як той казаў, балота. Праўся, братка мой, каб скора ты быў здаровенек. Што да мяне, то я пакрысе праўлюся. Тут усё сышлося разам: і час ідзе (а мая праўка залежыць у самай значнай меры ад часу), і паветра вельмі ж добрае. Прырода тут цудоўная. Дом з трох бакоў абкружаны лесам — хвоя і яліна. Я хаджу па лесе і, як дазваляе мне мой зрок, наглядаю за мурашкамі, чарвякамі і ляснымі сцежкамі.

Хаджу ўжо лепш і больш, як у Маскве. Зрок палепшаў значна, але трэба яшчэ чакаць: няхай ідзе час. Я заўсёды казаў і нават пісаў, бо сам гэта многа разоў перажыў быў, што час — найлепшы доктар для чалавечай душы. І не толькі для душы. Цяпер правяраю гэта яшчэ раз на сабе і на людзях, з якімі тут жыву. З некаторымі я пасябраваў. Многія з іх перажылі такое, ад чаго сапраўды такі валасы на галаве ўстаюць. Дзеля прыкладу: стаіць чалавек, прывязаны дротам да сцяны свае хаты, а немцы перад яго вачыма страляюць па адным трое яго дзяцей і жонку. Гэты чалавек, выбраўшыся з бяды, за кожнае сваё дзіця ўжо адабраў нямецкай крывёю і крывёю тых, хто служыць немцу. Я заўважаю, як час, у якой меры ён ідзе, лечыць душу гэтага чалавека…»

Перачытваючы раман «Вялікі дзень», я заўсёды ўспамінаю гэтае пісьмо, бо ў вобразе старога Антона Цвіркі пазнаю жывыя рысы гэтага грознага народнага мсціўцы.

Просты чалавек, чалавек з народа — гэта любімы герой Чорнага. Ратуючы сваю радзіму, ён узнімаецца над сваімі ворагамі як вялікі суддзя, вызначаны самой гісторыяй. Савецкі чалавек распраўляецца з захопнікамі не толькі фізічна, ён вынішчае фашызм як пошасць, што пагражае свету.

Сустрэліся мы з Чорным у самым канцы года і зноў працавалі разам ужо ў рэдакцыі новага, тады кагадзе ўтворанага часопіса «Беларусь».

«Дзень добры, Беларуская зямля!» — так пачынаўся артыкул, які адкрываў першы нумар часопіса і ў якім Чорны з усхваляванай радасцю пісаў, што ўжо «блізка дзень поўнага ачышчэння нашай бацькаўшчыны ад паганых чужынцаў».

У друкарнях савецкай сталіцы адна за адной пачынаюць выходзіць кнігі беларускіх пісьменнікаў. Маскоўскія рабочыя набіралі і друкавалі іх на нашай роднай мове. Хіба можна калі забыць гэтую сардэчную братнюю дапамогу нам, нашаму народу ў тыя цяжкія часіны, калі мы вярталіся на сваю спустошаную зямлю, у паселішчы і гарады, дзе разам з народным набыткам былі разграблены і спалены бібліятэкі. Чорны радаваўся выхаду кожнай новай кнігі. Тады ж паявіўся на свет і маленечкі зборнічак маіх вершаў «Гартаванне». І па сённяшні дзень берагу я рукапіс рэцэнзіі Чорнага як першы і дарагі мне водгук на свой сціплы дэбют у літаратуры.

Бязлітасная хвароба зрабіла яму скупую ўступку. Ненадоўга адтэрмінавала яна трагічную развязку. Свой удар яна нанесла знянацку, калі ён за рабочым сталом ужо ў новай кватэры на той жа Савецкай вуліцы пісаў «Скіп’ёўскі лес». Апошні сказ,

напісаны Чорным, абарваўся на паўслове. Аповесць засталася няскончанай, як і многія замыслы пісьменніка, якія ён спадзяваўся ажыццявіць на роднай зямлі, у вызваленым Мінску. Няскончанай засталася нават кароценькая запіска, якую ён хацеў падаць жонцы, адчуўшы, што ўжо не можа гаварыць. «Заві пісьм…» — паспеў напісаць ён і страціў прытомнасць. Калі, устрывожаныя, мы збегліся ў яго кватэру, ён ляжаў на палатнянай раскладанцы. Нястомны і вялікі падзвіжнік, ён і ў апошнюю хвіліну жыцця застаўся велічным у сваёй простасці і сціпласці. Позна ўвечары мы ўдваіх з яго жонкай асцярожна паднялі яго і з раскладанкі перанеслі на ложак. Насупраць сядзела яго тады яшчэ малая дачка, закрыўшы твар рукамі. Я сеў да яе спінаю, каб засланіць твар бацькі, ужо назаўсёды застылы ў сваіх абрысах. Люстэрка, якое паднесла да яго вуснаў жонка, засталося чыстым, як тыя старонкі, што не паспеў ён напісаць…

## II. Музыка і каваль

Яшчэ раніцай таго сумнага дня — 22 лістапада 1944 года — ён, ідучы па Савецкай вуліцы, гаварыў:

— Я гляджу і радуюся, як з кожным днём ажывае наш Мінск, як людна становіцца на яго вуліцах.

Пісьменнік любіў свой родны горад, ведаў у ім кожную вуліцу, кожны завулак. З невыказнай радасцю ён вярнуўся ў Мінск. Амаль чатыры гады ён чакаў гэтага звароту! І чакаў, не склаўшы рук, а ў самай зацятай і жорсткай барацьбе з фашысцкімі забойцамі. Будучы далёка ад Мінска, ён усімі сваімі сіламі змагаўся за Мінск. Наўрад ці былі калі больш творча напружанымі яго дні і ночы, як у гэтыя гады цяжкай ростані з бацькаўшчынай. Яго дзівосная памяць, у якой мясціліся тысячы людскіх жыццяў, сустрэч і здарэнняў, тысячы знаёмых чалавечых характараў, дапамагала яму быць усюды неразлучным са сваёй мілай радзімай, са сваім родным краем. Кузьма Чорны ўмеў не толькі запамінаць. Сваім вострым, трапным вокам ён умеў вызначыць самую сутнасць з’явы, убачыць у чалавеку галоўнае і самабытнае. Часта здавалася, што душа гэтага чалавека ўвабрала ў сябе душу народа — яе весялосць і смутак, яе радасць і гора, яе шчырую даверлівасць і сумненні, яе дапытлівасць і дасціпнасць.

Ён гаварыў пра Цімкавічы, дзе прайшлі яго маленства і юнацтва, і пра цімкаўцаў, што яму «хапіла б на ўсё жыццё іх апісваць». Але «апісваць» яшчэ не значыць — пісаць. Тонкі назіральнік, ён нястомна выхоўваў у сабе суровага мастака. Пісаць так, каб кніга вучыла людзей, каб яна была скарбніцаю

думак, пачуццяў і спадзяванняў народа. Пра такія творы марыў Кузьма Чорны, такія творы ён імкнуўся пісаць.

«Хвоі гавораць» — назваў К. Чорны калісьці адну са сваіх першых кніжак апавяданняў. Яго чуйнае вуха ўлавіла і падслухала тыя думкі і пачуцці, якія абуджае ў чалавечай душы прырода, адна з крыніц творчага натхнення і пазнання чалавекам аб'ектыўных законаў жыцця. Тады крытыкі вінавацілі яго ў натуралізме. Але Чорнага ніколі не вабіла голая натура, рэч без сэнсу, без узаемнай сувязі з жыццём. Дапытлівым і строгім вокам мастака ён бачыў, што яму неабходна скарыстаць, а што адкінуць, як не вартае ўвагі.

Часта пад рубрыку натуралізму мы заносім і тую выдатную асаблівасць мастака, як надзвычайнае майстэрства дэталі, уменне ў малым убачыць вялікі сэнс, адным штрыхом стварыць уражанне поўнага малюнка. Здавалася б, самая нязначная драбніца, якую цяжка і заўважыць, пад пяром К. Чорнага вырастае ў незабыўную карціну. Так адзінокая саломіна, якая трымціць на ветры ў каляіне пасярод дарогі, выклікае ў нас адчуванне восеньскай самотнасці ў полі перад першымі замаразкамі. Зялёная засохлая травіна ў жытнім снапе, што трапілася зімою на вочы, можа выклікаць у чалавечай душы больш, чым дзясяткі самых чуллівых вершаў.

Амаль праз усе яго творы праходзіць вялікае пачуццё радасці — быць чалавекам, усведамленне гэтай, па вызначэнню Горкага, самай высокай пасады на зямлі. Духоўная перавага чалавека, урачыстасць яго працы, яго пачуццяў — вось што жывіла творчасць Чорнага, што на доўгія і доўгія гады абумовіла зацікаўленасць чытача да лёсу яго герояў.

У апавяданні «Хвоі гавораць» ёсць эпізод, у якім расказваецца, як уночы на таку ў гумне цеслі робяць труну для памёршай жанчыны. Гэтая сцэна заўсёды будзе хваляваць нас сваёй невыказнай сілай. Сярод усіх «ізмаў», якія лёгка можна прыкласці да яе, няма якраз таго «ізму», якому міжволі можна было паддацца, — песімізму. Нежывы чалавек ляжыць у цёмнай хаце, а ў гумне ў людзей — свой клопат. Ім трэба давідна ўправіцца. Гаспадар, муж нябожчыцы, прынёс цеслярам паўкварты гарэлкі і з імі сам выпіў. На першы погляд здаецца, што людзі і не думаюць аб нябожчыцы. Сваім парадкам ідзе работа, чуецца вясёлая гамана, хтосьці нават паспрабаваў заспяваць, але гэтак можа здацца толькі на першы погляд. Кожнага нешта звязвае з гэтай падзеяй. Найбольш выразна выяўляецца гэта ў старога Язэпа, які ўпотай ад іншых плача ля гуменнай сцяны.

Чорны аднойчы расказваў, што ў вобразе Язэпа ён намаляваў свайго бацьку. Яшчэ ў маленстве памяць будучага пісьменніка ўразіў такі выпадак: сярод ночы ў хату пастукаўся сусед. Ён будзіў бацьку, але прачнулася, вядома, уся сям'я. «Прыйшоў я, браце, прасіць, каб маёй жонцы хату зрабіў — не хоча са мною жыць, аддзялілася». Усе ўжо ведалі, аб якой хаце ідзе гаворка. Бацька сабраўся, узяў сякеру, гэбель і мяне ў памагатыя. Стаміўшыся, мы выйшлі, помню, на прыгуменнік. Стаім. Бацька маўчаў увесь час, але, відаць, у яго душы нешта рабілася такое, чаго ён ужо не мог стрымаць: «Якая ноч, зоры якія, а мы труну робім…»

Так, ёсць пачуцці, якія перадаюцца людзям з пакалення ў пакаленне і якія збліжаюць пад спрадвечнымі зорамі і непісьменнага дзядзьку Язэпа, і філосафа Андрэя Балконскага. Так, пачуццё не яснае, не зразумелае бацьку, перадалося сыну, запала ў яго ўражлівую душу, каб потым праз гады роздуму і творчасці выкрышталізавацца ў высокую паэзію, набыць свой высокі сэнс.

Спадзяюся, што няма падстаў зразумець гэта так, што Чорны нібыта ў выснове творчага працэсу бачыў толькі інтуіцыю. Пісьменнік рашучым чынам адкідаў не то што ўладу падсвядомасці, але і малейшыя спробы чалавечае пачуццё падмяніць чуллівасцю, разбавіць лірычнай сахарынай. Ён заўсёды падкрэсліваў сваю непрыязь да лірыкі ў прозе, хоць сам быў надзелены не меншым паэтычным талентам, чым талентам празаіка. «Не толькі пачуццё, — гаварыў Чорны, — але перш за ўсё розум і жыццёвы вопыт павінны кіраваць талентам празаіка».

Жартуючы над бяссіллем пачуцця, ён аднойчы выдумаў такую легенду: чалавека закавалі ў ланцугі. Да яго прыйшоў музыка і сказаў: «Паслухай мяне — і ты набудзеш сілы, каб разарваць ланцугі». І стаў іграць. Іграў, іграў і нічога не дамогся. Тады прыйшоў каваль. Не гаворачы ні слова, ён падпілаваў жалеза, стукнуў молатам — і чалавек стаў вольным. Сэнс легенды ў тым, што ўсёмагутны каваль — гэта, вядома, празаік. Такою сілаю хацеў Кузьма Чорны надзяліць сваю творчасць — сілаю ідэі, справы. Ён не верыў у магічнае натхненне і ніколі не спадзяваўся на яго. Ён гаварыў: «Пішы, як пішацца, каб выказаць тое, што маеш сказаць». Каб не згуляць, не прапусціць дня, ён пісаў, як пісалася, а потым усё перарабляў і перапісваў нанава, так, што ад першага варыянта і следу не заставалася.

У творах К. Чорнага апошніх год сям-там вы можаце заўважыць нейкую, як бы наўмысную, абыякавасць, нязграбнасць сказа, таўталагічнасць у словах. Манера гэта ці безуважнасць? А можа, свядомы націск на «чыстую прозу»? Мне здаецца, ні

тое і ні другое. Гэта пошукі Чорным таго простага слова, якое найбольш дакладна і выразна выказала б самую думку. У гэтых пошуках Чорны ішоў не па шляху эстэцкага, гурманскага смакавання слова, а па шляху да яго творчай першакрыніцы — да народнасці, да таго моўнага шэдэўра, які цэлымі стагоддзямі жыве ў вуснай творчасці і ўзорамі якога карысталіся лепшыя творцы літаратуры.

Скварка плавае ў місе,
У шаўку скача Марыся, —

пісаў Янка Купала, і нельга не здзівіцца дакладнасці гэтых радкоў. Да такое вобразнай выразнасці і дакладнасці сваёй мовы імкнуўся і К. Чорны. «Медзяны блішчасты гузік зіхацеў аж на ўвесь жывот». Нават не зірнуўшы на прозвішча аўтара, вы па адной ужо фразе адгадаеце, што гэта піша Кузьма Чорны.

Вялікай сіле слова Чорны вучыўся ў народа. Яшчэ ў 1928 годзе ён пісаў: «Мова — жывая істота. Яна жыве, а не існуе. Адным словам можна шмат выказаць, або тым жа самым словам нічога не сказаць…» «У адной п’есе ёсць такая з’ява. Бяжыць сялянка і крычыць: “У чым справа, у чым справа?” Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п’есы. Ён думаў: “в чем дело” і пісаў: “у чым справа”».

Жывое адчуванне слова ва ўсёй сваёй разнастайнасці, ва ўсім сваім багацці нясе ў Чорнага кожны яго вобраз, кожны персанаж.

Паслухайце, як плача, прычытваючы над труною брата, сялянка ў рамане «Зямля».

«А ці памятаеш ты, братка, як ты ў маладосці хворым ляжаў, а не было табе на макавае зерне чым паправіцца.

А калі ты, Тамашка, хадзіў па суседзях шэсць злотых пазычаць на падатак.

А як не дастаў гэтых шасці злотых і нудзеў, на парозе седзячы.

А як еў крупнік незабелены.

А як, каня не меўшы, нёс на плячах жыта ў млын ды паваліўся на дарозе…»

Так у прычытах жанчыны праходзіць усё жыццё старога Тамаша, яго біяграфія ў канкрэтных эпізодах, у своеасаблівым абагульненні, у тыпізацыі з’яў Тамашовага лёсу, да таго ж перад намі раскрываецца характар і псіхалогія і самой сястры, якая плача над Тамашовай труной: «А як еў ты крупнік незабелены». Гэтыя словы, да прымітыўнасці простыя самі па сабе, а сваім зместам, сваім глыбокім, невыказным сэнсам такія ж

вялікія, як само жыццё. Сваёй няхітрай праўдай яны здольны скалануць нашу душу, адкрыць нам цэлыя карціны народнага жыцця і побыту. Сапраўды, як словам можна шмат выказаць! Якраз такое слова і ўмеў падслухаць у народзе К. Чорны, і сілай, сакрэтам такога слова ён валодаў у дасканаласці. Вось чаму вельмі крыўдна, што пры перакладах яго твораў гэты выдатны пісьменнік падчас нівеліруецца, траціць своеасаблівасць свайго стылю, трапнасць і дасціпнасць слова. Чытаеш Чорнага ў перакладзе, і як быццам усё правільна, нават тэкстуальна супадае сказ са сказам, слова са словам, а ўражанне, сіла эмацыянальнага ўздзеяння зусім не тыя. Гэта не значыць, што Чорны настолькі цяжкі для перакладу на іншыя мовы, што яго нельга і перадаць ва ўсёй яго самабытнасці і моўным багацці. Справа ў тым, што тыя творы, якія выходзілі на іншых мовах — і ў першую чаргу на рускай, — перакладаліся ў сваёй большасці не майстрамі прозы і нават не пісьменнікамі, а літаратарамі-перакладчыкамі. Усё гэта сумленныя, паважаныя людзі, якія робяць карысную справу па збліжэнню братніх літаратур, але будзем гаварыць праўду — буйнога нацыянальнага пісьменніка, своеасаблівага па свайму таленту і стылю, можа па-сапраўднаму перакладаць на сваёй мове, адкрыць свайму народу толькі мастак, які з гэтакім жа майстэрствам валодае багаццямі сваёй мовы. І хоць творы Чорнага і выходзілі на рускай мове, аднак гэты чароўны наш пісьменнік, цудадзей беларускай прозы, па сутнасці, яшчэ не адкрыты рускаму чытачу ва ўсёй сіле яго арыгінальнага і яркага таленту.

Знаходзіліся ў свой час крытыкі, якія ўсімі сіламі імкнуліся прынізіць мастацкае значэнне твораў К. Чорнага. Яны бачылі ў ім бытапісальніка з этнаграфічна абмежаванай тэматыкай. Як жа глыбока яны памыліліся. Сёння мы з гордасцю называем імя Кузьмы Чорнага побач з вялікімі імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, па творах якіх нашы новыя пакаленні, нашы братнія народы і нашы сябры за мяжой складаюць і будуць складаць сваё ўяўленне аб беларускім народзе, аб яго гісторыі, аб яго нацыянальным характары!

К. Чорны прыйшоў у беларускую літаратуру са сваёй уласнай тэмай, сутнасць якой не ў этнаграфіі, а ў творчай ідэі, уласцівай усім яго творам ад першага апавядання да апошняга рамана. Гістарычны лёс беларускага народа, яго цяжкае мінулае і яго будучыня, сцвярджэнне народа ў праве на сваю бацькаўшчыну, на сваю нацыянальную годнасць — вось тэма, якая праходзіць праз усю творчасць пісьменніка. І вырашэнню гэтае тэмы заўсёды

спрыяла тая акалічнасць, што ў Чорным, як у вялікім мастаку, шчасліва аб'ядналіся два таленты — эпічны і паэтычны. Боязь лірыкі ў прозе не замінала яму, аднак, быць паэтам. Але скарбы паэзіі ён здабываў сродкамі прозы.

Пачынаў ён як лірык. У сваіх імпрэсіях ён быў паэтам і ў паказе людзей, і ў апісанні прыроды, і нават у самім слове, напеўным, рытмічным. Цяпер мала хто і ведае, што ён пісаў вершы. Я сам памятаю, яшчэ з юнацтва, як адзін з яго вершаў, пакладзеных на музыку, карыстаўся шырокай папулярнасцю як прыгожая лірычная песня:

Спелае жыта шэпчацца ў полі,
Вяне на сонцы пякучым трава…

Пазней, вызначыўшы перад сабой больш складаныя задачы, Чорны становіцца празаікам у поўным сэнсе слова, становіцца эпічным мастаком у саміх творчых і жанравых сродках, аднак у сутнасці сваіх мастацкіх абагульненняў ён заўсёды быў і заставаўся паэтам. У лепшых сваіх творах ён узнімаецца да вяршынь сапраўднай народнай паэзіі.

У яго замыслах, усёю мэтаю яго жыцця было — стварыць вялікі цыкл раманаў, у якіх ён хацеў адлюстраваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за час ад знішчэння паншчыны да дзён перамогі сацыялізму і руху народаў да камунізму.

«Бацькі мае цьмяна марылі аб нейкай невядомай ім лепшай долі для сваіх дзяцей, — пісаў Чорны ў аўтабіяграфіі. — Я стаў пісьменнікам. Больш таго, я пішу на мове тых простых людзей, сярод якіх я вырас. Гэтыя людзі сталі шчаслівымі на зямлі, іх мова стала дзяржаўнай мовай. Я пішу аб гэтых людзях у сваіх кнігах. Вялікае шчасце для пісьменніка пісаць аб народзе і яго шчасці, і самому быць шчаслівым разам з народам».

5 мая 1923 года ў газеце «Савецкая Беларусь» было надрукавана першае апавяданне К. Чорнага «На граніцы». З таго часу граніца, нацыянальная трагедыя народа, крывавая драма, якая не раз разыгрываецца на Беларусі, войны, якія спусташаюць беларускія гарады і паселішчы, гоняць родны народ па дарогах цяжкіх пакут і выпрабаванняў, — усё гэта праходзіць праз творы Чорнага. «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Скіп'ёўскі лес» — усё гэта творы, якія адлюстравалі ў сабе самыя характэрныя і найбольш тыповыя моманты гераічнай барацьбы беларускага народа. Радасную дату ўз'яднання беларускага народа

ў 1939 годзе К. Чорны адзначае п’есай «Ірынка», якая стала шырокавядомай нашаму гледачу. П’еса гэтая як бы завяршала сабой, падводзіла вынік працы над тэмай, вырашэнню якой пісьменнік прысвяціў свой талент. Але Вялікая Айчынная вайна зноў ва ўсю веліч узнімае перад Чорным тэму барацьбы беларускага народа за сваю бацькаўшчыну, і цяпер гэтая тэма паўстае перад ім у новых, яшчэ больш гістарычных маштабах. І пісьменнік выразна бачыць шлях для яе вырашэння. Гэты шлях яму відзён з вопыту, здабытага ў самых жорсткіх баях партыяй, народам.

У першыя ж, самыя цяжкія дні Айчыннай вайны, калі па ўсёй краіне прагучаў заклік да ўсенароднай абароны Радзімы ад фашысцкай пошасці, К. Чорны мяняе пяро раманіста на пяро газетчыка, на вострую, знішчальную зброю публіцыстыкі. Як радавы баец выходзіў на перадавы рубеж на фронце, так К. Чорны выйшаў і стаў на самы перадавы рубеж барацьбы з карычневай чумой. Як франтавік, ідучы ў бой, аддаваў у запавет партыі сваё сумленне, на агнявой лініі падаючы заяву, каб яго лічылі камуністам, гэтак на агнявой лініі ў тыя дні К. Чорны стаў камуністам, стаў байцом усенароднага змагання з ворагам. І сэнсам яго кожнага слова былі вера і ўпэўненасць у перамогу. Яго трапная, знішчальная і па-народнаму мудрая і простая сатыра біла ў самую цэль.

Усім нам у памяці фельетоны «Кат у белай манішцы», «Далікацтва каля вісельні», «Гаўляйтарская акадэмія». Яны абышлі ўвесь савецкі друк — ад цэнтральнай газеты да партызанскай лістоўкі. Вострае слова, прымаўку К. Чорнага не маглі ўтрымаць фашысцкія драты і краты. Яны праходзілі скрозь і ўсюды, уваходзілі ў народ, гартуючы яго думку, яго нянавісць, гнеў і помсту.

Перадавая лінія фронту праходзіла тады праз сэрца кожнага савецкага патрыёта, і ворага трэба было біць як мага мацней, біць чым зручней. Чорны біў яго і з блізкай дыстанцыі, як салдат, што ішоў на варожы танк з бутэлькай гаручага, біў яго гэтак жа бязлітасна і з пазіцыі далёкага прыцэлу, з пазіцый найвышэйшых чалавечых ідэалаў і імкненняў. Тут на дапамогу пісьменніку прыходзілі яго даўнія замыслы, яго творчыя ідэі, яго тэмы. Чорны браўся за аповесць, за раман, за драму, працуючы над імі літаральна на калёсах, на кароткіх супынках цяжкай ваеннай дарогі.

У няскончаных раманах «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны Шлях», аповесці «Скіп’ёўскі лес», якія пісаліся ў дні вайны, мы бачым, можа, самую буйную творчую перамогу і ўздым К. Чорнага як вялікага народнага паэта, пагляд якога

прасціраецца на эпохі і ахапляе некалькі пакаленняў з іх жыццём, побытам і працай. Старонкі гэтых твораў чытаюцца як самыя запаветныя прызнанні, развагі і назіранні мастака, якія выпрабаваны ўжо доўгім часам, усімі пакутамі і ўсімі радасцямі самога народа. Чысціня людскіх душ, празрыстасць пачуцця, яснасць думкі ўвасабляюць ва ўсіх простых людзях, паказаных у раманах, самое сумленне народа, яго веру ў перамогу сонца над цемрай, адвечны народны аптымізм. Любімы герой Чорнага — просты, адкрыты і разумны чалавек, чалавек з народа. Гэта заўсёды творца, нястомны працавік. Ён імкнецца, каб як мага прыгажэй аздобіць жыццё, ён умее ўбачыць у чалавеку і ў прыродзе самае чыстае, узвышанае і пачэснае.

Героі Чорнага садзяць сады, будуюць светлыя прасторныя дамы, радуюцца плённаму ўраджаю з працы рук сваіх, з адкрытай душой сустракаюць незнаёмага і падарожнага і адступаюцца ад свайго роднага, калі ён становіцца адшчапенцам.

У апавяданнях, што напісаны ў часе вайны, К. Чорны паказвае духоўную прыгажосць савецкага чалавека. Звычайны селянін, старая непісьменная жанчына ў гэтых творах узнімаюцца над звярынай сутнасцю фашызму як самыя грозныя суддзі, вызначаныя гісторыяй.

Савецкія людзі знішчаюць ворага не толькі фізічна, яны нішчаць яго і ўсёй сваёй маральнай перавагай, велічнасцю свайго сумлення, сілаю сваёй савецкай гордасці.

Няўмольная цяжкая хвароба ўпарта падточвала сілы і здароўе пісьменніка. І трэба было мець велізарную волю, каб думаць не пра хваробу, а пра жыццярадасных, здаровых і вясёлых людзей — сваіх любімых герояў. Ніколі ў жыцці К. Чорнага не было такой хвіліны, каб ён не ведаў, пра што яму трэба пісаць, якіх людзей яму трэба паказваць. Ён жыў штодзённа ў асяроддзі сваіх герояў, як кожны з нас жыве ў асяроддзі сваіх родных, дарагіх, блізкіх і знаёмых — любімых і нелюбімых, прыяцеляў і праціўнікаў. Ён умеў не толькі бачыць жывога чалавека, але праз сваю творчую фантазію, праз рэальны мастацкі вымысел дамаляваць і дапоўніць багацце яго характару, характару яркага, арыгінальнага і самабытнага.

## III. Засведчана даверам

Беларусы на працягу ўсёй сваёй гісторыі былі такія сціплыя, што нават народная мудрасць не рашалася ўвасабляцца ў людскія імёны.

І цяпер, калі гаворыцца якая прытча, выслоўе, паданне, дык усё прыпісваецца двум міфічным аўтарам: «Як той казаў, як тая казала». Можа, нам, беларусам, гэтых Таго і Тую трэба пісаць з вялікай літары. Напэўна, гэта і ёсць нашы спрадвечныя мудрацы, жартаўнікі і веселуны, якіх стварыла народная фантазія.

На гэтыя думкі навялі мяне пазнейшыя паданні, звязаныя ўжо з імёнамі рэальных людзей, якія хоць і адышлі ў нябыт, але на жыццёвай дарозе пакінулі такі след, што мы, часта трапляючы на яго, пачынаем патроху забывацца — кім ён пракладзены.

Паданні ствараюцца лёгка. Цяжэй зберагчы ў памяці зерні сапраўдных падзей і жывыя абліччы дарагіх нам сяброў.

Яркая, самабытная постаць Кузьмы Чорнага, чалавека і пісьменніка, творамі якога мы захапляемся, вельмі хутка сталася ў нас амаль паэтычнай легендай. У шматлікіх успамінах бывае ўжо цяжка адрозніць — дзе праўда, а дзе выдумка.

З запісаў таго часу, калі мы былі з ім у асабліва блізкіх дачыненнях і сяброўстве, — а гэта былі самыя цяжкія гады вайны, — з нататак, раскіданых у вандроўных блакнотах, я выбраў некалькі лісткоў, дарагіх мне як памяць пра яго, незабыўнага.

### *Вішні*

У 1923 годзе ў газеце «Савецкая Беларусь» было надрукавана яго першае апавяданне.

Гэта было напрыканцы вясны. А неўзабаве, летам таго ж года, ён прыйшоў у Мінск паступаць ва ўніверсітэт. Я не памыліўся, напісаўшы — прыйшоў. Сапраўды, ён пешкі прыйшоў са сваіх Цімкавіч у Мінск — сто сорак кіламетраў! З якім радасна-дзіцячым захапленнем ён расказаў пра свой прыход у сталіцу!

Першы, да каго ён пайшоў, быў Змітрок Бядуля. Гэта з яго лёгкай рукі на старонках газеты з’явілася апавяданне пачаткоўца.

Сам прыход да вядомага пісьменніка, знаёмства з ім, — здавалася, хапіла б і гэтых уражанняў для цімкавіцкага падарожніка. Але Бядуля быў чалавек шчодрай душы: яму не цярпелася пазнаёміць хлопца яшчэ і са сваімі знаёмымі.

— Пойдзем, братко, да Чарвякова! — падхапіўся ён і пацягнуў свайго новага сябра не ў канцылярыю высокай установы, дзе працаваў старшыня ЦВК, а да яго на кватэру.

Госці з’явіліся якраз упару. Гаспадар быў дома.

— От, Аляксандр Рыгоравіч, — сказаў Бядуля, — прывёў да вас пазнаёміць: Кузьма Чорны — малады пісьменнік. Апавяданне было ў нашай газеце.

— А-а, чытаў, чытаў, — весела сказаў Чарвякоў. — Добра, што прыйшлі. Сядайце, хлопцы. Толькі чым жа мне пачаставаць вас?

Сапраўды, і для прэзідэнта рэспублікі таго часу гэта быў клопат не меншы, чым для кожнага іншага гараджаніна, у дом якога зайшлі добрыя сябры.

Чарвякоў падышоў да шафы і дастаў адтуль вялікую паліваную місу:

— Частуйцеся, браткі.

У місе былі спелыя, сакаўныя вішні. Пачыналася самая пара на іх.

З гасцявання ў прэзідэнта гэтыя вішні асабліва запомніліся, як падрабязнасць, што на ўсё жыццё звязала падзеі таго дня.

Натуральнасць, даступнасць у абыходжанні, сам побыт яго новых знаёмых — ад вядомага пісьменніка да прэзідэнта — амаль нічым не адрозніваліся ад побыту і турбот тых людзей, у асяроддзі якіх нарадзіўся і вырас цімкавіцкі юнак Мікалай Раманоўскі, які ўжо стаў Кузьмою Чорным.

Ён добра разумеў і адчуваў, бо не мог не разумець і не адчуваць, што хоць яго новыя знаёмыя і падняліся ў жыцці на больш высокую ступень, чым ён, але наколькі ж гэта даступныя, блізкія ўсім людзям людзі, і тым больш яму, які пачынаў ужо спасцігаць незвычайны свет чалавека і тыя каштоўнасці, што набываюцца не толькі вопытам жыцця, воляю і характарам, а перш за ўсё — чуйнасцю сэрца і душэўным далікацтвам.

### *Хведар і Сіваварон*

Як і мае аднавяскоўцы, цімкаўцы ездзілі рабіць сена на палескія балоты — за Вызну, Веску, Орлік і Малы Рожан.

Едучы з сенакосу цэлым абозам цераз палескія сёлы, яны весела перагукваліся з вазоў.

Палешукі любілі гэтыя відовішчы. У жыцці глухой лясной вёскі гэта была падзея — пабачыць чужых людзей, паслухаць мову, не зусім падобную на іх гаворку.

Сядзяць сабе на прызбах пры хатах або на гары бярвенняў у доўгіх палатняных кашулях, у зрэбных споднiках, падвязаных знізу па самых костачках матузкамі, і глядзяць на незнаёмых вясёлых паязджан. Чым не спектакль!

Ловіцца кожнае слова. Нават простае імя здаецца дзіўным, рэжа слых сваёй нязвычнасцю.

— Сіваварон! Чуеш, Сіваварон, — у іх чалавека Хведарам завуць. Гы-гы-гы!

Хведар — смешна палешуку, а тое, што ён — Сіваварон, дык гэта ж так і трэба.

### *Як у вас было*

У час нашых цяжкіх вандровак у першыя дні вайны, а часцей за ўсё — ночы, калі, стомленыя, знясіленыя, а бывала, і галодныя, прымошчваліся мы на выпадковы начлег, колькі расказваў ён розных — пацешных і сумных, вясёлых і горкіх — прыгод і гісторый з жыцця дарагіх яму цімкаўцаў!

І сам любіў паслухаць. І калі што ўражвала, падабалася — не забываўся. Праз многа дзён успомніць і перапытае.

— Як гэта ў вас было? — І перакажа прыгоду ўжо ў сваёй, больш яркай перадачы.

Асабіста і я шчаслівы і тайна, у душы, ганаруся, што і мая адна драбніца прыдалася яму.

З яе, з гэтае драбніцы, пачынаецца апавяданне, якое ўжо стала хрэстаматыйным:

«Вёска Галаскі выславілася тым, што ў ёй чалавек малога росту і сярэдніх год Пархвен Катлубовіч біўся з п'яным пеўнем…»

Пра гэтае смешнае здарэнне расказвалі ў маёй роднай вёсцы. Адзічэлы на самоце хутаранін адзін выцубіў бутлю настойкі, а п'янымі ягадамі накарміў пеўня. Як яно ўсё было ў сапраўднасці — адзін Бог ведае. Прайшоўшы праз людскі домысел, яно сталася паданнем, якое памятала не адно пакаленне маіх аднавяскоўцаў.

Увосень 1941 года я расказаў яго Чорнаму ў гарадку Болхаў, на Арлоўшчыне, дзе мы прыпыніліся і жылі некалькі тыдняў, выпускаючы газету, што перапраўлялася праз фронт на родную зямлю.

### *З кірмашу*

На Трайчанах, прыгараднай слуцкай вуліцы, размінаюцца вазамі два старыя цімкаўцы. Адзін кагадзе што ўязджае ў горад, а другі паспеў ужо справіць свой інтэрас.

— Здароў!

— Здароў!

— На кірмаш?

— На кірмаш.

— А хто гэта ў цябе на возе з дзіцем?

— Як хто? Жонка мая.

— Твая?

— Мая.

— І дзіця тваё?

— Маё.

— Няўжо? Што ты кажаш? Га-га-га!

Здзіўленню вясёлага цімкаўца, што пабываў ужо на кірмашы, няма канца. Яшчэ доўга будзе рагатаць ён на ўсе Трайчаны, нікольки не бянтэжачыся, што грубую, развязную мужчынскую гаману чуе не толькі баба, што сядзіць на возе, але і нядзельная слуцкая вуліца.

### *Адным вокам*

Маўклівы, пакрыўджаны лёсам местачковец быў сляпы на адно вока. Каб схаваць бяльмо, ён заўсёды хадзіў у шапцы з нізка насуненым казырком.

Усе ведалі пра яго бяду. Але на людзях абавязкова знаходзіўся нядобры жартаўнік:

— Чаму гэта ты вока закрываеш?

Гучна плюнуўшы ўбок і цяжка кректануўшы, чалавек адказваў:

— Гэ, хопіць мне на такіх паскуднікаў глядзець і адным вокам.

### *Суседава бяда*

Сусед быў паэтам. Праўда, ён не пісаў вершаў. Ён быў паэтам у душы. Найбольшым шчасцем і асалодай для яго, самотнага гарэтніка, былі птушыныя спевы. Ён ведаў усіх птушак, іх галасы, усе іх звычкі і норавы. Кожнае зімы ў яго хаце абавязкова была ўцеха яго сэрцу — вясёлы, вёрткі, галасісты шчыгол.

І вось аднае раніцы, ужо добрым замаразкам сусед зайшоў у хату Раманоўскіх. Ён быў сам не свой. Нават не сказаў «дзень добры», а як быў у шапцы, так і сеў на лаве ў мыцельніку.

— Божа ж мой, божа… — толькі і вымавіў ён.

Уся хата Раманоўскіх успалашылася:

— Што з табою? Што ў цябе, браце?

Сусед доўга маўчаў, нічога не гаворачы, толькі цяжка ўздыхаў. І нарэшце з пакутным адчаем, з невыказным смуткам даверыў суседзям сваю жахлівую бяду: :

— Божа ж мой, божа. Гэта ж на зіму без шчыгла застаўся. З першым замаразкам не ўлавіў. А хутка ж снег, завеі — дзе ты яго цяпер уловіш?

## *Дырэктар салатопкі*

Як ён цягнуўся душой да адкрытых, шчырых людзей, хоць яны на лесвіцы грамадскага жыцця маглі стаяць на самай апошняй прыступцы або і зусім не стаялі ні на якіх прыступках, радуючыся таму, што само жыццё, клопаты людзей у нейкай сваёй неабходнай меры ўсё ж не абыходзяцца без іх.

Колькі разоў я чуў, як Чорны ўспамінаў дзядзьку Беляка, што займаў «самую высокую пасаду» ў іх мястэчку — дырэктара салатопкі.

Што гэта за прадпрыемства — няцяжка здагадацца: месца наводшыбе ад паселішча, звалка, куды вывозяць непатрэбшчыну.

І хоць гэта непрыемныя клопаты, але нехта ж павінен рабіць і такую няўдзячную работу: парадкаваць адкіды, пераплаўляць у катле, адпраўляць у горад, каб потым мець пахучае, усім неабходнае мыла.

Дзядзька Бяляк пачэсна спраўляўся з абавязкамі кіраўніка гэтага адзінага тады індустрыяльнага гіганта ў Цімкавічах. У дадатак да ўсяго, гэта быў закадычны прыяцель Чорнага. У кожны свой прыезд дадому пісьменнік не мінаў фабрыкі дзядзькі Беляка. Ён любіў пагаварыць з гэтым добрым і даверлівым да дзіцячай наіўнасці чалавекам.

## *Кіно*

Першы раз у мястэчка прыехала кіно. Людзі чулі пра гэтае дзіва, але ніхто яшчэ не бачыў.

Самая большая хата, вядома, не магла змясціць усіх. Нашылася столькі, што не прадыхнуць.

Купіў білета і дзядзька Бяляк — дырэктар салатопкі.

Яго захапленне «кіном» пачалося адразу ж, як толькі ён пераступіў парог.

На калодзе пры самых дзвярах стаяў апарат, які круцілі рукамі. Ад ахвотнікаў-круцялёў не было адбою. Гэта ўсё — малыя паджыганцы, падлеткі. Яны таўкліся ў парозе вакол апарата. Шчасліўчыкі круцілі ручку. Апарат трашчаў і сіпеў.

Гэта і было галоўным, што спыніла ўвагу дзядзькі Беляка. Ён доўга глядзеў на апарат, слухаў, як ён сіпіць, трашчыць і страляе, выкідваючы тонкі пучок святла, цмокаў у захапленні языком і ўсё прыгаворваў:

— Ай, ай, ай! От устройства дык устройства! Гэта ж трэба такое выдумаць!..

Доўга б ён яшчэ так стаяў і захапляўся, каб дзеці не сказалі яму:

— Дзядзька, вы вунь на сцяну гляньце!

Толькі цяпер дырэктар цімкавіцкай салатопкі заўважыў: і праўда, усе глядзяць на сцяну, дзе яшчэ большае дзіва.

— Дык гэта яшчэ і гэтта? — зусім атарапелы ад нечаканасці столькіх уражанняў, выгукнуў дзядзька Бяляк і стаў разам з усімі глядзець першую ў сваім жыцці кінакарціну.

## *Нашэсце цімкаўцаў*

Гэта ў наш час горад з яго жыццём, рухам, сваімі клопатамі ўжо не дзіва для вясковага чалавека. А колькі пакаленняў сялянства перакалацілася ад страху, трапляючы ў яго па неабходнай жыццёвай патрэбе — паперы казённыя выправіць, дамагчыся праўды, знайсці ўправу на крыўдзіцеля. Ва ўсіх на памяці коласаўскі «дзядзька ў Вільні».

Кузьма Чорны вельмі ж любіў «Новую зямлю» за яе маштабнасць, вялікі ахоп падзей, а галоўнае — за яркую жыццёвасць характараў. Многія гады ён рыхтаваўся да грунтоўнага даследавання гэтага твора. У часе вайны ён неаднойчы ўспамінаў, што ў яго былі напісаны цэлыя раздзелы, але засталіся яны ў Мінску разам з усімі рукапісамі.

Вядома, ён рыхтаваўся не да навуковага звання — тады не было гэтай стыхійнай моды ў асяроддзі нашай інтэлігенцыі. Яму як мастаку вельмі ж блізкімі былі людскія характары коласаўскай паэмы, тыя спрадвечныя, запаветныя спадзяванні, якімі яны жылі.

Пачаўшы з «дзядзькі ў Вільні», прыгадваю, як Кузьма Чорны сам любіў пераўвасабляцца ў такіх «дзядзькоў», што трапілі ў вір гарадской стыхіі. Часцей за ўсё ён пераўвасабляўся ў сваіх цімкаўцаў.

У яго быў распрацаваны цэлы сюжэт ужо не пра аднаго дзядзьку, а пра цэлае нашэсце цімкавіцкіх дзядзькоў, якія так асмялелі і расхрабрыліся, што рынуліся на Мінск, каб захапіць яго пад сваю ўладу і ўстанавіць такія парадкі, без якіх не можа жыць руплівы гаспадар, у якога не павінны згуляць і прапасці ніводзін лапік зямлі.

З чаго пачалі цімкаўскія захопнікі?

Перш за ўсё — узаралі Саборную плошчу і засеялі аўсом, бо ўсім жа вядома, як ён добра расце па навіне — ажно буяе!

## *Сала з хлебам*

Аднойчы каля вакзала ён убачыў чалавека, які сядзеў на прыступках ганка з развязанай торбаю на каленях і еў свой дарожны полудзень.

Чорны ўважна паглядзеў на яго збоку, потым падышоў блізка:

— Вы з-пад Слуцка?

— Ну, але.

Яны пагаварылі і разышліся.

— Ваш знаёмы? — спытаўся я.

— Не.

— Як жа вы пазналі, адкуль ён?

— А пазнаў па тым, як ён еў. Ты бачыў, як ён сала кусае — на повен рот. А хлеб толькі для смаку. Гэтак ядуць толькі ў нашай старане. Чалавек есць сала з хлебам, а не хлеб з салам.

## *Гарачая капуста*

Працягласць прыпынкаў нашай рэдакцыі на пэўным месцы залежала ад становішча на фронце. У першыя ваенныя месяцы надоўга мы не маглі нідзе атайбавацца. Ледзь паспееш выдаць нумар, і ўжо зноў у дарогу — нялёгкую, сумную, пакутную. Тады мы — пісьменнікі, журналісты, мастакі — былі ўсе людзі маладыя. Саракагадовы Кузьма Чорны быў самы старэйшы. Нездарма амаль усе звалі яго дзядзькам. І яго ўзрост, і тая высокая пашана, якою ён карыстаўся між нас, зрабілі яго душой нашага невялікага калектыву.

Да яго гарнуліся ўсе — і знаёмыя, і незнаёмыя, адчуваючы заўсёды як бы сваю асабістую віну за тое, калі гэтаму чалавеку было цяжка.

Позняй восенню ўжо недзе каля самай Масквы нас, змарнелых, згаладалых, упусцілі пражывіць душу ў нейкую прыдарожную сталоўку: на кухні была адна капуста, памятаю, нават не крышаная, не шаткаваная, а з цэлых лістоў. Яна была такая гарачая, да таго ж у алюмініевых місках, што мы доўга ніяк не маглі падступіцца да яе яшчэ і па той прычыне, што ў сталоўцы не было лыжак. Яны сталі асабістай уласнасцю тых, хто сталаваўся тут да нас. Мы былі непрадбачаныя сталаўнікі.

Я сядзеў на лаве пры стале побач з Мікалаем Карлавічам. Чым памагчы яму? Што прыдумаць? Скрылікі хлеба, якія нам выдалі па самай высокай норме і якімі мы стараліся падчапіць капусныя пласты, адразу ж размакалі, мяшаючыся з пустою гарачаю жыжкаю.

І крыўдна, і горка. Якія мы былі бездапаможныя ў самай простай бядзе.

Я глядзеў на свайго любімага друга і думаў: «Божа мілы, калі ты ёсць на небе, то, мабыць, толькі дзеля таго, каб глядзець з вышыні і паціраць рукі ад задавальнення, як мы, грэшныя твае стварэнні, хлебчам сваю грэшную страву…»

### *Трапетуны*

Простая даверлівасць, бясхітраснасць пагляду на самыя, здавалася б, складаныя з'явы жыцця ў людзей, якім не даводзілася мучыцца асаблівымі душэўнымі перажываннямі, былі блізкія і зразумелыя Чорнаму гэтак жа, як і загадкавасць тых самабытных, складаных натур вясковых філосафаў, што ўласным розумам імкнуліся дайсці ўсяго самі, — натур неспакойных, няўрымслівых душою, але разважных, павольных і нават марудных.

Яны, гэтыя характары, асабліва вабілі маладога Чорнага ва ўсіх яго апавяданнях, аповесцях і раманах.

Можа, ад таго, што і натура самога пісьменніка насычалася больш разнастайнымі адценнямі пачуццяў, імкненнямі да большай яркасці кантрастаў, да драматызацыі канфліктных супярэчнасцяў, ён у пазнейшых сваіх творах — нават у трагічных сітуацыях — любіў такія людскія характары, што асабліва вызначаліся весялосцю, выдумкай, здольнасцю пацешыць, і нават з пэўнай пісьменніцкай сімпатыяй маляваў заведамых брахуноў, трапетуноў, камарынай філасофіі якіх хапала толькі на самаапраўданне даволі непрыглядных учынкаў, што ўяўляліся ім самім ледзь не гераічнымі подзвігамі.

Як чалавек, ён іх ненавідзеў, а як сапраўдны мастак, — ён імкнуўся зразумець, спасцігнуць іх успрыманне жыцця, убачыць свет іх вачыма, дайсці сутнасці іх «маралі», патайных жыццёвых спружын іх дзейнасці.

Як ненавідзеў ён прыстасаванцаў — усёй той мімікрыі, што пры дапамозе слоўнага шумавіння навучылася з вытанчанай дасканаласцю выдаваць сябе ледзь не за самыя перадавыя сілы грамадства. Трапятун са скуры лезе, каб ашаламаніць вас патокам слоў і ў той жа час не выказаць аніводнай сваёй думкі, свайго меркавання. У спосабах, у сродках прыстасавання — гэта небяспечныя паразіты. Але да іх не так лёгка падступіцца. І колькі б ты ні ўлазіў у іх шкуры, каб спасцігнуць, якой меркай вымяраецца іх подласць, усё адно нават, як мастак, ты будзеш адчуваць сябе асенізатарам, якому даводзіцца выграбаць памыйныя ямы.

## *Гаворка трапетуноў*

Брахуны настолькі ўдасканаліліся, што за пустаслоўем ніяк не дойдзеш сэнсу — хто што думае.

Адзін хітруе перад другім. Адзін аднаму не верыць. І толькі дзеля адводу вачэй, дзеля вымушанай прыстойнасці вядуць між сабой размову.

Гэта мініяцюра, напісаная Чорным мімаходзь, жартам. Яе рукапіс падараваны мне.

«— Ну?! Быць не можа!

— Чэснае слова!

— Ну і што?

— Вабчэ дажа.

— Ну? Што т-ты кажаш?

— Каб я так жыў.

— Э, дык жа добра.

— Да. Харашо.

(Разыходзяцца.)»

## *«Урэменна»*

— Мабыць, я такі жанюся?

— З кім?

— Ну з гэтай… з Манькай.

— Каторай?

— Ну, што ў буфеце…

— Рыжай?

— Ну.

— Рабой?

— Ну.

— Касавокай?

— Ну.

— Ты што, здурнеў?

— Дык я ж… урэменна…

## *Проба пяра*

Проба — у літаральным сэнсе, як інструмента, як адзінага пісьменніцкага начыння, якім зроблена ўсё, што паспеў зрабіць.

Выбраць пяро, апрабаваць яго, упэўніцца, як яно ходзіць: лёгка, плаўна, з націскам ці са скрыпам, — гэта была заўсёды важная для яго хвіліна перад тым, як распачаць работу.

Але гэтая проба не была механічнай, марным псаваннем паперы. Чорны настолькі паважаў кожны яе кавалачак, што ні-

колі не пісаў бяссэнсіцы, тым больш ні разу не бачыў я, каб ён па-заліхвацку практыкаваўся ў выкручванні свайго прозвішча.

Яно ставілася ў канцы ўжо зробленай работы. І гэта была таксама не менш важная для яго хвіліна. Закончыўшы аповесць, раман, напісаўшы апошні сказ, ён найбольшым урачыстым момантам завяршэння твора лічыў апошнюю кропку.

Гэтую самую высокую місію ён заўсёды даручаў сваёй, тады яшчэ малой, дачушцы.

— Ірачка, вось табе пяро. Бачыш гэтае слова? Пастаў тут кропку.

І толькі цяпер, з адчуваннем радаснай палёгкі споўненага абавязку, як пячаць, як знак уласнай адказнасці, прыкладаў свой подпіс — каржакаваты і важкі, просты і ясны: Кузьма Чорны.

Любоў да пяра ў яго была такая, як у аратага да плуга, у касца да касы, у токара да разца, у хірурга да скальпеля.

Ён не мог заставацца безуважным, убачыўшы пяро, якога ў яго яшчэ няма. Як яно піша?

Колькі выпадковых лісткоў, а то і шматкоў газеты пабывалі ў яго пад рукамі ў хвіліны, калі новае пяро трымала свой строгі экзамен!

Самым шчаслівым было тое, што адразу ж выводзіла патрэбны сказ, знаходзіла ўдалае слова, брала тую адзіна неабходную ноту, ад якое пачыналася музыка вобраза, характару, пейзажу, музыка ўсёй карціны, якая чулася і бачылася пісьменніку…

*1959–1970*

## АБЛІЧЧА ДРУГА

Чытаючы дарагіх майму сэрцу паэтаў, я люблю, калі ў кнізе ёсць партрэт аўтара, падоўгу ўглядацца ў яго аблічча, у яго вочы. Хочацца як мага болей пабыць сам-насам з другам, жывое слова якога адгукнулася радасным водгуллем у тваёй душы.

Роднае аблічча аднаго з любімых мною паэтаў я меў шчасце бачыць не толькі ў кнігах, але і ў самім жыцці. І гэта мне асабліва дорага.

Я радаваўся кожнай сустрэчы з ім. І калі глядзеў у яго вочы, імклівыя і вясёлыя, праніклівыя і ясныя, мне заўсёды здавалася, што за доўгай сівой барадой схаваўся чарадзей з душой юнака, да самазабыцця закаханага ў жыццё і ва ўсё прыгожае на свеце.

Пэўна, гэта і ёсць шчасце сапраўднага паэта, які не мае права старэць. І колькі б ні было яму гадоў, ён застаецца маладым, здольным заўсёды адчуваць радасць маладосці.

Да Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі, аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай паэзіі, ніяк не прыставалі ні хрэстаматыйны глянец, ні эпітэты санавітасці, без якіх ужо ў такім узросце звычайна і не вымаўляецца славутае імя.

Уладзіміра Дубоўку па праву можна было назваць маладым паэтам за маладосць яго паэзіі, за творчую нястомнасць і няўрымслівасць, за смелыя пошукі і за тую задзёрыстасць, якая ўласціва толькі маладосці.

Усе, хто любіць нашу паэзію, вельмі часта маглі сустрэць яго імя то на кнізе лірыкі, то на вокладцы збору цудоўных казак для дзяцей, то пад вершамі, поўнымі глыбокага роздуму над жыццём, пад эпічнымі паэмамі аб сучаснасці і гістарычнымі паданнямі, што вабяць нас сваёй народнай мудрасцю.

Нялёгкім быў лёс паэта. Пачынаючы з 1930 года, ён прайшоў нямала выпрабаванняў, якія абышліся савецкім людзям цаной цяжкіх страт.

Сам паэт, вельмі неахвотна і скупа прыгадваючы той час, зазначаў, што «за тыя гады, як пісьменнік, нічога не рабіў».

Вось чаму, калі пасля трох дзясяткаў год творчага перапынку Уладзімір Дубоўка адразу ж актыўна ўключыўся ў нашу паэзію і голас яго загучаў з той жа свежасцю, як і ў дні юнацтва, але яшчэ з большай грамадзянскай палымянасцю, нельга было не парадавацца сапраўднаму байцу, які стаў у строй песняроў свайго народа.

І хоць паэт вярнуўся ў родныя мясціны ўжо чалавекам, які шмат перажыў у сваіх доўгіх і суровых вандроўках, і хоць за ўсе самыя цяжкія гады свайго жыцця не напісаў ні аднаго верша, ён, аднак, заставаўся паэтам, якому заўсёды былі вядомы не толькі таямніцы нясказанага слова, але і паэзія любой нялёгкай працы.

«Дзе б я ні быў, на якой бы працы ні стаяў, я ўсюды знаходзіў шмат прыгожага, сустракаў вельмі добрых людзей. Для мяне ніякая работа ніколі не была пакутай — яна заўсёды была для мяне жаданай, бо ўрэшце — ішла на карысць нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны».

І Волгу бачыў я, і Дон,
багата рэк сібірскіх бачыў.
Такі мой лёс: з юнацкіх дзён
ён вандраванні мне прызначыў.

Вадзіў праз горныя хрыбты,
цераз Байкал і за Байкалам.
А хараства, а пекнаты
аж цераз самы край бывала…

Так шчыра і задушэўна гучаць першыя ж радкі, напісаныя паэтам пасля звароту на радзіму.

Дапытлівымі, шырока раскрытымі вачыма свайго юнацтва паэт, поўны захаплення, глядзеў на дарагія сэрцу мясціны, дзівячыся пераўтварэнням, якія непазнавальна змянілі родную зямлю.

Памятаю, як летам 1959 года мы з Уладзімірам Мікалаевічам выправіліся ў вандроўку па Палессі. І правандравалі цэлы месяц.

З якой няўтольнай прагнасцю ўбірала ў сябе юнацкая душа паэта ўсе ўражанні нашай не такой ужо і лёгкай паездкі. Майму дапытліваму спадарожніку хацелася як мага болей убачыць, пачуць, пагаварыць з кожным новым знаёмым.

У чыстым і вясёлым, падобным на прыморскі гарадок Кобрыне мы выхадзілі ўсе вуліцы і зялёныя яго ўскраіны, аб’ездзілі Днепра-Бугскі канал, з цікавасцю наглядалі, як ідуць па ім у самы поравень з берагамі караваны цяжкіх рудавозаў з грузам, на які спатрэбіліся б дзясяткі чыгуначных эшалонаў. Дабіраючыся на катары з Пінска ў старажытны Тураў, мы не маглі надзівіцца той цягавітай нястомнасці, з якой дзень і ноч працуе на людзей казачна-прыгожая Прыпяць, што ўвабрала ў сябе ўсе рэкі і крыніцы палескага краю.

Прыехаўшы ў Тураў, мы палічылі, што знаходзімся нарэшце ў цэнтры Палесся. «Не, гэта яшчэ не Палессе! — пачулі мы ад тураўлян. — Палессе адгэтуль не ўбачыце». І Уладзімір Мікалаевіч наважыў абавязкова паглядзець сапраўднае Палессе, дабрацца да самай глыбіннай мясціны. І мы паехалі ў Радзівілавічы.

На «газіку» сакратара райкама па лясных і балотных дарогах мы дабраліся нарэшце і да палескай глушы, але глушы якраз і не ўбачылі. Вялікія вёскі, адбудаваныя нанава пасля вайны, Букча, Тонеж і Радзівілавічы на ўсё Палессе славяцца сваімі спевакамі і танцорамі, вышывальшчыцамі і ткачыхамі.

Вельмі радасна было бачыць, як новы побыт, што ўваходзіць у жыццё палешукоў, суладна спалучаецца з нацыянальным каларытам, з даўнімі добрымі народнымі звычаямі. Бадай ні ў якой іншай мясцовасці Беларусі вы не ўбачыце такой вясёлай яркасці ва ўборах, у адзенні, як на Палессі. У святочны дзень палеская вуліца пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі ад палосаў і стужак, якімі абшыты шырокія спадніцы маладзіц. Лёгкія бе-

лыя блузкі, вышытыя самымі дзівоснымі ўзорамі, — любімае ўбранне дзяўчат.

У тураўскай гасцініцы Уладзімір Мікалаевіч доўга і з веданнем справы выпытваў у нашай дзяжурнай Галі, як яна вышывае, дзе бярэ ўзоры. Сарамяжлівая дзяўчына, сумеўшыся ад такой нечаканай цікаўнасці, адказвала не зусім ахвотна, відаць, палічыўшы незнаёмага дзеда за вясёлага жартаўніка.

Затое ў тым жа Тураве, разгаварыўшыся са сталярамі, што рабілі дзверы і аконныя шуфляды для новага дома, паэт знайшоў сабе субяседнікаў на цэлы вечар. Майстар гаварыў з майстрамі аб паэзіі той працы, якая зразумелая і дарагая яму гэтак жа, як і паэзія слова.

І я, слухаючы гэтую гаворку, у глыбіні душы пазайздросціў шчодрасці таленту, якім валодае мой старэйшы друг. Такія людзі сапраўды бачаць радасць у кожнай рабоце, якую яны робяць. Гэта майстры, блізкія і патрэбныя людзям.

Уладзімір Дубоўка прайшоў суровую школу жыццёвай загартоўкі. «Аглядаючыся назад, разважаючы пра сваё, часам не вельмі лёгкае, жыццё, думаю, што вытрываць яго, застацца працаздольным да сённяшняга дня мне дапамагло працоўнае выхаванне, гартоўка, якую я атрымаў у сваёй сям'і ў маладыя гады», — гаворыць сам паэт.

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся непадалёк ад славутага возера Нарач.

«Мая маці, — успамінае паэт, — была непісьменная, але мела ясны прыродны розум, вельмі добра ведала беларускую мову і, паўжыцця пражыўшы ў Маскве, гаварыла толькі па-беларуску. Я ніколі не вучыўся ні ў якіх беларускіх школах, усё маё веданне беларускай мовы — ад маці і з вёскі. Вось чаму я маю поўную падставу называць беларускую мову — матчынай мовай…

У вёсцы я чуў толькі беларускую мову. Вось чаму мне так запала яна ў душу і сэрца. Некаторыя дзівяцца: «Вы ніколі не вучыліся ў беларускіх школах, пражылі бадай усё жыццё за межамі Беларусі, а мову ведаеце». Як жа яе не ведаць, калі яна родная! Як жа яе не любіць, калі яе стваралі на працягу вякоў твае продкі, гаварылі на ёй, перадалі табе ў спадчыну, як самы вялікі скарб свой…

Замілаванне да народнай творчасці было ў мяне ад малых гадоў і ідзе са мной усё жыццё.

Хата, начлег, млын, да якога прыязджалі памольшчыкі з розных вёсак, — гэта былі наша школа, наша бібліятэка, наша

радыё — уся наша пачатковая адукацыя. А песні… Ідуць са жніва, з поля маці, суседкі ды спяваюць:

А пара дамоў, пара-а-а-а…
Ужо ўзышла вячэрняя зара-а-а-а…

І цяпер гучаць тыя песні мне», — успамінаў з душэўным хваляваннем Уладзімір Мікалаевіч.

Маленства і юнацтва запалі ў душу паэта незабыўнымі ўражаннямі прынарачанскага краю.

Калі пачалася імперыялістычная вайна, чатырнаццацігадовы Уладзік разам з бацькамі, як і многія выгнаннікі, з бежанскім абозам цераз усю Беларусь едзе на ўсход. Неўзабаве ж, у час грамадзянскай, юнак бярэ ў рукі зброю і, як салдат новай арміі рабочых і сялян, становіцца ў рады абаронцаў маладой савецкай дзяржавы, змагаецца супраць усіх яе ворагаў, супраць тых захопнікаў, што выгналі яго сям’ю і сотні тысяч такіх сем’яў з роднай і дарагой сэрцу бацькаўшчыны.

Яшчэ ў франтавым шынялі ўражлівы юнак, успамінаючы песні маці, пачынае прабаваць уласныя сілы ў паэзіі, складае свае першыя вершы. І адразу ж, як толькі канчаецца вайна, малады, але ўжо загартаваны ў баях салдат бярэцца за вучобу. Ён паступае ў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут, які быў тады толькі заснаваны ў Маскве вядомым рускім паэтам В. Я. Брусавым.

«Даведаўшыся, што я беларус, — расказваў Дубоўка, — Валерый Якаўлевіч запытаўся, творы якіх беларускіх паэтаў я ведаю. Калі я назваў яму некалькі імён, ён запытаўся далей, якія творы Янкі Купалы я ведаю і якія больш за ўсё мне падабаюцца. Я назваў некалькі вершаў, у тым ліку “Адцвітанне”. Валерый Якаўлевіч ухваліў мой густ і сказаў, што яму таксама падабаюцца гэтыя вершы.

Заўважыўшы маё здзіўленне, ён сказаў:

— Я не толькі ведаю творы вашага вялікага паэта, але і сам перакладаў іх на рускую мову. Тым больш павінны ведаць і любіць яго творы дзеці беларускага народа».

Уладзімір Дубоўка становіцца адным з лепшых вучняў строгага, патрабавальнага майстра рускай паэзіі. 28 мая 1921 года газета «Савецкая Беларусь» друкуе першы верш маладога паэта. Да імён ужо добра вядомых у той час Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота далучаецца імя Уладзіміра Дубоўкі, голас якога з кожным годам гучыць усё мацней. Адна за другой выходзяць кнігі яго вершаў: «Строма»

(1923), «Там, дзе кіпарысы», «Трысцё» (1925), «Credo» (1926); паэмы: «Крычаўская спакуса» (1925), «Кругі», «Наля» (1927), «Браніслава» (1929).

Пад прыкметным уплывам Уладзіміра Дубоўкі ўваходзілі ў літаратуру многія маладыя паэты дваццатых гадоў.

Паэт вызначаецца сваім свежым, адметным талентам. Усхваляваныя словы маладога песняра глыбока западаюць у сэрцы яго сучаснікаў:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет,
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш!

Так пісаў Дубоўка, пісаў з цвёрдай, нясхіснай упэўненасцю ў светлы лёс сваёй радзімы, у яе будучыню.

Вучоба беларускага паэта ў лепшых майстроў рускай паэзіі, яго жыццё і праца ў Маскве ўмацоўваюць жыватворчыя сувязі і плённы ўплыў выдатных рускіх пісьменнікаў на маладую беларускую літаратуру.

Не дзіва, што ў асобе Уладзіміра Дубоўкі наша паэзія атрымала майстра, які адным з першых у Беларусі раскрыў і паказаў новыя багацейшыя магчымасці народнага паэтычнага слова.

Дасканала авалодаўшы еўрапейскімі мовамі, Дубоўка перакладае на беларускую мову выдатныя творы сусветнай класічнай паэзіі. Упершыню ў яго перакладзе ў нас паяўляюцца многія творы Байрана. Паэт нястомна падымае культуру роднага слова на вышыню прафесійнай дасканаласці. Ён шукае новыя формы інструментоўкі верша, новыя рытмічныя ходы, слоўныя сугуччы і рыфмы.

Лепшымі ўзорамі сваёй творчасці ён паказвае, як пад рукой майстра-наватара можа загучаць ва ўсім сваім характве магутнае і самабытнае беларускае слова. Яго ўвагу захапляюць паэтычныя паданні, казкі і легенды. Пад пяром Уладзіміра Дубоўкі многія з іх набываюць другое жыццё, паўстаюць у новай гераічнай велічы і душэўнай прыгажосці.

Кніга вершаў «Палеская рапсодыя» (1961) з’явілася як творчая справаздача паэта аб падарожжы на Палессе. Для мяне асабіста — вялікая асалода чытаць і перачытваць гэтую кнігу таму, што я быў сведкам яе нараджэння. За кожным вершам я пазнаю паэтычнае радаслоўе яго героя, прыгадваю тыя мясціны, аб якіх піша паэт, і людзей, з якімі мы сустракаліся, — і сакратара

райкама, і шафёра, што ў вольныя гадзіны аддаецца свайму любімаму занятку — маляванню, і хлопчыка-рыбалова, які купляе сабе школьныя падручнікі за свае, самім запрацаваныя грошы, і сарамяжлівую дзяўчыну Галю, што так і не выдала нам сваіх сакрэтаў дзівосных, вышытых ёю ўзораў. Як жывыя паўстаюць перада мною ў палескіх вершах Дубоўкі і тыя светлыя вобразы, што абудзіла ў душы прыгажуня Прыпяць, па якой праплылі мы ад Пінска да Мазыра, а потым, перасеўшы на дняпроўскі параход, паплылі ў чароўны і сонечны братні Кіеў.

Мне асабліва прыемна, што за кнігу «Палеская рапсодыя» паэт быў удастоены літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

Значнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі з'явілася кніга санетаў Вільяма Шэкспіра ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі. Гэта вынік яго натхнёнай працы да 400-годдзя найвялікшага волата сусветнай паэзіі.

У Дубоўкавай паэтычнай апрацоўцы выйшлі ў свет многія беларускія казкі для нашых самых удзячных чытачоў — для дзяцей.

Кнігі, у якіх адлюстравалася вялікае і складанае жыццё, нялёгкі шлях, творчыя пошукі, маладосць і сталасць аднаго з цікавейшых беларускіх паэтаў, будуць каштоўным здабыткам усіх, хто любіць паэзію, хто ў яе лепшых майстрах заўсёды бачыць аблічча сваіх задушэўных сяброў.

*1965–1976*

## МАЙСТАР

Мы жылі ў добрым суседстве ў адным доме, на адной лесвічнай пляцоўцы — дзверы ў дзверы.

Цяжка паверыць, што яго ўжо няма. Усё яшчэ здаецца, што вось пачую яго спакойную ўпэўненую хаду, яго разважны добры голас, які я прывык чуць кожны дзень.

Ёсць людзі, са смерцю якіх ніяк не можаш змірыцца яшчэ і таму, што сама іх натура ніколі не мірыцца з нябытам.

За многія гады, у якія я ведаў Пятра Фёдаравіча, пачынаючы з самага нялёгкага часу яго жыццёвай сталасці — у дні Вялікай Айчыннай вайны, і ў гады, калі набірала сілу новае пакаленне, і ў дні, калі паміж высокіх тытулаў — паэт, акадэмік — найбольш часцей усё ж гучала званне дзеда, якое павінна было напамінаць

чалавеку пра цяжар узросту, — я ні разу не чуў, каб мой сусед калі паскардзіўся на тое, што яму няможацца, што яму не па сіле работа, якую ён любіць, якою жыве.

Да позняе ночы за сцяной — лёгкае пакашліванне, размераныя ціхія крокі. Я ўжо ведаю — мой сусед працуе. Працуе тады, калі ўсе спяць, калі заціхлі шумныя вуліцы Мінска. Такія часіны душэўнай сабранасці, роздуму на адзіноце Пятро Глебка вельмі любіў і даражыў імі, хоць па сваім характары гэта быў нястомны, няўрымслівы завадатар самага актыўнага людскога таварыства. Там, дзе Глебка, там — вясёлая сябрына, там — шчырая і цікавая размова, размова аб літаратуры, аб паэзіі, аб жыцці, там — самыя вострыя, бескампрамісныя спрэчкі, хай сабе для некага і непрыемныя, але заўсёды справядлівыя. Пятро Фёдаравіч умеў сказаць праўду ў вочы свайму лепшаму сябру. І як бы табе гэта адразу ні здалося непрыемным, але ты ніколі не адчуваў крыўды, бо ведаў: чалавек, які ведае цану слову, не раскідаецца сваімі вывадамі і ацэнкамі.

У цяжкія гады вайны, калі мы, нешматлікае асяроддзе беларускіх пісьменнікаў, па закліку нашай партыі і ўрада рыхтаваліся да горкай і шчаслівай сустрэчы з роднай зямлёй не з пустымі рукамі, а ў сілу магчымасцяў і здольнасцяў кожнага — з рэальнымі здабыткамі сваёй працы, Пятро Фёдаравіч быў адным з самых натхнёных стваральнікаў часопіса «Беларусь», потым — нашага Дзяржаўнага выдавецтва, якое пачынала сваё жыццё суровай зімой 1944 года ў Маскве, у Вялікім Чаркаскім завулку, у халодных, прамерзлых наскрозь пакоях, дзе мы вымушаны былі пісаць алоўкамі, бо чарніла адразу ж замярзала. Адной з нямногіх кніг, якія выпусціла наша выдавецтва, было і маё «Гартаванне». Гэтая тоненькая, без вокладкі, на шэрай кепскай паперы, мая першая кніжачка — дарагая мне таму, што выпраўляў яе ў жыццёвую дарогу Пятро Глебка, паэт, кожны верш якога ў тыя дні прызнаваўся намі, маладымі, за самы высокі ўзор паэзіі.

Сапраўды, у тыя гады, у гады вялікай суровай мужнасці, можа, як ніколі праявіўся ва ўсёй сваёй сіле талент Пятра Глебкі, высокі талент паэта-філосафа. Кожны яго новы верш мы сустракалі як значную падзею нашага духоўнага жыцця. Такія шэдэўры Глебкавай лірыкі, як «Вячэрнія думы», «Сны хлапчука», «Смерць салдата», «Пісьмо з няволі», «Пасылка», «Зварот», «Аб чым спяваюць салаўі», самі сабою завучваліся на памяць, станавіліся душэўным здабыткам кожнага, хто любіў і шанаваў роднае слова.

Да яго заўсёды гарнуліся людзі. Ён вабіў адкрытасцю, шчырасцю. Незвычайная далікатнасць у абыходжанні была прыроджанай уласцівасцю яго натуры.

Пасля вайны, ужо ў Мінску, ён рыхтаваў да друку сваю кнігу. Гэта было першае грунтоўнае па сваіх памерах выданне, якое падводзіла вынікі яго паэтычнай працы за многа год. Кніга была складзена, не давалася назва. І вось аднойчы ў Саюзе пісьменнікаў падыходзіць да мяне Пятро Фёдаравіч і з нейкай вінаватасцю ў голасе пытаецца: «Ты не пакрыўдзішся, калі я назаву кнігу “Пад небам бацькаўшчыны”?»

Я здзівіўся. Тады ён сказаў: «Памятаеш, у цябе ёсць радкі: “Хіба ёсць на свеце шчасце лепшае, як пад небам бацькаўшчыны жыць”?» Праўда, гэта былі радкі з верша, прысвечанага Кузьму Чорнаму, са зборніка «Гартаванне», рэдактарам якога быў Пятро Фёдаравіч. Радкі самыя звычайныя, якія не адкрываюць асаблівых ісцін. Але Глебку, пры яго дасціпе, чамусьці здавалася, што я маю на гэтыя словы нейкае манапольнае права. Прызнаны майстар пытаўся, па сутнасці, у вучня, у свайго, так сказаць, чаляднікa дазволу злучыць разам словы, якія належаць усім людзям: «бацькаўшчына» і «неба». Цяпер некаторыя паэты бяруць адзін у другога не толькі назвы і зусім не бянтэжацца. Тады ж Глебка для зачыну, для настрою ўсёй кнігі напісаў свой верш «Пад небам бацькаўшчыны». Напісаў спецыяльна, і радкі, сагрэтыя яго запаветнымі пачуццямі, сталі сапраўдным здабыткам нашай лірыкі.

Мінулі гады. Чытаеш і перачытваеш яго вершы, якія ўжо сталі нашай класікай, і сэрца поўніцца гордасцю, што напісаў іх чалавек, якога мы ведалі, пра якога многія з нас з удзячнасцю гавораць: майстар, настаўнік.

*1970*

## З ВЕРАЙ І ШЧЫРАСЦЮ

І пры жыцці, і пасля таго, як ён адышоў ад нас, пачуццём высокай павагі я заўсёды выяўляў і выяўляю свае адносіны да гэтага чалавека,

Ён прайшоў праз імклівую плынь складаных, драматычных супярэчнасцяў і выпрабаванняў часу, ведучы і нас, многіх сваіх малодшых сяброў, цераз бурныя парогі і рыфы падзей, да асэнсавання якіх мы не заўсёды былі гатовыя і падрыхтаваныя.

У Ільі Данілавіча Гурскага быў вопыт выпрабавання. Можа, таму ўсе, хто памятае яго, зазначаюць самую адметную рысу яго характару — упэўненасць. Спакойная ўпэўненасць і вера ў лепшыя якасці чалавека. Нават у абставінах, што складаліся не ў карысць нечай рэпутацыі, ён быў напагатове не толькі заступіцца, а і паручыцца за таварыша.

Я пачынаю з гэтай рысы яго натуры, можа, таму, што магу засведчыць яе ўласным прыкладам. Маё знаёмства з Ільёй Данілавічам якраз супала з непрыемнасцямі, якія напаткалі мяне ў маладосці. Правінцыяльны журналіст, які, пачаўшы з заводскай шматтыражкі, працаваў у чыгуначнай палітаддзельскай газеце, быў запрошаны ў камсамольскую, рэспубліканскую. Але працаваць яму тут прыйшлося нядоўга. Толькі пачаў спасцігаць абсяг сваіх шырэйшых абавязкаў, ездзіць па абласцях і раёнах, заводах, фабрыках і калгасах, пісаць свае нарысы і рэпартажы, як падзеі, што ўсё болей абвастраліся, ствараючы напружанасць абстаноўкі, наблізіліся да кожнага з нас. У рэдакцыі, дзе я працаваў, людзі былі маладыя, але і нас тыя падзеі мералі самымі суровымі меркамі. У ліку адзначаных загадам «за прытупленне пільнасці» апынуўся без працы і я. І хоць праз дзевяць месяцаў быў адноўлены ў камсамоле, але факт выключэння, безумоўна, прыцямняў маё рэнамэ.

У рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» ў той час працавалі мае сябры Рыгор Лынькоў і Хвядос Шынклер, з якімі я пачынаў яшчэ з бабруйскай «Вясны» і «Камуніста». Яны рады былі памагчы маёй бядзе. Пра гэта, напэўна ж, была ў іх гаворка з рэдактарам. І вось Ілья Данілавіч прымае мяне ў супрацоўнікі, хоць дагэтуль асабіста мяне не ведаў.

Ён нейк незаўважна і вельмі хутка сыходзіўся з людзьмі. З ім лёгка і прыемна было кожнаму, незалежна ад розніцы ва ўзросце і ад службовай субардынацыі.

На другі год нашага знаёмства, памятаю, здарылася так, што разам з ім я апынуўся ў Крыме. Ці то не знайшлося жадаючых, ці то, як кажуць, гарэлі пуцёўкі, — адна дасталася мне па неабходнасці лячэння, а другую ўзяў Ілья Данілавіч, каб адпачыць. Гэта быў мой першы курорт, не думаю, што і мой старэйшы таварыш меў большы курортны вопыт, бо, прыехаўшы на месца, мы дазналіся, што курортнікі мы — непаўнапраўныя, што ў нас не пуцёўкі, а курсоўкі, што жыць мы будзем на прыватнай кватэры, сталавацца ў доме адпачынку, а лячыцца ў гарадской паліклініцы. Вось табе і на. Але хутка нашы засмучэнні мінуліся. Мы былі нават задаволены, што і сваім часам, і рэжымам

распараджаемся самі. Я і цяпер часта ўспамінаю той далёкі восеньскі месяц, поўны ўражанняў і ад нашых гаворак, і ад сумесных вандровак.

Раскажу пра адну з тых, што асабліва запомнілася. Аднаго дня выбраліся мы ў даволі далекаваты ад нас Місхор, даверыўшыся мясцовай пагудцы, што там, у ларку санаторыя работнікаў лесу і лясной прамысловасці, прадаюць вінаград нейкага адменнага гатунку. Прыйшлі мы ў той санаторый. Бачым, і праўда — ля ларка ўжо шуміць чарга. І па праўдзе сказаць, не так чарга, як адзін жвавы, рухавы і вельмі ўвішны дзядок. Якраз яго голас мы і пачулі першы. Дзядок з некім не згаджаўся, абураўся, патрабаваў парадку, і што самае цікавае, гаварыў, спрачаўся, сварыўся… па-беларуску! Вобразна, сакавіта, смачна.

З дапытлівым здзіўленнем я зірнуў на Ілью Данілавіча. А ён, радасна рассмяяўшыся, адразу ж памкнуўся да няўрымслівага дзеда. Тут і я бліжэй убачыў нашага земляка.

— Ваюеш, дзед? — спытаўся Ілья Данілавіч. — Парадак наводзіш?

— Ага, — пацвердзіў стары, нават не здзівіўшыся сустрэчы, нібыта яны штодня бачыліся. — Па закону трэба, — дадаў дзед.

І тут высветлілася, што дамагаўся дзед «закону» не для сябе, бо ўсе расступіліся перад ім, першаму даючы дарогу да ларка. Наўрад ці хто ведаў тут, хто гэты ваяўнічы дзед, але ў кожнага выклікаў пашану ордэн баявога Чырвонага Сцяга, прывінчаны да зрудзелага на сонцы і даволі заношанага леснiковага кіцеля. Дзед патрабаваў роўнага права для ўсіх — і тонкіх знаўцаў смаку вінаграду, і тых, хто, можа быць, упершыню збіраўся паспытаць яго славуты гатунак.

Пазней, у галодныя і халодныя дні вайны, зноў працуючы разам з Ільёй Данілавічам ужо ў Маскве, мы амаль штодня сустракалі нашага славутага земляка, якога партызаны ўратавалі ад фашыстаў і прывезлі сюды на самалёце яшчэ болей пастарэлага, але, не зважаючы на стагадовы ўзрост, усё яшчэ гаваркога і цікаўнага да кожнай навіны і падзеі.

Васіль Ісакавіч Талаш ведаў магічную сілу славы, асабліва пасля таго, як з'явілася Коласава «Дрыгва», але не злоўжываў ёю. Можа, хіба ў выключных выпадках, каб пазбегнуць непрадбачаных непрыемнасцей. Не раз даводзілася бачыць, як на маскоўскіх вуліцах, не такіх ужо і шматлюдных у той час, дзед ніяк не мог разабрацца ў складаных для яго правілах руху. Ён пераходзіў вуліцу, дзе хацеў і дзе яму трэба было. Ледзь наш дзед паспяваў ступіць на брук, як узвіваўся прарэзлівы міліцэйскі

свісток. Дзед спыняўся на месцы. Міліцыянер падбягаў да яго і пачынаў строга ўшчуваць словамі. Дзед вінавата маўчаў. Не спяшаючыся, ён расшпільваў свой партызанскі кажушок, нібыта шукаючы дакумент, і страж парадку, убачыўшы яго баявыя ўзнагароды, пачціва аддаваў старому чэсць, браў яго пад руку і асцярожна пераводзіў на другі бок вуліцы. Стагадовы легендарны паляшук калі і думаў пра славу, дык, напэўна, вельмі па-свойму.

Памятаю, як аднаго разу, прыйшоўшы з Цэнтральнага штаба партызанскага руху, Ілья Данілавіч доўга і весела смяяўся, расказваючы эпізод, сведкам якога быў. Наш вядомы скульптар сказаў дзеду Талашу, што хоча зрабіць яго партрэт. Дзед з недаверам сустрэў гэты намер. Ён ніяк не мог уявіць, як зможа выглядаць у вобразе героя. Скульптар прапанаваў розныя паставы, нават верхам на кані, з шабляй у руках — дзед не згадзіўся.

Затое Васіль Ісакавіч быў вельмі задаволены, калі мастак Мадораў намаляваў яго ў кажусе, у шапцы-аблавушцы, з аўтаматам напагатове, з кулямётнай істужкай цераз плячо і аж дзвюма гранатамі на поясе. Тут дзед Талаш не пярэчыў — што ж, калі ў свае сто год ён, можа, і не такі грозны, але ж быў такі. Хай застанецца на добрую памяць. Партрэт быў зроблены па просьбе Ільі Данілавіча.

Вось чаму ён сам не менш, чым дзед Талаш, абрадаваўся гэтаму партрэту. Ён адразу ўзяў яго ў мастака і на цэлую старонку надрукаваў у часопісе «Беларусь».

Ілья Данілавіч быў душэўна чулым да сваіх сяброў — і да старых, і да маладых.

І сам ён карыстаўся выключным даверам. Па многа год у самыя розныя часы яму даводзілася ўзначальваць пісьменніцкую партыйную арганізацыю — і ў час тых складаных падзей, пра якія я ўспамінаў, і ў гады перад вайной, і пасля вайны. Рэдка хто з камуністаў даў столькі рэкамендацый новым членам партыі. І мяне ён рэкамендаваў як таварыш па працы і як партыйны сакратар.

Што характарызавала яго як кіраўніка? Мне здаецца — самыя лепшыя якасці, неабходныя людзям, ад паводзін, ад ацэнкі, ад улады і адказнасці якіх залежаць поспех, зладжанасць калектыву і кожнага паасобку, — гэта давер, яшчэ раз давер і ніякага падкрэслівання сваёй перавагі перад іншымі.

Хто з нас не памятае, як Ілья Данілавіч рыхтаваў і праводзіў кожны партыйны сход, колькі ён асабіста ўкладаў у гэтую падзею турбот і клопатаў. Але вось сход пачынаўся, і сам парторг адыходзіў як бы на другі план. Ён строга сачыў, каб кожны раз нават

сходам кіравалі ўсё новыя і новыя людзі. А як ён умеў і ведаў, каму якое заданне, даручэнне будзе болей прыдатнае і цікавае. Наўрад ці хто мог калі адмовіць нашаму сакратару ў яго просьбе, не выканаць яго даручэння. Я памятаю тыя пасляваенныя сходы, кожны з якіх быў падзеяй для ўсёй пісьменніцкай арганізацыі — і для камуністаў, і для беспартыйных. Яны, гэтыя сходы, будзілі думку, далучаючы кожнага з нас да асэнсавання найбольш значных праблем жыцця і літаратуры.

Гэтыя ж якасці вызначалі Гурскага і як арганізатара любой справы. Яны былі ўласцівы яму і як рэдактару, можа быць, самаму выдатнаму рэдактару, з якім мне прыйшлося працаваць.

Па рабоце ў газеце «Літаратура і мастацтва» і пазней — у часопісе «Беларусь» я бачыў, як ён чытаў творы сваіх калег — літаратараў. Ён быў цвёрды ў прынцыповых ацэнках, але з выключнай павагай ставіўся да творчай манеры, стылю, мовы кожнага. Мабыць, давер і разуменне ўзаемнай адказнасці, а не толькі сваёй, асабістай, і ў рэдактарскай практыцы памагалі Ілью Данілавічу падтрымліваць і паважаць самастойнасць творчай індывідуальнасці…

Ішла вайна — жахлівая, бязлітасная. Пасля бясконцых і розных дарог сабралася нас невялічкая жменька беларускіх літаратараў у Маскве. Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, наш урад ужо былі заклапочаны — як, з якімі сіламі рыхтавацца да аднаўлення жыцця на родных руінах і папялішчах. На абавязку пісьменнікаў было зрабіць усё магчымае, каб распачаць выданне кніг, газет, часопісаў. Зімой 1943 года было створана Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Яго супрацоўнікаў тады можна было пералічыць па пальцах адной рукі: галоўны рэдактар — Кандрат Крапіва, яго намеснік — Пятро Глебка, літаратурны рэдактар — аўтар гэтых радкоў. Дырэктар нам трапіўся, мабыць, чалавек выпадковы, бо сутнасці сваіх абавязкаў ніяк не мог уцяміць і запомніўся толькі сваімі пышнымі вусамі і мянушкаю, якою ён называў усіх нас: «мае пахары». Неўзабаве дырэктарам быў прызначаны Васіль Паўлавіч Іваноў. Якой радасцю былі, няхай бедна аформленыя, надрукаваныя на шэрай паперы, кнігі Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, літаратурны альманах «Беларусь» з творамі Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Міхася Лынькова, Ільі Гурскага, Эдзі Агняцвет, Антона Бялевіча, Анатоля Астрэйкі, Паўла Кавалёва, Кастуся Кірэенкі, Міхася Машары!

Неўзабаве па рашэнню Цэнтральнага Камітэта партыі ўтвараецца часопіс «Беларусь». Дзе ўзяць супрацоўнікаў, хто будзе выпускаць яго? Магчымая наяўнасць людзей — тыя ж, лічаныя па пальцах. З Калінінскага фронту, з газеты «За свабодную Беларусь» выклікаецца яе рэдактар Ілья Гурскі. Ён прызначаецца галоўным рэдактарам часопіса, яго намеснікам — Пятро Глебка, загадчыкамі аддзелаў — Кузьма Чорны, Віталь Вольскі, Яўген Мазалькоў, адказным сакратаром — я.

У новым, 1944 годзе выходзіць першы нумар «Беларусі». Гэта была падзея не толькі для нас, супрацоўнікаў. Першыя старонкі часопіса паведамлялі доўгачаканыя навіны — пачыналася пераможнае наступленне Чырвонай Арміі. Шматпакутная зямля ачышчалася ад фашысцкай навалачы. Ужо былі вызвалены Клімавічы, Крычаў, Чэрыкаў, Нова-Беліца, Добруш, Гомель.

На старонках «Беларусі» друкуюцца творы пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, артыкулы нашых вучоных, такіх, як Пічэта, Нікольскі, Жэбрак, Дабрынін, Шамбінага, чэшскі прафесар Здэнек Няедлы. З яркімі ўзрушанымі словамі, звернутымі да беларусаў, выступаюць Ілья Эрэнбург і Максім Рыльскі. Аб гераічнай барацьбе партызан расказваюць С. Каўпак, П. Панамарэнка, М. Зімянін, І. Кожар, П. Калінін…

Вакол часопіса гуртуецца беларуская творчая інтэлігенцыя, якая самаахвярна рыхтуецца да сустрэчы з роднай зямлёй, каб аддаць ёй усе імкненні сваёй душы, працу і талент. У збіранні, у арганізацыі гэтых сіл немалая заслуга Гурскага. Яго вопыт, яго жыццёвая загартоўка добра прыдаліся ўсім нам у тыя нялёгкія дні і ў першыя гады, калі мы вярнуліся ў зруйнаваны і спустошаны Мінск, стараючыся выпускаць часопіс на тым паліграфічным узроўні, на якім ён пачаў выходзіць. Не адразу ўсё наладзілася. Яшчэ доўга мы мусілі рабіць клішэ, рыхтаваць каляровае афармленне ў Маскве. Я і цяпер з глыбокім пачуццём удзячнасці ўспамінаю маскоўскіх паліграфістаў, дапамозе якіх мы многім абавязаны. Наш часопіс выпускала 3-я друкарня «Красный пролетарий». Нашы маскоўскія сябры набіралі і друкавалі яго на беларускай і рускай мовах. Шмат памагалі нам у той час выдавецтва і рэдакцыя «Известий», якія дзяліліся з беларусамі ўсім, чым маглі. У будынку «Известий» на Пушкінскай плошчы, паблізу ўсім вядомага помніка Аляксандру Сяргеевічу змяшчаліся рэдакцыя газеты «Савецкая Беларусь» і сатырычнае выданне «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Жывая ініцыятыва, уменне знайсці сабе памочнікаў заўсёды былі ўласцівы Ілью Данілавічу. Яму ўсё давалася неяк

незаўважна, без шуму і лішніх слоў, хоць кожная новая справа, кожнае пачынанне, безумоўна, не абыходзіліся без хваляванняў, цяжкасцей, а часта і непрыемнасцяў. Яго ўпэўненасці, нясхіснасці перакананняў і ў той жа час душэўнай далікатнасці многія з нас маглі шчыра пазайздросціць. І хоць тады яму толькі яшчэ бралася на пяты дзясятак, мы, яго сябры, заўсёды добра адчувалі перавагу яго жыццёвага вопыту. За яго плячыма быў немалы шлях выпрабаванага камуніста, які пятнаццацігадовым хлапчуком паспытаў ужо і смак парабкоўскага хлеба і прайшоў загартоўку паравознага качагара на Абухаўскім заводзе.

Часта добрым словам успамінаў Ілья Данілавіч свайго піцерскага настаўніка, рабочага Шульгу, цяпер, вядомага з гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Не ў навіну Гурскаму была і вайна. Яшчэ юнаком ён бараніў Краіну Саветаў ад інтэрвентаў. Хоць і загаіліся даўнія цяжкія раны, але назаўсёды засталася ў сэрцы непрымірымасць да ўсіх, хто гатоў быў пасягнуць на заваёвы савецкага народа. Калі пачалася Вялікая Айчынная, Ілья Данілавіч з першага дня становіцца ў строй абаронцаў Радзімы. Пры газеце «За свабодную Беларусь» ён стварыў яшчэ і «Партызанскую дубінку», якая вельмі прыйшлася даспадобы і чырвонаармейцам, і партызанам.

Ва ўсіх, каму пашчасціла ведаць Ілью Данілавіча, засталіся і застаюцца самыя лепшыя ўспаміны. І працаваць, і сябраваць з ім было радасна. Ён быў уважны і спагадлівы да людзей.

Гаворачы пра ўсе гэтыя яго выдатныя якасці як чалавека паважанага і любімага, мы, калі не ўсе, дык многія з нас, магчыма, нават злоўжывалі яго добрасцю і даверлівасцю, асабліва тады, калі гэта датычылася непасрэдна яго літаратурнай творчасці.

Тэма гэтая найболей далікатная і складаная, каб тут падрабязна выкласці яе сутнасць. Ілья Данілавіч напісаў нямала — п’есы, апавяданні, аповесці, раманы. Далёка не ўсе яны, як і ў некаторых з нас, грэшных, на ўзроўні. Ёсць шмат наіўнага, бездапаможнага. Але рэдка ў каго знаходзілася сяброўская смеласць сказаць аўтару якраз тады тое слова, калі яно было неабходна.

Як ні цяжка было пісьменніку пачуць такое слова, але ён яго пачуў. І гэты, не такі часты ў нашым жыцці факт, стаў ледзь не сенсацыйным, калі на першым пасляваенным пленуме Саюза пісьменнікаў БССР Міхась Лынькоў раскрытыкаваў яго аповесць «Лясныя салдаты».

Нялёгка было аўтару адразу прыняць, асэнсаваць крытыку, але, трэба думаць, не лягчэй было і таму, хто крытыкаваў. І не толькі па абавязку дакладчыка, старшыні Саюза, але і яшчэ па

большаму абавязку сябра, аднагодка, калегі, суседа. Кіраўнік Саюза крытыкаваў кіраўніка партыйнай пісьменніцкай арганізацыі — франтавіка, з якім разам прайшлі ваенныя выпрабаванні, з якім і да вайны працавалі разам і нават жылі ў адным доме. Той, драўляны, двухпавярховы, адзін з нямногіх дзівам уцалелых, дамок і цяпер стаіць на вуліцы Апанскага. Мала хто ведае, што ў ім жылі Лынькоў, Гурскі, Маўр. На той час нам, хто туліўся па прыватных кутах, іх кватэры здаваліся шыкознымі, хаця, як цяпер я ўспамінаю, гэта былі цесныя пакойчыкі без усякіх выгод — хіба што садок у двары і воданапорная калонка, да якой хадзіла з вёдрамі траха не ўся вуліца. Адгэтуль Лынькоў і Гурскі пайшлі на фронт. Не было ні часу, ні магчымасці нават вывезці сем'і. Шмат запомнілася, шмат перажылося. І, можа быць, якраз тыя выпрабаванні, праз якія яны абодва прайшлі, і вымушалі іх быць шчырымі і адкрытымі да канца.

Як рэагаваў Ілья Данілавіч на суровую ацэнку сваёй аповесці? Калі сказаць, што адразу ж згадзіўся, — будзе няпраўда. І перажываў, і пакутаваў, і злаваўся. Але не затаіў крыўды. І сам паказаў выдатны прыклад сваіх адносін да крытыкі. Будучы рэдактарам «Беларусі», ён надрукаваў не інфармацыю і не пераказ матэрыялаў пленума, што болей адпавядала б профілю «тонкага» ілюстраванага часопіса, ён надрукаваў даклад Лынькова. Гэта быў прыклад і ўрок усім нам. Уласна кажучы, гэта былі два ўрокі, якія далі нам нашы старэйшыя таварышы.

Жыццё Гурскага ўвабрала ў сябе столькі падзей — і такіх падзей, што, каб апісаць яго, матэрыялу хапіла б дзясяткам пісьменнікаў. Ілья Данілавіч імкнуўся ахапіць перажытае і ўбачанае ў маштабах усёй гісторыі. Падзеі, эпізоды ўласнай біяграфіі ён браў як ілюстрацыі да гістарычнага кантэксту. Адсюль яго апісальнасць, хранікальнасць, інфармацыйнасць. Сваю біяграфію пісьменнік прывязвае да вузлоў мадэлі, якая выбудоўваецца ім стройна, разважліва, адпаведна храналагічнай паслядоўнасці.

Так напісаны яго многія рэчы ў прозе, у тым ліку самы вялікі па памерах раман-хроніка «Вецер веку», у аснову якога пакладзены гістарычныя падзеі, сведкам і ўдзельнікам якіх быў аўтар. Аднак непасрэднасць дачынення, жывая засведчанасць асабістымі ўражаннямі і перажываннямі аўтара і яго герояў часта вельмі прыблізныя і ўмоўныя па псіхалагічнай і мастацкай пераканаўчасці.

Цяпер, калі думаеш пра ўсё гэта, бачыш і прычыну, чаму многія з пісьменнікаў, а не толькі Гурскі, і пазней, і асабліва ў гады станаўлення нашай літаратуры, так разумелі абавязак

пісьменніка, што ён павінен у першую чаргу звярнуць увагу на пэўную праблему жыцця і заклікаць да яе вырашэння. Гэтым утылітарызмам прасякнуты многія творы тых ранніх год нашага грамадскага ўздыму. Моладзь шукала ў слове, у літаратуры дзейных сродкаў актыўнага далучэння да жыцця, да вырашэння надзённых і неадкладных задач часу. І прафесійная, і самадзейная творчасць у сваім прызначэнні бачылі перш за ўсё адкрыты, агітацыйны каэфіцыент эмацыянальнага ўздзеяння.

Ілья Данілавіч пачынаў якраз у тыя гады. Першымі яго творамі былі п'есы — той сродак мастацтва, з дапамогаю якога можна непасрэдна гаварыць з вялікай аўдыторыяй.

Яго дэбют у драматургіі быў болей шчаслівы, чым у прозе. Я памятаю спектакль па яго п'есе «Качагары», які выклікаў бурную дыскусію.

У маскоўскай Камакадэміі адбыўся дыспут, на якім «Качагары» атрымалі ўхвалу. Байцы і камандзіры Мінскага гарнізона, прагледзеўшы пастаноўку, прынялі рэзалюцыю аб тым, што «спектакль б'е ў цэль».

П'еса «Новы горад» была пастаўлена тэатрам рабочай моладзі, калгасным тэатрам у Беларусі і польскім тэатрам на Украіне. Са спектаклем «Сваты» Першы беларускі тэатр (цяпер Купалаўскі) раз'язджаў па вёсках і гарадах рэспублікі.

Па аналогіі можна было б успомніць, што ў той час і іншыя савецкія драматургі на першы план вылучалі агітацыйную задачу. Як цяпер, на сучасным узроўні эстэтычнага развіцця, ставіць або ўзнаўляць тыя п'есы? Без рэальнага адчування ўмоў эпохі, без разумення тагачасных уяўленняў, такія творы, засведчыўшы гістарычную адпаведнасць, у многім трацяць мастацкае ўздзеянне.

Падначаліўшы ўсе сілы і сумленне свайму часу, Ілья Гурскі працаваў нястомна і самаахвярна, упэўнены ў неабходнасці вырашэння кожнай задачы, што ставіла жыццё і патрабаваў грамадзянскі абавязак.

*1979*

# ЯГО ПОДЗВІГ

Успаміны, успаміны… Зірнеш на кніжную паліцу — колькі ж іх, тваіх сяброў, з кім ты можаш пагаварыць, параіцца, паспрачацца, парадавацца, ужо толькі чытаючы іх творы… Вось і яго творы, усе, што выйшлі пры жыцці, з дарагімі аўтографамі. А нядаўна ж так было даступна бачыць яго самога, чуць яго скупое, але заўсёды важкае слова. Як хутка мінае час, асабліва пасля таго, калі магутнае дрэва, якое кагадзе ўзвышалася над лесам, раптам упала. І хоць доўга яшчэ вакол ззяла прагаліна, але вось і яе як быццам няма. Вельмі ж густа забуяў падлесак. Хай здароў расце, шуміць, але ж заўсёды помніць, якія волаты саступілі яму прастору.

Як часта здараецца — спахопішся, а ўжо няма нават сведак, змоўклі і самі. Ёсць у нас нядобрая рыса ні то бесклапотнасці, ні то самаўпэўненасці — паспееццa, яшчэ зробім, успомнім, напішам. А магутны плуг часу няўмольна гоніць новую баразну…

Маладзейшы за многіх з нас, сваіх сучаснікаў, вось ужо і ён, Іван Мележ, на той адлегласці, калі значнасць пісьменніка і чалавека вымяраецца маштабамі цэлай эпохі, каштоўнасцямі духоўнай спадчыны народа.

Сапраўднае дасягненне ў літаратуры — заўсёды подзвіг, подзвіг вялікага напружання духоўных, фізічных сіл, здароўя, не гаворачы ўжо аб таленце, аб усіх здольнасцях чалавека.

Іван Мележ прыйшоў у літаратуру з глыбіннага віру жыцця, жыцця на самым крутым, трагічным яго выпрабаванні, калі на карту быў пастаўлены не толькі лёс кожнага з нас, але і лёс усёй Радзімы, усе нашы заваёвы.

Дваццацігадовы юнак з першых дзён вайны трапляе ў пекла самых гарачых баёў на поўдні краіны. На другі год, цяжка паранены, адпраўлены ў тыл, ён апынуўся перад нялёгкім пытаннем: як жыць, з чаго пачынаць? Яшчэ да вайны ён апублікаваў некалькі вершаў, яго вабіла паэзія. Цяпер, па праўдзе сказаўшы, было не да паэзіі. Тыя пакуты, тыя выпрабаванні, праз якія прайшоў чалавек у свае дваццаць год, вымушалі гаварыць не толькі радкамі вершаў. Мележ бярэцца за прозу. Лёгка сказаць — бярэцца. У той час, пераязджаючы са шпіталя ў шпіталь, ён не мог фізічна ўзяцца за пяро. Правая рука была пад жахлівай небяспекай. Урачы патрабавалі неадкладнай ампутацыі. І вось — мала каму вядомая падрабязнасць з біяграфіі пісьменніка: першыя свае апавяданні ён піша левай рукой, ужо не спадзеючыся на правую. Пісанне гэтае было пакутлівым удвая — і таму, што і словы былі

непаслухмяныя, непаслухмянай была і рука. Мабыць, ніколі ў сваім жыцці Мележ не забываў пра растоўскага хірурга Антонава, які пайшоў на вялікую рызыку, узяўшыся зрабіць аперацыю, і выратаваў яму правую руку.

Позняй восенню 1943 года Іван Паўлавіч прыехаў у Маскву. З гэтых дзён я і ведаю яго. Тады, вядома, яго не велічалі Іванам Паўлавічам. Высокі, цыбаты юнак у зацёртым, паношаным шынялі, які ледзь даставаў яму калень, ён адразу ж увайшоў у літаратурнае асяроддзе. Памятаю, як радаваўся Кузьма Чорны, прачытаўшы яшчэ ў рукапісах яго першыя апавяданні. Пад уражаннем яго апавяданняў ва ўсіх нас быў святочны настрой. Нараджэнне новага, сапраўднага пісьменніка — не частая падзея, а ў гады вайны ў беларускай літаратуры гэта былі першыя такія імяніны.

Мележ стаў цудоўным лірычным апавядальнікам-навелістам, які глыбока адчуваў найтанчэйшыя рухі чалавечай душы. Але ў таленце яго былі і вялікія эпічныя запасы. Гэта пацвердзіў першы раман «Мінскі напрамак». Пяць год працаваў над ім аўтар, якому хоць і не было яшчэ трыццаці год, але які меў багаты і жыццёвы вопыт, і вопыт ваеннага выпрабавання. Цэнтральным вобразам кнігі стаў выдатны палкаводзец Чарняхоўскі. Не адразу ўсё ўдавалася пісьменніку. Нават пасля таго, калі раман выйшаў з друку, вобраз, любімы аўтарам, стаўшы яго жыццёвым клопатам, у новых пошуках набываў усё болей дакладныя рысы, пакуль не зрабіўся сапраўды вартым літаратурным помнікам герою.

Нам было асабліва прыемна, што мастацкі вобраз легендарнага камандарма ўпершыню ў савецкай літаратуры быў створаны беларускім пісьменнікам.

Я ўдзячны Івану Паўлавічу за тое, што ён даверыў мне быць рэдактарам «Мінскага напрамку». Гэта быў неспакойны аўтар, зацікаўлены кожным словам, кожнай драбніцай свайго твора. Мала таго, што мы тады бачыліся амаль штодня. Мы яшчэ былі ў непасрэдным бесперапынным кантакце пры дапамозе тэлефона. На адным канцы — рэдактар, на другім — аўтар.

— Алё, якую старонку вы чытаеце?

— Сто дваццаць сёмую.

— Аляксей ужо сустрэўся з Нінаю?

— Сустрэўся, Іван Паўлавіч.

Аўтару не цярпелася:

— А як вам мой грузін Гогаберыдзэ?

— Харошы грузін, вясёлы хлопец…

Праз гадзіну-дзве зноў званок:

— Чарняхоўскі ўжо ў штабе?

— У штабе, — дакладваў я, нібыта знаходзіўся па меншай меры дзяжурным пры камандуючым фронту, а лейтэнант Мележ вось-вось з'явіцца з вельмі важным і неадкладным рапартам…

«Мінскі напрамак» быў яго першы буйны твор. Велічныя па свайму размаху падзеі перажываліся аўтарам настолькі непасрэдна, што ён усё яшчэ заставаўся ў той атмасферы і ў тых абставінах, пра якія пісаў, укладаючы ў іх усю сваю душу.

Дні нашых сустрэч, размоў, практычнага супрацоўніцтва, напэўна, у многім памаглі мне зразумець сутнасць яго таленту, галоўнай уласцівасцю якога была поўная самааддача творчасці.

Маладому Мележу пісалася неймаверна цяжка, але і сталаму, і болей вопытнаму — не лягчэй. Такое натуры быў гэты творца. Калі цяпер прыгадваеш яго нават у самыя, здавалася б, шчаслівыя хвіліны ўсеагульнага прызнання, поспеху, славы, перад вачыма ўзнікае прысутуленая, мажная, праставатая ў сваіх абрысах пастава чалавека з пакутлівым абліччам і з нейкай заўсёды вінаватай усмешкай. Як быццам ён паціху, даверліва прасіў нас, сваіх чытачоў: прабачце, што, можа, я не ўсё і не так зрабіў, але я аддаў вам, што мог.

У 1972 годзе, як вядома, Івану Паўлавічу была прысуджана вышэйшая ўзнагарода краіны — Ленінская прэмія. Памятаю, як наша тэлебачанне рыхтавала перадачу, прысвечаную гэтай падзеі. Усе мы, хто прымаў удзел у перадачы, вітаў Мележа, былі ва ўрачыстым, святочным настроі, хваляваліся. Хваляваўся і сам Мележ, але што мне запомнілася — і тады як бы адзнака вінаватасці перад усімі намі не пакідала яго: маўляў, нарабіў я вам усім столькі турбот. Хто яго ведае, магчыма, радасць поспеху, здабытага цяжкасцямі і пакутамі, і ёсць адзіная сапраўдная радасць, бо яна ўжо не толькі твая ўласная, асабістая, што прыемна казыча тваё самалюбства, а радасць многіх-многіх людзей, дзеля якіх ты аддаваў усе свае намаганні.

Людзі, што станавіліся яго героямі, былі для яго самай крэўнай і блізкай раднёй. З імі ён жыў, радаваўся, пакутаваў, спрачаўся, давяраў ім свае запаветныя тайны. Адсюль яго заўсёдная прагная нецярплівасць — як чытач успрымае яго герояў: ці як рэальных дарагіх яму людзей, ці, крый бог, у нечым падобных на знаёмых літаратурных персанажаў. У дачыненнях з чытачамі Мележ быў няўрымслівы. Многія з нас памятаюць, як ён чуйна лавіў кожнае слова, заўвагу, водгук у час, калі на старонках часопіса друкавалася яго рэч або выходзіла новая кніга.

Часта сам, сустрэўшыся з вамі, збянтэжана пераступаючы з нагі на нагу, ён не вытрымліваў і пытаўся: «Ці чыталі?» Можа, каму гэта здавалася нават нясціпласцю. Трэба было ведаць Мележа, яго творчую неспакойную натуру, каб убачыць, што пісьменнік жыве і трывожыцца не другараднымі клопатамі і не асабістымі інтарэсамі, а далучае і нас, сваіх субяседнікаў, да нечага болей важнага — якраз да таго, аб чым павінен думаць сапраўдны мастак.

Усе тыя сустрэчы і гаворкі і ў Саюзе пісьменнікаў, або нават на хаду, на вуліцы, у часе прагулкі ў парку, або ў каралішчавіцкім лесе цяпер успамінаюцца па каліву, па зярнятку, што праraслі ў многіх нашых душах разуменнем літаратуры як высокага служэння народу, перад якім мы даём справаздачу не адзнакамі перамяшчэнняў у паслужных спісах, а выключна творамі, што каштавалі іх аўтарам усяго жыцця.

Пасля «Мінскага напрамку» да гісторыі стварэння наступных раманаў Мележа я ўжо меў дачыненне чыста суседскае. Якраз калі ён пісаў «Людзі на балоце» і выношваў у думках «Подых навальніцы», мы жылі ў адным доме. У выпадку патрэбы цяпер можна было абысціся нават без тэлефона. Столь майго пакоя была больш надзейным сродкам сувязі. І дзённай, і вечаровай, і начной парою не цяжка было пачуць, як мой нястомны, мой бяссонны сусед працуе, ні на хвіліну не расстаючыся са сваімі Куранямі, са сваім Палессем, трывожачыся, хвалюючыся лёсам сваіх герояў. Па-чалавечы магу засведчыць, што і новыя раманы каштавалі яму не меншых намаганняў духоўных і фізічных сіл, чым першыя творы.

Яшчэ малады, саракагадовы чалавек, па стану здароўя, падарванага вайной, ён, па заключэнню ўрачоў, павінен быў кідаць работу, але Мележ яе не пакінуў, пакуль не завяршыў поўнасцю.

Бадай тут дарэчы будзе ўспомніць, як у гэты самы час, калі Іван Паўлавіч працаваў над «Палескай хронікай», ён, як аўтар, перажыў нечаканую, неспадзяваную і на адно імгненне жахлівую трывогу за свае рукапісы.

У нашым доме здарыўся пажар. Мележава дачушка, тады яшчэ падлетачак, што кагадзе ўваходзіла ў свае першыя дзявочыя клопаты, узялася сама сабе адпрасаваць кофтачку. Дома нікога не было. Па яе думцы, напэўна, яшчэ і лепш — ніхто не замінаў.

Дзяўчынка ўключыла прас і, неўзабаве разаслаўшы на стале кофтачку, пачала прасаваць. Ці то ў яе быў пільны клопат хутчэй скончыць, ці то яна некуды спяшалася, маладая гаспа-

дыня, надзеўшы адпрасаваную кофтачку і замкнуўшы кватэру, хуценька збегла ўніз. Праз нейкі час па ўсім калідоры пачуўся пах гарэлага, потым паказаўся дым. Жыхароў дома мала каго і было — стаяла самае лета. Не было нікога і паверхам ніжэй — у нашай кватэры. Першымі небяспеку заўважылі прахожыя з вуліцы К. Маркса. Прымчаліся пажарнікі. Заліўшы полымя, якое ўжо рвалася з акна, па лесвіцы падняліся на балкон, а з балкона ў кватэру. Распалены да чырвані прас ляжаў на падлозе. Стол ззяў выгаралай дзіркай пасярэдзіне. Настольнік згарэў, тлеў разасланы пад нагамі дыван, займалася канапа… Усё магло скончыцца больш сумна. Адзіны, хто аказаўся дома, быў мой сусед Пятро Фёдаравіч Глебка. Ён узламаў нашы дзверы і пачаў выцягваць рэчы, якім першым пагражала полымя, а потым цераз пляцоўку перакінулася б і ў яго кватэру.

На шчасце, стыхія агню не паспела набраць сілы. Калі пажар быў затушаны і жыхары, ўжо трохі супакоіўшыся, стаялі гуртам у нашым двары, абмяркоўваючы падрабязнасці падзеі, з другой вуліцы — з Энгельса ў двор увайшоў Мележ. Ён быў у Саюзе пісьменнікаў і нават не падазраваў, што адбываецца побач, цераз вуліцу. Па абліччах, па позірках суседзяў ён адчуў нешта нядобрае.

— Што здарылася?

— Пажар.

— Дзе? — у раптоўнай трывозе спытаўся ён.

— У вашай кватэры.

Удар быў жорсткі па сваёй нечаканасці. Іван Паўлавіч з намаганнем, поўным жаху, вымавіў толькі адно слова:

— Кабінет… — і падняў вочы на акно чацвёртага паверха. Яго рабочы пакой выходзіў акном на двор.

Сведкі гэтай размовы потым доўга дзівіліся, убачыўшы, як пісьменнік, даведаўшыся, што кабінет цэлы і некрануты, з радаснай палёгкай уздыхнуў.

Дзіва што! На яго рабочым стале ляжаў рукапіс новага рамана…

Неймаверна цяжка было пісьменніку ў сваёй трылогіі падымаць цалінныя пласты жыцця, гісторыі. Пераадольваць даводзілася не толькі супраціўленне матэрыялу, але і асабліва ваяўнічае супраціўленне звыклых ацэнак, укаранелую кансерватыўнасць утылітарнага разумення надзённасці тэмы, даводзіць пільнасць патрэбы якраз у тых творах, над якімі ён працаваў. Мележ быў непахісны і паслядоўны ў сваім перакананні: су-

часнасць твора — у сучаснай, у новай, у перадавой пазіцыі аўтара, у перспектыўным поглядзе на з'явы жыцця, на падзеі гісторыі. Правільнасць гэтай канцэпцыі пісьменнік сцвердзіў сваёй творчасцю.

Жывая спадчына пісьменніка — радасная вяршыня нашай літаратуры. Жыць, працаваць у такой літаратуры — не толькі гонар, але і найвялікшая адказнасць.

*1972–1979*

## ХЛЕБ НАШАГА СЯБРОЎСТВА

Ён прынёс мне свой новы раман з такім надпісам: «Першаму і бязлітаснаму чытачу…», і недзе ў глыбіні маіх пачуццяў варухнулася радасць ад таго, што мой даўні друг не толькі ні разу не пакрыўдзіўся на мае, можа, і непрыемныя часам заўвагі, але праз усё жыццё пранёс упэўненасць, што мы ніколі не маглі пакрывіць душой адзін перад адным.

Ганаруся такім сяброўствам і з такімі людзьмі, якія ўсё, зробленае імі, і ўсё, што яны спадзяюцца зрабіць, заўсёды мераюць глыбінёй свайго сумлення.

У Слуцку, вучачыся — ён у педтэхнікуме, а я ў прафшколе, — мы пачыналі разам: ён — з апавяданняў, я — з вершаў. Не маючы яшчэ аніякай падрыхтаванасці ў тэорыі літаратуры, а, мабыць, толькі па наіцію, па асаблівасцях яго развважлівай, спакойнай натуры, схільнай ужо тады да грунтоўнага, усебаковага, дапытлівага разгляду кожнай з'явы і падзеі, людскіх паводзін і іх даследавання, я, прачытаўшы два яго першыя апавяданні, асмеліўся на такое рызыкоўнае прароцтва:

— Ты не будзеш пісаць апавяданні. Ты будзеш пісаць раманы.

Не бяруся сцвярджаць, ці сказаў я яму пра эпічную прыроду яго магчымасцей. Хутчэй за ўсё тады я яшчэ не ведаў такога вызначэння: эпічны талент. Хоць сам ён, калі мы аднаго разу пачалі прыгадваць гэтую размову, запэўніваў мяне, што наш творчы сімпозіум, як гавораць цяпер, праходзіў на ўзроўні, які чамусьці запомніўся, хоць гэта было паўвека таму назад.

Свае субяседаванні мы вялі не на семінарах, не ў творчых секцыях і не за круглымі сталамі, а ўспёршыся локцямі на хісткія парэнчы «чортавага мосціка» цераз слуцкую рачулку або на ціхай сцежцы сярод жытняга поля, якое пачыналася на выхадзе з горада, адразу ж за Трайчанскай вуліцай.

Гэтае жыта запомнілася яшчэ і таму, што ў ім адбылося злачынства, зробленае намі перад яснай некранутасцю юнацкай даверлівасці.

Ідучы аднаго лета ў горад, мы ў палавіне дарогі ў вясковай краме купілі сотку. Нялёгка было адважыцца на такі крок, не толькі склаўшы свае першыя капейкі, але і адчуваючы, як трапечуцца і заміраюць нашы сэрцы, як гараць вушы. І ўсё ж імкненне паказаць самастойнасць, якою ганарыліся дарослыя хлопцы, перамагло сорам. Спакуслівы страх прыдаў рашучасці. Мы праглі адкрыцця невядомай асалоды, сумеснай тайны нашага сяброўства. Рашыць гэтую сотачку на людзях мы ніколі не адважыліся б і таму схаваліся ў жыце.

Дзень быў гарачы. Яшчэ гарачэйшаю была зманлівая, прывабная атрута. Кожны глытаў сваю дзель, зацяўшыся перад другім, каб не паказаць слабасці. Выбраўшыся на гасцінец, мы ўбачылі, што ногі не слухаюцца нас, што да горада мы не дойдзем, не выдыхаўшы горкага прычасця. Доўга ляжалі мы на спякотным прыдарожным узмежку, а нашы ачмурэлыя галовы звінелі і гулі ад водару перасохлай на сонцы піжмы, густога палыну, горкага малачаю, між якіх асабліва выбівалася і займала дых нязвыклая, невыносная гаркота вінаватасці саміх перад сабою.

Дажыўшы да старасці, мы часта ўспамінаем свой першы пакутны хмель, ад якога і цяпер марочацца нашы галовы.

Сяброўства наша, аднак, пачалося не з гэтай прыкрай, непрыемнай прыгоды, а са светлай, яшчэ дзіцячай прагнасці да таямнічай слодычы роднага слова, імкнення да той загадкі чарадзейства, якую нясе чалавеку кніга.

Як я зайздросціў яго шчасцю! У яго вёсцы пасля скасавання воласці заснаваўся наш агульны сельсавет. Майму другу даверылі бібліятэку. І хоць кніг там было ўсяго на тры-чатыры паліцы, якім багаццем былі яны для мяне! Са сваёй у яго вёску я бегаў амаль штодня. Тоўстых тамоў там не было, і кожную ўзятую кніжачку я прачытваў яшчэ па дарозе дадому, вяртаючыся нацянькі, цераз балота, якое падзяляла нашы вёскі. Няёмка было на тым жа часе бегчы па новую кніжку. Таму, як радаснага свята, чакаў я наступнай сустрэчы з ім, маім бібліятэкарам, маім аднагодкам, першым другам незабыўных, падлеткавых дзён…

І цяпер дарагія нам абодвум радасці і гаркоты, перажытыя разам, і цяпер помняцца нам сцежкі цераз балота, якое вясною і ўлетку гуло, траха не разрываючыся ад галасоў, кожны з якіх быў нам вядомы і зразумелы.

Выпрабаваўшы далёкія дарогі свайго лёсу, цяжка паранены, пасля многіх месяцаў шпітальнага ложка, ён па гарачых слядах вызвалення дабіраўся да роднае вёскі.

Ногі не слухаліся яго цяпер ужо не па ўласнай віне. Са знаёмага слуцкага гасцінца ён усёй сілай адолеў толькі палову дарогі. Позняй ноччу ледзь дацягнуўся і пастукаў у акно хаты, якая стаяла па гэты бок балота. Мая маці абрадавалася яму гэтак, як абрадавалася б мне. Ён быў першы, хто прынёс ёй жывую вестку пра сына…

Я ўдзячны свайму лёсу ўжо за адно тое, што з нямногіх сяброў, дарагіх з дзіцячых дзён, ён збярог мне друга, у вочы, у сумленне якога глядзіш заўсёды з адчуваннем шчасця і радаснага здзіўлення: якія ж мы трывушчыя, якія жывучыя! Вылезці, выкарабкацца з ануч, з лапцей, з духоўнага рабства, якое так доўга гняло нашых бацькоў, ды яшчэ і нас саміх, зрынуць з плячэй сваіх пагарду і зняваду цывілізаванага карычневага цемрашальства і зберагчы найдаражэйшы скарб душы — захапленне чалавечнасцю чалавека!..

Мой друг — пісьменнік чуйнай, тонкай натуры — у сваіх вядомых раманах «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» глыбока выявіў сябе як эпік. Маё рызыкоўнае юнацкае прадбачанне, на жаль, спраўдзілася. Чаму — на жаль? Таму што мастаку такога шырокага дыяпазону, як ён, вельмі прыдалася б і другая, лірычная асаблівасць таленту. Аднаго разу ён даў мне прачытаць рукапіс сваёй аповесці. Гэта быў твор аб самым блізкім, запаветным — аб юнацтве, першым каханні, першых кроках самастойнага жыцця.

Наш творчы сімпозіум, які на гэты раз адбываўся ў Мінскім батанічным садзе і за час якога мы не адзін раз выхадзілі ўсе яго сцежкі-дарожкі, быў не на вельмі прыемным узроўні. Але што паробіш, такі ўжо хлеб нашага сяброўства. Не заўсёды ён салодкі і смачны, але заўсёды дарагі нам. Потым мой друг перарабляў сваю рэч, спадзеючыся: быць не можа, каб асабіста пražытае не знайшло дарогі да іншых сэрцаў.

Нялёгка быць хірургам, яшчэ цяжэй рабіць аперацыю сабе самому — рэзаць па ўласным целе. Пісьменніку гэта даводзіцца.

Але ніхто з нас ніколі не выкіне з памяці ўласнага душэўнага вопыту. І я ўпэўнены, я ведаю і веру, што мой друг напіша, абавязкова напіша сваю самую запаветную кнігу, кнігу свайго жыцця, часу.

Твораў яго чакаюць і з асаблівай асалодай чытаюць усе, хто любіць і высока шануе наша народнае слова, чарадзейнае багацце яго гукаў і фарбаў.

Друга майго, самага сціплага сярод нас працаўніка беларускай літаратуры, завуць Мікалай Паўлавіч Лобан.

*1971*

## ГОЛАС НАСТАЎНІКА

На пастаўленае самому сабе пытанне: «Што самае галоўнае было ў маім жыцці?» — ён адказаў: «Любоў да дзяцей».

У сваёй, цяпер вядомай ва ўсім свеце кнізе «Сэрца аддаю дзецям» ён расказаў пра вялікае шчасце быць настаўнікам.

Пазнаёміліся мы з ім вясной 1969 года ў Кіеве. Пісьменнікі Украіны, педагогі, камсамольскія работнікі, мастакі, выдаўцы абмяркоўвалі праблемы выхавання пасля вядомай пастановы ЦК КПСС аб дзіцячай літаратуры.

Да гэтага я ведаў яго як аўтара артыкулаў у цэнтральных газетах і часопісах — артыкулаў, якія заўсёды будзілі думку, стваралі такое ўражанне, што з табою гаворыць чалавек, які тонка і дасканала ведае свет дзіцячай душы, разумее ўсе цяжкасці і складанасці фарміравання асобы будучага грамадзяніна.

Яго выступленне на гэтай нарадзе ўразіла глыбінёй назіранняў, разваг і вывадаў.

Сухамлінскі гаварыў пра кнігу, пра яе ролю і значэнне ў жыцці чалавека і ў практыцы выхавання. У наш час школа мае многія новыя магутныя сродкі: кіно, тэлевізар, тэхнічныя ўдасканаленні навучальнага працэсу. Кнізе ўсё цяжэй спаборнічаць з цікавымі і, можна сказаць, самымі простымі спосабамі спазнання і самаспазнання, бо глядзець кінафільм — асалода, а чытаць кнігу — праца, і нярэдка праца напружаная, нялёгкая. А калі чытанне кнігі глыбока запала ў душу вучня, яно становіцца сапраўдным урокам самавыхавання. Мы ўпэўнены, гаварыў Васіль Аляксандравіч, што развіццё дзіцячай літаратуры залежыць у значнай ступені ад таго, якое месца займае чытанне ў інтэлектуальным жыцці школы. Ён з трывогай адзначаў, што ў некаторых школах кнігі стаяць на бібліятэчных паліцах, як волаты, што спяць непрабудным сном, а вучань не ведае іншага чытання, акрамя падручніка.

Літаратура — чалавеказнаўства, а выкладанне, вывучэнне літаратуры — гэта музыка душы, музыка слова; настаўнік — мастак, творца, які даносіць гучанне гэтай музыкі да юнага сэрца.

Так гаварыў Сухамлінскі. Акрамя таго, што перад намі выступаў педагог, псіхолаг, усе мы адчулі, як ён бліскуча валодае талентам яркага, вобразнага бачання жыцця, людзей і асабліва складанасцей станаўлення характару сваіх выхаванцаў.

Пасля ўжо, праз некаторы час я сустрэў у яго публікацыях апавяданне пра вучня, за якім у школе ўмацавалася рэпутацыя чалавека, які не любіць і не разумее літаратуру, таму і атрымлівае адны двойкі. Але тады сюжэт гэтай жыццёвай гісторыі Васіль Аляксандравіч расказваў упершыню.

Стройны, дужы юнак Міхайла, адзіны сын у маці, вучыўся ў восьмым класе. Калі да канца навучання заставалася тры месяцы, маці з сынам прыйшлі да дырэктара. Хлопец панура маўчаў, а маці пачала прасіць: вызваліце сына ад вучэння, хачу ўладкаваць на работу. Недаступнай мудрасцю для Міхайлы былі пісьмовыя работы па літаратуры. Яму было незразумела: навошта пісаць сачыненне пра сачыненне — лепш за пісьменніка не напішаш. Так пачаўся цяжкі канфлікт з настаўніцай — Міхайла перастаў пісаць сачыненні. Настаўніца, якая нямала нацярпелася непрыемнасцей, невыказна ўзрадавалася, калі даведалася, што Міхайла пакідае школу. Праз некаторы час яна зусім забыла пра свайго злашчаснага вучня. Але вось сапсаваўся тэлевізар, і настаўніца пазваніла ў майстэрню, папрасіла прыслаць майстра. З'явіўся Міхайла. Адрамантаваў апарат, настроіў і пачаў выпісваць квітанцыю на аплату. Адлічваючы грошы, пачырванеўшы ад сораму, настаўніца дадала яшчэ тры рублі. Міхайла разгублена, са шчырым здзіўленнем, вяртаючы грошы, спытаўся: «Навошта вы гэта робіце, Ніна Пятроўна? Хіба гэтаму вы вучылі мяне? Я сачыненні не ўмеў пісаць, але літаратуру заўсёды любіў і на вашых уроках вучыўся разумець жыццё і людзей…»

На гэтым эпізодзе, узятым з самога жыцця, Васіль Аляксандравіч з выключнай дакладнасцю вызначаў тое галоўнае, што вельмі часта ўпускаецца ў вопыце, у практыцы выкладання літаратуры ў школе — пачуццёвае, маральнае ўздзеянне і ўплыў на душу дзіцяці, падлетка, юнака. Напэўна, развіваў сваю думку Сухамлінскі, Міхайла ўспрымаў мастацкі твор як дзівосную музыку, і яму здавалася немагчымым знайсці словы прыгажэйшыя, чым сама музыка. Для таго, каб чытанне стала галоўнай патрэбаю нашых выхаванцаў, мы, выхавацелі, павінны разумець літаратуру як прадмет асаблівы. Слова — гэта мана-

літны сплаў ідэі і хараства. Веды ў літаратуры — гэта не тое, што веды ў матэматыцы. Праверка ведання літаратуры павінна быць зусім іншай.

— Я ведаю, — прыводзіў прыклад Васіль Аляксандравіч, — аднаго выпускніка сярэдняй школы: літаратуру, як і ўсе прадметы, ён здаў на 5. Але за пяць год пасля заканчэння школы ён не прачытаў ніводнага мастацкага твора.

Такім я ўпершыню ўбачыў Сухамлінскага і ўдзячны лёсу, што не пры іншых якіх абставінах, не ў бытавых і не ў службовых дачыненнях, а адразу ў яго сапраўднай сутнасці: мысліцеля, мастака, паэта, якія шчасліва аб'ядналіся ў адной творчай асобе.

Не, не прыёмамі красамоўства і не прыгажосцю слоў пакарыў ён мяне, і завалодаў увагай усёй аўдыторыі. Голас Сухамлінскага — ціхі, натуральны ў сваёй звычайнасці, адразу знаходзіў эмацыянальны кантакт са слухачом. Выключная шчырасць, адкрыты давер пераконвалі ў значнасці кожнага слова, вынашанага, выверанага ў напружаным роздуме, у хваляваннях і трывогах.

Амаль дзесяць год пасля, ужо на шасцідзесяцігоддзі з дня нараджэння вялікага педагога нам, удзельнікам і гасцям юбілейных урачыстасцей у Паўлышы, паказвалі дакументальны фільм, створаны ўкраінскімі кінематаграфістамі, — «Сэрца аддаю дзецям». Усё цудоўна ў гэтым фільме — і багацце жыццёвых падрабязнасцей, і прысутнасць Сухамлінскага, але толькі потым як бы спахопліваешся — а дзе ж яго голас? За Сухамлінскага гаварыў дыктар, гаварылі мы, хто ведаў яго, а ён ледзь прыкметна варушыў губамі; на нейкія імгненні ўсё яго аблічча асвятлялася знаёмай, незабыўнай усмешкай, але ніводнага слова ён так і не вымавіў. Не, гэта не дакор аўтарам фільма, а падстава для роздуму. Глядач прыняў умоўнасць абагульнення. Я спецыяльна перапытваў многіх — ці заўважылі яны адсутнасць голасу Сухамлінскага, большасць адказвалі — не, не заўважылі. Тады я яшчэ болей упэўніўся: ён, натуральны, ціхі, без эфектных мадуляцый і высокіх нот, голас Сухамлінскага, на той хвалі, на якую настроілі нас стваральнікі фільма, не толькі не прагучаў бы, а магчыма, нават расчараваў бы сваёй звычайнасцю. Я чуў яго голас, ён застаўся і ў запісах, але разумею і кінематаграфістаў: Васіль Аляксандравіч менш за ўсё рупіўся пра голас, калі разважаў услых, дбаючы пра галоўнае — як дакладней перадаць, выказаць свае думкі і пачуцці.

Робячы гэтае адступленне, хачу падкрэсліць свой галоўны вывад, да якога прыйшоў тады, слухаючы Сухамлінскага: пісьменніку, які піша для дзяцей, нельга не ведаць аб дзіцяці,

аб падлетку таго, што ведаюць лепшыя настаўнікі, падобныя Сухамлінскаму. Дзеля таго, каб літаратура стала выхавацелем дзяцей, неабходна цярпліва, клапатліва і натхнёна рыхтаваць глебу для ўспрыняцця мастацкага слова. Дзіцячага пісьменніка ў нашы дні немагчыма сабе ўявіць без ведання надзённых педагагічных праблем, чым жыве сучасная школа, у чым складанасці, клопаты, хваляванні і трывогі сучаснай сям'і.

Дзіцячая літаратура ў сваіх лепшых дасягненнях — гэта, перш за ўсё, скарбніца вопыту выхавання чалавека. Яна, дзіцячая літаратура, самая актыўная частка і творчая аснова педагогікі. Вось чаму я лічу вялікім шчасцем свайго жыцця знаёмства з Васілём Аляксандравічам. Не без яго дабратворнага ўплыву далучыўся я да жыцця школы, да складанага свету сучаснага дзіцяці. У кнізе «Дзеці і мы», галоўныя раздзелы і старонкі якой прысвечаны спадчыне Сухамлінскага, я спрабаваў прасачыць розныя аспекты дачыненняў дзяцей і дарослых — тую галоўную сферу клопатаў і турбот, пра якія Васіль Аляксандравіч з такой псіхалагічнай пранікнёнасцю гаварыў і на кіеўскай сустрэчы, скрозь і ўсюды — у сваіх глыбокіх педагагічных развагах. Не без яго ўплыву «паспытаў» і я настаўніцкага хлеба. Не будучы педагогам па спецыяльнасці, а ў меру сіл толькі дзіцячым пісьменнікам, і ў многім, безумоўна, рызыкуючы, я пайшоў у школу, дзе стаў весці ўрокі, не прадугледжаныя праграмай. Далёкія ад метадычнай дасканаласці, некаторыя з іх — урок вясёлай матэматыкі, урок вясёлага слова, урок хітрага слова і ўрок казкі — ужо некалькі разоў перадаваліся па тэлебачанні. Першае, што мне хацелася, — гэта звярнуць увагу на тое, як многа магчымасцей не выкарыстоўваецца нашай школай у самым галоўным — у заахвочванні, у стымуляванні творчай і эмацыянальнай актыўнасці кожнага вучня ў класе, і другое — тэлебачанне магло б болей актыўна прапагандаваць урокі нашых лепшых настаўнікаў, уся каштоўнасць вопыту якіх у тым, што пра іх урокі мала расказваць, пісаць, іх неабходна практычна і наглядна паказваць. Для гэтага ў нас цяпер ёсць усе магчымасці. Настаўнік, заклапочаны як мага большым аб'ёмам інфармацыі, але які не знаходзіць кантакту з вучнямі, наўрад ці зацікавіць каго сваім прадметам. А кожны ж школьны ўрок, калі творча разумець яго, — гэта чарадзейнае, казачнае царства ведаў, таямніц і адкрыццяў. Дзеці прагнуць вучыцца з захапленнем, з радасцю. Я назваў сваю кнігу «Урокі», але яе змест вызначылі не столькі ўрокі, на якія я рашыўся, колькі ўрокі, якія мне самому давала і дае жыццё, давалі і даюць людзі, самыя дарагія для мяне настаўнікі, і сярод іх — Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі.

З незабыўнай кіеўскай сустрэчы пачаліся наша сяброўства і супрацоўніцтва. На старонках «Настаўніцкай газеты» я расказаў пра кнігу, якая толькі што выйшла тады, «Сэрца аддаю дзецям», і пра тое вялікае ўражанне, якое яна зрабіла на мяне, чытача. Васіль Аляксандравіч з уласцівай яму чуйнасцю адгукнуўся адразу ж двума пісьмамі — мне і рэдакцыі. У пісьме да мяне ён, вядома ж, перабольшваў маю кампетэнцыю ў тонкасцях педагогікі. А рэдакцыі паведамляў, што газета набыла яшчэ аднаго сталага чытача.

Але ён стаў не толькі чытачом, але і актыўным аўтарам беларускіх газет і часопісаў. Ужо вядомы вучоны, прызнаны аўтарытэт педагагічнай навукі, Сухамлінскі на старонках нашага дзіцячага часопіса «Вясёлка» ўпершыню выступае як аўтар цудоўных апавяданняў і казак для самых маленькіх. Тонкае адчуванне паэзіі маленства, пранікненне ў псіхалогію дзіцяці адразу ж выявілі ў ім сапраўдны талент мастака слова. Так вучоны-педагог стаў яшчэ і цудоўным дзіцячым пісьменнікам. І гэта была натуральная заканамернасць творчага развіцця яго багатай і чуйнай натуры.

Абагуліўшы свой вопыт, свае перакананні, выкладзеныя ў многіх грунтоўных працах і асабліва ў кнізе «Сэрца аддаю дзецям», ён не мог не папрабаваць сваіх сіл у мастацкай літаратуры, тым больш, што на працягу многіх год у Паўлышскай школе разам са сваімі выхаванцамі складаў цудоўныя казкі, будучы цвёрда ўпэўнены, што кожнае дзіця здольна скласці казку.

У сваіх пісьмах ён неаднойчы давяраў мне сваё шчырае жаданне: «Добра, калі б у Беларусі была выдадзена хоць маленькая кніжачка маіх апавяданняў (тых, што вы апублікавалі, і тых, што, магчыма, яшчэ апублікуеце)».

Памятаю, як ён радаваўся, калі ўбачыў свае першыя надрукаваныя навелы, ілюстраваныя мастаком Алегам Луцэвічам. «Хлопчык, які выскачыў у акно, вельмі падобны на жывога, таго, што і зараз дзівіць нас сваімі свавольствамі…» — пісаў ён мне.

Пачатак быў удалы, і праз паўгода ў Васіля Аляксандравіча быў ужо гатовы рукапіс цэлай кнігі апавяданняў, работу над якой ён закончыў у Трускаўцы, выехаўшы ў тое лета разам з жонкай Ганнай Іванаўнай на лячэнне. «Гэтую кніжку аўтар прысвячае сябрам-беларусам. В. Сухамлінскі». З такім прысвячэннем пад назвай «Блакітныя жураўлі» яна і выйшла ў нас у Мінску. На вялікі жаль, аўтар яе ўжо не ўбачыў. Школьны званок у другі дзень верасня 1970 года трывожна прагучаў не толькі ў сяле Паўлыш, а ўсюды, дзе ведалі, любілі яго, чыталі яго кнігі.

Нямала жывых, трапяткіх хваляванняў сваёй душы, свайго роздуму даверыў ён старонкам «Блакітных жураўлёў». Той, хто ведае «Сэрца аддаю дзецям», знаёмячыся з Сухамлінскім, дзіцячым пісьменнікам, не можа не ўбачыць і не адчуць тых зыходных этычных высноў, якія ён адстойваў, абараняў і развіваў як педагог і якімі эстэтычнымі прынцыпамі кіраваўся як мастак.

Жыццёвы матэрыял той жа, той жа абсяг назіранняў, разваг і роздуму і тыя ж вывады, але ўжо зусім іншыя сродкі пазнання дзіцячай душы. Сухамлінскі-пісьменнік у самых разнастайных і падчас самых нечаканых ракурсах шчыра і бескампрамісна даследуе псіхалогію маленства і вельмі часта ў сутыкненнях, нават у канфлікце з псіхалогіяй дарослых, якія не заўсёды разумеюць логіку паводзін дзяцей. Самае каштоўнае, што ўмеў убачыць у дзецях Сухамлінскі, — гэта тая чысціня даверу, тая дабрата і крыштальная сумленнасць, без якіх немагчыма выхаванне чалавека, грамадзяніна, патрыёта.

Аб'ектам мастацкага даследавання аўтар выбірае пераважна канкрэтныя жывыя характары дзяцей, якіх ён ведаў, вёў з класа ў клас, ашчадна фарміраваў іх натуры, выхоўваў іх густы і жыццёвыя перакананні. У сваіх апавяданнях, казках і прытчах Сухамлінскі бліскуча выкарыстоўвае лепшыя традыцыі сваіх слаўных папярэднікаў — педагогаў і мысліцеляў Л. Талстога і К. Ушынскага. Тыя ж яго мініяцюры, у якіх пагляд аўтара скіраваны непасрэдна ў сваё ўласнае маленства, — гэта, па сутнасці, вершы ў прозе, вартыя лепшых паэтычных анталогій.

Сухамлінскі і дзіцячая творчасць, Сухамлінскі — казачнік — гэта асобная тэма. Болей падрабязна я кранаўся яе ў кнізе «Дзеці і мы». Перафразуючы даўнюю прымаўку: «У Маскву па песні», цяпер можна сказаць: «У Паўлыш па казкі». Пад такой назвай тэлебачанне паказвала фільм. Але, паглядзеўшы яго, наўрад ці зразумееш, чаму неабходна ехаць па казкі ў Паўлыш, калі сам Васіль Аляксандравіч гаварыў: усюды і скрозь дзеці — паэты, мастакі, летуценнікі і фантазёры. Уся бяда ў тым, што ў большасці нашых школ мала хто з настаўнікаў за ўсё сваё жыццё сам напісаў, склаў казку. Паўлышскія настаўнікі перш самі навучыліся складаць казкі, потым пачалі вучыць дзяцей. І вучні, і настаўнікі пачатковых класаў жывуць казкай. Культ казкі ў Паўлышы — традыцыя, запавет Сухамлінскага. Першы ўрок, на які я трапіў, прыехаўшы ў школу, быў урок казкі. Заканчваўся навучальны год, першакласнікі сядзелі за партамі і старанна перапісвалі — кожны сваю лепшую казку ў школьную анталогію.

У Паўлышскай школе гэтых казак ужо тысячы. Яны зберагаюцца і захоўваюцца як самыя дарагія багацці школы.

З усіх казак, створаных у школе Сухамлінскага, гучыць яго жывы голас. Сабраўшы ўсе скарбы паўлышскіх казачнікаў, Васіль Аляксандравіч з сапраўднай гордасцю мог сказаць: мае казкі. Пры ўсёй выключнай сціпласці ён добра разумеў сваю ролю ў гэтай натхнёнай творчасці.

Казка — чарадзейства. У кроплі расы змяшчаецца сонца, у магічным крышталі аднаго слова — ключ, якім можна адамкнуць скарбніцу мовы цэлага народа. Толькі трэба ўмець знайсці і адну-адзіную расінку, што валодае цудадзейнай сілай, і самае запаветнае слова. А хто шукае — заўсёды знаходзіць. Многія бачаць: ляжыць на дарозе асколачак шкла — і не здагадваюцца, што гэта незвычайнае шкло. А настаўнік са сваім вучнем паднялі, паглядзелі і ўбачылі — знайшлі казку.

«Гляджу на неба — сонца. Яно было і застаецца сонцам заўсёды. Нават у казцы. Калі б не было сонца, не было б і свету праз сіняе шкло. Не было б і казкі».

Шчодрая душа настаўніка заўсёды гатова дзяліцца ўсім са сваімі вучнямі. Дапусцім, што Васіль Аляксандравіч у нейкай ступені нават перабольшваў магчымасці дзіцячай фантазіі. У асобных казках вы можаце заўважыць бясспрэчную прысутнасць настаўніка, аднак задача такога аналізу вельмі спецыфічная і складаная. Казка — не малюнак, у якім свет дзіцяці ўмоўны не толькі па наіўных уяўленнях, яго ўмоўнасць залежыць яшчэ і ад нявопытнасці і бездапаможнасці дзіцячай рукі. Складаючы казку са слоў, як з асобных кубікаў, дзіця валодае больш механічным навыкам — умее напісаць слова, але не заўсёды разумее значэнне яго сэнсавых адценняў, не заўсёды бачыць, як слова становіцца вобразам, карцінай. Сухамлінскі тонка адчуваў і разумеў складанасці працэсу авалодання словам. Падчас ён у сваіх вопытах як бы нават «зліваецца» з дзіцячай фантазіяй, раствараецца ў ёй. Але багацце яго творчай асобы, разнастайнасць мастацкіх сродкаў яго творчасці для дзяцей былі невычарпальныя. Вось чаму выдаючы літаратурную спадчыну Сухамлінскага, неабходна абавязкова ўключаць у яе і казкі — любімы жанр творчасці вялікага педагога. А колькі з гэтай скарбніцы можа быць складзена кніг, хрэстаматый, дапаможнікаў для дзяцей, настаўнікаў, бацькоў!

Казка — жанр традыцыйны, які існуе многія тысячы год, але які не траціць свайго значэння для выхавання — маральнага і эстэтычнага. Наяўнасць у літаратуры кожнага народа шырока развітага жанру казкі — гэта, перш за ўсё, сведчанне дзейнага,

актыўнага працэсу народнага мыслення. Стварэнне сучаснай казкі — адна з галоўных умоў творчага ўзбагачэння дзіцячай літаратуры. Менавіта сучаснай казкі. Але ў чым яе сучаснасць? Гэтае пытанне выклікае цяпер многа спрэчак. Мне здаецца, памыляецца той, хто галоўным аб'ектам казкі ў наш час лічыць выключна тэхнічны прагрэс. Як ні парадаксальна, бурны рост тэхнікі, які, безумоўна, у нечым стымулюе казку, разбурае, а дакладней сказаўшы, здымае яе цудадзейства і чароўнасць. Палёт на кіліме-самалёце быў казкай, а палёт на самалёце, на ракеце, на касмічным караблі ўжо не казка. Месяц заўсёды быў казачным персанажам, але вось чалавек ступіў на яго паверхню — і казка знікла. Казка заўсёды ішла і ідзе наперадзе рэчаіснасці. Яна немагчыма без новых ідэй. Незалежна ад сюжэта, ад фантастычнай асновы, яе заўсёды вызначае смелы наватарскі погляд у будучыню. Казку вызначаюць адвага і смеласць маральных імкненняў і сацыяльных ідэалаў. Гэта цудоўна разумеў паўлышскі чараўнік і казачнік, калі сцвярджаў, што пачуцці, якія абуджаюцца ў душы дзіцяці пад уражаннем казачных вобразаў, актывізуюць думку, выклікаюць жаданні да самараскрыцця асобы, заахвочваюць да творчай дзейнасці, умацоўваючы перакананні, што для чалавека, для яго стваральных магчымасцей няма мяжы. Праз казку дзіця пазнае свет не толькі розумам, але і сэрцам. Хаця яно і ведае, што ў сапраўднасці няма ні Бабы-Ягі, ні Змея Гарыныча, ні Кашчэя Бяссмертнага, але ў гэтых вобразах дзіця заўсёды адрознівае дабро ад зла, вызначае свае асабістыя адносіны да добрага і благога.

З хваляваннем успамінаю, як Васіль Аляксандравіч быў рады сяброўскай падтрымцы, калі прыступіў да работы над сваёй вельмі складанай, працаёмкай «Хрэстаматыяй па этыцы». Ён прысылаў мне раздзелы, якія друкаваліся тады ў Ануфрыеўскай раённай газеце «Соціалістичне село». Сам па сабе прыклад варты ўвагі — наколькі важнаю для Сухамлінскага была кожная трыбуна, кожная магчымасць для выступлення, для размовы аб тым, што хвалявала яго. Жаданы аўтар «Правды», «Известий», «Литературной газеты», усіх самых папулярных выданняў у краіне, ён актыўна, з нумара ў нумар, выступае і ў сваёй роднай раёнцы.

Прысланыя публікацыі з раённай газеты я сістэматызаваў па тэматычных раздзелах, даў кожнаму назву. Пад агульным загалоўкам «Шчасце быць чалавекам» гэтыя гутаркі былі надрукаваны на старонках нашага часопіса «Маладосць». Тады аўтару, мабыць, не зусім быў ясны жанравы характар кнігі, і таму

першыя раздзелы з яе ён назваў вельмі ўжо сціпла: «Тэмы для гутарак пра маральнае выхаванне». У сваім звароце да мяне ён пісаў: «Зараз мяне больш за ўсё непакоіць маральнае выхаванне, фарміраванне душы чалавечай. Далёка не ўсё добра на гэтым полі. Часта, занадта часта вырастае на ім пустазелле…»

Задушэўныя, шчырыя гутаркі Сухамлінскага аб маральным кодэксе нашага маладога сучасніка былі сустрэты моладдзю Беларусі з вялікай цікавасцю, хаця гэта было нялёгкае і займальнае чціва. Кожнае слова, кожны сказ трывожылі, будзілі думку, кожнае пытанне вымагала роздуму. Тым больш, што на многія пытанні, пастаўленыя Сухамлінскім, адказваць павінны былі самі чытачы — не адразу, не паспешна, але толькі так, як падкажа шчырае пачуццё, сумленне і свядомасць высокай чалавечай годнасці.

У кожнай сваёй запаветнай думцы Сухамлінскі гранічна ясны. У самым галоўным, прынцыповым, што вызначае паводзіны, перакананні і маральныя пазіцыі чалавека, для яго няма кампрамісаў.

Не аднымі ружамі быў усеяны яго шлях. Яго творчыя пошукі не раз сустракаліся з іранічнай ухмылкай перавагі агульнапрызнанай мудрасці над наіўнымі адкрыццямі правінцыяла. Яны нават асуджаліся на старонках некаторых педагагічных выданняў. Сяму-таму здаліся дачаснымі і непатрэбнымі ў лексіконе настаўніка такія словы, як дабро, дабрата, давер, душэўная чуйнасць. Перакананням Сухамлінскага паспяшаліся прыклеіць ярлык: «галубіная педагогіка».

У той час мала каму было вядома, што яго вера ў чалавека, у чалавечую дабрату прайшла праз нечуваныя, жорсткія і трагічныя выпрабаванні.

Палітрук роты, франтавік, пасля цяжкіх раненняў вярнуўшыся ў родныя мясціны на Кіраваградчыне, ён да апошняе хвіліны свайго жыцця працаваў дырэктарам школы ў сяле Паўлыш.

Пра яго асабістую трагедыю я даведаўся з рэцэнзіі В. Грышына на кнігу «Сэрца аддаю дзецям», апублікаванай у газеце «Праўда». Пачаўшы чытаць, я радаваўся, што яшчэ і яшчэ мільёны людзей даведаюцца пра гэтага чалавека, пра яго высакародную, натхнёную працу. І раптам з апошніх радкоў артыкула дазнаюся пра такую жахлівую падрабязнасць, якая, як бліск маланкі, высвеціла мне дарагое, роднае, гордае і мужнае аблічча майго далёкага сябра. Я тады яшчэ не ведаў і нават не здагадваўся пра акалічнасці яго біяграфіі, якіх сам Васіль Аляксандравіч ні ў лістах, ні ў размовах пры сустрэчы ніколі не кранаўся. Глыбока

ўзрушаны, я таго ж дня напісаў яму: «…знаю, што кранацца асабістага, самага балючага, нікому не дазволена, я і не адважваюся — хачу толькі даведацца, як склалася Ваша жыццё…» Праз два тыдні я атрымаў адказ:

«Дарагі дружа, у гэтыя дні я вельмі, вельмі хвалююся, таму што лісты ад сяброў і ад зусім не вядомых мне людзей растрывожылі старую рану, якая ніколі, ніколі не загоіцца. Я прасіў В. Грышына не пісаць пра гэта (у часе знаходжання ў нас ён даведаўся, бо не даведацца нельга, усе ведаюць), але ён сказаў, што напісаць трэба абавязкова.

Я пайшоў у армію праз месяц, як пачалася вайна, ніколі не думаў, што да нас на Дняпро прыйдуць немцы. З Верай, маёй маладой жонкай (ёй быў 21 год, мне 23), мы рассталіся, спадзеючыся на тое, што хутка вораг будзе разбіты і наша шчасце зноў будзе бясхмарнае. Але атрымалася не так. Прыйшлі немцы; разам з дзвюма сяброўкамі Вера (яна толькі што скончыла настаўніцкі інстытут) хавала лістоўкі, скінутыя з нашых самалётаў, потым дзяўчаты з Верай самі пісалі лістоўкі, заклікаючы моладзь не ехаць на катаргу ў Германію… Яны хавалі зброю, перадавалі яе нашым салдатам, памагалі перапраўляцца цераз Дняпро.

Іх арыштавала гестапа. Веру і дзвюх яе сябровак страшэнна катавалі. Вера дачасна нарадзіла дзіця… Паліцэйскі (наш здраднік) ударыў яго галавой аб каменную сцяну, забіў, вынес і кінуў на сметнік, і яно там ляжала тры дні… а маці, пасівелая ад гора, глядзела ў акно… Потым ёй выкалалі вочы… Потым павесілі. Яны засталіся вернымі Радзіме.

У мяне і цяпер кроў стыне ў жылах, калі я думаю пра гэта… Я ведаю, што такое любіць і што такое ненавідзець. Я тысячу разоў перакананы, што па-сапраўднаму ненавідзіць ворага той, хто пяшчотна любіць — дзяцей, прыгажосць, Чалавека. І калі, бывае, хто-небудзь павучае мяне, што вось у такой і такой маёй працы, маўляў, недастаткова глыбока выказана ідэя непрымірымасці да ворага, я з цяжкасцю стрымліваю гнеў.

Дарагі мой дружа, мая любоў да беларускага народа — гэта, перш за ўсё, глыбокае разуменне, што такое гора. Наш украінскі народ таксама выцерпеў шмат пакут, але беларусы выпілі чашу гора, куды большую.

У мяне зараз дзеці — усяго двое дзяцей, дачка і сын… Як хацелася мне, каб іх было дзесяць! Як я люблю, як люблю сваіх дзяцей, як даражу любоўю да мяне іх маці — маёй жонкі. Мы разам з ёю шануем памяць Веры…

Дарагі мой друг, можа быць, гэтыя словы сказаны не так, як трэба было б іх сказаць… Але мне цяпер вельмі цяжка. Я, прачытаўшы газету, сеў на лаўцы ў садзе і сядзеў гадзіны тры, да ночы. Пайшоў дадому і газету згубіў. Мінула некалькі дзён, ніяк не знайду хаця б адзін нумар газеты; калі зможаце, прышліце мне адзін экзэмпляр «Правды» за 9 красавіка 1970 г.»

Колькі ж трэба было мець душэўнай сілы, каб, перажыўшы ўсё гэта, не знямець, не счарсцвець сэрцам і сваю мужнасць увасобіць у подзвіг усяго жыцця ў імя вялікай любові да дзяцей, да чалавека, да яго шчасця!

З нашай рэспублікай у яго былі самыя блізкія душэўныя сувязі. «З Беларусі нам прыслалі сёе-тое пра Хатынь, — пісаў ён мне, — чытаем у кожным класе. Хочам, каб дзеці не толькі ведалі ўсё гэта. Трэба, каб попел пакутнікаў грукаў у дзіцячыя сэрцы».

Пра свой першы прыезд у Беларусь Васіль Аляксандравіч расказваў з глыбокім, шчырым узрушэннем:

«Ёсць старажытны ўкраінскі звычай: калі чалавек збіраецца да свайго дарагога сябра, ён бярэ жменю пшаніцы, сыпле ў чырвоны мяшэчак і, прыйшоўшы ў госці, высявае залатыя зерні ў зямлю, якая з гэтага часу становіцца такой жа дарагой для яго, як свая родная. Гэтак зрабілі і мы. З каласкоў пшаніцы, вырашчанай на школьнай дзялянцы, мы ўзялі жменьку зярнят. Мы пасеялі ў вашу зямлю зерні братства.

Ніколі не забудзем дзён, праведзеных ў нашых сяброў. Калі мы на палескай зямлі саджалі паўлышскую яблыньку, калі ў вячэрняй цішыні сядзелі на беразе ляснога возера, разам спявалі песні, я адчуваў, як б’ецца тваё сэрца, дарагая Беларусь.

Калі да нас прыехалі браты з Беларусі і на нашай зямлі пасадзілі вечназялёныя ялінкі і стройныя, задумлівыя бярэзінкі, а нашы мовы зліліся ў адну песню, — я адчуў усёй душой, спасціг кожнай часцінкай сваёй істоты, што няма ў свеце сілы, якая мацней за наша сяброўства…»

Усё прыгожае, што зрабіў ён дзеля гэтага сяброўства, жыве, дорыць свой шчодры плён. Сталі ўжо вялікімі яблыні, пасаджаныя ім у садзе Кармянскай школы. «Яблыні Сухамлінскага» — называюць іх дзеці, даглядаючы і шануючы з асаблівай любоўю. Выраслі беларускія яліны і бярозы на сядзібе Паўлышскай школы, якая носіць яго слаўнае імя.

Цяпер шырока вядома дружба Паўлышскай школы з Кармянскай школай-інтэрнатам, дружба і супрацоўніцтва Сухамлінскага з дырэктарам гэтай школы, а зараз рэктарам Мазырскага педінстытута Героем Сацыялістычнай Працы М. А. Дзмітрые-

вым. Няма неабходнасці тут падрабязна расказваць пра гэтага выдатнага педагога. Наўрад ці я скажу лепш, чым сказаў пра яго Васіль Аляксандравіч у кнізе «Размова з маладым дырэктарам школы»:

«Я ведаю дзясяткі цудоўных майстроў педагагічнай працы з розных куткоў Савецкага Саюза, і найважнейшай рысай іх майстэрства ёсць самавыяўленне, самараскрыццё духоўнага багацця перад вучнямі. Некалькі год сябруем мы з дырэктарам Кармянскай школы-інтэрната Гомельскай вобласці Міхаілам Апанасавічам Дзмітрыевым. Ён некалькі разоў бываў у гасцях у нас у школе, я бываў у Карме. Гэта цудоўны педагог; сакрэт яго майстэрства заключаецца ў тым, што, слухаючы яго ўрокі, дзеці адчуваюць незвычайнае багацце чалавека. Ён вабіць дзяцей багаццем думак. Выкладаючы гісторыю, ён чытае на памяць цэлыя старонкі дакументаў. Выдатнай асаблівасцю ўрокаў гэтага майстра з'яўляецца ўменне знайсці яркую, выразную, захапляючую форму для выяўлення ідэі».

Васіль Аляксандравіч быў знаёмы, перапісваўся з нашымі вядомымі пісьменнікамі Янкам Брылём і Аркадзем Куляшовым. Памятаю, як ён захапляўся, чытаючы дасканала перакладзеную Куляшовым «Энеіду» Катлярэўскага. Акрамя сардэчнага, прачулага пісьма да паэта ён паслаў яму «Сэрца аддаю дзецям» і прысвяціў адну са сваіх казак.

З многіх яго пісем да мяне не магу не прывесці напісанага незадоўга да смерці. У ім — клопат і пачуцці, якія асабліва турбавалі Сухамлінскага — педагога, грамадзяніна, патрыёта:

«З вялікім хваляваннем прачытаў Ваш сардэчны ліст. Дзякуй, шчырае дзякуй за цёплыя словы пра маю сціплую працу. Я заўсёды з прыемнасцю прыгадваю нашы сустрэчы. Дужа дзякую за кнігі. У нас у школе ёсць «Пакой думкі». Гэта своеасаблівая чытальня. Сюды прыходзяць дзеці і падлеткі, каб памарыць, падумаць над кнігаю. Прага думкі — вось самае галоўнае, што, здаецца мне, трэба нам выхоўваць ў маладога пакалення. Бо маем пагрозу таго, што сярод патоку інфармацыі, сярод скавытання транзістараў, мігцення кіна- і тэлеэкрана жыве ён, чалавек, часам бяздумна і духоўна бедна. І гэта не толькі часам, а, на жаль, вельмі часта. Маю намер напісаць артыкул (а потым і кнігу) пра духоўнае жыццё чалавека…

У «Пакоі думкі» на відным месцы — творы беларускіх пісьменнікаў. Маё перакананне: кожны з нас — украінцаў, беларусаў, рускіх — павінен валодаць (прынамсі, чытаць) хоць бы чатырма нашымі славянскімі мовамі (а то і пяццю, шасцю). Без гэтага

мы будзем духоўна бедныя. Я свабодна чытаю па-беларуску і не толькі разумею, а і адчуваю ўсе сэнсавыя і эмацыянальныя адценні слова.

Лічу, што кожная з нашых славянскіх моў нясе сваю непаўторную духоўную стыхію, і як бы — не дай бог — хоць адна з нашых моў памерла, страту, ні з чым не параўнаную, панеслі б мы ўсе…»

Кароткай была наша дружба з ім, жывым. Два няпоўныя гады здаюцца цяпер адным імгненнем, але сіла гэтага імгнення ў тым, што яно зырка высвеціла мне самае галоўнае ў маім жыцці. Мая душа ўзбагацілася такімі радасцямі, якія ўпершыню я спазнаў назаўсёды. І, напэўна, кожны, хто ведаў Васіля Аляксандравіча, дзякуючы далучэнню да яго жыватворчых думак і пачуццяў, да незвычайнай прывабнасці яго асобы, упэўніваўся, адчуваў, што падымаецца на нейкую болей высокую жыццёвую прыступку, адкуль значна шырэй бачацца шматгранны, складаны свет і чалавек у не меншай сваёй складанасці і значнасці.

Голас настаўніка з кожным годам, з кожным днём усё мацней гучыць для кожнага з нас.

Нястомны працаўнік, ён пачынаў свой дзень з чатырох гадзін раніцы. У акенцы яго рабочага пакоя загараўся першы агеньчык новага дня.

Неаднойчы бываў я ў Паўлышы, але на гэты раз, прыехаўшы на яго шасцідзесяцігоддзе, сказаў: — Добрага ранку, Васіль Аляксандравіч! — ужо таму, хто ўглядаецца ў прасторы роднага Прыдняпроўя з высокага мармуровага пастамента.

Самыя жывыя помнікі, мабыць, — помнікі настаўнікам. Да іх ідуць вучні ўсіх узростаў па закліку, па патрэбе сумлення — падзяліцца радасцю, горам, надзеямі і сумненнямі, маўкліва пастаяць, падумаць і пайсці духоўна абноўленым і прасветленым.

Ціхія хвіліны ля помніка настаўніку — не толькі доўг памяці, а працяг галоўнага ўрока жыцця. Напэўна, гэта і ёсць запаветнае выхаванне душы чалавека.

Настаўнік жыве, вучыць.

У гэтым яго бяссмерце.

*1971–1979*

## ВЯСЁЛЫ ТАЛЕНТ

Усе, хто ведаў яго — пісьменніка, педагога, грамадзяніна, — добра памятаюць, як і на схіле жыцця ён заставаўся чуйным да сваіх юных сяброў, быў шчаслівы, што жыве ў дзівосным свеце вясёлай казкі, у свеце маленства і юнацтва.

Калі вы сустракаліся з ім, слухалі, як ён гаварыў са сваімі чытачамі, нельга было не здзівіцца з яго душэўнай даступнасці, непасрэднасці, нават нейкай сарамлівасці, якая заўсёды ўласцівая шчырым і добрым людзям.

Без людскога асяроддзя, без сяброў ён не мог абысціся. У ім жыла няўрымслівая, нястомная душа дзіцяці, здольная заўсёды захапляцца, здзіўляцца ўсяму новаму, невядомаму.

Праз суровыя цяжкасці і пакуты прабіваўся ён да святла. Але нават маленькі хлопчык Янка з аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры» ў галоднай сірочай хаце са шчырай даверлівасцю, поўны шчаслівага ўзрушэння, адкрывае сабе свет сваіх першых радасцяў.

Пісьменнік іранізуе над сваімі далёкімі душэўнымі адкрыццямі, ён не хавае добрай усмешкі. І ў гэтай шчырасці бачыш праўду жыцця, бачыш той аптымізм, які не пакідаў яго нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця.

Ужо на восьмым дзясятку гадоў Янку Маўра спасцігла вялікая бяда. Ён пачаў слепнуць. Усе мы з болем у душы бачылі, як з кожным днём слабее яго зрок. Без праважатага ён ужо не мог перайсці вуліцы, а сваіх знаёмых пазнаваў толькі па голасе. Мы са страхам думалі пра яго няшчасце, і толькі сам ён кожнаму спакойна тлумачыў, што поўная слепата ўратуе яму вочы. Упэўненасць, з якой гэта гаварылася, не дапускала ніякіх сумненняў. Зусім сляпы, ён ні на хвіліну не паддаваўся адзіноце. Як і раней, мы бачылі яго і на сходах, і на творчых сустрэчах. У лютым 1955 года ён з дапамогай праважатага ездзіў у Маскву на Дэкаду беларускага мастацтва і літаратуры. Ёсць здымак: сустрэча беларускіх пісьменнікаў з Маршаком. Побач з Самуілам Якаўлевічам стаіць Іван Міхайлавіч — у чорных акулярах, абапіраючыся на кій, і… усміхаецца.

Ён шчыра радаваўся сваім сябрам. Маўрава вытрымка і ўпэўненасць перамаглі і на гэты раз. Пасля складаных і тонкіх хірургічных аперацый пісьменнік, як ён сам сцвярджаў, «зноў нарадзіўся на свет». І, як зноў народжаны, цешыўся жыццём.

Васьмідзясятую вясну яго нараджэння мы адзначалі разам з ім. Іван Міхайлавіч, як заўсёды, быў дасціпны і нечаканы ў сваіх

жартах. Мне выпаў гонар адкрыць і весці ў Тэатры юнага гледача гэтую ўрачыстасць. Даклад пра творчасць юбіляра рабіў яго даўні друг, паплечнік і рэдактар Алесь Іванавіч Якімовіч. Вясёлае і незабыўнае было гэта свята. Большасць з нас, сяброў юбіляра, ужо дзяды, дзяцініліся, як малыя. І, мабыць, таму, што такі тон і настрой задаў юбіляр. На свяце свайго любімага пісьменніка дзеці адчувалі сябе большымі імяніннікамі, чым ён сам. Гэта было ў яго натуры. Вясёлая містыфікацыя, розыгрыш, жарт — яго найлепшыя спосабы абыходжання з сябрамі. Гэта адчулі ўсе, хто віншаваў яго ў той вечар. Забываючыся на паважнасць паўнамоцтваў, усе стараліся не выбівацца з агульнага настрою.

Памятаю, большасць прывітанняў былі не адрасы ў аксамітных папках, а якія-небудзь смешныя сувеніры з неспадзяванкаю. Нават дэлегаты ад пісьменнікаў — салідныя дзядзькі і цёткі — прыкінуліся выхаванцамі дзіцячых садоў, называючы сябе Сашамі, Васямі, Эдзікамі, Леначкамі, і гаварылі свае прамовы калектыўна, як мага звонкімі, а то пісклявымі галасамі. «Прапішчаў» і я сваё віншаванне:

Івану Фёдараву многа год,  
А Янку Маўру — трыццаць восем.  
Мы, падначалены народ,  
Удзячнасць Вам сваю прыносім.  
З маленства адкрывалі свет  
Па Вашых кнігах капітаны,  
Што сёння пракладаюць след  
Праз космас і праз акіяны  
Да непазнаных таямніц,  
Што вабілі людзей спрадвеку.  
Вы — адкрывальнік тых крыніц,  
Што так патрэбны чалавеку.  
Наш слаўны, мудры Дзед-ўсявед,  
Патрабавальны, строгі, колкі,  
Паклон, пашана і прывет  
Вам ад усіх сяброў «Вясёлкі».

Сам — завадатар гэтай гульні — юбіляр быў задаволены. І ў рэстаране, куды запрасіў усіх нас на пачастунак, ён не пакінуў свайго дзівацтва: памяняўся са швейцарам на шапкі, пасадзіў яго, як аказалася, свайго аднагодка, побач і не адпускаў увесь вечар: «Сядзі, браце. Можа, якраз тут тваё месца, а маё там», —

паказваў ён на гардэроб. І калі хто з гасцей не ўпраўляўся сам адзецца, быў напагатове памагчы.

У другі раз быў я сведкам вясёлага блазенства дзядзькі Янкі пасля ўжо яго васьмідзесяцігоддзя, калі яму часцей пачало нездаровіцца і дактары загадвалі ляжаць. Але яго гарэзлівая натура не магла ўтаймавацца. Хацелася быць у гурце, у жывым асяроддзі. Ён уцякаў з дому і тайна паяўляўся ў Саюзе пісьменнікаў, балазе — недалёка, перайсці толькі вуліцу. І вось ужо паміж сваіх субяседнікаў у адным з пакояў Саюза ўцякач раптам пачуў з калідора знаёмы голас нашага доктара Якава Уладзіміравіча.

— Ціха! — даў знак дзядзька Янка і на вачах здзіўленай кампаніі, як яму ні цяжка было, сагнуўся і ўціснуўся між тумбаў канцылярскага стала. Мы засланілі стол. Доктар адчыніў дзверы:

— Ці мне здалося, ці сапраўды я чуў голас Маўра?

— Здалося, здалося! — дружна пацвердзілі мы.

Доктар пайшоў. Іван Міхайлавіч, крэкчучы, вылез з-пад стала. Ён радаваўся, што яго не «застукалі»…

Пра Маўравы прыгоды можна было б напісаць прыгодніцкую кнігу. Але каб яна была такая ж, як Маўравы кнігі, патрэбен пісьменнік яго таленту, яго вясёлай гарэзлівай натуры.

З майго апісання ў тых, хто не бачыў і не ведаў Янкі Маўра, можа скласціся ўражанне, што гэта быў няўрымслівы непаседа, трапяткі і мітуслівы весялун. На дзіва, яго ўнутраны тэмперамент, яго душэўная экспансіўнасць не супадалі з паважнасцю і строгасцю аблічча, з усёй мажной паставай звычайна маўклівага, павольнага, нават маруднага ў сваіх рухах і жэстах чалавека. Але да глыбокай старасці ў ім заставаліся невычэрпныя запасы дзіцячай нястомнасці. І на схіле гадоў ён захапляўся свавольствамі. Яго рабочы кабінет быў поўны неспадзяванак. Хто прыходзіў сюды ўпершыню, вельмі лёгка трапляў на кручок чарговай Маўравай забаўкі. У кожным кутку падсцерагала небяспека: то на вас паўзла змяя, і ад нечаканасці вы не маглі пазнаць, што яна несапраўдная, то, сядаючы ў шырокае, мяккае крэсла, вы раптам падскоквалі траха не да самай столі… А паважны гаспадар, задаволены ўдалым фокусам, паціху ўсміхаўся, робячы выгляд, што нічога не заўважае.

Яшчэ часцей і, можа, болей з’едліва любіў пажартаваць ён з самога сябе. Пад сваім партрэтам напісаў самаэпіграму на трох мовах:

То не Эзоп, філосаф грэцкі,
И не француз — бунтарь Вольтер,

То белорусский автор детский,
Котoрий поки ще не вмер.

Дарэчы, самае любімае яго захапленне, якое зрабіла яму як пісьменніку добрую паслугу, была мова эсперанта. Ён валодаў ёю дасканала, вёў перапіску з многімі сваімі сябрамі і карэспандэнтамі з тых далёкіх экзатычных краін, пра якія пісаў свае кнігі.

Янка Маўр — пісьменнік і настаўнік — вучыў весела, займальна. Ніколі змрочныя, злыя таленты, нават геніі, якія дамагаліся права вучыць людзей, не рабіліся любімымі настаўнікамі — ні пад прымусам, ні пад страхам, ні тым больш з дапамогай сродкаў інквізіцыі.

Імкнучыся стаць дарослымі, дзеці гуляюць у дарослых. Вучыць дзяцей можа толькі той, хто сам здольны вучыцца ў іх.

Маўрава маленства і юнацтва, як і ўсё яго жыццё, навучылі пісьменніка ўсяму самаму лепшаму, што ён аддаў людзям у сваіх кнігах.

Цікаўны і дапытлівы, нястомны даследчык і шукальнік, ён не змарнаваў ніводнага дня, каб не спазнаць нешта новае, не ўзбагаціць сваіх душэўных запасаў. Усім, хто чытае яго кнігі, ён шчодра раздае багацці, здабытыя нялёгкім жыццём.

Чалавек моцнай загартоўкі, непрымірымы да несправядлівасці, няшчырасці, фальшу, ён прайшоў праз самыя пакутлівыя выпрабаванні, але ніколі і нідзе не адступіўся ад сваіх перакананняў.

Юнака, якому яшчэ не было дваццаці гадоў, выключаюць з настаўніцкай семінарыі і заносяць у спісы палітычна ненадзейных. Гэта было найцяжэйшым ударам не толькі яму самому, але і гаротнай удаве-маці, што столькі надзей ускладала на сына, які неўзабаве павінен быў стаць настаўнікам.

Колькі клопату і турбот каштавала і ёй, і яму, каб паступіць сіраце вучыцца на казённы кошт! І вось яго выганяюць з апошняга курса. Паліцыя бярэ з яго падпіску, што ён не будзе сустракацца са сваімі былымі сябрамі-студэнтамі. Праўда, семінарскія і паліцэйскія чыны прабавалі і іншымі спосабамі абрахманіць небяспечнага ім юнака: угаворвалі адумацца, узяцца за розум. Але яго гордае сумленне, вядома ж, не магло пайсці на такую ганебную капітуляцыю.

Студэнт Фёдараў пакідае семінарыю, не скончыўшы яе, але ён ужо добра ведае, што выходзіць з яе сцен зусім іншым чалавекам, які цвёрда ўпэўнены ў сваёй праваце. Тут ён пазнаёміўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю, стаў чытачом ленінскай «Искры».

Як жыць далей, чым уцешыць самага блізкага яму чалавека — маці, якая выбівалася з апошніх сіл, каб вывучыць сына — сваю адзіную надзею?

Юнак ужо меў спецыяльнасць, што магла б пракарміць яго і маці. Яшчэ да паступлення ў семінарыю ён скончыў рамеснае вучылішча, стаў падмайстрам слясарнай справы, але работы знайсці не ўдалося. Цяпер жа, калі за плячыма быў ужо вопыт семінарскага навучання і радасць пазнання тых высокіх ідэй, якімі жыла перадавая моладзь, уражлівы і прагны да новых ведаў, новых адкрыццяў, ён, церпячы голад і нястачы, не адступаецца ад мэты вучыцца далей. Не парывае са сваімі сябрамі. У яго цесным пакойчыку, як і раней, тайна збіраюцца студэнты, разважаюць, спрачаюцца, мараць пра будучыню. Цяпер, каб пракарміць сябе і маці, ён дае прыватныя ўрокі, вучыць «недаросткаў» — дзяцей купцоў, гандляроў, мяшчан, якім навука — не самы важны клопат.

У свае дваццаць гадоў Іван Фёдараў экстэрнам здае экзамены і атрымлівае права быць настаўнікам пачатковай школы. Спачатку вучыць дзяцей у вёсцы пад Панявежам, потым у Бутчы, непадалёк ад Барысава.

Не спалохаўшыся паліцэйскіх наглядчыкаў, малады настаўнік становіцца яшчэ больш актыўным удзельнікам рэвалюцыйнага падполля.

На першы погляд, гэта як бы ўсім вядомыя звесткі з біяграфіі пісьменніка, якія цяпер можна прачытаць у школьных падручніках. Пры жыцці самога Янкі Маўра мы, яго сучаснікі, рэдка калі і задумваліся над гэтымі выдатнымі вехамі жыццёвай дарогі нашага старэйшага сябра, таго, хто сваімі кнігамі пачынаў савецкую літаратуру, у якой пісьменнік вучыць чытача не толькі сваімі творамі, а і прыкладам свайго жыцця.

З гордасцю і пашанай гаворым мы пра нашага Янку Маўра як пра пісьменніка грамадзянскай мужнасці, той мужнасці, што вымяраецца высокай самаахвярнасцю ў імя будучыні.

Сустрэўшыся ў 1906 годзе на падпольным з'ездзе беларускіх настаўнікаў з Якубам Коласам, ён стаў яго выпрабаваным другам на ўсё жыццё.

Гэта зусім не выпадкова, што пачынальнікамі дзіцячай літаратуры на Беларусі з'явіліся народныя настаўнікі — Якуб Колас і Янка Маўр. Асновы гэтай літаратуры, закладзеныя імі, моцна трымаюцца на вопыце мудрай народнай педагогікі, на вопыце народнай творчасці, хоць, здавалася б, Янка Маўр — гісторык, географ, нястомны вандроўнік — непасрэдна нідзе і не карыстаў-

ся сродкамі ні дарослага, ні дзіцячага фальклору, аднак асноўная яго асаблівасць як мастака ішла, вядома ж, перш-наперш ад казкі, ад фантазіі, ад загадкавасці, ад той адвечнай здольнасці здзіўляцца, захапляцца, імкнуцца да яшчэ не адкрытага і не спазнанага, што заўсёды было і будзе ўласцівае дзіцячым і юнацкім гадам, развіццю і ўдасканаленню чалавека як асобы.

«Чалавек ідзе» — так называўся першы твор, напісаны Янкам Маўрам для дзяцей. Гэтая задушэўная, даверлівая гутарка пісьменніка са сваім чытачом, якая адкрывала таямнічыя старонкі далёкай гісторыі, і цяпер будзіць фантазію, мацуе ўпэўненасць у сілу розуму чалавека.

Чалавек ідзе. Усё даўжэйшым становіцца яго шлях. Колькі мільёнаў гадоў ён ужо ідзе? Як ён з’явіўся на зямлі, як жыў і як стаў тым магутным волатам, што дастае да іншых планет?

Новым чытачам кнігі цікава будзе ведаць, што аповесць «Чалавек ідзе» была надрукавана ў 1926 годзе на старонках часопіса «Беларускі піянер». Так Янка Маўр стаў адным з першых піянераў савецкай літаратуры для юнацтва.

Часопіс, у якім упершыню выступіў пісьменнік, быў невялікі і адразу цалкам не мог змясціць усю аповесць. Яна друкавалася ў некалькіх нумарах. Прачытаўшы апублікаваныя раздзелы, чытачы не маглі дачакацца наступнага. Патрабавалі, каб рэдакцыя хутчэй друкавала працяг, звярталіся да самога аўтара, каб ён хоць у пісьме паведаміў, пра што будзе расказваць далей.

Пісьменнік-педагог добра разумеў сваю задачу выхавацеля-інтэрнацыяналіста. Пасля сваёй першай аповесці — гістарычнай — ён бярэцца за творы на зусім новую ў беларускай літаратуры тэму — аб жыцці дзяцей у каланіяльных краінах. Ідэя міжнароднага брацтва прыгнечаных народаў праходзіць праз яго многія творы. Цяпер яны ўжо складаюць цэлую бібліятэку.

Аповесць «Палескія рабінзоны» паказала новыя творчыя магчымасці пісьменніка. Любімы юнымі чытачамі прыгодніцкі сюжэт будуецца Маўрам ужо не на падзеях у далёкіх заморскіх краінах. У гэтым творы ва ўсім харастве раскрылася свая, яшчэ не спазнаная рамантыка. Незвычайнае падарожжа юных герояў па родным Палессі поўнае нечуваных і нечаканых адкрыццяў.

Выдатным дасягненнем Янкі Маўра — майстра не толькі ў літаратуры, а, напэўна, і ў слясарнай, тэхнічнай справе (нездарма ж ён канчаў рамеснае вучылішча) — была аповесць «ТВТ» (Таварыства ваяўнічых тэхнікаў). На Усебеларускім конкурсе на лепшую дзіцячую кнігу ў 1934 годзе яна атрымала першую прэмію. Аповесцю зацікавіўся М. Горкі. Ён папрасіў аўтара

перакласці яе на рускую мову. Гэта было якраз напярэдадні Першага з'езда пісьменнікаў СССР. Горкі прачытаў кнігу і, аддаючы С. Я. Маршаку, сказаў: «Здаецца, нешта цікавае». У сваім дакладзе пра дзіцячую літаратуру Маршак адзначыў яе як цікавую школьную аповесць. Маўрава «ТВТ» была слаўнай папярэдніцай вядомай гайдараўскай кнігі «Цімур і яго каманда».

Ужо некалькі пакаленняў людзей, успамінаючы сваё маленства і юнацтва, не абмінаюць добрым словам пісьменніка, які адкрыў ім сваімі кнігамі цэлы свет — новы, таямнічы і захапляючы.

Першымі чытачамі Янкі Маўра былі нашы бацькі. Потым з цікавасцю чыталі яго кнігі мы, пасля — нашы дзеці. Цяпер яго чытаюць нашы ўнукі.

*1973*

## ЧАСЦЕЙ ГЛЯДЗІЦЕ НА ЗОРЫ

Дзіцячы пісьменнік. Я цвёрда перакананы, што кожны сапраўдны мастак рана ці позна прыходзіць да дзяцей. У гэтым ёсць свая заканамернасць. Прыходзіць, бо мае патрэбу далучыцца да той крыніцы, да тых вытокаў, якія жывяць чалавека шчасцем творчасці.

Не зусім спадзеючыся на маладога аўтара-пачаткоўца, нават самага здольнага, які бярэцца пісаць для дзяцей, я ўпэўнены ў большым поспеху пісьменніка, што ідзе не толькі ад літаратурнага вопыту, а ў першую чаргу — ад жыццёвага, і якому ёсць што сказаць, ёсць чаму навучыць, і які ўмее гаварыць з дзецьмі.

Захапленне, замілаванне дзецьмі — гэта яшчэ не любоў да дзяцей. Дзеці не церпяць саладжавай расчуленасці. Артыстка, вядомая выключнай імітацыяй дзіцячых галасоў, заўсёды выклікае бурны пратэст у маленькіх слухачоў. Яны не церпяць перадражнівання.

Дзеці вымагаюць роўнасці і абсалютнага даверу. Яны прымуць у сваю гульню, залучаць у свет сваёй выдумкі і фантазіІ кожнага, не зважаючы на ўзрост, калі вы сапраўды паверылі ім — пераадолеўшы сілу сваёй «дарослацсці», узняліся ў стратасферу вобразнага мыслення дзіцяці.

Радаснае адчуванне «дзіцячасці» да апошніх дзён жыцця бераглі ў сабе ўсе сапраўдныя дзіцячыя пісьменнікі, і сярод іх — наш Янка Маўр. Яму ды сваім дзецям і ўнучкам я абавязаны шчаслівым далучэннем да дзіцячай літаратуры.

Не так многа напісаў я кніг для дзяцей, каб не помніць гісторыю стварэння кожнай, у якіх умовах і акалічнасцях яны пісаліся, якія канкрэтныя задачы — узроставыя, мастацкія, моўныя, этычныя і эстэтычныя — ставіў я ў кожнай з іх. Раскажу толькі аб тым, як складалася мая першая казка «Вавёрчына гора».

Гэта было адразу пасля вайны. Мы ехалі з малым сынам — было яму восем год — да бабулі ў вёску. Дарога была далёкая. Прыехалі ў Слуцк раніцаю. Да маіх Еўліч транспарту не было, і мы пеша ішлі па дарозе кіламетраў пятнаццаць.

Ішлі доўга, слухалі, як спявае жаваранак над полем. Сыну было ўсё новае і цікавае, пакуль не стаміліся яго ногі. Каб дарога была лягчэйшая, я пачаў расказваць яму казкі.

Расказаў адну, другую, трэцюю, пятую, дзясятую — усе, якія ведаў. А сын ужо без казкі ісці не можа. Стаў я фантазіраваць, расказваць казку пра вавёрачку, якая таксама трапіла ў бяду — забалелі ў яе зубкі. Як памагчы беднай вавёрачцы? Пачалі мы думаць разам з сынам. І ў вёску прыйшлі з новаю казкаю.

Хлопчык адразу ж пазнаёміўся з суседскімі дзецьмі. Прывёў усіх у нашу хату, паабяцаўшы расказаць казку. Сталі мы расказваць. Бачу — слухаюць уважліва. Я падахвоціўся і рашыў напісаць яе ў вершах. Залез на гарышча, на вышкі пад саламянаю страхою. Гэта і быў мой кабінет. Там было ціха і ўтульна і ніхто не замінаў. Я сядзеў цэлы дзень на гэтым гарышчы, пры маленькім акенцы, сядзеў і пісаў казку ў вершах. І яна неяк вельмі лёгка пайшла, сама па сабе пачала складацца. Так мінула дзён тры ці чатыры. Я ўсё лазіў на гэта гарышча, у свой кабінет. Нарэшце скончыў працу і прачытаў казку ўжо ў новай рэдакцыі спярша сыну, потым суседскім дзецям, потым галоўнаму суддзі — нашай бабцы. Усе слухалі з цікавасцю, нават пераказвалі на памяць. Але я адчуваў сябе няўпэўнена. Не ведаў: добра гэта ці не.

Вярнуліся мы ў Мінск, і я ўсё ніяк не мог рашыцца паказаць сваю казку пісьменнікам. Найбольшым аўтарытэтам у нашай дзіцячай літаратуры быў Янка Маўр. Адважыўся я і пайшоў да Івана Міхайлавіча. Стаў ён чытаць, бачу — маўчыць, не лае мяне, а потым кажа: «Добрая казка». Пасмялеўшы, я паказаў яе рэдактарам. Казка была апублікавана ў нашым тоўстым літаратурным часопісе, які звычайна творы для дзяцей не друкуе. Гэта мяне падахвоціла, але наступную казку «Буслінае лета» я напісаў не адразу, а толькі праз дзесяць год.

У 1972 годзе ЦК КП Беларусі і ўрад нашай рэспублікі ўпершыню прысудзілі Дзяржаўныя прэміі за творы для дзяцей. Пасмяротна гэтай высокай узнагароды быў удастоены Янка Маўр.

Я ганаруся, што адначасова з творамі патрыярха беларускай дзіцячай літаратуры Дзяржаўнай прэміяй адзначаны і мае кнігі: «Чытанка-маляванка», «Казкі» і паэма «Беларуская калыханка».

З дня ўтварэння ў рэспубліцы дзіцячага часопіса «Вясёлка» на працягу сямнаццаці гадоў я працаваў яго галоўным рэдактарам. Гэта былі прыемныя, шчаслівыя гады майго жыцця, мабыць, таму, што ўсё тое, што я пісаў і рабіў для дзяцей, было для мяне сапраўднай асалодай. Не зважаючы на ўзрост, маючы справу з дзецьмі, я і сам «дзяцінеў». Стварэнне казак, пацешак, загадак, скорагаворак, лічылак — усё гэта было як радасная «гульня» дзеда са сваімі ўнукамі. І сапраўды, якраз у гэтыя гады раслі і былі маімі субяседніцамі, памочніцамі ўнучкі Юля і Маша — мае непасрэдныя настаўніцы, у якіх я вучыўся маленству.

Калі ў астрафізіка акадэміка Абарцумяна спыталіся, не без іроніі, вядома: «Якую практычную карысць дае вам ваша работа», — ён адказаў: «Чалавек адрозніваецца ад свінні тым, што ён часам усё ж задзірае галаву ўгару і глядзіць на зоры».

Колькі ёсць яшчэ сярод нас упэўненых, што няма ніякай карысці з таго, што чалавек глядзіць на зоры, слухае шум дрэў, спеў птушак, дзівіцца ўсходу сонца, не гаворачы ўжо пра музыку, паэзію, літаратуру, якую часам амаль пад прымусам трэба вывучаць у школе.

Напэўна, чалавек, які першы падняў галаву і ўбачыў начное неба ў зорах, якраз і стаў тым, з каго пачалося паэтычнае радаслоўе: думка, трывожны вобраз, народжаныя здзіўленнем.

Калі нехта ў тым, што я паспеў зрабіць, знойдзе вартае ўвагі, дык, можа быць, яму цікава будзе ведаць, што стаў я паэтам не тады, калі напісаў вершы. Сапраўдная паэзія, як я разумею цяпер, прачнулася, абудзілася ў маёй душы значна раней — тады, калі мой бацька, набыўшы першага ў жыцці каня, выпраўляў мяне на начлег і я ўсю дарогу — з вёскі да лесу, — задраўшы галаву ў неба, глядзеў і не мог адвесці вачэй ад незразумелай мне велічы зорнага сусвету. Здзіўленне, душэўная ўзрушанасць і пры ўсім пры гэтым — жаданне, няхай сабе голасам птушкі, любой жывой істоты, выказаць сваю радасць, што і ты ва ўсёй гэтай неабсяжнасці займаеш сваё месца і намагаешся зразумець — дзеля чаго яно табе.

Пазней, стаўшы ўжо ладным падлеткам, я ішоў у зімовы марозны дзень са Слуцка, з прафтэхшколы, у якой вучыўся на каваля і слесара, на пабыўку дадому ў свае родныя Еўлічы. Абапал гасцінца стаялі, як у казцы, заінелыя бярозы. Такое характ-

во, цішыня. І мне, які яшчэ і не думаў пісаць вершаў, чамусьці так захацелася выказаць, спасцігнуць душою ўсё, што я бачу і адчуваю, але я не мог і не ўмеў. І тады я гэтак расчуліўся ад горкай крыўды, ад бездапаможнасці, што стаў пасярод гасцінца і доўга-доўга рыдаў, абліваючыся слязьмі.

Чаму я запомніў і пранёс праз жыццё гэтыя, на першы погляд, нязначныя ўспаміны?

Думаю, што якраз гэта былі тыя моманты, калі ўва мне, як і ў многіх з нас, абуджаўся паэт, але я нічым не мог памагчы яму.

Можа быць, мы так і пражылі ўсё жыццё: часта ён даваў знаць пра сябе, прасіўся на свет, але я быў нячулым, благім яму таварышам…

***1976***

## НЕ ТОЛЬКІ СЯМЕЙНАЯ ПАДЗЕЯ

Вяселле… Якое яно павінна быць? Адкажу адным словам: вясёлае. Вяселле павінна быць вясёлае.

Не бяруся прапанаваць методыкі, ні тым болей сцэнарыя, чаго звычайна дамагаюцца распрацоўшчыкі і «праекціроўшчыкі» новых абрадаў.

Будучы ў адной замежнай краіне, мы з таварышам, зайшоўшы ў рэстаран паабедаць, сустрэлі відовішча, якога нідзе і ніколі дагэтуль не бачылі. За доўгім сталом, на відным месцы, сядзелі, мяркуючы па ўбранні, маладыя і іх госці. Але як трымалася ўся гасціна — і маладыя і пажылыя — з застылымі нерухомымі абліччамі, без аніводнага слова і ўхмылкі, гэта было нешта супрацьлеглае нашым уяўленням пра вяселле.

Кампанія адседзела запланаваны час, паднялася і накіравалася да дзвярэй. Калі маладыя праходзілі міма нашага стала, мы — я і мой друг — усталі. Мой калега, вясёлы, няўрымслівы ўкраінец, не ўцярпеў. Ён папрасіў дазволу павіншаваць маладых. Працэсія прыпынілася. Мой друг з шырокай добрай усмешкай сказаў, здавалася б, самыя простыя чалавечыя словы, якія ў нас гавораць у падобным выпадку, і… о, дзіва! Нявеста шчаслівва ўсміхнулася — першы раз за ўсю ўрачыстасць. Павесялелі твары ў гасцей. Павесялелі і мы самі ад таго, што і на гэтае дзіўнае вяселле хоць на хвіліну зазірнула весялосць.

Потым нам тлумачылі, што вяселле гэтае з мясцовасці, дзе якраз бытуе такі звычай — вяселле без вяселля.

У нашых вясельных звычаяў зусім іншы характар. І чым паўней, задушэўней ён раскрываецца і выяўляецца, тым большая асалода ўсім удзельнікам гэтай, ніколі не забыўнай у жыцці чалавека ўрачыстасці.

Вось чаму, мне здаецца, адразу ж трэба сказаць самае галоўнае, што сучаснае, новае вяселле — гэта не толькі нечае асабістае сямейнае свята, а падзея грамадская, свята нашага новага жыцця. І ў яго падрыхтоўцы і правядзенні павінна быць блізка зацікаўлена грамадскае асяроддзе як у сродку вельмі важных магчымасцяў культурнага, этычнага і эстэтычнага выхавання людзей, асабліва моладзі.

…Я ўсё яшчэ пад уражаннем двух дзён, якія адгуляў на вяселлі ў роднай вёсцы. У галаве гудуць маршы, вальсы і полькі нанятай у горадзе капэлі — акардэон, кларнет і бубен, — сабранай і злучанай выпадкова, на скорую руку, бо, едучы іграць вяселле, музыкі толькі ў аўтобусе пачалі знаёміцца між сабой, практыкавацца і згаворвацца, як іграць і хто на што здатны. На жаль, і кожны паасобку, і ўтрох яны мала на што былі здатныя, і малады мусіў іх наймаць толькі таму, што ў апошнюю хвіліну падвёў музыка, з якім было дамоўлена загадзя. Майму беднаму, змардаванаму ўсімі іншымі клопатамі маладому прыйшлося, калі ў хату ўжо збіраліся госці, гойсаць па райцэнтры і шукаць — хто б мог ураtаваць яго ў такую хвіліну, калі над вяселлем навісла пагрозай… музыка!

Нагледзеўся я на цяперашніх музык — бяздушных рамеснікаў. Яны ўсё могуць і нічога не ўмеюць. Дзіва, што не раз успамінаў я музык свайго юнацтва. У суседняй вёсцы было аж дзве капэлі, а цераз вёску — яшчэ і трэцяя. Гэта былі музыкі паводле прызвання. Яны шанавалі сваю славу, саміх сябе як музык, калі на людзях браліся за інструменты. Якая была зладжанасць і адчуванне ўрачыстасці свайго абавязку! Ужо тое, што вяселле ігралі гэтыя музыкі, надавала важнасць падзеі.

Тады вёска і сніць не магла пра той узровень дабрабыту і развіцця, якога дасягнула цяпер. І вось парадокс, над якім нельга не задумацца: матэрыяльнае багацце, тэхнізацыя культурнага побыту — тэлевізары, транзістары, машыны, матацыклы, газавыя пліты, электрасвятло ў сенцах, у хлявах — і ў той жа час занядбанне духоўных радасцяў, якія высока шанаваліся ў вёсцы.

Паспяхова сціраючы грані, вёска, як мне здаецца, занадта па-спажывецку глядзіць на горад, які, маўляў, павінен даваць ёй усю культуру, аж да вясельных музык, якіх, не дай бог, дадумаюцца (як дадумаліся ўжо ў гарадах) па нарадах пасылаць так

званыя камбінаты бытавых паслуг! Няўжо сельская мастацкая самадзейнасць жыве толькі ад агляду да агляду — у раёне, у вобласці, у сталіцы? Пара, даўно пара часцей «аглядаць» яе на месцы, дзе яна ствараецца і выпрабоўваецца — і ў калгасных клубах, і на вяселлях.

Рэжысура вяселля выпрацоўвалася стагоддзямі. Натуральна, што многае з абрадавай атрыбутыкі адышло ў нябыт, страціўшы свой сэнс. Але ці варта адкідаць літаральна ўсё? Не толькі не варта, а наадварот — трэба было б падумаць, як паэтычную сімволіку вяселля ператварыць у сродак выхавання эстэтычнай і духоўнай высакароднасці пачуццяў, якой так нестае такой вялікай падзеі ў жыцці, як вяселле, не толькі ў вёсцы, а і — асабліва — у горадзе.

Як стараецца сучасная людская фантазія ўпрыгожыць гэтую падзею, знайсці новую вобразную сімволіку! І трэба сказаць, што многае ўдала знаходзіцца. Удала, трапна знойдзенае пераходзіць, замацоўваецца ў народныя звычаі, у абрадавыя адзнакі: упрыгожанне кветкамі, істужкамі, каляровымі шарамі машын, у якіх едуць у загс, у сельсавет маладыя. Добрую душэўную ўсмешку выклікае святочная лялька, пасаджаная на радыятары або на кабіне машыны. Усё гэта знайшлося натуральна, самім народам і становіцца народным. Думаю, што і даўно знойдзенае магло б набыць новы вобразны сэнс.

Выпраўляючы сына па нявестку, каб ехаць у сельсавет, маці з бацькам тройчы абышлі машыну, абсыпаючы яе збожжам, — прыгожа і паэтычна! Адвечны напамін пра шчасце селяніна: жыта — жыццё, багацце. У некаторых славянскіх мовах і жыта і шчасце і цяпер завуцца адным словам — багацце.

А які прыгожы, як кранае за душу звычай, калі бацькі маладой выносяць насустрач маладому і яго гасціне стол і гэтак жа сустракаюць, прымаюць упершыню ў сваю хату нявестку бацькі маладога, калі маладая ў сваім урачыстым вясельным уборы, выйшаўшы з машыны, ідзе па дарожцы, высланай ёй ад вуліцы да парога, ды яшчэ ўсыпанай зелянінай і кветкамі.

Выносяць сталы і яшчэ паводле аднаго звычаю на гэты раз — хлопцы, якія робяць «засады» на дарозе, патрабуючы выкупу за маладую. Гэтыя цырымоніі і відовішчы, якія збіраюць цікаўных — паглядзець маладую, маладога, пажадаць ім шчасця, — хоць і вельмі даўнія, але ўвайшлі ў звычай. Мне спадабалася, што і на ганку сельсавета маладых сустракалі і хлебам-соллю, і добрым словам.

Вельмі цікавая і адна з найважнейшых вясельных цырымоній — і ў хаце нявесты, і пасля ў хаце жаніха як завяршэнне ўсёй паэзіі вяселля — дзяльба караваю. Я ўпэўнены, што гэты ўрачысты, пацешны і вясёлы абрад народ не выкіне з арсенала сваёй творчасці. Гэта надзвычай павучальны абрад паводле сэнсу закладзеных у ім традыцый, якія з пакалення ў пакаленне вучылі высокай пашане сямейнай этыкі: тут усе градацыі сваяцтва, сяброўскай і суседскай вернасці. У якім арэоле павагі паўстаюць бацькі, бабка, дзед, родныя ўсіх ступеняў і каленаў, і кожнаму павінна быць знойдзена і сказана шчырае слова прывітання, і яны ў сваю чаргу адказваюць маладой сям'і такой самаю шчодрасцю сваіх пачуццяў.

Гэтая цырымонія — цэлая школа ўзаемнай павагі і пашаны. Усю яе важнасць я адчуў упершыню, бо ўпершыню ў жыцці быў прызначаны на высокую і адказную пасаду вясельнага свата і два дні вёў гэты, не такі ўжо і лёгкі, рэй. Як я справіўся з пачэснымі абавязкамі? Па прызнанню гасціны — справіўся. Многае маё сваяцтва, нават і не самае блізкае, узяло з мяне слова быць за свата, бо ў многіх «ужо нешта наклёўваецца» — адны дачку аддаюць, другія сына жэняць, трэція — нагледзелі прымака. Так што калі і на пенсію пайду, то работы — да пакатынку, і якое работы!..

Спыніўшыся толькі на некаторых звычаях і абрадах, якіх народ шукаў да нас, шукае і ўдала знаходзіць цяпер, асобна хачу звярнуць увагу на самы адказны момант, без якога не абыходзіцца ні адно вяселле — на замацаванні новай сям'і грамадзянскім актам, дзяржаўным законам.

Хоць у гарадах галоўным цэнтрам вясельнай урачыстасці стаў так званы Палац шлюбу, гэта далёка не вырашае ўсіх магчымых формаў грамадзянскага рытуалу. Лягчэй за ўсё кананізаваць, выпрацаваць схему, штамп. Але нават царква, усталяваўшы шлюбны рытуал, стагоддзямі ўдасканальвала яго. Самае крыўднае, што многія, хто бярэцца выпрацоўваць новыя абрады, іх ідэальнае ўдасканаленне бачаць у цыркуляры. Але вяселле па цыркуляру, па інструкцыі не наладзіш. Прызнаюся па шчырасці, я зусім не цешуся пампезнасцю шлюбных палацаў. Гэта — спараджэнне інертнай думкі: маўляў, хочаце, каб было прыгожа, калі ласка — не горш, чым у царкве. Мала ўцехі, што колькасць гэтых так званых палацаў расце: у сталіцы — сталічны, у вобласці — абласны, у раёне — раённы…

У распараджэнні сельсавета, куды мае маладыя ездзілі браць шлюб, — цудоўны будынак клуба: прасторнае фае, радыёфіка-

ваная аўдыторыя, вялікая спартыўная зала, пакоі самых розных прызначэнняў — для гульняў, для адпачынку. Няўжо ж некаму прыйдзе ў галаву будаваць яшчэ шлюбны палац? З гэтымі абавязкамі добра спраўляецца клуб.

У той дзень у ім запісвалася адначасова тры пары толькі з аднаго нашага калгаса! На сцэне сядзеў паважны прэзідыум. Зала была поўная моладзі, пажылых людзей, якія сабраліся на ўрачыстасць. Рытуал запісу ў клубе стаў не толькі асабістым святам маладажонаў. Пад гукі музыкі маладыя ва ўсім сваім харастве ўваходзяць у залу, па прыступках урачыста падымаюцца на сцэну. Прэзідыум устае. На стале — дакументы, гатовыя законам засведчыць новую сям'ю. Маладыя распісваюцца, да ўрачыстага акта далучаюць свае подпісы паручыцелі. Старэйшыя, паважаныя людзі віншуюць маладых. Потым абвяшчаецца вальс — спецыяльна для маладых.

Прыемна, што ў нашым сельсавеце гэта ўжо становіцца добрай традыцыяй, і прыкра толькі адно, што асоба, павязаная цераз плячо чырвонай істужкай і ўпаўнаважаная весці гэтую ўрачыстасць, ніяк не можа абысціся без паперкі, без напісаных некалькіх слоў, якія трэба сказаць з абавязку службы. Абыякавасць, бяздушнасць у такую хвіліну ўсім можа сапсаваць святочны настрой.

Крыўдная заўвага, але з песні слова не выкінеш. А я пяю песню такой, якой яна ёсць.

Мой старэйшы пляменнік, які жаніўся паўгода назад, шкадаваў, што на яго вяселлі было не так, як у малодшага. Чаму? Ніхто не сказаў вясёлага слова, а ўсё адно і тое ж: «За маладых!», «За маладых!», «Горка!» Ну, што ж, добра, што мае маладыя сябры разумеюць, што на вяселлі, як і на любой іншай добрай бяседзе, зусім не абавязкова, каб сталы былі густа ўстаўлены бутэлькамі, місамі і талеркамі. Найлепшая радасць — адчуць, што табе прыемна з людзьмі і між людзей. Старое вяселле з яго рытуалам, са стэрэатыпам гатовых, завучаных на памяць абрадавых выслоўяў, з вядомым рэпертуарам прымавак свата і свахі існуе ўжо толькі ў фальклорных запісах.

Узровень культуры сучаснай вёскі, як і горада, вымагае і ў правядзенні сямейных свят жывой ініцыятывы, дасціпнай выдумкі, імправізацыі і той творчасці, што вынікае з сучасных умоў жыцця і новых адносін паміж людзьмі.

Як прыемна было, што і ў хаце нявесты, і ў хаце жаніха за два дні вяселля, на якім перабыло не меней двухсот чалавек гасціны, не было ніводнага выпадку, каб хто перабраў меру, каб нехта з

некім браўся загрудкі. Найлепшай асалодай былі — удалы жарт, пажаданне маладым і добрая, задушэўная песня. Радасны настрой і ўзрушэнне ішлі ад разумення галоўнага: ствараецца новая сям'я з людзей, якія кроўна звязаны з жыццём, з будучыняй гэтай зямлі, гэтага калгаса, сям'я на прынцыпова новым сацыяльным і грамадскім грунце, на аснове ўзаемнай роўнасці.

На час майго юнацтва такая падзея была рэдкая, сучаснай вёсцы — характэрная: адслужыўшы ў арміі, калгасны шафёр, які завочна вучыцца на агранома, жэніцца з дзяўчынай, што канчае інстытут замежных моў. Дзе яны будуць жыць, працаваць? Вядома ж, тут, у вёсцы, якую любяць і хочуць аддаць ёй свае сілы, здольнасці і веды. Так рашылі яны.

З якім густам, як прыгожа былі прыбраны і адзеты маладыя людзі, іх сябрына! Сапраўды, у гэтым сэнсе не тое што ніякай розніцы паміж горадам і вёскай няма, а, як на маё асабістае ўражанне, якраз у вёсцы цяпер, можа быць, эстэтычны густ нават большы, чым у горадзе, бо падмацоўваецца ён высокім матэрыяльным дабрабытам.

І як крыўдна, што побач з такімі прыемнымі рэчамі культурныя патрэбы той жа вёскі сутыкаюцца вельмі часта з праявамі абыякавасці, бяздушнасці і самага звычайнага гультайства, ад якіх і дагэтуль не вызваліліся некаторыя людзі, што ўзначальваюць сельскія асяродкі культуры. Чамусьці загадчыкі калгаснага або саўгаснага клуба такую падзею, як вяселле, не лічаць сваім клопатам. У іх гэта не планавае мерапрыемства. Падрыхтуюць памяшканне, напаляць печ, калі загадае начальства. Але ніхто з іх не лічыцца з тым добрым звычаем, што цяпер калі адбываецца вяселле, то моладзь сыходзіцца на танцы ў клуб.

Так было і на гэты раз. Калі моладзь прыйшла ў свой клуб, на дзвярах убачылі замок. Нарэшце яго адамкнулі, але запусценне і няўтульнасць, холад — хоць ваўкоў ганяй — не вельмі выклікалі жаданне танцаваць. І ўсё ж танцавалі! Спярша ў паліто, у шапках, у хустках, потым, угрэўшыся, пачалі распранацца, звальваючы вопратку на сталы, на лавы, а то і ў кут…

І яшчэ новае дзіва, асабіста для мяне, чаго я раней не бачыў, — гэта сучасныя «трохпавярховыя» танцы. Адначасова танцуюць дарослыя і падлеткі, а паміж іх, як густая машкара, таўкуцца ва ўсім гэтым гармідары дзеці. Крый бог, не падумайце, што я падымаю голас пратэсту супраць дзяцей. Я не за тое, як некалі было, калі нас проста бралі за каршэнь і выкідалі за парог. Наадварот, я радуюся, што ў клуб, як на свята, ідуць і малыя, і старыя. Але ж, мілыя мае, хай жа гэта будзе сапраўды свята,

хай клуб будзе месцам, дзе прыемна пабыць: каму павесяліцца, каму адпачыць, каму павучыцца добрым манерам абыходжання, этыкету, пашане да жанчын і да старэйшых людзей. Калі ў школе гэтаму мала вучаць, павінен вучыць клуб, на тое ён — Дом культуры.

Ідучы ў гэты дом, кожны ведае, што павінен культурна, па-святочнаму апрануцца, а пераступіўшы парог гэтага дома, ведаць, дзе яму пакласці ці павесіць верхняе адзенне. Прыкра бачыць, калі ўсе куткі завалены вопраткай, калі пары танцораў сядзяць, адпачываюць, а старэнькай бабульцы, што прыйшла зірнуць на маладых, не адразу знайшлося месца.

Я ўсёй душой за тое, каб у клубе танцавалі дзеці, нават самыя малыя. Але няхай гэта будзе прыгожа, няхай спецыяльна для іх іграе музыка, а дарослыя не замінаюць ім. Якая асалода паглядзець, пацешыцца, калі танцуюць дзеці! Думаю, што настаўнікі, якія вучаць дзяцей у школах, усюды павінны быць настаўнікамі, тым больш — у клубе.

І зусім не абавязкова, як гэта робіцца дасюль, вяселле зводзіць толькі да танцаў. Як бы ўсё напоўнілася большым зместам, падахвоціла творчую ініцыятыву моладзі, калі б са сцэны клуба загучалі песні, загучалі вершы, вясёлыя апавяданні, павіншаванні і пажаданні маладым. Тут — самае шырокае поле сельскай мастацкай самадзейнасці…

Адзін мой друг, з якім я пазнаёміўся на бяседзе, развітваючыся, даў мне такі наказ: «Слухай, брат, апішы ты гэта вяселле, апішы…»

Пад гарачую руку я паабяцаў — і вось мусіў стрымаць слова. Але, канчаючы свае развагі, я ўжо думаю не пра тое, што было, а зноў вяртаюся да пытання, з якога пачаў: якім павінна быць вяселле?

Давайце падумаем разам.

***1974***

## НЕВЯДОМАЕ АПАВЯДАННЕ І ЯГО АЎТАР

У канцы рукапісу стаіць паметка: «Ч. П.». Падобнае спалучэнне літар у сучасным абыходку азначае: надзвычайнае здарэнне.

Яшчэ не знаючы сэнсу абрэвіятуры, нельга не згадзіцца: сапраўды, гэта здарэнне, і нават калі не надзвычайнае, дык, трэба сказаць, шчаслівае, бо не так часта знаходзяцца рукапісы, пра існаванне якіх мы нічога не ведалі.

Каштоўнасць знаходкі ў тым, што яна ўдакладняе наша ўяўленне аб творчым дэбюце пісьменніка, першае друкаванае апавяданне якога датуецца 1929 годам. І вось апавяданне «Багна», невядомае нам, напісанае на цэлы год раней.

Дзве літары, пастаўленыя ў канцы рукапісу, — «Ч. П.», азначаюць: «Чырвоная Полаччына», полацкая акруговая газета, з якое пачаўся яго шлях у літаратуру.

Пэўна ж, і гэтае апавяданне аўтар меў надзею пабачыць надрукаваным. Цяжка цяпер устанавіць прычыны, чаму яно не з'явілася на старонках газеты. Магчыма, з-за свайго вялікага памеру, магчыма, з-за літаратурных вартасцяў, хаця надрукаваны годам пазней «Апошні заказ» — таксама далёка яшчэ не на тым узроўні сталасці, якога пісьменнік дасягае ў далейшых сваіх творах і нават у гэтым, першым па часе, апавяданні.

У «Багне» не зусім поўна і выразна намаляваны характары, але ўменне стварыць напружанасць сітуацыі, драматызаваць абставіны, перадаць настрой і пачуцці чалавека ў непасрэднай залежнасці ад падзей, маляўнічасць пейзажу, выразнасць моўных сродкаў — вельмі сціслых, скупых, але дакладных — гэтыя якасці, характэрныя для творчай манеры Самуйлёнка, ужо вельмі прыкметны і тут.

Эдуард Самуйлёнак — надзвычай актыўны талент. У жорсткі ліміт часу — тыя дзесяць год, за якія ён напісаў свае апавяданні, п'есы, аповесці і раман, — трэба было сапраўды ўкласці ўсё сваё, такое кароткае, але яркае, як метэор, жыццё.

Я пазнаёміўся з ім, пачаўшы працаваць у рэдакцыі «Чырвонай змены». Ён кагадзе што пераехаў з Полацка ў Мінск ужо з рэпутацыяй сталага пісьменніка. На яго творчым рахунку была аповесць «Тэорыя Каленбрун», і неўзабаве выйшла кніга апавяданняў «Пункт апоры».

Жылі мы бедна і непрытульна. І толькі маладосць і радасць сяброўскага яднання, таварыскасць давалі нам тую асалоду і адчуванне паўнаты жыцця, якіх ніколі не заменяць ніякія выгоды дабрабыту.

Шчыра сказаўшы, мы лічылі за гонар, што да нас, маладзейшых па ўзросту, Эдуард Людвігавіч выказваў нейкую асаблівую прыхільнасць. Прыемна было, калі ён адгукаўся на просьбу і пісаў артыкул, рэцэнзію, падказваў цікавую тэму. А яшчэ прыемней, калі, выбраўшы час, прыходзіў проста пабыць разам у гурце. З ім, цудоўным апавядальнікам, у якога ў запасе былі бясконцыя жыццёвыя здарэнні, прыгоды, а часта і сюжэты, што неўзабаве пазнаваліся ў новых творах, заўсёды і ўсюды было цікава і весела. Сустракаліся ў рэдакцыях — у «Чырвонцы», у «ЛіМе», дзе працаваў Эдуард, і ў Саюзе пісьменнікаў. Амаль ніхто з нас не меў кватэр, жылі па прыватных пакойчыках у тых аднапавярховых драўляных дамках, якіх была большасць на ціхіх, амаль вясковых вуліцах і завулках Мінска. Не дзіва, што самы магутны грук чуўся ад тваіх ботаў або чаравікаў, калі ты познім вечарам дабіраўся да якое-небудзь Ляхаўкі ці Грушаўкі па дашчаных насцілах, забыўшыся, што мірныя гараджане, узяўшы на жалезныя прэнты аканіцы, а на завалы — вароты, спяць спакойным сном.

Памятаю сваё першае жытло, калі, пажаніўшыся, пасяліліся мы з жонкай у сям’і беднай мнагадзетнай удавы. Дамок быў такі струхлелы, недагледжаны, што першыя ж замаразкі выбелілі густым інеем усе куткі нашага пакойчыка. Эдуард, прыйшоўшы на наша «наваселле», падбадзёрваў і ўпэўніваў: «Старык, палымяныя пачуцці растопяць любы лёд!» Дарэчы, вясёлы сяброўскі зварот — «старык», яго любімы выраз, палюбіўся ў нашым асяроддзі, але манапольнае права карыстацца гэтым зваротам належала толькі яму, старэйшаму. Што ж да «палымяных пачуццяў», дык яны не нагрэлі заледзянелых сцен майго прытулку. Цераз тую зіму, звалены з ног жорсткім раматусам, я пасля цэлыя месяцы не расставаўся з кіем, а ў часе вайны паўгода ляжаў у шпіталі.

Самуйлёнак таксама жыў на прыватнай кватэры, адразу ж за паркам Горкага (тады сад «Прафінтэрн») у драўляным доміку, пад вокнамі якога кусціўся густы бэз, і вясною тут было хораша і ўтульна. Але ні для кога ўжо не было сакрэтам, як ён з асаблівай трывогай сустракаў кожнае прадвесне.

Блізка год працавалі мы разам у газеце «Літаратура і мастацтва». У рэдакцыі быў невялічкі калектыў супрацоўнікаў, але вельмі моцны: Хвядос Шынклер, Рыгор Лынькоў, Анатоль Астрэйка. Мы з Эдуардам вялі літаратурны аддзел. Узначальваў газету Ільля Данілавіч Гурскі. Аднак мала хто помніць яго намесніка, чалавека маўклівага і загадкавага. Адзіным сваім

абавязкам ён лічыў, сеўшы за стол, — чытаць, чытаць усё, што пакладуць перад ім супрацоўнікі. І адзінае заключэнне было ў яго па кожным прачытаным матэрыяле: «Цэлы рад маментаў». Мы рэдка калі і пыталіся: «Ну як?» — бо загадзя ведалі адказ: «Цэлы рад маментаў». Якіх «маментаў» — добрых, благіх, — заставалася тайнай. І толькі аднаго разу ён выказаўся больш пэўна і нават даў практычную параду Эдуарду Самуйлёнку, калі выйшаў з друку раман «Будучыня».

— Чытаў, чытаў… — сказаў ён.

— Ну і як? — пацікавіўся аўтар.

— Цэлы рад маментаў…

— А яшчэ?

— Думаю, што цяпер вам можна смела брацца за вершы. Глядзіце, як у Астрэйкі добра выходзіць…

Акрылены поспехам рамана, Самуйлёнак рашае заняцца выключна творчай працай, але хвароба бязлітасна адбірала сілы. З кожным днём ён мяняўся на вачах, стаў прападаць голас. Калі прыйшла вестка ў санаторый «Сасноўка» аб узнагароджанні яго сярод іншых пісьменнікаў, ён ледзь-ледзь вымавіў сваё адзінае пытанне: «Якім ордэнам?» Тады гэта была вялікая падзея — упершыню так высока ўшаноўваліся 172 пісьменнікі краіны. Сярод іх: ордэнам Леніна — Купала, Колас, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга — Бядуля, Лынькоў, Самуйлёнак.

Тыя дні былі па-святочнаму ўзрушаныя, але свята засмучалася і цяжкім прадчуваннем. Якраз калі мы вярталіся з урачыстага вечара, прыйшла жалобная вестка.

Цяпер некалькі слоў пра рукапіс апавядання. На 23 лістах паперы, палова якіх з гатоваю разбіўкай у клетку, як арыфметычны сшытак, а другая палова ў лінейку, каб ямчэй было пісаць, Самуйлёнак змясціў апавяданне памерам болей за друкаваны аркуш. І хоць пісаў ён сваім надзвычай адметным почыркам з нахілам у левы бок, пісаў густа, уборыста, але так акуратна выводзіў кожную літару, што пры ўсёй сваёй дробнасці кожная чытаецца вельмі выразна. І нават тыя сказы і словы, што старанна закрэслены тлустай чорнай лініяй, відаць, пяром «рандо». Паперы было вобмаль, таму спісаны і адваротны бок кожнага ліста.

Апавяданне напісана ў вёсцы Бандзелі 30 кастрычніка 1928 года. Пад гэтаю датаю аўтар палічыў неабходным пазначыць і арыенціры далейшага лёсу свайго твора. Пасля слова «канец» ён напісаў і другую дату: «Накіравана ў “Ч. П.”. 13.XI.28 г.»,

а трошкі ніжэй яшчэ дзве рэгістрацыйныя графы: «Атрыманы адказ:» і «Надрукавана:», якія так і засталіся незапоўненымі.

Пазней, пасля службы ў Чырвонай Арміі, калі малады пісьменнік сам стаў працаваць у «Ч. П.», ён, напэўна, ужо стражэй ацаніў свой твор двухгадовай даўнасці, а рукапіс апавядання падараваў па памяць супрацоўніцы, якая тады толькі далучылася да рэдакцыйнай работы. Мы не памылімся, калі ўявім сабе гэтую дзяўчынку, захопленую літаратурай, паэзіяй і асяроддзем людзей, якія самі пішуць.

Потым, у сталыя гады, набыўшы філалагічную адукацыю, працавала дацэнтам Саратаўскага ўніверсітэта, але праз усё жыццё берагла лепшыя ўспаміны сваёй маладосці, успаміны пра Эдуарда Людвігавіча Самуйлёнка, захаваўшы як дарагую рэліквію і гэты рукапіс.

***1977***

## ПЕСЕННАЕ СЭРЦА ПАЭТА

Гэта былі чаканыя і жаданыя нашы вечаровыя сустрэчы. Шпацыр па ўзбярэжжы Свіслачы ад аднаго моста да другога. І, вядома ж, гаворкі, гаворкі. Абмен думкамі. Уражаннямі пражытага дня, зробленага, бачанага, прачытанага.

Сама па сабе склалася звычка, што ён першы абзвоньваў усіх нас, сваіх таварышаў, і прызначаў час «спаткання з жалезнымі дзяўчатамі» ля славутага фантана ў нашым любімым купалаўскім парку.

І новы, 1983 год, здавалася, не парушыць гэтага парадку. Але трэцяга дня наш брыгадзір, як мы ўсе звалі яго, не падаў каманды. На званок адгукнулася Жэня, наша мілая Яўгенія Яфрэмаўна.

— А дзе ж брыгадзір?

— Кепска брыгадзіру. Сэрца. Уночы выклікалі «хуткую дапамогу». Цяпер трохі палепшала. Вось ён сам патрабуе трубку.

— Алё, брыгадзір. Ну, што ж ты…

— Анічога, сёння паляжу. А заўтра чакайце майго званка.

Назаўтра званок мы пачулі — дачасны, неспадзяваны: раніцай яго забралі ў бальніцу, а праз паўгадзіны Алесь Мікалаевіч памёр.

Роўна праз два месяцы яму споўнілася б шэсцьдзясят пяць. Хто б мог сказаць, нават падумаць. Ён заўсёды выглядаў маладзей свайго ўзросту — стройны, прыгожы, вясёлы.

Яго, чалавека строгай дысцыпліны, і старэйшыя, і маладзейшыя з нас ставілі за прыклад як у людскіх, жыццёвых, так і ў грамадскіх паводзінах, якіх ён трымаўся заўсёды і ўсюды верна і самааддана. Бытавала нават прымаўка: упарты, як Бачыла. Гэтыя словы не раз даводзілася чуць і яму самому як дакор, аднак гэта была, як мы часта ўпэўніваліся, тая ўпартасць, тая перакананасць, сапраўднае імя якой — прынцыповасць і на якую не ўсім хапае сілы волі, настойлівасці і характару.

У нашым асяроддзі Алесь Бачыла быў «парушальнік спакою». Сам знешне спакойны, ён, аднак, ніколі не заставаўся раўнадушны, безуважны і абыякавы да ўсяго, з чым не мірылася яго няўрымслівае сумленне.

Сваёй сціпласцю, патрабавальнасцю і да сябе, і да сваёй працы ён вабіў многіх людзей.

Не адзін дзясятак год працаваў я разам з ім, у непасрэдных дачыненнях, і заўсёды шчыра цешыўся і нашаму супрацоўніцтву, і сяброўскай вернасці.

Гаворачы цяпер гэтыя словы прызнання і ўдзячнасці, я ўсцешаны, што паспеў сказаць іх яму, жывому.

Алесь Бачыла — многае гаворыць гэтае імя беларускім чытачам і ўсім прыхільнікам яго таленту.

Хто не ведае дзівоснае песні «Радзіма мая дарагая…»! Яна стала любімай і ў прафесійных спевакоў, і ў народных харах, і за бяседным святочным сталом. Беларускае радыё яе мелодыяй абвяшчае працоўны дзень рэспублікі. Надзіва ўдала спалучыліся простыя, сардэчныя словы з мілагучнай, задушэўнай музыкай, зліліся ў цнатліва ясных, крынічна празрыстых пачуццях сыноўняй любові да роднай зямлі з высокай гордасцю за ўсю вялікую Радзіму.

Нямногім выпадае шчасце стварыць песню, якая становіцца жаданай для душы. Радкі яго вершаў на крылах музыкі ўпэўнена набралі вышыню і заўсёды вабяць нас хараством сваіх вобразаў.

Алесь Бачыла як паэт мае адметную візітную картку і свой творчы пашпарт, стала прапісаны ў нашай літаратуры.

Музычную культуру Беларусі немагчыма ўявіць без яго песень, без опер «Зорка Венера», «Яснае світанне», «Калючая ружа», «Калі ападае лісце», створаных па яго лібрэта.

Новае жыццё пачала вясёлая, гарэзлівая, дасціпная і мілая «Паўлінка» Янкі Купалы, увасобленая па сцэне тэатра музычнай камедыі паэтычным талентам Бачылы.

Немагчыма ўявіць сабе і нашу беларускую лірыку без яго вершаў, поўных роздуму над жыццём, прасякнутых шчырасцю людскіх пачуццяў.

Чым вабіла і вабіць лірыка Алеся Бачылы?

Думаю, перш за ўсё тым, што ў яго вельмі дакладнае адчуванне народнага слова, народнай песні. Якасць, якая набываецца не кніжным вывучэннем фальклору, а ў самім асяроддзі народнага жыцця з яго паэзіяй, з яго эстэтычнымі і этычнымі асновамі.

Яго як паэта ніколі не спакушалі ні павевы моды, ні прыёмы знешняга наватарства. Яго верш застаецца верны тым высокім традыцыям, якія стваралі не толькі нашы вядомыя папярэднікі ў паэзіі, але і цэлыя пакаленні безыменных песняроў, што свае скарбы перадавалі ў запавет народнай памяці — з веку ў век, з сэрца ў сэрца.

Алесь Бачыла ў сваёй творчасці заўсёды заставаўся верны запаветнаму слову матчынай калыханкі, народу, які ўзгадаваў яго, даў яму пачэснае права з гордасцю гаварыць аб веліччы народнай душы, якая вымяраецца не колькасцю насельніцтва, што жыве на гэтай зямлі, а глыбінёй перажытых пакут і гераізмам подзвігаў, праслаўленых у вяках.

Лірыку паэта жывяць крыніцы, якія ён адкрыў з маленства на сваёй бацькаўшчыне — роднай Міншчыне з яе ўрачыстымі барамі, халоднымі ў летнюю спёку рэчкамі, з сонечнымі ўзгоркамі, зацішнымі ярамі, зарослымі густым маліннікам.

Не дзіва, што найбольшым лірызмам, непасрэднасцю жывога пачуцця вызначаюцца вершы, якія ён прысвяціў людзям, з якімі пасябраваў на ўсё жыццё, хараству вёскі Лешніца, сваёй радзіме:

Я зайздрошчу табе і прыветна ўсміхаюся
І дарогам, і нівам, і ціхім гаям,
І малым ручайком веснавым уліваюся
Ў твае чыстыя воды, радзіма мая.

«Для мяне мая Лешніца, — пісаў Алесь Бачыла, — заўсёды самы маляўнічы і самы дарагі куток». Паэт нават даваў дакладныя каардынаты таму, хто захоча паглядзець яго бацькаўшчыну. «Трапіць туды вельмі лёгка. Варта сесці на прыгарадны цягнік, што ідзе ў бок Рудзенска, даехаць да станцыі Міханавічы, злезці, узяць крыху лявей, мінуць вёску Астравы, затым — лугавую лагчыну, якую ў нас называюць Прудзішчамі, узысці на невялічкі ўзгорак, і адразу — Лешніца… Тут 2 сакавіка 1918 года я і нарадзіўся…»

Ён належаў да пакалення равеснікаў Вялікага Кастрычніка, да пакалення людзей, якіх выхоўвала само жыццё па ўсёй строгасці сваіх законаў, логікай натуральнага спазнання свету. Можа

быць, гэта і ёсць найлепшая школа выхавання, калі з юных год чалавек пачынае разумець і ўласную адказнасць за самога сябе, і сваю грамадзянскую годнасць.

Пасля заканчэння Мінскага педтэхнікума ён быў накіраваны на працу ў родныя мясціны. Настаўнічаў спярша ў Каралішчавічах, потым у Сініло. І людзі ўжо лічыліся з ім не толькі як з настаўнікам, але і як з дзяржаўным упаўнаважаным па арганізацыі калгасаў, па выкананню нарыхтовак, падаткаў і па барацьбе са «злоснымі зрыўшчыкамі», хоць самому «ўпаўнаважанаму» тады ледзь налічвалася… шаснаццаць год.

З адчуваннем абавязку адказнасці за свой народ, за Радзіму прайшоў паэт і праз цяжкія выпрабаванні, што выпалі на долю салдата Вялікай Айчыннай вайны ў час жахлівай трагедыі на Керчанскай пераправе ў маі 1942 года, а пасля ў баях за Новарасійск, Харкаў, Курск, Віцебск.

Творчыя сімпатыі Алеся Бачылы як паэта вельмі пэўныя і выразныя. Яго строгі густ вызначаецца адметнасцю таленту, які рос і развіваўся пад уплывам і на традыцыях майстроў высокай паэтычнай культуры. Магло здацца нечаканасцю, калі ён пасля напісання лібрэта «Зорка Венера» ўзяўся за дасканалае даследаванне жыцця і творчасці Багдановіча. Што новага пасля спецыялістаў мог сказаць паэт, які ніколі да гэтага не займаўся літаратуразнаўствам? Аднак і часопісныя публікацыі, і кніга «Дарогамі Максіма» засведчылі ў ім і тонкую інтуіцыю, і дакладнасць гістарычнага аналізу спадчыны, якая яшчэ тоіць у сабе шмат загадак.

Бачылавы пошукі далі шчаслівы плён, нацэлілі даследчыкаў на новыя аспекты вывучэння творчасці Багдановіча.

Плён спадчыны самога Алеся Бачылы значны і разнастайны — ад лірычнага верша і эпічнай паэмы да лібрэта і навуковага даследавання опернай драматургіі. Не абмінуў ён увагай і самых юных сваіх чытачоў, напісаўшы для іх некалькі кніг вершаў і казак.

Прывабнасць яго паэзіі — у шчырай задушэўнасці, у музыцы слова. Нездарма такім паспяховым было яго супрацоўніцтва з кампазітарамі Туранковым, Алоўнікавым, Семянякам.

Сам паэт кожным радком удзячны роднай зямлі, матчынай песні, глыбока разумеў, высока шанаваў вытокі сваёй творчасці:

Без цябе нават мара здаецца бяскрылаю,
Без цябе і ў жыцці не пакінуў бы след…

Я не знаю, ці птушкі вяртаюцца з выраю
Ў тыя гнёзды, адкуль выпраўляліся ў свет.

Алесь Бачыла пакінуў значны след у беларускай савецкай культуры. Ён не толькі вызначыў свой жыццёвы выток, але і сам стаў адным з вытокаў жывой, няспыннай ракі, якую мы завём — Паэзія.

*1985*



# ВАВЁРЧЫНА ГОРА

*Казка пра Веру-вавёрачку,*
*Пра яе гора-горачка,*
*Пра яе маленькіх дочак,*
*Пра вавёрчын малаточак,*
*Пра птушынага пасла —*
*Даўганосага бусла,*
*Пра жыццё-быццё лясное*
*І яшчэ пра тое-сёе.*

Забалелі ў вавёрачкі зубкі,
Не можа раскусіць арэхавай шкарлупкі.
Плача Вера-вавёрачка:
— Ой, гора маё,
Горачка… —

Сабралася ўся вавёрчына радня.
Думаюць, гадаюць усю ноч да дня:
Як тут быць,
Што рабіць?
Прыкладаюць дочкі
Мамачцы прымочкі,
Грэюць унучкі
Бабульцы анучкі.
Яшчэ болей баляць вавёрчыны зубкі —
Не можа крануць арэхавай шкарлупкі.

Вестку паслалі старэйшаму сыну,
Той адразу ўсе справы пакінуў,
І праведаць хворую маці прыехаў,
І прывёз поўны мех ёй арэхаў.
Ён не знаў, што баляць у вавёрачкі зубкі,
Што не можа крануць яна імі шкарлупкі.

Госцю маці гаворыць:
— Сыночак,

Ты прывёз бы мне малаточак.
Не трудзіла б я зубкі,
Не верадзіла,
Малатком бы шкарлупкі
Біла.

— Што ж, — кажа сын, —
У маёй старане
Ёсць каваль — лепшы мой друг,
Ён можа скаваць для мяне,
Што я захачу, — нават плуг.

— Мне плуг не патрэбен, сыночак,
Хай зробіць ён мне малаточак.

— Мама, —
Гаворыць ёй сын у адказ, —
Я дам тэлеграму,
Ён зробіць ураз.

Сарваў сынок
Дубовы лісток —
Тэлеграма гатова:
«Я жывы і здаровы.
Толькі баляць у мамачкі зубкі —
Не можа кусаць арэхавай шкарлупкі.
Прашу, дружок,
Зрабі малаток».

Сказалі сёстры брату:
— Навошта
Табе самому хадзіць
На пошту?
Мы самі знаем, дзе стары граб.
Даўно мы хацелі
Збегаць на тэле…
Даўно мы хацелі
На тэле-
Граф.

— Ну, што ж, імчыце, —
Сказаў браток, —
Занясіце лісток,
Вазьміце квіток.

— Нясіце, — сказала мама, —
Каб сёння ж
Дайшла тэлеграма,
Няхай сам начальнік на бланку
Паставіць пячатку,
Што гэта «маланка».

Імчацца шустрыя сёстры,
Мільгаюць дрэвы
І вёрсты.
Прымчаліся
Ў самы гушчар.
Што тут такое?
Пажар!

Усё ў агні — і лісцё, і галіны,
Але здагадаліся сёстры,
Што гэта —
Прыбеглі
На самы разгар лета
І палаюць агнём
Не галіны,
А спеюць
Чырвоныя арабіны.

Імчацца далей сёстры няспынна,
Мінаюць гушчар
І пажар арабінны.
І вось перад імі
Новая пацеха:
Дрэва,
А на дрэве — арэхаў, арэхаў!
А спеленеча-ча-ча-чкія,
А жоўценеча-ча-ча-чкія,
А поўненеча-ча-ча-чкія,
А на вяршэча-ча-ча-чку, —
Шкада,
Не ўзялі з сабою
Мяшэчачка.

І тут яны ўспомнілі,
Што баляць у матулі зубкі,
Што не можа яна раскусіць арэхавай

Шкарлупкі.
Хутчэй жа,
Хутчэй,
Хутчэй туды,
Туды,
Дзе растуць
Старыя дубы!

Лістамі сцежку
Сцеле
Граб,
Прыбеглі сёстры
На тэле-
Граф.

Шматпавярховы дом —
Высознае дрэва
З акном-дуплом,
Уваход налева.
Калі ўмееш — чытай сам,
Што напісана пад аконцам:
«Прыём тэлеграм
Да заходу сонца».

Вавёрка ў дупло
Лапкамі: стук-стук,
А ім у адказ:
— Хто тут?
Хто тут?
Не лезьце ў дупло —
Ужо сонца зайшло!

Сталі сёстры прасіць:
— Дзядзюхна начальнік,
Тэлеграму трэ адбіць,
Гэтак мы імчалі,
Гэтак беглі
Праз гушчар,
Праз агонь,
Праз пажар…
Хворая ў нас маці,
Дзядзюхна дзяцел…

Падабрэў начальнік,
Непрыступны маўчальнік,
Акуляры надзеў,
На лісток паглядзеў.
— Добра, — кажа, — пашлю
Заўтра ўранку кавалю.

— Як гэта заўтра ўранку?
Нам загадала мама,
Каб вы паслалі з маланкай
Нашу тэлеграму.

— З маланкай? — здзівіўся дзяцел. —
А дзе ж яе ўзяці?
Не працуе бесперастанку
У мяне на пасылках маланка.
Бывае
І яна выхадная.

— Хай тады кавалю на дом
Займчыць тэлеграму гром.
— Гром? — усміхнуўся начальнік. —
Гром?
Ён толькі з работы
І спіць
Непрабудным сном.

— Хто ж перадасць тэлеграму,
Хто ж?
— Дождж, — сказаў ім начальнік, —
Дождж!

І застукаў
Начальнік,
Непрыступны
Маўчальнік,
Дзюбаю: тук-тук!
Тоўстаю: ток-ток!
І з лістка
На лісток
Пацёк
Ручаёк…

Бягуць вавёркі дадому
І чуюць,
Як іх тэлеграму
Кроплі друкуюць:
«Тук-ток,
Кавалёк,
Прышлі маме
Малаток.
Разбалеліся ў мамачкі зубкі,
Не можа раскусіць арэхавай шкарлупкі».

Паплыў паток,
Пагнаў лісток,
Панёс удаль,
Дзе жыве каваль —
Стары воран,
Як вугаль, чоран.

Прыйшла тэлеграма якраз у час,
Кавалю не дае спакою заказ.
Сон яго не бярэ,
Яда не лезе:
Як зрабіць малаток —
Няма жалеза.

— Знайсці жалеза я бяруся, —
Сказаў кавалю даўганосы бусел.
Ён абуў чырвоныя боты
І палез
У балота.

А праз гадзіну ўжо бусел
Вярнуўся:
— Так і так.
Ляжыць у канаве «тыгра» —
Нямецкі танк.

Пайшоў каваль
З прыладамі, —
Чоран воран, —
Паставіў кавадла,
Распаліў горан,
Скінуў кажух,
Надзеў хвартух,

Узяў абцугі,
Прайшоў раз-другі.
Жалеза не відаць —
Гара іржы.
— З чаго мне каваць
Малаток —
Скажы?

Падумаў бусел:
«Прыйдзецца, мусіць,
Самых дужых звяроў склікаць,
Каб забітага “тыгра”
Па костачках разабраць».

Прыйшоў мядзведзь,
Злуецца, равець,
Прыйшоў воўк —
Зубамі шчоўк-шчоўк,
Прыйшоў бабёр —
Хвастом пацёр.
Доўга так раўлі і вылі
І нічога
Не зрабілі.

Беглі ў гэты самы час
Маленькія зайкі,
Узяліся і — ураз
Развінцілі гайкі.

Тады гусі і сініцы
Знялі вежу,
Гусеніцы.
Наскублі яны так-сяк
З паганага «тыгра» шэрсці шматок.
Вось табе і хвалёны танк —
Ледзь хапіла вавёрцы
На малаток.

Добра сказаць —
Заказ гатовы,
А як паслаць
Яго ў бор сасновы?

Другі дзень вавёрка малатка чакае,
Можа, яна, бедная, з голаду канае.
Гэтак моцна баляць у вавёрачкі зубкі,
Што не можа крануць арэхавай шкарлупкі.

Апусціліся галовы ніц
І ў зайцоў,
І ў сініц.
Сядзяць у скрусе
Бусел
І гусі.
Стаў ад гора
Воран
Яшчэ болей
Чоран.

Паўзе крот,
Зямлі повен рот:
— Ду-ду-ду, ду-ду-ду,
Я вашу бяду
Адной лапай
Развяду.
Сталі ўсе яго прасіць:
— Краточак,
Крот,
Браточак
Фядот,
Ты можаш зрабіць
Самалёт?
— Угу.
Я магу.

— Нам трэба, браточак,
Паслаць малаточак…

— Добра, — кажа ім крот, —
Я зраблю самалёт.
Скідай, каваль,
Свой чорны хвартух,
Прынясі мне
Шырокі лапух,
А вы, зайкі, травы нарвіце,
Вяровачкі звіце,

Малаток
У вузялок
Завяжыце.

А цяпер, —
Кажа крот, —
Я буду галоўны пілот.
Мяне вы прасілі.
Падымай, бусел, крыллі,
Бяры ў дзюбу лапух —
Павязём малаток мы
Удвух:
Верхам сяду ў цябе я на шыі,
Паляцім мы пад хмары густыя,
Будзеш ты
Крыламі махаць,
А я
Буду табой кіраваць.

— Дзякуй, — бусел яму ў адказ. —
Гэта раз.
Памагла нам твая галава —
Гэта два.
Ну, а болей не гавары —
Гэта тры.
Памагатых такіх мне
Не трэба.
Калі ж хочаш
Пабачыць ты неба
І зайздросціш адно нам,
Буслам, —
Паспрабуй
Узніміся
Сам!

Цвёрдае слова —
Слова буслова.
Ўзяў лапух у дзюбу ён.
Варухнуў крыламі —
І ляціць наш паштальён
Лугамі,
Лясамі.
А куды ён ляціць —

Можа, боты шыць,
Можа, ніткі віць? —
Адкажыце
Самі.

Ну, вядома,
Ляціць да вавёркі-галубкі,
Вельмі ж моцна баляць яе зубачкі-зубкі.
Ён нясе ёй вузялок,
Там завязан малаток,
Каб вавёрка зубоў не трудзіла,
Каб арэхі малаточкам біла…

У вавёрчынай жа хаце
Поўна шуму, весялосці,
Перадаў ім вестку дзяцел,
Што ляціць сам бусел ў госці.
Вось унучкі
Сталы засцілаюць,
А дачушкі
Пачостку стаўляюць,
Сын
Пясочкам ля самага дома
Высыпае пляцоўку
Аэрадрома,
Каб птушыны пасол мог спусціцца,
Паміж соснаў густых
Прызямліцца.
Гасця сустракаці
Выходзіць маці:

— Што на белым свеце чуваці —
На балоце,
На сенажаці?

— Ат, якія ў нас навіны, —
Ёй адказвае бусел, —
Вы ж самі ведаць павінны,
Што ўсе мы ў самоце і скрусе.
Як прыйшла тэлеграма,
Што баляць у вас зубкі,
Не спалі мы цэлыя суткі,
Не знаці шчаслівай мінуткі.

Цяпер я спакойны
За ваш раток, —
Вось вам бранябойны
Малаток.

— Ай-яй-яй! — дзівяцца сёстры. —
Які ён цяжкі,
Які ён востры…
Мы хацелі другую адбіць
Тэлеграму,
Што даўно не баліць
Раток у мамы…
І няхай будзе сказана толькі між намі —
Лепей грызці арэхі сваімі зубамі.
Мы хацелі,
Мы вельмі хацелі
Зноў збегаць
На тэле…
На тэле…
— Перастаньце! — на дочак
Прытупнула маці. —
Малаточак
Спатрэбіцца ў хаце…

Доўга ў іх ішла бяседа-
Гаворка.
Ўсе суседзі
Былі
У ваверкі.

Стары дзяцел
З сваім зяцем,
Тры сініцы-сястрыцы,
Цётка Гануля —
Шэрая зязюля,
Пяць зайцоў-малайцоў,
Удод-удавец —
Слаўны на дудзе ігрэц,
Два глухія глухары
Білі ў бубен
Да зары.

І я там быў
За тым сталом
І еў і піў
Разам з буслом.
Што там было весялосці
І смеху.

Папаелі госці
Грыбоў і арэхаў.
Былі мёд і квас там,
Бульба, селядзец.
Хто праслухаў казку —
Той маладзец.

*1947*

# БУСЛІНАЕ ЛЕТА

*Гэта будзе доўгая казка.*
*А пакуль што на некалькі слоў*
*Адкажыце вы мне, калі ласка,*
*Хто з вас бачыў белых буслоў,*
*Іх старую дамоўку на вязе,*
*На драўляным шырокім коле,*
*Можа, з вас хто туды нават лазіў,*
*Аглядаў з вышыні наваколле,*
*Пазнаёміўся з буслам, з бусліхай?*
*Кале не, ну дык слухайце, ціха.*

## ЯК Я ПАЧАЎ СКЛАДАЦЬ КАЗКУ

Ціха так,
Хоць сей ты мак.
Я сяджу ў градзе гароху.
Рву сабе стручкі патроху,
А паблізу, на аселіцы,
Нехта цвеліцца і цвеліцца:
То ляскоча безупынна,
То сакоча
Гэтак шпарка,
Як матор якой машыны
Ці калгасная жняярка,
Раз-паразу: чах-чах-чах.
Што такое?
Проста страх.

Толькі глянуў я на вяз,
Што за вуліцай у нас, —
Зразумеў, адкуль той клёкат:
У гняздзе навідавоку

Стары бусел суча ніткі,
Будзе шыць ён дзецям світкі.

Выткала бусліха кросны,
Разаслала ранкам росным
Доўгія свае палотны
Па лугах усіх балотных…
Я на дрэва ўзлезці б рад
Адным махам без аддыху,
Паглядзець на буслянят,
Пазнаёміцца з бусліхай
І праверыць, як ідзе
Лад-парадак у гняздзе.

Сёлета ў чацвёрты клас
Пераведзены я ў школе,
На ўсё лета маю час
Пагуляць у лузе, ў полі.
Маю ў сшытку я заданне —
Даць прыроды апісанне.

Сцеражыся, горды бусел,
Да цябе я дабяруся.
Пагляджу, як сучаш ніткі,
Як ты шыеш дзецям світкі,
Стану на тваё я кола
І пабачу ўсё наўкола:
Свет птушыны, свет раслінны
І наогул — белы свет,
Выведаць я ўсё павінны,
Апісаць усё як след.

Вось пайду і ўміг, ураз
Ўзлезу на высокі вяз.
Вы мо скажаце — не ўмею
Я дабрацца да вяршыні?
Ўмець умею, толькі млею,
Калі гляну ўніз з галіны.
Падрасту, а там пабачу,
Можа, будзе яшчэ ўдача.
А пакуль, як пугай ляснуць
Мне па лужы, па траве, —
Пра буслоў складу я казку,
Ёсць і думка ў галаве.

Пра буслоў, дык пра буслоў,
Толькі дзе набрацца слоў?
Сеў ля самага я вяза
І пачаў тых слоў шукаць.
І адразу сказ за сказам
Спрэс спісаў старонак пяць.

Што з таго, што я не ўзлез
На бусліны вяз той,
Мне ў адказ гудзе ўвесь лес,
Калі пугай лясну.
І сціхаюць у гняздзе
Галасы бусловыя,
Толькі водгулле ідзе —
Высякаю словы я,
Словы адмысловыя.

Сам вачам сваім не веру,
Ўсё так складна на паперы:
Побыт бусла да драбніц
Апісаў шырока,
Як ён спіць і што ён сніць,
Як ён з выраю ляціць —
Нізка ці высока,
Як ён суча тыя ніткі,
Як ён шые дзецям світкі,
Як ён там абедае,
Варыць як вячэру —
Ўсё як быццам ведаю,
Хоць наўрад ці веру.

Нада мною ластаўкі
Пэўна што смяюцца.
І ўсё просяць: — Баста, кінь!
І ля вуха ўюцца.

Ластаўчыну мову
Я таксама знаю
І ад слова ў слова
Так перакладаю:
«Шатавіла-матавіла
Па-нямецку гаварыла,
Пела па-турэцку,

Плакала па-грэцку.
З носіка — шыльца,
З хвосціка — вільца,
Спадыспаду — палатно,
На апашках шоўк, шоўк.
Зазірнула я ў гумно,
Дзюбачкай шчоўк-шчоўк.
Як у вырай адлятала,
Шмат дабра вам пакідала,
Не ўзяла ні жменькі.
Прыляцела, паглядзела —
Няма нічагенькі:
Усё чыста пералушчылі,
Перацерлі, ператрушчылі.
Што нажалі, накасілі —
Без мяне памалацілі.
Ці-лі, ці-лі,
Ці-лі…»

Прыцемак спусціўся
На траву, на краскі,
Так я захапіўся
Сваёй байкай-казкай.

Чараду прыгналі з пашы,
За вячэру селі нашы,
У паветры стала золка,
Выйшла першая зара,
І крычыць мне перапёлка:
— Спаць пара! Спаць пара!

Каб у тайне ўсё было,
Што пішу я ў сшытку,
Пакладу яго ў дупло —
Паспрабуй знайдзі-тка.

І вас таксама я прашу,
Сябры, — ні слова, ні гу-гу,
Пакуль што памаўчыце,
Якую казку я пішу,
Я толькі вам сказаць магу
І перапёлцы ў жыце.

Сакрэт я вам даверу,
Вы толькі дайце слова,
Я прынясу паперу
І новы свой аловак
І заўтра зноў уранку
Прадоўжу пра буслянку,
А то і маці мне з двара
Гукае ўжо, што спаць пара.

## ХТО ВЫДАЎ САКРЭТ

Ледзь я прычакаў світанку,
Каб пад вяз пабегчы зранку,
Праварочаўся ўсю ноч,
Не прыплюшчыў нават воч —
Не давала мне спакою
Ўсё гняздо буслова тое,
Што далей пісаць мне ў казцы,
У яе наступнай частцы.
Калі ўзяўся, брат, за гуж,
Дык не жалься, што не дуж.

Калі даў сваё ты слова
Апісаць жыццё буслова,
Дык выконвай абяцанне…

Я падняўся на світанні
І — бягом на ўскрай сяла,
Потым трохі ўзяў налева,
Да знаёмага вам дрэва,
І адразу ж да дупла.

Сунуў я руку ў дупло —
І аж мову адняло,
Стаў нямілы белы свет:
Хто… Хто выкраў мой сакрэт?

Можа, сто разоў адразу
Ababег вакол я вязу,
Кожную агледзеў жылку
Пад карой і на кары,
Кожную абмацаў шчылку

На буслiным тым двары —
Хочаш вер ты ці не вер,
А няма маіх папер.

Знік пачатак маёй казкі.
А з чые нядобрай ласкі?
Мне сняданне не ў сняданне,
І абед мне не ў абед.
Кіну ўсё — усё дазвання,
Буду дзень шукаць і месяц,
Буду год, а то і дзесяць,
А знайду я казкі след.

## ПОШУКІ КАЗКІ

Сцежкі выбраць мне якія,
Пошукі з чаго пачаць?
Месцы знаю я глухія,
Дзе лясы, дзе сенажаць,
Дзе дрыгва і дзе імшары,
Дзе глыбокія выгары.
І туды я нават траплю,
Дзе жыве старая чапля.
Выйду на рачную мель,
Дзе гуляе журавель.
Мне туды якраз з рукі,
Дзе начуюць два ваўкі.
Добра знаю я дарогу
У мядзведжую бярлогу.
Знаю горы я кратовыя,
Знаю норы я лісовыя…
Толькі вось з чаго пачаць?
А мо лепей легчы спаць,
Сіл набрацца, падрасці
І тады ўсё абысці?

Не, вы лепш і не кажыце,
Што слабы і што малы я
І спужаюся нібыта
Я ваўка, што ўночы вые.
Не ўздыхайце, не тужыце,

Як на сумных тых памінках…
Я дубовага ўзяў кія
І пайшоў сваёй сцяжынкай.
А куды пайшоў?
У жыта.
Хай сабе не блізкі свет,
Хай у ногі колка.
Знаю, хто адкрыў сакрэт,
Знаю —
Перапёлка.

**Перапёлка**

Гэта ўчора ўсё яна
Ад цямна і да відна,
На хвілінку б сціхла хоць,
Звала ўсё: «Ідзі палоць!»
А ля самага двара
Ўсё крычала: «Спаць пара!»

Сама ж не палола,
Ножак не калола,
Усю ноч не спала
І мне не давала.

Лёгка мне знайсці яе,
Бо гнязда ж яна не ўе
Ні ў дупле і ні ў галлі —
Зробіць ямачку ў зямлі,
Высцеле травою —
Вось і ўсе пакоі.
Да зямлі ўсё туліцца,
Дзюбай жыта чэша,
А лятаць лянуецца,
Болей ходзіць пеша.

Я ўсё жыта абышоў
І гарахавішча,
Так яе і не знайшоў —
Не відно і не чутно,
Не пяе, не свішча.
Спіць яна цалюткі дзень,
А як ляжа ночы цень,

Выйдзе першая зара,
Закрычыць тады яна:
— Спаць пара! Спаць пара!
А сама не спіць адна
Аж да самага цямна.

## Кнігаўка

Падаюся ў бок другі,
Праз папар, праз мурагі,
На прырэчныя лугі.
Раптам нізка нада мной,
Па-над самай галавой:
— Чый ты, чый? Кі-гі, кі-гі!

— Я-то свой, а ты чыя,
Кнігаўка самотная,
Птушка пералётная?
Калі зробіш ласку,
Знойдзеш маю казку —
Буду век удзячны я.

— Чый ты, чый? Адкуль такі?
Дзе жыву я — не скажу
І гнязда не пакажу…
І вядзе ўсё ад ракі,
Ад высокай асакі
І крылом над вухам: ж-жу!
А ля самае дарогі
Кідаецца мне пад ногі,
Скокам-бокам адпаўзае,
Ну, здаецца, памірае,
Паспрабуй жа дагані —
Не дагоніш на кані.

Мне гняздо тваё не трэба,
Ні твае малыя дзеці.
Лётай з ранку і да ранку
Пад высокім добрым небам,
Пацяшай людзей на свеце,
Ашуканка, ашуканка…

## Сарока

Каля лесу недалёка
Скача з куста ў куст сарока,
На мяне ўсё паглядае
І трашчыць як завадная:
— За папер-ку
Дай цукер-ку…
— Што? Дык казку ты украла
І ў гняздзе сваім схавала,
Нарабіла шуму-крыку,
А цяпер табе дай выкуп?
Не, зладзейка-дабрадзейка,
Зараз я зраблю праверку
І такую дам цукерку —
Растрасу тваю сямейку!

Мне адказвае сарока:
— Да гнязда майго высока.
Праўда, што люблю я красці,
Але ж рэчы дарагія —
Срэбраныя, залатыя,
Лыжкі, гузікі, пярсцёнкі,
Што здалёку ўсім відны,
Густ на іх у мяне тонкі.
А якое з казкі шчасце?
Ёй няма ў мяне цаны…

Я падумаў: за прызнанне
Памяншаюць пакаранне.
У гняздо я не палез,
А далей падаўся ў лес.

## Сініца

— Цвінь-цвень! Пінь-пень!
Добры дзень! Добры дзень!

Хто гэта мяне вітае —
Ці шчыгол, ці слаўка гэта?

Не, вось блізка падлятае,
На сасновы сук садзіцца.
Углядаюся ў прыкметы,

Трэба ж так мне памыліцца —
Не пазнаў сваёй сініцы.
У мяне яна ўсю зіму
Зімавала ў цёплай хаце,
І аўса, можа, асміну
Аддала ёй мая маці.
Так яе мы ўсе любілі,
Так кармілі, так паілі.
Быць не можа, каб за ласку
Яна ўкрала маю казку.

— Цвінь-цвень! Пінь-пень!
Добры дзень! Добры дзень!
— Добры дзень, мая сініца,
Як я мог так памыліцца?

## Зязюля

Пэўна, вы вясною чулі,
Як на дрэве, на суку
Кліча на ўвесь лес зязюля:
— Ку-ку! Ку-ку!

Я ў зязюлі запытаю,
Можа быць, яна што знае,
Куды знік з дупла мой сшытак.
— Родненькая, адкажы ты.

Калі што табе вядома,
Ты адкрый мне тайну тую —
Я ўжо цэлы дзень як з дому,
Пад сабой зямлі не чую,
Я ўжо з голаду канаю,
Ледзьве ногі валаку.
А зязюля мне: — Не знаю.
Ку-ку!

Крыллямі залапацела
І ў асіннік паляцела.

Тут я ўспомніў: гэта ж птушка,
Што малых не любіць гушкаць,
Ні спяваць ім калыханкі
І ні ў ладкі з імі пляскаць,

Ні вадзіць на пагулянкі,
Ні расказваць байкі-казкі,
Бо яе малыя дзеці
Раскіданы па ўсім свеце.
Іх чужыя кормяць маткі,
Даглядаюць і гадуюць,
А зязюля і палаткі
Ім на лета не будуе.

Так яна свой век вякуе —
Ні двара і ні кала,
Век сваё «ку-ку» кукуе —
Рада, што дзяцей збыла.

**Салавей**

У зацішку вербалозаў ніцых,
Дзе лясная сочыцца крыніца,
Я вады халоднае напіўся,
Стала на душы мне весялей.

Срэбранаю пацеркай на нітцы
Затрымцеў і песняю разліўся
У альховым кусце салавей.
Дасціпны, увішны,
Слаўны ён спявак —
Светлая манішка,
Поверх — доўгі фрак.

Пэўна, што заслужаны,
Хоць на выгляд шэры ён,
А голас не застуджаны,
І сам без фанабэрыі.

Браў свабодна трэлі,
І нізы, і высі ён,
І скроні не макрэлі,
Не цёр хусцінкай лысіны.

Спяваў і па-французску,
Спяваў другімі мовамі,
А больш — па-беларуску,
Але сваімі словамі:
— Як у лядзе-лядзе

Пастух сала пёк-пёк,
Як прысядзе-сядзе
На пянёк-пянёк-пянёк,
Як пакр-руціць ён ражэньчык, —
Ах, каб цябе, каб…
Сквар-ка: тр-р, кап-кап…
І няма: ўсё з’еў агеньчык…

— Салавей, мой любы браце,
Я хачу ў цябе спытаці:
Можа, чуў ты, хто між вас тут
Пераказваў маю казку?

А салоўка мне ў адказ:
— Гэта не цікавіць нас.
Што твая мне казка тая,
Я ж яе не заспяваю.
У мяне свае турботы —
Салаўю патрэбны ноты.

## ПРЫХОД ДАДОМУ

Лёг на травы доўгі цень,
Росны і халодны,
Прабадзяўся я ўвесь дзень
Стомлены, галодны.
А не піўшы і не еўшы —
Хто расказваць будзе вершы?
Добра, што мая сініца
Завяла мяне ў суніцы,
А спагадлівая пліска
Паказала шчаўе блізка.
Пражывіў я трохі душу
І ні з чым дадому рушу.

Адчыняю дзверы ў хаце
І спыняюся ў парозе.
Рукі ў смутку ломіць маці,
У адчаі і трывозе:
— Ой, мой сынку, мой сыночак,
Дзе ж ты знік, мой галубочак?

Выплакала я ўсе слёзы,
Вытаптала я ўсе лозы,
Вытаміла свае ногі,
Выглядзела ўсе дарогі
І ля лесу, і ля лугу,
Ля сасонак і асінак —
Дзе ж блудзіў ты, валацуга,
Што абдзёрся ўвесь і вымак?

— Не плач, мама, — я даў слова
Апісаць жыццё буслова
І цяпер па абавязку
Пра яго складаю казку,
Толькі вось сакрэт адкрыты —
Нехта ўкраў з дупла мой сшытак.
Выхадзіў я лес і поле,
Апытаў каго дзе мог,
А куды пайсці мне болей,
Я і так ужо знямог,
Абышоў, напэўна, свет —
Не напаў нідзе на след.

— Сынку, шмат дарог на свеце,
Знойдзеш ты спагаду, ласку.
Хто яшчэ знаў аб сакрэце,
Што пачаў складаць ты казку?

— Хто яшчэ знаў аб сакрэце?
Мама, зналі яшчэ дзеці.

— Пэўна, дзеці і забралі,
Прачыталі і парвалі.

Праўду, праўду кажа маці —
Любіце вы кніжкі рваці.
Калі ж казку вы забралі,
Прачыталі, не парвалі,
Дык прашу вас — і не рвіце,
Мне хутчэй яе вярніце.

## БУСЕЛ ЗАПРАШАЕ МЯНЕ Ў ГОСЦІ

Зноў прыходжу я пад вяз,
Над пустым стаю дуплом
І якраз у гэты час
Сустракаюся з буслом.

Ён ступае гэтак важна,
На мяне глядзіць уважна,
Асцярожна падыходзіць
І гаворку так заводзіць:
— Ты чаго такі пануры,
У самотнасці і скрусе,
Як пасля якіх хаўтураў? —
Так пытае ў мяне бусел.

— Ой, таварыш дзядзька бусел,
Другі дзень я ўжо снуюся
І, як рыба аб лёд, б'юся:
У мяне такое гора —
Сшытак мой укралі ўчора.

Апісаць я быў павінны
Свет птушыны, свет раслінны
І наогул белы свет —
Наскладаць хацеў я казак,
Як падняць — вялікі вязак,
Бо на тое ж я — паэт.

Усміхнуўся стары бусел:
— Дай я толькі разбяруся.
Напісаць ты казку марыш?
Што ж, пішы, калі паэт,
Але знай, я — не таварыш
І не дзядзька, я ўжо — дзед.

Я калісьці з тваім дзедам
У далёкай маладосці
Самым блізкім быў суседам
І яго найлепшым госцем.

На страсе старое хаты
У той час была буслянка,
З тваім дзедам я да ранку
Вёў гаворку, нібы з братам.

Ён — на прызбе, я — ў гняздзе
Кожнай ночы гаманілі,
Покуль возьмецца на дзень,
Ўсё махоркаю дымілі.

— Ой, са смеху я зайдуся —
Што ты кажаш, дзеду бусел!
Як жа ты ў сябе пад носам
Трымаў тую папяросу?

Узлаваў на мяне бусел:
— Разбярыся ж ты як след,
Горкі дым глытаць я мусіў,
А курыў, вядома, дзед.
Нельга ж нам, буслам, курыць —
Можна так гняздо спаліць.

Слухаць бусла то я слухаў,
Але ўсё ж часаў за вухам.
Хоць цікаўны быў без меры,
А ўсяму не мог даць веры:
— А як вы, дзеду, з той кватэры,
Што была на хаце ў нас,
Пераехалі на вяз?

— Вельмі проста, — сказаў бусел, —
У адзін пазвязваў вузел
Лыжкі, міскі і пасцель я —
Вось і ўсё тут наваселле.
Стала ўміг наўкола гола,
Як мы там і не былі…

— Ну, а кола? Як жа кола
Вы на дрэва паднялі?
Буслоў, пэўна, дваццаць пяць
Трэба, каб яго падняць?

Стары бусел тут са смеху
Як стаяў, так і паехаў:
— Трэба ж вымудрыць такое,
Проста мне бяда з табою.

А яшчэ ж узяўся людзям
Ты расказваць пра нас,

Гэта ж сорам табе будзе,
Як дазнаюцца падчас,
Прачытаюць дзеці ўслых,
Што нібыта мы, буслы,
На вяршыну дрэва цугам
Цягнем кола саматугам.
Дзякуй, што павесяліў,
Але ж ты перасаліў.
Не прыйшлося таго кола
Нам цягнуць на стары вяз —
Гэта ўсё зрабіў за нас
Мой дружбак, твой дзед Мікола.

А цяпер і ты смяешся,
Я ж ні кроплі не схлусіў,
Як жа, хлопча, ты завешся?
І я вымавіў: — Васіль.

— Ну, дык вось што, брат Васіль,
Набярыся моцы, сіл
І прыходзь да нас пад вечар
На сяброўскую сустрэчу.

Пазнаёмішся з буслікай,
Паглядзіш на буслянят,
Пасядзім парою ціхай,
Буду вельмі табе рад.

Дапаможам твайму гору,
Аб усім там пагаворым.
Сам убачыш, адным словам,
Ты жыццё наша, буслова, —

Афармляй камандзіроўку.
Захапі з сабой вяроўку.
Прывяжу я на вяршыні
І спушчу табе канец —
І тады, як на машыне,
Знізу ўверх ляці, хлапец!

Я падзякаваў старому
За разумную параду
І пабег хутчэй дадому
На сямейную нараду.

— Мама, мамачка, — прашу я, —
Дай мне чыстую кашулю.
Прыбяруся і памчуся —
Запрашае мяне бусел.

У гняздзе я сам павінны
Побыт вывучыць птушыны
І пачаць спачатку казку
Пра бусла, пра яго ласку.

Стары бусел — малайчына,
Кемлівая галава!
Я вазьму з сабой ляйчыну,
Ён прычэпіць за вяршыну,

І я — ж-жых, як на машыне,
Да буслоў па той вяроўцы.
Там прабуду тыдні два,
На гняздзе ў камандзіроўцы.

## НА БУСЛЯНЦЫ

Я пісаць пра ўсё не стану —
Адбылося ўсё па плану.
Браўся ўжо на захад дзень,
Як з’явіўся я ў гняздзе.

Першы раз я ўбачыў свет —
І далёка, і шырока,
Пэўна, ні адзін паэт
Не ўздымаўся так высока.

Сеў з буслiхай і буслом
Я за круглым іх сталом.
Пачалі яны падрад
Мне паказваць буслянят.

Кожнае з іх уставала
І на ножках прысядала.
Вось што значыць — выхаванне
І старэйшых шанаванне.

Кожнае запомніў я,
Яго выгляд і імя.
Слаўныя былі ў іх дочкі:
Сакатуха і Ласуха,
І пацешныя сыночкі:
Даўгахвосты і Бязвухі.

Перад тым як за стол сесці,
Кожнае памыла лапкі,
Ну, а потым сталі есці
Хто смятану, хто аладкі.

Праўда, там былі другія
На стале яшчэ прысмакі:
Рыба, яшчаркі жывыя,
І гадзюкі, і вужакі.

Чаго хочаш у той місе —
Еш, брат, хоць расперажыся!

Добра, што якраз, на шчасце,
Калі маці выпраўляла,
Не забылася пакласці
Мне ў дарогу хлеба, сала

І абручык каўбасы,
Нават памідораў ранніх —
Мог я доўгія часы
Быць на ўласным утрыманні.

А ўсё ж, будучы на чэсці,
Каб не крыўдзіць дом гасцінны,
Пару рыбак мусіў з’есці
І падзякваў гаспадыні.

І, як звычаем прынята,
Калі госць што-небудзь дорыць,
Я малым даў буслянятам
Кожнаму па памідору.

І было ж, было там смеху,
Як яны з імі гулялі,
Дзюбамі ўсім на пацеху
Замест мячыкаў качалі.

## БУСЛІХА СПЯВАЕ КАЛЫХАНКУ

Як малых паклалі спаці
І заціхла ўся буслянка,
Доўга ім спявала маці
Сваю песню-калыханку:

— Спіце, дзеткі, лю-лі, лю-лі,
Вераб'і даўно паснулі.
Ад іх шуму дзень у дзень
Галава ажно гудзе.

Колькі бацьку я прасіла:
Тут твая улада, сіла —
Выкінь ты з гнязда іх транты,
Нам не трэба кватаранты.

Нанасі ты з лесу вецця
І залатай плот дзіравы,
А то вельмі ж нашы дзеці
Любяць смелыя забавы.

Проста і не зводзь з іх вока —
Забываюць, што высока,
Могуць скінуцца дадолу.

Трэба дом зрабіць нам шырай
І, як скончаць дзеці школу,
Рыхтавацца ўсім у вырай,
Каб тут мерзнуць не прыйшлося,
Як надыдзе тая восень.

Стануць мае дзіцяняткі,
Стануць мае бусляняткі
Хутка на даўгія ногі,
Каб шукаць свае дарогі.

Цераз моры, цераз рэкі,
Цераз горы і даліны
Шлях пракладзены спрадвеку,
Доўгі, цяжкі шлях бусліны.

Дзе цячэ блакітны Ніл
У спякотлівым Егіпце,
Нас глытае кракадзіл,
Тыгр хапае ў свае кіпці.

Гіне шмат буслоў на свеце,
Але мы і нашы дзеці
Вернемся ў сваю хаціну,
Прыляцім зноў на радзіму…

Моцна спалі бусляняты
У цяпле бацькоўскай хаты.
Веяў з цёмнае дубровы
Лёгкі ветрык вечаровы
І спакойны сон буслiны
Калыхаў на верхавіне.

Добра мне адсюль відно,
Што ўжо свеціцца акно
У маёй далёкай хаце,
І чутно — гукае маці:
— Дзе ты дзеўся, сынку, дзе?

— Мама, я сяджу ў гняздзе.
Я твой голас добра чую,
Але тут пераначую,
Бо мой шлях далекаваты
І занадта сукаваты.
Ты, мамуся, не турбуйся,
Мне пасцель рыхтуе бусел.

## АПАВЯДАННЕ СТАРОГА БУСЛА

Запаліла ноч ліхтар
І павесіла на вязе,
Ззяе лесвіца да хмар —
І туды б, здаецца, злазіў.
І такая відната,
Хоць сабе рыхтуй урокі,
І такая ціхата —
Увесь свет чуцён далёкі.

Быццам тонкая струна
Загула ў мяне над вухам.
Аж да самага відна
Я старога бусла слухаў:

«Шмат прыйшлося мне спазнаці,
Але крыўды я не ведаў.
Перабыў аднойчы ў хаце
Я ўсю зіму ў твайго дзеда.

Яшчэ ў пер'е не ўвабраўся,
Нахапілася ўжо восень,
Захварэў я і застаўся.
Вылецець не давялося.

І якраз, нібы на грэх,
Выпаў вельмі ранні снег.
Замяло лугі, дарогі,
Скачанелі ў мяне ногі,

Ледзь даклыпаў да сядзібы
І, не знаючы, што будзе,
Бразнуў дзюбаю у шыбу:
— Выратуйце мяне, людзі!

Пляснуў у далоні дзед:
— Беднае маё дзіцятка!
Маці, даставай абед —
Гэта ж наша буслянятка.

Угарнулі кажухом,
І на печ мяне ўссадзілі,
І гарачым малаком
З лыжачкі малой паілі.

Ўратавалі змоладу
З холаду і голаду.
Ну, а цёплаю вясной
Зноў сустрэўся я з сям'ёй,
Але покуль жывы буду,
Я той ласкі не забуду».

— Дзеду бусел, — спытаў я, —
А чаму ваша сям'я
Перабралася на вяз?
І пачуў такі адказ:

— А прычына, брат, адна,
Што на дрэве навасельцы мы, —
Тут у нас прайшла вайна,
Сталі ўсе мы пагарэльцамі.

Покуль людзі будаваліся,
Покуль з гора выбіваліся,
Дзед Мікола
Знайшоў кола,
Сам аблюбаваў для нас
Вяз.

## ЭКЗАМЕНЫ Ў БУСЛІНАЙ ШКОЛЕ

Пасля я ўжо стаў без ляйчыны
Узлазіць на тую вяршыну.
Ў гняздзе сустракалі буслiным
Мяне быццам роднага сына.

Там шмат я цікавага ўбачыў
На даўнім драўляным тым коле,
З малымі буслямі задачы
Рашаў у буслінай я школе.

Калі ж маладыя пілоты
Здавалі экзамен па лёту, —
Было там і гора і смеху
Старым і малым на пацеху.

— Я першы, — сказаў Даўгахвосты, —
Лячу, бо ўжо выраслі крылы!

І скочыў з гнязда, як з памоста,
З усёй заліхвацкае сілы.

Дзівіліся бусел з бусліхай:
— Ну, гэты сам выб’ецца ў людзі!
— Такі не спужаецца ліха!
— Адважным ён лётчыкам будзе!

А сын, даляцеўшы да самае высі,
З-пад хмары нырца даў і сеў на пагорку.
Было аднадушным рашэнне камісіі:
— За храбрасць паставіць… чацвёрку!

Другім стартаваў у паветра Бязвухі.
Ён добра абдумаў усе свае рухі.
Агледзеў, праверыў ён кожнае пёрка,

А потым узняўся над полем, над лугам,
Па небе выводзіць стаў роўныя дугі.
І яму па лятанню,
Як па чыстапісанню,
Пастаўлена цвёрдая ў дзённік пяцёрка.

А за сынамі Даўгахвостым, Бязвухім
Чарга падышла да дачкі — Сакатухі.
Ну і смеху ж было,
Што гняздо ўсё гуло,
Я за бокі узяўся
І аж покатам клаўся.

Сакатуха, Сакатушка —
Баязлівая ж ты птушка.
Высунула з гнязда дзюбу:
— Нізашто лятаць не буду!

А як глянула за край:
— Ай, трымайце мяне, ай! —
Крыллямі залапатала
І траха з гнязда не ўпала:
— Ой, звалюся!
Ой, заб’юся!
Хутчэй дайце парашут,
Бо канец мне будзе тут!

Угаворвала бусліха
І па-добраму, паціху,
І прасіла просьбаю,
І гразіла грозьбаю,

Абяцала рыбы мерку
І наверх яшчэ цукерку,
Перабрала ўсе прысмакі,
А карысці — аніякай.

Узлаваў тады стары
І сапхнуў дачку з гары.
Як дала ж яна са страху
Крыллямі такога маху,
Што ўсю вёску абляцела
І на нашай хаце села.

Потым на балоце, у лазе,
Церпяліва выстаяла стойку
Мо з гадзіну на адной назе —
Нацягнула ўсё ж такі на тройку.

А Ласуха за ласунак
Лётала б бясконца.
Толькі дайце пачастунак —
Паляціць да сонца.

І ёй так сказала маці:
— Мілая дачушка,
Вырасла ўжо з птушаняці
Ты вялікай птушкай.
Калі ж будзеш за лятанне
Ты прасіць аплаты,
Можаш сабе да змяркання
Не вылазіць з хаты.
Як галоднай пасядзіш —
І без цукеркі паляціш.

Здаў і я экзамен у той школе —
Не баяўся вышыні ніколі.

## ЯК БУСЕЛ ЛОВІЦЬ РЫБУ

На цямочку, цёплым раннем,
Пайшлі буслы на паляванне.
Паперадзе дыбаў сам бусел,
Вёў буслянят ён на экскурсію.
Ішла за ім уся сям'я,
А ззадуназіркам — і я.

Сыны і дочкі на балота
Прыйшлі ў чырвоных новых ботах
І кожны з дзюбаю вялікай —
Такою вострай, быццам піка,
І толькі я між іх быў босы,
Не меў буслінага я носа,
Таму з сабой узяў я вуду —
Лавіць я рыбу вудай буду.

Закінуўшы ў ваду кручок,
Я сеў ля рэчкі на пянёк,
Сядзеў-сядзеў, можа, з гадзіну,
Рука знямела ад вудзільна,
А на кручок, на чарвяка
Мне не трапляла і малька.

Тады сваю я вуду кінуў
І сам падаўся ў гурт бусліны.
У іх ішла спарней работа,
Аж і мяне ўзяла ахвота.
Сам бусел кіраваў рыбалкай:
Ён тоўстай дзюбаю, як палкай,

Муціў ваду пад берагамі,
Таптаў цыбатымі нагамі,
Пакуль праз вадзяныя шыбы
Святла не бачылі ўжо рыбы,
Не ведалі, куды ім плыць, —
Тады ён браўся іх лавіць.

Хапаў ён рыб
За чорны хіб,
Кідаў на бераг раз-паразу,
Лавілі дзеці іх адразу,
Пасля да бацькі ў рэчку лезлі,
З вады цягалі рыбу самі
І грукалі па дне насамі —
Іх носікі ў вадзе не мерзлі!

## ЯК БУСЕЛ МЯНЕ АД БЯДЫ ЎРАТАВАЎ

Не шанцавала толькі мне,
Хоць бы ляжаў адзін на дне
Ў вядры маім які шчупак,
Дурны карась ці нават рак —
Дзеля прыклёпу, проста так,
Бо я ж хваліўся, што рыбак.

Я ўжо не ведаў, куды дзецца,
Схаваў ля берага вядзерца,
Падаўся на сухі грудок,

Лёг пад вярбою у цянёк.
Спачну тут, думаў, у цішы.

Аж раптам куст як зашуршыць,
І нечакана паўз мяне,
Паўз вуха штось як шугане,
А потым — цішыня, ні гуку.
Я глянуў і знямеў: гадзюка!
Яна праз лісце і траву
Як высунула галаву,
Так і застыла нада мной.
Я закрычаў:
— Ра-атуйце!
О-о-й!

Напэўна б, я там і загінуў,
Ды бусел у бядзе не кінуў —
Адразу голас мой пачуў,
Шырока крылламі ўзмахнуў
І апусціўся над вярбой,
Прыціснуў гадзіну нагой
І піку вострую звысоку
Уткнуў у самае ёй вока.

Тут прыляцелі бусляняты
І ўвесь абшарылі грудок.
Было спажывы ім багата —
Гадзюк знайшлі цэлы клубок.

Як адлягло ад страху сэрца,
Я ўспомніў пра сваё вядзерца.
І толькі падышоў пад бераг,
Дык і вачам не мог даць веры:
Было паўнюткім да краёў
Вядро ўюноў, язёў, лінёў.

— Адкуль жа гэта? — я здзівіўся.
— Пайшлі дамоў, — сказаў мне бусел, —
Мы сёння шмат іх налавілі
І пра цябе, брат, не забылі.

## ЯК ДЗЯЦЕЛ ЛЯЧЫЎ БУСЛАВУ ДАЧКУ

Не ўсё абышлося пасля палявання
Шчасліва, як думаў у тое я ранне.
Назаўтра
Трывожны быў дзень
У гняздзе.
Яшчэ апаўночы пачуліся ўздыхі,
Прыйшло да буслоў нечаканае ліха:
Знянацку
Дачушка
Ласушка
Схапілася лапкай
За правае вушка:
— Ой, мамачка, коле, так коле —
Зайдуся, памру я ад болю.

Усё спрабавала
Бусліха:
І клала
На вушка
Падушку,
І брала
На рукі пагушкаць,
Спявала
Ёй песні паціху —
Стогне і енчыць Ласушка,
Слязамі сыходзіць дачушка.

І ледзь толькі золак заняўся —
Раіцца стала сям'я ўся.
І я тут з'явіўся, як ведала сэрца,
Што сябрына у бядзе-паняверцы.

Гасцінцаў наклалі мы ў торбу
Аж з коптарам,
І сыны паляцелі па доктара.
І той адразу ж, з паўслова,
Скеміў няшчасце буслова.
Вось што значыць
Спецыяліст!
А нядаўна ж быў проста
Тэлеграфіст!

Нічога не ўзяў доктар дзяцел,
Нават сушанай рыбы вязку:
— Драць я з хворых не здацен,
Я адразу ж лячу
І лячу
Па свайму абавязку.

На тым часе да нас
І з’явіўся ён на вяз,
Ўвесь як на партрэце:
Ў чырвоным берэце,
Ў зялёным халаце —
На пуху, на ваце,
З доктарскай трубкай —
Чорнаю дзюбкай.

Пад крылом адразу знік
У Ласушкі градуснік —
Перад тым як даць мікстуру,
Трэба зняць тэмпературу.

Ён абмацаў ёй жывоцік,
Злазіў лыжачкай у роцік
І сказаў: гэк-гэк, кіп-кіп…
І мы падумалі, што грып.

Ведаў клёкат ён буслíны
І сказаў усім адкрыта:
— Не, няма ў яе ангіны
І няма прыкметы грыпа.

Мы ўсе ў трывожным хваляванні
На дзятла вочы паднялі.
— А вы былі на паляванні?
— Былі.
— Яна укушана гадзюкай —
Так мне падказвае навука.

— Ай-ай! — прамовіла паціху
І ледзь не ўпала тут бусліха. —
Адкуль на нас такое ліха?
Ой, доктар, я са страху млею —
Ці ёсць якая хоць надзея?

Дзяцел усміхнуўся
І сказаў услых:
— Не ўміраюць ад гадзюк буслы.
Засаб можна глытаць іх па сто штук —
Так гаворыць мудрасць ўсіх навук.

Якая радасць там была
Для ўсяе сям'і бусла!
Не зналі мы, што гаварыць,
Куды нам дзятла пасадзіць,
Якою ласкай прывячаць,
Як дзякаваць, як частаваць.

## КАЗКА ЗНОЙДЗЕНА!

А Ласушка, з'еўшы рыбы вязку,
Стала, як назола, прыставаці:
— Раскажыце, доктар, казку,
Раскажыце, мілы дзяцел.
Многа вы лятаеце,
Многа казак знаеце.

— Так, лятаю
Многа я па свеце,
Добра знаю —
Любяць казкі дзеці.

Добра знаю, ну але
І казку маю пра запас.
Я знайшоў яе ў дупле,
Тут вось блізка каля вас.

А стары мне бусел кажа:
— Гэта, брат, твая прапажа.

Як падскочу я ў гняздзе:
— Дзе ж яна? Скажыце дзе?

Дзяцел проста аж здзівіўся:
— Ты чаго так усхапіўся?

Мне ж прызнацца нават брыдка,
Быў я рад, што згінуў след,

Бо пісаў у тым я сшытку,
Выхваляўся, што паэт…

А тым часам добры дзяцел
І дамоў паспеў злятаці.
Падае мне маю казку:
— Вось вазьмі, брат, калі ласка.
Доўга мы слібізавалі —
І суседзі ўсе,
І самі —
Сэнс глыбокі ў ёй шукалі
І дайшлі аж да паловы…
Ты даруй нам, што насамі
Выдзеўблі твае ўсе словы,
Што пасля з тваёй паперы
Змайстраваў сабе я дзверы,
Каб не дзьмуў у хату вецер,
Як былі малыя дзеці,
Потым здаць хацеў на ўціль…

— Ой, Васіль, ой, Васіль! —
Заскакалі бусляняты. —
Мы не пусцім цябе з хаты,
Пакуль нам не прачытаеш
Казку, што ад нас хаваеш!

Разгарнуў я сшытак свой —
Не панік, не ўныў душой,
Хоць і праўда, што ад казкі
Ані знаку,
Ні завязкі, —
Нездарма я ўсё ж хадзіў
Па вясёлым свеце,
Наглядзеўся розных дзіў,
Так патрэбных дзецям,
І цяпер зноў па парадку
Ўсё магу пачаць спачатку.

У мяне даволі слоў,
І, калі хто хоча,
Баяць казку я гатоў
Аж да самай ночы.

*1957*



## ПАКАЛЕННЕ, ГАРТАВАНАЕ Ў АГНІ

Актуальнасць размовы аб новым пакаленні, якое ідзе ў нашу літаратуру, неабходнасць самай сур'ёзнай працы па выхаванню маладых пісьменнікаў наспелі з усёй відавочнасцю.

Якія акалічнасці вызначаюць сабою сутнасць нашай працы ў гэтым напрамку? Першае — гэта тое, што ў Беларусі, у рэспубліцы, якая займае адно з самых пачэсных месцаў у нашай вялікай дзяржаве, вельмі мала, недапушчальна мала пісьменнікаў, і другое, у чым уласна і заключаецца вырашэнне праблемы, гэта тое, што цяпер, пасля велізарнейшых гістарычных падзей, мы стаім напярэдадні прыходу ў нашу літаратуру новых талентаў, новых пісьменнікаў, якія народжаны самімі падзеямі ў гады вялікіх выпрабаванняў, у гады найвялікшага ў нашай гісторыі напружання фізічных і духоўных сіл народа. Разам з новымі пісьменнікамі ў нашу літаратуру ідуць тыя адменна новыя героі, якія сваімі ўчынкамі, паводзінамі, думкамі і пачуццямі будуць здзіўляць і хваляваць не адно пакаленне людзей.

Ужо ў самыя дні Айчыннай вайны і неўзабаве пасля яе, калі яшчэ скрозь і ўсюды відаць яе сляды, мы з'яўляліся і з'яўляемся сведкамі небывалага творчага ўздыму народнага духу як сцверджання нашага народа ў сваёй нязломнасці, у перакананні сваіх ідэй, у адданасці справе вялікай партыі. Паказальна, што якраз у часы самых цяжкіх выпрабаванняў у беларускай літаратуры з'яўляюцца найбольш выдатныя, найбольш хвалюючыя творы, якія становяцца вядомымі не толькі беларускаму чытачу, але і нашым братнім народам, набываюць вядомасць далёка за межамі краіны.

Тыя паэты, якія да Айчыннай вайны толькі пачыналі фармавацца як самастойныя майстры або падавалі толькі першыя адзнакі гэтай самастойнасці, а то і рабілі самыя нясмелыя крокі

ў літаратуры, за гэты параўнаўча невялікі час паказалі такі творчы рост, дзеля якога ў іншых умовах, можа, спатрэбілася б дзясяткі год. Самы яркі прыклад гэтаму — Пімен Панчанка, які найбольш поўна ў беларускай маладой паэзіі выказаў самыя запаветныя думы і спадзяванні нашага сучасніка, сучасніка, якому давялося стаць у першыя рады барацьбітоў за абарону заваёў рэвалюцыі. Творчасць гэтага паэта настолькі выразная, што яе можна назваць духоўным дзённікам цэлага пакалення на самым рашаючым этапе яго жыцця, калі канчаецца гарэзнае юнацтва і пачынаецца сталасць, поўная трывог і роздуму не толькі над уласным лёсам, а над лёсам усёй краіны і свету.

Пімен Панчанка ўжо сваімі першымі кнігамі заявіў аб сабе ўпэўненым, свежым і вельмі самабытным голасам. За гады вайны ён стаў выдатным майстрам нашай паэзіі. І хоць у маю задачу не ўваходзіць разгляд яго творчасці, я спыніўся на ім таму, што на яго вершах ляжыць тая адметная, тая тыповая асаблівасць маладой паэзіі, якая ўласціва амаль усім нашым маладым паэтам, што значна пазней прыйшлі ў літаратуру — ужо ў гады вайны. Гэтая асаблівасць — крыштальная шчырасць у творчасці. Яна якраз і вызначае поспех усіх лепшых твораў нашае сучаснасці.

Ва ўсе часы людзей хвалявалі тыя творы, якія былі споведдзю сучаснікаў. Некаторыя з гэтых твораў нават і вядомы пад такімі назвамі і хвалююць чытача і ў наш час. «Споведзь» Жан-Жака Русо, «Споведзь сына веку» Альфрэда дэ Мюсэ. Страснай шчырасцю прасякнуты творы геніяў рускай літаратуры, класікаў нашай беларускай паэзіі Якуба Коласа і Янкі Купалы. У нашыя дні мы былі сведкамі таго, як страсная споведзь сучасніка Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь» зрабілася як бы наказам і нашаму, і наступным пакаленням.

У наш час, калі ліквідавана супярэчнасць паміж калектывам і асобай, паміж я і мы, паэт піша аб сабе, аб сваіх пачуццях, бо ён адчувае, што гэта будзе хваляваць іншых. Чым індывідуальней, чым больш па-свойму ўмее перадаць ён бачанае, перажытае, тым больш цікавым будзе яно для іншых. Вельмі характэрна, што якраз у гэтыя гады, калі беларуская паэзія дасягнула свае сапраўднай сталасці, мы ўбачылі, што ў нас ёсць майстры, сіла якіх у непадобнасці адзін на аднаго, у іх выразнай самастойнасці і яркай індывідуальнасці.

Чым растлумачыць тое прагнае імкненне да літаратуры новых людзей, якое мы наглядаем у наш час?

Адказ на гэтае пытанне ясны. У людзей ёсць патрэба пісаць, многія з іх не могуць не пісаць, бо адчуваюць, што перажытае,

бачанае імі асабіста, мае гістарычна-грамадскі сэнс і павінна зрабіцца здабыткам многіх людзей.

Паказальна тое, што аўтары нашых новых аповесцяў, паэм, апавяданняў і вершаў у пераважнай большасці гэта тыя людзі, якія не толькі былі сведкамі падзей, але і непасрэднымі іх удзельнікамі, тыя людзі, якія самі прайшлі праз агні жорсткага выпрабавання, былі на самых перадавых пазіцыях вайны і, пайшоўшы на яе юнакамі, выйшлі з яе сталымі, загартаванымі людзьмі. У цяжкіх пакутах і нястачах, у горычы няўдач і страт, у радасці поспеху і перамогі гартавалася сэрца нашага маладога сучасніка.

Паэт Кастусь Кірэенка, талент якога выявіўся якраз у дні вайны, вельмі трапна вызначыў сілу слова, народжанага ў суровыя хвіліны жыцця:

І столькі сілы ў словах ачышчэння,
Як быццам іх кавала кузня веку.
І ўпэўнен ты, што стане на калені
Жуда вайны прад воляй чалавека.

Сваю першую кніжку К. Кірэенка назваў «Ранак ідзе». Вельмі трапны сэнс у гэтых словах. Сапраўды, у нашу літаратуру ідзе свежы, сонечны ранак, ідзе маладое папаўненне пісьменнікаў, якія пішуць не дзеля забавы і не дзеля асабістага здавальнення, а дзеля таго, каб паказаць веліч і хараство, глыбіню і складанасць пачуццяў, якія гартаваліся ў кузні веку, у выпрабаваннях часу.

Нашым маладым пісьменнікам не даводзіцца задаваць сабе пытанне — аб чым пісаць, дзе ўзяць тэму. Тэмы ім давала і дае само жыццё. Не дзіва, што паэтычная форма, гэтая своеасаблівая стэнаграфія душы сучасніка, заняла ў нашай літаратуры пераважнае месца. Безумоўна, што ў нас з’явіцца і эпас, але гэта ні ў якой ступені не зніжае вартасці сучаснай лірыкі. Нашы паэты былі як бы выведчыкамі нашай перамогі, іх увагу захапляў савецкі чалавек, яго пачуцці, яго ўпэўненасць у сваёй справе, яго аптымізм, які не пакідаў байца нават у самыя цяжкія хвіліны змагання, калі ўзнікала пытанне — жыць або памерці:

Калі б магло дыміцца гора
Салдата — свет завалакло б,
А ён упэўнена, праз горы,
Праз рэкі йшоў, хаця святло
Зары на дымным даляглядзе
Было далёка, у крыві.

Стаяў насмерць у Сталінградзе,
Каб у Берлін дайсці жывым.

Гэтыя радкі напісаў радавы ўдзельнік вайны, малады паэт Паўлюк Прануза. І ў гэтых васьмі радках, простых і ясных, больш жыццёвай праўды, чым у цэлых паэмах тых аўтараў, якія свайго героя ўжо з самай калыскі пампуюць літаратурнай «бадзёрасцю». Самая прыемная якасць, якая вызначае творчасць маладых паэтаў-франтавікоў, тая, што яны на вайне змаглі ўбачыць веліч і хараство душы савецкага чалавека, тую рэальна жыццёвую ўпэўненасць у перамозе, тую непадзельнасць чалавека і жыцця, за якое ён змагаецца, тую веру ў мэты, якія ён ужо ажыццявіў на сваёй зямлі. Чалавек нашай эпохі ведае, за што ён змагаецца. Ён ведае, што ў выніку, калі вораг перамог бы, ён растаптаў бы сваім брудным ботам перш за ўсё нашу чалавечую годнасць.

У 1942 годзе, у студзені, з горада Казані перадаваўся па радыё мітынг беларускага народа. І нас сёння хвалюе ўжо самы просты запіс гэтага факта. Беларускае слова дайшло да фронту, на перадавую пазіцыю, і адгукнулася ў сэрцах нашых землякоў. Удзельнік баёў за Сталінград, малады паэт Анатоль Вялюгін, будучы ў гэты час цяжка паранены, піша ў палявым шпіталі верш, які хвалюе сілай самой упэўненасці ў перамозе, упэўненасці, якая перадалася паэту сваім народам:

Гісторык, запішы стагоддзям дату:
«Гаворыць Беларусь з Казані!»
У танк, шпітальную палату,
Прасторам дыктары сказалі.
Яна — жывая! Дарагая маці.
Сівая галава ад гора.
Ад слоў павеяла ў палаце
І ў танку — верасамі бора.

Пакутны шлях разам з усім народам прайшло маладое пакаленне паэтаў. Многія з іх, пайшоўшы бараніць радзіму са зброяй у руках, аддалі за нашу перамогу сваё маладое жыццё. Смерцю герояў на полі бітвы палі таленавітыя юнакі Мікола Сурначоў і Аляксей Коршак, загінулі Алесь Жаўрук і Андрэй Ушакоў, Леанід Гаўрылаў і Аркадзь Гейне. Лепшым ушанаваннем іх памяці павінны быць наш клопат аб тым, каб усё лепшае, што яны напісалі, сабраць і выдаць. Саюз пісьменнікаў і выдавецтва

павінны зрабіць усё дзеля таго, каб вершы гэтых паэтаў-воінаў, верных сыноў радзімы, засталіся ў памяці народа.

Маладая наша паэзія моцная не толькі жывым пачуццём часу, але і асэнсаваннем падзей, усведамленнем тых мэт, за ажыццяўленне якіх змагаўся савецкі народ. Вось верш удзельніка нядаўніх ваенных падзей на Далёкім Усходзе маладога паэта Васіля Матэвушава:

На камені ў Хінганскай цясніне
Штыком напісаў на ўспамін,
Што быў я ў манчжурскай краіне
Не ў пошуках шчасця хвілін,
Што радасць жыцця беларуса
Жыве сярод пушчаў і ніў,
Што ў фанзах Хайлара, Дзямусы
Нікому бяды не зрабіў.
Я тут нават думкай не марыў
Каменьчыка ўзяць ад гары.
Са зброяй прыходзіў, каб хмары
Развеяць з усходняй зары.

Гэта — паэзія гуманізму. Ёй не ўласцівы шавінізм і чалавеканенавісніцтва. Гнеў і нянавісць, якія напаўнялі кожны радок нашых паэтаў, былі справядлівай мерай, выяўленнем душы нашага сучасніка — носьбіта сапраўднай чалавечнасці.

Тая галоўная якасць, якая была ўласціва франтавым вершам маладых паэтаў, засталася характэрнай і для іх творчасці, прысвечанай адбудове краіны, аднаўленню нашай зямлі. Гэта — праўда жыццёвая, рэальная праўда, без прыхарошвання.

Малады паэт Мікола Гамолка ў вершы «На вызваленай зямлі» піша:

На поле роднае калгаснік
Прыйшоў у выцвілым шынелі.
Нібы раскіданыя каскі,
Варонкі навакол чарнеюць.

Пляцёнымі слядамі танкаў
Затоптаны усе разоры.
Ў траве густыя росы ранка,
Як жыта выбітага зёрны.

Ці пройдзе плуг у глебе гэтай,
Мо ўжо не глеба тут, а камень?
Яе кавалі ўзімку, летам
Магутных бомбаў малатамі.

Але побач з разуменнем усіх цяжкасцей, гэты калгаснік, які вярнуўся дадому з вайны, нават у самой прыродзе бачыць сцвярджэнне яго надзей, яго спадзяванняў: «Ён працаваць не развучыўся, зямля не развучылася радзіць».

Здаровым, народным аптымізмам, хараством пачуццяў чалавека-пераможцы, роздумам і свежай паэтычнасцю вабяць нас вершы маладых паэтаў. Гэта моладзь не толькі па творчасці, але і па свайму веку. Амаль усе яны пачалі пісаць і друкаваць свае першыя вершы ў дні Айчыннай вайны як яе непасрэдныя ўдзельнікі — адны на фронце, другія ў партызанах. І творчасць іх — вельмі прыемная з’ява, якая сведчыць аб тым, што ў нашу паэзію ідзе вельмі таленавітае папаўненне, якому трэба дапамагчы ўсімі сіламі, каб яно доўга не затрымалася ў рэзерве або яшчэ горш — у тым літаратурным карантыне, які для многіх цягнецца дзясяткамі год.

Закасцянеласць формы, адсутнасць творчых пошукаў, нежаданне супраціўляцца інерцыі версіфікатарства — страшная небяспека на шляху маладых паэтаў. Той, хто разумее гэтую небяспеку — перамагае яе, каб стаць на ўласную дарогу. Той, хто не хоча перамагаць, на ўсё жыццё трапляе ў цэх рамеснікаў. Можа, гэта і лёгкі і салодкі хлеб, але лепш жывіцца самым горкім, ды здабытым уласнаю працаю. Ёсць і такая катэгорыя паэтаў, якія, не маючы свайго і не жадаючы браць вядомага, стараюцца прыстроіцца да якога-небудзь самага арыгінальнага напрамку, жывіцца з той крыніцы, якую адкрыў смелы і няўрымслівы шукальнік. У такіх выпадках гэтыя ўвішныя малайцы, жывячыся чужым хлебам і ніколькі не губляючыся, яшчэ і ляпаюць па плячы самога гаспадара з выглядам той крылоўскай мухі, якая, едучы на вале, пахваляецца, што і яна арала поле. Гэта ўжо не проста эпігонства, а эпігонства з прыстрасцем. Падпаўшы цалкам пад уплыў майстра, такі літаратурны чаляднік можа доўга круціцца ў чужой арбіце і, як тая камета, нават зіхацець хвастом славы, а потым або зусім знікае з паэтычнага небасхілу, або відзён толькі ў добрую падзорную трубу.

Часта ад пачынаючых аўтараў можна чуць такое пытанне — у каго вучыцца? І вось нашы літаратурныя кансультанты пускаюць у ход усю сваю эрудыцыю і складаюць велізарнейшы спіс

настаўнікаў: выбірайце, калі ласка! Гэты выбар і збівае часта з панталыку нашу моладзь, асабліва на самых першых яе кроках. Пачынаючы паэт выбірае сабе ўзор і па гэтаму ўзору піша. Колькі нам давялося перачытаць такіх вершаў, дзе літаральна скапіраваны або Пушкін, або Купала, Блок або Багрыцкі, Маякоўскі або Ясенін. Набіўшы руку на гэтым капіраванні, пачынаючы паэт лічыць, што ён ужо і майстар. Рабская залежнасць выключна ад аднаго паэта, па-мойму, страшней, чым уплыў многіх паэтаў. Калі пачынаючы паэт будзе чытаць як мага болей і розных аўтараў, дык гэта можа ў ім выхаваць нейкае пэўнае ўяўленне аб тым, што ўсе добрыя паэты розняцца адзін ад аднаго, выхаваць пэўны літаратурны густ, а гэта ў першую чаргу і неабходна пачынаючаму аўтару. Пытанне аб тым, у каго вучыцца, не такое ўжо складанае. Вучыцца ёсць у каго, але ўся справа ў тым — як вучыцца.

Я прачытаў сто вершаў Анатоля Вялюгіна. Гэта ўжо вельмі салідны том, але для выдання першай кнігі маладога паэта скарыстаць можна не болей за 20–25 вершаў. Вельмі ж многа ў Вялюгіна выпадковага і штучнага.

Сосны лезуць у пакоі.
Год плыве, нібы паром.
Ясны Пушкін у спакоі
Сам вадзіў маім пяром, —

піша Вялюгін. Вось у гэтай бязбожнай эксплуатацыі добрага Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна і ёсць тая небяспека, якая стаіць на шляху механічнай вучобы.

Жыватворчы ўплыў аднаго паэта на другога вы можаце лёгка заўважыць і ў класічнай, і ў нашай сучаснай паэзіі. Пімен Панчанка вучыўся ў Маякоўскага смеласці вобраза, навізне тэмы, але ж ён усё гэта змог спалучыць са сваімі ўласнымі асаблівасцямі, не толькі захаваць сваю самастойнасць, але і набыць выразныя рысы арыгінальнага паэта. Панчанка пачынаў сваю вучобу ўжо на тым самым выдатным, чаго дасягнуў сталы Маякоўскі, Вялюгін старанна зубрыць тое, што меней уласціва Маякоўскаму. Тое, што Маякоўскі мог вымавіць скорагаворкай, кінуць як экспромт, як жарт, Вялюгін бярэ за ўзор. Вось «Песня шторму» Вялюгіна:

Мора. Сівы топаль.
Мокне Севастопаль.
Над прасторам рэй дым
Бранявога рэйда.

Хвалі, быццам горы.
Пакідаем горад.
Не сумуйце, Клавы
З белай Балаклавы.

У вершах Вялюгіна прыкметна поза, эстэцкае какетнічанне:

Рукі будуць на бінце, як бакалы, як слава,
Тамада ціха скажа над бакаламі:
Слава!
Адкажа Парыж, і адкажа Палтава —
Слава!

Анатоль Вялюгін — вельмі здольны і найбольш цікавы з нашых маладых паэтаў. Гэта я зазначаю зусім не таму, каб выраўняць баланс і сказаць аб яго дадатных якасцях. Я схільны крытыкаваць Анатоля Вялюгіна болей, чым хваліць, таму што ў ім бачу чалавека, які разумее паэзію, які можа пісаць не толькі добра, але і па-свойму, з выразнымі адзнакамі свайго ўласнага стылю. Адметная якасць Вялюгіна — шырокая разнастайнасць тэматыкі: фронт і тыл, сучаснасць і мінуўшчына, свая радзіма і іншаземныя краіны. Вялюгін напісаў цыкл цікавых вершаў пра Урал. Сама па сабе гэта вельмі прыемная з’ява. Нашы паэты ў часе вайны амаль не пісалі аб савецкім тыле. Моцнае ўражанне пакідаюць вершы «Расстрэл імперыі» і верш пра сталявара.

Такога шырокага і разнастайнага тэматычнага ахопу якраз нестае многім нашым маладым паэтам. Праўда, у нас, вызначаючы тэму пісьменніка, часта прыпісваюць яму афіцыйна ведамаснае амплуа. Раз ты пішаш аб вёсцы, значыць, ты — сялянскі пісьменнік, аб чыгуначным транспарце — чыгуначны, аб Чырвонай Арміі — чырвонаармейскі і г. д. Тэма — не манаполія на матэрыял, на якім працуе пісьменнік. Тэма ў яе глыбокім разуменні павінна вызначаць сабою самыя запаветныя, самыя задушэўныя погляды і перакананні пісьменніка. Сапраўдныя пісьменнікі для сваіх твораў бралі і бяруць разнастайны матэрыял, разнастайныя галіны жыцця, але ва ўсіх іх творах вы можаце заўважыць прысутнасць іх уласнай тэмы, якая служыць своеасаблівым крэда мастака, які не толькі паказвае жыццё такім, якім яно ёсць, а і такім, якім яно павінна быць, паказвае тыя высокія ідэалы, ажыццяўленню якіх чалавек аддае свае сілы.

Што сапраўды радуе ў творчасці нашых маладых аўтараў, гэта — адчуванне свайго часу, адчуванне духу таго новага, што нясе ў сабе наша гераічная рэчаіснасць, наша эпоха, эпоха

дзёрзкай смеласці і наватарства, эпоха людзей, якія рашуча перабудоўваюць жыццё на новых пачатках і ўпэўнена ідуць у свой заўтрашні дзень.

Нядаўна я з прыемнасцю прачытаў адну аповесць. Напісаў яе сельскі настаўнік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Іван Шамякін. Аповесць яшчэ не можа прэтэндаваць на літаратурную дасканаласць ні па кампазіцыі, ні па сваіх выяўленчых і моўных сродках, у ёй не завершаны многія вобразы, некаторыя з іх уведзены ў аповесць без усякай патрэбы і толькі замінаюць асноўным героям, але ва ўсім творы відзён талент маладога мастака, шчодрага, назіральнага чалавека, які змог убачыць тыповае і новае, што набылі людзі ў барацьбе за свой лёс, у муках і радасцях, у горы і шчасці. Аповесць нясе ў сабе рысы нашага сучасніка — і ў гэтым яе каштоўнасць. Гэта — біяграфія, характэрная для ўсіх тых, хто зведаў палыновую горыч адступлення, у каго ворагі абняславілі дом, разбурылі сям'ю, хто люта помсціў ім за ўсе іх крывавыя злачынствы, дайшоў да іх звярынага логава і вярнуўся дадому зноў адбудоўваць сваё жыццё, ачышчаць ад іх брудных слядоў сваю зямлю. Гэты шлях і гэтыя пачуцці сучасніка Шамякін вельмі выразна паказаў праз свайго галоўнага героя Раманенку. Рост героя малады пісьменнік паказвае не рэгістрацыяй змен у яго службовым спісе, а крок за крокам ідзе за ім праз выпрабаванні, раскрывае яго ўнутраны свет, паказвае, як гартуецца яго воля, яго ўпэўненасць, яго прагнасць да жыцця. Раманенка разам з Чырвонай Арміяй вызваляе сваю мясцовасць, дзе жывуць яго маці, жонка і дачка. Вакол жудасныя сляды разбурэння. Ад людзей ён даведваецца, што сям'я яго знішчана, засталася толькі жонка, дый і тая памірае, бо не змагла вытрымаць нечалавечых пакут, якія леглі на яе жыццё. І вось Раманенка, ужо зусім зняможаны горам, уночы, у непагадзь, выбіваючыся з апошніх сіл, шукае дарогі да лясное хаты, у якой памірае жонка; блукае, поўзае ўпоцемках па гразі, каб знайсці сляды хоць якой сцежкі. Уся гэтая сцэна, як і сама сустрэча з жонкай, апісанне яе смерці, чытаюцца з глыбокім хваляваннем. Якая высакароднасць, якая чысціня і празрыстасць чалавечых пачуццяў! І якімі нікчэмнымі і фальшывымі здаюцца тыя літаратурныя эрзацы, якія выдаваліся некаторымі нашымі пісьменнікамі за ўзоры новай этыкі, новай маралі, новых чалавечых паводзін. Яшчэ зусім нядаўна мы былі сведкамі таго, як па нашай літаратуры, па драматургіі і паэзіі пракацілася цэлая хваля падробак пад творы, якія нібыта вырашаюць самыя

тыповыя праблемы сучаснага грамадства. Са сцэны, з паэм і з лірычных дзённікаў некаторыя паэты заклікалі жанчын не здраджваць, ствараліся спецыяльныя вобразы каварных здрадніц, каб застрашыць другіх, якія яшчэ не здрадзілі, але могуць не ўстаяць супраць спакусы і г. д. Ці тыповай была гэта тэма для нашай рэчаіснасці, для нашага часу, калі да грані былі напружаны ўсе фізічныя і духоўныя сілы народа на зацятае, на смяртэльнае змаганне за лёс радзімы, за чалавечую годнасць і правы, здабытыя намаганнямі савецкага народа? Ці тыповай была гэтая праблема для нашых жанчын-патрыётак, на плечы якіх лёг амаль увесь цяжар працы ў тыле, якія не пакідалі сваіх цэхаў на некалькі змен, якія дзялілі свой паёк з малымі дзецьмі, а ў вольную часіну даглядалі нашых раненых байцоў? Думаю, што не толькі не тыповай, а выдуманай і выпадковай была гэтая праблема. Такую «праблему» маглі абвясціць «знаменьем» эпохі толькі тыя, каму найбольш блізкія не перадавыя людзі часу, не народ, а нязначная меншасць — адсталае, убогае духам і пачуццямі мяшчанства. Вока радавога байца, нашага пачынаючага пісьменніка Івана Шамякіна заўважыла больш тыповае, больш велічнае і характэрнае ў людзях — і ў гэтым навізна і свежасць яго твора, няхай літаратурна недасканалага, але моцнага сваёй жыццёвай праўдай. Герой Шамякіна — сельскі настаўнік Раманенка нішчыць немцаў не толькі сілаю зброі, але і сілаю сваёй духоўнай велічы, маральнай перавагаю над імі. Аўтар вельмі ўдала знаходзіць выпадак паказаць кантраст паміж Раманенкам і яго «калегам» — нямецкім настаўнікам.. І перад намі паўстае ўся спустошанасць, агіднасць і нікчэмнасць тупога нямецкага шкаляра — дрэсіроўшчыка фашысцкіх вырадкаў, страціўшых аблічча чалавека. У нямецкім логаве, у Германіі, Раманенка нападае на след і знаходзіць сям’ю таго, хто забіў яго маці, жонку і маленькую дачку. Перад ім — сям’я забойцы, але Шамякін не пайшоў тут па найменшаму супраціўленню ў вырашэнні сюжэта, не пайшоў на тое, каб прычапіць твору банальную канцоўку, ён вельмі пераканаўча паказвае духоўную веліч свайго героя і жывёльную агіднасць, звярыны страх фашысцкага вырадка за свае злачынствы, за сваю паганую скуру.

Жыццёвай праўдаю сучаснасці прасякнута творчасць і тых маладых пісьменнікаў, імёны якіх мы сустракаем у нашым друку пасля вайны. Малады празаік франтавік Аляксей Кулакоўскі надрукаваў у часопісе «Беларусь» тры сваіх апавяданні і звярнуў на сябе ўвагу як чалавек дапытлівай назіральнасці,

тонкага мастацкага густу і ўмельства заўважыць тое новае і характэрнае ў жыцці, што адразу і не вельмі кідаецца ў вочы, але сцвярджаецца ходам саміх падзей, дыктуецца самім жыццём. Для свайго апавядання «Мікіта Мінавіч» Аляксей Кулакоўскі ўзяў самую надзённую тэму — аднаўленне вёскі, адбудову яе на новых пачатках. І гэтую тэму аўтар вырашыў у форме мастацкага апавядання, якое пераконвае чытача сваёй тыповай праўдай. Аўтару ўдалося перадаць жыццёвую неабходнасць гістарычнага мерапрыемства нашай партыі і ўрада, якія рашылі ў корані перабудаваць вёску, зрабіць яе магутнай апорай сацыялістычнай дзяржавы. Сіла мерапрыемстваў нашай партыі — у іх жыццёвай неабходнасці, у тым, што яны падказваюцца самім народам, самімі павевамі духу народнага. І малады пісьменнік вельмі трапна перадаў гэтыя настроі, гэтыя павевы народнага духу. Вось расказ Мікіты Мінавіча аб няшчасцях свайго лёсу, аб тым спрадвечным страху, які панаваў над душою селяніна:

«Жыве чалавек пад саломай і вечна неспакоен. На сваім вяку я чатыры разы гарэў, а гэта вось пяты. Толькі тое і рабі, што будуйся. Пабудаваў, прыдбаў што-небудзь — згарэла, зноў прыдбаў — зноў згарэла». Аляксей Кулакоўскі перадае ў сваім апавяданні той просты, той жыццёвы аптымізм, які ўласцівы чалавеку працы, чалавеку, які ўпэўнены, што яго ўласны клопат аб тым, як зрабіць, каб лепш жылося, — гэта клопат і яго ўлады, клопат усяе дзяржавы. Мікіта Мінавіч ужо не хоча жыць і будавацца па-старому: «З месяц таму назад я тут гліну знайшоў. Выкопваў слуп, бачу — гліна. Папрабаваў у пальцах — хоць гаршкі ляпі. Прыйшоў увечары на праўленне ды і кажу: гліна пад бокам, а цэглы няма, можна ж рабіць сваю цэглу. Назаўтра паглядзелі — праўда. Я без снасці, рукамі зрабіў некалькі цаглін. Прыехалі з раёна — кажуць, на цэлы завод тут гліны хопіць. І вось будуем сушню для цэглы, неўзабаве думаем брацца за печ».

Два апавяданні Аляксея Кулакоўскага «Мой сын» і «Стары млын» прысвечаны дзецям. У іх малады пісьменнік выявіў сябе як добры знаўца дзіцячае псіхалогіі, здольны заўважыць самыя затоеныя дзіцячыя пачуцці, дзіцячую дапытлівасць і своеасаблівае ўяўленне аб навакольным.

Глыбокім адчуваннем народнага жыцця напоўнены апавяданні вельмі здольнага празаіка Мікалая Лобана. Калі ў творах Кулакоўскага прыкметна імкненне да жанравай навелы, часта да лірычнай замалёўкі людскіх характараў, дык апавяданні Лобана выдаюць у аўтару схільнасць да шырокіх эпічных карцін, да

распрацоўкі разгорнутых вобразаў і падзей. Апавяданне Лобана пра партызан пад назваю «На жалезцы» і апавяданне «Дачка» сведчаць аб дасканаласці выяўленчых сродкаў і асабліва аб культуры мовы, аб свежасці і яркасці багатых моўных запасаў аўтара.

За гады вайны не спынялі свае працы празаікі Антон Алешка і Павел Дубовік. Першы — на фронце, другі — у партызанах напісалі шмат новых твораў. Дубовік і Алешка пачалі друкаваць свае творы яшчэ задоўга да Айчыннай вайны, і ад іх творчасці мы ў праве патрабаваць значна больш — не ў колькасці напісанага, а галоўным чынам — у якасці. Першыя апавяданні Дубовіка былі значна сталейшымі, чым тыя, якія ён напісаў за гэты час. Можа, у гэтым вінаваты абставіны і ўмовы, у якіх знаходзіўся аўтар, але на яго новых апавяданнях скрозь прыкметна недапрацаванасць. Дубовік знізіў і якасць мовы, і патрабавальнасць да кампазіцыі, да сюжэта ў сваіх апавяданнях. Тое, што нам прыйшлося прачытаць, нагадвае больш матэрыял, зробленыя наспех накіды, якія патрабуюць самае дасканалае распрацоўкі. Такое ж ураджанне пакідае і аповесць Антона Алешкі «Віхуры вайны», у якой узята тая ж тэма, што і ў Івана Шамякіна, але мастацкае яе вырашэнне не можа нават і прэтэндаваць на параўнанне з аповесцю Шамякіна. У аповесці Алешкі дзейнічаюць вельмі ж прымітыўныя людзі. Аўтар не ўмее глыбока зазірнуць у душу чалавека, паказаць, як у часы цяжкасцяў і выпрабаванняў найбольш поўна раскрываюцца характары, выяўляюцца новыя здольнасці, новыя якасці чалавека. Алешка здавальняецца самым малым. Ён як бы знарок падкрэслівае — паглядзіце, якія гэта недалёкія, абмежаваныя прастакі і як лёгка мне з імі ўпраўляцца!

Перад маладымі празаікамі, перад маладымі паэтамі мы павінны ставіць пытанне аб паказе новага героя, аб паказе нашага сучасніка — перадавога розуму народа, аб паказе велічы яго духоўнай і маральнай сілы, чысціні і высакароднасці яго пачуццяў.

Даволі апрыкрых літаратурных дзядоў і бабулек! Час пазбаўляцца ўжо гэтага стыхійнага няшчасця ў нашай прозе і паэзіі. Адкуль ідзе гэтае старэчае нашэсце? Вядома, што не з жыцця, а з самой жа літаратуры. У той час, калі толькі пачынала ўсталёўвацца наша сацыялістычная сістэма, новы быт, гэтыя дзяды і бабулькі, можа, і мелі нейкую пэўную падставу. Звычайна праз іх характары пісьменнік паказваў рашучы пратэст супраць новага, кансерватызм і адсталасць. Потым паявіліся дзяды і бабулькі, якія пачалі перабудоўвацца, прызнаваць тое, што ўжо сцверджана жыццём. Так выпрацавалася галерэя тандэтных вобразаў, якія эксплуатуюцца нашымі пісьменнікамі і па сёння. І заўважце,

што як толькі дзед або баба — дык абавязкова творчая ўдача. Ужо адной прысутнасцю ў творы дзеда і бабы пісьменнік як бы загадзя разлічвае на поспех. Новая рэчаіснасць, новы быт, новыя ўзаемаадносіны людзей усталяваліся ўжо даўно, за гэты час паспелі састарыцца тыя задзёрыстыя юнакі, якія некалі спявалі: «Пазбіваем чорту рогі, богу вырвем бараду». Мы самі спявалі некалі гэтую песню. Цяпер мы самі ўжо ў дзядоўскім веку, але наўрад ці зможам столькі пацяшаць публіку, як нашыя неўміручыя дзяды і бабкі.

Так літаратурная патрыярхальная інерцыя замінае нам угледзець сапраўднага новага героя. Вядома, лягчэй пісаць пра дзеда і бабу, тут пісьменніку не трэба высока ўзнімацца ў сваіх абагульненнях, духоўная стратасфера бабы і дзеда абмяжоўваецца вышынёю столі ў іх «хатцы на курыных ножках». Без ніякіх творчых пакут, без намагання розуму і пачуцця плятуць дзедаўскі літаратурны лапаць і некаторыя нашы маладыя пісьменнікі. Некаторыя з іх і пачынаюць не адтуль, адкуль трэба пачынаць, не са здабыткаў, якіх дасягнула наша культура, а ўсё з таго ж самага дзедаўскага лапця. У аснове змяніліся самыя маштабы ўяўленняў, Беларусь з занядбанай і цёмнай ускраіны выйшла на міжнародную арэну як вялікая дзяржава. Ва ўсіх краінах вядомы здабыткі нашага народа, праца Скарыны, творчасць Купалы і Коласа, а некаторыя нашыя маладыя паэты яшчэ і па сёння апяваюць нейкую старонку, нейкіх мужычкоў, засяваючых родную ніўку і г. д. Ужо самая тэндэнцыя да змяншальна-ласкавых выразаў і слоў вельмі збядняе, а то і зусім дыскрэдытуе і думку і пачуццё новага чалавека. Вельмі прыкра гучыць такі верш на сучасную тэму:

Люблю зайсці к пахілай
Прыгожанькай вярбе,
Дзе першы раз мой мілы
Сказаў: люблю цябе.

Навек нас парадніла,
Мой любы каласок,
Дачка наша Людміла
І Ромка — наш сынок.

Я ў зводцы прачытала,
Мой мілы Эдуард,
Што ты прайшоў са славай
Баі за Сталінград.

Гэты верш напісаў сталы чалавек, настаўнік. Я не цытаваў бы яго, каб гэта было пробай пяра, першым вопытам. Гэты аўтар піша і дасылае нам вельмі шмат вершаў — і ўсе яны зроблены на адзін капыл, на той самы дзедаўскі капыл, па мерцы якога рабілі свае вершы шмат дзясяткаў год назад літаратурныя саматужнікі. Справа не толькі ў тым, што аўтар пераймае форму, але ў тым, што разам з гэтай формай у нашу сучаснасць механічна пераносяцца вельмі бедныя, вельмі ўбогія ўяўленні аб людскіх пачуццях, аб народзе, аб краіне.

Гэта — прыклад адсталасці і ўбоства, механічна скапіраваных з вельмі застарэлых арыгіналаў. Але ёсць у некаторых нашых паэтаў і другога роду ўбоства, якое само прэтэндуе на арыгінальнасць:

Нізашто ніколі не аддам
Я людзям таго, што сам прыкмеціў.

Калі перакласці гэтае высокае віційства на мову прозы, дык дакладны сэнс гэтых радкоў такі: і сам не гам, і другому не дам. Сапраўднае шчасце творцы якраз і заключаецца ў тым, каб аддаць усё людзям. Побач з такой шчодрасцю скнарлівасць нашага аўтара гучыць пагрозай чалавецтву, якое так і не ўведае, якія ж яно страціла скарбы. Што ж паэт хоць сам збіраецца рабіць з гэтымі скарбамі?

Ўсё з сабой вазьму і панясу,
Як адзнаку годнасці і славы.

Чыёй годнасці? Чыёй славы? Калі такія высокія эпітэты аўтар прыпісвае сабе самому, дык тыя ісціны, якія мы толькі што чулі, сведчаць пра зусім адваротнае.

Не цяжка ўбачыць, адкуль гэта ідзе. Ад той какетлівай позы, якую лёгка было заўважыць у некаторых нашых модных паэтаў, «мілых душкаў». Малады паэт пераняў чужыя настроі і, карыстаючыся сродкамі рамансава-гітарнай паэзіі, яшчэ больш агаліў і падкрэсліў фальш гэтых настрояў. Вось верш пра зварот воіна да любімай жанчыны:

Ты струну парвала не ў адчаі,
А ў імкненні мой зварот уславіць.
Не звінелі струны, а крычалі
Неўміручай вечнай песняй славы.
Ты казала: «Для цябе ўсё гэта,

Гэтак не звінелі струны доўгі час,
Хай цяпер, як лепшы верш паэта,
Струн маіх акорды прагучаць».

Гэта пачатак верша. А вось канец:

Грай жа, грай аб пражытых бурах,
Хай палопаюцца струны ўсе.
Грай жа, грай, каб вочы аж зажмурыў
За сцяною твой стары сусед.

Слых. чытача абражаюць танныя перапевы ўшчэмленага і нечым нездаволенага пачуцця, хоць у канечным выніку гэтае пачуццё пераходзіць у «поўнае шчасце», якім цешацца героі паэта:

Мы цяпер у хаце за сталом,
Нам хапае дружбы і віна.

Усё гэта вельмі запозненыя перапевы тых саладжавых рамансаў, якія выдаваліся падчас за ўзоры франтавой лірыкі. Мешчанін — падкі на моды і асабліва лёгка прыстасоўваецца да ўмоў. У гады вайны часам з'яўляліся такія песні і вершы, у якіх вайна выглядала не няшчасцем народным, а нейкай прыемнай забавай. Эстэтыка мешчаніна імкнулася апаэтызаваць вайну як тэатральнае або піратэхнічнае відовішча. Я быў сведкам таго, як у адным тэатры, калі паднялася заслона і публіцы адкрылася палыхаючая зарывамі і водблескамі выбухаў панарама, некаторыя аж ускрыкнулі ад захаплення: «Ах, як прыгожа, ах, як прыгожа!» Гэта быў спектакль аб сучаснай вайне. Падчас і нашы маладыя паэты, бездапаможныя паказаць сілу чалавечых пачуццяў, падобна бутафорам, шумавікам і піратэхнікам, б'юць у чытача з гаўбіц, шпурляюць гранатамі, страшаць пажарамі і выбухамі, але чытач застаецца раўнадушным, бо ўсё гэта толькі фізічная экзекуцыя, шаманства, знахарскае заклінанне, а не мастацтва.

Час ужо рашуча і смела гаварыць аб гэтых прыкрых з'явах. Ніколі яшчэ так не адставала, ніколі яшчэ так не цягнулася ў хвасце падзей наша крытыка. І гэта ў той час, калі і паэзія, і проза давалі і даюць самы багаты матэрыял для абагульненняў, для дыскусіі, для спрэчак. Для маладога пісьменніка справядлівае слова крытыка — жаданае слова. Моладзь з прагнасцю чытае артыкулы і рэцэнзіі, каб ведаць, што ж добра, а што дрэнна, і галоўнае — чаму добра і чаму дрэнна. Калі крытыку надаецца высокае званне настаўніка пісьменнікаў, дык гэта яшчэ ў боль-

шай ступені ўзнімае яго ролю і аўтарытэт сярод маладых аўтараў. Трэба сказаць, што па колькасці ў нас вельмі шмат крытыкаў, шмат людзей, якія абралі сваёй прафесіяй іменна крытыку, але вынікі іх працы не могуць здаволіць ні пісьменніка, ні чытача. Пачытайце артыкулы і рэцэнзіі гэтых год — і вам кінецца ў вочы нейкае гультайства думкі і адсутнасць жывога пачуцця ў тых, хто пісаў гэтыя артыкулы. Ужо выпрацавалася схема, як пісаць пра сучаснага пісьменніка, і гэтую схему нашы крытыкі зазубрылі, як школьнікі табліцу множання. Склаўшы адзін раз такую схему, крытык мяняе толькі прозвішчы і назвы твораў тых аўтараў, пра каго піша, каментарыі ж застаюцца вечнымі і нязменнымі. Крытыкі звялі сваю ролю да ролі інфарматараў, пераказчыкаў сюжэта, іменна сюжэта, а не зместу, бо лічаць проста лішнім рабіць такое намаганне, каб разабрацца, у чым сэнс, у чым ідэя вобраза і твора. Патрыятызм — вось ацэнка, якая прыкладаецца да ўсіх сучасных твораў. Верш пра кучаравую бярозку — патрыятызм, хоць гэтая бярозка кучаравіцца ў паэзіі не першае ўжо стагоддзе, паэма пра якога-небудзь дзеда — таксама патрыятызм, хоць гэты дзед творыць такія ўчынкі, у жыццёвую рэальнасць якіх не паверыць і дзіця. Вось узор дзедаўскага патрыятызму. Верш называецца «Мой дзед». Дзед стаў нішчыць немцаў пасля таго, як яны выцягнулі ў яго з хлява парсюка. Тут ужо цярпенню дзеда прыйшоў канец:

Па локці закасаў кашулю
І колік выхапіў з плятня.
Так не развее смецця вецер —
Уроссып немцы — толькі пыл.
Дубінай ёмкай пад павеццю
Траім раскроіў чарапы.
Стаў дзед на абарону шчасця,
Як мужны Мурамец Ілья.

Пішучы аб патрыятызме і падводзячы пад яго ўсе літаратурныя з’явы, нашы крытыкі не хочуць задумацца над тым, што патрыятызм патрыятызму — розніца. Лепшыя сыны і дочкі народа, пакаленне, выхаванае ў наш час, аддавалі сваё жыццё, сваю кроў, свае сілы ў зацятым змаганні за ідэалы чалавечнасці, за вялікія заваёвы рэвалюцыі, за тыя здабыткі, што стварыў дзёрзкі і смелы розум наватара-бальшавіка, і гэтыя новыя якасці патрыятызму не ўлічваліся нашымі крытыкамі пры разглядзе сучасных твораў. Крытыкаў у нас не так ужо і мала, але ні аднае працы мы не

прыгадаем, якая магла б запасці ў памяць, якая ўразіла б сваёй усхваляванасцю, смеласцю і арыгінальнасцю аналізу.

Маладому пісьменніку не так лёгка расці, не так лёгка ўдасканальваць сваё майстэрства, калі ў яго няма сапраўдных сяброў — патрабавальных крытыкаў. За гэты час мы не бачылі ні аднаго кваліфікаванага агляду творчасці маладых пісьменнікаў. Творы маладых час ад часу змяшчаюцца ў нашым друку, але з нейкімі спецыяльнымі рэверансамі перад чытачамі. Нашы газеты змяшчаюць гэтыя творы абавязкова пад рубрыкай, пад этыкеткай «творчасць маладых», «творчасць пачынаючых». Рэдакцыя ўжо загадзя просіць выбачэння ў чытача: самі бачыце, молада — зелена, але ж зразумейце наша становішча — павінны друкаваць, павінны ж мы засведчыць сваю павагу да моладзі.

Побач з такімі адносінамі да пачынаючых і часта здольных пісьменнікаў у нас можна сустрэць і мядзведжую паслужлівасць, гатоўнасць апякунстваваць над вершаплётамі, над выпадковымі і бяздумнымі людзьмі, якія шлюць у рэдакцыі плады свае элементарнай непісьменнасці.

Не так даўно рэдакцыя «Чырвонай змены» атрымала такі ліст: «Пасылаю вам напісаны мной сцішок, надрукуйце разам з маёй фотакарткай»:

Пачынаю я вучыцца
Песенькі складаць,
Чтобы з гэтага ў далейшым
Мог паэтам стаць.
Напісаў куплет адзін я,
Яшчэ трэба напісаць,
Каб праславіцца ў газетах,
Я пачаў сцішкі пісаць.

Замест таго каб аўтару гэтага «твора» сказаць простаю і яснаю моваю — кіньце займацца глупствам, рэдакцыя амаль на ўсю старонку свае газеты піша адказ пад гучнай назвай «Авалодваць літаратурным майстэрствам». Наваяўленаму паэту тлумачыцца, што «паэзія — здабыча радыя», стракацяць імёны амаль усіх славутых класікаў, якія рэкамендуюцца яму ў настаўнікі, гучыць самая замыславатая літаратурная тэрміналогія, — рэдакцыя рассыпаецца дробным макам перад графаманам, які паставіў сваёй адзінай мэтай — праславіцца ў газетах.

Падобнае апякунства і мецэнацтва даводзіць да патурання адкрытаму плагіяцтву, літаратурнаму крадзяжу сярод белага дня.

«Піянер Беларусі» змясціў верш «Перамога», аўтарства якога належыць пяру Пятра Глебкі, але дабрасэрдныя цёці з рэдакцыі ахвотна прыпісалі яго свайму карэспандэнту толькі за тое, што ён слова ў слова перапісаў чужы верш і прыслаў яго ў газету.

Колькі нам даводзіцца. перачытваць рознае паэтычнае макулатуры. Проста шкада часу, які траціцца на чытанне непісьменных і нікому не патрэбных практыкаванняў. І цікава, што чым больш няздатны вершаплёт, тым больш нахабны, тым больш развязны ён у сваіх патрабаваннях. Ён абавязкова патрабуе змясціць партрэт, аўтабіяграфію і лішні раз напомніць адрас, каб не забыліся прыслаць ганарар.

Рэдакцыі нашых і асабліва абласных і раённых газет часта падмяняюць сваю работу з сапраўдным творчым актывам бескарыснай перапіскай з выпадковымі ў літаратуры людзьмі. Вельмі мала нашы абласныя і раённыя газеты друкуюць твораў маладых пісьменнікаў. За нязначнымі выключэннямі літаратурная старонка ў газетах стала рэдкаю з'яваю. Самым рашучым чынам трэба перабудаваць сістэму літаратурнай кансультацыі. Зусім мала дае карысці кансультацыя пры Саюзе пісьменнікаў, якая вядзецца толькі шляхам перапіскі з маладымі аўтарамі. Цэнтрамі непасрэднай працы па выхаванню маладога пісьменніка павінны стаць рэдакцыі нашых часопісаў і газет, дзе малады аўтар бачыць рэальную карысць дапамогі, карысць уласнае работы над сваімі творамі. Пры ацэнцы работы часопісаў і газет адной з галоўнейшых высноў павінна быць пытанне: а колькі новых літаратараў — празаікаў і паэтаў, крытыкаў і рэцэнзентаў, нарысістаў і фельетаністаў выхавала рэдакцыя? Кроўная і пачэсная справа Саюза савецкіх пісьменнікаў — прыцягнуць да працы з маладымі аўтарамі лепшых майстроў беларускай прозы і паэзіі.

З асаблівай увагай мы павінны аднесціся да тых таленавітых, да тых творча актыўных сіл, якія ідуць з самога жыцця, чэрпаюць сваё натхненне з яго жыватворчых крыніц.

Некалькі слоў аб адным жанры, які заўсёды выпадае з-пад нашай увагі. Гэты жанр — мастацкі нарыс, які мае ўсе законныя правы заняць у літаратуры такое ж месца, як і навела і верш. У нас нямала вырасла літаратараў, якія шмат і паспяхова працуюць у гэтым жанры: Павел Кавалёў, Мікола Вішнеўскі, Алесь Матусевіч, Юрый Шчарбатаў, Тарас Хадкевіч. Некаторыя з іх пішуць добрыя апавяданні, і гэта зусім заканамерна, калі ўлічыць, што большасць беларускіх пісьменнікаў прыйшла ў літаратуру цераз газету, цераз непасрэдны вопыт журналіста. Цяпер як ніколі нам патрэбен як мага большы калектыў літаратараў, якія

б дапамаглі вырашыць надзвычайна важную задачу — задачу збірання гістарычнага матэрыялу з барацьбы беларускага народа, задачу напісання гісторыі партызанскага руху ў Беларусі, мастацкіх нарысаў аб дзейнасці партызанскіх брыгад, злучэнняў, атрадаў, дзейнасці нашых падпольных арганізацый.

У нас некалі выдаваліся спецыяльныя праграмы і падручнікі пад такімі прэтэнцыёзнымі і заманлівымі назвамі: «Як стаць пісьменнікам», «Што трэба ведаць пісьменніку», нешта накшталт папулярнай сялянскай бібліятэчкі «Сам сабе аграном», «Як прыгатаваць калёсную мазь». Паслужлівыя аўтары гэтых лубачных выданняў складалі рэцэпты прыгатавання вершаў, апавяданняў і раманаў. Жыццё адкінула ўсю гэтую літаратурную алхімію. Можна авалодаць рыфмай, можна набіць руку на паэтычным чыстапісанні, але ўсё гэта не глеба, не грунт, на якім вырастае пісьменнік. Сіла пісьменніка ў таленце, у яго ўменні вучыцца ў жыцця, у яго прагнасці да ведаў, якія падказваюцца не падручнікамі, а багацейшым вопытам барацьбы народа.

Маладому літаратару трэба ведаць вельмі і вельмі многа — ад сімфоній Чайкоўскага да навейшай тэорыі расшчаплення атамнага ядра, але самым неабходным, самым жыццёвым компасам савецкаму пісьменніку служыць тэорыя перадавога рабочага класа. Сапраўдным інжынерам чалавечых душ можа быць толькі той пісьменнік, які стаіць на ўзроўні перадавых ідэй свайго часу, на ўзроўні ўсіх лепшых здабыткаў агульначалавечай культуры.

35 год таму назад выдатнейшы беларускі паэт Максім Багдановіч, робячы агляд беларускай літаратуры, пісаў: «Наша пісьменнасць неразвітая і каравая, але вялікім пачуццём напоўнена яе цела, не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу!» Колькі ўпэўненасці і гордасці за нашу культуру ў гэтых словах!

Сёння мы гаворым ужо не пра занядбаную і каравую нашу пісьменнасць, а пра яе выдатныя здабыткі, якія сталі вядомы свету, і мы шчыра радуемся таму вялікаму пачуццю, што поўніла сэрца паэта за нашу літаратуру, якая служыла і заўсёды будзе служыць самым перадавым ідэям народа, барацьбе за прагрэс чалавечай мыслі.

Вопыт нядаўніх найвялікшых бітваў, праз выпрабаванне якіх прайшоў наш народ, гераічная праца народа — вось крыніца для жыццядзейснай творчасці.

Мы з прыемнасцю зазначаем той факт, што за апошнія пяцьшэсць год узняліся і наша маладая паэзія, і наша маладая проза. Можа, не так колькасна багаты яны, але затое ў іх з'яўляюцца

здольныя сілы. Ужо выразна прыкметна тое таленавітае і свежае, што ўнеслі ў беларускую літаратуру нашы маладыя паэты і пісьменнікі Валянцін Таўлай, Антон Бялевіч, Кастусь Кірэенка, Аляксей Зарыцкі, Эдзі Агняцвет, Іван Грамовіч, Іван Мележ, Мікола Лупсякоў, Янка Брыль, Мікола Засім, Ніна Тарас і іншыя. Трэба спадзявацца, што з тых нешматлікіх, але вельмі моцных рэзерваў, аб якіх мы гаварылі, і з тых рэзерваў, якіх мы яшчэ не ведаем, якія яшчэ недзе ў дарозе, беларуская літаратура будзе неўзабаве прымаць новае творчае папаўненне, узброенае вялікім жыццёвым вопытам, загартаванае у барацьбе за нашу перамогу!

*1945*

## БЛІЖЭЙ ДА ЖЫЦЦЯ!

### 1

За гады Вялікай Айчыннай вайны і пасля вайны ў нашу літаратуру ўліліся новыя творчыя сілы, якія прынеслі ў яе гарачы подых жыцця і адчуванне героікі свайго часу. Беларуская літаратура вырасла і колькасна, і якасна. Яе якасны рост характарызуецца яшчэ шчыльнейшым набліжэннем пісьменнікаў да надзённых тэм нашай рэчаіснасці, да паказу савецкага чалавека. Аб гэтым акрамя ўсяго іншага сведчаць многія творы нашых маладых пісьменнікаў, якімі яны заявілі аб сваім прыходзе ў літаратуру.

Адным з першых такіх твораў у нашай прозе з’явілася аповесць Івана Шамякіна «Помста», якая звярнула на сябе ўвагу і чытача, і крытыкі. За гэты час Шамякін напісаў шмат новых апавяданняў, якія гавораць аб далейшым творчым росце маладога аўтара. Яго апавяданне «У снежнай пустыні» з’яўляецца лепшым удасканаленнем тых мастацкіх магчымасцей маладога пісьменніка, якія вызначылі ўдачу яго першага твора — уменне стварыць моцны характар савецкага чалавека, паказаць яго барацьбу і волю да перамогі.

Упэўненым голасам заявіў аб сваіх творчых магчымасцях Іван Мележ. Першая кніжка маладога празаіка «У завіруху» выдае ў аўтару здольнасць глыбока зазірнуць у душы сваіх герояў, перадаць іх складаныя пачуцці і перажыванні. Гэтыя якасці вызначаюць лепшыя апавяданні Мележа і асабліва яго новае апавяданне «Гарачы жнівень», у якім малюецца жыццё

пасляваеннай вёскі. Падкупляе яно свежасцю агульнага, жыццярадаснага настрою, які ўласцівы ўсім героям пісьменніка.

Трапнай назіральнасцю ў паказе людзей новай вёскі, у абмалёўцы чалавечых характараў вызначаюцца апавяданні Аляксея Кулакоўскага.

Першыя часы пэўным недахопам у творчасці Кулакоўскага была жанравая аднастайнасць; ён пісаў пераважна лірычныя замалёўкі, потым стаў больш смела і ўпэўнена маляваць шырэйшыя эпічныя карціны народнага жыцця, пераходзіць да разгорнутага паказу падзей і псіхалагічнага аналізу людскіх характараў.

У творах Кулакоўскага прыкметна вучоба ў лепшых майстроў класічнай прозы, аднак нельга не заўважыць і іншых бакоў гэтай, часам некрытычнай, вучобы. Разам з прыёмамі майстэрства малады пісьменнік часам па інерцыі пераносіць у свае творы матывіроўку паводзін і некаторыя маральныя катэгорыі, якія ніяк не ўласцівы характарам нашых сучаснікаў. Гэта прыкметна нават на такім вельмі моцным і добра напісаным апавяданні, як «Нямко».

Кулакоўскі вырашае ў асноўным правільна вядомую тэму аб фізічна непаўнацэнным чалавеку, якая распрацоўвалася Тургеневым, Караленкам і інш. Гэтае вырашэнне падказвае аўтару сама наша рэчаіснасць. Ва ўмовах сацыялістычнага грамадства няма і не можа быць таго трагедыйнага канфлікту, на якім будуюцца «Муму» і «Сляпы музыкант». Герой апавядання Кулакоўскага, нямы Міканор — дабрэйшай душы чалавек, — становіцца няшчадным мсціўцам нямецкім захопнікам за гвалт і здзек з чалавечай годнасці. Вось чаму тым больш непрыемнае ўражанне робіць на чытача непраўдападобная адчужанасць Міканора, штучная смерць Міканора, якія прадыктаваны Кулакоўскаму, безумоўна, не жыццём, а традыцыйнай мараллю, механічна запазычанай з зусім іншых сацыяльна-грамадскіх умоў.

Традыцыйныя ўяўленні аб узаемадачыненнях людзей, аб побыце вёскі прыкметна замінаюць здольнаму празаіку Янку Брылю. У першых сваіх апавяданнях, прысвечаных жыццю вёскі заходніх абласцей Беларусі, ён ніяк не мог вызваліцца ад таго пасіўнага аб’ектывізму, які абмяжоўвае пісьменніка ў творчых магчымасцях, у паказе рэчаіснасці, зводзіць яго ролю да старонняга назіральніка, а не ўдзельніка падзей, вестуна новага, які першым умее заўважыць парасткі гэтага новага. І гэта недахоп не толькі аднаго Я. Брыля, але і многіх кваліфікаваных аўтараў, што пісалі і пішуць аб вёсцы заходніх абласцей.

Ніхто, вядома, не адмаўляе таго, што ў сваім эканамічным і культурным развіцці вёска заходніх абласцей у выніку гаспадарання польскіх каланізатараў далёка адстала ад нашай калгаснай вёскі, але ж савецкі пісьменнік не можа абмінаць тых змен і глыбокіх зрухаў, што адбываюцца ў асяроддзі, у характарах, у светапоглядзе людзей, якія далучыліся да новага савецкага жыцця.

Выйшаўшы нядаўна ў свет зборнік апавяданняў Я. Брыля ў гэтым сэнсе — у паказе росту самасвядомасці сялянства — ёсць прыкметная з'ява ў нашай прозе.

Адчуваннем сучаснасці, жаданнем адлюстраваць тыповыя рысы ў характарах сваіх герояў вызначаюцца лепшыя апавяданні М. Лобана, М. Лупсякова, Т. Хадкевіча, Г. Шчарбатава, М. Даніленкі. Сур'ёзнай увагі заслугоўвае першы твор Алены Васілевіч — аповесць «У прасторах жыцця», якая вырашае псіхалагічна складаную тэму. Хоць аповесць і не пазбаўлена пэўных літаратурных уплываў, але яна не можа не хваляваць чытача сваімі пераканаўчымі чалавечымі вобразамі, жывой непасрэднасцю, шчырасцю пачуцця, жыццёвай праўдай.

Рост маладой беларускай прозы становіцца відавочным фактам. Характэрна, што за апошнія гады найбольшая колькасць новых пісьменніцкіх імён прыпадае якраз на гэты жанр. І гэта вельмі прыемная з'ява ў нашай літаратуры.

Аднак неабходнасць шырокіх мастацкіх абагульненняў, якія б паказалі веліч нашага часу, гераізм народа-пераможца, дыктуе маладым пісьменнікам не толькі разнастайнасць тэм, але і разнастайнасць выяўленчых сродкаў, патрабуе далейшых пошукаў, настойлівай вучобы і ўдасканалення літаратурнага майстэрства.

2

Не павінны сёння заспакойваць сябе нашы беларускія паэты поспехамі, дасягнутымі імі за гады Айчыннай вайны. Калі ў гады вайны нашы паэты былі перадавымі разведчыкамі настрояў, дум і пачуццяў савецкага чалавека, дык цяпер, калі трэба абагульняць бачанае і перажытае, ствараць вобразы і характары сучаснікаў, некаторыя з іх сур'ёзна адстаюць. Яны не ідуць уперад і не змогуць пайсці, пакуль не ўзнімуцца вышэй звыклага традыцыйнага камерна-лірычнага верша да больш шырокіх мастацкіх і, галоўным чынам, эпічных абагульненняў.

Нядаўна выйшлі з друку зборнікі вершаў маладых паэтаў Мікалая Гамолкі «Зварот шчасця» і Паўлюка Пранузы «Разгне-

ваная зямля». Хоць і не ў аднолькавай меры, але абодва паэты вельмі тэматычна абмежаваныя, а з боку формы — аднастайныя. Праўда, першаму нельга адмовіць у пэўным паэтычным гусце, ва ўменні знаходзіць цікавыя вобразы, другому ж не хапае паэтычнай культуры. Вершы Пранузы, напісаныя аб вайне, не ўзнімаюцца вышэй літаратурнага тандэту. Зборнік выдае безуважнасць маладога аўтара да свайго слова. Гутарка ідзе аб адсутнасці логікі ў вобразах, аб моўнай неахайнасці. Дайдзіце сэнсу, разбярыцеся, што да чаго ў радках:

Знішчай нягоднікаў, даві,
Каб следу бруднага ніколі
На землях шчасця не было…
Болю не чуе матулі і мукі
Хлопчыка моцна абпалены труп…

Крыўдна за маладога аўтара, які так легкадумна паставіўся да свайго першага знаёмства з чытачом, тым больш, што пасля гэтых вершаў, напісаных аб першых днях вайны, у Пранузы былі вельмі прачулыя творы, як «Родная мова», «Калі б магло дыміцца гора» і іншыя, напісаныя пазней і не ўключаныя ў зборнік.

Нельга не адзначыць уласцівай некаторым маладым паэтам традыцыйнай закасцянеласці. Кансерватыўнасць формы, пасіўнасць у супраціўленні да звыклых вершаваных магчымасцей — вось што затрымлівае іх рост, замінае ім выйсці на самастойны шлях.

Міхась Пенкрат апублікаваў у «Чырвонай змене» верш пра Паўла Карчагіна. Здавалася б, што сама тэма дыктавала паэту і адпаведную інтанацыю верша, дапамагала знайсці словы, якія выкажуць якасці любімага героя нашай моладзі — яго нязломную волю, мужнасць, рашучасць да перамогі. Але паэт, паддаўшыся традыцыйнаму літаратурнаму ўяўленню аб няшчаднасці «няўмольнага лёсу», гвалтам уціснуў у верш неўласцівае і адваротнае характару Карчагіна слязлівае спачуванне, трагедыйны надрыў і асуджанасць. Аўтар малюе Карчагіна як пакутніка, а не змагара. Штучная трагедыйнасць супярэчыць сутнасці самой тэмы, нягледзячы на тое, што ў вершы ўспамінаюцца і знаёмыя нам словы аб народжаных бурай і аб тым, як гартуецца людская сталь.

Гэтая ж традыцыйная форма замінае і росту Васіля Матэвушава, які абмежаваў сябе канонам лірычнай мініяцюры і ніяк не можа выйсці за яе межы. Безумоўна, што і тэматычна ён апынуў-

ся ў залежнасці ад гатовай схемы. Малады паэт часта асновай сваіх разваг і вывадаў бярэ з'явы, не ўласцівыя нашай сучаснасці. Для прыкладу возьмем адзін з яго вершаў — «Продку».

На адбудове
Душой узнёслай
Звон чую звабны
Сякеры вострай.
Хвала і слава
Табе, мой продак,
Што ты сякеру
Прыдбаў народу
Яшчэ ў пячорах
Упартай працы,
Каб мы сягоння
Жылі ў палацах.

Наўрад ці хто згодзіцца падзяліць з аўтарам такое захапленне пячорным продкам і той усёмагутнай роляй яго зброі, якой паэт прыпісвае ўсе нашы сучасныя здабыткі і дасягненні.

Маладыя паэты часам яшчэ не могуць адрозніваць жывога пачуцця ад умоўна прыгожага штампа, а сапраўднага лірычнага радка — ад альбомнай віньеткі. Некаторыя з іх ужо склалі меню паэтычных прыгожасцей, пры дапамозе якога пякуцца падобныя адзін на адзін вершы пра дзявочыя косы і срабрыстыя росы, пра адцвіўшыя верасы і нерасказаныя сны. Штучная расфарбоўка верша, сентыменталізм, аднастайнасць выяўленчых сродкаў яўна замінаюць выйсці на самастойную дарогу многім маладым паэтам.

Літаратурнае рамесніцтва — сур'ёзная небяспека для маладога пісьменніка. Толькі смелае творчае намаганне можа разарваць яго цянёты.

Малады паэт Мікола Аўрамчык, які раней мала чым вылучаўся сярод сваіх літаратурных равеснікаў, нядаўна напісаў цыкл вершаў пра Данбас, і мы ўпершыню ўбачылі ў іх жывое аблічча аўтара. Светлым натхненнем працы, радасцю аднаўлення краіны загучэла слова паэта таму, што ён змог вырвацца з вузкага кола тэматычнай аднастайнасці. Ён уклаў у вершы перажытае ім самім за час працы ў шахце, выказаў усё гэта праз непасрэднае ўласнае адчуванне, і вершы набылі сілу сапраўднага пачуцця савецкага чалавека, які з гордасцю і любоўю гаворыць аб адноўленым Данбасе, аб сонечнай зямлі.

Маладыя пісьменнікі павінны ісці ў перадавых радах народа. У гады вялікага аднаўлення, у гады барацьбы за ажыццяўленне першай пасляваеннай пяцігодкі яны павінны быць не выпадковымі гасцямі на новабудоўлях, на заводах, у рабочых інтэрнатах, у калгасах і на калгасных палях; быць не толькі сведкамі вялікіх падзей, але іх актыўнымі і непасрэднымі ўдзельнікамі.

***1947***

## ТВОРЧЫ ПАШПАРТ ПІСЬМЕННІКА

За апошні час мы наглядаем значны прыток творчых сіл у беларускую літаратуру. З кожным годам папаўняюцца рады Саюза за кошт здольных маладых літаратараў, і на падыходзе мы бачым немалыя рэзервы новых талентаў. З'яўляюцца яны не так хутка і не так лёгка, як гэта можа здацца на першы погляд. Праўленне Саюза, наша выдавецтва, часопісы і газеты нямала робяць для выяўлення ўсіх найбольш здольных людзей, якія імкнуцца да літаратуры, спрабуюць у ёй свае сілы.

Успомніце, колькі праведзена і колькі праводзіцца зараз рэспубліканскіх творчых нарад і семінараў, дзе самыя кваліфікаваныя літаратары дэталёва разбіраюць творы маладых. Амаль усе з тых паэтаў і празаікаў, якія цяпер ужо ўвайшлі ў творчы актыў нашай літаратуры, якраз і прайшлі праз гэтыя семінары, праз кансультацыі ў нашых літаратурных выданнях.

Тое, што амаль за адзін 1959 год у рэспубліцы выйшла ў свет дванаццаць першых кніг маладых паэтаў і празаікаў, само па сабе гаворыць, што праца па выхаванню літаратурнай моладзі дае добрыя вынікі.

Праўда, ёсць у нас і такая катэгорыя маладых ды ранніх, што адразу ж, з таго дня, як толькі пераступілі парог Саюза, дык і не злазяць з гэтага парога. Абіванне парогаў становіцца, па сутнасці, іх асноўнай дзейнасцю ў літаратуры. Адразу паяўляецца немаведама колькі прэтэнзій і патрабаванняў, і ўсе яны зводзяцца да аднаго «дай!». А што ён даў для літаратуры — гэта яго не абыходзіць. У нас ужо ёсць «класікі», творы якіх у выглядзе заяў-прашэнняў, жаласных скарг можна выдаваць поўнымі зборамі ў многіх тамах. Пэўна, падобныя лаўры вабяць сяго-таго з маладых дзялкоў, якія глядзяць на званне пісьменніка як на права выцягнуць ад дабрадзейнай бабулькі-літаратуры паболей розных асабістых выгод. Ёсць такія, што спадзяюцца на лёгкую славу,

і свае першыя практыкаванні, скіданыя на скорую руку, гатовы абвясціць шэдэўрамі. А потым, калі ад падобных «шэдэўраў» праз год-два не астанецца і следу, іх аўтары становяцца ў позу непрызнаных геніяў, якіх не зразумелі сучаснікі.

Шырока ў нас адкрыты дзверы ў літаратуру. Усё таленавітае, усё перадавое знаходзіць сабе дарогу. Аднак у далейшым давайце прымаць у Саюз не за тое, што хтосьці напісаў дзясятак вершаў або нават выдаў кнігу, а кіруючыся большым крытэрыем — ці творца гэта для той літаратуры, якая з'яўляецца самай высакароднай, самай перадавой у свеце? Інтэлектуальна абмежаваны чалавек, які навучыўся збольшага цаляць у рыфму, — гэта не творца, з прыходам якога мы вызначаем перспектывы росту і ўдасканалення майстэрства. Халоднае рамесніцтва не мае ніякіх перспектыў. І калі бяздушныя, прымітыўныя творы не прымае чытач, дык у гэтым вінаваты перш за ўсё аўтар, у якога няма за душою нічога цікавага для чытача. Узровень культуры, узровень эстэтычных патрабаванняў савецкіх людзей настолькі вырас, што ў нашы дні мы ўсё часцей і часцей наглядаем, як без усялякай прэтэнзіі на званне пісьменніка чытач сам піша кнігу. Такіх кніг бывалых людзей, людзей, якім ёсць што расказаць аб сабе, аб тым, што яны бачылі ў жыцці, у нас з'яўляецца ўсё болей і болей. Многія з іх заваявалі шырокае прызнанне і карыстаюцца большым попытам, чым кнігі прафесіяналаў. Можа быць, не зусім далёка той час, калі літаратурная творчасць страціць сваё манапольнае права. Гэта ёсць адзнака новага творчага ўздыму народа, калі праца чалавека, значэнне гэтай працы вымяраецца імкненнем як мага болей прынесці карысці свайму грамадству. Кожнага сапраўднага мастака гэта можа толькі радаваць. А для прыстасаванцаў, для рамеснікаў гэтая з'ява нясе ў сабе немінучае паражэнне. Усё цяжэй і цяжэй будзе літаратарам, якія хоць і маюць пісьменніцкае пасведчанне, але не растуць інтэлектуальна, адыходзяць ад імкненняў народа, адстаюць ад жыцця, ад тых найвялікшых падзей часу, якія вызначаюць цяпер ход развіцця чалавецтва.

Гаворачы аб клопаце па выхаванню маладых, нельга не ўспомніць добрым словам штодзённую дапамогу літаратурнай моладзі з боку пісьменнікаў, якія працуюць у нашых часопісах.

Па абавязку майстроў, глыбока зацікаўленых у росце, удасканаленні нашай літаратуры, шмат увагі аддаюць нашай моладзі К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Броўка, М. Танк, М. Аўрамчык, Я. Брыль, І. Гурскі, А. Куляшоў, М. Лужанін, П. Панчанка, А. Якімовіч.

Многія з пісьменнікаў, імёны якіх цяпер ужо добра вядомы чытачу, з удзячнасцю ўспамінаюць плённую дапамогу сваіх старэйшых таварышаў.

Гэта адна з лепшых традыцый нашай літаратуры. Хацелася б, каб і нашы малодшыя сябры з такім жа клопатам аднесліся да сваёй змены.

Праўда, некаторыя з маладых і пачынаючых літаратараў актыўна выступаюць з рэцэнзіямі на сваіх жа аднагодкаў, робяць агляды вершаў у газетах, пішуць адзін другому ў друку адкрытыя лісты, ахвотна рэдагуюць першыя кнігі таварышаў, не выдаўшы яшчэ ніводнай сваёй кніжкі. Часта ўсё гэта выглядае, па меншай меры, не вельмі сціпла. У такой тонкай справе, як права аднаго пісьменніка вучыць другога, неабходны і пачуццё такту, і добразычлівасць, і, самае галоўнае, — вопыт, высокі мастацкі густ. Толькі кіруючыся большым вопытам, можна асмеліцца падаваць парады таму, хто яшчэ не мае гэтага вопыту. Непасільную задачу падчас бярэ на сябе малады літаратар, лёгка згаджаючыся рэдагаваць кнігу свайго равесніка. На жаль, і ў мінулым годзе болей паловы кніг, аўтары якіх упершыню выступаюць перад чытачом, рэдагавалі пачынаючыя літаратары. Наўрад ці такая практыка заслугоўвае падтрымкі.

Не ставячы перад сабой задачы падрабязнага разгляду і аналізу, хачу вылучыць і прасачыць найбольш адметныя асаблівасці творчага росту маладых, тыя хібы і заганы, якія ўласцівы большасці з іх.

За амаль адзін год — дванаццаць першых кніг — сапраўды значны ўраджай, калі ўспомніць, што яшчэ зусім нядаўна ў нас выходзіла не болей як два-тры зборнікі аўтараў-дэбютантаў. Нельга не заўважыць, што прыкметна ўзрасла прафесійная вывучка маладых пісьменнікаў. І гэта не дзіва, бо павысілася і чытацкая культура. Цяпер не толькі «разуменне вершаў вышэй даваеннай нормы», але і самі нормы вымагаюць вышэйшай літаратурнай якасці. Цяпер, калі пісьменнік выдае кніжку, ён трымае нялёгкі экзамен перад сваім чытачом. Для аўтара-дэбютанта гэта — экзамен на сталасць. Першае знаёмства вызначае рэпутацыю, якая потым астаецца на доўгія гады. Чытач «злапамятны» на няўдалыя знаёмствы і не так лёгка возьме ў рукі новую кніжку аўтара, якому ўжо вынес свой прысуд.

Першая кніжка — гэта творчы пашпарт пісьменніка. Што вызначае яе каштоўнасць? Перш за ўсё тое, наколькі праўдзіва і ўсхвалявана аўтару ўдалося расказаць, як гаварыў Маякоўскі,

«о времени и о себе». Творы пісьменнікаў, якім загадала само сумленне: не маўчы, напішы пра ўбачанае, перажытае табою, гэта будзе карысна і цікава многім людзям, — такія творы заўсёды знойдуць дарогу да чалавечых сэрцаў. Не дзіўна, што ў сучаснай савецкай літаратуры ўсё часцей і часцей з'яўляюцца творы, аўтарамі якіх выступаюць людзі самых простых прафесій, здавалася б, далёкіх ад літаратуры. Жыве, працуе чалавек далёка ад літаратурных «сталіц», ад рэдакцый і кансультацый, у асяроддзі сваіх сучаснікаў, уласным сэрцам спазнае вялікую праўду жыцця, а потым незаўважна і для самога сябе, ад паўнаты сваіх душэўных багаццяў, становіцца паэтам. Ён прабуе свае сілы ў творчасці, яшчэ не ўпэўнены, што адкрывае новыя рысы і грані жыцця. Потым ён рашаецца паслаць напісанае ў рэдакцыю. І нярэдка мы адкрываем для сябе новае» імя, радуемся свежаму таленту. Так з'явіліся ў часопісе «Маладосць» упершыню вершы Міколы Кусянкова, лесатэхніка з Нова-Беліцы, вершы, авеяныя жывым подыхам сучаснасці, прасякнутыя высокай грамадзянскай гордасцю за пераўтварэнні свайго роднага горада.

Падчас проста дзіву даешся, колькі бескарыснай апекі, нікому не патрэбнай перапіскі, дарагога часу трацiцца ў нас на аўтараў, у якіх няма таленту, а ёсць толькі адно ўпартае жаданне стаць пісьменнікам. Ужо так, з такой стараннасцю, як вучаць нашы кансультанты, дальбог жа, і мядзведзя можна навучыць рыфмаваць, як некалі ў славутай смаргонскай «акадэміі» навучалі яго балетнаму мастацтву. Не дзіва, што найбольш упартыя «мядзведзі» дамагаюцца сваёй мэты. За дзясятак год нарыфмуе, навершыць вершаваных стагоў, глядзіш — і кніжка выйшла, у Саюз трэба прымаць, прапісваць на пастаяннае месца жыхарства ў літаратуры, хоць ні права на прапіску, ні пашпарта ў яго няма.

Няхай сабе ў нас падобных прэтэндэнтаў на лёгкі літаратурны хлеб не так ужо і шмат, але яны ўсё ж нямала наносяць шкоды выхаванню высокага літаратурнага густу.

Вось чаму не можа не радаваць усіх зацікаўленых у далейшым росце беларускай літаратуры з'яўленне ў ёй такіх таленавітых пісьменнікаў, як І. Навуменка, В. Быкаў, А. Карпюк, А. Савіцкі, Б. Сачанка. Сярод першых кніг, якія выйшлі нядаўна, вылучаюцца багаццем мовы, выразнасцю характараў зборнікі прозы Івана Пташнікава і Вячаслава Адамчыка.

У вакальным мастацтве ёсць такое вызначэнне: пастаўлены голас. Гэта галоўная ўмова для маладога спевака. Паставіць голас, відаць, не менш важная, а можа быць, рашаючая задача

і для маладога пісьменніка, для таленту, які сваім з'яўленнем у літаратуры абавязкова павінен выявіць калі не адразу ўсю сілу свайго голасу, дык хоць бы яго найбольш адметныя магчымасці.

Голас пісьменніка — гэта перш за ўсё ўласцівае яму ўменне валодаць словам, адчуваць яго адценні. Багацце мовы, невычарпальны запас моўных скарбаў, нават, калі хочаце, своеасаблівы азарт плыўца, які смела кідаецца ў акіян, у стыхію народнай мудрасці, выдумкі, дасціпнасці і адчувае сябе ў гэтай стыхіі самым шчаслівым ад таго, што валодае такімі незлічонымі багаццямі, — вось што адразу выдае ў пісьменніку сапраўдны талент!

Праўда, літаратура — не спорт. І, можа быць, параўнанне таленту пісьменніка з талентам плыўца не зусім дарэчы, але вельмі ж у нас з кожным годам прыбаўляецца такіх плыўцоў, якія, трапіўшы ў наш, не такі ўжо і глыбокі, літаратурны басейн, заліхвацка наганяюць пену і падымаюць такі шум, што мы адразу ж гатовы выдаць ім высокія разрады і дыпломы.

«Варочае словамі, як бярвеннямі», — казаў, бывала, К. Чорны, злуючыся на тых пісьменнікаў, што не адчуваюць мовы. Памятаю, як Чорны радаваўся трапнаму слову, удаламу сказу. Напіша і нават адыдзе, збоку паглядзіць, як бы правяраючы на вока. І на слых ён правяраў. Прасіў, каб яму ўголас чыталі напісанае.

«У вас добрае пяро», — гаварыў З. Бядуля, калі адкрываў у маладым аўтары талент пісьменніка.

У Вячаслава Адамчыка — добрае пяро. Ён ведае цану слову. І хоць напісаў ён усяго толькі з паўдзясятка апавяданняў, можна з упэўненасцю сказаць, што ў беларускую прозу прыйшоў патрабавальны майстар.

Чытаючы апавяданні Адамчыка «Зоня», «Свой чалавек», «Трудная праўда», адчуваеш, што ў маладога пісьменніка ёсць заўсёды пачуццё творчай радасці перад словам, перад яго яшчэ не адкрытымі глыбінямі. Амаль кожны сказ у Адамчыка — гэта мастацкі твор у мініяцюры. І калі б я захацеў прыводзіць прыклады, давялося б ад пачатку да канца перапісваць цэлыя старонкі яго апавяданняў. Адамчык — строгі суддзя над сабой. Яго высокая патрабавальнасць дае добры плён. Ён настойліва выпрацоўвае і адточвае стыль, без чаго не можа быць пісьменніка.

Так у нашай маладой прозе выразна загучаў голас, пастаўлены добрымі майстрамі, выпрабаваны непрымірымасцю да лёгкага поспеху, да распаўсюджанай цяпер сярод многіх празаікаў пагарды да апавядання.

Адразу ж за раманы ў нас хапаюцца ледзь не з літаратурных пялёнак, не маючы ні жыццёвага, ні прафесійнага вопыту. Толькі адсутнасцю майстэрства сюжэта, выразнасці глыбокіх псіхалагічных характарыстык, моўным убоствам герояў можна вытлумачыць варварскую безадказнасць да законаў кампазіцыі, калі з аповесцей, механічна расцягнутых, робяцца раманы. Відаць, было б больш карысці для вучобы і творчага ўдасканалення, каб маладых празаікаў прымушалі рабіць наадварот: з раманаў — аповесці, з аповесцей — навелы.

З багатымі жыццёвымі назіраннямі, з жывым адчуваннем моўных народных скарбаў прыйшоў у нашу прозу Іван Пташнікаў, аўтар цікавай кнігі «Зерне падае не на камень», у якой змешчана адзінаццаць апавяданняў і дзве аповесці.

Калі Адамчыку ўласцівы скупая эпічнасць паказу падзей, скульптурная лепка чалавечага характару, стрыманы і строгі псіхалагічны аналіз, дык манера Пташнікава вылучаецца сваёй шчодрай паэтычнасцю. Гэта адчуваецца не толькі ў пейзажах, то прасякнутых светлымі настроямі вясны, то авеяных гарачым подыхам лета, то засмучаных прадчуваннем восені. І ў паказе чалавека, і ў перадачы яго душэўнага свету пісьменнік імкнецца да рамантычнай узнёсласці, да паэтычных абагульненняў. У гэтай манеры напісаны амаль усе апавяданні Пташнікава, што ўвайшлі ў яго першую кнігу. У гэтым ёсць свая прывабнасць, але ёсць і спецыфічныя перашкоды. Залішняя імпрэсіяністычнасць, паказ псіхалогіі героя праз агульначалавечыя, а падчас умоўнапрыблізныя пачуццёвыя катэгорыі — усё гэта можа прывесці да страты жыццёвай дакладнасці падзей, жывой праўды людскіх характараў, без чаго празаік не можа стаць мастаком. Захапленне паэзіяй у прозе — гэта слабасць не аднаго Пташнікава. Яна была ўласціва маладосці многіх нашых празаікаў, якія потым узняліся да шырокіх эпічных абагульненняў у сваёй творчасці. Гэта зусім не значыць, што паэзія пагражае прозе. Не. Празаік дасягае самай высокай паэзіі, радасці творчых адкрыццяў жыцця сваімі мастацкімі сродкамі, сродкамі прозы. Толькі такая проза дае нам сапраўдную паэтычную асалоду.

Гэта сцвярджае гісторыя развіцця нашай літаратуры і тая яе выдатная традыцыя эпічнай маштабнасці, народнасці нацыянальных характараў, увагі да сваіх моўных багаццяў — традыцыя, якую наследуюць усе нашы лепшыя пісьменнікі.

Вядома, ніколі не ўзбагаціць гэтую нашу лепшую традыцыю, як і ўсю беларускую прозу, тэндэнцыя лёгкай белетрызацыі,

якая наглядаецца ў апошнія гады ў некаторых нашых маладых празаікаў. Не мае значэння, лічаць яны, што мы не валодаем мовай, што мы не ствараем народных характараў, не малюем жыцця і побыту людзей рэспублікі, важна прыдумаць спакуслівы сюжэт — людзі ўсюды аднолькавыя, мову выправяць перакладчыкі, — і мой раман будзе здабыткам усіх чытачоў. У нас ужо з'явіліся лёгкія на руку пастаўшчыкі «чціва», для якіх па сіле любая тэма — ад дэтэктыўных прыгод на зямлі да сямейнай драмы на Марсе.

Іван Пташнікаў якраз ідзе ад лепшых традыцый беларускай прозы. Яго паэтычная манера, уласцівая апавяданням, рэзка змянілася ў распрацоўцы эпічных сюжэтаў у аповесцях «Іллюк Чачык» і «Не па дарозе». Яго надзвычайная праніклівасць у псіхалогію герояў, выключная трапнасць у абмалёўцы характараў, глыбокае адчуванне жыцця сучаснай вёскі сведчаць аб вялікіх творчых магчымасцях пісьменніка. Шкада толькі, што як на апавяданнях адбілася пэўная аднастайнасць (амаль усе яны напісаны ад першай асобы і на адну тэму — аб першым юнацкім каханні), так і абедзве аповесці і тэматычна, і па характарах, і па падзеях вельмі блізкія і падобныя. Такому здольнаму пісьменніку, як Пташнікаў, неабходна шукаць большай жанравай і тэматычнай разнастайнасці, ставячы перад кожным сваім замыслам новыя творчыя задачы.

Колькасная перавага ў выданні першых кніг належыць паэтам. Калі ў 1958 годзе дэбютавалі чацвёра: У. Караткевіч, М. Арочка, Е. Лось і Ул. Нядзведскі, дык у 1959 годзе ўжо сямёра: Р. Барадулін, А. Дзеружынскі, І. Калеснік, А. Лойка, Ю. Свірка, А. Ставер, К. Цвірка.

У чым творчыя ўдачы, у чым слабасці, накладныя выдаткі росту нашай паэтычнай моладзі? На жаль, удач значна менш, чым выдаткаў.

Характэрна амаль для ўсіх паэтаў, што найбольш пэўны поспех іх чакае ў тэмах сучаснасці. Жывыя падзеі, гарачыя працоўныя бai, непасрэднымі ўдзельнікамі якіх былі самі паэты; савецкі чалавек з яго думкамі і пачуццямі, гартаванне характару маладога сучасніка — якраз гэтыя тэмы, не выдуманыя, не ўзятыя напракат, а ўзятыя з самога жыцця, і паслужылі крыніцай, свежы, жыватворны струмень якой мы адчулі ў вершах Барадуліна, Нядзведскага, Цвіркі, Лойкі.

Зусім нядаўна ў часопісе «Маладосць» У. Нядзведскі надрукаваў вершаваны рэпартаж «Будні Салігорскія», напісаны

па гарачых слядах будаўніцтва маладога шахцёрскага гарадка ў Беларусі. Па сутнасці, гэта не рэпартаж у газетным разуменні, а лірычная паэма, роздум сучасніка аб месцы паэта ў рабочым страі. Малады паэт усёй душой імкнецца зразумець падзеі, з якімі звязана пераўтварэнне рэспублікі, яе заўтрашні дзень. Ён адчувае, што паэзію трэба шукаць у тых буднях, якія раскрываюць перад намі новыя велічныя перспектывы. Не лёгка даецца паэзія, але яе трэба нястомна шукаць на будаўнічых пляцоўках, у нашай рэчаіснасці.

Я шчыра кажу: не першы,
Не першы і не апошні
Палез я, сябры, па вершы
У пыл і пясок дарожны, —

піша Нядзведскі і, побач з замалёўкамі будаўніцтва, не пакідаючы асноўнага матыву, вызначае і сэнс сваёй паэтычнай задачы:

Старога Старобіна ўнукі
Гісторыю новую пішуць!
Я ўспомніў між хлопцаў гэтых,
На гэтых саляных копях,
Як крытык адзін з паэтам
Нядаўна ламалі коп’і.
Спрачаліся, аж хрыпелі,
Над вывадам найважнейшым:
Ці ў рыфму пісаць, ці белым,
Ці шматпавярховым вершам.
Не ведаю: так ці гэтак,
А тут, на зямлі салёнай,
З праходчыкам я паэта
Хачу параўнаць сягоння.

Так, перспектывы росту нашай паэзіі, яе набліжэнне да народа звязаны з тымі творчымі пошукамі, якія вядуць паэты на перадавых пазіцыях жыцця. Нястомна папаўняць душэўныя запасы, болей бачыць, ведаць — гэта баявы дэвіз кожнага сапраўднага паэта.

Свежасцю паэтычнага бачання жыцця прыцягнулі шырокую ўвагу вершы Р. Барадуліна, напісаныя ім на ўборцы цаліннага ўраджаю і ўключаныя ў зборнік «Маладзік над стэпам». У Барадуліна яркае метафарычнае мысленне, адметнае ўменне

передаць вобраз у яго, здавалася б, будзённай канкрэтнасці, але праз жывое паэтычнае абагульненне:

Ды нам на шчасце, з поўным,
Велічна
Дарогу Волга перайшла…

Урал гасцінным рускім волатам
Ручнік чыгункі раскаціў…

Над кнігай чайнік, выцягнуўшы шыю,
Нібы гусак разгневаны, шыпіць…

Вершы Барадуліна — гэта вобразныя жанравыя замалёўкі, вясёлыя і дасціпныя, поўныя трапнай назіральнасці. На жаль, усяму цаліннаму цыклу Барадуліна, як лірычнаму дзённіку, не хапае паэтычнага абагульнення, роздуму над убачаным і перажытым, над тым, як у першых працоўных выпрабаваннях гартуецца характар, як наша моладзь, пабыўшы на цаліне, набывае пэўны жыццёвы вопыт. Паэт чамусьці бравіруе тым, што занядбаў гэты свой абавязак. На яго думку, трэба адкідаць усякі роздум як недаравальную праяву душэўнай слабасці:

На сон і лірыку забыцца
Нам сёння трэба — спраў багата.

Гэтае наіўнае сцверджанне аспрэчана самой паэтычнай практыкай Барадуліна. Якраз тыя справы, якія вымушалі на многае забыцца ва ўмовах вялікай бітвы за цалінны ўраджай, і прынеслі творчыя ўдачы паэту. Непаўторныя прыкметы часу, вобразная свежасць, якімі вызначаюцца вершы Барадуліна, знойдзены паэтам у справах, у гарачай напружанай працы свайго пакалення.

Да лепшых паэтычных удач неабходна залічыць і лірычную нізку «Казахстанскі жнівень» К. Цвіркі з яго першай кніжкі «Такія сэрцы ў нас».

У адрозненне ад Барадуліна, моцнага яркай вобразнай дакладнасцю, Цвірка больш схільны да сілагічнага абагульнення, да паэтычнага афарызма.

Добрыя і адна, і другая якасці. А было б яшчэ лепш, каб кожны малады паэт, удасканальваючы свой талент, адточваў усе яго грані.

Задушэўнасцю, шчырай усхваляванасцю прасякнуты многія вершы А. Лойкі, сабраныя ў яго кнізе «На юначым шляху».

У Лойкі — добрая паэтычная эрудыцыя, жывая зацікаўленасць да фальклору, да гістарычных паданняў і легенд, да народнай казкі. І там, дзе, беручы традыцыйны матыў, сюжэт, паэт пераасэнсоўвае іх, узбагачае сваёй думкай, — там ён дасягае поспеху. Так напісаны легенды: «Нёман і Лоша», «Дружба». У маладога паэта тонкае адчуванне народнай мовы, імкненне да глыбокага эмацыянальнага пранікнення ў прыроду і ў людскія характары. Найбольш блізкія Лойку тэмы з яго ўласнай біяграфіі ўвасоблены ў вершах, поўных роздуму і жывых чалавечых пачуццяў: «Сорак першы год», «Маці», «Вясенні лес», «Па-рознаму страчаюць чалавека», «Я люблю глядзець, калі сумуе сасна…».

І аднак жа большасць яго вершаў пакідае ўражанне, што ў паэта яшчэ няма неабходнай прафесійнай дысцыпліны, часта сустракаецца непераборлівасць у сродках, у прыёмах, калі аўтар задавальняецца прымітыўнай фальклорнай мадэрнізацыяй (вершы «Па-над лугам, па-над гаем», «Над крыніцаю») або ўзвышана гаворыць аб пачуццях, аб хваляванні, а чытач астаецца раўнадушным таму, што за радком не бачыць натуральнага пачуцця. Так у лірычнай мініяцюры «Наказ сэрцу» паэт адначасова выступае ў чатырох асобах: камбайнера, муляра, прамоўцы і закаханага юнака, ператвараючыся ў даўно ўжо забытага «жалезабетоннага» героя, які ніколі не вабіў людскога сэрца.

Спынімся на тэме, якая павінна быць асабліва блізкай маладой паэзіі, — на тэме кахання, нясмелых юначых прызнанняў, светлых узлётаў маладой душы і яе першых засмучэнняў. Гэта, сапраўды, тэма, якой не абмінае ніводзін малады паэт. Творы, прысвечаныя каханню, займаюць у іх першых зборніках значнае месца, а ў некаторых вылучаны асобнымі вялікімі раздзеламі: у Е. Лось — «Мая любоў», у Ю. Свіркі — «Першая любоў», у К. Цвіркі — «Першае каханне», у А. Ставера — раздзел з праблемай: «Чаму Юрка не жэніцца?».

Як жа паказваюць нашы маладыя паэты гэтыя, як усе яны ў адзін голас сцвярджаюць, высокія, чыстыя, крыштальныя пачуцці чалавека?

На вялікі жаль, усе гучныя эпітэты астаюцца толькі ў дэкларацыях. Наша любоўная лірыка, як ні дзіўна, у маладых паэтаў не мае крылаў, яна рэдка ўзнімаецца вышэй жанравай гумарэскі, вясёлага непаразумення для эстраднай песенькі, а то і прымітыўнай частушкі з самастрахоўнымі загалоўкамі: «па

народных матывах», што з асаблівай стараннасцю практыкуе А. Дзеружынскі.

Што такое? Няўжо наша моладзь, у тым ліку самі маладыя паэты, не ўмеюць кахаць? Ніхто ж гэтаму не паверыць. Напэўна ж, і нашым сучаснікам вядомы пачуцці, «пограндиознее онегинской любви». Уся бяда ў тым, што даўно ўжо ўвайшлі ў нашу лірыку недарэчная сарамлівасць, боязь гаварыць аб каханні.

Паэма У. Нядзведскага «Вясновыя барозны» выгадна вылучаецца тым, што ў ёй ёсць жывыя адзнакі юнацкага кахання, тыя першыя глыбокія ўзрушэнні, боль і крыўда, калі зневажаюць чыстыя пачуцці чалавека. І калі б аўтар не звёў вырашэнне канфлікту да ідылічнага прымірэння варожых старон і ўсеагульнага даравання за ўчынкі, якія ў жыцці не так лёгка забываюцца, паэма знайшла б шырокую дарогу да людскіх сэрцаў. Але вось ужо ў вершы «Я рад за сяброў» і Нядзведскі не вытрымлівае спакусы паіранізаваць над каханнем, хоць запэўнівае нас, што «рад за сяброў закаханых». Але сам я не паддамся слабасці, як бы гаворыць паэт, у мяне ёсць ахоўная грамата: я гатоў вам кожнаму прысвяціць па вершу і, нарэшце, пайсці «к прыгожай лірычнай маёй гераіні», толькі не да рэальнай каханай, як усе вы, смертныя. Нездарма ж А. Бачыла па-чалавечы паспачуваў гераіні, якую хваляць крытыкі, але «ніхто замуж не бярэ, начытаўшыся рэцэнзій».

Па загадзя прыдуманай схеме, на дробязных непаразуменнях пабудаваў паэму «Золак над Бярозай» А. Ставер. Тут каханне выглядае настолькі прыніжаным, недарэчным, што, чытаючы, задаеш пытанне: ці не пародыя гэта? З усяго відаць, што ў аўтара не было душэўнай патрэбы выказацца, было толькі жаданне мець паэму, мець рэпутацыю аўтара паэмы. Але рэпутацыя, якой дамогся Ставер, ні больш ні менш як мядзведжая паслуга самому сабе. Рэч напісана на ўзроўні частушачнага прымітыву: «Як сонца села за сялом, Васіль вярнуўся ў родны дом». А вось выхад на сцэну яшчэ двух герояў: «Галя шпарка выйшла з залы, і на сходах ля пярыл падышоў з усмешкай ветлай аднакурснік Міхаіл».

Бурнае жыццё калгаснага клуба апісваецца наступным чынам:

Клуб калгасны напаўняюць
Воклічы, авацыі,
Цэлы вечар не змаўкаюць
Хоры, дэкламацыі.

Потым аўтар вядзе нас у студэнцкую аўдыторыю, дзе тымі ж сродкамі бясстраснага статыстыка-рэгістратара малюе камсамольскі сход:

На сцэне за трыбунаю
Гучаць прамовы бурныя.
Студэнтаў шмат сабралася —
Аматараў размоў.
Гавораць пра выдатнікаў,
Пра прыкладных сяброў.
Скланяюць рэзка невукаў —
Не трэба адставаць.
І вопытам падзеляцца —
Як трэба працаваць.

Пад паэмай стаіць дата яе напісання: «1954–1959 гг.», і ўсё ж няма ні падставы, ні жадання выказваць павагу да такой працы — была яна доўгай, але марнай, і ў аўтара не хапіла элементарнай патрабавальнасці, каб прызнаць яе сваёй няўдачай.

Не надта высокіх крытэрыяў душэўнай прыгажосці трымаўся і Ю. Свірка, у зборніку якога «Шэпчуцца ліўні» каханню прысвечаны цэлы раздзел «Першая любоў». Якая гэта любоў? Вельмі ж прыніжаная. Яна не нараджае радасных пачуццяў, не адкрывае новых душэўных даляглядаў. Наадварот, такое пачуццё, як вернасць, нясе паэту лішні неспакой і бязладдзе ў думках. Аўтар так і піша ў вершы «Вернасць»:

Нас часта так дарога разлучае,
Не бачымся па месяцу, па два.
Тады трывожна спіцца мне начамі,
Бо ўсякіх думак поўна галава.

Якіх думак «поўна галава» — гэта сакрэт аўтара. З наступных чатырох і апошніх радкоў верша нам ясна толькі адно: калі паэт сустракаецца са сваёй каханай, непатрэбныя турботы знікаюць, сон робіцца нармальным і ў галаву больш не лезуць «усякія думкі».

Або вось, нарэшце, верш «Паварот». У ім малады паэт сапраўды рэзка павярнуў ад эгаістычнай нячуласці да адкрытай абыякавасці, да той нямудрай філасофіі любоўнага спорту, калі разлукі ўжо не хвалююць, бо, як гаворыць паэт, «хачу я паглядзець, што — за наступным паваротам».

Так разважае аўтар, лёгка, без асаблівага засмучэння расстаючыся са сваім каханнем. Яму толькі б «паглядзець, што за паваротам».

А сам падумаю не раз:
Няўжо на ёй сышоў свет клінам —
Паные сэрца, пройдзе час,
З другой сустрэнуся дзяўчынай.
Хадзіў бы к ёй я кожны дзень,
І весялей пайшла б работа…

Тут аўтар ставіць шматкроп'е, відаць, спадзеючыся на нашу фантазію.

Гэта не значыць, што ў нашых паэтаў няма добрых вершаў пра каханне. Ёсць цудоўныя лірычныя радкі, поўныя чыстых і шчаслівых пачуццяў, у Барадуліна, Нядзведскага, Лойкі, Арочкі, ёсць удалыя жанравыя мініяцюры, як, напрыклад, у Цвіркі «Лодачкі»:

Хоць было мне і шкада,
Ды абула лодачкі.
Выйшла з хаты — любата:
Аж рыпяць на сходачках.

Пэўна, гляне ўжо не так
На мяне Міхасік мой,
Калі ў клубе тупну ў такт
Тоненькім абцасікам.

А прыйшлося: і ў мой бок
Не глядзіць ніколечкі.
Бачу, выйшаў у садок
З старшынёвай Волечкай…

Дайце ж круг і размах
Мне, малодачкі:
Няхай б'юцца ў пух і прах
Мае лодачкі!

І ўсё ж не можа не трывожыць тая недарэчная тэндэнцыя прымітывізацыі, прыніжэння самых светлых пачуццяў чалавека, якая нямала прынесла шкоды нашай паэзіі. Ёсць і яшчэ адзін даўні вораг лірыкі — гэта саладжавая чуллівасць, няўменне

адрозніць жывое пачуццё ад сентыментальнага сурагату. Праўда, гэта ўжо хутчэй ідзе ад невысокага эстэтычнага густу, чым ад літаратурнай нявопытнасці. Ёсць выпадкі, калі маладыя паэты канкрэтнасць лірычнага вобраза перадаюць у літаральным сэнсе, называючы дакладна адрас, месца работы, пасаду сваёй лірычнай гераіні. Напрыклад: Полацк, райкам, сакратар; знешнія прыкметы: прыветная ўсмешка і русыя косы. Усе гэтыя анкетныя звесткі прыводзяцца ў вершы І. Калесніка «Камандзіроўка». Праўда, у паэтаў заўсёды была такая слабасць — выдаваць сакрэты. Мы ведаем, каму прысвечана «Я помню чудное мгновенье», але да І. Калесніка яшчэ ніхто не выкладаў з такой падрабязнасцю сваіх лірычных тайн.

Большых здабыткаў чакае наша маладая лірыка і ад паэтэсы Еўдакіі Лось. Узнёсласць, захапленне ўсім, што трапляе на вочы і здаецца вартым услаўлення ў вершах, нямала шкодзіць паэтэсе ў выхаванні мастацкага густу і высокай самадысцыпліны. Е. Лось непераборлівая ў мове, у паэтычных сродках. Многія яе вершы — гэта хутчэй імправізацыя, экспромт на тэму, а не пошукі вобраза, што адкрывае чытачу новую думку, незаўважаную з'яву ў жыцці, у прыродзе. Так, узяўшы форму трыялета, Лось, уласна кажучы, далей знешніх традыцыйных прыёмаў і не ідзе, яна як бы не заўважае, што класічныя паэты, і асабліва наш Багдановіч, укладалі ў трыялет, як правіла, глыбокую паэтычную ідэю, думку, вобраз. Лось піша трыялет, змест якога зводзіцца да інфармацыі:

Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст, не твой, другога…
Няма напалу маладога:
Чакаю я твайго ліста.

Зірну на лістаносца строга,
Спытаю, а ці ўсе дастаў…
Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст не твой, другога.

Вымагае большага ўзроўню эстэтычная культура паэтэсы. У вершы «Мастацтва» Лось піша, што, пачуўшы казку, «кампазітар тонкія струны настроіў». Дзе, у якім інструменце гэтыя «тонкія струны», дзеля чаго іх настройваць іменна кампазітару? Далей кампазітар вядзе па гэтых струнах «юную, стройную, светлую казку». Потым казку «на пальчыках дужых вынесла

ў свет балерына…». Скульптар у сваю чаргу «зляпіў казку цудоўную з гіпсу». І, нарэшце, у гатовым выглядзе ўсю гэту калектыўную прадукцыю «купіў сівавусы рабочы і ўнучцы сваёй падарыў». Што тут да чаго — цяжка разабрацца, ясна адно: паэтэсе не шкодзіла б лепш ведаць сумежныя творчыя прафесіі.

І яшчэ супраць адной небяспекі неабходна перасцерагчы нашу маладую паэзію — ад небяспекі захаплення той андарачна-сярмяжнай, даўно закасцянелай традыцыяй, якая пад выглядам «народнасці», «народнага каларыту» болей зневажае нашу культуру, чым дадае ёй славы.

Я заўсёды адчуваю прыкрасць і крыўду, калі слухаю падчас у канцэртах прыдуркаватыя частушкі, песні з гучнай назвай «народныя», але з такім заліхвацкім прысвістам, уханнем і іханнем, што затыкаю вушы і згараю ад сораму, як быццам я сам, асабіста, вінаваты за такое безадказнае абыходжанне з народнымі скарбамі. Крыўдна, што мы часта паказваем не ўзоры народнага мастацтва, а пародыю на яго, здзек з яго сапраўднай прыгажосці. Няхай не думаюць людзі з першабытным густам, што яны такім парадкам прапагандуюць народнае мастацтва. Не, яны знеслаўляюць яго, зневажаючы саміх сябе.

Прымітывізацыя народнай песні, прафанацыя і падробка зрабіліся манерай не толькі эстрадных гастралёраў, а пранікаюць нават у такія вядомыя творчыя калектывы, як наш Народны хор. Усе мы добра памятаем простую, няхітрую песеньку, што бытуе ўжо не адно стагоддзе, песеньку аб тым, «як пагнала бабуленька куранятак пасвіць», як яна іх не ўсцерагла і разгневаны дзед «пабіў ёй галаву і спінку». У такой рэдакцыі яна на працягу многіх год выконвалася і Народным хорам. І раптам — што такое? Тая ж знаёмая мелодыя, нават тое ж курынае кудахтанне «ко-ко-ко»! Але словы ўжо зусім другія, і назва другая. «На калгаснай птушкаферме» — так ахрысцілі яе Г. Цітовіч з А. Русаком, прыстасаваўшы да надзённых задач развіцця птушкагадоўлі!

А адкуль, скажыце, узялося такое ўбогае тварэнне, выпушчанае ў свет з мэтай яўнай дыскрэдытацыі беларускай народнай песні:

Дзевушкі, ігдзе вы?
Тута, тута.
А маёй Марфуты
Ды нету тута?

Не дзіўна, што некаторыя таварышы за межамі рэспублікі з-за благой рэпутацыі «Марфуты» на людзях саромеліся прызнавацца землякамі гэтай нахабнай самазванкі.

Так падчас абыходзяцца ў нас з народнай творчасцю рамеснікі і пераніцоўшчыкі. Не вельмі здзіўляйцеся, калі пад назвай «Песня старшыні сельсавета» з’явяцца словы: «Чаму ж мне не пець, чаму не гудзець, калі ў канцылярыі парадак ідзець». Гэта ўжо будзе адваротны працэс — прыстасаванне гатовага тэксту да музычных адыходаў кампазітарскай вытворчасці. Сустракаюцца і такія падробкі.

Асобныя нашы паэты, не адчуваючы сапраўднай прыгажосці народнай творчасці і той яе вялікай сілы, што жывіла натхненне самых выдатных майстроў класічнай і сучаснай паэзіі і музыкі, бяруць напракат гатовыя фальклорныя прыёмы і сродкі і прыстасоўваюць да іх пачуцці сваіх сучаснікаў. Мякка кажучы, гэта не творчасць, а паразітызм, які ніколі не прыносіў людзям душэўнай радасці.

Быць на ўтрыманні багатага дзядзькі па імені Фальклор — магчыма, і лёгкая, і выгадная справа, але ж рана ці позна трэба думаць аб самастойнасці, аб тым творчым пашпарце, без якога ўваход у літаратуру забаронены.

Наўрад ці думаў аб гэтай творчай самастойнасці і адказнасці аўтар зборніка «Золак над Бярозай», які дзеля з’яўлення на свет сваёй першай кніжкі больш прыклаў арганізацыйных, чым творчых здольнасцей. Кніжка Ставера складаецца з тых фальклорных падробак, якія твораццa па нямудраму метаду халоднай штампоўкі. Гэтым метадам і адштампаваны якраз раздзел «Чаму Юрка не жэніцца?». Аўтар упэўнены, што так званы народны стыль — гэта неабмежаванае права на прымітыў, на прыніжэнне чалавечых пачуццяў:

Доўгі час не меў я любай —
Па ёй сэрца сумавала.
…Нейк даклад Маруся ў клубе
Для калгаснікаў чытала.

Хоць даклад быў даўгаваты,
Хвіляй здаўся час, няйначай.
З клуба я пайшоў дахаты
І Марусю зноў убачыў.

Прыпыніўся… А Маруся,
Хоць з другімі гаварыла,

Калі я ёй усміхнуўся,
Мне усмешку падарыла.

Вуліцай ішлі мы поруч,
Словы цёплыя ліліся.
Разышліся ўсе, і скора
Удваіх мы засталіся.

У такой манеры, манеры тупаватага прасцячка, выступае лірычны герой у вершах Ставера. А па герою і гераіня:

Рана-раненька ў садочку
Я прыкмеціла слядочкі.
Хтось тут вечарам блукаў,
Ля акна кагось чакаў.

Ведучы шырокую гаворку аб недарэчных традыцыях, з якімі трэба змагацца, давайце думаць, як нам і, у першую чаргу, маладым пісьменнікам, творча развіваць і ўзбагачаць лепшую традыцыю нашай літаратуры — традыцыю сапраўднай народнасці, традыцыю самай шчыльнай сувязі з жыццём, з перадавымі ідэямі свайго часу, з самымі запаветнымі імкненнямі народа.

У вершы пад назвай «Адкрыццё» Е. Лось, шукаючы адказу, у каго вучыцца, каго «за ідэал прыняць», «па чыім узоры мерку зняць», прыходзіць нарэшце да такой ісціны: «рашыла быць сама сабой!». Уласна кажучы, не такое гэта вялікае адкрыццё, каб пісаць аб ім верш, але паколькі зроблены правільны вывад, астаецца да яго дадаць яшчэ адно патрабаванне: самае высокае пачуццё адказнасці за кожнае сваё слова.

Часта можна пачуць: глядзіце, гэты малады пісьменнік пачынае не горш, чым яго папярэднікі. І ў гэтым як бы заключаецца заслуга. Пасля таго як нашы старэйшыя пісьменнікі прынеслі ў літаратуру свае лепшыя здабыткі, пачынаць трэба не з таго ўзроўню, з якога пачыналі яны, а, грунтуючыся на іх вопыце, з той вышыні, на якую яны паднялі нашу літаратуру, і сваёй працай падымаць яе яшчэ вышэй. Толькі такая творчая пераемнасць будзе зарукаю нашага росту.

Дарэчы, няма асаблівых падстаў сцвярджаць, што цяпер літаратурная моладзь пачынае з вышэйшага ўзроўню, чым яе папярэднікі. Давайце возьмем раннія творы К. Крапівы, М. Лынькова, К. Чорнага, Э. Самуйлёнка, П. Галавача і параўнаем з творамі нашых маладых пісьменнікаў. Бадай што, большую выразнасць у абмалёўцы характараў, больш вострае адчуванне

падзей свайго часу, не кажучы пра багацце мовы, знойдзем у першых, а не ў другіх.

Пачытайце твор сямнаццацігадовага Коласа, нядаўна апублікаваны ў часопісе «Беларусь» (1959. № 9–10). Тыпы тагачаснай Мікалаеўшчыны, побыт людзей, іх інтарэсы — гэта ўжо не толькі мастацкі, а гістарычны дакумент. Мова, якая яшчэ не была літаратурна распрацаванай, зіхаціць незлічонымі россыпамі народнай мудрасці. А хто з нашых маладых пісьменнікаў, жывучы цяпер у вёсцы, у вёсцы нашых дзён, з такой праніклівасцю ў жыццё, з такой увагай да сучаснага чалавека, з такім дасканалым аналізам яго псіхалогіі напісаў бы новы дзённік, значэнне якога вымяралася б не толькі мастацкімі якасцямі, але і глыбокім гістарызмам падзей? Давайце! Гэта будзе пачэснае творчае спаборніцтва.

Гаворачы аб сапраўднай народнасці ў яе перспектыўным значэнні для беларускай літаратуры, усім нам неабходна, а ў першую чаргу маладым пісьменнікам, пашыраць яе тэматыку, паказваць горад, пісаць аб людзях, праца якіх пераўтварае аблічча рэспублікі, паказваць людзей інтэлектуальнай працы. Толькі пры ўмове, калі наша літаратура выйдзе з пэўнай тэматычнай абмежаванасці, калі яна стане крыніцай духоўнага ўзбагачэння для ўсяго народа, толькі тады нашы творы будуць мець самую шырокую аўдыторыю чытачоў, аўдыторыю сапраўды народную.

Той, каму блізкая тэма вёскі, хто звязаў сваё жыццё з вёскай, няхай піша аб ёй. Але дакуль вёска будзе аставацца своеасаблівым тэматычным запаведнікам для людзей, якія помняць яе толькі з пялёнак, з маленства, а ўсё жыццё жывуць у горадзе, звязаны з асяроддзем, з інтарэсамі працаўнікоў, якія вырашаюць такія ж важныя, а па значэнню, па маштабах часам і большыя праблемы і задачы! Аднак жа, жывучы ў горадзе, сам будучы гараджанінам, пісьменнік для натхнення, для пошукаў тэмы едзе ў вёску.

«Дома», «У роднай хаце», «Мая вёска», «Успаміны маленства» — якія ўсё гэта знаёмыя нам загалоўкі! Пра гэта пісалі мы, старэйшае пакаленне, і асабліва дарагія і блізкія былі нам гэтыя пачуцці, калі мы пасля вайны вярталіся ў свае родныя мясціны, на папялішчы сваіх хат.

А вось малады паэт, прыехаўшы дадому на канікулы, чамусьці становіцца ў знаёмую позу і ўсяму свету абвяшчае, што і ён «посетил тот уголок земли», дзе пачалося яго, яшчэ не паспеўшае закончыцца юнацтва. У сілу благой традыцыі многія

з паэтаў чамусьці радуюцца, што нічога, маўляў, і не змянілася за яго адсутнасць. А радавацца, уласна кажучы, няма чаго, — значыць, ты яшчэ не навучыўся бачыць, заўважаць змены і пераўтварэнні жыцця, не ўмееш паэтычна асэнсоўваць тое новае, што нараджаецца ў ім кожны дзень.

Недарэчы, калі сучасны аўтар, пішучы аб сённяшняй вёсцы, адзнакі патрыярхальнай экзотыкі выстаўляе як нейкі бытавы антураж, на фоне якога дзейнічаюць яго героі. Якая была, скажам, патрэба здольнаму маладому паэту С. Гаўрусёву ў сваёй першай паэме «Іней» прымушаць франта Жору, які з пагардай глядзіць на вясковае жыццё, рабіць зусім неўласцівую яго ганарыстай натуры работу — таўчы ў ступе каноплі? Можа, аўтар дае яму якраз такі занятак для выйгрышнага кантрасту, з мэтай злой іроніі? Наадварот, ледзь не з эпічнай маляўнічасцю паэт паказвае, як

…Назаўтра ў хусце сваёй новай
Спяшала Ева па ваду.
У ступе Жора тоўк каноплі
І цікаваў за ёй з двара.

Безумоўна, вёска жывіць натхненне многіх з нас, не толькі таму, што мы там нарадзіліся, а таму, што з ёю звязаны нашы моўныя багацці, што яна для пісьменніка з’яўляецца, па сутнасці, творчай лабараторыяй, дзе ствараліся і выпрабоўваліся законы народнай філалогіі. Аднак сучаснаму пісьменніку наўрад ці ёсць неабходнасць папаўняць моўныя запасы за лік слоў, якія страцілі свой сэнс і забываюцца, як і тыя рэчы, азначэнне якіх у мове ўжо лічыцца архаізмам, патрэбным пісьменніку хіба толькі ў гістарычным аспекце, у творах пра мінулае. Пэўна, таму мы з большым моўным каларытам якраз і пішам аб мінулым. Маладому пісьменніку трэба больш чуйна ўслухоўвацца ў тыя змены, якія адбываюцца ў жыцці, у побыце, а значыць, і ў мове. У тыя часы, калі пачыналі свой шлях першыя пакаленні пісьменнікаў, былі нават вельмі паэтычнымі такія словы, як зрэб’е, шарак, ніты, бёрды, ступа, таўкач, жорны.

Гэта зусім не азначае, што, механічна замяніўшы ў сваёй творчасці саху на трактар, а серп на камбайн, мы адразу ж, адпаведна гэтаму, і напішам творы, якія па эмацыянальнай сіле стануць вышэй за тыя, у якіх апяваліся каса, цэп малацьбітны, начоўкі-апалушкі, кляновыя набіліцы, што так высока апаэтызаваў Янка Купала ў паэме «Яна і я».

Адзінокі лермантаўскі парус яшчэ доўга будзе хваляваць людскія сэрцы, але ці ўзрасце сіла яго ўздзеяння, калі парус мы павялічым да памераў электрахода? Як бачыце, нават інтымнае пачуццё павінна несці ў сабе прыкметы свайго часу. Цяпер паэтычнасць нашых вобразаў, маштабнасць лірычных абагульненняў будзе вымярацца не тым, што, гледзячы на месяц у светлую ноч, мы прыдумаем яму яшчэ адно вобразнае параўнанне або эпітэт. Сучасны паэт ужо не можа размаўляць са сваім даўнім лірычным спадарожнікам без адчування таго, што там, на ім, ляжыць пераможны вымпел.

У спаборніцтве двух светаў, у барацьбе мінулага з будучым — месца савецкага пісьменніка на перадавых пазіцыях жыцця, у радах разведчыкаў будучыні. Ужо не першае пакаленне людзей на Захадзе заяўляе аб расчараванні ў сваім лёсе. Ужо ў нашы дні з'явіліся і «пакаленне марна пражыўшых», і «пакаленне сярдзітых маладых людзей», як самі сябе яны назвалі.

У маладога пакалення савецкіх людзей — самыя светлыя ідэалы жыцця. Гэта яны паднялі цаліну, знайшлі ў якуцкай тайзе алмазы, будуюць камсамольскія домны, цудоўныя гарады свайго юнацтва. Ёсць да чаго прыкласці здольнасці, ёсць дзе разгарнуцца і таленту маладога пісьменніка. Ёсць каго славіць і апяваць.

Гартуйце ж па-сапраўднаму майстэрства сваёй працы!

*1960*

## НАРОДНАЯ ПАЭМА

Бадай ні адзін з твораў у гісторыі беларускай літаратуры не вытрымаў такога выпрабавання на жыццёвую ўстойлівасць, на прызнанне многіх пакаленняў, як гэтая безыменная паэма.

Створаная ў часы Пушкіна, Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі і Дуніна-Марцінкевіча, яна доўга хадзіла па людзях у рукапісах, а тыя, хто не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, вывучвалі яе на памяць, каб расказваць на вясковых вечарынках.

Разам са сваёй папярэдніцай «Энеідай навыварат» нястомны весялун і штукар палясоўшчык Тарас зрабіўся любімцам усіх кірмашовых відовішчаў, якія разыгрываліся батлеечнікамі ў гарадах і мястэчках Беларусі.

Задоўга да паяўлення паэмы ў друку яе гучанне і яе водгалас выпрабоўваліся і вывяраліся не толькі на слых самай шырокай

народнай аўдыторыі, але і на эстэтычна-грамадскіх густах людзей, што ведалі сілу і значэнне мастацкага слова.

Напісаная адным чалавекам, і, безумоўна, перадавым чалавекам свайго часу, паэма набывала аўтарства яшчэ і тых, хто потым перапісваў яе, і тых, хто пераказваў, распаўсюджваў яе па памяці.

І каб, скажам, нейкім цудам знайшоўся цяпер аўтарскі рукапіс, ён напэўна далёка не супаў бы з той рэдакцыяй, у якой твор быў упершыню апублікаваны ў газеце «Минский листок» у 1889 годзе.

Доўгае актыўнае жыццё паэмы ў народзе, які па праву быў яе першым добразычлівым рэдактарам, узбагаціла твор многімі фарбамі, якіх магло неставаць літаратурнаму варыянту.

Натуральнасць інтанацыі, у якой Тарас расказвае аб сваіх дзівосных прыгодах, трапнасць характарыстык, якімі ён надзяляе тубыльцаў Парнаса і тых, хто гвалтам лезе на запаветную гару мастацтва, народная самабытнасць вобраза самога апавядальніка — усё гэта якасці, якімі ў такой дасканаласці маглі валодаць толькі сапраўдныя таленты.

Калі ж нарадзіўся наш слаўны палясоўшчык, па сваёй няхітрай мудрасці блізкі сваяк Санча Пансы, а па ваяўнічай наіўнасці амаль беларускі Дон-Кіхот?

Ніхто яшчэ не даў выразнага адказу на гэтае пытанне. Бясспрэчна адно, што безыменная паэма з’явілася тады, калі і сам народ яшчэ не меў свайго імя.

Не дзіва, што нават мінулае стагоддзе для нас, беларусаў, часам здаецца такой даўнінай, як для іспанцаў эпоха сярэдневякоўя.

Паэтычная геніяльнасць вясковага каваля з Крошына, аднагодка вялікага Кабзара, відавочна з аднаго верша, уцалелага ад учэпістых і бязлітасных рук палітычнай жандармерыі. Болей з яго паэзіі нічога не дайшло да нас, хоць вядома, што ў часе арышту былі забраны чатыры сшыткі вершаў. Так самотныя радкі: «Зайграй, зайграй, хлопча малы…» прынеслі нашчадкам трагічнае імя Паўлюка Багрыма.

«Тарас на Парнасе», створаны сучаснікам крошынскага каваля, дайшоў да нас, але не прынёс нам імя свайго аўтара.

Безумоўна, той, хто пісаў яго, ішоў на свядомы грамадзянскі подзвіг. Нялёгка было самаахвярным кавалям нашай будучыні тварыць рэліквіі народнай культуры. Школу канспірацыі праходзілі і рэвалюцыянеры, і паэты. Вось чаму імя аўтара «Тараса на Парнасе» цяжэй адкрыць, чым знайсці новыя невядомыя спісы самой паэмы.

Аб даце напісання твора яшчэ і дагэтуль вядуцца спрэчкі. Ухапіўшыся за адно якое-небудзь слова, сказ, дэталь, даследчыкі часта вельмі паспешліва робяць вывады і заключэнні.

Так, у залежнасць ад аднаго сказа: «Дамоўкі сталі ўбірацца як ад Кутуза Банапарт» пастаўлена ў нас вызначэнне даты другой ананімнай паэмы — «Энеіда навыварат». Катэгарычна сцвярджаецца, што напісана яна пасля Айчыннай вайны 1812 года і канчатковага разгрому напалеонаўскіх войск. Магчыма, што яна сапраўды створана ў гэтыя часы, але адзіны сказ у якасці доказу — занадта ж мала, тым больш што ў ранейшых спісах паэмы гэтых слоў не было.

Ананімны твор, жывучы ў народзе, мае тую ўласцівасць, што можа ўбіраць у сябе новыя падзеі і адзнакі часу, праз якія праходзіць сваё выпрабаванне.

Пакуль даследчыкі «Тараса на Парнасе» не знойдуць доказаў, якія засведчаць аўтарскую рэдакцыю, ніякімі, нават самымі лагічнымі на першы погляд разважаннямі нам не ўдасца ўстанавіць канкрэтную дату напісання твора, тым больш — асобу яго аўтара.

Адной кабінетнай эрудыцыі тут мала. Неабходна яшчэ ініцыятыва і дапытлівасць не толькі ў даследаванні тэксту твора, а і ў распрацоўцы гісторыі народа, у вывучэнні скарбаў, многія з якіх у нас нават яшчэ і не знойдзены.

Даследчыкі «Тараса на Парнасе» займаюцца пераважна толькі тлумачэннем тэксту. Яшчэ і цяпер узнікаюць спрэчкі, якім годам датаваць паэму — 1837 ці шасцю гадамі пазней, хоць такая пастаноўка пытання рашаючага значэння не мае.

Важней другая акалічнасць, што, напісаны, безумоўна, пад уплывам перадавой рускай культуры ананімны «Тарас на Парнасе» стаўся самым дарагім здабыткам беларускай нацыянальнай паэзіі. Сваё імя яму аддаў народ. Такім аўтарствам можна ганарыцца!

Кананізуючы тэкст паэмы з моманту апублікавання, мы абмінаем істотнае — яе радаслоўе.

Далучэнне да Расіі сталася падзеяй, якая вызначыла круты паварот у гістарычным лёсе нашага народа. І хоць па-ранейшаму на яго руках заставаліся кайданы няволі, але ўжо нараджаўся чалавек, які ўсё выразней пачынаў разумець — хто яго вораг, а хто — друг.

«Тарас на Парнасе» для нас, беларусаў, — гэта, па сутнасці, другая пасля «Слова аб палку Ігаравым» творчая вяршыня народнай паэтычнай думкі.

Магутная постаць Скарыны ўзвышаецца на фоне доўгага беспрасвецця. Духоўная, паэтычная, асветніцкая, друкарская дзейнасць многіх выдатных сыноў народа трагічна канчалася пад цяжкімі коламі бязлітаснай невядомасці.

Калі і з'яўляліся з-пад пяра літаратурных падзвіжнікаў асобныя павучальныя прытчы, гутаркі, вершы, яны рэдка выходзілі за межы вузкага аматарства і старонак прыватных альбомаў.

Адзінай формай духоўнага жыцця народа была вусная творчасць, што развівала, узбагачала і ўдасканальвала нашу паэтычную мову, узоры якой жывуць і цяпер у песнях, казках, прымаўках, загадках, у трапных крылатых словах.

Маючы вялікую паэтычную душу, беларускі народ заўсёды быў настолькі шчодры, што часта не знаў цаны сваім скарбам.

І хоць каталіцкае шляхецтва глядзела на яго з пагардай, затое лепшыя сыны польскага народа з любоўю збіралі сапраўдныя багацці народнай паэзіі. Беларуская песня натхніла творчасць Манюшкі і Карловіча, а казкі і паданні — магутную паэзію нашых слаўных землякоў Міцкевіча і Сыракомлі.

Калі ж для нас жыватворчай крыніцай зноў становяцца перадавыя ідэі лепшых сыноў Расіі, яе літаратура, толькі тады, па сутнасці, і пачынае набіраць сілы развіццё нашай грамадскай і мастацкай думкі.

На жаль, яшчэ і дагэтуль застаецца зусім не даследаваным самы актыўны перыяд жыцця «Тараса на Парнасе» непасрэдна ў народным асяроддзі, калі паэма, задоўга да паяўлення ў друку, не толькі будзіла людскія думкі, самасвядомасць, а і памагала фарміраванню перадавых настрояў у часы вельмі складаных грамадскіх адносін на Беларусі.

Шчыра кажучы, твор, якім па праву можа ганарыцца гісторыя нашай літаратуры, яшчэ не толькі глыбока не вывучаны, але і не ацэнены.

Тэндэнцыйнасць такой недаацэнкі, пэўны снабізм ідуць за паэмай вельмі даўно, з часоў яе нараджэння. Не толькі апалагетам каланізатарскай экспансіі прыйшоўся не па густу «Тарас на Парнасе», але нават самым дабрадзейным і лагодным лібералам: надта ж востры ён па сваёй ідэі, надта ж выразны па сваіх сімпатыях!..

Пры усёй сваёй міфалагічнай умоўнасці гэта глыбока рэалістычны твор, у якім упершыню ў літаратуры паявіўся нацыянальны характар беларуса — не занядбанага і прыніжанага гаротніка-мужычка, якога толькі аплакваюць або абсмейва-

юць, — а чалавека з адчуваннем уласнай годнасці і перавагі над сваімі праціўнікамі.

Аб тым, што паэма напісана чалавекам, выхаваным на лепшых узорах паэтычнай культуры, сведчыць высокі прафесіянальны ўзровень твора. Нельга не здзівіцца лаканізму, ашчаднасці кожнага радка. Наколькі прасторна думкам у паэме, настолькі цесна ў ёй словам. Яе фабульная спружына заведзена з дакладным разлікам поўнага сюжэтнага завяршэння — ад пачатку да канца.

Пара ўжо нашаму сучаснаму літаратуразнаўству сказаць слова, вартае выдатнай народнай паэмы, ачысціць яе мастацкую рэпутацыю ад зняважлівых бірак, якія часам вытыркаюць з падручнікаў і хрэстаматый.

Па-першае, вызначаны па жанравай класіфікацыі, як пародыйны, наш бядак палясоўшчык трактуецца выключна такім і пераважна ў гэтым значэнні вось ужо блізка сто год. Па-другое, заўважце, і з'явіўся Тарас, як даводзяць літаратурныя летапісцы, галоўным чынам дзеля таго, каб змагацца з самым страшным для сябе ворагам — «эстэтыкай класіцызму». Па-трэцяе, нават мова яго, аказваецца, бярэ свой непасрэдны пачатак ад высокага «штылю», якім складзена «Павіншаванне протаіерэю».

Няўжо ўсё значэнне «Тараса на Парнасе» толькі ў яго пародыйнасці? Што ж, тады па славутай тэорыі міграцыі адвечных сюжэтаў яго лёгка было б паставіць у залежнасць, скажам, ад Дантавага «Раю», якому да часу нараджэння беларускага палясоўшчыка налічвалася ўжо добрага паўтысячагоддзя.

А даверыўшыся фармальнай логіцы, мы сягоння маглі б ужо сцвярджаць, што Тарас — не хто іншы, як папярэднік Васіля Цёркіна, які трапіў у рай, створаны пазнейшымі багамі.

Абарона сваёй годнасці, радасць спазнання і непераможнасці жыцця, уласцівыя светаадчуванню працоўнага чалавека, заўсёды служылі народнаму мастацтву.

Казачны герой Іван-дурань, прастачок, якім хацелі бачыць яго ідэалісты, і сам не адмаўляўся ад звычайнай маскі, але заўсёды і ўсюды выходзіў пераможцам, пакідаючы ў дурнях сваіх праціўнікаў.

Так на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва ішло і ідзе змаганне паміж матэрыялістычным светапоглядам, уласцівым народу, што жыве на рэальнай зямлі, і ілюзіямі прапаведнікаў «таго свету».

Лепшыя традыцыі эпічнасці, жывой мовы, вострай сатыры, якія ўвабраў у сябе «Тарас на Парнасе» з народнай паэзіі, арганічна ўвайшлі ў творчасць Багушэвіча, узбагацілі паэзію Купалы,

прынеслі заслужаную славу такому магутнаму манументу нашай літаратуры, як «Новая зямля» Якуба Коласа.

Наша безыменная паэма даўно ўжо заваявала шырокую папулярнасць у савецкіх чытачоў.

Мы ганарымся тым, што яе першы пераклад на рускую мову належыць М. Лазінскаму — выдатнаму знаўцу сусветнай паэзіі, вядомаму сваёй самаахвярнай працай па перакладу Дантавай «Боскай камедыі».

Нядаўна свой пераклад «Тараса на Парнасе» апублікаваў старэйшы друг беларускай літаратуры Міхаіл Ісакоўскі.

Святочным падарункам будзе выданне паэмы ў арыгінале і ў рускім перакладзе для ўсіх, хто любіць і шануе беларускую паэзію.

Упершыню «Тарас на Парнасе» выдаецца з мастацкімі ілюстрацыямі, трэба сказаць, вартымі яго літаратурных якасцей.

Шчырыя намаганні нашых выдаўцоў парадаваць чытача прыемным сюрпрызам няхай паслужаць дакорам многім з нас, пісьменнікаў і крытыкаў, якія яшчэ так мала прыклалі сіл для вывучэння і даследавання выдатнай ролі гэтага народнага шэдэўра і яго значэння ў гісторыі беларускай літаратуры.

*1967*

## ВЫШЫНІ МАЛАДОСЦІ

Надыходзіць пара падрахункаў. Што ты зрабіў? Што прымаеш па ўсёй строгасці сумлення? Аказваецца, настолькі мала і не з такой дасканаласцю, каб на ўласных здабытках вучыць тых, хто пайшоў значна далей за цябе. Нашы паэты цяпер болей усхвалявана, адкрыта і шчыра гавораць аб сваім часе, са сваімі сучаснікамі, чым многія з нас у сваёй маладосці. Мяне асабліва радуе наша маладая паэзія, маладая не толькі па ўзросту, а па эмацыянальнай сваёй узрушанасці, па сапраўднай грамадзянскай смеласці і праўдзівасці пачуццяў. Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, В. Зуёнак, П. Макаль, Я. Сіпакоў — гэта паэты, без якіх ужо цяжка ўявіць сабе вялікае поўнагалоссе беларускай паэзіі, яе лепшыя здабыткі.

Не цешу сябе ілюзіяй, што асабіста мой вопыт дапамог каму-небудзь з гэтых паэтаў. Не можа не радаваць другое, — тое, што яны ў паэзіі выказваюць саміх сябе, чаго за іх не магу зрабіць ні я, ні хто іншы.

Крыўдна, што ў нас яшчэ і дагэтуль бытуе пагляд на паэта як на стварэнне, якое можа прыстасоўвацца не толькі да любых павеваў моды, але нават перабягаць з аднае эпохі ў другую, то ісці ў нагу са сваім пакаленнем, то прыладжвацца да маршу наступнага.

Вядома, знойдзецца нямала аўтарытэтных прыкладаў, каб і не пагадзіцца з гэтай думкай. Талстой стварыў «Вайну і мір» праз паўвека пасля вайны 1812 года, Маякоўскі напісаў творы, якія можна датаваць нашымі гадамі. Маштабнасць ахопу часу, калі сціраюцца межы цэлых эпох, уласцівая вялікім мастакам, перш за ўсё, мабыць, вызначаецца маштабнасцю тых каштоўнасцей, адкрытых у чалавеку, што з гонарам з пакалення ў пакаленне нясе сама гісторыя. Паэт — сын свайго часу. І чым з большай глыбінёй праўдзівасці выкажа ён сваю эпоху, тым цяжэй будзе самым строгім даследчыкам вызначыць сферу яго ўплываў. І наадварот, паэт, які не змог паказаць, сынам якога часу, якога пакалення ён быў, наўрад ці будзе пасля для некага вялікім адкрыццём.

Маштабнасць мастацкага мыслення Горкага гарантавала жыццёвасць яго творам, якія чытаюць і наступныя пакаленні. Аднак вястун новай эры чалавецтва, палымяны прапагандыст яе ідэй, як непаўторны мастак дасягнуў сапраўдных вяршынь у стварэнні характараў свайго часу.

Гэта — пэўная заканамернасць, якую можна прасачыць не толькі на лёсах выдатных індывідуальнасцяў, але і на цэлых мастацкіх калектывах, творчых арганізацыях, што нараджаліся сваёй эпохай, сваім пакаленнем, бурна развіваліся, раслі, уздымаліся да вяршынь творчасці, каб потым саступіць месца новым. Амаль аматарскі маскоўскі «Современник» і так званы тэатр на Таганцы, спектаклі якіх часта становяцца цэлым адкрыццём для нашай моладзі, відаць, з’явіліся не меншымі выразнікамі думак, настрояў, грамадска-эстэтычных ідэалаў сваіх сучаснікаў, чым некалі МХАТ, тэатры Вахтангава, Меерхольда і наш — Купалаўскі…

З чэсцю можна шанаваць, нават узбагачаць набыты вопыт і пры заслужаным высокім аўтарытэце старэйшага, патрыяршага, акадэмічнага, паступова, з ходам часу, страціць непасрэдны кантакт з сучаснікам, які пры ўсёй павазе да традыцый, аддаючы належнае рэліквіям, здымаючы шапку перад храмамі, усё ж больш натуральна адчувае сябе ў сваім доме, няхай падчас яшчэ неабжытым і няўтульным.

Моладзь ідзе ў жыццё як смелы наватар: будуе гарады, асвойвае пустыні, цалінныя залежы, штурмуе космас, заваёўвае вышыні навукі. Нялёгка, з вялікім напружаннем сіл. Але найбольшыя цяжкасці ёй даводзіцца пераадольваць у духоўным жыцці, у мастацтве. І ў гэтых цяжкасцях, часцей за ўсё, вінаваты мы, старэйшыя, надта схільныя пераацэньваць уласнае наватарства, пошукі і знаходкі сваёй маладосці.

— Гэта ўжо было! — падчас гаворым мы маладому паэту, мастаку, рэжысёру, выносячы строгі прысуд яго шуканням. А што было? Шуканні? Яны заўсёды былі і будуць. Без іх няма знаходак, няма новых здабыткаў, няма, нарэшце, развіцця самога жыцця.

Не ўдаючыся ў спрэчкі аб праблеме бацькоў і дзяцей, якая, магчыма, не мае ў нас драматычнай вастрыні, як у папярэдніх пакаленняў, нельга не заўважыць высакароднай тэндэнцыі, уласцівай развіццю нашага грамадства: мой бацька — цудоўны чалавек, мне хочацца быць падобным на яго, але дамагчыся яшчэ большага! На жаль, многія бацькі перад сваімі дзецьмі большай мэты і не ставяць — будзьце падобныя на нас ва ўсім.

Прабачце, шаноўныя, паўтарэнне ніколі не служыла стымулам для новых дасягненняў. Часта можна пачуць дакор: такі-та майстар не рыхтуе сабе змену. Гэтыя словы могуць быць крыўднымі для майстра толькі ў адным значэнні, што не знайшлося жадаючых вучыцца ў яго. У сапраўдных майстроў заўсёды былі вучні, але яны ніколі не замянялі самога майстра.

Вялікім сузор’ем талентаў зіхацеў наш Купалаўскі тэатр для цэлага пакалення людзей, што прайшлі з ім і сваё юнацтва, і сваю сталасць, і наблізіліся да таго рубяжа часу, калі трэба ўжо мецць змену, вартую слаўных папярэднікаў. І што ж, пакуль што мы не бачым такой плеяды наватараў, падзвіжнікаў, якія б на аснове здабытага вопыту яшчэ вышэй паднялі славу тэатра. Вышэй, і толькі вышэй! Іначай пераемнасць творчага арганізма немагчыма, як немагчыма нікому паўтарыць Глебава, Ждановіч, Платонава, Ржэцкую, Рахленку, Пола, Стому, Бараноўскага, Станюту.

Адміністрацыйныя ўніфікацыя і нівеліроўка стылю абышлася нам вельмі дарага. Некаторыя тэатры страцілі не толькі ўласнае аблічча, але і адказнасць за сваю будучыню. Тое, што пры нашых тэатрах, якія маглі б стаць не толькі акадэміямі, а і творчымі лабараторыямі, няма студый — больш чым недаравальна. Новыя акцёры і рэжысёры папаўняюць зараз тэатры ў большасці, так сказаць, па разнарадцы, для далейшага пра-

ходжання службы. Пра ўсё гэта нельга гаварыць раўнадушна. Занядбаўшы выхаванне маладых рэжысёраў, акцёраў, мастакоў, нашы тэатры рызыкуюць ператварыцца ў звычайныя тэатральныя пракатныя канторы.

Пошукі новых сродкаў і магчымасцяў формы не могуць спыніцца ў сілу непераможнага закона далейшага развіцця самой мастацкай і творчай думкі. Нават жанравая спецыфіка не вечная. Нядаўна я з вялікай асалодай глядзеў мастацкі фільм «Лясная быль», якому ўжо налічваецца сорак год. Ён ствараўся беларускімі кінематаграфістамі ў часы, калі, здавалася б, у нас не было яшчэ такога вопыту, каб рабіць шэдэўры. І ўсё ж, пры пэўнай наіўнасці сюжэта — гэта твор, аўтары якога з сапраўднай дасканаласцю валодалі спецыфікай нямога кінематографа, спецыфікай на тыя часы наватарскай, якая вымагала раскрыцця падзей і характараў выключна праз рух, міміку, жэст, праз вызначэнне сэнсу кожнай дэталі. У акцёра не было іншых сродкаў. Гэта была яго мова. Нездарма цяпер многія схільны думаць, што з’яўленне слова і ператварэнне яго ў галоўны сродак выяўлення думкі сталася бядой кінематографа, пазбавіла яго вялікіх, яшчэ не выкарыстаных магчымасцей.

Прыблізнасць, ілюзорнасць праўды, інфляцыя слова прынеслі нямала значных страт не толькі кіно, але і тэатру, і літаратуры, і якраз цяпер, калі слову вяртаецца яго першааснова — праўда, яно зноў становіцца верным сродкам уздзеяння на розум, на самыя глыбінныя людскія эмоцыі. Прайшоўшы праз сэрца сапраўднага мастака, слова не толькі знаходзіць адрасата, але і заваёўвае яго душу.

Два чалавекі на працягу некалькіх гадзін не мітусяцца на сцэне, не забіваюць адзін аднаго, не сварацца, не крычаць, не павышаюць голасу і нават не імкнуцца пераконваць, што тое, што яны робяць, ёсць жыццё. Яны толькі чытаюць пісьмы адно да аднаго. Аднак гэта, аказваецца, і ёсць тая жывая праўда чалавечых адносін, складаных чалавечых пачуццяў, якія адкрываюць нам цэлы яшчэ непазнаны свет. І мы, захопленыя ўсім гэтым, зусім не заўважаем умоўнасцяў формы спектакля.

Пошукі магчымасцяў слова, трэба спадзявацца, прынясуць сучаснаму тэатру яшчэ нямала заваёў. Рамесніцкі ж пракат знойдзенага, калі яно становіцца адзіным магчымым сродкам, нікому не прыносіў ні радасці, ні асалоды.

Манапалізацыя недапушчальна ў мастацтве, тым больш у выхаванні творчай моладзі.

Боязь спаборніцтва — адзнака старэчай немачы, калі створанае самім пачынаеш ідэалізаваць, бараніць усімі ахоўнымі граматамі званняў і тытулаў.

У мяне яшчэ свежае ўражанне ад нядаўняе выстаўкі маладых мастакоў. Гэта быў упершыню такі вялікі агляд, у якім удзельнічалі жывапісцы, графікі, скульптары, прыкладнікі. Моладзь, якая ўжо выбілася на ўласную сцежку, і студэнты.

Ужо самыя першыя рэцэнзіі не маглі не выклікаць жадання абавязкова паглядзець — за што гэтак заўзята лупцуюць маладых? Адкуль такая катэгарычнасць у ацэнках? Натуральна, што абмеркаванне выстаўкі выклікала асаблівую зацікаўленасць. На жаль, грунтоўнай размовы не адбылося. І хоць сышліся самі, так сказаць, імяніннікі, яны зноў слухалі сваіх крытыкаў, рэагуючы на іх даклады толькі гулам невыразных эмоцый. З трыбуны ж ніхто не браўся выказаць сваю згоду або пярэчанні. І наўрад ці ёсць што ў гэтым дзіўнага. Вульгарызатарская схаластыка вельмі пахіснула рэпутацыю слова, і найлепшым спосабам давесці свае перакананні зрабілася — справа. Гэта найбольш надзейны спосаб, выпрабаваны і выверацы часам. Але пакуль з новымі Рэпінымі прыйдуць і свае Стасавы, хацелася б, каб нашы вопытныя знаўцы эстэтычнай тэорыі былі больш уважныя і цярпімыя да творчых пошукаў тых, хто ідзе ім на змену.

Бясспрэчная перавага гэтай выстаўкі над многімі ранейшымі — гэта найбольшая колькасць яе ўдзельнікаў. Па тэматычнай разнастайнасці, па абсягу праблематыкі, шуканнях формы, тэхнікі, матэрыялу, яна прыкметна вылучаецца з усіх папярэдніх. І што асабліва не можа не цешыць — гэта значны рост прафесійнай культуры маладых жывапісцаў і графікаў, якое даволі часта неставала іх старэйшым папярэднікам.

Малады і ўжо вядомы ў нас М. Данцыг, карціны якога вабяць вострым адчуваннем сучаснасці, у новай рабоце «Сонечны дзень» у многім рашуча адышоў ад ранейшай сваёй знешняй манументальнасці, калі маштабы палатна не адпавядалі маштабнасці замыслу, значнасці ідэі і разлічваліся, галоўным чынам, на жывапісны эфект. Новай карцінай, пры ўсёй яе незавершанасці, пры яўных анатамічных дыспрапорцыях фігуры, пастаўленай у цэнтры падзеі, — мастак адкрыў гледачу больш жыццёвай праўды і паэзіі пачуццяў, чым у сваіх ранейшых жывапісна дасканалых панарамах. Мяне гэта асабліва ўзрадавала, таму што я не таіў сваёй непрыхільнасці да Данцыгавай рацыяналістычнай дэкаратыўнасці. «Сонечны дзень», экспанаваны на выстаўцы, захапляе не толькі маляўнічасцю фарбаў — гэта першае вонкавае

ўражанне ад карціны. Але вось ты адышоўся ад яе, а табе нешта рупіць, цягне вярнуцца.

Чым жа прывабіў нас мастак? На першы пагляд, ён узяў з жыцця самы будзённы, бытавы эпізод: дзяўчынка-падлетак сонечным вясновым днём развешвае на вяроўках бялізну. Калі б толькі зафіксаваць у фарбах гэтую падзею, наўрад ці спыніла б яна нашу ўвагу. Але мастак зрабіў яе з’явай, якая нясе ў сабе столькі эмацыянальнай узрушанасці, што мы як бы нанава адкрываем свет і дзівімся на яго вачыма гэтай дзяўчынкі.

І сапраўды, ёсць чаму радавацца. Усведамленне, што ты патрэбен людзям, што без цябе немагчыма жыццё на зямлі. Дзяўчынка ўпершыню зрабіла вялікую работу — памыла столькі бялізны. Развешаныя палотнішчы надзімаюцца цёплым, лагодным ветрам. Гэта — ветразі, гэта ўжо крылы, што даюць упэўненасць для большых здзяйсненняў. У такую хвіліну вязка драўляных прышчэпак, што вісіць на шыі ў дзеўчаняці, можа здацца прыгажэйшай за любыя каралі. Сонечная карусель радасці, у якой закружылася дзяўчынка, падхапіла і закружыла гледача. І ён не хавае сваёй добрай душэўнай усмешкі: давер за давер, шчырасць за шчырасць.

Як я ўжо сказаў, у гэтай карціне меней Данцыгавай дасканаласці, чым у ранейшых. Карціна не выпісана, не завершана ў многіх дэталях, але для мастака, мне здаецца, яна — важнае творчае дасягненне. Замысел, варты вялікай сур’ёзнай працы.

Барыс Забораў, які зарэкамендаваў сябе мастаком вельмі адметнага густу, новымі работамі засведчыў бясспрэчны рост свайго строгага і патрабавальнага таленту, асабліва ў «Сазопальскіх рыбаках».

Звычайна да пошукаў моладдзю новых магчымасцяў формы мы ставімся з пэўнай насцярогай. Мінулагодняя выстаўка пры ўсёй сваёй масавасці паказала, што маладыя мастакі з уласцівым ім жывым адчуваннем сучаснай тэмы, пры ўсёй разнастайнасці здольнасцяў, шукаюць перш за ўсё сродкаў, як найбольш выразна выказаць сваю думку, свае пачуцці.

Значнай творчай удачай для маладога аўтара ўяўляецца мне карціна Е. Ясвіна «Бежанцы». Яна наводзіць на роздум. У ёй ёсць што чытаць. Уцекачы ад фашысцкага нашэсця, выбіўшыся з сіл, прыпыніліся на вялікай дарозе. Тры жанчыны, праўдзівей, жанчыны трох пакаленняў: старая маці, дачка і ўнучка. Ва ўсёй постаці шматпакутнай маці, у яе вачах, ва ўсім абліччы, спрацаваных руках вы чытаеце цэлую гісторыю яе нялёгкага жыцця. У позірку маладой маці з цяжкім клумкам за плячыма

не толькі невыказны смутак па страчаным, дарагім, пражытым, але яшчэ і спадзяванне на магчымыя светлыя часіны ў жыцці. І толькі самая маленькая не разумее гэтых трывог. Яе мучыць неадольная смага: хутчэй прыпасці да конаўкі з вадою.

Пільнаю ўвагай да чалавека, імкненнем зазірнуць у яго складаны душэўны свет вызначаюцца «Чаканне» А. Някрасава, «Маці» Л. Каленіка, «Медыкі» С. Гарачова, «Партрэт настаўніка» Л. Дударэнкі, «Мае бацькі» В. Чайкі, «Раздзел зямлі» В. Бараўкі, «Будаўнікі» В. Пасюкевіча, «Юнацтва» І. Юдзенка.

У кірунку пошукаў пэўную цікавасць уяўляе і карціна Ю. Багушэвіча «Вяселле», якая выклікала шмат папрокаў маладому мастаку ў аднастайнасці, у застыласці абліччаў, у, калі можна так сказаць, эмацыянальным індыферэнтызме персанажаў, якім па логіцы падзеі належыць быць вясёлымі.

Асабіста мне карціна запомнілася святочнай маляўнічасцю. Яе яркі нацыянальны каларыт перадае не толькі самую абстаноўку, але і дапамагае аўтару ў стварэнні характараў. Тая суровая ўрачыстасць і ашчаднасць пачуццяў у абліччах жаніха, нявесты, іх бацькоў і гасцей як бы яшчэ больш падкрэслівае ўсведамленне важнасці моманту. Напэўна, многія з нас бачылі, як на вясковых урачыстасцях нават заліхвацкая полька, бывае, выконваецца з такой важнасцю, як самае адказнае грамадскае даручэнне. Мастак з добрай, тонкай і шчырай усмешкай паказаў нам вясковае вяселле, бадай, больш праўдзіва, чым вымагала фармальная логіка. Урэшце, не можа быць ні стэрэатыпа, ні нават узору — як паказваць любую з’яву ў жыцці, у тым ліку і вяселле.

Так, на працягу доўгага часу і ў паказе вясковых дзяцей была свая пэўная традыцыя: лапавухія хлапчукі ў бацькавых, сышоўшых з меркі, шапках або палахлівыя сарамяжыя дзяўчынкі з начасанымі пасмамі льняных валасоў. Сапраўды, доўгія гады пасля вайны і на дзецях ляжала адзнака цяжкіх умоў, у якіх жылі бацькі. Але было б кашчунствам з бяды ствараць экзотыку.

Мяне шчыра парадавалі на выстаўцы «Дзеці» Б. Кузняцовай. Два хлапчукі па баках і тры дзяўчынкі пасярэдзіне стаяць за парканам і глядзяць на нас вачыма, поўнымі цікаўнасці і дапытлівасці. Гэта ўжо дзеці нашых дзён. Іх вясковасць пазнаецца па знешняму антуражу, а ў абліччах кожнае — характар, у кожнага свая вышыня думкі, фантазіі.

Н. Шчасная на выстаўцы прыкметна вызначылася незвычайнасцю магчымасцей тэмперы, дамогшыся сваёй карцінай «Лазня» вельмі эфектнага ўражання на гледача. Першае зрока-

вае ўспрыняцце як бы бянтэжыць нечаканасцю дзіва, прывіду, фантасмагорыі. Але вось у празрыстай смузе мы паступова пачынаем угадваць людскія сілуэты і постаці і раптам адкрываем вялікую асалоду далучэння да хараства. Сапраўды, няма нічога прыгажэйшага за чалавека. Паэзія формы, строгасць кампазіцыі ў іх натуральнай праўдзе вышэйшая за любую фантазію самых дасканалых мадэльераў.

Пошукі жанравых магчымасцей — адметная асаблівасць і выстаўкі і большасці яе ўдзельнікаў. Другая справа, ці заўсёды і ўсе знаходзяць тое, чаго шукаюць. Мне думаецца, што значна меншых удач дамагліся тыя маладыя дэбютанты, якія вельмі ж даверыліся ўмоўнай манеры бачання чалавека, яго плакатнаму паказу. Страціўшы адчуванне прасторы, перспектывы ў літаральным, тэхнічным сэнсе, яны страцілі галоўнае і ў пераносным — паэзію жыцця.

Высокай прафесійнай дасканаласцю, творчай культурай валодаюць маладыя нашы графікі. У памяці застаўся трыпціх І. Капяляна «Вайна і дзеці», асабліва яго заключны ліст, на якім змарнелае, зняможанае дзіця, захінутае салдацкім шынялём, сядзіць на каленях у байца і есць з кацялка.

Шкада, што вельмі скупа, а то і зусім не былі паказаны на выстаўцы работы такіх майстроў ілюстрацыі, як А. Луцэвіч, Г. Паплаўскі, Е. Забораў, П. Драчоў, А. Лось, В. Шаранговіч.

Хацелася б выказаць адно, самае галоўнае, пажаданне нашым маладым мастакам: пара, дарагія сябры, працаваць з большай адказнасцю перад сваім народам, перад яго слаўнай і гераічнай гісторыяй. Наведайце карцінныя галерэі, мастацкія музеі і ў нашым Саюзе, і за мяжой, і вы адчуеце, як арганічна, як цесна звязана мастацтва з характарам кожнага народа, з яго гісторыяй, з жыватворчымі вытокамі яго чэсці і гордасці.

Вытокі нашай гордасці — здабыткі, дасягнутыя нашымі слаўнымі папярэднікамі, сапраўднымі наватарамі нацыянальнай культуры. Яны заслугоўваюць не толькі пашаны, але і дзейснага жывога ўвасаблення ў новых формах мастацтва. Высокія ідэалы служэння народу, любві да роднай зямлі, перамога розуму над цемрашальствам, хараство чалавечых пачуццяў, заўсёдная вера ў сваю будучыню — хіба не гэта жывіла, натхняла народных песняроў, якія перадалі нам, як спадчыну, як свой запаветны дар, і «Тараса на Парнасе», і «Новую зямлю», і «Сымона музыку», і «Адвечную песню», і паэму «Яна і я», і манументальныя раманы і драмы Кузьмы Чорнага.

Гэта ўжо бясцэнныя скарбы народа. Чаму ж беларускія мастакі, кампазітары, рэжысёры, дзеячы кіно так рэдка карыстаюцца гэтымі багаццямі?

*1967*

## ВЫТОКІ ВОБРАЗА

Дождж ідзе, рэчка бяжыць, вецер вые… Той, хто першы сказаў так, быў паэтам.

Паэтычны вобраз, алегорыю, метафару нараджае наша адчуванне навакольнага свету як жывой, блізкай, роднай нам істоты.

Спасцігнуць, зразумець, запомніць з’яву і рэч лягчэй цераз параўнанне з самімі сабою або з ужо добра вядомымі і знаёмымі табе ўяўленнямі.

Вобраз — заўсёды радаснае адкрыццё тваёй блізкасці з людзьмі, са светам, з прыродай.

Вобраз — заўсёды загадка, і адгадка — заўсёды вобраз. Вобраз у вобразе. Вось паслухайце: *Як нарадзіўся, так за кій схапіўся*. Хто гэты разбойнік, што з першай хвіліны жыцця ўжо хапаецца за кій? Калі б адгадка кіравалася простай логікай, наўрад ці спатрэбіліся б чалавеку загадкі. У тым і каштоўнасць паэтычнага вобраза, што, надзяляючы невядомае, неспазнанае вядомымі і знаёмымі нам прыкметамі і якасцямі, ён заўсёды здзіўляе нечаканасцю сэнсавай даступнасці і зрокавай дакладнасці. Неспадзяванасць, парадаксальнасць аналогіі, якая ўражвае думку, напэўна, і ёсць бясцэнная ўласцівасць нашай памяці, здольнай няспынна ўзбагачаць сябе ўсё новымі і новымі адкрыццямі.

Дык хто ж той забіяка, што ўжо з пялёнак хапаецца за кій? Не даўшы волі фантазіі, нізашто не здагадаецеся, што гэта — хмель!

Ну, а вось вам яшчэ мудрэйшы дзівак, блазан і штукар: *Сам у ботах, а хаджу на галаве*. Доўга будзеце гадаць — хто такі, а разгадка простая — цвік у падэшве!..

З цікавасцю чытаю выдадзеную «Вышэйшай школай», на жаль, усяго ў дзвюх тысячах экзэмпляраў, кнігу, навуковая і практычная значнасць якой не можа не парадаваць усіх, хто мае непасрэднае дачыненне да народнага слова: пісьменнікаў, філолагаў, літаратуразнаўцаў.

Але першымі, хто мае самую пільную патрэбу ў такой кнізе, у такім дапаможніку, я назваў бы настаўнікаў, выкладчыкаў мовы

і літаратуры, складальнікаў школьных падручнікаў, метадыстаў, выхавацеляў дзіцячых садоў — усіх, хто вучыць і выхоўвае словам, але часта і вельмі часта забываючы аб першародных, аб самых каштоўных магчымасцях слова — яго вобразнасці, метафарычнасці і выключнай дакладнасці.

Кніга называецца «Паэтыка беларускіх загадак», і напісаў яе чалавек, у багатым і адметным таленце якога шчасліва спалучыліся паэт і вучоны.

Ніл Гілевіч, на творчым рахунку якога ўжо не адна навуковая праца па фальклоры, на гэты раз аб'ектам даследавання выбраў вытокі народнай мовы і чалавека ў той шчаслівай пары, калі ён пачынае адкрываць сабе і спазнаваць свет ва ўсіх праявах, фарбах і гуках.

Слова для дзіцяці — заўсёды чарадзейны ключ, якім адмыкаюцца ўсе таямніцы. Сваёй практыкай і вопытам народ сцвердзіў, што няма болей дзейснага сродку развіцця разумовых здольнасцяў, кемлівасці і дапытлівасці, чым загадка.

Загадкі заўсёды адрасаваліся дзецям. Па даўняй традыцыі фалькларысты лічаць загадку жанрам «дзіцячым». Але вылучым і падкрэслім самае істотнае ў гэтым жанры — стварaўся і ствараецца ён дарослымі, ствараецца людзьмі яркага вобразнага мыслення і ў першую чаргу з педагагічнай, выхаваўчай задачай. Дзеці самі твораць пацешкі, лічылкі, дражнілкі, але вельмі рэдка — загадкі.

У вялікім вопыце народнай педагогікі загадка была і ёсць найпершым падручнікам выхавання чуйнага слыху да слова, да ўсіх яго сэнсавых, вобразных, эмацыянальных і гукавых багаццяў. І гэты нічым не заменны падручнік з пакалення ў пакаленне складаюць, выпрабоўваюць і ўдасканальваюць самыя мудрыя народныя педагогі.

Аўтар даследавання з выключнай дакладнасцю бачыць прызначэнне загадкі якраз маленькаму чалавеку. «У сістэме сродкаў ідэйна-эстэтычнага выхавання дзяцей загадку не можа замяніць нішто — ніякі іншы від або жанр фальклору», — сцвярджае Н. Гілевіч, знаўца ўсёй народнай творчасці — нашых цудоўных песень, казак, прымавак, замоў і г. д.

Свае сцверджанні ён абгрунтоўвае ўсёй логікай даследавання, усім ходам цікавых назіранняў, разваг і высноў.

Мне асабліва дарагія плённыя вынікі гэтай працы. Яны даюць падставу спадзявацца, што наша школьная педагогіка болей актыўна і з большай зацікаўленасцю пачне, нарэшце, браць на сваё ўзбраенне магчымасці і сродкі, якія так неабходны цяпер,

калі культура слова, дасканаласць валодання мовай, агульная пісьменнасць вучняў павінны стаць галоўным паказчыкам працы кожнага настаўніка.

Гаворачы словамі аўтара, з усіх жанраў фальклору, бадай, нідзе няма такога прастору для выпрабавання слова, як у загадках. Гэта, сапраўды, творчая лабараторыя мовы, у якой нараджаюцца незлічоныя скарбы паэзіі.

Пры дапамозе загадкі, цераз загадку фарміруюцца эмацыянальныя ўражанні, здзіўленне перад адкрыццём тайны, радасць пазнання з'яў і рэчаў, сутнасць і значэнне якіх становяцца найбольш зразумелымі і блізкімі.

Вобразная паэтызацыя, увасабленне нежывой рэчы ў адухоўлены персанаж, у жывую істоту, у чалавека, ды яшчэ блізкага або роднага табе, — як усё гэта ўзрушае і не толькі будзіць думку, а і заахвочвае самога думаць і тварыць!

Малы Малышак
Зваліўся з вышак.
Не так пабіўся,
Як шапачкі забыўся.

Уявіце сабе нечаканае здзіўленне, трывожнае хваляванне, прагную цікаўнасць таго, хто ўпершыню чуе гэтую выдатную паэму з чатырох радкоў! У ёй ёсць герой, які адразу ж выклікаў нашу спагаду і спачуванне, — малы Малышак, і ён, напэўна ж, вясёлы, няўрымслівы гарэза і вяртун, іначай чаго б ён апынуўся на тых вышках? І вось непрадбачаная бяда — зваліўся з вышак. Але, як і павінна быць нават у самых небяспечных дзіцячых прыгодах, усё абышлося шчасліва — сам цэлы, толькі шапачкі забыўся. А ў гэтай шапачцы, аказваецца, увесь фокус, яна якраз і абвяла нас вакол пальца. Кожны будзе весела ўсцешаны і нават з прыемнасцю пасмяецца з сваёй някемлівасці: як жа я не здагадаўся, што гэта — арэх? Ну, давайце загадвайце другую — цяпер я ўжо напэўна адгадаю… І дзіцячая фантазія, і слых, і ўвага да кожнага слова і вобраза зноў пачынаюць сваю творчую работу.

У гэтай кнізе — сотні загадак, сапраўдных дыяментаў народнай паэзіі, вядомых многім з нас яшчэ з маленства. І чым болей іх увойдзе ў памяць нашых юных сучаснікаў, тым больш чуйнымі будуць яны да характва моўных багаццяў. Як бы пасля ні вычэрпваліся, ні мялелі крыніцы нашых душэўных запасаў, вытокі маленства, вытокі народнага слова заўсёды будуць жывіць і ўзбагачаць нашы запаветныя пачуцці.

Я не толькі падзяляю захапленне Ніла Гілевіча, з якім ён гаворыць пра дзівосную прыгажосць народных загадак, чарадзейства іх вобразаў, іх рытміку, інтанацыю і гукавую паліфанію. Я рады пацвердзіць сваім вопытам, што многаму з таго, што сам пісаў для дзяцей, памагала памяць маленства, тыя ж загадкі, якія некалі ўраджвалі і вабілі дзіцячую фантазію і слых. Цудоўнай загадцы пра ластаўку я абавязаны цэлым раздзелам паэмы-казкі «Буслінае лета».

Шатавіла-матавіла
Па-нямецку гаварыла…

Такія прызнанні ўдзячнасці роднаму слову выказвалі і выказваюць многія з нас, але можа быць, што з асаблівым пранікненнем адчувае і паказвае нам жыватворнае хараство народнай паэзіі аўтар гэтай кнігі — выдатны паэт і ўдумлівы даследчык.

Ніл Гілевіч сказаў важкае і новае слова пра беларускую загадку. Ён разгледзеў яе ў шырокім плане навуковага аналізу. Я свядома вылучыў адзін, але, на маю думку, самы надзённы аспект гэтага даследавання — яго пільную патрэбу нашай практычнай педагогіцы і ўсім, хто заклапочаны болей актыўнымі, болей дзейснымі сродкамі выхавання словам — паэтычнымі багаццямі народнай мовы.

*1976*

## ДАЛЯГЛЯДЫ СЛОВА

### І. Пад мачтай

Мастак Д. Н. Красільнікаў намаляваў на Максіма Танка сяброўскі шарж. Паэт стаіць на палубе старажытнае каравелы. На ім — адзенне шляхетнага ідальга, капялюш з пышным пяром, а пры боку — шпага, — ну, проста шыкозны іспанец па ўсіх правілах гістарычнага рэквізіту.

Рэквізіт служыць часта галоўнай высноваЙ і для нашых крытыкаў. Па іх артыкулах нізашто не адрозніш аднаго паэта ад другога. Грунтам разгляду творчасці абавязкова бярэцца біяграфія, а цытаты — ілюстрацыяй да яе. Гэта, магчыма, і верны крытэрый, калі ён не ператвараецца ў тандэт, у схему. Мяне, чытача, раней за ўсё цікавіць творчасць, а потым ужо біяграфія. Па творчасці я ўяўляю біяграфію, і калі перада мною сапраўдны талент, дык

маё ўяўленне рассоўвае межы гэтай біяграфіі настолькі далёка, што разам з паэтам і я змагу,

> убачыць, што шляхі жыцця
> за маім курганам пашырэлі.

Выпрабаванне часу вытрымае не рэквізіт, а душа эпохі, жывы чалавек, яго характар, яго спадзяванні. Максім Танк ужо даўно плыве не на каравеле, а на караблі, плыве смела і ўпэўнена, не баючыся сустрэчных айсбергаў і рыфаў. І зусім не ў яго характары стаяць на палубе ў якасці пасажыра. Ён вальней адчувае сябе матросам на мачце. Ён прагне буры, каб зверху ўбачыць, як гінуць слабыя караблікі, каб загадзя ўгледзець перашкоду на шляху, якую не заўважыш з палубы. У спакойную пагоду, калі на моры штыль, калі здаецца, што карабель плыве марудна, гэты няўрымслівы матрос хапаецца за шуфель качагара. Перад ім — нялёгкі шлях, але ад гэтага ўсведамлення яшчэ больш велічным, больш прывабным робіцца той маяк, да якога плыве карабель.

У вершы «Заўсёды поўначчу» Танк чыстасардэчна і з усёй адказнасцю за сябе, за сваю творчасць, гаворыць:

> Я не імкнуся тых дагнаць,
> чый недалёкі шлях у моры,
> бо нам патрэбна ў жыцці
> яшчэ адкрыць нямала спектраў,
> пакуль ля нейкай з Атлантыд
> з ног не саб’е салёным ветрам, —
> тады па мачце смаляной,
> што даплыве да родных гоняў,
> ці па баклазе, у якой
> норд-остам запавет прыгоніць, —
> патомкі змогуць адчытаць
> апошнія каардынаты…

Гэты верш напісаны Танкам у дні Айчыннай вайны і ўваходзіць у яго кнігу «Вастрыце зброю», і, можа, ён не так прыкметны, як іншыя найбольш надзённыя, але колькі ў ім глыбокага роздуму, колькі ўнутранай эмацыянальнай сілы! Такія вершы лёгка не даюцца, гэта словы, выпрабаваныя часам і лёсам паэта, гэта ўжо яго крэда, тая ўласная запаветная тэма, якая ўласціва толькі сапраўднаму мастаку. Паэт трымае адказ і перад сваім сумленнем, і перад нашчадкамі, якія, як і цяпер сучаснікі, маюць права спытаць:

Якімі гукамі струны
ці песнямі ты ўвекавечыў
дні гора, нашай славы дні
і гэтых зораў бляск прадвечны?

І каб не было прыкрым дакорам тое слова, якое прыбоем часу вынесе на мель разам са шмаццём разбітых суднаў, трэба руплiва агледзець ветразі,

праверыць кожнае вясло
і прасмаліць жывіцай днішчы.

Трэба здабыць тое дакладнае, жывое і велічнае слова, якое знойдзе водгук у чалавечай душы, якое заўсёды будзе для чалавека жаданым і неабходным.

Танк умее здабыць гэтае слова. Калумбы адкрываюць нязведаныя землі, а сапраўдныя мастакі — новыя вобразы і словы — у гэтым шчасце творчасці.

Хіба таму і нам — паэтам,
пражыўшым век, апошні дзень
здаецца днём тварэння свету…

Запаветная тэма мачты ўзнікла ў Танка не выпадкова, яна даўно жывіць яго творчасць велічнымі паэтычнымі вобразамі. Тэма прагнага імкнення ў будучыню, упэўненасць у ажыццяўленні светлых спадзяванняў свайго народа з'яўляецца ў першых вершах паэта і знаходзіць ужо выразныя рысы ў кнізе «Пад мачтай» (1937).

Люблю стаяць пад цяглай соснай —
пад звонкай мачтай залатой, —
і плыць туды, дзе звоняць вёсны —
плыве і край увесь з табой.

Пад вершам «Сон над Нёмнам» стаіць дата 1938–1945 гг. Сем год паэт выношваў у сабе даўнюю творчую задуму, сем год неадступна хадзілі за ім вобразы яго задушэўнае тэмы, прайшлі разам з паэтам праз вайну, праз жорсткае выпрабаванне часу і, нарэшце, знайшлі сваё ўвасабленне ў цудоўнай хвалюючай споведзі.

Паэт падахвоціўся паплыць у зманлівае падарожжа, у Індыю па шчасце, падахвоціўся таму, што яго няўрымслівая і дапыт-

лівая натура прагне новага і нязведанага, але ён горка расчараваўся, калі ўбачыў, што яго спадарожнікі сэнс шчасця знайшлі ў нажыве, у набыцці золата і караляў. Калі з далёкае бацькаўшчыны прыплыла сасновая галіна, паэт адчуў, што сапраўднае шчасце чалавека толькі на роднай зямлі, у сумленнай працы.

Так, здавалася б, на вельмі даўнім чалавечым лёсе, на лёсе Калумба паэт ставіць тэму любві да радзімы і вырашае яе не толькі з поўным адчуваннем свайго часу, але знаходзіць яшчэ тое адвечнае жывое пачуццё, якое будзе заўсёды блізкім і зразумелым чалавеку. Паэт зазірнуў у далёкае мінулае з прыстрасцем сучасніка, з адказнасцю за заўтрашні дзень, за будучае. Гэта і надало твору тыя шчаслівыя якасці, якія заўсёды будуць вызначаць яго актуальнасць, яго паэтычную дзейснасць. Тыя, хто дзеля ўласнае нажывы, дзеля золата і караляў выракліся бацькаўшчыны, страцілі і душу чалавека, страцілі шчасце — адчуваць, разумець і бачыць свет. Ніхто з удзельнікаў паэтавага падарожжа не мог уявіць сабе, што такое сасна.

Я паказаў яе сябрам,
прыплыўшую з-пад Нёмна,
але ніводзін з маракоў
не мог сасны прыпомніць.

Тады я вырашыў адзін
плысці да той хваіны,
што працягнула да мяне
праз акіян галіну…

Шмат напісана пра Калумба. Тэма старая, але пад пяром Танка яна стала новай і глыбока сучаснай. Танк часта свядома ідзе на выклік, на спаборніцтва і з сучаснікамі і з папярэднікамі. І цудоўная сіла яго ў тым, што ён перамагае іх. Ідучы ад лепшых, ужо створаных узораў, ён узнімаецца да новых і больш дасканалых. Калі Багдановіч быў першым, хто стаў узбагачаць беларускую паэзію вопытам сусветнай паэтычнай культуры, дык Танк па праву можа быць названы адным з лепшых прадаўжальнікаў барацьбы за высокі прэстыж нашай сучаснай паэзіі. «Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавай культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу», — так пісаў Максім Багдановіч у 1915 г. у артыкуле «Забыты шлях». Сам паэт вельмі шмат перакладаў з многіх моваў, распрацоўваў

тэмы, вядомыя ў сусветнай паэзіі, аднак заўсёды прагна імкнуўся да жывых крыніц творчасці — да свайго народа, да яго жыцця, каб «зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам» народа.

У святле гэтай аналогіі варта адзначыць новыя вершы Танка на запазычаныя матывы: «Песня Яносіка» і інш. Ні ў адным з іх мы не заўважым залежнасці, наадварот — тэма, матыў змяняюць самую сваю прыроду, урастаюць у нашу глебу не кветкамі з чужых палёў, а жывымі кветкамі нашай роднай паэзіі. Вытокі творчага дару Максіма Танка, вытокі яго паэтычнай культуры ідуць ад лепшых здабыткаў сусветнай паэзіі. Песня Яносіка — гэта не рамантыка традыцыйных літаратурных разбойнікаў з усімі яе экзатычнымі атрыбутамі, а жывая пераемнасць, якая бярэ свой пачатак ад далёкае вольніцы храбрых паўстанцаў Налівайкі, Крывашапкі і Гаркушы да Кастуся Каліноўскага і партызан Айчыннай вайны. Цяжка ўжо вызначыць і сцвярджаць нават далёкую залежнасць матываў у распрацоўцы такое, скажам, тэмы, як гейнэўская сасна, якая ў Лермантава «на поўначы дзікай стаіць адзінока», і ўлюбёнага Танкам матыву беларускае сасны, якая велічным сімвалам праходзіць праз усю яго творчасць.

Расце на высокім кургане сасна,
каб ведалі…

Ужо не адчуваннем адзіноты і тугі, а паэтычным увасабленнем любві да радзімы, жыватворчай крыніцы натхнення ўзвышаецца гэтая сасна над светам і працягвае да паэта праз акіян свае галіны, робіцца мачтай, пад якою ён з летуценнага падарожжа плыве ў «поўдзень вераснёвы» — у 1939 год — год гістарычнага з’яднання беларускага народа, адкуль пачынаецца ўжо рэальнае падарожжа ў будучыню, да самых вялікіх мэт, да высокіх ідэалаў чалавецтва. Паэт прадаўжае свой шлях пад запаветнай мачтай ужо не на летуценным адзінокім чаўне, а на магутным караблі сваёй Радзімы.

Мы прасачылі творчае развіццё аднае тэмы Максіма Танка ад пачатку яе ўзнікнення і да бліскучага завяршэння.

У тэме мачты, як увасабленні імкнення наперад, паэт узнімаецца да вяршынь абагульненняў, якія пад сілу толькі сапраўднаму паэтычнаму таленту, таленту, які спалучыў у сабе казачную фантастыку летуценніка і рэальнасць мысленніка — дзёрзкага і смелага нашага сучасніка. Да гэтае тэмы, як да жывое крыніцы, імкнуць чыстыя ручаі і іншых матываў Танка: вернасць баць-

каўшчыне, погляды на мастацтва, і знаходзяць сваё цудоўнае ўвасабленне ў паэзіі, жыццёвасць і значэнне якой вызначаюцца ўжо не асабістай біяграфіяй, а маштабамі таго «вогненнага небасхілу», праз які прайшоў паэт разам са сваім народам.

У гады Айчыннай вайны, у гады суровага выпрабавання Максім Танк змог глыбока адчуць і зразумець душу народа, пафіласофску гістарычна асэнсаваць вытокі народнага аптымізму і ўпэўненасці ў перамозе над ворагам. Яго «Легенда пра музыку» па сваёй паэтычнай сіле — гэта твор з тым мачтавым даляглядам, як і «Сон над Нёмнам». «Легенда» — узор творчай смеласці Танка, прыклад неймавернага супрацiўлення традыцыйнасці тэмы. У беларускай паэзіі тэма музыкі ўжо даўно стала нацыянальнай тэмай. Як пачуццё матчынай любві нарадзіла бессмяротную калыханку, так імкненне беларускага народа вынесці праз стагоддзі і захаваць сваю самабытнасць нарадзіла неўміручы вобраз музыкі, які ўвасабленнем народнай душы ўвайшоў і ў фальклор і ў нашу літаратуру, пачынаючы ад Паўлюка Багрыма: «Зайграй, зайграй, хлопча малы…», ад Багушэвічавых «Смыка» і «Дудкі», Купалавых «Кургана», «Жалейкі» і «Гусляра», Коласавага «Сымон-музыкі», Бядулевага «Салаўя» і, нарэшце, да Танкавай «Легенды» і «Цымбал» Куляшова. Танк стварыў гранічна ясную па сваёй філасофскай ідэі і паэтычна выразную рэч, якая служыць як бы завяршэннем яго даўніх разваг аб бяссмерці народа і яго мастацтва («Памёр стары лірнік», «Сказ пра Вяля») і матываў новых вершаў («Я майстэрню скульптара люблю», «Рубікон», «Камяні» і інш.). Глыбокае асэнсаванне тэмы, імкненне дапытлівым вокам зазірнуць са сваёй мачты за небасхіл — вось што поўніць лепшыя вершы Танка магутнай унутранай энергіяй і адчуваннем подыху сучаснасці.

Умець у кроплі ўбачыць акіян — гэта і ёсць паэзія, гэта і ёсць мачта, з якой паэту відно тое, чаго не відаць іншым. У Танкавых вершах думка і пачуццё не толькі ў радках, а і паміж радкоў. Эмацыянальная атмасфера вобраза — шырэй, чым яго літаральны сэнс. З прывязанай да мачты сасновай галінай Танк прыплыў у «поўдзень вераснёвы». Вобраз вырас да абагульнення вялікіх гістарычных падзей.

У М. Танку шчасліва спалучаліся і летуценнік, і мысленнік. Гэта — майстра, які заўсёды прагне новага і заўсёды незадаволены тым, што ўжо створана, тым дасягнутым, што «праз дзень, як брага, перабрадзіўшая ў віне», ужо не гасіць вечнай прагі і болей не цешыць паэта.

Па біяграфічнай схеме цяжка ўявіць сабе — адкуль у Танка такое жывое адчуванне мора, такое імкненне ахапіць сваім вокам акіянскія далягляды. Вядома, што паэт нарадзіўся каля возера Нарач, аднак караблі там не хадзілі, і каравелы Калумба зусім не адтуль пачыналі сваё падарожжа. Як відаць, тэма ідзе не толькі ад біяграфіі.

Самае страшнае для сапраўднага паэта — самазадаволена заспакоіцца на дасягнутым, застыгнуць у знойдзенай, хаця б і дасканалай форме. Але хіба ж можна заснуць выведчыку будучыні?

## II. Калыска песні

Рэдка хто з нас не выбудоўваў сваёй мадэлі свету, не прыхарошваў яго форм, не ўдасканальваў яго кампазіцыі.

Ад нашай індывідуальнасці, ад яе значнасці, схільнасцяў і густу кожнага залежаць і памеры збудаванняў.

Магчыма, што і прыемна, і ўтульна ва ўласным свеце, дзе ёсць свой небасхіл і свой Млечны Шлях, але якім бы ўзнёслым ні было ўяўленне, наўрад ці паменшаюць ад гэтага сапраўдныя прасторы сусветнага акіяна і спросціцца само жыццё, яго законы, супярэчнасці, канфлікты, драмы і трагедыі, веліч яго хараства.

Значнасць паэта не толькі ў тым, што ён пабудаваў яшчэ адну мадэль сваіх уяўленняў. Усяго багацця аб'ектыўнай рэчаіснасці не ўмесціць ніводная мастацкая сістэма, якой бы ёмістай яна ні была. Сусвет паэзіі бясконцы, а ў ім — бясконцыя магчымасці для кожнага творцы і будаўніка.

Па разнастайнасці, па ахопу тэматычнага матэрыялу ў беларускай паэзіі наўрад ці хто можа спаборнічаць з Максімам Танкам.

На яго будаўнічай пляцоўцы такая раскоша выбару, такія запасы, што справіцца з імі можа толькі прараб паэзіі з Танкавай творчай энергіяй і эстэтычнай эрудыцыяй.

Сярод яго будаўнічых матэрыялаў шмат каштоўнасцей, што вядомы і даступны многім майстрам і якія з не меншым поспехам карыстаюцца падобнымі багаццямі, такімі, скажам, як фальклор, але ў Танка ёсць і скарбы, якімі ў сучаснай беларускай паэзіі, бадай, валодае ён адзін.

Я маю на ўвазе ўжо вядомыя сусветнай паэзіі магутныя вобразы, народжаныя творчай фантазіяй розных народаў, і якія праз тысячагоддзі зберагла людская памяць.

Маштабнасць вобразаў сучаснага паэта, гістарызм яго мыслення вымагаюцца ўжо не толькі вышынямі дасягненняў навуковага і тэхнічнага прагрэсаў, але і духоўнага развіцця чалавека.

Не баючыся парадаксальнасці аналогій, збліжаючы антычныя і сучасныя сюжэты, пераасэнсоўваючы вобразы, што прыйшлі да нас з гістарычных глыбінь, паэт дае ім новае жыццё, узбагачае вопытам уласнай біяграфіі, сцвярджаючы гэтым і няспыннасць, і непарыўнасць часу, і духоўныя дачыненні людзей на зямлі, станаўленне асобы чалавека.

Імкненне зразумець гістарычны лёс свайго народа ў сувязях з іншымі народамі — натуральная ўласцівасць паэта. Яна вымагаецца патрэбаю спазнаць непасрэдны працэс дзейснага спалучэння нацыянальнага з інтэрнацыянальным.

Максім Танк умела набліжае антычныя і міфалагічныя вобразы да сучасных жыццёвых сітуацый, дэталяў і нават бытавых падрабязнасцяў.

Яго паэзія вельмі актыўная адчуваннем пераемнасці часу: самы далёкі выток злучаецца з імклівай плынню рэальнага жыцця, з надзённымі падзеямі і на зямлі, і ў сусвеце.

Асваенне міжзорнай прасторы павялічыла адказнасць чалавека за ўсю планету, пераканала ў тым, што не такая ўжо яна бясконцая, што яе скарбы, хараство і нават лёс ужо ў нашых руках і ў нашай уладзе.

Ляту Млечным Шляхам
І чую: нехта плача.

Плача, аказваецца, яна, зямля-матухна, скардзіцца на свайго сына — чалавека. І паэт гаворыць аб гэтым з горкім адчуваннем вінаватасці перад ёю.

Метафара, створаная сродкамі мастацкай умоўнасці, у Танка не пярэчыць жыццёвай праўдзе.

Нічога дзіўнага, што нават сялянскае, мужыцкае, вясковае, самае блізкае яму асяроддзе, з якога паэт пачынае сваё радаслоўе, заўсёды так манументальна паўстае ў яго паэзіі. Гэта, мабыць, таму, што і на мінулае ён глядзіць з вышыні будучага, у якім з’ядналіся дыстанцыі блізкага бачання з дыстанцыямі цэлых гістарычных эпох.

Паэт звяртаецца да вытокаў, да вёскі не як у музей даўніны, а як у асяродак, што ўзбагачае ўражаннямі абнаўлення, пераўтварэння жыцця.

Уяўляю, каб Танк пісаў пра сваю Пількаўшчыну, пра сваіх дзядоў, бацькоў, нарачанскіх сваякоў і знаёмых з блізкай адлегласці часу, па абавязку камандзіроўкі, — магчыма, і гэта было б яшчэ адным з многіх сведчанняў, якія змены адбываюцца ў вёсцы, якімі клопатамі жывуць яе людзі, але для паэта гэтага мала. Ён разумее, якому высокаму і знанаму роду, якой легендарнай генеалогіі абавязаны сваёй адказнасцю перад паэзіяй.

Відаць, ніводная з каралеўскіх дынастый
Не можа пахваліцца такой вечнасцю,
Як мой працоўны род,
Трон якога быў з простага лемяша,
Абапёртага на касу і серп,
На сякеру і гнаявыя вілы.

Сродкамі казачнага, а дакладней — міфалагічнага — узбуйнення Танк малюе многія свае даўнія любімыя і запаветныя вобразы.

Помню: маці заўсёды клалася спаць
Толькі пасля таго, як засыналі
І дзеці ў запечку,
І куры на курасаднях,
І косы, заточаныя пад страхой,
І агонь у задымленай печы,
І вілы з памялом у качарэжніку,
І яблыня, заглядзеўшыся ў студню,
І аблокі над страхой буслінай,
І палявая дарога, закалыханая жытам.

Колькі тут жыццёвых рэалій, прыкмет побыту, працы, наваколля, знаёмага ўсім нам, але толькі спалучаныя вострай памяццю, высвечаныя і павялічаныя праз дзівоснае шкло паэзіі, яны самі ўжо становяцца паэзіяй.

Тая адлегласць часу, цераз вопыт якога паэт глядзіць на дарогу, закалыханую жытам, настолькі вялікая, што нават пачатак уласнага жыцця трэба мераць ужо не гадамі, а стагоддзямі і тысячагоддзямі.

У кнізе «Дарога, закалыханая жытам» паэт так сведчыць сваё з’яўленне на грэшнай зямлі:

Ніякая віфлеемская зорка,
Ніякая планіда

Не абвяшчалі
Аб маім прыходзе на свет…
Толькі, — апавядала маці, —
Пачуўшы мой крык,
Світанак адклікнуўся пеўнем
Ды пратрубіла рабая карова…

Урачыстасць інтанацыі, сам апавядальны лад, не без іроніі, вядома, ужо адразу настройваюць нас на ўспрыняцце аднолькавай важнасці знамянальных, вешчых прыкмет — віфлеемскай зоркі і трубнага голасу рабой каровы.

Бытавыя, нават натуралістычныя падрабязнасці ад такога спалучэння на нашых вачах становяцца роўнымі біблейскім падзеям.

А вось дарога пазнейшага часу — партызанская, «зарослая ўспамінамі, затканая павуціннем бабінага лета». Чаму ж абапал яе так многа курганоў? — пытаецца паэт, і сам дае адказ:

Знаць, быў час,
Калі толькі яна
І вяла да жыцця.

Шмат дарог — бясконцых, горкіх, пакутных — прайшло праз лёс, праз памяць народа, і ўсе скрыжаваліся ў сэрцы паэта.

Шырокі гістарычны пагляд памагае Танку не толькі выпрабоўваць трываласць слова, але і глыбока пранікаць у цалінныя пласты жыцця, у духоўны вопыт чалавецтва ад міфалагічных вытокаў да бурных падзей свайго часу.

Шчаслівая перавага паэзіі перад іншымі жанрамі літаратуры, мабыць, яшчэ і ў тым, што яна можа ўмясціць цэлыя эпохі і людскія лёсы ў адной метафары, у адным вобразе. Самыя далёкія міфы, створаныя на зары чалавецтва, Максім Танк смела ўключае ў сваю вобразную арбіту, і яны выдатна служаць яму маштабнасцю сваіх алегорый і аналогій.

Як вядома, Маркс і Энгельс заўсёды падтрымлівалі думку, згодна якой міф абавязкова надзелены аб'ектыўным рэальным зместам.

Сучасны паэт творыць свае міфы:

Як Мікеланджэла тварыў сваіх «Рабоў»,
Што рыхталіся паўстаць з ярма і поту,
У дзверы скульптара загрукаў ноччу Бог,
Прыйшоў, прасіў яго: «Спыні сваю работу!»

Да раніцы яны спрачаліся, чуваць.
І Бог, разгневаны, пакінуў гэту стрэчу.
Не змогшы запалохаць і пераканаць,
Да Мікеланджэла паслаў анёла смерці.

Сам Бог бяссільны перад уладай мастака, што ўславіў веліч чалавека.

А вось чатырохрадкоўе паэта — жарт, высветлены добрай усмешкай сучасніка, які сустракае свайго знаёмага, можа быць, нават калегу, што пры жыцці ўжо ўвераваў у высокую місію сваёй выключнасці:

Сустрэў несмяротнага
І мне стала смешна:
Блізкія і сябры пакінулі яго,
А ён, дзівак, згадзіўся жыць далей.

Якая паміж імі сувязь, гэтымі двума вершамі? Можа здацца, выпадковая. Але ведаючы прыхільнасць Танка да асабліва дарагіх яму матываў, мы можам прыгадаць яшчэ многія і многія яго творы, якія яднае вельмі акрэсленая грамадзянская пазіцыя, светапогляд паэта, спецыфіка яго аналізу жыцця.

Здавалася б, каго ў наш час можна здзівіць навіною, што ў сялянскай хаце загарэлася электрычнае святло? Навіна паўвекавой даўнасці.

Танк піша пра першую электрычную лямпачку ў сваёй роднай хаце, у заходнебеларускай вёсцы, для якое яна, сапраўды, была падзеяй, але ці магла электрычная лямпачка стаць падзеяй для паэзіі цяпер, у нашы дні?

У Максіма Танка яна становіцца падзеяй, дзякуючы аб'ёмнасці метафары, якая ўбірае ў сябе гісторыю ад цьмяных выбліскаў чалавечай думкі да самых крутых вяршынь нашага стагоддзя. Бытавая з'ява вырастае да памераў, роўных падзеям цэлых эпох.

Гэтым вершам, як эпіграфам, адкрывалася кніга паэта «Хай будзе святло».

Чамусьці словы «Хай будзе святло!»
Прыпісваюць нейкаму Саваофу,
Хоць не ён, як вядома,
Распаліў першы касцёр,
Каб пагрэцца,
Крэсівам аб крэмень
Высек іскру,

Каб зварыць сабе страву
Ці закурыць самакрутку;
Не ён залпам Аўроры
Азарыў цемру,
Не ён з прыладамі
Прыйшоў у сяло,
Сказаў маёй маці:
— Хай будзе святло!
І запаліў лямпачку Ільіча.
І сёння старая
Моліцца за здароўе
Нашага электраманцёра.

Дарога, якою паэт абышоў увесь свет, не раз прыводзіла яго да свайго пачатку. Гледзячы на хату свайго маленства, Максім Танк са здзіўленнем, але не без гордасці пытаецца: «Няўжо хаціна гэта была калыскай песні?»

Танк чуе не толькі песні сваёй маці, але і адвечную калыханку, якую чалавецтва склала на пачатку свайго маленства.

### III. Дзённік душы

Пра нерэальнасць будавання без трывалай асновы гавораць: дом на пяску. Матэрыяламі якой моцы трэба валодаць паэту, каб яго збудаванні маглі вытрымаць навальніцы часу? Яны ў паэта ёсць: слова, вобраз, думка.

Дэкларацыя, якой пачынаецца новая кніга Максіма Танка, на першы пагляд, таксама простая. Вось як ён будуе «свае дамы»:

Я пачынаю
З дыму над комінам,
З буслінага гнязда,
Якое прымацоўваю да страхі…

Гэтак жа будуюць «свае дамы» і першаадкрывальнікі свету — дзеці, пра якіх і для якіх Танк любіць пісаць і піша надзвычай тонка і хораша, бо паэзія і маленства заўсёды непадзельныя.

У вершы з папярэдняй кнігі, вельмі дасціпным па зместу, які, бадай, можна вызначыць ужо самой назвай «Аптымізм», аўтар як бы з дзіцячай даверлівасцю знаходзіць самасуцяшэнне нават перад такім біблейскім катаклізмам, як «канец свету». А ў школе ж вучылі, гаворыць паэт, што «матэрыя вечная», і я, здаецца, здаў урок на выдатна, але ніколі не пераставаў дзівіцца

гэтай вечнасці. Вось чаму, стаўшы бацькам, на ўсякі выпадак у магазіне цацак накупляў для сваіх дзяцей кубікаў, літар, лічбаў, з якіх «яны заўсёды змогуць свет сканструяваць не горшы, як мы».

Міф першаадкрыцця, першатварэння свету пачаўся, як вядома, з першага слова чалавека, і на працягу тысячагоддзяў будуецца ён, гэты свет, з матэрыялаў рознай трываласці. Але і паэт, будуючы яго згодна са сваімі канструкцыямі, не можа даць гарантый вечнасці.

У вершы «Павестка ў суд» Танк намаляваў дзень страшнага суда над паэтам, калі ўжо не людзі, а робаты вінавацяць яго за тое, што піша ён вершы, не запраграмаваныя камп'ютарамі.

Але як укладзеш у праграму камп'ютара ўсе пәражытыя і яшчэ невядомыя і непрадбачаныя пачуцці, калі нават самае запаветнае з іх — каханне і тое трэба выводзіць прычынамі першароднага граху, калі ўсе непаразуменні, усе вялікія драмы, трагедыі і камедыі пачаліся са злашчаснага яблыка разладу.

Гэты яблык у тваіх руках,
Наліты спакусай нясцерпнай,
Мне прыгадаў, як мы на світанні
Асцярожна пракрадваліся ў сад…
Бо ледзь мы паспелі сарваць першы яблык,
Як вэрхал узняўся ў Эдэме такі,
Які і да сённяшніх дзён не сціхае.

Нават калі перажытае аддаляецца на ледзь бачныя адлегласці, і тады паэт павінен угледзець яго вачыма тых, хто прыйдзе пасля нас. Што было табе асабліва дарагім, не можа растварыцца і патануць у нябыце. Характары, аблічча людзей, якія тварылі гісторыю, могуць застацца ў памяці наступных пакаленняў толькі ў вобразах, засведчаных народнай паэзіяй.

У лірыцы Танка вельмі моцна адчуваецца эпічная аснова. Яго любімыя жанры — легенда, паданне, гераічны сказ, балада, метафарычныя асаблівасці якіх патрабуюць мужных характараў, самаахвярных учынкаў і подзвігаў.

Паэт творыць свае вобразы з асяроддзя, з побыту, якія былі першавытокамі фарміравання яго жыццёвых уяўленняў: хата, у якой нарадзіўся і вырас, з усім укладам жыцця, з начыннем і прыладамі, з людзьмі працы, натурамі адметнымі і самабытнымі. Калі б Танк пра ўсё гэта пісаў ідыліі і пастаралі, наўрад ці ўспрымалі б мы сёння яго паэзію, як вартую ўвагі сучаснікаў. Нават рэліквія, засведчаная гісторыяй, не заўсёды стымул натхнення.

У музеі — маска паэта
Акамянелая.
Абыякавая да ўсяго.
Разбіце або прыміце яе!
Ці ж вы не знаеце,
Што, каб ён быў такім,
Як гэта маска,
Напэўна яшчэ жыў бы.

Алімп ці жыццё з усімі яго трывогамі, смуткам і радасцю? Вядома, жыццё — бясконцае, невычэрпнае ў сваім змесце, без якога няма паэзіі.

Цікава прасачыць адносіны паэта да формы, якой ён ніколі не аддаваў і не аддае перавагі над зместам.

Традыцыі і іх адмаўленне, класічны радок і верлібр, строгая метрыка і вольны, інтанацыйны верш — усё гэта дзейсны арсенал практычнай паэтыкі Танка.

У кнізе «Дарога, закалыханая жытам» ёсць вельмі характэрныя для погляду Танка на традыцыі і законы класічных форм два санеты. Калі ў першым «на караблі санета» паэт гатоў, як на ракеце, адправіцца ў космас «на дальнія сузор'яў астравы» і запэўнівае нас, чытачоў, што гэтаму караблю гарантавана выпрабаваная надзейнасць, бо «мой карабель — санет збудаваў вялікі Дантэ, а сам Шэкспір на ім адкрыў сусвет», дык у другім санеце, задумаўшыся над пытаннем: чым ён сам, як паэт, павінен аддзячыць сваёй рупнай і працавітай Музе, і, перабраўшы ўсе магчымыя дарагія скарбы і ўпрыгожанні, рашуча адкідае «вопратку багіняў старажытных». Ды і сама яго Муза не прымае такога адзення:

Як мне ў ім дзіцянё карміць, не знаю,
Як працаваць і цешыцца з табой,
Калі санет твой грудзі і стан мой
Чатырнаццаццю клямрамі сціскае.

Першы санет, з дапамогаю якога Шэкспір адкрыў сусвет, у Танка так і называецца — «Санет».

Другі, што сучаснай, рупнай і працавітай Музе сціскае грудзі чатырнаццаццю клямарамі, называецца — «Антысанет».

Як бачыце, у паэта вельмі выразныя сімпатыі і антыпатыі да магчымасцяў формы і нават катэгарычнае адмаўленне кананізацыі традыцыйных сродкаў паэтыкі.

Ёсць тэмы, якія можна ажыццявіць выпрабаванымі прыёмамі. А як падступіцца да сённяшняй Музы, увасобленай у зямной велічы і хараստве?

У гэтым сэнсе — у творчым асваенні сучаснай тэмы — Танк шукае настойліва, упэўнена і смела. Але пошукам не заўсёды гарантаваны поспех. Не заўсёды і Танкавы знаходкі становяцца мастацкімі адкрыццямі. Як не дзіўна, але і творчыя пралікі Танка ідуць ад багацця яго таленту. Экспромт, імправізацыя, калісьці ўзаконеныя жанравай класіфікацыяй, сёння, бадай, па сіле вельмі нямногім. А між тым, здольнасць імправізаваць уласціва выключна актыўным натурам. Танк здольны на імправізацыю. Але слова, залежнае ад свайго гукавога радовішча, у графічным вымаўленні часта — ой, як часта! — траціць дасканаласць суладнасці і сінхроннасці, бо яго, гэтае слова, нават самае паэтычнае, мы ўспрымаем усё ж зрокам, як той айцец Амброзі, што па сведчанню Аўгусціна Аўрэлія, чытаючы кнігу, «водил только очами, а уста его безмолвствовали».

Вершы чытаюць, яшчэ болей любяць слухаць. Да друкаванай распаўсюджанасці паэзіі навукова-тэхнічныя пераўтварэнні далучылі яшчэ і неабмежаваныя магутныя магчымасці слухаць паэтычнае слова. І гэта вымагае ад сучаснага паэта асаблівай дасканаласці зрокавага і слыхавога сінтэзу.

Танк — не гранільшчык, не шліфоўшчык, не віртуоз слова, ён хутчэй — скульптар, разьбяр, які з глыбы адсякае лішняе, загадзя бачачы патрэбны яму вобраз, разам з якім часта пакідаючы і рэшткі пароды, у якой мы заўважаем пласты, прожылкі, сляды разца — і ўсё гэта, разам узятае, — доказ смелага абыходжання з матэрыялам, засведчанага праўдай творчасці.

Нездарма з такім захапленнем і нават шчырай зайздрасцю паэт гаворыць свайму далёкаму папярэдніку:

— Шчаслівы ты, што можаш Галатэю
У мармуры стварыць, Пігмаліён.

Гэта рэдкая шчодрасць таленту, што вызначаецца не толькі ахопам разнастайнасці жыцця, але і спосабамі, і сродкамі яго даследавання.

Ён — паэт думкі, вобраза, якія заўсёды нясуць ідэю, акрыляюць яе.

Цікава, што Танк амаль ніколі не піша вершаў тэматычнымі цыкламі, хаця паэтычны лад, форма гатоўнасці думаць вобразамі, жыць у атмасферы творчага мыслення застаюцца заўсёды

ўласцівымі яму. І хоць ён друкуе вершы вялікімі падборкамі, у яго не цыклава-тэматычны спосаб творчасці. Яго актыўнаму, нястомнаму таленту ўдаецца большае — штодня, кожную хвіліну жыць паэзіяй, ёю, паэзіяй, выпрабоўваць, даследаваць і асэнсоўваць рэчаіснасць.

Максім Танк на працягу ўсяго жыцця піша дзённік паэта.

Ідзе час, падуладны сваім законам: бывае, здаецца, што вырашаны ўсе праблемы і супярэчнасці, аднак ёсць дні, якія паэт называе шчаслівымі, калі, усумніўшыся ў нейкай драбніцы, пераконваешся, што «ўсё — ад альфы да амегі — трэба вырашаць нанава».

Гэта і ёсць дні паэзіі, шчаслівыя не ў іх святочным значэнні, а як радасныя будні творчасці, як хвіліны адкрыццяў.

Ёсць і ночы, не меней шчаслівыя, у якія не ведаеш, «як жа мне заснуць, калі яе прыгадаўшы (дарогу, закалыханую жытам. — *В. В.*), не спяць мае думы».

Усякія бываюць бяссонніцы, па рознаму шчаслівыя, ды паэтава, мусібыць, найболей — шчаслівая, бо з усіх спосабаў пазнання свету паэзія — самы шчаслівы, нават калі толькі для паэтаў, згодзімся, што яны варты гэтага шчасця.

## IV. Паэтавы пяцігодкі

Максім Танк піша свой паэтычны дзённік натхнёна, актыўна, дзейсна, са страснай зацікаўленасцю сучасніка да падзей жыцця не толькі вакол сябе, але і на ўсёй планеце. Яго паэзію нараджаюць пачуцці высокай грамадзянскасці. Верш для яго — сродак і форма сучаснага мыслення. І часта абсяг яго ўражанняў, разваг і трывог — цэлы сусвет, які ўмяшчае ў сябе яшчэ не адкрытыя галактыкі. Калі прасачыць нават асобныя асяродкі яго «космасу», нельга не заўважыць, колькі стыхій перакрыжавалася між сабой, беручы свой пачатак у паэтавым сэрцы. З бясконцай прагнасцю вандроўніка ён спазнае і асвойвае ўсё новыя мацерыкі.

Максім Танк смела далучае сваю паэзію да ўсіх крыніц народнай памяці — ад міфаў старажытнай Грэцыі, сюжэтаў і матываў італьянскага Адраджэння, Арабскага Усходу, Індыі, Скандынавіі да незлічоных скарбаў славянскага фальклору з яго цнатліва чыстымі вытокамі, што жывілі не толькі нашу народную, песенную лірыку, а і заўсёды былі асноваю этычнамаральных уяўленняў народа.

У гэтым шырокім абсягу творчых інтарэсаў паэта не цяжка пераканацца, чытаючы кожную яго кнігу.

У «Дарозе, закалыханай жытам» ёсць верш «Гербарыі», дзе ў інтэрнацыянальным сінтэзе аб'ядналася ўся прырода свету — кожны ліст, галінка, кветка як вобраз, як напамін аб мясцінах і кутках зямлі, асабліва дарагіх сэрцу паэта: «куст палыну з хатынскіх папялішчаў, трысцінка з шалаша ў Разліве, каштана ліст, што помніць Пер-Лашэз, алівы ліст, які спяваў з Гамерам, цвет амярцвелай вішні з Хірасімы, калючкі кактуса, дзе стыне кроў Гевары…»

Максім Танк — нястомны працаўнік паэзіі. Ён здабывае яе, не чакаючы таго ўмоўна прыгожага натхнення, што асяняе чало сваіх абраннікаў.

Звярніце ўвагу на даты пад яго вершамі. Бываюць такія плённыя перыяды, калі пішуцца па тры-чатыры вершы за дзень. Паэзія — стэнаграма яго душы.

Два, тры, чатыры вершы за адзін дзень і не абавязкова звязаныя адной тэмай, адным матывам і настроем. Часцей наадварот — розныя тэмы і матывы.

Вось тры, напісаныя 14 студзеня 1975 года: першы — «Сцяг свабоды» — аб сцягу, які трымаюць рукі, гатовыя ўзняць яго да сонца пад песню «Паўстань, пракляццем катаваны»; другі — «Алхімія», не падманная, а тая, чарадзейная, што валодае сакрэтам, як здабываць хлеб і віно, а з іх — дружбу, а з дружбы — любоў, і трэці верш «У гэты дзень» — пра дзень смерці маці.

Як вымяраць шкалу настрою, узровень хваляванняў, трывог і роздуму паэта, падначаліць адной тэме, аднаму матыву?

Ён жыве згодна з законамі свайго сэрца.

І, магчыма, што адзіна правільны прынцып — храналагічны, па якім Максім Танк выконвае свае паэтычныя пяцігодкі, складаючы чарговую кнігу. Ён ніколі не расстаўляе, не тасуе вершаў па тэматычных раздзелах і рубрыках, кожная яго кніга — дзённік. А дзённік і надзённасць — не толькі блізкія разуменні, яны і катэгорыі, якімі вымяраецца значнасць чалавечай асобы. Якімі пачуццямі жыве паэт, гаворачы сам-насам з сабою, давяраючы дзённіку сваё запаветнае, залежыць і зацікаўленасць, і вышыня думкі, і ўзровень эмацыянальнага суперажывання ўсіх нас, хто чытае гэты дзённік.

Значнасць паэтычных дзённікаў Максіма Танка якраз і характарызуецца маштабнасцю індывідуальнасці паэта, значнасцю яго асабістага «я», што жыве думамі, хваляваннямі сучасніка, грамадзяніна, камуніста.

Як паэт, ён не задавальняецца гатовымі, здавалася б, ужо выпрабаванымі рашэннямі тэм. Нават устойлівыя, традыцый-

ныя сентэнцыі, што ўвайшлі ў народную паэзію, у мудрасць прымавак, ён бярэ не для цытавання, а для палемікі, часта для катэгарычнага адмаўлення.

Так усім вядомы фразеалагізм «мая хата з краю» ён рэзка паварочвае другім бокам: з краю, значыць, на самым буі, адкрытая ўсім вятрам, навідавоку, пры вялікай дарозе, на пярэднім краі жыцця — кожнаму я патрэбны. Мая хата — з краю, вось чаму ў мяне

Усе дні — клапатлівыя,
Усе ночы — бяссонныя,
Усе лавы — занятыя
І ніколі не гуляюць
Ні міскі, ні лыжкі,
Ні конаўкі, ні цымбалы.

Крылаты афарызм Геракліта аб тым, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, паэт абвяргае прыкладам сучаснай яму гісторыі: званне Героя прысвоілі двойчы салдату, які першы раз фарсіраваў Бярэзіну як разведчык, а другі раз — у наступленні, кінуўшыся грудзьмі на фашысцкі дот.

Адкрытая палемічнасць, вострая іронія і лагодная ўсмешка — заўсёды надзейныя памочнікі паэту.

Любімыя ім матывы, як ручаіны, падуладныя галоўным плыням, хоць і не адразу, не ў часе ўтварэння, а бывае, што праз дзясяткі год, але абавязкова зліваюцца ў адзіную плынь, у агульную сімфонію яго лірыкі.

Нават па зместу яго дзвюх апошніх кніг не цяжка заўважыць, як на адну і тую ж тэму паэт піша па некалькі вершаў: «Ля помніка Янку Купалу», «Ля фантана», «Сустрэча з Янкам Купалам» і «Пераносім урну з прахам Янкі Купалы»; «Якуб Колас збірае грыбы», «Ля помніка Якубу Коласу» і «Наведванне дома Якуба Коласа». А калі далучыць да іх яшчэ раней напісаныя «Якубу Коласу» (1946) і «Янку Купалу» (1947), дык гэта ўжо вельмі цікавая падстава для развагі і асэнсавання, як вершы, што пісаліся ў розны час, утварылі як бы цэлыя паэтычныя сюіты.

І гэта толькі адзін прыклад. А колькі іх ва ўсёй творчасці Танка!

Не часта здараецца, калі адзін верш становіцца з'явай паэзіі і па сваёй значнасці варты цэлых кніг.

Такой з'явай у нашай паэзіі быў яго верш «Ave Maria».

Але яшчэ радзей здараецца, калі адзін верш становіцца аб'ектам спецыяльнага даследавання, калі крытык піша артыкул, прысвечаны разгляду аднаго верша.

Пра «Ave Maria» напісаны такі артыкул. Малады на той час Алег Лойка даследаваў верш цікава і падрабязна — і яго змест, і яго архітэктоніку, і трагічную атмасферу, у якой адбываюцца падзеі — гіне найвялікшае тварэнне прыроды — хараство жанчыны, што не спазнала ні радасці дзявочага кахання, ні шчасця матчынага пачуцця: «Як танцавалі б ножкі такія… 0, як кармілі б грудзі такія…» Нават разумеючы трагедыю свайго лёсу, прыгажуня ў адзенні манашкі ідзе «пад зводы змрочныя і глухія».

Так канчаецца гэты верш, напісаны ў 1957 годзе. Канчаецца верш, канчаецца і даследаванне крытыка. Але не канчаецца думка паэта. Вобраз манашкі нечуванай прыгажосці атрымлівае сваё далейшае развіццё і завяршэнне.

Праз пятнаццаць год пасля напісання «Ave Maria» з'яўляецца «Готыка “Святой Анны”».

Не бяруся сцвярджаць, што аўтар спецыяльна ставіў сабе за мэту — звязаць, аб'яднаць гэтыя два вершы. Але пачытайце цяпер іх адзін за другім і вы ўбачыце, як яны аб'ядналіся і развіццём сюжэта, і ходам падзей, і іх развязкай. На мове раманістаў гэта ўжо — дылогія.

Сапраўды, па законах паэзіі, па канцэнтрацыі часу гэта вершы, але калі б раскадзіраваць іх паэтычную ўмоўнасць і перакласці на апавядальную мову, дык гэта ўжо цэлы сюжэт для гераічнай драмы, для гістарычнага рамана.

Не пакарылася «зводам змрочным і глухім» прыгажуня-манашка! Ды, напэўна ж, і само яе хараство не магло не стаць трагедыяй. Хто не здзівіцца, убачыўшы ўвасабленне такой цнатлівай чысціні! Нават каменнае сэрца езуіта і тое не вытрымала. Бо дзе прыгажосць, там, згодна з апостальскімі догматамі, абавязкова — спакуса, грэх.

Хто мог бы падумаць, што юная безабаронная істота, якая не мела нават уласнага імя, здольна падняцца да ўсведамлення бунту! Але вось у «Готыцы “Святой Анны”» раптам выбухае гэты бунт — гэты выклік усім грозным уладам і цёмным сілам. Позна і бескарысна павучаць і спавядаць. «Грахаводніцы Анне» ўжо не страшная нават смерць. У ката, які павінен быў споўніць прысуд, тройчы выпадае з рук сякера. Сам біскуп асуджае яе «на споведзь агню святога».

І вось высокі касцёр палае.
Ды дзіва дзіўнае бачаць людзі:
Агонь, цалуючы, абдымае
Сваёй ахвяры і стан, і грудзі

І застывае гатыцкім храмам,
Дзе быццам з бронзы гараць чаканнай
Званіца й вежы, аспіды, рамы…
І вусны шэпчуць: «Святая Анна!..»

Ахвяра фанатычнага дэспатызму рве цянёты духоўнага рабства — урачыстасць жыцця перамагае. Сляпая вера з яе дагматамі бесцялеснасці, перавагай духу над «абалонкай зямной» церпіць паражэнне. Перамагае чалавек у вышэйшым яго выяўленні. Але ваяўнічы фанатызм не так лёгка капітулюе. Абвясціўшы сваю ахвяру «святой», ён прыстасоўваецца да больш складаных спосабаў барацьбы за ўладу над чалавекам.

На прыкладзе «Ave Maria» і «Готыкі “Святой Анны”» мы бачым, як трансфармуюцца ўпадабаныя паэтам тэмы і ідэі. Ён не адразу аб'яднаў іх у завершаную кампазіцыю, не падначаліў адзінаму кантрапункту, а як бы даў і чытачу магчымасць далучыцца да магнітнага поля паэзіі, насычанага магутнымі зарадамі думкі.

Найвышэйшая каштоўнасць паэзіі — сам чалавек. І найбольшыя ўдачы лірыкі Максіма Танка — творы пра хараство чалавека, пра вяршыні яго душы.

Вылучаючы галоўны кірунак яго лірыкі — жыццёвую надзённасць, непасрэдную залежнасць ад турбот і клопатаў сучасніка, нельга не зазначыць, што яго творчыя пошукі, рашучае адмаўленне ад традыцыйных форм, можа быць, яшчэ выразней падкрэсліваюць не менш значную асаблівасць яго таленту, што гэта паэт класічнага складу, майстар, які актыўна і з поспехам спалучае свой вопыт з вопытам паэтычнай культуры, выпрабаванай многімі людскімі пакаленнямі.

Разважаючы аб сваёй творчасці, паэт разумее, што кожнае яго слова трымае самы строгі экзамен перад людзьмі, перад гісторыяй.

Пракладаючы новую дарогу,
Я ўсё збіраюся прайсці
Праз пушчу сваіх вершаў
І пакінуць толькі тыя,

На якіх шчэрбіцца
Сякера часу.

Сякера часу пашчэрбіцца на многіх творах Максіма Танка, бо святло, якое ён выкрасае са свайго сэрца, памагае людзям бачыць і разумець жыццё ва ўсім яго багацці і харастве.

Агонь паэзіі, эстафета агню, што пачалася ад самаахвярнага Праметэя, ніколі не спыніцца. Заўсёды ёсць і будуць рукі, якія нясуць яе палаючы факел у будучыню.

***1946–1977***

## ДАСЛЕДУЕЦЦА ЧАЛАВЕК

### I. Плён жніўня

Янка Брыль. Гэта вельмі дарагі мне і маім сімпатыям пісьменнік. Чытаючы яго, я адчуваю, што трапляю на тыя сцежкі, па якіх мы ідзём часта блізка, хоць нашы локці не труцца адзін аб адзін.

На людскія аблічча, на жыццёвыя падрабязнасці, псіхалагічныя сітуацыі памяць у яго выключная — пісьменніцкая, прафесійная.

Аднойчы ён нагадаў мне такі выпадак. Неўзабаве пасля вайны, прыехаўшы ў Брэст, мы выступалі на гарадскім вечары. Я меўся чытаць верш «Гартаванне» — пра вясковага каваля, майго першага добрага настаўніка, якога дзеці цвялілі крыўднаю мянушкаю «руб дваццаць», у такт яго кульгавай хадзе. Меўся я чытаць гэты верш, адзін з самых дарагіх мне вершаў, і спахапіўся ў час, убачыўшы, што чытаць тут яго няможна. У першым радзе, на вачах у людзей, сядзеў чалавек з драўлянаю кульбаю замест нагі, якраз як у майго каваля.

Асабіста для мяне гэта была не толькі хвіліна збянтэжанасці, а і нечага большага, што не магло не пакінуць у памяці следу.

Але мінулі гады, і след гэты выветрыўся, а ў памяці майго сябра застаўся. І калі ён расказаў мне пра гэтае здарэнне, як я ні намагаўся, а ўспомніць так і не змог далікатнай для мяне псіхалагічнай падрабязнасці, хоць усё жыццё быў упэўнены, што найбольш трывалая ў мяне памяць — эмацыянальная.

Але, мабыць, і яна трывае да пэўнай мяжы, пасля ашчаджаючы толькі тое, што было ў маленстве і юнацтве, — самыя даражэйшыя душэўныя скарбы.

Ён з тых майстроў, кожны твор якога сустракаеш з асаблівай цікавасцю, бо ведаеш: усё, што створана ім, выпрабоўваецца на трываласць высокім крытэрыем грамадзянскага сумлення і патрабавальнасцю мастацкага густу.

Душэўная шчодрасць пачуцця і строгая стрыманасць, нейкая асаблівая цнатлівасць слова вызначаюць у ім пісьменніка, якога вы адразу пазнаеце па першым сказе не толькі ў рамане, аповесці, апавяданні, але нават па дзённікавым запісе з двух-трох сказаў.

Напэўна, гэта і ёсць галоўная прыкмета таленту, якая вызначае асобу мастака, яго адрозненне ад іншых, яго адметнасць, самабытнасць.

Асабістая пячаць, уласны знак якасці, па якіх пазнаецца слова майстра, гэта не манапольная прывілея, гэта, перш за ўсё, па трапнаму выразу Міхаіла Святлова, «права не мець права пісаць кепска». Такое права даецца пісьменніку не лёгка.

Шырокі абсяг яго спазнання і даследавання жыцця.

Мы ведаем Янку Брыля — раманіста, апавядальніка і аўтара нарысаў, Брыля — цудоўнага дзіцячага пісьменніка і Брыля — аўтара вершаў у прозе, дзівосных лірычных мініяцюр.

Разнастайныя і яго мастацкія сродкі. На грані эмацыянальнага напружання малюе ён трагічныя абставіны гібелі блізкіх яму людзей у навелах, што даўно сталі хрэстаматыйнымі, «Memento mori», «Маці», «Дваццаць», і піша адкрыта тэндэнцыйныя, публіцыстычныя памфлеты на людзей, духоўна ўбогіх, нікчэмных у сваёй пыхлівай фанабэрыстасці. Яго аповесць «Ніжнія Байдуны» поўная зіхатлівага, сонечнага, сардэчна добрага гумару.

Вопыт уласнага жыцця Янкі Брыля — багаты, цікавы не толькі таму, што ён увабраў у сябе многія падзеі, сустрэчы, уражанні. Гэты вопыт узбагачаецца яшчэ і штодзённай працай, усё новымі і новымі творчымі пошукамі.

У яго асобе, у яго характары шчасліва спалучаюцца асаблівасці мастака — тонкага, назіральнага — з усімі лепшымі якасцямі працавіка, чалавека зямлі, блізкага да першаасноў самае цяжкае, але і самае паэтычнае працы — здабывання хлеба надзённага.

Асабліва блізка спазнаць яго памаглі мне сумесныя паездкі і па сваёй роднай зямлі, і за яе межы. Быць сярод людзей разам з ім лёгка, прыемна, радасна. З яго высокай культурай абыходжання, досціпам, унутранай сабранасцю, трапнасцю слова, гатоўнасцю творчай імправізацыі не разгубішся нават у самых складаных абставінах. Вабіць яго выхаванасць, што набываецца не прыхапкам на курсах этыкету, а ўваходзіць у натуру чалавека цераз глыбокі вопыт народнай педагогікі. Так, гэта на цяжкім,

але дарагім сэрцу чорным хлебе нашага маленства і нашага юнацтва нярэдка выраcталі такія інтэлігенты.

Яго інтэлігентнасць, бясспрэчна, абумовілі якасці, залежныя і ад выпрабаванняў яго нялёгкага лёсу, і ад яго самога: выхавання сілы волі, заўсёднага самакантролю — ні ў чым не даваць патачкі ўласным слабасцям, ні ў чым не рабіць сабе палёгкі і скідкі.

Яго майстэрства, дасканаласць яго стылю ідуць, перш за ўсё, ад гэтай яго патрабавальнасці і самадысцыпліны.

Глыбока памыляецца той, хто лічыць, што ўладу над словам гарантуе талент. Ёсць таленты, якія дасканала валодаюць пяром, а ў абыходжанні з людзьмі бездапаможныя, з намаганнем шукаюць неабходнае, так важнае і патрэбнае слова.

Пошук слова, адзінага, трапнага, дакладнага — гэта заўсёды эмацыянальнае ўзрушэнне. Няўражлівы і абыякавы ніколі не скажа такога слова, што адразу ж адгукнецца ў людскіх сэрцах.

І яму слова даецца не лёгка. Я не раз бачыў, як пры знешне спакойнай усёй яго магутнай паставе і валявой зацятасці ва ўсіх рысах твару, недзе ў рашучы момант, у хвіліну, калі абставіны вымагаюць сказаць сваё ўласнае слова, яго вялікія кавальскія рукі заўсёды выдаюць яго незвычайную напружанасць і хваляванне.

Янка Брыль валодае шчаслівым дарам — трапяткім, жывым напаўненнем кожнай сваёй думкі і ў творчасці, і ў непасрэдным абыходжанні з людзьмі.

Гэта мастак думкі высокага напружання, і чытаць яго нельга, не настроіўшыся на хвалю яго роздуму.

Прачытаўшы Брыля, пад яго ўражаннем яшчэ доўга не можаш узяцца за іншага аўтара, за іншую кнігу. У гэтым сіла ўздзеяння таленту, улады пісьменніка над чытачом.

«Я думаю, што самае важнае і карыснае людзям, што можа напісаць чалавек, — гэта тое, каб расказаць праўдзіва перажытае, перадуманае, адчутае ім», — гаварыў Л. М. Талстой, імя якога Брыль заўсёды вымаўляе з асаблівай пашанай.

Пра радасць творчасці дзеля людзей Брылём напісаны цудоўныя творы: «На Быстранцы», «Галя», «Лазунок», «Надпіс на зрубе», «Гуртавое», у якіх усім ходам сваіх разваг пісьменнік сцвярджае, што чалавек працы адчувае, успрымае сэнс і хараство свету глыбей, «паўней, чым староннi назіральнік, няхай сабе нават і лепш эстэтычна падрыхтаваны або па натуры вельмі чуйны».

Гаворачы пра шырокі тэматычны аб'ём творчасці Янкі Брыля, нельга не заўважыць, што асабліва шмат намаганняў, трывог

і хваляванняў, як пісьменнік і грамадзянін, ён аддаў і аддае выкрыццю фашызму — гэтай ганебнай плямы на сумленні і памяці дваццатага стагоддзя. Пісьменнік паказвае ідэалогію чалавеканенавісніцтва як праграму загадзя спланаванага, да дэталяў разлічанага,ператварэння чалавека ў дзікага звера або паслухмянага нявольніка.

У самых розных па часе і па жанрах творах Брыль паслядоўна паказвае вытокі і карэнні фашызму. Гэта ж разам з героем свайго рамана «Птушкі і гнёзды» Алесем Руневічам аўтар на ўласныя вочы бачыў асяроддзе, абстаноўку, глебу, якія нараджалі і жывілі ідэі нацызму, пранікаючы ў побыт, у свядомасць нямецкага мешчаніна і абывацеля — прагнага драпежніка, уласніка, што паверыў у выключнасць сваёй місіі і права распараджацца лёсамі іншых народаў.

Уцёкшы з фашысцкай няволі і далучыўшыся да народных мсціўцаў, Алесь Руневіч дакладна ўяўляе і разумее, дзеля чаго, з якой мэтай прыйшлі на савецкую зямлю гітлераўскія забойцы і садысты. З вышыні агульначалавечых ідэалаў судзіць пісьменнік носьбітаў карычневай чумы і ў гэтым рамане, і ў многіх сваіх аповесцях, апавяданнях, падарожных зарубежных нарысах, у дзённікавых развагах.

З выключнай сілай абагульнення, з гістарычнай дакладнасцю і жахліваю праўдай фактаў і падзей малюе жудаснае аблічча фашызму дакументальная кніга «Я з вогненнай вёскі…», створаная Брылём, Адамовічам, Калеснікам.

Гэтая кніга — незвычайная, унікальная з’ява не толькі літаратуры, але і нашай грамадскай думкі.

Багаты вопыт мастацкага асэнсавання вялікай гістарычнай перамогі савецкага народа, але, па агульным прызнанні, эпапея, роўная талстоўскай «Вайне і міру», усё яшчэ чакае свайго часу.

Справа, відаць, не толькі ў дыстанцыі гэтага часу, хоць хутка і дыстанцыя зраўняецца, справа ў тым, што і ў далейшым, калі будуць пісацца творы пра Вялікую Айчынную вайну, няхай самыя буйныя і нават памерамі роўныя талстоўскаму раману, наўрад ці хто з мастакоў поўнасцю вычарпае ўсю глыбіню гістарычнай праўды, трымаючыся толькі ўласных уяўленняў — нават новых, арыгінальных, не падобных на ўжо нам вядомыя. Галоўнае і самае важнае, чаго не хапае некаторым кнігам пра вайну і асабліва пра ўсенародны подзвіг, гэта — самога народнага погляду на падзеі ва ўсёй іх складанасці і жыццёвай праўдзівасці. Па дакладным вызначэнні Канстанціна Сіманава толькі народ, сам народ можа сказаць усю праўду пра вайну.

У гэтым сэнсе дакументальная трагедыя «Я з вогненнай вёскі…» дае нам нагляднае пацвярджэнне — чаго не хапае мастацкаму вопыту літаратуры. Са старонак гэтай горкай эпапеі, расказанай самімі сведкамі нечуванай нацысцкай жорсткасці, мы ўбачылі, як ахвяры падняліся над катамі на нязмерную вышыню свае маральнае перавагі і сапраўднае велічы духу.

Трое нашых пісьменнікаў, трое беларускіх партызан гэтай сваёй кнігай, якая каштавала немалых намаганняў, сказалі важкае слова не толькі ў дакументальным паказе народнага подзвігу, але і нацэлілі нас на пошук новых магчымасцей мастацкага даследавання гераічнай гісторыі народа. І, перш за ўсё, галоўны вывад, які робіш з гэтай кнігі: дакумент, сведчанне відавочцы не сумяшчальны са стылістычным і слоўным прыхарошваннем і ўпрыгожваннем. З гэтай кнігі можна набраць дзясяткі, сотні, тысячы сюжэтаў, жыццёвых сітуацый і эпізодаў для раманаў, аповесцяў, сцэнарыяў — сапраўды, ёсць тут такія старонкі, карціны, характары, лёсы людскія, што хоць цалкам устаўляй у мастацкі твор, але нават самі аўтары, каму належыць прыярытэт адкрыцця першакрыніц, наўрад ці адважацца на іншыя формы пераўвасаблення матэрыялу. Так абагульнена, так маштабна, у такой жыццёвай канцэнтрацыі праўды пра свой характар, пра сваё светаўспрыманне і самасцвярджэнне ў бяссмерці мог сказаць толькі сам народ.

Пасля таго, што зрабілі трое нашых літаратурных падзвіжнікаў, творы аб вайне, сканструяваныя па канонах белетрыстычнай тэхналогіі, наўрад ці могуць прэтэндаваць на жыццёвую трываласць. Народ — большы мастак, чым усе мы, яго летапісцы і паэты.

Нядаўна Янка Брыль апублікаваў свае новыя дзённікавыя запісы (Маладосць. 1977. № 5), падначаліўшы іх адной тэме — асабістаму аналізу перажытага, убачанага ў жыцці і паказанага ім, як мастаком, у сваёй творчасці. Маральны максімалізм пісьменніка бязлітасны. Ён судзіць сябе самымі суровымі крытэрыямі.

Але калі ўсе гэтыя бескампрамісныя, строга патрабавальныя па сваёй душэўнай шчодрасці назіранні, развагі і вывады Брыля супастаўляеш з ужо створанымі каштоўнасцямі ў літаратуры ім самім, здабытымі яго нястомнай працай, міжволі пранікаешся яшчэ большай павагай да гэтага мастака, да гранічнай адкрытасці яго грамадзянскага сумлення.

Гэтак судзіць сябе можа сапраўды смелы і мужны талент.

Значнае месца Янкі Брыля, выдатнага майстра слова, у нашай савецкай літаратуры. Гэта факт, відавочна, для ўсіх. Але, напэўна, па-асабліваму гэта адчуваюць яго малодшыя калегі, тыя некалькі пакаленняў пісьменнікаў, чый творчы лёс складаўся пад дабратворным уплывам гэтага чуйнага і ўважлівага настаўніка і выхаваццеля літаратурнай моладзі.

Для кожнага талента, які ставіць перад сабою высокія задачы, — гэта сапраўды прыклад служэння роднаму народу.

Свой жыццёвы жнівень пісьменнік сустрэў плённым і шчаслівым ураджаем.

## II. Запаветная лабараторыя

З самых яго першых крокаў у літаратуры было ясна, што гэта — паэт. Паэт надзвычай тонкай душэўнай адметнасці. Дарэчы, і пачынаў ён з вершаў. І хоць ніводзін з іх не быў ім, здаецца, надрукаваны, памятаю, як на нас, нямногіх, што напрыканцы вайны вярнуліся ў Мінск, вершы яго зрабілі моцнае ўражанне свежасці і навіны. Навіною было ўжо тое, што паявіўся паэт, якога ніхто яшчэ асабіста не ведае і не бачыў, а вершаваныя радкі яго (прывезеныя, здаецца, рэдактарам раённай партызанскай газеты) мы прабуем ужо на прафесійны зуб, радуемся трапнасці вобразаў і дакладнасці слова.

Пазней, калі ён сам прыехаў у Мінск, увайшоў у пісьменніцкае асяроддзе, мы па першым уражанні былі як бы збіты з тропу свайго ўжо складзенага ўяўлення аб ім: гэты лірык з тонкаю, кволаю душою ў вершах аказаўся магутным дзецюком, з сілаю і ўчэпістасцю рук казачнага каваля Вернідуба.

І я памятаю па сваім асабістым уражанні, што, калі заходзіла гаворка пра яго вершы, сам ён заўсёды губляўся і бянтэжыўся, і, відаць, не толькі ад сціпласці, але, як мне здавалася, і ад нейкай вінаватасці: а ці не выглядаю я нязграбным асілкам, які можа варочаць дубы, а я прысеў на кукішкі і на паэтычным лужку шчыпаю кветачкі? Таму неўзабаве, як бы ў сваё апраўданне, ён, адцураўшыся вершаў, заявіў пра болей салідны занятак: аказалася, што галоўны яго клопат — проза. І што ў партызанскім лагеры ён напісаў апавяданні, з якіх і лічыць сваё літаратурнае радаслоўе.

Аднак, адцураўшыся вершаў, ён на ўсё жыццё астаўся паэтам. Самы вялікі наш паэт у прозе Кузьма Чорны, памятаю, прачытаўшы яго апавяданні, першы ўзрадаваўся шчасліваму гукавому супадзенню, назваўшы маладога пісьменніка брыльянтам у прозе. Ён радаваўся гэтаму свайму адкрыццю, будучы ўжо цяжка

хворы, і можна ўявіць сабе, што сустрэча і знаёмства з блізкім яму талентам па вобразным мысленні, па адчуванні слова былі яму асабліва дарагія і ўцешныя.

Прадбачанне Чорнага спраўдзілася. Янка Брыль увайшоў у вялікую прозу праз паэзію, як і сам Кузьма Чорны.

У нас часта крытыкі, каб пахваліць празаіка, гэтыя вызначэнні — паэтычная проза, лірычная проза — чапляюць як знак вышэйшага гатунку прадукцыі, хоць сама прадукцыя так жа далёкая ад паэзіі, як і ад прозы. Часта — гэта той саладжавы кісель, які ў дадатак яшчэ разбаўляецца таннай чуллівасцю і сентыментальнасцю.

Было б сапраўды недарэчна і смешна, каб Янка Брыль са сваёй сілай, здольны гахнуць з-за вуха на поўную размашку молатам, цешыўся ад таго, што ўмее трымаць у руках іголку. Я ведаю, што ў літаральным, жыццёвым сэнсе ён умее яе трымаць, а ў пераносным — віртуозна валодае ёю ў сваіх паэтычных афортах-мініяцюрах і навелах, але, дзякуй богу, ён ніколі не паддаваўся спакусам лёгкага хлеба літаратурнага краўца.

Бог быў добры да яго, не даўшы яму гэтых здольнасцяў: пры дапамозе халоднага разліку сканструяваць белетрыстычны сюжэт, а потым падпіраць яго гатовымі блокамі будаўнічага матэрыялу. У гэтым сэнсе ён не перадавік, не ўдарнік. Не можа механізаваць нават свайго пісьменніцкага начыння, знаходзячы асалоду ў старадаўнім, прадзедаўскім спосабе — піша пяром.

Наўрад ці будзе ён аўтарам мнагатомных эпапей. Яго пераход ад апавядання, ад кароткай аповесці да эпічна-маштабных даследаванняў чалавечых лёсаў, характараў і падзей быў нялёгкі. Да першай кнігі рамана «Граніца», якая была апублікавана ў 1949 годзе, крытыкі, у тым ліку і аз грэшны, аднесліся вельмі строга. Не адразу знайшоў ён выразную творчую канцэпцыю і для рамана «Птушкі і гнёзды», вярнуўшыся да ўдасканалення кнігі пасля апублікавання.

Такім чынам, пралікі і няўдачы мелі для яго далейшага росту немалое значэнне, можа быць, нават большае, чым поспехі.

Сапраўднае творчае шчасце такіх пісьменнікаў у тым, што будуюць яны з самага трывалага матэрыялу — думкі і слова, выпрабаваных уласным сэрцам. І чытачу, які адкрывае для сябе такога аўтара, творы яго — верныя спадарожнікі на ўсё жыццё. Каэфіцыент карыснага ўздзеяння адной малой жамчужыны па сіле схаваных у ёй цяпла і святла не ідзе ні ў якое параўнанне з шумам і грукатам цэлых гідраэлектрастанцый, турбіны якіх рухае літаратурная вада.

Тое, што ўмее бачыць Брыль, а потым даць убачыць, адчуць, перажыць нам, чытачам, — рэдкі дар трапнасці і дакладнасці мастацкага бачання.

Выпадковы, мімалётны эпізод, адзін рух чалавечай душы, нечы пагляд, усмешка, якія спынілі ўвагу пісьменніка, потым спыняць і нашу, прымусяць заварушыцца і наша пачуццё, нашу думку: сапраўды — а чаму гэта важна асабіста і для мяне; чаму душэўная трывога незнаёмага чалавека занепакоіла і мяне; чаму незнаёмы след на дарозе, у які ступіла мая нага, так узрушыў маю дапытлівасць: а чый ён, хто той, што ідзе перада мною?

Душэўныя ўзаемасувязі, залежнасць твайго настрою ад асяроддзя, у якім ты жывеш, — гэта і ёсць хвалі, на якія павінен быць заўсёды настроены сейсмограф пісьменніцкай душы.

У сферы абыходжання з чалавекам Янка Брыль, як рэдка хто з нас, мае самы тонкі досціп і чуласць. Маючы выключную трапнасць вока, ён умее ў вялікім натоўпе адрозніць чалавека як асобу, нечым больш адметную і цікавую за іншых, на тралейбусным прыпынку чужога горада зазірнуць у твар дзяўчынцы-падлетку і ўстрывожыцца яе душэўным неспакоем:

«Стала шкада яе, шкада і таго, што яна ніколі не даведаецца, што падумаў пра яе, што адчуў здаравенны ды стараваты дзядзька — прахожы, з выгляду — як мне і дзеці дома кажуць часамі — чагосьці злосны…» — запісвае ў сваіх нататках пісьменнік, праўда, не зусім упэўнены, ці прыме на веру нехта іншы жыццёвую праўду гэтага псіхалагічнага факта.

«Хто паверыць, калі запішу? — падумаў я. — Дый сентыментальна будзе… А сёння вось тая дзяўчынка зноў стаіць перад вачыма са сваёй задумай. І запісваю».

І добра робіш, дружа мой, — скажу я, як чытач, — дзякуй табе. Дзякуй скажа і тая дзяўчынка, на вочы якой, можа, трапяцца словы твайго прызнання, — няхай не цяпер, калі яна яшчэ падлетак, а тады, калі стане маці сваіх дзяцей, тых падлеткаў, чысціня пачуццяў і жыццёвае шчасце якіх будуць залежаць перш за ўсё ад атмасферы людской чуласці, дабраты і душэўнага далікацтва іх бацькоў, іх настаўнікаў і — пацешым сябе добрай надзеяй — тых «здаравенных ды стараватых дзядзькоў», што «з выгляду чагосьці злосныя».

Вялікае шчасце для пісьменніка — нідзе і ніколі не быць прахожым. Янка Брыль мае гэтае шчасце і высока шануе яго:

«Яшчэ, і яшчэ, і яшчэ раз адкрыць для сябе чалавека і паважаць яго як асобу, як яшчэ адно праяўленне жыцця ў яго найвышэйшым выражэнні», — гаворыць пісьменнік ў другой

натацы, вызначаючы адчуванне павагі да чалавечай асобы як неабходнасць, як умову, як норму ўласных паводзін, як этычны і эстэтычны кодэкс грамадства.

Пільным, праніклівым зрокам убачыць чалавека ў псіхалагічным выяўленні, у найтанчэйшых эмацыянальных адценнях — адна з важнейшых асаблівасцяў увагі Янкі Брыля да людскоe асобы.

Каму, як не яму, павінна запасці ў памяць і астацца там назаўсёды старэнькая хаціна на доўгай вясковай вуліцы, па якой ён прайшоў двойчы з канца ў канец, каб яшчэ раз зірнуць на самотную хату. Чым яна прыцягвае яго ўвагу — пісьменнік даходзіць не адразу. Не тым, што яна — хата, старая, спрадвечная. «У агародчыку, — заўважае Брыль, — перад хатай стаяла бабуля — таксама спрадвечная. Стаяла, калі я ішоў па вёсцы ў адзін канец, стаяла, калі вяртаўся». Але і на гэтым не канчаецца абсяг убачанага. І вось нарэшце пісьменнік заўважае, адкрывае для сябе тую адзіна неабходную яму падрабязнасць, гаворачы прафесійнай мовай — мастацкую дэталь, якая раптам высвечвае сэнс вобраза, стварае цэлую карціну глыбокага эмацыянальнага напаўнення.

Знарок стаўлю кропку, каб ухмылка здольных лавіць на паўслове зайграла на нечым твары, які ўжо моршчыцца ад неэстэтычнасці таго, што я абвясціў цэлай паэтычнай карцінай: старэнькая хата, агародчык, а ў ім — бабуля спрадвечная. Якая ж тут паэзія, што тут паэтычнага?

Сапраўды, нічога, таму што ў ёй, у гэтай карціне, няма галоўнага эмацыянальнага асяродка, няма той душы, якую зараз, на вашых вачах, у яе (карціну) удыхне мастак:

«Побач з бабуляй, каля не вельмі ўжо відушчага акна, — сакавіты зялёны куст. Можа, я не пазнаў бы за нейкіх пяць крокаў, а то і не пацікавіўся б, што за куст, але на ім цвіла ружа. Толькі адна».

Толькі адна — зазначае пісьменнік. І вы раптам убачылі, як гэтая адна ружа дала вам адчуць і ўсю самотнасць старой жанчыны, і яе надзею на добры водгук няхай сабе і незнаёмага сэрца. Гэта адна-адзінюткая ружа ў агародчыку цяпер ужо зазіхацела, як зыркі вечаровы зніч у шарую гадзіну чалавечага жыцця, калі прыйшла пільная патрэба падумаць — дзеля чаго і як ты яго пражыў.

«Светлая кропка агеньчыка», — гаворыць пра гэтую ружу сам пісьменнік, а я, чытач, дадаю: «О, каб жа мы, людзі, часцей умелі

бачыць, заўважаць, а яшчэ лепш — запальваць гэтыя агеньчыкі, наколькі б мы былі лепшыя, дабрэйшыя і шчаслівейшыя!»

І яшчэ адзін запіс, яшчэ адзін верш пра людскую дабрату — няхай сабе даверліва-наіўны, але колькі ў ім шчырасці і чысціні!

…Старая жанчына едзе ў аўтобусе па пыльным гасцінцы родных мясцін. Ні з таго ні з сяго — зазначае аўтар — яна развязала чыстую белую хустку і пачала частаваць пасажыраў вялікімі чырванабокімі яблыкамі. Не знайшоўшы ў сваіх думках тлумачэння такому парыву раптоўнай гасціннасці, калі кабета раздала пасажырам яблыкі, пісьменнік не можа супакоіцца, сказаўшы недакладнае і ўмоўнае: «ні з таго ні з сяго». Яму рупіць дайсці запаветнага сэнсу — з чаго? З якое прычыны, з якога штуршка нарадзілася і радасна затрапяталася ў душы пачуццё гарачай удзячнасці людзям, шчодрае імкненне падзяліцца шчасцем, здабытым яе працай. Аўтар перабірае ў сваіх развагах самыя розныя меркаванні. І ніводнага з іх не прымае.

«А можа, радасць яе прасцейшая? — задае ён пытанне сабе самому. — Скажам, доўга ішла палямі, вельмі стамілася і ўжо нават не верыла, што аўтобус той будзе, што ён на пустым скрыжаванні яе прасёлка з гасцінцам спыніцца, возьме яе… А ён спыніўся і ўзяў!..»

Як бы ўсцешыўся іншы «псіхолаг» — нарэшце знойдзена тлумачэнне, самае жыццёвае і дакладнае.

Аж не! «Не, не ў гэтым прычына яе дабраты», — сцвярджае аўтар, так стройна ўжо выбудаваўшы паслядоўную, лагічную і гарманічную кампазіцыю сваіх доказаў. Аказваецца, не! А ў чым жа? — зноў пытаецца пісьменнік. І разам з ім пытаемся ўжо і мы. Акцэнт і інтанацыя, якія гучаць у нашай зацікаўленасці, ужо набылі вышэйшую танальнасць, набліжаючыся да свайго крэшчэнда. Прычынныя ўжо не да прыватнага выпадку, задумваемся і мы разам з пісьменнікам.

У чым жа прычына дабраты чалавечай — у натуры, у разуменні жыцця — у чым?

І самае цікавае, што ні на адно з пастаўленых пытанняў пісьменнік не дае адказу. Але кожны з нас пачынае сам шукаць і тлумачэння, здавалася б, вельмі нязначнай падзеі, і адказу на вельмі значныя пытанні.

Калі Янка Брыль пачаў публікаваць свае першыя цыклы лірычнага дзённіка, мне гэта здалося недаравальный раскошай, раскідваннем таго, што потым пісьменніку прыдалося б для будучых твораў. Уласна кажучы, прызначэнне запісной кніжкі для пісьменніка — творчыя нарыхтоўкі. Аднак, ведаючы, якая

ўчэпістая памяць у Брыля — не толькі зрокавая, але і псіхалагічная, памяць перажытых пачуццяў, я ўпэўніўся, што ён мог бы зусім абысціся без запісных кніжак. Тут якраз я і дайшоў, як мне здаецца, больш важнай акалічнасці, што нататкі, запісы, дзённік, у якіх з такім даверам і нават інтымнасцю гаворыць з чытачом Брыль, — гэта, па сутнасці, самая запаветная лабараторыя пісьменніка, у якой даследуецца найгалоўнейшы аб'ект мастацтва — чалавек.

Абсяг і ахоп аспектаў даследавання тут самыя разнастайныя. Дыяпазон хваль, на якія адгукаецца сэрца даследчыка, настолькі шырокі, што мы часта чуем, як у гаме яго перажывання аднachасна гучаць — лагодная ўсмешка і глыбокае засмучэнне, радасць адкрыцця і бяссілле перад неразгаданай тайнай, даверлівасць шчасця і замкнёнасць, зацятасць самотнай душы.

Што зблізіла, зрадніла пачуцці двух, нават не знаёмых між сабою, Антона Чэхава і Максіма Багдановіча? Супадзенне лёсу? Сумная акалічнасць, што ў апошнюю хвіліну абодва апынуліся далёка ад роднай зямлі, ад родных і блізкіх людзей?

Амаль побач стаяць у Брылёвым дзённіку запісы пра Чэхава і пра Багдановіча, аднак зусім не гэтыя пытанні вынікаюць з разваг і настрою аўтара. Атмасфера свайго, асабістага, душэўнага дачынення перш за ўсё ўразіць вас у гэтых развагах. І Чэхаў, і Багдановіч — дарагія і блізкія нам, людзям, сваёй высокай паэзіяй чалавечнасці. Яны — абодва вялікія паэты, хоць, як вядома, першы з іх ніколі не пісаў вершаў.

Брыль выпрабоўвае самыя разнастайныя ракурсы бачання чалавека. Зусім не абавязкова падыходзіць з загадзя прэтэнцыёзнымі, маштабнымі вымярэннямі нават да такіх гігантаў, як Леў Мікалаевіч Талстой. Гляньце на яго з добрай, даверлівай усмешкай. Аказваецца, і ў такіх волатаў духу ёсць свае зямныя «слабасці», праз якія чамусьці яшчэ бліжэй спазнаеш чалавека і пачынаеш любіць яго яшчэ мацней.

У час свайго падарожжа па Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы Брыль занатоўвае такі факт даўняй гісторыі:

«У адной з музейных залаў Вартбурга, перад уваходам у тую келлю, дзе Лютэр перакладаў Біблію ў адзін час з нашым Скарынаю… прыемна было чуць ад фрау-гіда, што тут быў калісьці Пётр Першы, а потым Талстой, малады яшчэ, але ўжо слаўны аўтар трылогіі і ваенных апавяданняў. Дык ён, як сведчыць запіс каменданта гэтага замка, больш за ўсё несалідна катаўся на восліках…»

У любым выпадку, нават калі камендант замка быў настолькі абмежаваны, што болей нічога не ўбачыў у Талстым, ці нават быў цвёрда перакананы ў сваёй вышэйшай значнасці і перавазе і з асуджэннем глядзеў на госця-блазна, — скажам яму: дзякуй табе, камендант-служака. Тваё асуджэнне выклікала яшчэ большае наша замілаванне жывою натураю дарагога нам чалавека!

Па даўняй традыцыі ў старадаўнім парку Вартбурга, як сцвярджае Янка Брыль, і цяпер катанне на восліках — вялікая асалода, асабліва для малышоў.

Што ж, будзем лагодныя, даруем і нашаму, як гаворыць пісьменнік, «несаліднаму» Льву Мікалаевічу, які не ўстаяў супраць такой прывабнай спакусы — і пракаціўся на восліку.

Будзем, сябры, не толькі лагодныя, а часам і цярплівыя да людскіх слабасцей, тым больш што нехта ж церпіць і нашы!

Для пісьменніка, для паэта катэгорыі часу, нават цэлыя, далёкія адна ад другой эпохі — не перашкода ў вызначэнні блізкасці людскіх пачуццяў, асабліва на самых высокіх вяршынях выпрабавання, калі душэўная мужнасць становіцца подзвігам трываласці, вернасці і годнасці чалавечай асобы.

У Грузіі на гары Мтацмінда на помніку Грыбаедаву юная Ніна Чаўчавадзэ, жонка паэта, навечна запісала свой адчай і роспач: «…для чего пережила тебя любовь моя?»

Гэта вядома многім — і тым, хто пабываў ля магілы Грыбаедава, і тым, хто ведае яго жыццяпіс. Беларускі пісьменнік тут, на гары Мтацмінда, здавалася б, па далёкай асацыяцыі, але па блізкай памяці яго сэрцу, прыгадвае трагедыю, якая здарылася ў часы яго юнацтва ў роднай вёсцы: «У мнагадзетнай удавы ўтапіліся ў касавіцу, купаючыся позна ўвечары, дзве старэйшыя дачкі, работніцы і красуні».

Далей аўтар расказвае, як праз трыццаць з лішнім гадоў, прыйшоўшы пад старыя сосны на вясковых могілках, ён пазнаў шэры, замшэлы помнік тае жахлівай трагедыі. І нават прачытаў яшчэ не сцёртыя часам словы, выбітыя на камені местачковым майстрам, — словы, якія маці адарвала ад свайго сэрца:

Ой, вы, сосны, не шумеце,
Маіх дочак не будзеце.

Два радкі, народжаныя горам і адчаем непісьменнай жанчыны, — гэта ўжо катэгорыя той народнай паэзіі, якая ніколі не можа быць ні прымітыўнай, ні будзённай, бо выйшла з самых глыбінь людскіх пачуццяў.

«Дзевятнаццацігадовы юнак, я тады, у далёкай давераснёўскай рэчаіснасці, запісаў сабе новую тэму апавядання. І, як многія іншыя тэмы, не вырашыў яе, нават і не пачаў, хоць пачуцці хвалявалі мяне. Асабліва ў той ліпеньскі вечар, калі мы, моладзь трох вёсак, неслі па вузкай, калматай дарозе дзве труны… І тады і доўга яшчэ я не ведаў, што мне рабіць з маім хваляваннем…» — даверліва прызнаецца нам, чытачам, пісьменнік. І мы адказваем яму такой жа даверлівасцю і шчырасцю. І хоць, па сутнасці, на гэтай глыбока псіхалагічнай навеле канчаюцца новыя запісы дзённіка, не канчаюцца нашы хваляванні і наш роздум над жыццём, над веліччу духоўнай трываласці чалавека.

З пакалення ў пакаленне, ад папярэднікаў да сучаснікаў як жывое водгулле перадаюцца такія пачуцці, якія ў сваіх найвышэйшых выяўленнях зближаюць і яднаюць і сэрца юнай удавы Грыбаедава, і сэрца старой мнагадзетнай ўдавы з беларускай вёскі.

У адным са сваіх запісаў Янка Брыль сам у сябе пытаецца: «Хто быў аўтарам выдатных вершаў, якія сталі народнымі песнямі?» І хоць на пастаўленае пытанне і не дае адказу, але чытач удзячны яму ўжо за тое, што такі адказ і адказы на многія іншыя пытанні ён, даверыўшыся ходу і развіццю аўтарскай думкі, увайшоўшы ў напружаную атмасферу яго пошукаў, пачынае шукаць сам, радуючыся адкрыццям, да якіх падрыхтаваў яго пісьменнік.

Час можа скрышыць, стачыць і высакародны мармур і просты камень, сцерці літары, выбітыя на іх, але ён бяссільны сцерці з памяці людской словы, якія ўжо аддадзены ў запавет сэрцам іншых людзей: «…для чего пережила тебя любовь моя?» і «Ой, вы, сосны, не шумеце, маіх дочак не будзеце».

Час не захаваў, не данёс да нас імёнаў людзей, вядома ж — непісьменных, але сапраўдных паэтаў, геніяў з народа, што аддалі яму ў запавет назаўсёды, навечна свае самыя найлепшыя, найпрыгажэйшыя пачуцці, укладзеныя ў словы і ў музыку такіх песенных шэдэўраў, як «А ў полі вярба», «Ці свет, ці світае», «Ой, не кукуй, зязюленька», — пералік іх бясконцы, як бясконцая сама народная творчая спадчына.

Гэтыя развагі, выкліканыя развагамі калегі па працы, могуць здацца ў пэўнай ступені абстрагаванымі і аднабаковымі ў спосабе аналізу. Ахвотна прыму гэты папрок. Але я свядома паставіў перад сабой задачу — не толькі чытаць тое, што напісаў таварыш, але і думаць разам з ім, увайсці ў яго лабараторыю, побач з ім весці доследы, якія найбольш займаюць яго ўвагу, і калі вынікі

нашых пошукаў у нечым разыдуцца, не супадуць — вінаваты будзе не яго, а мой аспект бачання, ход і логіка маіх вывадаў.

Каб не склалася ўражання, што Янка Брыль у сваім дзённіку заняты выключна разважаннямі на тэмы адвечных ісцін, сцвярджэннем крытэрыяў і законаў мастацтва ў яго ўжо выяўленых формах, зазначу, што і ў новых лірычных запісах перш за ўсё выступае сучаснік, чалавек нашых дзён, з пачуццём высокай грамадзянскай адказнасці за ўсё, што бачыць, адчувае, перажывае, аб чым думае і чым устрывожаны.

Час яшчэ не сцёр з памяці людской, ні з пакутнай зямлі слядоў, якія пакінулі на ёй нечуваныя трагедыі, страты і ахвяры, што прынесла чалавецтву карычневая чума.

У нататках, звязаных з паездкай па Германіі, вобразныя аналогіі і асацыяцыі ўвесь час займаюць увагу пісьменніка, які не толькі на свае вочы бачыў жахі вайны, знявагу і прыніжэнне людской годнасці, але і ў нашы дні востра адчувае небяспеку новых прошукаў чалавеканенавісніцтва і апраўдання злачынстваў, што ўпісаны ў гісторыю крывёю мільёнаў людзей:

«…з крутой, арлінай вяршыні крэпасці Кёнігстайн глядзеў на ўтульныя, чырванадахія вёсачкі ў зеляніне садоў, на палявую і лясную красу далін і ўзгоркаў над велічнай, гістарычнай ды песеннай, Эльбай.

І зноў уявілася, што і адгэтуль, з чароўнай Саксонскай Швейцарыі, людзі хадзілі далёка, «за свет вочы», паліць старых і дзяцей у якім-небудзь большым ці меншым Асвенціме, большай ці меншай Хатыні, у нашым наднёманскім Новым Сяле…»

У наступным запісе нота занепакоенасці і трывогі падымаецца на яшчэ вышэйшую ступень — ступень асабістай адказнасці чалавека за сваю будучыню, бацькі за сваіх дзяцей.

«Чаму праз майго сына, ставячы яго ў розныя сітуацыі былой і будучай вайны, мне прасцей разумець увесь жах бесчалавечнасці? — разважае сам-насам з сабою пісьменнік, адказваючы на сваё пытанне так: — Таму, што ён найбліжэйшы да майго «я», мы з ім амаль адно, я больш за ўсё на свеце даражу яго прыходам у жыццё, прыходам у якасці майго наступніка, майго паўтарэння ў лепшай — я так хачу — у чысцейшай, дасканалейшай сутнасці».

І далей: «Ён — як усе дзеці ўсяго свету. Усе яны — як ён… Боль усіх дзяцей мне лягчэй зразумець праз боль ягоны, праз боль, што не можа быць не маім».

Гэта ўжо — выснова высокага гуманістычнага і грамадзянскага абавязку бацькоў, што ўсім сваім жыццём бароняць най-

вялікшую каштоўнасць новага камуністычнага грамадства — чалавечнасць чалавека.

«Самая цудоўная, самая міжнародная музыка — дзіцячы смех», — гаворыць Янка Брыль — вобразна, афарыстычна, са ўсёй шчырасцю добрай душы.

І, можа быць, дарэмна пісьменнік часта як бы спахапляецца ў гэтай шчырасці і сарамліва просіць у чытачоў прабачэння за сваю расчуленасць і, чаго ён асабліва баіцца, сентыментальнасць. Дзіва што! «Здаравеннаму дзядзьку» яна не да твару, і ўсё ж, як на тое ліха, найбольш церпіць ад яе Брыль якраз жа ў часе сваіх дачыненняў з дзецьмі і ніяк не можа змірыцца з тым, што гэта — натуральная ўласцівасць кожнага добрага чалавека.

Янка Брыль па-асабліваму любіць і адчувае маленства. Усё, што ён напісаў і піша пра дзяцей, прадыктавана глыбокім душэўным замілаваннем, роздумам і пачуццём. І сярод новых яго запісаў столькі жывой непасрэднай радасці і эмацыянальнага ўзрушэння там, дзе ён сустракаецца з дзецьмі, захапляецца шчырай наіўнасцю і чысцінёй іх пачуццяў, даверлівасцю іх вачэй.

Дзеці — усюды дзеці. І ў Германіі, і ў Польшчы, у Беларусі, Грузіі і Арменіі.

Тое, што Брыль піша пра дзяцей, з асаблівай асалодай чытаюць дарослыя. І тут я падышоў якраз да той, як мне думаецца, асаблівасці пісьменніка, якую ён, уступіўшы ў дзедаўскі ўзрост, добра разумее і сам. Можна выдатна, цудоўна пісаць пра дзяцей, і ўсё ж гэта будзе літаратура для дарослых. Брыль, які адчувае пэўную мяжу паміж літаратурай пра дзяцей і літаратурай для дзяцей, пакуль што не зусім упэўнена пераходзіць на яе другі бок.

На першы погляд, гэта здаецца загадкай. У чым тут сакрэт? У якой прафесійнай спецыфіцы?

Дасканала валодаючы кампазіцыяй псіхалагічнага сюжэта, дакладнасцю дэталі, натуральнасцю паводзін сваіх герояў, сцісласцю, суровай ашчаднасцю кожнага слова, Брыль дастаткова мае і той душэўнай шчодрасці, якую так тонка адчуваюць і цэняць дзеці. І, аднак, ён яшчэ не стаў дзіцячым пісьменнікам у поўную меру сваіх магчымасцей. А павінен стаць ім. Я даўно перакананы, што кожны сапраўдны мастак рана ці позна прыходзіць да дзяцей. У гэтым ёсць свая заканамернасць, прыходзіць, бо мае патрэбу далучыцца да той крыніцы, якая жывіць чалавека шчасцем творчасці.

Не зусім спадзеючыся на маладога, пачынаючага аўтара, нават самага здольнага, які бярэцца пісаць для дзяцей, я ўпэўнены ў большым поспеху пісьменніка, што ідзе не толькі ад літара-

турнага вопыту, а ў першую чаргу — ад жыццёвага, і якому ёсць што сказаць, ёсць чаму навучыць, і які ўмее гаварыць з дзецьмі.

Як гэта будзе ні парадаксальна і недаравальна маёй непаслядоўнасці, я ўсё ж вярнуся да той Брылёвай «слабасці» — замілавання дзецьмі, за якую так часта просіць у нас выбачэння сам пісьменнік і ад якое я так лёгка хацеў выбавіць Брыля, параіўшы яму — не саромецца расчуленасці. І ўсё ж сам Брыль, відаць, бліжэй да ісціны: расчуленасць цэняць дарослыя, дзеці яе не прымаюць у абыходжанні з імі. Яны вымагаюць поўнай сур'ёзнасці, роўнасці і абсалютнага даверу.

Па сваіх дзецях я памятаю, як артыстка — улюбёнка ўсіх дарослых, што праславілася на ўвесь свет выключнай імітацыяй дзіцячага голасу, заўсёды выклікала самы бурны пратэст у маленькіх слухачоў. Пачуўшы яе перадачу, малыя адразу ж кідаліся, каб выключыць радыё.

З радаснай гатоўнасцю дзеці прымуць у сваю гульню, залучаць у свет сваёй выдумкі і фантазіі кожнага, у тым ліку не толькі дзядзьку, але і дзеда, калі мы шчыра паверым і з поўнай павагай і захапленнем будзем глядзець на будучага касманаўта, які круціць перад сабой нябачнае стырно і гудзе на поўную моц усяго свайго рэактыўнага рухавіка. А яшчэ лепш — і самому папрабаваць пераадолець сілу зямнога прыцягнення і ўзняцца ў стратасферу вобразнага мыслення дзіцяці. У гэтым выпадку не страшна і «здзяцінець», калі гэта кампенсуецца вялікай радасцю далучэння да тых найвышэйшых крытэрыяў душэўнай натуральнасці, дзе канчаецца, нарэшце, адчуванне вінаватасці за тое, што мы не толькі стараватыя дзядзі, а і дзяды.

У сваіх запісах, што працягваюць лірычны дзённік пісьменніка, Янка Брыль ўбачыўся чытачу не толькі як мастак, якога мы ўжо добра ведаем па шчодрых, поўных прыгаршчах сонечных зярнят і які вызначыўся нястомнымі пошукамі сілы, хараства і выразнасці слова, — у новых мініяцюрах пісьменнік шукае і знаходзіць сілу, хараство і выразнасць думкі ва ўсіх яе самых запаветных выяўленнях непасрэдна праз пачуцці, праз сэрца людское.

Канцэнтрацыяй думкі пісьменнік узняў лірычную мініяцюру на новую, яшчэ большую ступень паэтычнасці, кампазіцыйнай і вобразнай завершанасці.

Гэта сапраўды паэзія высокай чалавечнасці, якая патрабуе ад чытача напружання думкі, непаспешлівых разваг і роздуму.

*1971–1977*

## ПОЎДЗЕНЬ ПАЭТА

«Радзіма мая дарагая…» — хто не ведае гэтае цудоўнае песні. Яна стала любімай і ў прафесійных спевакоў, і ў народных хорах, і за бяседным святочным сталом. Беларускае радыё яе мелодыяй пачынае працоўны дзень. На дзіва ўдала спалучыліся простыя, сардэчныя словы паэта з мілагучнай, задушэўнай музыкай, зліліся ў цнатліва ясных, крынічна празрыстых пачуццях сыноўняй любові да роднай зямлі з высокай гордасцю за ўсю вялікую Радзіму.

Не многім выпадае шчасце стварыць песню, якая становіцца жаданай для душы. Радкі яго вершаў на крылах музыкі ўпэўнена набралі вышыню і заўсёды вабяць нас хараством сваіх вобразаў.

Алесь Бачыла, як паэт, мае адметную візітную картку і свой творчы пашпарт, стала прапісаны ў беларускай літаратуры.

Сучасную музычную культуру Беларусі немагчыма ўявіць без яго песень, без опер «Зорка Венера», «Яснае світанне», «Калючая ружа», «Калі ападае лісце», створаных па яго лібрэта.

Новае жыццё пачала вясёлая, гарэзлівая, дасціпная і мілая «Паўлінка» Янкі Купалы, увасобленая ў музычнай камедыі паэтычным талентам Бачылы.

Немагчыма ўявіць сабе і нашу беларускую лірыку без яго вершаў, поўных роздуму над жыццём, прасякнутых шчырасцю людскіх пачуццяў.

Чым вабіць лірыка Алеся Бачылы, чаму так многа прыхільнікаў мае талент паэта?

Думаю, перш за ўсё тым, што ў яго вельмі дакладнае адчуванне народнага слова, народнай песні. Якасць, якая набываецца не кніжным вывучэннем фальклору, а ў самім асяроддзі народнага жыцця з яго паэзіяй, з яго эстэтычнымі і этычнымі вытокамі.

Яго, як паэта, ніколі не спакушалі ні павевы моды, ні прыёмы знешняга наватарства. Яго верш застаецца верны тым высокім традыцыям, якія стваралі не толькі нашы вядомыя папярэднікі ў паэзіі, але і цэлыя пакаленні безыменных песняроў, што свае паэтычныя скарбы перадавалі ў запавет народнай памяці — з веку ў век, з сэрца ў сэрца.

Алесь Бачыла ў сваёй творчасці заўсёды душэўна верны запаветнаму слову матчынай калыханкі, сваёй радзіме, народу, які ўзгадаваў яго, даў яму пачэснае права з гордасцю гаварыць аб велічы народнай душы, якая вымяраецца не колькасцю насельніцтва, што жыве на гэтай зямлі, а глыбінёй перажытых пакут і гераізмам подзвігаў, праслаўленых у вяках.

Лірыку паэта жывяць крыніцы, якія ён адкрыў з маленства на сваёй бацькаўшчыне — роднай Міншчыне з яе ўрачыстымі барамі, халоднымі ў летнюю спёку рэчкамі, з сонечнымі ўзгоркамі, зацішнымі ярамі, зарослымі ажынай і густым малціннікам.

Не дзіва, што найбольшым лірызмам, непасрэднасцю жывога пачуцця вызначаюцца вершы, якія ён прысвяціў родным мясцінам, людзям, з якімі пасябраваў на ўсё жыццё, характву вёскі Лешніца, у якой нарадзіўся паэт, і нават з вышыні ўжо сталых год глядзіць як на самы дарагі куточак сваёй душы:

Я зайздрошчу табе і прыветна ўсміхаюся
І дарогам, і нівам, і ціхім гаям,
І малым ручайком веснавым уліваюся
Ў твае чыстыя воды, Радзіма мая.

Ён належыць да пакалення равеснікаў Вялікага Кастрычніка, да пакалення людзей, якіх выхоўвала само жыццё па ўсёй строгасці сваіх законаў, логікай натуральнага, а не штучнага пазнання свету. Можа быць, гэта і ёсць лепшая школа выхавання, калі з юных год чалавек пачынае разумець і ўласную адказнасць да самога сябе і сваю грамадзянскую годнасць. Сам паэт расказвае, што пасля заканчэння педтэхнікума ў Мінску ён быў накіраваны на працу ў родныя мясціны. І людзі ўжо лічыліся з ім не толькі як з настаўнікам, але як і дзяржаўным упаўнаважаным па арганізацыі калгасаў, па выкананню нарыхтовак, падаткаў і па барацьбе са «злоснымі зрыўшчыкамі», хоць самому «ўпаўнаважанаму» ледзь налічвалася… шаснаццаць год.

З адчуваннем абавязку адказнасці за свой народ, за Радзіму прайшоў паэт і праз цяжкія выпрабаванні, што выпалі на долю салдата Вялікай Айчыннай вайны ў час жахлівай трагедыі на Керчанскай пераправе ў маі 1942 года, а пасля і ў баях за Новарасійск, Харкаў, Курск, Віцебск.

Сціпласцю свайго характару, строгай патрабавальнасцю да сябе і да пісьменніцкай працы ён прывабіў многіх сваіх сяброў. Не адзін дзясятак год працаваў я і разам з ім, і паблізу — у непасрэдных творчых дачыненнях, і заўсёды шчыра цешыўся і плённаму супрацоўніцтву, і добраму сяброўству.

Творчыя сімпатыі Алеся Бачылы вельмі пэўныя і выразныя. Яго строгі густ вызначаецца адметнасцю таленту, які рос і развіваўся пад уплывам і на традыцыях майстроў высокай паэтычнай культуры. Магло здацца нечаканасцю, калі ён пасля напісання лібрэта «Зорка Венера» раптам заняўся вывучэннем і

даследаваннем жыцця і творчасці Багдановіча. Што новага пасля спецыялістаў мог сказаць паэт, які ніколі да гэтага не займаўся літаратуразнаўствам? Аднак першыя часопісныя публікацыі і кніга «Дарогамі Максіма» засведчылі ў ім і тонкую інтуіцыю, і дакладнасць гістарычнага аналізу спадчыны, якая яшчэ тоіць у сабе шмат таямніц і загадак. Пошукі Бачылы далі шчаслівы плён, нацэлілі даследчыкаў на новыя аспекты і кірункі вывучэння творчасці Багдановіча і яе вытокаў.

Лішне было б пералічаць кнігі, напісаныя Бачылам, тым болей, што ў такія салідныя даты, як шэсцьдзесят год, самі віноўнікі ўрачыстасці менш за ўсё падлічваюць зробленае, а болей заклапочаны тым, што яшчэ павінны зрабіць.

Гэтага неспакойнага клопату, упэўненасці ў сваіх сілах і творчага натхнення я жадаю паэту Алесю Бачылу і яго песеннаму сэрцу.

*1978*

## ЕДНАСЦЬ З ЖЫВЫМІ ВЫТОКАМІ

Плеяда — і трэба сказаць — магутная плеяда паэтаў, якая прыйшла ў літаратуру неўзабаве пасля вайны, бадай, цяпер, у нашы дні, ужо нясе галоўную службу паэтычнага слова.

Пакаленне равеснікаў Ніла Гілевіча вельмі адметнае ў беларускай літаратуры. Ніхто адзін на другога не падобны, хоць, здавалася б, з’яднаны і перажытым часам, і тэмамі, і праблематыкай.

Чым вабіць, чым вылучаецца Ніл Гілевіч? Перш за ўсё, думаю, як ніхто, — непасрэднай блізкасцю да жывых вытокаў народнай творчасці.

Паэзія Гілевіча і фальклор — спецыяльная тэма для размовы. Зазначу толькі, што яго творчы поспех не ад таго, што ён браў і бярэ фальклор, так сказаць, напракат, пішучы па яго ўзору свае творы. Не, Гілевіч, мабыць, невыпадкова ўзяўся і за навуковае даследаванне фальклору перш за ўсё таму, што вельмі блізка ўбачыў ва ўсім багацці самую лабараторыю народнай паэтыкі, выдатную здольнасць народа мысліць не толькі вобразамі і пачуццямі ў песнях, у лірыцы, а і маштабна бачыць жыццё ў эпічных і гістарычных абагульненнях.

Мы прывыклі да стэрэатыпаў. Фальклор у нас — заўсёды скарбы. А як падступіцца да гэтых скарбаў? Падступаемся не адно стагоддзе. А ў нашы дні нават чуліся галасы — ці не пара

ўжо гэтыя скарбы апісаць, заінвентарызаваць, скласці ў акадэмічныя скрыні і павесіць сургучную пячаць?

Паслухаўшы такіх ультрапрагрэсіўных дарадцаў, мы, як вядомы скупы рыцар, перад людзьмі і светам зрабіліся б убогімі жабракамі. Беларуская літаратура далёка яшчэ не адкрыла, можа быць, самых важнейшых, самых глыбінных пластоў фальклору, які ў многіх славянскіх і еўрапейскіх культурах дапамог стварыць эпічныя, гістарычныя і легендарныя помнікі велічы народнага генія.

Не будзем забываць, што на працягу стагоддзяў фальклор — не толькі песня і казка, а і аснова этычна-эстэтычных уяўленняў народа, яго маральны кодэкс, мудрасць выхавання і навучання, яго педагагічная акадэмія, і наогул — яго адзіная акадэмія…

Я з вялікай цікавасцю сачу за даследчыцкай работай Гілевіча. І вельмі абрадаваўся, калі ўслед за кнігаю сваіх «Загадак» ён выдаў упершыню ў Беларусі навуковае даследаванне народнай загадкі. Гэта даўно і пільна неабходныя практычныя дапаможнікі нашай школе, якая, на вялікі жаль, многае траціць ад таго, што не можа спалучыць навучанне з вобразным мысленнем дзяцей.

У асобе Гілевіча мы маем і дзіцячага паэта дзякуючы яго блізкасці да вытокаў жывога народнага слова.

Гэта прычыннасць і залежнасць, думаю, яшчэ болей відна на творчых поспехах Гілевіча — сатырыка і гумарыста. Спадзяюся, што многія з нас неаднойчы былі сведкамі і мелі асалоду бачыць і чуць выключны поспех паэта ў гэтым жанры.

Баюся, што можа скласціся ўражанне, нібыта ўсе поспехі і паэтычнае майстэрства Ніла Гілевіча цалкам залежаць ад фальклору.

Глыбока і плённа можа пранікаць у народную паэтыку толькі майстар з высокай эстэтычнай культурай. Гілевіч — паэт, якому добра вядомы вопыт айчыннай класічнай і сучаснай паэзіі, аб чым сведчаць яго «Актавы». Што ж да паэзіі славянскага свету, дык тут ён, як усімі намі прызнана, у некаторыя краіны першы церабіў сцежкі, адкрываючы нам многія скарбы. І беларускія паэты ўдзячны свайму калегу — Нілу Гілевічу, бо нямала хто з нас загаварыў на вялікай мове братняй еднасці.

***1977***

## МАГУТНЫ ЛАД БАЛАД

Дзень паэзіі — гаворым мы, разумеючы пад гэтым паэзію на яе сучасным узроўні, у працэсе руху — якая яна ёсць у сваіх вышэйшых выяўленнях і ў недасканаласці, у няздатнасці асэнсаваць з'явы, што нам цяпер здаюцца звычнымі, а пад пяром нашых наступнікаў, можа быць, стануць узорам велічы, хараства чалавечай душы. Дзень паэзіі — гаворым мы, маючы на ўвазе і падвядзенне вынікаў работы паэтаў за цэлы год. Наш гадавы паэтычны альманах так і называецца — «Дзень паэзіі», як спроба болей шырокіх агледзін усёй паэтычнай гаспадаркі. На жаль, традыцыя гадавых аглядаў зрабілася ўжо вельмі аднастайнай, прывычнай у сваёй абыдзённасці і нават абыякавасці да з'яў, часам вельмі важных для творчых пошукаў. Гадавыя агляды, што час ад часу з'яўляюцца ў нас, мала чым адрозніваюцца ад ведамасных справаздач, якія складаюцца па прынцыпу «калегіяльнай аб'ектыўнасці».

Жывы працэс паэзіі настолькі багаты, складаны і разнастайны, што не заўсёды вызначыш ход яе развіцця чарговым цыклам вершаў або паэмай, кнігай, а то і цэлым Зборам твораў. Нярэдка побач і адначасова, зусім не навідавоку, не ў асяродку ўвагі адбываюцца з'явы як бы і малапрыкметныя, але якасна важныя для ўзбагачэння нашых уяўленняў аб каштоўнасцях, асабліва неабходных і нам, чытачам, і самой паэзіі.

Колькі на нашай памяці адшумела і адгрымела заўзятых спрэчак аб традыцыяналістах і наватарах! А дзе рэальныя ўвасабленні ў творчай практыцы тых гучных праграм і маніфестаў, якія аб'яўляліся самімі «наватарамі»? Адбыліся і ў нашы дні адбываюцца, на першы погляд, нечаканыя метамарфозы. Традыцыяналісты па выніках сваёй працы, у сваіх лепшых дасягненнях становяцца наватарамі, а «наватары», па агульнаму прызнанню, дасягаюць найбольш плённых поспехаў, набліжаючыся да лепшых традыцый паэзіі, яе грамадзянскай шчырасці, вобразнай даступнасці.

Не ўсё тое, што крычыць аб сабе, гучна вяшчае свае тэорыі, ёсць перадавое і сучаснае. Будзем болей уважлівымі да сціпласці, да тых непрыкметных будняў, без якіх немагчымы святы, да тых радасных хвілін, з якіх складаюцца дні, гады і дзесяцігоддзі нашай паэзіі.

Мы ўжо не раз упэўніваліся, што для яе развіцця, для асэнсавання яе кірунку часам з'яўленне аднаго верша варта цэлых кніг. Не часта з'яўляюцца такія вершы, не так лёгка яны пішуцца.

Гэта заўсёды штосьці самае запаветнае, самае дарагое для паэта, што каштавала яму многіх хваляванняў, трывог і пакут.

У леташнім вераснёўскім нумары «Маладосці» два нашыя паэты надрукавалі свае падборкі: адзін — сем, другі — восем вершаў. Вершы моцныя, выразна адметныя сталасцю жыццёвага вопыту і дасканаласцю валодання паэтычным вобразам. З прыемнасцю называю імёны: Уладзімір Паўлаў і Юрась Свірка.

Амаль равеснікі, ужо «двойчы па дваццаць» аднаму і другому, яны — паэты таго «рэкруцкага набору», які ўсё яшчэ з болем у сэрцы чуе водгулле вайны, але і з жывой прагнасцю ўбірае ў душу радасныя галасы, гукі і фарбы сучаснасці. Не так часта друкуюць яны свае вершы, напэўна, добра ведаючы цану слова. Іх невялічкімі падборкамі адкрываецца нумар часопіса, і калі чытаеш вершы засаб, бачыш адметнасць кожнага паасобку, але не можаш не заўважыць і вельмі блізкую аснову, агульнасць вытокаў іх натхнення: родная, мілая сэрцу зямля, вобразы, дарагія змалку, і, як гаворыць Ю. Свірка, тое «баравіннае паветра», якім лёгка дыхаць, дзе нават славе партызанскай вальней і «лепш у памяці народнай, чым у палоне нашых кніг». Паэт ведае, любіць і шануе свой край і вельмі дакладна называе яго: «Мая сто пятая вярста». Канкрэтныя прыкметы і кірунак вызначаюць знаёмую дарогу:

За Мінск,
За сотню кіламетраў,
На поўнач ехаць, за Хатынь…

З такой дакладнасцю можна вызначыць і паэтычную радзіму Уладзіміра Паўлава, чытаючы вершы — зямныя, жыццёва рэальныя ў сваёй перажытасці, засведчаныя ўласным радаслоўем і гісторыяй роднай вёскі, якая амаль на той жа адлегласці, што і Свіркава, але ў супрацьлеглым баку ад Мінска, у мясцінах, адкуль пачынаецца наша паўднёвае Палессе. Ужо ў назве вёскі чуецца яе палескае паходжанне — Замошша.

Усе мы любім свае вёскі, успамінаем іх добрым словам. У кожнае з іх, як і ў нас, свой лёс, свая біяграфія. Паўлаў убачыў сваю вёску цераз трагедыю вайны. Мабыць, таму яе рэальнае аблічча набыло тую значнасць, якая вымяраецца ўжо маштабамі не аднаго паселішча, а цэлай зямлі, усёй Савецкай Радзімы, калі пачуцці патрыятызму, увасобленыя ў канкрэтных вобразах, набываюць гістарычнае абагульненне. За вызваленне вёскі Замошша аддала жыццё рота савецкіх салдат — цэлая рота! «За-

мошская рота» — так назваў яе паэт. І гэта ўжо не толькі верш, гэта падзея, што ўвасобілася ў людской памяці як паданне, што ў ашчадных і суровых радках верша-рэквіема стала і гісторыяй вёскі, і помнікам самаахвярнай мужнасці, і вечнай народнай удзячнасцю подзвігу незабыўных герояў.

Уладзімір Паўлаў у вобразнай структуры свайго замыслу настолькі сканцэнтраваў зарад і прыцэл кожнага слова, што невялікая гэта балада сваёй эмацыянальнай сілай працінае наскрозь душу. Не магу ўтрымацца, каб не прывесці гэтыя дваццаць — усяго дваццаць — радкоў, простых, на першы погляд самых звычайных, але якіх пакутлівых і адзіна магчымых, што вымаўляюцца нават не на поўны голас, а сціснутымі ад болю вуснамі:

Не трэба слязы ні адкрытай,
ні ўпотай,
Ні родных, ні блізкіх.
За вёскай Замошша
сабралася рота
Пад абеліскам.

Часцей, чым вадою, іх умывала
Крывёю і потам.
Імёны, імёны на вечным
прывале —
Іх цэлая рота.

Пілоты тут ёсць, партызаны,
танкісты,
А большасць — пяхота.
Сыны — камсамольцы,
бацькі — камуністы —
Зводная рота.

Нідзе каб зямля аніколі
не знала
Ні ўдоў, ні сіротаў,
За гэта калісьці Замошша
паклала
Адборную роту.

Паслухайце долы,
паслухайце вецер, —

Ці спёка, ці слота.
Вы чуеце, людзі, —
пайшла у бяссмерце
Замошская рота.

Нечуванымі, жудаснымі выпрабаваннямі, у якія трапляе чалавек і выходзіць з іх пераможцам на грані сваіх апошніх магчымасцяў, на грані жыцця і смерці, трагічнаю праўдай, бязлітаснай праўдай засведчаны верш Юрася Свіркі «Балада пра Зінаіду Тусналобаву».

Пра гэтую легендарную жанчыну, франтавую санітарку цяпер ведае ўвесь свет. Пра яе мужнасць пісалі, пішуць, будуць пісаць і расказваць як пра ўзор найвышэйшай сілы волі і духу савецкага патрыёта. Сто дваццаць восем раненых салдат вынесла яна з поля бою, кожны раз уступаючы ў паядынак са смерцю. У апошнім для Зіны баі раніла камандзіра. Яна папаўзла ратаваць. Але побач разарваўся фашысцкі снарад. Раненая сама, сабраўшы апошнія сілы, яна ўсё ж дапаўзла. Камандзір быў мёртвы. Дзяўчына хацела вярнуцца, але страціла прытомнасць. Поле бою, дзе засталася санітарка, занялі фашысты. Гітлеравец, убачыўшы раненую, пачаў біць яе ботам у твар, потым прыкладам — у галаву. Двое сутак праляжала яна, завеяная снегам. Ноччу Зіну знайшлі нашы разведчыкі. Яна яшчэ жыла, але адмарожаны былі рукі і ногі.

Не расказваючы пра ўсе гэтыя трагічныя акалічнасці, Юрась Свірка ў сваёй баладзе паказвае трагедыйны подзвіг асобы ў адзінстве з народным подзвігам, у самаахвярнасці многіх людзей, якія ратуюць жыццё чалавека ў імя непераможнасці самога жыцця.

Яна ледзь чула:
Міны лопалі.
Варонкі зачарнілі лог.
Трымайся,
Зіна Тусналобава!..
Як утрымаешся без ног?

А вораг не збіраўся ў логава,
Ажно стагнаў ад танкаў брук.
Трымайся,
Зіна Тусналобава!
Як утрымаешся без рук?

Магла згарэць,
Як тая знічка
Ці іскра зыркага кастра.
Трымайся,
Родная сястрычка,
Трымайся,
Мужнасці сястра!

Нават у безвыходных абставінах чалавек не адзін, калі ён чуе голас надзеі. Гэтай надзеяй гераіня жыве да апошняй хвіліны, нават умярзаючы ў снег. Паэтычная метафара нясе ўжо не толькі адкрыты сэнс падзеі, яна падымае нашу думку на болей высокі ўзровень абагульнення, калі кроў, смерць, жахі вайны адступаюць перад веліччу подзвігу чалавечай душы. Гэта, гаворыць паэт, ужо той духоўны скарб, які перадаецца людзям у спадчыну. Замерзлую, завеяную мяцеліцай, салдаты адкопваюць санітарку. І тонкі праменьчык алегорыі раптам працінае нас выбліскам думкі, што само жыццё — найвышэйшы твор мастацтва. Салдаты, якія ратуюць Зіну, ужо, як скульптары, бачаць абрысы і форму незвычайнага вобраза жыцця, хаця, як зазначае аўтар, самі тады, «відаць, не зналі той грознаю парой, каго штыкамі высякалі нашчадкам, памяці людской».

Моцныя, простыя і суровыя словы, поўныя глыбокага сэнсу. І паэт на гэтай вышыні абагульнення завяршае ўсю баладу як вобраз нязломнасці, самаадданасці, дабраты і хараства людской душы, калі да знявечанай дзяўчыны з фронту вяртаецца той, хто любіў яе і застаўся верным гэтай любові. Зінаіда Міхайлаўна Тусналобава-Марчанка, Герой Савецкага Саюза, не засталася прыкаванай да ложка. Яна навучылася хадзіць, навучылася пісаць. Жыве актыўным жыццём, уся ў працы, у грамадскіх клопатах.

Прачытаўшы гэтыя дзве балады, я доўга не мог забыцца ўражання, якое яны зрабілі на мяне сваёй бязлітаснай праўдай жыцця і суровай праўдай паэзіі. І вось праз год, сёлета, у жнівеньскім нумары часопіса «Полымя» чытаю трэцюю баладу — «Баладу Камінскага», якую напісаў Васіль Макарэвіч, паэт, які таксама не вельмі часта друкуецца і пра якога яшчэ радзей пішуць нашы крытыкі. Загадзя скажу, я шчыра парадаваўся яго поспеху. Хацеў адразу напісаць артыкул-водгук, назваўшы яго «Тры балады».

Сапраўды, акінуўшы паглядам паэзію за год і радуючыся многім набыткам нашых прызнаных майстроў, на гэты раз я вылучыў бы ўдачы аўтараў трох балад: У. Паўлава, Ю. Свіркі і

В. Макарэвіча. І вось спрабую разабрацца — чаму. Можа быць, таму, што кірунак маім развагам дала менавіта балада як жанр, як форма канцэнтрацыі вобраза, думкі і пачуцця ў гранічна сціслых сродках, спрасаваных, як выбуховае рэчыва, у кожным слове. Кагадзе што даведаўся з навуковай гіпотэзы, што калі б усю масу самага магутнага сучаснага карабля ўшчыльніць так, каб ядры атамаў сталі адно пры адным, дык увесь гмах збудавання ўмясціўся б у запалкавай галоўцы. Фізікі не толькі тэарэтычна, але і практычна дамагліся такога ўшчыльнення матэрыі.

Ядры сваіх слоў мы, лірыкі, таксама павінны ўшчыльняць да найвышэйшых кандэнсацый, бо развіццё паэзіі і асабліва вопыт балады паказваюць, якую выбуховую моц набываюць вобраз, метафара, што ўтвараюцца ў асяроддзі сілавога поля людскіх пачуццяў, дзе высокім зарадам намагнічваюцца кожнае слова і кожны рух нашай думкі.

Колькі пісалі і будуць пісаць пра Хатынь, пра знямелага ў сваім горы бацьку. Выйшлі і выходзяць кнігі і творы розных жанраў мастацтва, якія ўражваюць глыбінёй пранікнення ў народную трагедыю. Ды і сам вобраз Камінскага, створаны скульптарам, гэта ўжо народная балада ў людской памяці, як і другая наша народная балада — вобраз Маці, што выправіла ў бяссмерце пяць сваіх сыноў, і помнік якой і яе сынам у Жодзіне стаў яшчэ адной свяшчэннай рэліквіяй на беларускай зямлі.

Кожнаму мастаку, хто кранаецца такіх тэм і сюжэтаў, не абысціся без смеласці і творчай рызыкі, каб сказаць сваё слова, адметнае маштабнасцю бачання і сродкамі ўвасаблення.

Паэт В. Макарэвіч, стварыўшы баладу пра Камінскага, сцвердзіў і свае ўласныя магчымасці, і магчымасці непасрэдна самой балады як жанру.

Стары вясковы каваль, адзін з апошніх жыхароў Хатыні, на грані чалавечых намаганняў вырываецца з полымя, у якім жыўцом гараць аднавяскоўцы, сагнаныя фашысцкімі катамі ў калгасную адрыну. Пакутны бацька нясе з агню мёртвага сына. Такім ён паўстаў у бронзе мемарыялу, увайшоў у радкі паэтычных твораў.

Васіль Макарэвіч напісаў сваю баладу ў форме непасрэднага жывога дыялогу Камінскага з намі, сучаснікамі. І, мабыць, не толькі з намі. Яшчэ для многіх і многіх пакаленняў будзе палаць агонь Хатыні і гучаць голас бацькі.

Людзі, прашу, сынка
Вазьміце ў мяне асцярожна!

Колькі год на руках
Трымаць нежывога можна?

Бацька просіць: людзі, памажыце вырвацца з шалёнага агнявога пекла! Яго голас звернуты і да нас, і да нашых наступнікаў, да нашчадкаў:

Каторы мінуў ужо год,
Дні ў стагоддзе горнучы,
А мне ад агню таго
І сёння спякотна і горача.

Спякотна і горача ад гэтых слоў і нам. Боль і смутак працінаюць душу, а думка поўніцца гневам да новых жахлівых замыслаў тых, каму сёння ўжо не дае спакою вар'яцкая надзея на ўдасканаленне магутнасці агню, каб яшчэ зручней і нават «чысцей» і «гуманней» паліць чалавецтва нейтроннымі бомбамі…

Тры балады. А чаму, уласна, тры? У беларускай паэзіі надзвычай вялікія набыткі гэтага жанру. Прыгадаем такія шэдэўры, як «Балада аб чатырох заложніках», «Камсамольскі білет», «Маці», «Балада аб знойдзенай падкове» А. Куляшова, «Смерць Маланні» А. Бялевіча, «Баладу аб уральскім танку» А. Вялюгіна, балады М. Танка, П. Панчанкі, А. Зарыцкага, «Ноч на плошчы Перамогі» С. Грахоўскага, «Баладу пра каску» А. Пысіна, гістарычныя балады У. Караткевіча, сучасныя — Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, П. Макаля, А. Грачанікава. Нядаўна мы атрымалі цэлую кнігу «Веча славянскіх балад» Я. Сіпакова, адзначаную Дзяржаўнай прэміяй БССР. У новым зборніку «Позірк» А. Русецкі апублікаваў баладу пра мінчаніна Лук'яновіча, які стаў правобразам салдата-пераможца, помнік якому ўзвышаецца на п'едэстале ў Трэптаў-парку ў Берліне.

Ёсць традыцыі, ёсць вопыт лірычнай, эпічнай, рамантычнай і гераічнай балады-паэмы, як «Кастусь Каліноўскі» П. Броўкі, «Таварыш» Валянціна Таўлая, «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына» Н. Гілевіча, «Балада Брэсцкай крэпасці» Р. Барадуліна — творы, высока ацэненыя нашай грамадскасцю. Магутным ладам балад пазначана творчасць многіх майстроў паэтычнага слова. Без балады цяжка ўявіць сабе лепшыя здабыткі нашай паэзіі.

Даўно пара выдаць анталогію беларускай балады. У такім выданні ёсць пільная патрэба не толькі даследчыкаў, але і шырокіх чытацкіх колаў, і асабліва ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, чытальнікаў. Заўважце, што са сцэны часцей за ўсё гучаць як-

раз сюжэтныя паэтычныя творы. Сярод іх балада — найболей улюбёны жанр.

Выдатны вопыт баладнага жанру, на жаль, яшчэ глыбока не распрацаваны, не даследаваны і не асэнсаваны нашай літаратуразнаўчай навукай. У прыватнасці — баладны сюжэт, заснаваны на рэальным факце, падзеі, учынку, подзвігу, і сюжэт, абагульнены творчай фантазіяй паэта.

У святле гістарычнага развіцця балады, пачынаючы з яе класічных узораў, цераз практыку такіх майстроў савецкай паэзіі, як М. Ціханаў, Э. Багрыцкі, А. Твардоўскі, Янка Купала, многіх нашых сучасных паэтаў не цяжка ўбачыць, што балада як жанр, як форма паэзіі, няспынна ўзбагачаецца, трансфармуючы і ўдасканальваючы свае выяўленчыя сродкі. Даўно заўважана: «Маладзее лад балад». Але за многія гады выпрацавалася і пэўная аднастайнасць у жанры балады. Пішуцца пераважна, калі можна так сказаць, мемарыяльныя балады, сюжэт якіх будуецца выключна на трох эмацыянальных градацыях вобраза: чалавек, подзвіг, помнік.

Магутны лад балад… У лепшых з іх вы заўсёды адчуеце высокі зарад думкі і сілу пачуцця, гранічна з’яднаных у сваім адзінстве.

Ёсць над чым падумаць не толькі даследчыкам, але і самім паэтам. Як магчымасці балады скарыстаць у распрацоўцы надзённых тэм нашага жыцця, у стварэнні характару сучасніка? Вопыт паказвае, што ў баладзе пераважаюць учынкі, паводзіны людзей у выключныя моманты іх жыцця, што вымагаюцца найцяжэйшымі абставінамі і сітуацыямі, калі чалавек выяўляе ўсю сваю сілу волі і перамагае як герой. Не дзіўна, што ў савецкай паэзіі, у тым ліку і беларускай, найболей створана балад, прысвечаных легендарным падзеям гісторыі народа, грамадзянскай і асабліва Вялікай Айчыннай вайны. Пафас балады ў героіцы. Але ж, напэўна, чалавек гартуецца, раскрываецца ў сваёй глыбіннай сутнасці не толькі на полі бою, а і ў заўсёдных жыццёвых выпрабаваннях.

Убачыць гераічнае ў сучасніку, у штодзённасці яго подзвігу, падчас незвычайнага і настолькі псіхалагічна складанага і драматычна напружанага, што сутнасць гэтага подзвігу можна зразумець толькі цераз праўду перакананняў героя, цераз мужнасць яго грамадзянскай пазіцыі і вернасць самым высокім людскім ідэалам.

Сучасная балада, удасканальваючыся ў творчых магчымасцях, актыўна шукае свае сюжэты, свайго героя ў велічных справах і подзвігах людзей нашага часу, у герoіцы нашых дзён.

Роздум пра баладу — гэта роздум пра сучасную паэзію і, можа быць, пра яе найбольш дзейсныя выяўленчыя сродкі, пра пошукі мастацкай дакладнасці вобраза, эмацыянальную кандэнсацыю кожнага нашага слова.

*1977*

## ПАЭЗІЯ ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ

Многа паэтаў на свеце. Як пазнаюць, як адрозніваюць іх чытачы адзін ад другога? Мала ўцехі, калі толькі па прозвішчах.

Бо як бы ні гаварыў паэт сам пра сябе і нават як бы ні хвалілі або ні лаялі яго крытыкі, ён уваходзіць у памяць, у пачуцці людскія творамі — няхай некалькімі вершамі, няхай адной песняй, нават адным радком, калі гэта ўласнае, вынашанае, набалелае, запаветнае — вось яго пашпарт і візітная картка, па якой мы пазнаём аблічча аўтара, яго манеру, стыль, адметнасць слова, засведчанага ўласным лёсам.

Сяргей Грахоўскі пазнаецца па творах. У паэта многа чытачоў, сяброў і прыхільнікаў яго таленту. Пэўна, перш за ўсё таму, што ён заўсёды ішоў і ідзе да свайго чытача як да блізкага субяседніка, з якім гаворыць шчыра і даверліва — адкрытым сэрцам, як адкрытым тэкстам, без ускладнёнага метафарычнага шыфру і сінтаксічнай закадзіраванасці радка.

Рытмічнай кардыяграме верша не ўласцівыя нечаканыя перапады і галаваломныя кручы. Гэта майстар строгай формы, верны лепшым традыцыям і вопыту сваіх папярэднікаў не толькі ў нашай, беларускай класічнай паэзіі.

Для пацвярджэння гэтай думкі спашлюся на прыклад з творчай практыкі паэта — яго пераклад Аляксандра Блока.

Вобразна кажучы, адзін з самых дасканалых майстроў па архітэктоніцы, па кампазіцыі, па гучанню рускага верша вельмі доўга чакаў і выбіраў сабе перакладчыка на беларускую мову, і не памыліўся, выбраўшы Сяргея Грахоўскага, які пераклаў і такія паэмы, як «Дванаццаць» і «Салаўіны сад» — рэчы выключнай вобразнай насычанасці і яго лірычныя шэдэўры, дзе гранічна скандэнсаваны эмоцыі незвычайнай выбуховай сілы і святла такога азарэння, калі раптам адначасна бачацца нам і

глыбінныя таямніцы душы чалавечай, і неабсяжныя далягляды цэлых гістарычных эпох. Інтанацыйная структура блокаўскага верша з яе асаблівай адметнасцю тонка адчута і ўдала ўвасоблена беларускім паэтам у сваёй мове, сродкамі ўласнага вопыту. Як чытач я заўсёды і без подпісу пазнаю Сяргея Грахоўскага па радках, у якіх пульсуюць думка і пачуццё, пазначаныя яго асабістай перажытасцю, радасцю і смуткам паэта.

Такой бачыцца і чуецца мне гучаннем высокага эмацыянальнага напружання яго «Паэма дарог» і многія рэчы, што здабываліся нялёгкай цаной, вывяраліся суровай праўдай жыцця і нясхіснай верай у чалавека на ўсіх тых дарогах, якія давялося прайсці паэту ў гады і ў тым сваім узросце, калі талент, падараваны прыродай, асабліва вымагае не толькі чуласці і падтрымкі, а і актыўнага самавыяўлення і няспыннага творчага ўдасканалення.

Свой першы верш, які называўся «На змену Ільічу», ён апублікаваў у часопісе «Беларускі піянер». Пад вершам стаяў подпіс: «Піянер Сяргей Грахоўскі».

Падумаць толькі, у якім узросце нараджаюцца паэты! Але шлях у паэзію не просты і гладкі. Я сустрэў Грахоўскага ў Бабруйску на дрэваапрацоўчым камбінаце, дзе мы працавалі з ім у адным цэху, дзе нашы станкі стаялі побач.

Наша сяброўства пачалося з нашага юнацтва, з маладосці ўсёй краіны, з духоўнага ўздыму роднай рэспублікі. Нездарма першыя выданні, у якіх мы друкавалі свае вершы, называліся «Вясна» і «Уздым». Пачыналася першая гераічная пяцігодка. Бабруйскі лесакамбінат быў яе буйнейшай будоўляй.

Мабыць, па добрых законах юнацкай еднасці, мы, хто паспеў ужо скласці свае першыя вершаваныя радкі, надрукаваць у газеце або ў часопісе селькараўскую нататку, з цікаўнасцю цягнуліся адзін да другога, лучачыся ў нейкае вельмі жаданае і прывабнае для кожнага з нас літаратурнае брацтва. Не дзіва, што напрыканцы ўскраіннай вуліцы — Мінскай, якая вяла на дрэваапрацоўчы камбінат, нас, пачынаючых паэтаў, рабочых камбіната, сабраўся аж цэлы гурт. У доме Барыса Мікуліча і яго сясцёр знайшлі гасцінны прытулак Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі і я, насупраць, цераз вуліцу, жыў Аляксей Зарыцкі. Пазней на камбінат прыйшлі Пімен Панчанка, вядомы цяпер літаратуразнаўца Янка Казека. Усіх нас яднала вясна жыцця і «Вясна» як літаратурны асяродак, душой якога быў Міхась Лынькоў. Між нашай сябрыны хораша і самабытна загучалі тады апавяданні лесніка Хведара Бужана, тэлеграфіста Хвядоса Шынклера, настаўнікаў Рыгора Бахты, Міколы Лобана, Алёксы

Жукоўскага, вершы Алеся Жаўрука, Рыгора Суніцы, Апанаса Атавы, Міколы Аўрамчыка.

Што гэта быў за час! Сказаўшы адным словам — шчаслівы, час не толькі пераўтварэння ўсяго народнага жыцця, але і нечуванага духоўнага адраджэння, не зважаючы на цяжкасці, якія і нам, і ўжо нашым дзецям хіба што прыйшлося яшчэ не раз пабачыць і перажыць у дні Вялікай Айчыннай і ў першыя пасляваенныя гады.

Холадна і галадна было нашаму юнацтву. У самай пары маладыя хлопцы і дзяўчаты, якім толькі б набірацца сілы, мы жылі надгаладзень.

У нас, у рабочых, была хіба толькі адна перавага перад сваімі равеснікамі — утрыманцамі бацькоў і тымі, што вучыліся, — мы елі хлеба ўдвая болей: ажно восемсот грамаў! Гэта на дзень. Але рэдка калі ўдавалася падзяліць норму не то што на тры, а і на два разы: пачаўшы есці, цяжка было ўтрымацца, каб не падабраць і апошнія крошкі. А бывала ж, у нашым заводскім ларку, каб не ўсухамя, да хлеба далучыш яшчэ і бутэльку морсу — смакатоцце, што не выказаць словамі! А на начной змене ў цэхавай сталовай можна было пражывіць душу ну калі не гарачай, дык цёплай, напэўна, стравай: на першае — суп, на другое — каша. Праўда, з адных-адзіных круп.

Тады гораду Бабруйску шанцавала на ячную сечку, а яшчэ — на конскую каўбасу, таўшчынёй у добрае бервяно, якое распілоўвалі кругамі. Сталавальні свае не магу забыцца па вельмі строгаму парадку і дысцыпліне. Туды заходзілі, толькі атрымаўшы пры ўваходзе алавяную лыжку, выйсці назад без лыжкі ты ўжо не мог. Пільная варта ахоўвала ў дзвярах таз з алавянымі пропускамі. І цяпер гудзе ўвушшу родная наша карміцелька: звіняць, бразгаюць міскі і лыжкі, а ў патыліцу дыхае чарга. Сам выстаяў, каб сесці, а і па табе ўжо занята. Ніхто не паспяваў нагрэць месца. Пасля я ўсё жыццё заўважаў за сабой звычку — нават у гасцях есці прыхапкам.

Чаму я прыгадваю ўсё гэта? Таму што пішу пра свайго сябра, жыццёвая дарога якога пачыналася з тых дзён. Не так лёгка было юнаку адстаяць ноч пры станку. Аднойчы з Сяргеем здарылася бяда. Падаючы дошку ў фугавальны станок, ён незаўважна, механічна падсадзіў пад нажы палец.

Тыя, хто распарадзіўся далейшым лёсам паэта, ва ўсіх паперах, што суправаджалі вандроўніка па самых далёкіх дарогах, сярод асабістых яго адзнак, ніколі не абміналі найбольш адметнай: адсутнасць мезенага пальца на левай руцэ.

Трэба было мінуць аж двум дзесяцігоддзям, каб з вышыні пражытага ўспамінаць пра гэта не з горкай, а нават з лагоднай іроніяй:

Мяне выхоўвалі,
Мяне захоўвалі,
Я то з'яўляўся,
То знікаў,
Мяне вадзілі
І ахоўвалі,
Хоць я нікуды
Не ўцякаў.

Мяне узважвалі
І мералі,
Здымалі ў профіль
І анфас,
Але ні разу
Не праверылі
Душы наяўнасць
І запас.

Запас душы паэта аказаўся багатым, шчодрым і трывалым.

Піянер Грахоўскі апублікаваў першы верш, калі яму было трынаццаць год. Першую сваю кнігу пад назвай «Дзень нараджэння» паэт выдаў, калі яму споўнілася сорак пяць.

Паэма жыццёвых дарог, кожны яе радок складаліся і выпрабоўваліся на самых крутых паваротах і пераломах часу, пакуль прыйшлі, вярнуліся ў родную паэзію.

Піянер Сяргей Грахоўскі… Не зважаючы на гады, на паважаны ўзрост, ён і цяпер для новых сваіх чытачоў і для нас, яго сучаснікаў, — піянер у поўным значэнні гэтага слова: пачынальнік, завадатар, разведчык і вястун новага.

Гэта — паэт заўсёды актыўнага, няўрымслівага грамадзянскага тэмпераменту, у творчасці якога знаходзяць непасрэдны водгук важнейшыя падзеі ў жыцці савецкіх людзей, у грамадскім асяроддзі, у якім жыло і жыве чуйнае сэрца паэта.

Памятаю адзін з юнацкіх яго вершаў ці, дакладней сказаўшы, нагоду і абставіны, якія выклікалі гэты верш да жыцця. Гэта было яшчэ на дрэваапрацоўчым камбінаце, калі мы аднойчы апынуліся перад небяспекай спынення работы ўсяго прадпрыемства: прарвала падземныя трубы, што жывілі вадой кацельню электрастанцыі. Толькі кемлівасць і адвага двух

рабочых Мадорскага і Савіча ўратавалі завод ад аварыі. Пра гэта малады паэт напісаў амаль цэлую паэму, якую надрукаваў самы папулярны на той час літаратурны часопіс «Маладняк» (1931. № 7–8). Праўда, здарылася так, што, калі прыйшоў гэты нумар, Грахоўскі апынуўся ў бальніцы, захварэўшы на брушны тыфус. Часопіс мы перадалі яму ў палату тайком праз фортачку. Галоўны ўрач, заўважыўшы недазволеную перадачу, абурыўся, але, адгарнуўшы вокладку, на першай старонцы ўбачыў імя і прозвішча свайго хворага, што ляжаў у вельмі цяжкім стане. Чулы і добры чалавек, ён не адыходзіў ад хлопца, пакуль не ўратаваў, не падняў яго на ногі.

За спагаду і чуласць паэт праз усё жыццё нясе людзям шчырую душэўную ўдзячнасць, засмучаючыся іх горам, радуючыся іх шчасцю.

Грамадзянская чуйнасць асабліва да клопату і трывог, якімі жыве наш малады і самы юны сучаснік— гэтыя якасці ўласцівыя яму не толькі як паэту, але і празаіку, і публіцысту.

Ён напісаў аповесць, якая прывабіла чытача незвычайнасцю падзей і праўдай геraічных людскіх характараў, — «Рудабельская рэспубліка».

У пачатку шасцідзясятых гадоў Сяргей Грахоўскі тыднямі, месяцамі жыве і працуе на будоўлі Полацкага нафтавага завода, піша вершы, друкуе нарысы.

Прагны да цікавых людзей, да новых мясцін, ён не абмінаў у рэспубліцы, пэўна, ніводнага раёна.

Па незабыўных уражаннях яму блізкія і родныя бясконцыя прасторы ўсёй Радзімы, велічныя вобразы якой увайшлі ў яго вершы і паэмы, апавяданні і аповесці.

Хай не лёгка, але светла і хораша было нам з ім у юнацтве, шчасліва і ўцешна, калі абодва ўжо ў дзедаўскім узросце стваралі мы часопіс для дзяцей «Вясёлка», першы нумар якога пачынаўся яго звонкімі, сонечнымі радкамі:

Распраўляе крылы пчолка,
Зелянее збажына.
Загарэлася вясёлка —
Будзе добрая вясна.

Пэўна, гэтак заўсёды: ад вясны і да вясны ішла і ідзе, перадавалася і перадаецца эстафета жыцця, эстафета маладосці і паэзіі.

*1983*

# СТАЛАСЦЬ ТАЛЕНТУ

Яго маладосць ад прыроджанага аптымізму і жыццялюбства. Ён сапраўды валодае шчаслівым, радасным талентам, а можа быць, і сакрэтам маладосці.

Асабіста я зазнаў яго маладым і такім ведаю на працягу ўжо некалькіх дзесяцігоддзяў. Як светла ўспамінаецца асабліва дарагая для нас пара стварэння нашай, яшчэ зусім кволай «Вясёлкі», якая толькі-толькі вучылася хадзіць. У нашых размовах цяпер мы часта пытаемся адзін у другога: «А помніце?»

Помніце, як у красавіку 1957 года мы адзначалі дзень выхаду першага нумара нашага часопіса, шыкозны з гэтай нагоды балмаскарад і банкет у дзіцячым садзе № 2 па вуліцы Энгельса? Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Васіль Хомчанка, Эдзі Агняцвет, цёця Уладзя — жонка Янкі Купалы, Янка Маўр, мастак Валянцін Ціхановіч і мы з вамі былі гасцямі сваіх маленькіх чытачоў. Выдатны канцэрт, шчодры дзетсадаўскі абед і аж дзве шклянкі кампоту на кожнага тады ўпэўнілі нас цвёрда, што мы, дзіцячыя пісьменнікі, можам жыць прыпяваючы, нас пракормяць нашы чытачы. Дзіцячых садоў і школ у рэспубліцы многа. І мы ахвотна выступалі ўсюды, куды запрашалі.

Са звароту: «А помніце?» мушу перайсці на апавядальную мову. Так лягчэй мне будзе болей падрабязна сказаць пра свайго таварыша, калегу па працы ў дзіцячай літаратуры, вядомага паэта Артура Вітальевіча Вольскага.

Тады ён кагадзе што напісаў свой славуты верш «Дзедаў госць». Гэтая вясёлая і драматычная гісторыя аб тым, як унук абчыкрыжыў ножнамі бараду свайму дзеду, бо не хацеў бачыць яго старым. Гэта было задоўга да моды на бароды. Цяпер першым жа шчаціннем зарастаюць не дзяды, а, наадварот, унукі. Празаік Янка Брыль добра сказаў у рыфму: цяпер чым маладзей, тым барадзей.

А тады, калі мы пачыналі нашу «Вясёлку», далучаючы многіх сваіх таварышаў — і маладзейшых, і старэйшых — да ўдзелу ў часопісе, тады яшчэ сапраўды дзіцячая літаратура магла сама сябе пракарміць, была не толькі, як кажуць, самаакупнай, але нават давала выдавецтвам прыбытак, асабліва кнігі для дзяцей малодшага ўзросту.

[…]

Артур Вольскі, вайна якога ў 18-гадовым узросце прызвала ў Ваенна-Марскі флот, старшына 1-й стацці, ужо тады пісаў

вершы, але не ўсе яны былі першастацейнымі. Гэта натуральна. Але ж нельга не адзначыць самы парыў юнака, яго імкненне ўбачыць родную зямлю, Радзіму і сваю Беларусь цераз акіянскія далягляды. Зразумелая і ўласцівая гэтаму ўзросту і сама марская рамантыка. Пра гэта сведчылі нават назвы яго першых зборнікаў: «Водбліскі далёкіх маякоў», «Далёкія і блізкія прычалы».

Далейшы кірунак паэтавых пошукаў у асэнсаванні жыцця ў яго новых, пасляваенных творах ішоў ужо ад больш рэальных арыенціраў і крытэрыяў духоўнай значнасці і вартасці чалавека як асобы. Выпрабаванне на трываласць бачыцца яму ўжо не цераз адну акіянскую стыхію. Ён спазнае, што ёсць выпрабаванні не меншыя — выпрабаванні душы. Верш, які называецца «Пакуты», завяршаецца трывожным, але шчырым прызнаннем:

А ноч як чорная смала.
Заснуць не смею:
Што прысніцца?
Маланкі вострая ігла
Прашыла неба і ўвайшла
У грудзі. Будзе навальніца.

Гэтым бязлітасным крытэрыем, калі ігла маланкі прабівае грудзі і навальніцай праходзіць праз паэтава сэрца, вызначаецца асабіста трагічны верш Артура Вольскага «Каменны ветразь», прысвечаны памяці сына. Мора, якое так рамантызаваў у юнацтве бацька, узяло ад яго невыказна цяжкую ахвяру — жыццё сына ў тым жа юнацкім узросце. Чытаць нялёгка гэтую бацькаву споведзь. Нялёгка чытаць і другі верш-рэквіем: «Плач па загінуўшым сыне».

Высокая сталасць думкі, адметнасць духоўна багатай асобы, грамадзянская мужнасць, напоўненасць жывым пульсам сучаснасці кожнага радка вылучаюць майстэрства Артура Вольскага асабліва ў дзвюх яго апошніх па часе кнігах: «Выратавальны круг» і «Строма», а такія яго рэчы, як «Памяці Куліны», «Роздум над партбілетам», «Паміралі коні», «Пахаванне ветэрана», «Рубяжы», лірычная паэма «Берагі», па праву ўвайшлі ў творчы актыў паэта.

Асобна хачу спыніцца на вершах-прысвячэннях, адным з самых багатых і, напэўна, самым душэўна-запаветным набытку лірыкі А. Вольскага. З іх у паэта магла б скласціся цэлая кніга.

Гаворачы аб вершах-прысвячэннях, дарэчы, заўважу, што яшчэ ніводзін з даследчыкаў не толькі ў нас, а і ў агульнай

крытыцы паэзіі не ўзяўся прасачыць асаблівасці гэтага, назавём умоўна, віду творчасці. А гэта вельмі цікавая тэма для роздуму. Колькі паэты прысвячаюць адзін аднаму, дарагім, блізкім, сябрам сваіх радкоў, у многім нечым вельмі запаветных, шчырых, нават інтымных. Чаму адны з іх становяцца з'явай паэзіі, а другія — толькі сведчаннем факта, падзеі?

У А. Вольскага кожнае прысвячэнне — гэта своеасаблівая лірычная манаграфія аб чалавеку, яго адметнасці сярод іншых. На жаль, Вольскі амаль не піша эпіграм і пародый. Валодаючы трапнасцю і дакладнасцю бачання самых разнастайных характараў, ён, я ўпэўнены, мог бы ўзбагаціць гэты занядбаны ў нас жанр. На задворках нашых літаратурных выданняў вельмі ж па-заліхвацку дзяруць лыка так званыя гумарысты, якія ў самой літаратуры лыка не вяжуць. Вольскі — вострасучасны паэт, з жывой непасрэднасцю ўспрыняцця кожнай значнай падзеі і з'явы. Кагадзе толькі-толькі пачыналі абжываць мінчане такую раскошу, як метро. І вось яно ўжо ў радках паэта. Што гэта — рэпартаж, лірычны маналог, як яго называе сам аўтар? Усё гэта, урэшце, не мае істотнага значэння. Справа не ў форме і не ў жанры, а ў самім ракурсе ўспрыняцця і асэнсавання.

Паэт убачыў падзею не ў знешніх, нейкіх трапных і яркіх дэталях і падрабязнасцях — няхай, і яны важныя як сведчанне часу, але даражэй за ўсё для паэзіі самы дагляд і абсяг бачання. Лірычны рэпартаж Вольскага каштоўны ўжо тым, што магістраллю, пракладзенай будаўнікамі, аўтар арганічна звязвае наша мінулае з будучым, гісторыю шматпакутнага і гераічнага горада з яго слаўнай сучаснасцю.

Тунэлі мінскага метро, яго казачныя палацы ў радках паэта ажываюць і жывуць у трох вымярэннях часу: мінулым, сучасным і будучым, праходзячы праз гістарычны лёс цэлага народа і праз асабісты лёс паэта.

Мне вельмі дарагі гэты прыклад, які яшчэ раз пацвярджае думку, што якія б эксперыменты ні вяліся ў паэзіі, як бы ні здзіўлялі нас наватары пэўнымі фармальнымі адкрыццямі, а ўсё ж самае надзённае жывое слова гавораць паэты, на ўзбраенні якіх найболей выпрабаваная і дасканалая форма, што вызначаецца даступнасцю і выразнасцю.

Нашым чытачам і гледачам добра вядома плённая дынастыйная, сямейная традыцыя і вопыт Вольскіх па асваенні фальклорных скарбаў. Аддаўшы належны прыярытэт Вольскаму-старэйшаму, п'есы якога «Несцерка», «Цудоўная дудка» сталі ўжо нашай сцэнічнай класікай, мы ведаем набыткі ў гэтым жанры і

Вольскага-малодшага, які шырока і паспяхова выкарыстоўвае фальклорныя багацці ў драматургіі для дзяцей.

У сузор’і беларускай літаратуры, дзе столькі выдатных майстроў слова, адметных яркасцю таленту, загарэцца новай зоркаю неймаверна цяжка. Цяжка, але пачэсна. Пачэсна і радасна не толькі загарэцца, але доўга і шчыра свяціць людзям.

*1984*

## СЛОВА Ў ВЕРШЫ

Пошук слова заўсёды будзіць думку. Думка мусіць шукаць слова. Разглядам творчасці вельмі цікавага і арыгінальнага паэта даўно збіраюся ўставіць і свае «тры грошы» ў гаворку аб наватарстве і традыцыях. Спрэчкі, якія завязваюцца вакол яго, часта выяўляюць дыяметральна супрацьлеглыя погляды. Не цяжка здагадацца, што маю на ўвазе Алеся Разанава.

Некаторыя нават схільны сцвярджаць, што вытокі яго паэзіі пачынаюцца недзе вельмі далёка — траха не з Бібліі. Ну што ж, падобнае сцвярджэнне ніколькі не можа прынізіць або зняважыць любога паэта. Абсяг такіх гістарычных прастораў і пластоў слова вельмі пахвальны, бо ў тым, што дайшло з глыбінь часу, нават увасобіўшыся ў міфалагічныя вобразы, ёсць, скажам, такія шэдэўры лірыкі, як «Песня песняў». Як ім удалося захаваць не толькі мудрасць думкі, а перш за ўсё непасрэднасць жывога і натуральнага пачуцця? І асабліва цікава, што не ў рыфмах, не ў строгай графічнай метрыцы, а ў свабодным і непасрэдным самавыяўленні.

Магчыма, таму і пазней паэты, якія маліліся жанчыне і яе харастве, не адразу знайшлі кананічныя формы словатворчасці, а да санета, стансаў, мадрыгала яшчэ заставаліся цэлыя тысячагоддзі. Характэрна, што нават размовы сам-насам з найвышэйшым уладаром таксама вылучаліся якраз сваёй незалежнасцю ад формы. Народы ўжо стваралі і свае песенныя скарбы, узоры вуснай лірыкі, прафесійная паэзія дасягала сусветных класічных вяршынь і дасканаласці гучання і ў той жа час заставалася неабходнасць верлібра як непасрэднай імправізацыі: «Хлеб наш насущный даждь нам днесь…»

Потым па сказу, па слову паэты, філосафы, публіцысты разбяруць яго, гэты «верлібр», на крылатыя выразы, прымаўкі і назвы кніг.

Якімі б нязведанымі шляхамі ні ішло развіццё паэзіі, адно вядома, што гэта шляхі няпростыя.

Як бы ні мяняліся, ні ўдасканальваліся формы, яна, паэзія, застаецца паэзіяй.

Магчыма, ёсць яшчэ не адкрытыя, не спазнаныя або забытыя намі яе законы і таямніцы, якімі, скажам, добра валодалі нашы далёкія продкі, складаючы песню адначасова ў словах і ў напеве, і не рупіліся аб рыфмах і сугуччах, а ўсё гэта нараджалася сінхронна, і адзін кампанент без другога не мог завяршыцца ў суцэльнай кампазіцыі.

Зусім нядаўна малады паэт, будучы яшчэ студэнтам, Андрэй Чарноў, скрупулёзна даследаваўшы мастацкую структуру «Слова аб палку Ігаравым», давёў і пераканаўча паказаў, што ўсё яно, згодна з уласнай унутранай рытмічнай асновай, зарыфмавана па законах сугучча нязвычнай цяпер для нас сістэмы.

Нездарма «Слова» так вабіла і вабіць перакладчыкаў-паэтаў. Большасць перакладаў не толькі на рускую і на сучасныя славянскія, а і на ўсе іншыя мовы — гэта пераклады ў вершах.

Паэзія, аказваецца, валодае такой генетычнай трываласцю, што ажно і цераз восем стагоддзяў геніяльная паэма зберагла не толькі самабытнасць асобы аўтара, але і метрычную прасодыю мовы, на якой напісана.

Паэзія ў прозе… Яе прыклады вядомыя: вершы Тургенева, абразкі, навелы, мініяцюры Бядулі, Гарэцкага, Брыля, Янкоўскага… Думаю, што і Танк да свабоднага верша ішоў не столькі ад еўрапейскай паэзіі, колькі ад вопыту беларускай казкі і класічнай нацыянальнай прозы, у якой нярэдка было болей паэзіі, чым у некаторых сучасных вершах.

Яшчэ ўдзячнай глебай, якая жывіла паэзію ў яе свабодным выяўленні, я лічу два самыя распаўсюджаныя і блізкія між сабой жанры — дзённікавы і эпісталярны, якія цяпер не надта ўдасканальваюцца і практыкуюцца.

Вядома, што наватарства, творчы пошук не могуць быць аднолькавымі. Каштоўнасць іх у рознасці, у непадобнасці. Кожны паэт, як казаў Маякоўскі, фабрыка, хоць і без коміна. У кожнага — свая лабараторыя. Я сказаў быў, што ў Разанава іх дзве.

У галоўнай з іх ён даследуе свае замыслы, свае тэмы, выпрабоўвае матэрыял і яго трываласць.

Шчодрасць, феерверк колераў і адценняў слова, глыбінны разрэз самых розных пластоў моўнай пароды — гэта ў першай, адкрытай лабараторыі, якая ва ўсіх навідавоку.

Паэт працуе, шукае азартна, захоплена, хай сабе ў нечым рызыкоўна, не бяда — на тое пошук. І мы, чытачы, не толькі сведкі, а як бы саўдзельнікі гэтых пошукаў.

А вось другая разанаўская лабараторыя — закрытая, таямнічая. Тут ён вынаходзіць свае так званыя квантэмы, прадукцыю элітарную, для вузкага кола знаўцаў, і не столькі знаўцаў, колькі дэгустатараў, для якіх асалода не сама паэзія, а цырымонія смакавання, прыцмоквання языком: «О, тут штосьці ёсць!» Што там ёсць — клопат другарадны. Важна засведчыць разуменне незразумелага. Мабыць, не вельмі ўпэўнены і сам аўтар у поспеху гэтага эксперыменту, бо даволі сціплыя вынікі падкідае ва ўласныя жанравыя гнёзды.

У кнізе «Шлях — 360» дзевяць паэм. Пасля кожнай падаюцца яшчэ два вершы. На заключэнне — дзве абавязковыя квантэмы. І калі мастацкая палітра і выяўленчыя сродкі ў даэмах і вершах Разанава сапраўды багатыя, дык у так званых квантэмах яму раптам займае мову:

зацяты радавод
жыўлю зямлю
учора вечар

Вось і ўвесь твор. Не кажучы аб прынцыповай адсутнасці знакаў прыпынку, аб адсутнасці формы, не надта парадуешся тут і зместу, бо яго прынцыпова няма. Гэтым уласна «прынцыпам» аўтар хоча ўпэўніць нас, што тут ёсць нейкія перспектывы для наватарства. Прынцыпова скажам: няма і не будзе. А ў пацвярджэнне гэтага вываду прывядзём радкі, якія тут найлепш прыдадуцца і сваёй выразнасцю, і бясспрэчнасцю:

Блакіт нябёсаў, луг стракаты
больш не узрадуюць таго,
хто страціў сэнс.
Бо сэнсу страта —
то, пэўна, страта усяго.

Цудоўна сказана! І наўрад ці абвергне гэтыя словы Алесь Разанаў, бо напісаў іх ён сам, уласнай рукой. Паэт значных эпічных магчымасцей, з часоў свайго дэбюту ў літаратуры ён вельмі любіць мініяцюру — кароткі, сціслы, гранічна скандэнсаваны верш, напоўнены выбуховым метафарычным зарадам.

У другой па ліку кнізе, названай па аднайменнай паэме пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці «Назаўжды», сярод многіх выдатных строф ёсць як высечаныя на камені:

і тваёю мужнасцю сталы —
нібы ўплаўлены ў вечны сплаў —
не ўпаду я, бо ты ўстаяла,
устаяла, каб я ўстаяў.

Мініяцюры ў кнізе «Назаўжды» (1974) складалі асобна вялікі раздзел і называліся «Пункціры». Аднак цераз іх пункцірную структуру, арганічна змацаваную строгай кампазіцыяй, вельмі выразна высвечвала сэнсавая сутнасць кожнай метафары.

У кнізе «Шлях — 360», выдадзенай у 1981 годзе, паэт чамусьці адступіўся і ад набытага вопыту ў гэтым жанры, і ад уласнай, прынцыпова акрэсленай устаноўкі на сэнс.

«Пункціры», стаўшы «квантэмамі», страцілі не толькі выразнасць формы, а і звычайную яснасць думкі:

ён вызваліцца сам
маўчанне ў вязню
уражаная вежа
моваў шмат

На першы слых, здаецца, нават нейкая глыбакадумнасць, а глянеш вачамі — радкі рассыпанага друкарскага набору:

прышчэпленая памяць
зноў цвіце
старая дзічка
ломкія маланкі

Грэх прызнацца, закрадваецца нават насцярога: а ці не пацвельваецца са мной, чытачом, аўтар? Некалі была распаўсюджана гульня для вершаванага практыкавання: даваліся рыфмы, па якіх ты павінен быў скласці верш. А што, калі і тут запрашаюць мяне для ўдзелу ў такім занятку? Толькі даюць не рыфмы, а словы, з якіх нешта павінна атрымацца. Узяў я пададзеную вышэй квантэму і расставіў радкі трошкі ў іншым парадку — праясніўся сэнс і нават логіка метафары:

зламалася маланка —
расцвіла

старая дзічка
і ажыла
прышчэпленая памяць.

Эксперыментаваць дык эксперыментаваць! Акрылены поспехам, пайшоў на яшчэ большае злачынства: узяў у Разанава з яго «Пункціраў» адну з маіх любімых мініяцюр і начыста рассыпаў, перамяшаў радкі і словы:

гаю трымценне
не пішу я
кранаю гляджу
шэпт дажджу
перакладаю
пагляд вачэй
слухаю

Вось што атрымалася ў маім «перакладзе».

Вы не ўяўляеце сабе, якая гэта цяжкая дыверсія — разбурыць верш. Сізіфава праца і герастратава слава!

А паслухайце, як цудоўна гучыць ён у арыгінале, у самога Разанава:

Перакладаю шэпт дажджу,
пагляд вачэй,
трымценне гаю…

Кранаю,
слухаю,
гляджу,
я не пішу — перакладаю.

Крый бог, падумалася, калі б знайшоўся такі рызыкант і «парассыпаў» нам Купалу, Коласа, Багдановіча, Пушкіна «Я помню чудное мгновенье», Лермантава «Белеет парус одинокой…». Што б мы рабілі, каб не эталоны, не арыгіналы, даступныя кожнаму з нас і якія ўжо на памяці цэлых пакаленняў людзей? Уцешуся, што нікога не спакусіць і маё «спаборніцтва» з паэтам, якога я люблю. Недзе глыбока ў душы я перакананы, што квантэмы ўсяго толькі часовае хобі Разанава, эксперымент з творчай лабараторыі.

Няўжо ж майстар самабытны, арыгінальны, які засведчыў вялікія магчымасці свайго таленту ў многіх паэмах і вершах,

раптам паддаўся спакусе гётаўскага Вагнера — вырасціць у колбе яшчэ аднаго гамункулуса?

Думка — сапраўдная каштоўнасць у паэзіі, але не спалучаная, не з'яднаная з пачуццём — гэта толькі стварэнне з вялікай галавой і вельмі кволымі ножкамі. Нават самыя ўдалыя афарызмы, максімы і выслоўі, успрынятыя толькі розумам, — прадукт, так сказаць, аднаразовага карыстання, а не надзённай душэўнай неабходнасці.

Возьмем паэта ў яго абедзвюх паставах: аўтара паэм і аўтара квантэм.

Вось пачатак паэмы, прысвечанай найбліжэйшаму чалавеку — маці, «Упоцемках з ліхтаром»:

Слалася на лугі
на сцежкі белае мліва.
У снега прысмак туті:
ён мамаю асаблівы,
ён асаблівы мной:
блукаю ў яго завеі.
Снег —
скрушнаю навіной,
якою — не разумею…

Звярніце ўвагу, якая пругкая мускулатура, якая жывая кроў пульсуе ў кожным капіляры гэтага арганізма.

А побач — рахітычная істота, вырашчаная ў колбе. У яе — штучнае дыханне, зусім не намацваецца нават пульс:

я адымаецца
шчыльнеюць рыштаванні
чысты час

Разанаў — аўтар дваццаці пяці кароткіх паэм. І гэты жанр у яго свой, асаблівы. Кожная з паэм — згустак пачуцця, асабіста пражытага, часта супярэчлівага, драматычнага, нават трагедыйнага, а часам і незвычайна яснага і аптымістычнага па настроі.

Кніга «Каардынаты быцця» (1976) цалкам складаецца з паэм, і адна не падобная на другую. Але большасці з іх уласціва няўпынная і напружаная актыўнасць думкі, жывая энергія выказвання:

Не чакалі…
А спуджаны сон,

сон бяссонны, бязладны, бязлюдны
прыпадаў да зямлі і акон…
Непапраўная доля:
дзень судны.
Набрынялы струменіў прамень,
сіні дзень перакідваўся ў сіньшы…
Завяршаючы час перамен,
заступаў невядомы —
дзень іншы.

Вы чуеце, як у радку жыве, працуе кожнае слова, кожны гук, настройваючы радары нашага ўспрыняцця, стымулюючы гатоўнасць думкі прымаць не толькі інфармацыю, а і ўвесь паток, усю плынь настрою, вобразаў і асацыяцый, якія хоча перадаць нам паэт?

Абсяг і маштабнасць асэнсавання сваёй уласнай тэмы, паказ сучасніка ў жывой сувязі з памяццю, з каардынатамі яго быцця характарызуюць Разанава як паэта не толькі лірычнага, але і эпічна-гістарычнага, паэта нацыянальнага. Родная гісторыя, лёсы людскія гераічных і слаўных продкаў яму гэтак жа блізкія, як неспакой, трывогі, засмучэнні і радасці сучаснікаў. Ім напісаны паэмы і пра полацкага майстра-ювеліра XII стагоддзя Лазара Богшу, і пра палымянага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, пра паэта Францішка Багушэвіча, пра вядомую ў паэзіі Цётку — Алаізу Пашкевіч, і пра нікому не вядомую цётку Тэклю, вялікую пакутніцу і руплівіцу, што ўсё жыццё самаахвярна служыла толькі дабру.

Цікавая і характэрная рыса паэзіі Разанава — у адрозненне ад многіх з нас — ён не прэтэндуе на прапіску да канкрэтнага геаграфічнага рэгіёна. У сваіх вершах зусім не пазначае ўласных біяграфічных каардынатаў — яго галоўную ўвагу займаюць каардынаты быцця чалавека на самой планеце і асабліва ў яе самы небяспечны і трывожны час.

Не знойдзеце вы ў Разанава і настальгічных настрояў, так прыкметных цяпер у паэтаў, якія родныя сцежкі свайго маленства і юнацтва часта бачаць толькі ў ідылічных фарбах. Самую экалагічную тэму паэт бярэ ў маштабным, нечакана крутым ракурсе. Яго паэма «Было балота» — не фатальны сыход, а адкрыты паядынак варожых між сабой кантрастаў, рэзкіх і непрымірымых супярэчнасцяў, якія, згодна з дыялектычнай неабходнасцю, павінны даць чалавеку адказ: абнаўляеш, упрыгожваеш ты зямлю ці нявечыш яе харaство і сілу?

Па адстойніках і равах,
праз малыя і буйныя рэкі
паўтараецца даўні шлях,
мой апошні —
з варагаў у грэкі…
Безаглядна, як рэжа штых,
рассякаюцца краявіды,
выпрамляецца кожны штрых:
геаметрыя па Еўкліду.

У выяўленчым арсенале паэта не толькі шырокі дыяпазон бачання рэчаіснасці, у яго багатая разнастайнасць жанравых сродкаў і прыёмаў. Ён піша класічным вершам, дасканала валодаючы ўсімі яго кампанентамі, і асабіста я лічу, што якраз у гэтай форме — самыя прыкметныя яго ўдачы і найбольшае майстэрства. Піша ён і свабодным радком, і верлібрам, і нават прозай піша і вершы, і паэмы, захоўваючы толькі пэўны інтанацыйны лад і строй апавядальнасці («Паэма рыбіны», «Паэма сланечніка», «Паэма рэха», «Паэма палявання»).

Натуральна, што творчасць Разанава выклікае цікавасць чытачоў і асабліва паэтычнай моладзі, якая не задавальняецца традыцыйнымі формамі, шукае сваіх сродкаў самавыяўлення ў слове, што ўласціва амаль кожнаму новаму пакаленню паэтаў.

У Разанава паявіліся паслядоўнікі. Гэта адзнака і сведчанне адметнасці паэтавай індывідуальнасці. Але не абышлося і без пераймальнікаў. Перайманне — найбольш лёгкі рэкламны спосаб абвясціць свету: і мы — наватары! Ды яшчэ якія — авангардысты! За што ўхапіліся ў першую чаргу ў вопыце Разанава маладыя аўтары? За квантэмы. Глядзіш, юны нававбранец, дэбютант у літаратуры, яшчэ не склаў ніводнага радка згодна з элементарнымі асновамі, а ўжо не толькі піша, а і друкуе «квантэмы» ўласнага вырабу. Так лабараторны эксперымент, у выніку якога, магчыма, яшчэ не ўпэўніўся сам даследчык, выхопліваецца з чужое прабіркі і выдаецца за свой — яшчэ адзін гамункулус!

За талентам сапраўднага наватара заўсёды — асоба паэта, высокі патэнцыял яго грамадзянскасці, вызначэнне якой у нас часам зводзіцца да канстатацыі дэкларацыйных выказванняў, зарыфмаваных заклікаў, загадзя разлічаных на цытаванне ў рэцэнзіях і справаздачах.

Алесь Разанаў— сацыяльна актыўны, сучасны паэт па сродках выказвання. Заканамерныя яго эксперыменты, але не фармальныя, а сапраўды мастацкія. Разанаў моцны, арыгінальны

ў пошуках новых магчымасцей структуры і рытміка-інтанацыйнага ладу вершаванага радка. І пошук у адваротным кірунку — у адмаўленні генетычных асноў самой арганікі жывога слова, як мы ўпэўніліся, не абяцае перспектыўных адкрыццяў, якімі б навацыямі ў тэорыі ні тлумачыўся поспех развіцця паэзіі непасрэднай залежнасцю ад адкрыццяў у навуцы або ў тэхніцы. Хіба памацнее сіла святла і цяпла ці павялічыцца эмацыянальны каэфіцыент уздзеяння вершаванага радка, калі мы абвесцім яго фатонам або квантам? Паэт А. Маркаў свае чатырохрадкоўі называе мераю вадкасці — квартамі («Неделя». 1983. № 41), аднак і яны далёка не адкрыццё новых крыніц у паэзіі. Натуральна, што і практыкі, і тэарэтыкі так званага мікражанру часта спасылаюцца на старажытныя формы японскай версіфікацыі — хоку і танка, што лішні раз пацвярджае: наватарства не бывае на пустым месцы. Нават Уолт Уітмен, яшчэ ў мінулым стагоддзі ўразіўшы Стары і Новы свет сваёй адзінай кнігай, засведчыў, што яго «Лісце травы» сваімі карэннямі глыбока ўваходзіць у народную творчасць індзейцаў.

Грамадзянскасць — гэта, вядома, і пошукі, і эксперымент, але ж гэта і дасягненні, і лепшыя традыцыі папярэднікаў.

Убачыць у надзённасці не толькі дзень, у якім жывеш, а і залежнасць гэтага дня ад гісторыі — гэта ёсць зарука ўпэўненасці, што ідзеш не назад, а наперад.

Добра сказаў пра эксперыментатараў Алесь Разанаў на пачатку свайго шляху:

З глыбінь,
як лава з кратэра,
вырвецца распад.
Экс-
    перы-
        мента-
            та-
                ры
не ідуць назад.

НТР… Нечуваныя адкрыцці і дасягненні. Але ж духоўныя, прынамсі, эстэтычныя багацці, якія ўжо набыў чалавек, не страцілі вартасці ад таго, што мы расшчапілі ядро атама або перамаглі сілу зямнога прыцягнення. Выдатна разумелі гэта і нашы папярэднікі.

«У адным з часопісаў сказана, што сёмы раздзел “Яўгенія Анегіна” не мог мець ніякага поспеху, бо наш век і Расія ідуць наперад, а вершатворац стаіць на ранейшым месцы. Век можа ісці сабе наперад, навукі, філасофія і грамадства могуць удасканальвацца і змяняцца, а паэзія застаецца на адным месцы. Мэта яе адна. Сродкі тыя ж. І між тым як уяўленні працы, адкрыцці вялікіх прадстаўнікоў старадаўняй астраноміі, фізікі, медыцыны і філасофіі састарэлі і кожны дзень замяняюцца іншымі, — творы сапраўдных паэтаў застаюцца свежымі і вечна юнымі».

Словы гэтыя напісаны болей чым сто пяцьдзясят год назад. А хто іх напісаў? Аляксандр Сяргеевіч Пушкін!

Недзе тут, на гэтай стадыі маіх развяг, калі іх трэба было завяршаць, у газеце «Літаратура і мастацтва» (26.8.1983) паявілася вялікая падборка з новай кнігі Разанава, над якой працуе паэт, і, што асабліва цікава, — з яго ўласнай анатацыяй. Гэта будуць, зазначае аўтар, творы свабоднай формы — верлібры, вершы ў прозе, версэты. (Будзем знаёмыя! — квантэмы кланяюцца версэтам.)

«Мне ўяўляецца, — піша Разанаў, — што такая форма тоіць у сабе багатыя магчымасці: у ёй могуць арганічна спалучацца і лірычнае ўзрушэнне, і фабула, уласцівая апавяданню, і філасофская сентэнцыя, і эксперыментальны свет антыўтопіі і навуковай фантастыкі…»

Разанаў не часта дае тэарэтычныя тлумачэнні сваім творам — тым цікавей для нас практычны вынік яго новых пошукаў, тым прыемней, што сапраўды паэт верны заяўленаму прынцыпу: эксперыментатары не ідуць назад!

Дзевяць вершаў, якія склалі падборку, адрозніваюцца ад квантэм ужо тым, што змест іх выкладаецца моваю, падначаленай сінтаксічным і марфалагічным законам і нават знакам прыпынку. Кожны з вершаў звяртае на сябе ўвагу ўжо сваёй назвай — «Дарэшты», «Пярэчанне», «Падзел», «Навобмацак», «Зброя», «Апора», «Спадчына», «Апошні час», «Шыльдачкі». Назва — не толькі канкрэтнасць метафары, але і філасофская катэгорыя. І ўсе яны незвычайна цікавыя, глыбокія па думцы, па дыяпазоне мыслення. Дазволю сабе падаць хоць бы два з іх, каб чытач мог уявіць, што Разанаў у сваіх пошуках не блукае ўпоцемках з ліхтаром, а здабывае значны плён, якому можна парадавацца. Вось, напрыклад, верш «Зброя»:

Настае дзень, калі я бяру меч і бяру шчыт…
Цяпер я ўзброены, цяпер я здольны

абараняцца і нападаць.
І тыя людзі, якія ўчора штурхалі мяне локцямі, цяпер пачціва вітаюць мяне.
З цягам часу меч урастае ў маю правую руку, шчыт — у левую, і я адчуваю іх як сваё цела.
Але… Але няўжо яны — гэта я, няўжо да самага скону я мушу рабіць тое, што раблю цяпер, — укладацца ў зброю?!
І тады паступова я пачынаю адымаць яе ад сябе — вызваляцца.
Не адзін тыдзень, пэўна, міне, перш чым гэта адбудзецца: надта шчыльна зраслася зброя з маім целам, з маёй сутнасцю.
Аднак, перамогшы немач, я мушу перамагчы і сілу.

І вось яшчэ адзін верш — «Шыльдачкі»:

На дрэвах — шыльдачкі.
На іх напісана, колькі якому дрэву гадоў, як яно называецца, якая яго таўшчыня і вышыня.
Людзі праходзяць міма дрэў, не заўважаюць іх, — яны чытаюць шыльдачкі…
А сведчанні дрэў так і застаюцца непачутыя, а пісьмёны дрэў так і застаюцца непрачытаныя.

Тут думкі, як іскры з-пад крэсіва, — яркія, вострыя, але ці кожная трапляе ў выбуховую цэль? Мабыць, для жывога ўздзеяння на ўспрыняцце мала адной інфармацыі, хоць і так шчыльна закадзіраванай у філасофскай сентэнцыі. Ах, як бы для гэтай і для кожнай з гэтых фабул прыдаліся большая экспрэсія, тонус настрою і свабода выказвання сродкамі паэзіі, імпульсіўна-ўзрушаная разанаўская інтанацыя! Бо гэта яшчэ не зусім вершы, нават у прозе. Гэта — запісы, планы вершаў, і як шчыра прызнаваўся той жа Аляксандр Сяргеевіч, «…я, праўду кажучы, болей люблю вершы без плана, чым план без вершаў» (з пісьма А. А. Бястужаву 30.XI.1825).

І ўсё ж, устаўляючы ў дыскусію аб творчасці Разанава гэтыя свае «тры грошы», я з адкрытай душой далучаю да іх і яшчэ «тры грошы надзеі» — шчырай надзеі нават і на тыя яго экспе-

рыменты, якія, можа, мне асабіста і не імпануюць, але я цвёрда ўпэўнены ў неардынарнасці, у значнасці таленту гэтага паэта.

Мне пашчасціла на працягу цэлага года працаваць разам з Алесем Сцяпанавічам над складаннем і рэдагаваннем двухтомнай анталогіі літоўскай паэзіі на беларускай мове. Якая гэта была цяжкая праца, цяжкая, але радасная для мяне таму, што працаваў я з літаратарам незвычайна багатай філалагічнай, гістарычнай і эстэтычнай культуры.

Мала таго што перакладаў ён літоўцаў з арыгінала, ён пераўвасабляў іх на нашай мове, тонка і дасканала перадаючы аблiччы і асаблівасці кожнай індывідуальнасці — аўтараў самых розных пакаленняў і стылявых кірункаў. Цяпер Разанаў заняты не менш складаным клопатам — рыхтуе да выдання ў нас, у Беларусі, першую вялікую анталогію грузінскай паэзіі. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўдала выбрала рэдактара.

Усё болей упэўніваюся, што спрэчкі, якія то затухаюць, то разгараюцца вакол яго творчасці, узнікаюць не на пустым месцы, не з адной патрэбы крытыкаў удасканальвацца ў палемічным запале.

Алесь Разанаў выклікае на развагі, на роздум, на творчы паядынак, на спаборніцтва кожнай сваёй кнігай, і для яго, і для нас заўсёды сапраўды новай, непадобнай на папярэднія. У гэтым і ёсць і рост, і развіццё яго як паэта — кожны раз не толькі з новымі набыткамі, але, магчыма, і стратамі таго, што мы ўжо лічым дасягненнем.

Сам па сабе гэта не часты прыклад такой самаахвярнасці, такой упартай зацятасці і ўпэўненасці ў праве на пошук, на творчае самасцвярджэнне.

Вось чаму ў размове аб сённяшняй паэзіі, якой ёй быць, і ў пастаноўцы канкрэтнага пытання — сучаснасць і грамадзянская актыўнасць паэта — улік вопыту Алеся Разанава не толькі не лішні, а прынцыпова важны, неабходны і надзённы.

*1984*



# *Дадатак*
# СЛОВА ПРА ВАСІЛЯ ВІТКУ

*Кузьма ЧОРНЫ*

## АБ ЗБОРНІКУ «ГАРТАВАННЕ»

Замілаванасць да роднай краіны і злітнасць з ёю чалавечай асобы нараджаецца ў чалавеку з маленства, фарміруецца, вырастае да найвялікшай сілы і пераходзіць у чалавечую свядомасць праз гады маленства і юнацтва. Чулы ў гэтую пару свайго жыцця на ўражанні чалавек на ўсё жыццё назапашвае ў сабе і пакідае ў сваёй псіхіцы карціны жыцця роднага народа і роднай зямлі, адлюстраванне з'яў і рэчаў і адчуванне сваёй неадрыўнасці ад роднае бацькаўшчыны. Усё гэта астаецца навек у чалавечых эмоцыях і вызначае тую старану ў жыцці чалавека, што выяўляецца вялікім і высокім пачуццём, імя якому — патрыятызм. Тут ёсць і вытокі той плыні ў нашай паэзіі, якую льга назваць «патрыятычная лірыка».

Ужо само слова «лірыка» вызначае характар гэтай плыні. Эмацыянальна ўзнятая душа, поўная адзінага вялікага пачуцця, замілаванасці да Радзімы і дзейнай нянавісці да ворагаў яе. Вось абсяг (сфера) вобразаў гэтай паэзіі. У гэтым плане нас цікавіць выхад з друку асобным выданнем вершаў Цімоха Крысько «Гартаванне». Тэма патрыятызму яднае ўсе сабраныя ў зборніку вершы, і кніга гэтая ёсць адно лірычнае цэлае.

…У кніжцы лірыкі Цімоха Крысько Радзіма паўстае перад намі поўнай гармоніяй высокіх вобразаў. Гэта не паасобныя, больш ці менш удала «знойдзеныя» вобразы, ці, як проста часам кажуць модным словам, «знаходкі». Гэта прырода душы самога паэта, таму тут стыхія поўнай і сапраўднай паэтычнай шчырасці і жывой праўды.

…З сапраўдным паэтычным густам і парадкам логікі вобразаў складзена гэтая кніжка вершаў. Сама ў сабе яна ёсць стройнае цэлае і ў магутнай сімфоніі сучаснай беларускай паэзіі — важны, уздымны, мілагучны і гучны акорд. Маючы на свой пачатак чалавечую душу, навек уражаную вобразамі роднай краіны, лірыка «Гартавання» даходзіць да эмоцый чытача. Гэта лірыка беларуская, нацыянальная ў самым канкрэтным сэнсе гэтага слова. Яна ідзе ад найканкрэтнейшых, самых выразных з'яў і рэчаў. Усё тое, ад чаго яна ідзе, роднае беларускаму

чытачу, які любіць Беларусь за сваё маленства, юнацтва і сталасць, за сіняе беларускае неба, за пах і шум хвойнага лесу, за свой вялікі народ…

…Накіраванасцю да патрыятычных пачуццяў таго, хто адчувае Радзіму самымі глыбокімі сваімі эмоцыямі ад дзён свайго маленства, і вызначаецца аблічча зборніка вершаў Цімоха Крысько «Гартаванне».

*1944, Масква*

*Янка БРЫЛЬ*

## ПАЭТ І ЧАЛАВЕК

*Прадмова да двухтомніка Васіля Віткі*

Брашурка, надрукаваная на пажаўцелай ад часу газетнай паперы, з такой жа слабенькай, малапрыкметнай вокладкай. Выдадзеная на Вялікай зямлі, брашурка гэтая, разам з газетамі і лістоўкамі, разам з патронамі і толам пабывала ў партызанскім тыле, на ўзбраенні народных мсціўцаў. З хваляваннем бярэш яе ў рукі цяпер, гартаеш, перачытваеш даўно знаёмае, прыпамінаеш першае ўражанне. Вершы. Два дзясяткі вершаў, адзін друкаваны аркуш. Першая кніга Васіля Віткі, тады яшчэ толькі Цімоха Крысько, — «Гартаванне», якая выйшла ў Маскве ў пачатку 1944 года.

Гэты невялічкі зборнік меў і мае права лічыцца кнігай, — амаль усе яго вершы не састарэлі разам з паперай, на якой яны надрукаваны ўпершыню, не адышлі ў гісторыю, адслужыўшы сваю службу ваеннага часу. Яны жывуць, хвалююць, наводзяць на роздум, выклікаюць пашану сваёй паэтычнай культурай.

Знаёмства з творчасцю В. Віткі пачалося ў мяне з гэтага зборнічка яго вершаў, а ўражанне новага, сапраўднага ў паэзіі застаецца свежым і дагэтуль, вось ужо хутка тры дзесяцігоддзі.

Увосені таго ж нялёгкага і радаснага сорак чацвёртага года ў зруйнаваным Мінску прыйшлося пазнаёміцца з самім паэтам. Не надта гаваркі, але даступны і спагадлівы, Вітка тых дзён амаль заўсёды выклікае ў маёй памяці вобраз другога пісьменніка і чалавека, знаёмства з якім было для мяне тады і засталося да веку радасным адкрыццём. Кузьма Чорны. Яны сябравалі. У іх мне бачылася і сёння бачыцца нямала агульнага, блізкага, — гэта і любасць да роднай зямлі, да чалавека працы, і ўменне пранікаць у глыбіні чалавечай душы і таямніцы народнага слова, гэта і сціпласць, прастата, па-народнаму здаровы і чысты гумар, прыроджаная культура паводзін, — якасці, што так спрыяюць шчырасці ў адносінах.

Не выпадкова, што сярод успамінаў пра К. Чорнага і даследаванняў яго творчасці тое, што напісана В. Віткам, займае сваё асаблівае месца, прывабліваючы не толькі належным разуменнем чорнаўскага слова, але і яркімі накідамі партрэта пісьменніка і чалавека, значэнне якога з гадамі раскрываецца ўсё больш ды больш выразна.

Неяк улетку 1946 года Цімох Васільевіч вярнуўся з роднай Случчыны, і ў цесным рэдакцыйным пакойчыку мы, літаратары, нікім не арганізаванай кампаніяй слухалі і абмяркоўвалі яго новыя вершы. Прыемна ўспамінаецца тая здаровая атмасфера пасляваеннай творчай дружбы, радасці за сябраў поспех. Цяпер, убачыўшы гэтыя вершы ў новым перавыданні, са здавальненнем перачытваеш іх. У маім пазнаванні В. Віткі, мастака слова, яго мірная, зямная і сонечная паэзія — штосьці накшталт другога пасля «Гартавання» этапу.

Трэцім своеасаблівым этапам была паэма-казка «Вавёрчына гора», якая стала пачаткам найбагацейшага раздзела ў творчасці нашага сябра — яго паэзіі і прозы для дзяцей. За два дзесяцігоддзі пасля з'яўлення гэтай паэмы Васілём Віткам напісаны «Буслінае лета», «Казка пра цара Зубра», кніга вершаў «Дударык», «Азбука Васі Вясёлкіна», зборнік апавяданняў «Зайчык-вадалаз», выдатная «Чытанка-маляванка» — кніга вершаў, загадак, лічылак, пацешак і казачак для малодшага ўзросту.

Як мне бачыцца тое, што Вітка піша для дзяцей?

Раскошны, жыццярадасны свет казачных герояў — ад вавёрачкі і зайца да мядзведзя і зубра — свет, вядомы нам даўно, пазнаны як быццам поўнасцю і да найменшай драбніцы, зноў, па праву таленту і любві, паўнаўладна мабілізаваны яшчэ адным чараўніком на вялікую службу дзецям, іх чыстай радасці, нястомнай і абаяльнай дапытлівасці, іхняй празе пазнання дабра і зла. Увесь гэты свет зноў прыведзены ў разумны рух творчай фантазіяй яшчэ аднаго майстра высокага класа, надзейна ўзброенага яркім і скупым, вясёлым і мудрым словам, увесь гэты шматфарбны і шматгалосы свет жыве сваім арыгінальным беларускім жыццём. Як і ўсякая сапраўдная паэзія, захоўваючы свае нацыянальныя асаблівасці, будучы па прамым прызначэнні паэзіяй для дзяцей, паэзія гэтая, як свая, прымаецца чытачом не толькі беларускім і не толькі дзіцячым.

Не вельмі часта, але не здаючы пазіцый, выступае В. Вітка як паэт «дарослы», адзін з нашых лепшых паэтаў старэйшага пакалення, аднак, гаворачы пра яго, мы перш за ўсё цяпер успамінаем светлую радасць малечы, яе сардэчны смех і бляск захопленых вачэй, што многім з нас неаднойчы даводзілася бачыць і чуць на Віткавых сустрэчах з дзецьмі. Я, напрыклад, назіраў гэта з сяброўскай зайздрасцю і ў Мінску, і на Палессі, і ў Латвіі, і на Урале…

Яшчэ адным своеасаблівым этапам у творчасці Віткі, у нашым пазнаванні яго магчымасцей было з'яўленне ў канцы пяцідзясятых гадоў яго таленавітых апавяданняў. І гэтаму жанру пісьменнік служыць ахвотна і паспяхова, час ад часу радуючы аматараў роднай літаратуры свежасцю слова, пачуццяў і думак. У другім томе гэтага выдання, у раздзелах «Чмяліны мёд» і «Познія палыны», змешчаны апавяданні і замалёўкі на розны чытацкі ўзрост, але з адной нязменнай адзнакай — самабытнага таленту і светлай чалавечнасці. Трэці раздзел «Паміж людзей добрых» — проза аўтабіяграфічная, удумлівы, шчыры расказ пісьменніка пра час, у які яму давялося несці службу Савецкай

Радзіме, і пра людзей, з якімі яму пашанцавала быць блізкім. Асабліва ўдаліся аўтару партрэты Кузьмы Чорнага — і ў нарысах пра яго, і ў замалёўках «Лісткі трывожных дзён», партрэты Міхася Лынькова, Уладзіміра Дубоўкі, Міколы Лобана, выдатнага ўкраінскага педагога і пісьменніка Васіля Сухамлінскага і некаторых іншых. Такая проза, вельмі патрэбная і пакуль што не вельмі багатая ў нас, чытаецца з асаблівым задавальненнем і карысцю.

Добры паэт, празаік, выдатны дзіцячы пісьменнік — гэтага, здаецца, зусім дастаткова, каб мець права называцца літаратарам. Аднак уяўленне пра В. Вітку будзе няпоўным, калі не ўлічваць яго цікавыя спробы ў драматургіі і пастаянныя, не такія ўжо і рэдкія, выступленні ў перыядычным друку з публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі.

У сваіх выступленнях, вусных і друкаваных, якія помняцца старэйшым і маладзейшым удзельнікам нашага літаратурнага жыцця за блізу трыццаць пасляваенных гадоў, Васіль Вітка заўсёды быў варты пашаны за сваё сур’ёзнае стаўленне да святое справы служэння народу мастацкім словам, за свой тонкі густ, грунтоўную адукаванасць і смелую шчырасць у ацэнках. Часамі гэта сяму-таму здавалася то «завострым», то «засуб’ектыўным», але, як паказаў найлепшы суддзя — час, у пераважнай большасці ацэнкі паасобных з’яў у дакладах і артыкулах В. Віткі і сёння не выклікаюць пярэчання. Праўда, часамі яму (а ці толькі яму?) шкодзіла трохі «злоба дня», пэўная модная ў той ці іншы час павярхоўнасць у вырашэнні тэм і пытанняў, аднак такіх выпадкаў, такіх «выдаткаў вытворчасці» параўнальна вельмі няшмат. Асноўным было і ёсць галоўнае. Добра чытаюцца яго агляды творчасці маладых, рэцэнзіі на паасобныя творы паэзіі, прозы і драматургіі, напісаныя ў розны час, і пяць, і дваццаць пяць год таму назад. Прыемна ўспрымаецца тая заклапочанасць не толькі лёсам літаратуры, але і станам сумежных галін беларускай савецкай культуры, заклапочанасць, якую аўтар праяўляе з добрым веданнем і жывапісу, і графікі, і музыкі, і тэатра. У сваіх артыкулах В. Вітка выступае цікавым, падрыхтаваным даследчыкам літаратуры і публіцыстам. Як пра добрага педагога думаеш пра яго, чытаючы артыкулы «Сэрца аддаю дзецям», лепшае ў раздзеле «Дыялогі з унучкамі».

У нашым літаратурным асяроддзі і на сустрэчах з чытачамі можна было часамі пачуць, што Васіль Вітка належыць да тых пісьменнікаў, якія, на жаль, пішуць менш, чым маглі б. І я сяды-тады згаджаўся з гэтым меркаваннем. Цяпер жа, пасля азнаямлення з гэтым двухтомнікам, з ідэйнай напоўненасцю яго зместу і дасканаласцю формы, думку тую поўнасцю адхіліла адчуванне шчырай павагі да старэйшага калегі і таварыша — чалавека.

Застаецца адно — пажадаць яму добрага плёну і надалей.

*Верасень 1972 г.*



# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

Вершы і паэмы Васіля Віткі публікаваліся ў бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», у літаратурным дадатку да яе «Вясна», у чыгуначнай газеце «Ударнік» (г. Жлобін), у газетах «Чырвоная змена», «Савецкая Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну», «Піянер Беларусі», «Звязда», у часопісах «Маладняк», «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Вожык», «Бярозка», «Вясёлка».

Друкуюцца паэтычныя творы Васіля Віткі паводле яго кніг: «Гартаванне» (М., 1944), «Поўдзень» (Мінск, 1946), «Ружа і штык» (Мінск, 1958), «Паверка» (Мінск, 1961), «Праводзіны лета» (Мінск, 1972), «Выбраныя творы» ў 2 т. (Т. 1. Мінск, 1973), «Хто памагае сонцу» (Мінск, 1976), «Вышыні святла» (Мінск, 1977), «Мы будуем метро» (Мінск, 1979), «Случчына» (Мінск, 1981), «Госці» (Мінск, 1983), «Свята дружбы» (Мінск, 1987), «Трэція певуні» (Мінск, 1988), «Перад парогам» (Мінск, 2001), а таксама паводле рукапісу.

*Суніцы (с. 43)*

[1] *Цівосе* — толькі што (*дыялектн.*).

*Казачнік Рэдкі (с. 58)*

[1] *Рэдкі* — славуты казачнік XIX — пачатку XX ст. з вёскі Вялікі Рожан Слуцкага павета, ад якога многа запісаў казак А. Сержпутоўскі (імя яго збіральнік не назваў).

*У палюддзі (с. 61)*

[1] *...бастынца Бушылы, адзінца з-пад Лунінца.* — Іван Бушыла — селянін з вёскі Бастынь на Палессі, які, пасварыўшыся з міліцыянерамі і баючыся арышту, уцёк у лес і хаваўся там 42 гады. Беларускі пісьменнік Яраслаў Пархута напісаў пра яго аповесць «Адзінец».

*На моцартавым канцэрце (с. 62)*

[1] *Гідон Крэмер* — славуты латышскі скрыпач і дырыжор.

*Pizzicato (с. 66)*

[1] *Pizzicato* (пічыката) — ігра на скрыпцы шчыпком, пальцам, не смычком.

[2] *Асновіч* Сямён — беларускі скрыпач, заслужаны артыст БССР.

[3] *Memento mori* — памятай пра смерць (*лац.*).

*З радком на шыі (с. 67)*

[1] *«Вясна»* — літаратурны дадатак да бабруйскай газеты «Камуніст».

# ПРОЗА

## *АПАВЯДАННІ*

Апавяданні «Палёт чмяля», «Абнова», «Трывога ў Ельнічах», «Стасева падарожжа», «Познія палыны», «Гуляшчы хлеб», «Баравіцкія музыкі», «Вікторыя» друкуюцца паводле выд.: Вітка Васіль. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1973.

Апавяданні «Для пасажыраў з дзецьмі», «Кірмаш», «Трое ў палаце» друкуюцца паводле выд.: Вітка Васіль. Дзеці і мы. Мінск, 1977.

Апавяданні «Зняверaная памяць», «Ранічкай на Свіслачы», «Абед з тэлефоннай трубкай у руцэ», «Перабудова на нашым двары» друкуюцца паводле час. «Полымя», 1994, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

Апавяданні «Жулік», «Загавайла» друкуюцца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 5 крас. 1996 г., дзе апублікаваны ўпершыню.

## *УСПАМІНЫ, ЭСЭ*

Успаміны і эсэ «Паэзія і жыццё», «Нясказанае слова», «Цераз выпрабаванні часу», «З “Інтэрнацыяналам”», «Таварыш камісар», «Навечна прапісаны ў жыцці», «Аблічча друга», «Майстар», «З верай і шчырасцю», «Яго подзвіг», «Хлеб нашага сяброўства», «Голас настаўніка» друкуюцца паводле выд.: Вітка Васіль. Урокі: артыкулы, выступленні, нататкі. Мінск, 1982; «Ленінскія надзелы» — паводле выд.: Вітка Васіль. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1973; «Вясёлы талент», «Часцей глядзіце на зоры», «Не толькі сямейная падзея» — паводле выд.: Вітка Васіль. Дзеці і мы. Мінск, 1977; «Невядомае апавяданне і яго аўтар», «Песеннае сэрца паэта» — паводле выд.: Вітка Васіль. Азбука. Мінск, 1988.

# КАЗКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Казкі «Вавёрчына гора» і «Буслінае лета» друкуюцца паводле выд.: Вітка Васіль. Перад парогам: вершы, казкі. Мінск, 2001.

# ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА

Артыкулы «Пакаленне, гартаванае ў агні», «Бліжэй да жыцця!», «Творчы пашпарт пісьменніка», «Народная паэма», «Вышыні маладосці» друкуюцца паводле выд.: Вітка Васіль. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1973; «Вытокі вобраза» — паводле выд.: Вітка Васіль. Дзеці і мы. Мінск, 1977; «Далягляды слова», «Даследуецца чалавек», «Поўдзень паэта», «Еднасць з жывымі вытокамі» — паводле выд.: Вітка Васіль. Урокі. Мінск, 1982; «Магутны лад балад», «Паэзія жыццёвых дарог», «Сталасць таленту», «Слова ў вершы» — паводле выд.: Вітка Васіль. Азбука. Мінск, 1988.

## ДАДАТАК. СЛОВА ПРА ВАСІЛЯ ВІТКУ

*Кузьма Чорны. Аб зборніку «Гартаванне» (с. 514)*

Друкуецца паводле выд.: Чорны Кузьма. Збор твораў: у 8 т. Т. 8. Мінск, 1975.

*Янка Брыль. Паэт і чалавек (с. 515)*

Друкуецца паводле выд.: Вітка Васіль. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1973.

## SUMMARY

The name of Vasil Vitka is well-known to almost every reader. This literary pen-name belongs to Tsimokh Vasilyevich Krysko (1911–1996) born in a small village of Eulichy, Slutsk region in a poor family of peasants. Being only 17 — quite an early age — he started writing verses and publishing them.

Vasil Vitka is known as the author of numerous poetical books based on the life of the Belarusian village of the mid XX$^{th}$ century and the most important events of that period. At the end of the 50$^{s}$ the poet surprised his readers with prose works — very interesting, deep stories based on the village life — that were greatly appreciated both by readers and literary critiques. Alongside followed essay-stories or essay-recollections about his friends — Belarusian writers.

Meanwhile, the author didn't forget about children. His witty fairy-tales, verses and stories have been truly admired by little readers. In 1978 Vasil Vitka literary tribute was admitted with Hans Christian Andersen International honourary diploma and including his name in the honourary list of the Danish fairy-teller.

All the most important and interesting works from the diverse legacy of Vasil Vitka compile the present volume of the *Selected Works*.



# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

# ПРОЗА



# КАЗКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА



## *ДАДАТАК*
## СЛОВА ПРА ВАСІЛЯ ВІТКУ

**Вітка, В.**

**В54** Выбраныя творы / Васіль Вітка; уклад. і камент. Т. Тарасавай, К. Цвіркі; прадм. А. Васілевіч. — Мінск : Беларус. навука, 2013. — 528 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7007-69-1.???

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Вітка (1911–1996) пакінуў пасля сябе вялікую літаратурную спадчыну — вершы, паэмы, апавяданні, эсэ, успаміны, літаратурныя крытычныя артыкулы, шматлікія творы для дзяцей, за якія ён быў узнагароджаны Міжнародным ганаровым дыпломам імя Г. К. Андэрсена. У гэтую кнігу ўвайшло ўсё самае значнае з мнагаграннай творчасці пісьменніка.

Гэта — шэсцьдзясят шосты том вялікага кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Вітка Васіль**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шуст*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 20.12.2012.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 27,72 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 25,74.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі дом “Беларуская навука”».
ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.09
Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, Мінск.

ISBN 978-985-7007-69-1



Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні РУП «Типография “Победа”».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056832 ад 30.04.04.
Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы

ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы

ЦЁТКА. Выбраныя творы

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы

ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы

ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы

РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы

ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы

КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік

НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы

РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы

АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы

УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы

ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы

АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы

ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы

КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы

КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае

АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

ВІКТАР КАРАМАЗАЎ. Выбраныя творы